**Над нумарам працавалі:**

**Henadź Semianchuk / Генадзь Семянчук**
(redaktor/рэдактар)

**Tatsiana Kasataya / Тацяна Касатая**
(sekretarz redakcji/сакратар рэдакцыі)

**Maciej Wilczyński / Мацей Вільчыньскі**
(sekretarz techniczny/тэхнічны сакратар; tłumaczenia białorusko-polskie/пераклады беларуска-польскія)

**Aliaksandr Perahudau / Аляксандр Перагудаў**
(projekt okładki/праект вокладкі)

**Katsiaryna Krot / Кацярына Крот**
(korekta tekstów białoruskich/карэктура беларускіх тэкстаў)

**Marta Witkowska / Марта Віткоўска**
(korekta tekstów polskich/карэктура польскіх тэкстаў)

**Bolesław Jaworski / Баляслаў Яворскі**
(tłumaczenia polsko-angielskie/пераклады польска-англійскія; korekta tekstów angielskich/карэктура англійскіх тэкстаў)

**Zmicer Hupianiec / Зміцер Гупянец**
(skład i łamanie/камп'ютарная вёрстка)

**Recenzenci / Рэцэнзэнты:**
prof. dr hab. Eugeniusz Mironowicz, dr hab. Oleg Łatyszonek prof. UwB, doc. dr Aliaksiej Shalanda, doc. dr Wital Hałubowich, doc. dr. Albina Semianchuk / праф. др. габ. Яўген Міранові́ч, др. габ. Алег Латышонак праф. Універсітэта ў Беластоку, дац. к.г.н. Аляксей Шаланда, дац. к.г.а. Віталь Галубовіч, дац. к.г.н. Альбіна Семянчук

**Druk i oprawa:** Drukarnia Duo Studio



# Spis treści / Змест

## Маладыя навукоўцы



## Крыніцы:

# Госці

**Алесь Жлутка**
**(Мінск)**

## Дацкі след у біяграфіі Францішка Скарыны

Жыццёвы шлях беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара Францішка Скарыны, нягледзячы на вялікую працу, праробленую некалькімі пакаленнямі даследчыкаў з розных краін, застаецца ўсё яшчэ недастаткова вывучаным і на сённяшні дзень можа быць акрэслены толькі пункцірна. Невядомыя дакладныя даты нараджэння і смерці першадрукара. Гіпатэтычна час з'яўлення Францішка на свет змяшчаюць у межы ад 1480 да 1490 г. Памёр ён, найбольш верагодна, на пачатку 50-х гадоў XVI стагоддзя. Хаваецца ў невядомасці прамежак часу паміж яго нараджэннем і паступленнем у 1504 г. у Кракаўскі ўніверсітэт. Пасля атрымання ім ступені бакалаўра вызваленых навук у тым самым універсітэце ў 1506 г., у біяграфіі Скарыны зноў зеўрае шасцігадовы прагал. У Падую ў 1512 г. ён прыбывае ўжо з тытулам доктара вызваленых навук і набывае ў Падуанскім універсітэце яшчэ адну вучоную ступень — доктара медыцыны. За час паміж дзвюма гэтымі датамі Францішак Скарына мусіў не толькі стаць доктарам вызваленых навук, але яшчэ атрымаць выдатную медыцынскую адукацыю. Апрача таго, у апошнім падуанскім дакуменце ад 9 лістапада 1512 г. (пра наданне знакаў годнасці доктара медыцыны) ён названы сакратаром дацкага караля — *regis Datiae*.

Да апошняга часу вяліся спрэчкі наконт тэрміна *Datiae*, які ў старажытных пісьмовых крыніцах ужываўся ў дачыненні да колішняй рымскай правінцыі Дакіі (сёння тэрыторыя Румыніі), але ў часы Скарыны гэтая назва азначала ўжо іншую краіну — Данію. Дарэчы, дакладна гэтак жа — *rex Datiae* — называе сябе сам тагачасны кароль Даніі Ёган-Ганс у дакументах, выдадзеных ад яго імя. Такія абазнаныя скарыназнаўцы,

як Георгій Галенчанка[1], Віктар Дарашкевіч[2], Вітаўт Тумаш (які часта пісаў пад псеўданімам Сымон Брага)[3] ужо даўно адзначалі, што пад гэтым тэрмінам хаваецца менавіта Дацкае каралеўства. Нядаўна гэтае пытанне яшчэ раз грунтоўна прааналізавала Вольга Шутава, якая прыйшла да такога ж меркавання[4].

Якім чынам Скарына, сакратар дацкага караля, апынуўся ў Італіі? Вядома, што выпускнікі медыцынскага факультэта Капенгагенскага ўніверсітэта для доктарскай абароны выбіралі звычайна альбо Падую, альбо Монпэлье. Апрача таго, каралеўскія сакратары даволі часта выконвалі адказныя дыпламатычныя даручэнні. Таму выпадае меркаваць, што Скарына прыбыў у Італію ў складзе нейкай дыпламатычнай місіі. Здаецца, гэта пацвярджае нядаўна выяўленая беларускім літаратарам і перакладчыкам Антонам-Францішкам Брылём копія дакумента — аднаго з запісаў у дзённіку папскага цырымоніймайстра Парыса Грасі[5]. Арыгінал часткі дзённіка за 1512 г., дзе змешчаны гэты запіс, паводле нашых звестак, не захаваўся, а вядомы — з шэрагу копій за дадзены год і за іншы час, якія захоўваюцца ў Ватыканскім Таемным Архіве (10 рукапісаў), у Ватыканскім архіве Аддзела Літургічных Цэлебрацый Найвышэйшага Пантыфіка (14 рук.), у Апостальскай Бібліятэцы ў Ватыкане (38 рук.)[6], у бібліятэках Рыма: Ангеліка (1 рук.), Валічэліяна (1 рук.), Казанатэнскай (6 рук.), Камунальнай бібліятэцы архігімназіі ў Балоны (4 рук.), Баварскай дзяржаўнай бібліятэцы ў Мюнхене (3 рук.), Нацыянальнай бібліятэцы Францыі ў Парыжы (2 рук.). З самай ранняй копіяй у Казанатэнскай бібліятэцы г. Рыма сёлета пашчасціла папрацаваць і мне. Запіс датуецца 6 жніўня 1512 г., гэта за тры месяцы да надання Скарыну годнасці доктара медыцыны ў Падуі.

Парыс Грасі распавядае пра прыём папам Юліем II у той дзень трох дацкіх пасланнікаў, якія ўсе былі дактарамі і простымі канонікамі: адзін з іх — прысяглы сакратар караля, двое іншых — каралеўскія прыдворныя[7].

---

1 Г. Галенчанка, *Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар*, Мінск 1993, с. 94; ён жа. *Праблемныя дакументы Скарыніяны ў кантэксце рэальнай крытыкі*, [у:] *480 год беларускага кнігадрукавання: Матэрыялы Трэціх Скарынаўскіх чытанняў,* Мінск 1998, (Беларусіка=Albaruthenica; Кн. 9), с. 9–20.

2 В. Дарашкевіч, *Прадмова,* [у:] *Францыск Скарына: зборнік дакументаў і матэрыялаў,* Мінск 1988, с. 10.

3 С. Брага, *Геаграфічная лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны,* Нью Ёрк 1965, с. 18.

4 V. Shutava, *Again about Skaryna in Padua: circumstances,* “Belarusian review”, Vol. 27, Nr. 1, p. 27.

5 Антон-Францішак Брыль сканаваную старонку гэтай крыніцы даслаў аўтару артыкула, звярнуўшы ўвагу на змест крыніцы і яе дату. Выказваем яму за гэта шчырую падзяку.

6 *Città del Vaticano. Archivio Segreto Vaticano,* Fondo Borghese. Serie I. 889, 890; *Città del Vaticano. Archivio dell'Ufficio delle Celebrazioni Liturgiche del Sommo Pontefice,* Cerimonieri pontifici. 371, 376 A; *Città del Vaticano. Biblioteca Apostolica Vaticana,* Barb. lat. 2689, 2798; *Città del Vaticano. Biblioteca Apostolica Vaticana,* Chig. L.I.19; *Città del Vaticano, Biblioteca Apostolica Vaticana,* Urb. lat. 1016; *Città del Vaticano, Biblioteca Apostolica Vaticana,* Vat. lat. 12268, 12269, 12305, 12412, 12414, 12415.

7 *Biblioteca Casanatense in Roma,* Codex 1594, f. 35v.

Вядома, што ўвесну таго ж года ў Рыме, у Лятэранскай базіліцы, распачаўся V Лятэранскі сабор. Гаворка пра сабор ішла і 6 жніўня, ва ўзнёслай прамове, з якой звярнуўся да папы ад імя караля Ганса ягоны не названы па імені сакратар. Сярод іншага, выказаўшы паслушэнства папу з боку каралёў Даніі і Шатландыі ды іх жаданне далучыцца да сабору, ён паведаміў, што *"нават уладар русінаў і цар татараў і готаў, якія ніколі раней не апускаліся да прызнання ніводнага сабору, прыкладзе намаганні, каб цяпер яны* [г. зн. русіны, татары і готы — А. Ж.] *далучыліся да сабору, што будзе прызначаны папам, альбо пагадзіліся з ужо прызначаным, просячы дапусціць іх да ўхвалення дэкрэтаў і пераўладкавання Горада, Свету і Касцёла"*[8].

Гаворка ў гэтым пасажы ідзе, безумоўна, пра вялікага князя Масковіі Васіля III. Маскоўскія вялікія князі і дацкія каралі ад XV ст. імкнуліся да палітычных альянсаў, укладаючы дамовы *"аб хаўрусе і сяброўстве"* з аднаго боку супраць Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы, з другога — супраць Швецыі і Ганзейскага саюзу. У лістападзе 1493 г. падобную дамову ўклалі маскоўскі князь Іван III і дацкі кароль Ёган-Ганс. Апрача ваеннага саюзу, накіраванага ў першую чаргу супраць шведскага ўладара Стэня Стура і Вялікага Княства Літоўскага, яна прадугледжвала вольны праезд паслоў, узаемную выдачу перабежчыкаў (нявольнікаў і нявольніц, даўжнікоў, злодзеяў, рабаўнікоў), бесперашкодны гандаль маскоўскіх купцоў у Даніі і дацкіх — у Масковіі[9]. Тое, што дамова выконвалася, паказваюць дакументы пазнейшага часу. Прыкладна праз год, у сувязі з блізкім абраннем яго каралём Швецыі, Ёган-Ганс просіць Івана III на год ці на два ўстрымацца ад варожых дзеянняў супраць Швецыі[10]. У 1501 г. маскоўскія паслы вялі перамовы ў Даніі наконт урэгулявання памежных непаразуменняў, абмену палоннымі, прыбыцця ў Масковію дацкіх майстроў, а таксама зандавалі глебу для магчымага шлюбу сына маскоўскага ўладара Васіля з дацкай прынцэсай Альжбэтай[11]. У 1506 г. Васіль, ужо як вялікі князь Васіль III, выказвае жаданне ўкласці новую міждзяржаўную дамову і выпраўляе дзеля гэтага да караля Ёгана-Ганса свайго пасла Істому[12]. Кароль пагаджаецца аднавіць дамову і паведамляе Васілю III пра здраду і паўстанне ў Швецыі, а таксама просіць яго пра дапамогу[13]. Дамова была паноўленая ў тым жа

[8] Тамсама.

[9] *Датский архив. Материалы по истории древней России, хранящиеся в Копенгагене 1360–1690 гг.,* Сост. Ю. Н. Щербачев, Москва 1893, с. 1, № 2.

[10] Тамсама, с. 2, № 3.

[11] Тамсама, с. 2, № 3.

[12] Тамсама, с. 3, № 4.

[13] Тамсама, с. 4, № 5.

1506 г.[14] У дакументах 1508, 1509, 1510, 1513 гг. называецца імя дацкага пасланніка, выпраўленага каралём Гансам, а потым яго наступнікам на дацкім троне Хрысціернам II у Масковію — магістра Давіда ван Корана[15]. У наступным 1514 г. у Данію з даверчым лістом выпраўляюцца паслы Васіля III: баярскі сын Іван Мікулін Забалоцкі і дзяк Васіль Аляксандраў[16].

Нягледзячы на дамовы з Масковіяй, Ёган-Ганс паралельна наладжваў дыпламатычныя стасункі таксама з Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім. У 1506 г. з даверчым лістом выправіўся да караля Польшчы і вялікага літоўскага князя Аляксандра той жа самы магістр Давід[17]. У 1507 г. з Польшчы вяртаецца іншы дацкі пасланнік — Вернэр Каннік[18]. Апрача таго, рабіліся спробы завязаць матрыманіяльныя адносіны: пры выбары нявесты для дацкага каралевіча Хрысціерна ў 1508 г. абмяркоўвалася кандыдатура дачкі польскага караля[19]. Праз год у Данію выправіўся дарадца і пасол Жыгімонта Старога Ян Кокрыц: паміж дзяржавамі была ўкладзеная дамова *"пра сяброўства, любоў і хаўрус"*, засведчаная некалькімі дакументамі з абодвух бакоў, адбыўся абмен пасламі[20]. Дамова будзе паноўленая ў 1516 г. пры наступніку Ёгана-Ганса — Хрысціерне II[21]. Вельмі верагодна, што з адным з такіх пасольстваў у Данію і патрапіў Скарына ў прамежку паміж 1506 і 1510 гг. Звычайна лічыцца, што Скарына мог трапіць у Данію ў 1509 г., падчас укладання саюзніцкай дамовы. Але нічога не перашкаджае нам дапусціць, што ён мог прыбыць туды і раней, нават адразу пасля бакалаўрыята ў Кракаве. Тым больш што ў Капенгагенскім універсітэце ў пачатку яго дзейнасці адчуваўся недахоп як студэнтаў, так і выкладчыкаў, і для прыцягнення іх у Капенгагенскую альма-матэр адмыслова выязджалі за мяжу прадстаўнікі караля і ўніверсітэта[22].

У згаданым запісе Парыса Грасі гаворыцца пра імкненне Масковіі да паразумення з Апостальскім Пасадам і пра далучэнне да Пятага Лятэранскага сабору. У атачэнні Васіля III, сына Івана III і грачанкі Соф'і Палеалог, якую,

14 Тамсама, с. 4, № 6.

15 *Regesta diplomatica historiae Danicae,* Ser. II, t. 1, Kjøbenhavn 1886, s. 1118, nr. 9322; s. 1128, nr. 9408; s. 1141, nr. 9515; s. 1180, nr. 9892.

16 *Датский архив,* с. 6, № 12.

17 *Kong Hans's Brevbog,* [w:] *Aars beretning erfradet kongelige geheime archive in de holden de bidragtil Dansk historie,* afutryk tekil der Ungivneaf C. F. Wegener, Bd. 4, Kjøbenhavn 1852–1855, s. 4, nr. 4.

18 *Regesta diplomatica historiae Danicae,* p. 1114, nr. 9285.

19 *Kong Hans's Brevbog,* s. 19–20, nr. 30.

20 *Regesta diplomatica historiae Danicae,* s. 25, nr. 36; *Bilagtil kong Hans's Brevbog,* [w:] *Aars beretning erfradet kongelige geheime archive in de holdende bidragtil Dansk historie,* afutryk tekil der, Ungivneaf C.F. Wegener, Bd. 4, Kjøbenhavn 1852–1855, s. 61, nr. 14; *Codex diplomaticus Regni Poloniae et Magni Ducatus Lithuaniae in quo pacta, foedera, tractatus pacis… nunc primum ex archivis publiciseruta acinlucem protracta ex hibuntur,* [Ed.] M. Dogiel, t. 1, Vilnae 1758, p. 355–357.

21 *Acta Tomiciana*, Cracoviae 1855, t. IV, p. 38, nr. 42; p 57, nr. 62; 73–74, nr. 88, 89.

22 *Regiae academiae Hafniensis infantia et pueritia… ab Alberto Thura*. Elensburgi et Altonaviae, 1734, p. 9–10, 23–24.

дарэчы, лічаць каталічкай усходняга абраду, безумоўна абмяркоўвалася і пытанне рэлігійнай уніі. Прыхільнікамі уніі пры двары Васіля III, апрача ягонай маці, былі прыдворны лекар Мікола Булеў, захавальнік маскоўскага скарбу і дзяржаўнай пячаці грэк Юры Траханіёт, а таксама яго ўплывовы бацька Дзмітрый Траханіёт ды іншыя. Замежныя паслы, напрыклад пасол Нямецкага ордэна Шонберг і пасол імператара Франчэска дэ Калё, паведамлялі ў той час, што Масковія гатовая прыняць унію. Пра гэта пісаў да папы Юлія II і кароль Шатландыі Якаб IV: *"…прыбылі нядаўна да караля Даніі паслы імператара Русі, якія прасілі саюзу і сяброўства, і ён з вялікай надзеяй на гэты саюз ды на тое, што імператар звернецца да святога вучэння Рымскага Касцёла, зычліва прыняў яго просьбы і рыхтаваўся паслаць сваіх паслоў на Русь, якія б душу імператара ўзнялі ад забабоннай бязбожнасці, паказалі на марнасць веравызнання гэтага люду, ды ўвялі яму ў вушы сапраўдную Хрыстовую веру"*[23]. У запісе Парыса Грасі мы бачым, што дацкі кароль, выступаючы пасярэднікам перад папам, не пакідаў сваіх спробаў схіліць маскоўскага ўладара да паяднання дзвюх галін хрысціянства. Але, відаць, справа уніі была занядбаная пасля амаль адначасовай смерці ў 1513 г. караля Ёгана-Ганса і папы Юлія II.

Пакуль не выяўленыя дакументы аб пайменным складзе дацкай дыпламатычнай місіі на Пятым Лятэранскім саборы, скліканым папам Юліем II у 1512 г., мы не можам з поўнай упэўненасцю сцвярджаць, што сакратаром, прадстаўленым у тэксце Грасі, быў Францішак Скарына. Але храналагічная блізкасць дзвюх згадак пра каралеўскага сакратара, змест прамовы, звернутай да папы, якая закранала пытанні, што маглі быць у кампетэнцыі Скарыны, і ўказанне на яе красамоўнасць (ці не таму, што яе прамаўляў доктар вызваленых навук?) дазваляюць лічыць гэта вельмі верагодным.

На першы погляд, можа бянтэжыць той факт, што сакратар і іншыя пасланнікі названы ў дзённіку Грасі канонікамі. Але трэба адзначыць, што свецкімі канонікамі ў той час маглі быць магістры і дактары, у тым ліку і вызваленых навук. Для ўтрымання выкладчыкаў, апрача платы ад студэнтаў, маглі прызначацца кананікаты, г. зн. удзел у прыбытках, якія атрымліваў нейкі касцёл. Прычым такія кананікаты надаваліся не толькі па месцы знаходжання навучальнай установы, але таксама і на радзіме прафесараў[24].

Узнікае пытанне: навошта патрэбен быў Францішак Скарына дацкаму каралю ў якасці сакратара, бо вядома, што ў яго было шмат сваіх, айчынных. Пра гэта можа, напрыклад, сведчыць ліст Ёгана-Ганса да

[23] *Epistolae Jacobi quarti, Jacobi quinti et Mariae, regum Scotorum… ab anno 1505 ad annum 1545,* vol. I, Edinburgi 1722, p. 85, nr. 45.

[24] Н. С. Суворов, *Средневековые университеты,* Москва 2012, с. 79–80.

папы Юлія II ад 11 лютага 1507 г., дзе ён просіць перадаць Шлягзвіскую прэпазітуру ды іншыя касцёльныя бенефіцыі свайму сакратару Гайну ды іншым сакратарам[25]. Сакратароў дацкі кароль выкарыстоўваў у тым ліку і для дыпламатычных місій. Так, у тым жа годзе ён выдае даверчы ліст да караля Шатландыі Якаба IV свайму сакратару Ціху — сыну Вінцэнта[26]. І ў тым жа самым 1507 г. Ёган просіць Людовіка XII, караля Францыі, рэкамендаваць згаданага Ціха, свайго сакратара, накіраванага ў Парыжскі ўніверсітэт, якому-небудзь вучонаму сябру каралеўскага парламента, які б дапамог вывучыць звычаі парламента і французскую мову[27]. У 1510 г. узгадваецца імя сакратара магістра Эрыка Валькэндорпа, якога Ганс просіць у папы Юлія прызначыць Нідроскім біскупам[28]. У дакуменце 1510 г. фігуруе ў якасці сакратара, пасланага ў Масковію, ужо вядомы нам магістр Давід[29]. Два каралеўскія сакратары Андэрс Глоб і Ёган Вульф згадваюцца ў двух дакументах, выдадзеных дацкім каралём 5 красавіка 1512 г., перад самым пачаткам Пятага Лятэранскага Сабору[30]. Ёган Вульф выпраўляўся ў Вечны горад дзеля атрымання з дапамогай Сенгаленскага кардынала дыспенсацыі для каралеўскага канцлера на займанне двух касцёльных бенефіцыяў. Паводле некаторых меркаванняў, Ёган Вульф меўся ўзначальваць таксама дацкую місію на Лятэранскі сабор. Як бачым, у дацкага караля не бракавала айчынных сакратароў. Тым не менш адносіны з Масковіяй, Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім патрабавалі мець пры сабе людзей, якія валодалі б *“рускай”* мовай і кірылічным пісьмом. Яшчэ больш такія асобы былі неабходныя для пасольстваў у пытаннях аб’яднання дзвюх галін хрысціянства і кансалідацыі еўрапейскіх краін перад турэцкай пагрозай, якая тады была актуальнай і вымагала прыцягнення да антытурэцкай кааліцыі Масковіі, Вялікага Княства і Польшчы. Пра тое, што ў караля Ёгана-Ганса была патрэба ў такіх знаўцах, сведчыць яго недатаваны ліст, верагодна ад 1506 г., да Васіля III з просьбай прыслаць палоннага фіна Сівара, які ведае *“рускую”* мову і пісьмо ды можа служыць перакладчыкам[31].

Патрапіць у Данію Скарына мог, як ужо было сказана, альбо ў 1509 г., калі туды выправілася пасольства караля Польшчы і вялікага князя ВКЛ Жыгімонта I, альбо раней, пасля атрымання ступені бакалаўра

---

25 *Kong Hans's Brevbog,* p. 16, nr. 24.

26 *Gairdner. Letters and papers illustrative to the reigns of Richard III and Henry VII,* vol. II, London, 1863, p. 248–249, nr. 43.

27 *Kong Hans's Brevbog,* p. 19, nr. 29.

28 *Kong Hans's Brevbog,* p. 36, nr. 49.

29 *Regesta diplomatica historiae Danicae,* p. 1144, nr. 9543.

30 *Regesta diplomatica historiae Danicae,* p. 1171, nr. 9805; *Kong Hans's Brevbog,* p. 49, nr. 74.

31 *Nya Källortill Finlads Medeltids istoria,* af Edward Grönblad, Förstasamlingen, Köpenhamn 1857, s. 97, nr. 150.

ў Кракаве. На той час у Капенгагене ўжо дзейнічаў адкрыты ў 1479 г. Хрыстыернам І першы дацкі ўніверсітэт з чатырма факультэтамі, сярод якіх быў і медыцынскі. Менавіта ў ім Францішак Скарына мог здабыць ступень доктара вызваленых мастацтваў і выдатныя веды ў медыцыне, якія ён пазней прадэманстраваў на абароне ў Падуі.

Вольга Шутава, зыходзячы з аналізу выдавецкіх сімвалаў Скарыны і дацкага першадрукара Говарта ван Гемена, указала на іх відавочную сувязь і адначасовы побыт у Капенгагене. Гэтым яна прывяла яшчэ адзін довад на карысць сакратарства Францішка Скарыны менавіта ў дацкага караля[32].

Пытанне пра тое, ці быў Скарына ў складзе дацкай дыпламатычнай місіі на Пятым Лятэранскім Саборы і ці менавіта ён звяртаўся з прамовай да папы Юлія II 6 жніўня 1512 г., нягледзячы на шэраг ускосных довадаў, застаецца адкрытым да выяўлення непасрэдных дакументальных сведчанняў. Далейшыя пошукі, на наш погляд, трэба было б праводзіць у Таемным Ватыканскім архіве сярод дакументаў папы Юлія II і дацкіх лабістаў кардыналаў (напрыклад, таго ж Сенгаленскага), у дацкіх архівах сярод матэрыялаў караля Ёгана-Ганса і Капенгагенскага ўніверсітэта за 1506–1517 гг., сярод дыпламатычных дакументаў караля Жыгімонта І і князя Васіля III, а таксама ў архіўных зборах Венецыянскай рэспублікі. Бо не выключана, што імя Скарыны можа таксама фігураваць у складзе пасольстваў у Масковію, Польшчу і Вялікае Княства Літоўскае, у Венецыю. Дацкі след, пакінуты беларускім і ўсходнеславянскім першадрукаром, доктарам вызваленых навук і ў лекарскім мастацтве, гуманістам Францішкам Скарынам, адкрывае новыя шляхі, новыя накірункі і перспектывы для пошукаў і знаходак.

## Streszczenie

Aleś Zhlutka, *Duński ślad w biografii Franciszka Skaryny*

Na podstawie wzmianki Franciszka Skaryny, jako sekretarza króla duńskiego (*secretarius regis Datiae*), w *Aktach stopni akademickich* Uniwersytetu Padewskiego z dnia 9 listopada 1512 r. stawiana jest hipoteza o udziale połocczanina w pracach V soboru laterańskiego, który rozpoczął się wiosną 1512 r. Na poparcie hipotezy przytaczana jest wiadomość z notatki papieskiego mistrza ceremonii Parysa Grassiego o przyjęciu 6 sierpnia 1512 r. przez papieża Juliusza II posłańców króla duńskiego Hansa, w imieniu których przemawiał do Pontyfika niewymieniony z imienia sekretarz królewski. Sekretarz, który władałby językami krajów, z którymi w tamtym czasie król Hans utrzymywał relatywnie zaawansowane kontakty

[32] http://www.shutova.com/ru/skaryna-portrait-printer-devices-authors-cut.

dyplomatyczne — Moskwą, Wielkim Księstwem Litewskim i Polską — był mu nieodzowny zarówno do prowadzenia korespondencji dyplomatycznej, jak i negocjacji międzypaństwowych. Motywem udziału Skaryny w pracach soboru mogły być rozkazy suwerena duńskiego i Stolicy Apostolskiej dotyczące pojednania dwóch gałęzi chrześcijaństwa i dołączenia władcy moskiewskiego Wasyla III zarówno do tego procesu, jak i soboru . Ta działalność dyplomatyczna całkowicie odpowiadałaby ekumenicznej misji drukarza białoruskiego, który, należąc do wyznania katolickiego, po pięciu latach zacznie wydawanie ksiąg Pisma Świętego dla wszystkich wierzących wschodnich Słowian, a przede wszystkim dla ludu prawosławnego Wielkiego Księstwa Litewskiego.

## Abstract

Aleś Zhlutka, *Danish Footprints in Francysk Skaryna's Biography*

On the basis of a mention of Francysk Skaryna as secretary to the King of Denmark (*secretarius regis Datiae*) in *The Acts of the Doctoral Degree Defences at the University of Padua* from 9 November 1512, there is a hypothesis the Polotsk native took part in the work of the Fifth Lateran Council, which began in spring 1512. The hypothesis is bolstered by information from a note written by the Papal Master of ceremonies, Paris de Grassis. The note mentions that on 6 August 1512, the envoy of King Hans (John) of Denmark was granted an audience by Pope Julian II. The royal secretary, though not mentioned by name, spoke to the Pope in the name of the Danish king. The secretary, who would have spoken the languages of the countries with whom King Hans maintained relatively advanced diplomatic contacts at the time– Moscow, Poland and the Grand Duchy of Lithuania, would have been indispensable to the king in both conducting diplomatic correspondence, as well as negotiations between states. The reason for Skaryna participating in the work of the Council might have been orders from the Danish sovereign and the Holy See concerning the reconciliation of the two branches of Christianity, not to mention encouraging the Grand Prince of Moscow, Vasily III, to join the process, as well as the Council. This diplomatic activity would have fully corresponded with the ecumenical mission of the Belarusian printer, who, being of Catholic faith, would begin publishing volumes of the Holy Bible for all Eastern Slavic believersfive years later; mostly for Orthodox adherents in the Grand Duchy of Lithuania.

**Wojciech Śleszyński**
**(Białystok)**

# Konstruowanie białoruskiego przekazu historycznego na przełomie XIX i XX wieku

Przełom XIX i XX wieku charakteryzował się szybko postępującymi zmianami polityczno-gospodarczymi. Na poziomie przemian społecznych oznaczało to kształtowanie się wspólnot o nowoczesnej świadomości narodowej. W przypadku Europy Środkowo-Wschodniej procesy modernizacyjne często zbiegały się z rozgrywającymi się konfliktami politycznymi. Na ziemiach białoruskich w XIX wieku, na tradycyjny polsko-rosyjski spór polityczny zaczynały nakładać się aspiracje innych młodych narodów, coraz donioślej upominających się o własne prawa polityczne. W rozgrywającym się konflikcie politycznym jedną z kluczowych ról miała odegrać walka o własny przekaz historyczny. Istotną sprawą stała się kwestia konstruowania odpowiedniego obrazu dziejów, a przez to wpływanie na aktualny światopogląd obywateli.

Rozbiory Rzeczypospolitej i następujące po nich wydarzenia polityczne wśród miejscowej szlachty zamieszkującej ziemie Wielkiego Księstwa Litewskiego przyczyniły się do wzmocnienia związków z kulturą polską. Nie oznaczało to jednak, iż ostatecznie decydowano się na rezygnację z poczucia odrębności związanej z posiadaniem własnego dziedzictwa. W literaturze chętnie podkreślano ruski charakter ziem byłego WKL, odróżniający je od innych terenów Rzeczypospolitej. Na dziedzictwo ruskie, jako unikatowy element tego obszaru historycznej Rzeczypospolitej, w pierwszej połowie XIX wieku uwagę zwracali m.in. związani z Uniwersytetem Wileńskim Ignacy Onacewicz, Michał Bobrowski czy Ignacy Daniłowicz[1]. Zapoczątkowane wraz z rozwojem romantyzmu zainteresowanie kulturą wiejską było kontynuowane także po klęsce powstania listopadowego. Tematyka ludowa często pojawiała się w twórczości miejscowej, katolickiej szlachty. Powstające utwory, choć czerpały z dziedzictwa wsi, tworzone były na potrzeby własnej grupy społecznej. Miejscowy lud traktowano z charakterystyczną, lecz całkowicie wówczas naturalną wyższością. Popowstaniowy emigrant Aleksander Rypiński, wydając w Paryżu w 1840 roku poświęcone folklorowi wiejskiemu dzieło *Białoruś*, zadedykował je w typowym dla ówczesnej epoki tonie: "*Pierwszemu z kmiotków białoruskich, co się najprzód*

[1] М. Смяховіч, *Нацыянальная ідэя беларусаў у ХХ ст. (гістарычны аналіз праблемы)*, "Беларускі гістарычны часопіс" 1998, N 3, c. 20; M. Moroz, *"Krynica". Ideologia i przywódcy białoruskiego katolicyzmu*, Białystok 2001, s. 20.

*czytać, za tem mówić i myśleć po polsku nauczy się tę moją błahą pracę w dowód wysokiego uwielbienia i szacunku poświęcam"*[2].

Romantyczni autorzy chętnie sięgali po ludową twórczość. Odwołania do utworów związanych z folklorem białoruskim odnaleźć można w licznych dziełach[3]. Najwięksi twórcy polskiej kultury — Adam Mickiewicz, Stanisław Moniuszko — czerpali z tej skarbnicy ludowej tradycji. Nieoceniony wkład w poznanie i rozpropagowanie folkloru białoruskiego włożył m.in. Wincenty Dunin-Marcinkiewicz[4]. Kwestię białoruską jako oddzielny problem etniczny zaczęły też dostrzegać rosyjskie i ukraińskie środowiska rewolucyjno-demokratyczne[5].

Zainteresowanie kulturą ludową nie oznaczało jednak, w opinii miejscowej szlachty, prób zrównywania społeczności wiejskiej z dworem. Nie widziano potrzeby kształtowania dostosowanej do potrzeb miejscowego chłopstwa odrębnej wizji przeszłości. Obraz wyłaniający się z polskich badań nie pozostawiał złudzeń co do stanu świadomości historycznej reprezentowanej przez społeczność chłopską. Eustachy Tyszkiewicz w swojej pracy wydanej w Wilnie w 1847 roku, poświęconej zagadnieniom folklorystycznym, pisał wprost: *"Pospólstwo, nie mając żadnego udziału w politycznym życiu narodu, mało też zachowało podań przeszłości"*[6]. Do podobnych konkluzji dochodzili też inni autorzy. Podkreślano typowo wiejski stosunek do dziejów, niesięgający dalej niż dwa, ewentualnie trzy pokolenia wstecz. Taki stan świadomości historycznej bezpośrednio odbijał się na postrzeganiu przez chłopów otaczającej ich rzeczywistości.

Wieś na poziomie świadomości funkcjonowała w oderwaniu od rozwijającej się w XIX wieku kultury dworów szlacheckich. Jak pisał w jednej ze swoich prac, współczesny badacz białoruskiej świadomości narodowej, R. Radzik: *"W folklorze białoruskim — w przeciwieństwie na przykład do ukraińskiego — brakowało pieśni, legend i innych przekazów ustnych, które funkcjonowałyby w skali masowej, głęboko uwewnętrznione społecznie, w których kultywowano by tradycje własnej odrębności politycznej w wymiarze społecznym i militarnym, wychwalano by własne zwycięstwa i bohaterów, eksponowano posiadane niegdyś prawa i tęskniono do minionej wolności, a więc brakowało świadomości posiadanej*

---

2 A. Rypiński, *Białoruś. Kilka słów o poezji prostego ludu téjnaszéjpolskiéjprowincii; o jego muzyce, śpiéwie, tańcach, etc*, Paryż 1840, s. 1.

3 Zob. więcej: M. Olechnowicz, *Polscy badacze folkloru i języka białoruskiego w XIX wieku*, Łódź 1986.

4 З. Шибеко, *Новая и новейшая история Беларуси: важнейшие события и осовные тенденции*, "Русский Вопрос" 2004, N 2, http://www.russkiivopros.com/?pag=one&id=73&kat=5&csl=19, [22.02.2016].

5 М. Біч, *Аб нацыянальнай канцэпцыі гісторыі і гістарычнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь*, "Беларускі гістарычны часопіс" 1993, N 1, с. 16.

6 E. Tyszkiewicz, *Opisanie powiatu Borysowskiego pod względem statystycznym, geognostycznym, historycznym, gospodarczym, przemysłowo-handlowym i lekarskim*, Wilno 1847, s. 411.

*niegdyś — niezależnie od faktów historycznych — państwowości”*[7].

Lud nie tylko nie posiadał poczucia wspólnoty historycznej, ale także nie zdawał sobie sprawy z zasięgu terytorialnych granic swojego języka. Co w połączeniu z praktycznie nieistniejącą, świadomą swojej odrębności, białoruską warstwą wyższą nie sprzyjało budowaniu poczucia wspólnoty narodowej. Język białoruski przez społeczność chłopską był odbierany bardziej w kategoriach użytkowych niż ideologicznych. Chłop białoruski traktował swój język instrumentalnie, jako narzędzie porozumiewania się, nie doszukując się w nim głębszych wymiarów. Społeczność białoruska, posługując się własną mową, nie była w stanie wypracować dostatecznego zasobu pojęć abstrakcyjnych, niezbędnych do formowania się poczucia odrębności o charakterze szerszym niż wspólnota lokalna. Warto również pamiętać, że kwestia językowa odbierana była przez Białorusinów w kategoriach klasowych. Na obszarze pogranicza używanie odpowiedniego języka świadczyło o przynależności społecznej. Rosyjski miał status języka urzędowego (państwowego), polski kojarzony był z grupą ziemiańsko-szlachecką oraz Kościołem katolickim, białoruski natomiast używany był przez chłopów. Często zmiana statusu społecznego równoznaczna była ze zmianą używanego języka, co z kolei rzutowało na dokonywane wybory związane z kształtującą się świadomością narodową i akceptowaną przez nią wizją dziejów.

Podkreślanie przez miejscową szlachtę i ziemiaństwo przywiązania do lokalnego, jak to wówczas wymiennie nazywano, ruskiego lub litewskiego dziedzictwa, nie oznaczało odcinania się od polskiej wspólnoty państwowo-narodowej[8]. Widać to dobrze w pracach takich autorów jak: Ignacy Kraszewski, Ignacy Szydłowski, Władysław Syrokomla, Maurycy Krupowicz, Mikołaj Malinowski czy bracia Chodźko, którzy związani byli z kulturą polską. Pomimo dostrzegania w swoich utworach specyfiki ziem białoruskich dobitnie i chętnie podkreślali oni związek ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego z dziedzictwem całej Rzeczypospolitej[9].

W połowie XIX wieku kwestia białoruska nie była odbierana przez polskie środowiska w kategoriach istotnego problemu politycznego. W opinii lokalnej szlachty walka o przyszłość polityczną dawnych ziem WKL, podobnie jak w przeszłości, rozegrać się miała pomiędzy kulturą rosyjską i polską[10]. Przed emancypującymi się jednostkami wywodzącymi się z grupy miejscowych chłopów

7 R. Radzik, *Między zbiorowością etniczną a wspólnotą narodową. Białorusini na tle przemian narodowych w Europie Środkowo-Wschodniej XIX stulecia*, Lublin 2000, c. 176.

8 А. Смалянчук, *“Польскае пытанне” ў беларускай гісторыі канца 18 — пачатку 20 ст.*, “Гістарычны Альманах” 2002, т. 7, с. 184.

9 D. Karew, *Białoruska historiografia i ewolucja świadomości historycznej Białorusinów (od rozbiorów do lat dwudziestych XX wieku)*, [w:] *Tematy polsko-białoruskie. Historia. Literatura. Edukacja*, red. R. Traba, Olsztyn 2003, c. 79.

10 З. Шибеко, *Новая и новейшая история Беларуси…*

powstawał wybór dwóch opcji narodowych — rosyjskiej bądź polskiej. Ta pierwsza utożsamiana była z panującą administracją i prawosławnym dziedzictwem, drugą reprezentowały dwór, polski szlachcic i Kościół katolicki. Społeczność wiejska była zbyt słaba, aby zbudować własną, alternatywną drogę narodowej niezależności. Za wiejską wspólnotą nie stała żadna realna siła, a dziedzictwo charakterystyczne było dla typowej zbiorowości etnicznej, odbieranej na poziomie lokalnym. Otaczającą rzeczywistość chłop widział w kategoriach ojcowizny (ziemi — matki karmicielki), nie potrafiąc przejść na poziom poczucia wspólnoty narodowej.

W opinii większości środowisk polskich społeczność wiejska, wtłoczona w spór rosyjsko-polski, nie miała szans na własną emancypację kulturową. Uważano, że chłopstwo wyznania katolickiego będzie ewoluować w stronę polskiej racji stanu, podczas gdy prawosławie zostanie całkowicie wchłonięte przez kulturę rosyjską. Dodatkowe wzmocnienie tego podziału nastąpiło po likwidacji przez władze carskie w 1839 roku unii kościelnej[11]. Efektem tego procesu było m. in. poszukiwanie własnej tożsamości, w dużym stopniu, w oparciu o różnice religijne. Nie zmienia to faktu, iż równolegle, choć bardzo nieśmiało, kształtowała się także białoruska narracja historyczna[12], wyraźnie pozostająca na marginesie głównego rosyjsko-polskiego sporu o opis dziejów.

Władze rosyjskie zaczęły wykazywać coraz większe zainteresowanie przeszłością ziem białoruskich od lat 40. XIX wieku. W 1848 roku w urzędzie wileńskiego gubernatora generalnego stworzono specjalną komórkę mającą zajmować się zbieraniem danych statystycznych i informacji historycznych o obszarach dawnych ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego. W podejmowanych pracach uczestniczyli lokalni krajoznawcy. I choć nie zawsze wyniki ich badań zgodne były z oczekiwaniami władz carskich, to jednak rządzący i tak starali się eksponować przede wszystkim prawosławne dziedzictwo obszarów Cesarstwa Rosyjskiego. Zaczęto wydawać zbiory dokumentów potwierdzające prawosławny charakter ziem białoruskich[13].

Tezę mówiącą, że zasadniczy spór o przyszłość ziem białoruskich rozegra się pomiędzy rosyjską a polską kulturą dodatkowo potwierdzał nasilający się coraz bardziej podczas powstania styczniowego i po jego zakończeniu konflikt polityczny. W przypadku polskiej społeczności szlacheckiej znalazło to swoje odzwierciedlenie w znacznie mniejszym, niż to było w okresie po powstaniu listopadowym, zainteresowaniu się sprawą kultury wiejskiej (ludyczności). Kwestia białoruska powoli zaczynała tracić swój romantyczny, folklorystyczno-ludyczny charakter, a stawała się coraz silniejszym zagadnieniem polityczno-

11 J. Jurkiewicz, *Nasze widzenie Białorusinów w XX w. (do 1939 r.)*, "Dzieje Najnowsze" 1995, nr 2, s. 63–64.
12 Zob. А. Латышонак, *Нацыянальнасць — Беларус*, bmw, 2012, с. 410–416.
13 D. Karew, *Białoruska historiografia i ewolucja…*, s. 76.

ekonomicznym. Był to zarówno skutek prowadzonej przez władze rosyjskie popowstaniowej polityki, starającej się coraz mocniej wykorzystać do swoich celów animozje prawosławno-katolickie, jak i efekt reformy uwłaszczeniowej, wprowadzającej nowe stosunki społeczno-prawne w relacjach wieś–dwór. Chłop większe zagrożenie zaczynał widzieć w sąsiedzie szlachcicu niż w urzędniku carskim.

Procesy te dostrzegały także władze carskie, które z uwłaszczenia chłopów i rosyjskiej akcji kolonizacyjnej chciały uczynić jeden z filarów polityki mającej w niedalekiej przyszłości podciąć ekonomiczne podstawy egzystencji miejscowej szlachty[14]. Podjęto próbę wykorzystania sprawy chłopskiej do własnych celów politycznych. Planowano wprowadzenie szeregu ulg dla włościan, dzięki którym miejscowy chłop mógłby łatwiej okrzepnąć ekonomicznie. Także na poziomie kultury i religii pogłębiano różnice dzielące społeczności chłopską i szlachecką.

Bliskość oparta na wspólnocie religijnej stała się podstawą do budowania koncepcji ukazującej bliskie, historyczne powiązanie pomiędzy Rosjanami a Białorusinami. Skuteczną płaszczyzną porozumienia i zbliżenia kultur rosyjskiej i białoruskiej była religia i budowane na jej bazie poczucie wspólnego, ruskiego dziedzictwa. Silnie związane z państwowością carską prawosławie blokować miało rozwój kultury łacińsko-polskiej[15].

Coraz mocniej propagowana idea ziem Rosji Północno-Zachodniej (zamiast określenia “dawne ziemie Wielkiego Księstwa Litewskiego”) miała podkreślać historyczny związek tych obszarów z Rosją. Najbardziej znanym ideologiem prężnie wówczas rozwijającej się koncepcji “zapadnoruskiej” był urodzony w Kuźnicy Białostockiej syn duchownego unickiego Michaił Kojałowicz[16]. Już jako prawosławny bardzo negatywnie odnosił się do idei unii brzeskiej i zbliżenia z kulturą łacińską (polską)[17]. Wschodnie ziemie przedrozbiorowej Rzeczypospolitej traktowane były przez niego jako stare ziemie ruskie, poddane polonizacji poprzez unię brzeską i związki polityczne Litwy i Korony. Według propagowanej tezy obszar dawnej, wielkiej Rusi zamieszkiwał jeden naród ruski (rosyjski), składający się z trzech grup: Wielkorusinów (Rosjan), Małorusinów (Ukraińców) i Zachodniorusinów (Białorusinów)[18]. Wchodzili oni w skład wschodniosłowiańskiej, prawosławnej wspólnoty. Bazując na tej koncepcji,

14 Z. Szybieka, *Historia Białorusi 1795–2000*, Lublin 2002, s. 124–125.

15 *Ibidem*, s. 121.

16 Początki kształtowania się koncepcji “zapadruskiej” zauważyć już można pod koniec XVIII wieku, np. w wydanej w Mohylewie w 1793 roku pracy S. Bohusz-Siestrzeńcewicza zatytułowanej *O Rossyi zachodniej*.

17 М. Коялович, *Литовская церковная унія*, Санкт-Петербургъ 1859; М. Коялович, *Люблинская унія или последнее соединеніе Литовскаго княжества съ польскимъ королевствомъ на Люблинскомъ сеймѣ въ 1569 году*, Санкт-Петербургъ 1863.

18 G. Ioffe, *Białoruś: już państwo, jeszcze nie naród*, [w:] *Geopolityczne miejsce Białorusi w Europie i świecie*, red. V. Bulhakau, Warszawa 2006, s. 152.

okres Wielkiego Księstwa Litewskiego ukazywano jako epizod w rosyjskich dziejach tych ziem, który przerwał kształtowanie się jednolitej wspólnoty opartej na ruskim dziedzictwie, mającym swoje korzenie w dziejach Rusi Kijowskiej. Zgodnie z tą ideą Białorusini nie byli traktowani jako oddzielny naród, a jedynie jako szczep wielkiej wspólnoty rosyjskiej. I chociaż koncepcja "zapadnoruska" nie została formalnie definiowana jako oficjalny, państwowy nurt polityczny, to w praktyce stała się wyznacznikiem rządowej polityki w zachodnich guberniach Cesarstwa Rosyjskiego. Ten sposób patrzenia na przeszłość ziem białoruskich stał się podstawą oficjalnie tworzonych opisów historycznych[19]. Dobrym przykładem syntezy dziejów ziem białoruskich, utrzymanym w duchu koncepcji "zapadnoruskiej", była wydana w Sankt Petersburgu w 1857 roku praca autorstwa Osipa (Iosifa) Turczinowicza[20]. Warto jednak zaznaczyć, że chociaż autor, obok dziedzictwa związanego z Rusią Kijowską, historycznych źródeł ziem białoruskich doszukiwał się także w dziejach niezależnego od Kijowa Księstwa Połockiego, to jednak nadrzędnym celem pracy było ukazanie silnego związku pomiędzy początkami państwowości białoruskiej a ruskim dziedzictwem[21].

Próbą przełamania "zapadnoruskiego" sposobu patrzenia na przeszłość miejscowych chłopów była podjęta w okresie powstania styczniowego działalność Kastusia Kalinouskiego. Swoje poglądy na historię ziem białoruskich wyłożył on w wydawanej przez siebie w języku białoruskim *Mużyckiej praudzie*. Był on zwolennikiem odrodzenia się Wielkiego Księstwa Litewskiego, które pozostawać miało w ścisłym związku z Rzecząpospolitą. Zamieszczone na łamach tej gazety artykuły wysławiały czas I Rzeczypospolitej. Spokojnemu okresowi życia wsi w państwie polskim przeciwstawiany był obraz ciężkich warunków w Cesarstwie Rosyjskim. Jako przykład pozytywnych rozwiązań sprawy chłopskiej przytaczano obietnice złożone przez Tadeusza Kościuszkę podczas powstania 1794 roku[22]. Podkreślano przywileje nadawane przez króla polskiego chłopom, polegające na przechodzeniu włościanina do stanu szlacheckiego w przypadku podjęcia przez niego walki za ojczyznę[23]. Kastuś Kalinouski bardzo negatywnie odnosił się też do zniesienia unii kościelnej, nazywając ją, w przeciwieństwie do prawosławia, prawdziwą wiarą[24]. Okres I Rzeczypospolitej w jego pismach był

---

19 Koncepcja "zapadnoruska" w XX i XXI wieku stanie się jedną z kluczowych idei konstruowania świadomości białoruskiej. Bez zrozumienia tej XIX-wiecznej idei niezwykle trudne lub wręcz niemożliwe jest zrozumienie ideologii współczesnego państwa białoruskiego. Bez wątpienia jedną z najlepszych prac na temat zagadnienia "zapadnorusizmu" jest wydana w 1929 roku w BSRS rozprawa autorstwa A. Ćwikiewicza (Reprint: А. Цьвікевіч, *"Западно-руссизм". Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в., Менск 1993*).

20 О. Турчинович, *Обозренie исторiи Белоруссiи съ древнейшихъ временъ*, Санкт-Петербургъ 1857.

21 Р. Лінднэр, *Гісторыкі і ўлада. Нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX–XX ст.*, Мінск 2005, с. 74–75.

22 "Mużyckaja prauda" 1862, nr 2.

23 *Ibidem*, nr 5.

24 *Ibidem*, nr 6.

wyraźnie gloryfikowany w stosunku do współczesnego mu okresu rosyjskiego. Kastuś Kalinouski liczył, iż odwoływanie się do już mitycznych, z perspektywy miejscowego chłopa, czasów rządów polskich pozwoli mocniej związać go z ideą walki przeciwko caratowi.

Powstanie styczniowe w praktyce jedynie zwiększyło rozbieżności pomiędzy ideą odrodzonej Rzeczypospolitej, a miejscowym chłopstwem białoruskim. Było to umiejętnie wykorzystywane przez władze carskie, które pokazywały, iż Polska to nie tyle obraz mitycznego, szczęśliwego państwa, co plan polskiej szlachty na przywrócenie pańszczyźnianych relacji wieś–dwór z czasów I Rzeczypospolitej. W środowisku zwolenników ścisłego powiązania prawosławnej ludności chłopskiej z kulturą rosyjską okres powstania styczniowego wzmocnił tylko negatywne podejście do wszystkiego, co mogło być kojarzone z Rzecząpospolitą. Wyraźnie eksponowana przed wybuchem powstania niechęć do polskiego dziedzictwa, w okresie popowstaniowym przyjęła formę agresywnych, politycznych wystąpień. Władze carskie za etnos (naród) białoruski uznawały jedynie prawosławnych chłopów, którzy silnie, historycznie i emocjonalnie winni byli być powiązani z dziedzictwem rosyjskim. Akcentując pewne elementy białoruskiej odrębności etnicznej, jednocześnie podkreślały bliski związek kulturowy z Rosją, wpisywaną w wielkoruski obraz dziejów[25].

Odpowiednio konstruowany, z punktu widzenia rosyjskiej racji stanu, opis historii ziem białoruskich, po powstaniu styczniowym stał się jednym z elementów represyjnej polityki wymierzonej w polsko-katolickie dziedzictwo obszarów Imperium Rosyjskiego[26]. Braku sukcesów w dotychczasowych badaniach historycznych, mających jednoznacznie wykazać bliskość cywilizacyjną ziem białoruskich i rosyjskich, władze carskie doszukiwały się w nieprofesjonalnym przygotowaniu urzędników, oficerów i duchownych, którzy mieli zajmować się tymi zagadnieniami[27]. Uważano, że polski przekaz o historii tych ziem w dalszym ciągu był mocniej eksponowany niż rosyjski. Pod koniec lat 60. XIX wieku w prace badawcze zaangażowano szereg rosyjskich placówek.Wśród najważniejszych instytucji wymienić można: istniejącą od 1864 roku Wileńską Komisję Archeologiczną, funkcjonujący w latach 1867–1875 i 1910–1914 wileński (północno-zachodni) oddział Rosyjskiego Towarzystwa Geograficznego czy założone w 1902 roku w Mohylewie Towarzystwo Studiów nad Białoruskim Krajem. Pod koniec XIX wieku rozwinęły się także badania nad białoruskim językiem i folklorem[28]. Państwo finansowało wydawanie czasopism naukowych.

25 M. Moroz, *op. cit.*, s. 26–27.

26 Д. Карев, *Белорусская и украинская историография конца XVIII — начала 20-х гг. XX в. в процессе генезиса и развития национального исторического создания белорусов и украинцев*, Вильнюс 2007, с. 176–177.

27 D. Karew, *Białoruska historiografia i ewolucja…*, s. 78.

28 H. Głogowska, *Białoruś 1914–1929. Kultura pod presją polityki*, Białystok 1996, s. 16–17.

Do czołowych tytułów należał *Wiestnik Zapadnoj Rossii* redagowany przez Ksienofonta Goworskiego[29]. Cenzurze podlegały nawet zgromadzone eksponaty przechowywane w lokalnych, prywatnych kolekcjach. Zgodnie z nowym przekazem podkreślać one mogły jedynie ruski charakter tych ziem[30].

W porównaniu do szeroko zakrojonych, wspieranych przez państwo badań rosyjskich, inicjatywy podejmowane przez środowiska szlacheckie prowadzone były na dużo mniejszą skalę. Do wybijających się w tym okresie działaczy związanych z kulturą polską, ale badających folklor i dzieje ziem białoruskich z uwzględnieniem chłopskiego punktu widzenia, zaliczyć można Franciszka Bohuszewicza. Jego prace wpłynęły na kształtowanie się białoruskiej świadomości narodowej[31]. W 1891 roku w Krakowie pod pseudonimem Maciej Buraczek wydał on napisaną alfabetem łacińskim w języku białoruskim *Dudkę białoruską* — poemat sławiący piękno ziemi i tradycji białoruskiej[32]. Generalnie jednak amatorskie inicjatywy badania kultury chłopskiej były coraz rzadsze. W szybko zmieniających się warunkach polityczno-społecznych lokalna szlachta i ziemiaństwo coraz mocniej skupione były na utrzymaniu swojej dominującej pozycji ekonomicznej[33].

Podejmowane przez władze rosyjskie w tym okresie działania miały pełne cechy przemyślanej i sprawnie realizowanej polityki historycznej. Zaczynały również przynosić efekty w postaci konkretnych opracowań historycznych. Powstające prace pisane były z punktu widzenia rosyjskiej racji stanu. Wskazywano w nich, że ziemie białoruskie od zawsze stanowiły część dziedzictwa rosyjskiego i nie miały innej historii niż rosyjska[34]. W pracach podkreślano ruski charakter Wielkiego Księstwa Litewskiego[35]. Podkreślano, iż naturalny proces jednoczenia się wszystkich ziem ruskich przerwała prowadzona w poprzednich wiekach ekspansja Kościoła katolickiego, starającego się w tej części Europy poszerzyć swoją strefę wpływów[36]. Powstały w wyniku unii polsko-litewskiej twór państwowy coraz bardziej oddalał ziemie Wielkiego Księstwa Litewskiego od założeń czysto ruskich, stając się strefą wpływów Kościoła katolickiego i polskiej kultury. Wychodząc z takich założeń, przekonywano mieszkańców ziem białoruskich, że Wielkie Księstwo Litewskie nie może być przez nich traktowane jako ich

29 Р. Лінднэр, *op. cit.*, c. 71.

30 Д. Карев, *Белорусская и украинская…*, c. 190.

31 M. Moroz, *op. cit.*, s. 33.

32 M. Buraczok, *Dudka Białaruskaja*, Kraków 1891 (reprint Мінск 1990).

33 С. Токць, *Беларуская інтэлігенцыя ў нацыянальным руху ў першай палове XX ст.*, [w:] *Białoruś w XX wieku w kręgu kultury i polityki*, red. D. Michaluk, Toruń 2007, s. 114–117.

34 М. Погодин, *Польской вопрос. Собрание рассуждений, записок и замечаний (1831–1867)*, Москва 1867, c. 279.

35 П. Брянцев, *Исторія Литовскаго государства съ древнѣйшихъ временъ*, Вильна 1889.

36 T. Kruczkowski, *Polacy na Białorusi na tle historii i współczesności*, Słonim 2003, s. 34–35.

własne państwo, z którym winni się utożsamiać[37]. Do klasycznych opracowań tego typu należała wydana w 1890 roku praca zatytułowana *Białoruś i Litwa. Historyczne losy Kraju Północno-Zachodniego*, w której XIX wiek opisany został jako czas długo oczekiwanej sprawiedliwości dziejowej. Ziemie białoruskie zostały wówczas w pełni zjednoczone z resztą obszaru rosyjskiego, a Cerkiew unicka ostatecznie wróciła na łono Cerkwi prawosławnej[38].

Ścisłą kontrolą objęte zostało także nauczanie historii w szkołach[39]. Cenzurze poddawano podręczniki, a nauczycieli sprowadzano z centralnych guberni Rosji[40]. Rozbudowywana pod koniec XIX wieku sieć szkół ludowych miała być skutecznym narzędziem rusyfikacji społeczności chłopskiej i wyrwania jej spod wpływu dworów i polskiej kultury. Językiem wykładowym był rosyjski, a absolwenci mieli czuć silny związek emocjonalny z rosyjskim dziedzictwem. Rosyjski system oświatowy stanowić miał skuteczną zaporę zarówno przed wzmocnieniem się narodowego ruchu polskiego, jak i wykrystalizowania się białoruskiego, odrębnego od rosyjskiego, poczucia narodowego.

Celem działań lokalnych władz administracyjnych było wytworzenie powiązania pomiędzy mieszkańcami a państwem rosyjskim. Rozbudowywano kult Mikołaja II — cara, ojca i sprzymierzeńca miejscowych chłopów. Instytucje państwowe: administracja, szkoła i wojsko, zaangażowane zostały w kreowanie obrazu silnego w przeszłości i współcześnie Cesarstwa Rosyjskiego. Istotną rolę w kształtowaniu świadomości historycznej społeczności białoruskiej odgrywała Cerkiew prawosławna. W przeciwieństwie do kościołów w Europie łacińsko-protestanckiej, które były na tyle samodzielne w stosunku do struktur państwowych, iż niejednokrotnie inicjowały powstanie autonomicznych względem nich wspólnot, Cerkiew prawosławna całkowicie podporządkowana była interesom Moskwy. Duchowni prawosławni wzmacniali wielkoruskie tendencje w społeczności chłopskiej, w zasadniczy sposób przyczyniając się do zmniejszenia szans na powstanie białoruskiego, niezależnego ruchu narodowego.

Białorusinom odmawiano prawa do bycia samodzielnym narodem, co najwyżej akceptowano pewne odrębności natury folklorystycznej. Podział narodowościowy pokrywać się miał ściśle z podziałem religijnym. Chłopską społeczność zamieszkującą ziemie białoruskie dzielono na katolików — Polaków i prawosławnych — zachodnich Rosjan (Białorusinów). Na ewentualne zarzuty

[37] R. Radzik, *Kim są Białorusini?*, Toruń 2004, s. 80.

[38] *Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края. Изданная П. Н. Батюшковым в 1890 г. книга посвящена церковной и политической истории Белоруссии с древнейших времен до XIX в.*, Минск 2004.

[39] Д. Карев, *Западноруссизм и его представители в белорусской историографии пореформенного периода (к проблеме влияния политики на историческую идеологию)*, "Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы" 2009, N 2(80), с. 93.

[40] H. Sahanowicz, *Źródła pamięci historycznej współczesnej Białorusi. Powrót zapadnorusizmu*, Lublin 2006, s. 6.

нацыянальнага жыцця былі як актыўныя ўдзельнікі беларускага руху ў міжваенны час (Кастусь Езавітаў, Андрэй Якубецкі, Мікалай Дзямідаў, Сяргей Сахараў і інш.), так і прадстаўнікі маладога пакалення беларусаў Латвіі — выхаванцы беларускіх школ у 1920-я і 1930-я гг. (Аляксандр Махноўскі, Пятро Мірановіч, Пятро Масальскі і інш.). Прыярытэтам дзейнасці мясцовага беларускага актыву было стварэнне ўласнага школьніцтва. Невыпадкова пераважную большасць сяброў арганізацыі складалі менавіта настаўнікі. 26 верасня 1941 г. ініцыятыўная група прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі Латвіі звярнулася да генеральнага камісара Латвіі Дрэйслера з мемарандумам, у якім, між іншым, прасіла: 1) утрымаць існыя беларускія пачатковыя школы і адкрыць новыя ў мясцовасцях з колькаснай перавагай беларускага насельніцтва; 2) адкрыць беларускую сярэднюю школу ў Індры; 3) дазволіць працу беларускіх настаўніцкіх курсаў у Рызе ці Дзвінску; 4) прызначыць беларускага дзеяча Язэпа Камаржынскага беларускім школьным інспектарам[11]. Крыху пазней прадстаўнікі БНК у Дзвінску таксама звярнуліся да мясцовага гебітскамісара з падобным мемарандумам[12]. 20 кастрычніка 1941 г. кіраўніцтва БНК прадставіла на разгляд нямецкім уладам справу адкрыцця першых 9 школ[13].

Па вышэйзгаданых прычынах акупацыйныя ўлады былі схільныя падтрымаць жаданні беларускага боку. Нямецкія дырэктывы прадугледжвалі адкрыццё ў мясцовасцях са значнай колькасцю беларусаў і рускіх школ з іх роднай мовай навучання. У лісце кіраўніцтва Міністэрства акупаваных усходніх тэрыторый чытаем: “…*пасля паўторнага адкрыцця латышскіх школ ёсць патрэба адкрыцця таксама народных школ для рускай і беларускай нацыянальных груп у Латвіі. На падставе атрыманых справаздач управа латышскага школьніцтва праводзіць у Остландзе некарысную палітыку латышызацыі ў дачыненні да рускай і беларускай нацыянальных груп. У выпадку паўторнага адкрыцця беларускіх і рускіх школ належыць звярнуць увагу на тое, што да гэтага часу ў многіх мясцовасцях з перавагай рускага і беларускага насельніцтва ствараліся толькі латышскія школы. На іх месцы будуць адкрывацца рускія, і, магчыма, беларускія школы. У выпадку рускіх школ навучанне будзе працягвацца 3 гады (ва ўзросце 8–11 г.), беларускіх — 4 гады (8–12 г.). У выпадку, калі планавалася адкрыццё латышскіх школ для рускіх і беларускіх дзяцей, яны будуць перафармоўвацца ў рускія і беларускія. У змяшаных моўна асяроддзях рашэнне будзе прымацца на карысць беларускіх*

[11] BA, R92/101, s. 59–63.

[12] *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* “Раніца” 1942, 15 лютага, с. 4.

[13] BA, R92/102, s. 57–58.

*школ"*[14]. Пры гэтым магчымыя ўплывы нацменшасцей на латышоў таксама лічыліся непажаданымі. У сувязі з гэтым меркавалася не дапускаць, каб латышскія дзеці наведвалі беларускія і рускія школы, а беларусы і рускія хадзілі ў латышскія.

Арганізацыя школьнай справы ўваходзіла ў абавязкі рэферэнта асветы і культуры Генеральнага камісарыята Франца Адольфі. Менавіта з гэтым нямецкім чыноўнікам давялося супрацоўнічаць беларускім дзеячам па пытаннях арганізацыі школьніцтва. 22 кастрычніка 1941 г. генеральны камісар Латвіі выдаў распараджэнне, згодна з якім беларускі актыў афіцыйна атрымаў правa на арганізацыю школьнай справы. На месцах распачалася праца па рэгістрацыі вучняў. Дзеячы БНК разлічвалі на адкрыццё беларускіх школ перадусім там, дзе яны існавалі ў даваенны час. На Дзвіншчыну былі накіраваныя М. Дзямідаў і Я. Камаржынскі[15], а на Люцыншчыну — С. Сахараў і Сымон Мацяеўскі[16]. 24 кастрычніка 1941 г. нямецкія ўлады даручылі М. Дзямідаву справу арганізацыі беларускага школьніцтва ў Дзвінскай акрузе[17]. Вынікі працы гэтага дзеяча былі здавальняючымі. У Індрскай воласці ён зарэгістраваў каля 1 тыс. вучняў, бацькі якіх задэкларавалі беларускую нацыянальнасць і жадалі аддаць сваіх дзетак у беларускія школы. У Дзвінску арганізацыяй школ займаўся А. Махноўскі, які здолеў сабраць 540 вучняў. Адначасова адбывалася падрыхтоўка да адкрыцця беларускіх школ у Люцынскім павеце. 20 лістапада 1941 г. кіраўніцтва БНК перадало Ф. Адольфі звесткі наконт магчымасцей стварэння беларускіх школ у Дзвінскім, Люцынскім і Ілукшчынскім паветах. Пералічваліся населеныя пункты і воласці, у якіх беларускае насельніцтва складала большасць[18].

Вось як акупацыйнае кіраўніцтва ацэньвала стан і перспектывы беларускай школьнай справы. У лісце Ф. Адольфі да Міністэрства акупаваных усходніх тэрыторый ад 9 снежня 1941 г. адзначалася, што там, дзе ёсць беларускія дзеці ў школьным узросце і ў адпаведнай колькасці, адкрываюцца беларускія сямікласныя народныя школы. Нямецкі ўрадавец лічыў, што беларускае насельніцтва, якое працяглы час цярпела ўціск з боку латышоў, палякаў і рускіх, будзе падатлівым нямецкім уплывам. Больш за тое, ён сцвярджаў, што няма ніякай небяспекі ў тым, што ў выніку павышэння ўзроўню адукацыі беларусаў яны стануць схільнымі

14 BA, R92/102, s. 7.
15 BA, R92/101, s. 70.
16 BA, R92/102, s. 70.
17 BA, R92/101, s. 156.
18 BA, R92/102, s. 83–85.

да бальшавіцкіх ідэй. Чыноўнік лічыў, што адкрыццё беларускіх школ зробіць магчымым падрыхтоўку ўрадаўцаў ніжэйшага і сярэдняга ўзроўню дзеля патрэб Генеральнай акругі Беларусь[19].

Беларускае школьніцтва магло дзейнічаць у межах агульнай акупацыйнай палітыкі ў галіне асветы, якая праводзілася ў Балтыі. У Генеральнай акрузе Латвія было дазволена існаванне некалькіх тыпаў школьных устаноў. Найбольш распаўсюджанымі былі народныя школы (*Volksschulen*), якія давалі пачатковую (асноўную) адукацыю. Гэтыя школы былі двух тыпаў: пяці- і сямігадовыя. Выпускнікі пяцігадовых школ маглі працягваць навучанне ў сямігадовай школе. Выхаванцы сямігодак, якія мелі добрыя вынікі, маглі працягваць адукацыю ў чатырохгадовых сярэдніх школах (*Mittelschulen*), якія на практыцы былі гімназіямі. Сярэднюю адукацыю можна было таксама атрымаць у двух- і трохгадовых прафесійных школах (*Berufsschulen, Fachschulen*), якія мелі розныя профілі: рамесніцкі, гандлёвы, сельскагаспадарчы, адміністрацыйны[20].

З мэтай кіравання беларускім школьніцтвам была створаная пасада інспектара беларускіх школ у Латгаліі і Земгаліі. Першапачаткова кандыдатам на гэту пасаду разглядаўся К. Езавітаў[21]. Аднак 1 снежня 1941 г. гебітскамісар у Дзвінску прызначыў інспектарам М. Дзямідава. У лютым 1942 г. ён быў адклікаены з пасады ў сувязі з ад'ездам у Люцыншчыну, а новым інспектарам стаў А. Махноўскі. Сядзіба інспектара знаходзілася ў Дзвінску. Інспектар беларускіх школ быў падначалены рэферэнту асветы і культуры ўправы гебітскамісара Дзвінска Рольфу Вінбергу. Пачатак працы інспектара быў цяжкім. У лісце да К. Езавітава А. Махноўскі ўзгадваў, як ён прымаў абавязкі ад М. Дзямідава: "*Хаос. Дабіваўся я ад М.[іколы] Я.[навіча] хоць спіса вучыцялёў, дзе былі-б пададзены супраць кожнага з якой датай і ў якую школу вучыцель прызначаны. Пакуль не дабіўся. Копій выходзячых папер няма. Вучыцялі-беларусы не атрымалі пенсіі за студзень, не кажучы аб лютым. Спісы на пенсію ляжаць у інспектарацэ (беларускім), бо М.[ікола] Я.[навіч] "не мае часу" на іх напісаць. […] Некаторыя вучыцялі не атрымалі пенсіі і за 4 месяцы (Неўляжкая школа — 2 вучыцелькі). Кожны дзень 5–6 тэлефонных званкоў — грошы! У першую чаргу вазьмуся за гэта*"[22]. У красавіку 1942 г. А. Махноўскі жаліўся кіраўніку БНК, што ў інспектарацэ няма справавода, бухгалтара, машыніста-перакладчыка і канцылярскага супрацоўніка[23].

19 BA, R92/102, s. 9–11.

20 BA, R6/402, s. 13–16.

21 *Latvijas Valstsvēstures arhīvs* (далей — LVVA), P-712 f., 1 apr., 6 lieta, 5 lp.

22 *Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь* (далей — НАРБ), ф. 458, воп. 1, спр. 33, л. 9 зв.-10.

23 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 33, л. 13.

1 студзеня 1942 г. у Генеральнай дырэкцыі адукацыі і культуры самакіравання Латвіі была створана пасада рэферэнта па справах беларускіх школ у Генеральнай дырэкцыі асветы і культуры самакіравання, на якую быў прызначаны Пятро Мірановіч. Сядзіба рэферэнта знаходзілася ў Рызе[24]. Менавіта на плячах інспектара і рэферэнта спачываў асноўны цяжар арганізацыі беларускай школьнай справы. Акрамя таго, у арганізацыі беларускага школьніцтва ўзяў чынны ўдзел К. Езавітаў. Яго ўнёсак у стварэнне і дзейнасць школ цяжка пераацаніць. Менавіта ён праз перапіску з настаўнікамі намагаўся заахвоціць іх да культурна-асветнай працы, забяспечваў іх адпаведнай літаратурай[25]. У якасці прыкладу можна прывесці ўрывак з яго ліста (3 кастрычніка 1941 г.) да настаўніцы Эміліі Казакевіч: "*Памятайце [...] працу над усведамленнем нацыянальным тых, хто цураецца беларушчыны. [...] Увесь жа лёс нашых школ будзе залежыць толькі ад вымогаў жыхарства і ступені ягонае свядомасці! Таму лёс нашых школ — у руках пустынскае і прыдруйскае свядомае інтэлігенцыі. І яна адказвае маральна за гэты лёс. Вы-ж памятаеце як мы працавалі ў Рызе. Тое-ж трэба і ў Індраўшчыне. А там гэта лягчэй, бо навокал усё роднае, сваё*"[26].

Дазвол на адкрыццё школ даваў генеральны дырэктар асветы і культуры па прапанове рэферэнта беларускага школьніцтва. Апошні меў пэўныя кампетэнцыі, якія з часам былі пашыраныя. У прыватнасці, рэферэнт быў падпарадкаваны непасрэдна генеральнаму дырэктару, а не кіраўніку школьнай дырэкцыі; атрымаў права складаць справаздачы непасрэдна генеральнаму камісару (гэта было асабліва істотна ў сітуацыях, калі з'яўлялася розніца паміж поглядамі яго і генеральнага дырэктара); прызначаўся генеральным дырэктарам, але ў паразуменні з генеральным камісарам. Рэферэнт меў права рэкамендаваць генеральнаму дырэктару кандыдата на пасаду інспектара беларускіх школ, а таксама зацвярджаў рашэнні генеральнага дырэктара, якія тычыліся беларускага школьніцтва. Са свайго боку, латышская школьная інспекцыя мела права наведваць беларускія школы і знаёміцца з навучальным працэсам, але не магла выдаваць загадаў кіраўнікам беларускіх школ і ўмешвацца ў іх працу. Заўвагі наконт памылак інспекцыя магла перадаваць рэферэнту, які рабіў адпаведныя крокі з мэтай высвятлення справы[27].

---

24 *Беларускае жыцьцё ў Латвіі,* "Раніца" 1942, 22 лютага, с. 3–4; Э. Екабсонс, *Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай...*, с. 210–211.

25 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 21, л. 1.

26 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 20, л. 16 зв.

27 BA, R92/102, s. 43.



**Кастусь Езавітаў (стаіць першы злева) сярод вучняў беларускай школы. 1930-я г.**

Згодна з распараджэннем рэферэнта асветы ў Дзвінску, беларускія школы адкрываліся ў мясцовасцях, дзе налічвалася не менш за 45 вучняў-беларусаў. У выпадку меншай колькасці беларускіх дзяцей у школах іншых нацыянальнасцей маглі працаваць беларускія камплекты[28]. Дзейнасць беларускага актыву па адкрыцці школ належыць ацаніць як вельмі плённую. Найбольшай дынамікі арганізацыя школьнай справы дасягнула ў 1941/42 навучальным годзе, калі былі створаныя 32 асноўныя (пяці- і сямігадовыя) школы, у якіх навучалася каля 3 тыс. вучняў. У наступным навучальным годзе працавала ўжо 35 беларускіх народных школ. Паводле звестак, атрыманых ад інспектара беларускіх школ А. Махноўскага, у 1942/1943 навучальным годзе ў беларускіх народных школах у Латгаліі і Земгаліі было 3 432 вучні, у тым ліку 1 802 хлапцы і 1 630 дзяўчатак. Там працавалі 93 настаўнікі (без уліку катэхетаў)[29].

Геаграфія беларускага школьніцтва ў асноўным супадала з абшарам кампактнага пражывання беларускамоўнага насельніцтва Латвіі. Найбольш паспяхова акцыя адкрыцця беларускіх асноўных школ праходзіла

28 BA, R92/102, s. 101.

29 BA, R92/102, s. 231–232.

ў Дзвінскім павеце. Ад снежня 1941 г. праца тутэйшага беларускага школьніцтва была цалкам наладжана. У 1942/1943 навучальным годзе на Дзвіншчыне працавала 19 беларускіх народных школ. Найбольш іх існавала ў Індраўскай (10) і Пустынскай (5) валасцях[30]. Працэс адкрыцця новых школ працягваўся і ў пазнейшы час. Агулам беларускія народныя школы на Дзвіншчыне ў 1942/43 г. наведвалі 2 178 вучняў, якіх абслугоўвалі 56 настаўнікаў[31].

Крыху пазней, чым на Дзвіншчыне, распачалося стварэнне беларускага школьніцтва на Люцыншчыне. З мэтай арганізацыі школьнай справы ў сакавіку 1942 г. у Розенава быў накіраваны М. Дзямідаў[32]. Да верасня 1942 г. у Люцынскім павеце (у Пасіенскай, Розенаўскай і Шкавенскай валасцях) дзейнічала 6 беларускіх народных школ, што можна лічыць плёнам працы вышэйзгаданага дзеяча[33]. У 1942/43 г. беларускае школьніцтва на Люцыншчыне налічвала 731 вучня і 19 настаўнікаў[34].

Беларускі актыў меў намер ахапіць школьнай справай таксама Ілукшчынскі павет. Беларуская прэса інфармавала, што на пачатку 1942 г. П. Мірановіч ад імя БНК наведаў гебітскамісара Земгаліі ў Лібаве. Падчас сустрэчы беларускі прадстаўнік паінфармаваў нямецкага кіраўніка аб патрэбе стварэння беларускага школьніцтва ў павеце. Патрабаванні беларусаў былі задаволеныя. У лютым 1942 г. распачалася праца па стварэнні школ. У склад працоўнай групы ўвайшлі Уладзімір Гусарэвіч, Юры Драсецкі, Сабіна Гусарэвіч, Язэп Камаржынскі і Юлія Якубоўская[35]. У красавіку 1942 г. з мэтай высвятлення сітуацыі ў Ілукшту выехаў інспектар А. Махноўскі. Ён наступным чынам ацэньваў тое, што адбывалася: "*Гусарэвіч нічагусенькі не робіць і чакае, пакуль высвятліцца небасхіл, і тады ён пачне варушыцца ў напрамку атрымання добрай пасады. Часта бывае ў мяне, але і мне цяжка яго зрухаць*"[36]. Агулам у Ілукшчынскім павеце атрымалася стварыць 7 беларускіх народных школ (у Дземенскай, Карлаўскай і Саліенскай валасцях), у якіх у 1942/43 гадах вучыліся 523 вучні і працавалі 18 настаўнікаў[37]. Арганізацыйная праца ў павеце была далёкай ад дасканаласці[38]. Беларускія дзеячы наракалі на адсутнасць настаўніцкіх

30 Э. Екабсонс, *Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай…*, с. 226–232.
31 BA, R92/102, s. 231.
32 *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1943, 29 сакавіка — 5 красавіка, с. 5.
33 BA, R92/102, s. 156.
34 BA, R92/102, s. 232.
35 BA, R92/102, s. 15.
36 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 40, л. 9 зв.
37 BA, R92/102, s. 232.
38 *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 29 сакавіка — 5 красавіка, с. 5.

кадраў у павеце, а таксама нізкую нацыянальную самасвядомасць мясцовага сялянства[39]. Вядома, што ў 1942/1943 навучальным годзе ў беларускіх школах тут адвучылася толькі 6 чалавек[40].

Увесну 1942 г. з ініцыятывы БНК рабіліся таксама спробы арганізацыі беларускага школьніцтва ў Рэжыцкім павеце. Па прапанове кіраўніцтва Дзвінскага аддзела БНК справа стварэння школ у Рэжыцкім павеце даручалася настаўніку П. Юркевічу[41]. Аднак нічога невядома пра яго дзейнасць на тэрыторыі гэтага павета.

Акрамя Латгаліі і Ілукшчыны беларускія школы існавалі ў сталіцы Латвіі. У Рызе дзейнічала тры школы, у тым ліку адна вячэрняя (для дарослых)[42]. Школы былі створаныя ў рабочых раёнах, дзе пражывалі беларусы: Маскоўскім Фарштаце і Чырвонай Дзвіне. Рыжская вячэрняя асноўная школа для дарослых распачала працу ў снежні 1941 г. пад кіраўніцтвам К. Езавітава. У першы год нямецкай акупацыі ў школе дзейнічалі два старэйшыя класы і два паралельныя. У 1941/42 навучальным годзе школу скончылі 20 чал., а ў наступным — 51 чал[43]. Першая рыжская беларуская народная школа (дырэктар Вольга Бароўская, потым — Сцяпан Сіцько) знаходзілася на вул. Маскоўскай, 171, а другая (дырэктар Якуб Кастылюк) пачала працу ў будынку, які знаходзіўся на вул. Сымонаўскай, 14/16 (пазней праспект Межа, 88)[44]. Часткова можна ўзнавіць настаўніцкі склад сталічных школ. У трох рыжскіх школах выкладалі Кастусь Езавітаў (беларуская мова, гісторыя, геаграфія, маляванне), Сцяпан Сіцько (беларуская мова, гісторыя), Таццяна Шварц (нямецкая мова, класічныя мовы, прыродазнаўства), Вольга Бароўская (нямецкая мова, спевы), Якуб Кастылюк (матэматыка, этыка), Нэля Анж'ян (нямецкая мова, класічныя мовы), К. Озолс (нямецкая мова, класічныя мовы), Сымон Мацяеўскі (матэматыка), а. Міхась Краўчанка (праваслаўная рэлігія), Антаніна Мурашка, Марыя Пельнік, Ніна Межанцава, Марыля Даль[45]. За выключэннем некалькіх асоб настаўніцкі склад рыжскіх школ складаўся з маладых настаўнікаў, якія нядаўна самі атрымалі адукацыю. Як пісаў К. Езавітаў, у выніку ад'езду часткі беларускага актыву Рыгу "*агалілі амаль дашчэнту*"[46]. Тым не менш беларуская школьная справа ў сталіцы Латвіі выглядала не найгоршым чынам.

39 *Беларускае жыцьцё ў Латвіі,* "Раніца" 1942, 15 лютага, с. 4.
40 LVVA, P-712 f., 1 apr., 4 lieta, 25 lp.
41 LVVA, P-712 f., 1 apr., 6 lieta, 3 lp.
42 BA, R92/102, s. 91.
43 BA, R92/107, s. 75.; *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 28 чэрвеня, с. 3.
44 *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 15 лютага, с. 3.
45 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 129, л. 3–4.
46 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 21, л. 2.

Значным дасягненнем беларускага школьніцтва ў Латвіі было адкрыццё гімназій. Першая беларуская гімназія была створана ў Індры 1 снежня 1941 г. У 1941/42 навучальным годзе працу распачалі два малодшыя класы (74 чал.): у першы запісаліся 27 чал., а ў другі — 47 чал. Пры гэтым другі клас быў падзелены на дзве групы паводле палавой прыкметы. На патрэбы гімназіі загадам Дзвінскага гебітскамісара быў перададзены дом культуры ў Індры. Пры гімназіі ўдалося стварыць невялічкую бібліятэку (каля 300 кніг). С. Сахараў меў намер стварыць таксама драматычны гурток і музей[47]. Пры гімназіі дзейнічаў вучнёўскі інтэрнат на 30 месцаў. Сярод педагагічнага складу былі выпускнікі ўніверсітэтаў у Рызе, Вільні і Празе. Першапачаткова на пасадзе кіраўніка гімназіі некаторыя дзеячы БНК бачылі праф. Баляслава Брэжго. Гэтая кандыдатура, аднак, была адкінутая. Магчыма адной з прычын было тое, што кандыдат кепска размаўляў пабеларуску, што выклікала заклапочанасць К. Езавітава. Апошні ў лісце да А. Махноўскага (11 лістапада 1941 г.) падкрэсліваў, што асабіста не мае нічога супраць Брэжго, але раіў, каб ён усё ж такі "*загаварыў па-беларуску*", бо інакш "*будзе польская гімназія*". Больш за тое, старшыня БНК асцерагаўся, каб Брэжго не аказаўся "*траянскім канём*", на плячах якога ў гімназію можа "*ўлезці польскасць*"[48]. У рэшце рэшт першым дырэктарам стаў С. Сахараў, якога на гэтай пасадзе ў кастрычніку 1942 г. замяніў Аляксандр Радзько. Улетку 1943 г. кіраўніцтва Беларускага аб'яднання прапанавала пасаду дырэктара гімназіі ў Індры Міхасю Забэйдзе-Суміцкаму, які ў той час па запрашэнні мясцовага беларускага актыву гастраляваў у Латвіі[49]. Аднак невядома, як на гэта адрэагаваў спявак.

Да канца нямецкай акупацыі ў індраўскай гімназіі працавалі чатыры класы. Дадзеная табліца ўтрымлівае звесткі адносна колькасці вучняў і настаўнікаў.

| Навучальны год | Колькасць настаўнікаў | Колькасць вучняў |
|---|---|---|
| 1941/1942 | 9 | 128 |
| 1942/1943 | 6 | 103 |
| 1943/1944 | 8 | 92 |

47 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 35, л. 40.

48 LVVA, P-712 f., 1 apr., 6 lieta, 5 lp. З іншага боку К. Езавітаў у лісце да А. Якубецкага ў сакавіку 1942 г. выказваў задавальненне тым, што праф. Б. Брэжго разам з жонкай "*рашуча стаў на беларускі грунт*" і прапаноўваў падтрымліваць у іх адпаведны настрой, бо Брэжго мог дапамагчы пацягнуць за сабой "*многіх, што яшчэ хістаюцца*". LVVA, P-712 f., 1 apr., 5 lieta, 9 lp.

49 LVVA, P-712 f., 1 apr., 4 lieta, 37 lp.

Індраўская гімназія не была ў стане задаволіць усіх патрэбаў беларускай вучнёўскай моладзі, паколькі ў ёй навучаліся выпускнікі народных школ на Дзвіншчыне. Тым часам існавала патрэба адкрыцця гімназіі на Люцыншчыне. Таму 23 верасня 1942 г. старшыня Дзвінскага аддзела Беларускага аб'яднання А. Якубецкі звярнуўся да мясцовага гебітскамісара з просьбай стварыць беларускую гімназію ў Люцынскім павеце. У лісце адзначалася, што гімназія будзе існаваць дзеля выхаванцаў беларускіх пачатковых школ на Люцыншчыне. У адваротным выпадку яны мусяць ісці ў латышскую і рускую гімназіі. У верасні 1942 г. беларуская дэлегацыя ў складзе К. Езавітава, П. Мірановіча, А. Махноўскага, Я. Кастылюка і К. Мяжэцкага наведала рэферэнта Ф. Адольфі і генеральнага дырэктара М. Прыманіса. Падчас сустрэчы беларусы прадставілі сваё жаданне адносна адкрыцця другой беларускай гімназіі ў Розенаве. Дэлегаты ўручылі школьным чыноўнікам спіс 102 вучняў, якія запісаліся ў першыя два класы[50]. Захады беларускага боку прынеслі жаданы вынік, і ў 1942/43 навучальным годзе беларуская гімназія ў Розенаве распачала працу. Дырэктарам розенаўскай гімназіі быў прызначаны С. Сахараў. У віншаваліным лісце да новапрызначанага дырэктара К. Езавітаў пісаў: "*...па зачыненні ў Люцыне Люцынскае Беларускае гімназіі, стварэнне якой было праведзена нашымі з Вамі супольнымі высілкамі, калі прыходзілася змагацца не толькі з расейцамі, палякамі ды латышскімі шавіністамі, але і з некаторымі эгоістычнага складу беларускімі прадстаўнікамі, Люцыншчына амаль на 16 год была духова страчаная для Беларускага Адраджэнчага Руху і тутака зноў запанавалі розныя асімілятары. Зара зноў запальваецца вогнішча беларускае культуры*"[51]. Кіраўнік БНК лічыў, што з часам гімназію змогуць наведваць беларусы з Себежчыны, паколькі яна знаходзілася на беларуска-расійскім памежжы[52].

Па прычыне кароткага часу існавання ў абедзвюх беларускіх гімназіях не адбылося ніводнага выпуску матурыстаў. У індраўскай гімназіі выпускны клас распачаў працу ў 1943/1944 навучальным годзе, які аказаўся апошнім годам існавання ўстановы. У гімназіі ў Розенаве выпускны клас меў быць адчынены толькі ў 1944/1945 навучальным годзе, чаго не адбылося[53].

---

50 *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 18 кастрычніка, с. 3.

51 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 17, л. 23.

52 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 23, л. 21.

53 *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1943, 21 лютага, с. 3.

Вось якім чынам выглядала статыстыка гімназіі ў Розенаве.

| Навучальны год | Колькасць настаўнікаў | Колькасць вучняў |
|---|---|---|
| 1942/1943 | 7 | 55 |
| 1943/1944 | 6 | 70 |

Беларускі актыў рабіў спробы стварыць яшчэ дзве гімназіі: у Дзвінску і Пасіене. Упершыню пытанне адкрыцця дзвінскай гімназіі было пастаўлена перад нямецкімі ўладамі кіраўніцтвам БНК яшчэ восенню 1941 г.[54] 26 красавіка 1942 г. А. Махноўскі пісаў К. Езавітаву, што неабходна выслаць на вёскі людзей з мэтай агітацыі ў гімназію, бо ў Дзвінску кандыдатаў вельмі мала[55]. Увесну 1942 г. у беларускай прэсе з'явілася інфармацыя аб тым, што, дзякуючы захадам БНК, дзвінскі гебітскамісар даў дазвол на адраджэнне ў Дзвінску беларускай гімназіі і што распачата рэгістрацыя навучэнцаў, якую вядзе інспектар А. Махноўскі[56]. Патэнцыйнымі навучэнцамі гімназіі былі выпускнікі дзвінскай беларускай народнай школы, а таксама вучні з навакольных вёсак і Ілукшчыны. У 1943/1944 навучальным годзе ў выпускных класах у сямі навакольных беларускіх народных школах навучаліся 240 вучняў, частка з якіх мела намер працягваць адукацыю[57]. Больш за тое, у гэтым жа годзе беларускую народную школу ў Дзвінску скончылі 25 чал[58]. 20 студзеня 1943 г. старшыня Дзвінскага аддзела Беларускага аб'яднання А. Якубецкі і інспектар беларускіх школ А. Махноўскі звярнуліся да мясцовага гебітскамісара з просьбай адкрыць беларускую гімназію ў Дзвінску. Сваю просьбу беларускія дзеячы матывавалі існаваннем у горадзе беларускай гімназіі ў міжваенны час, а таксама тым, што беларускія гімназіі ў Розенаве і Індры не могуць пакрыць запатрабаванасць сярэдняй адукацыі ў асяроддзі беларусаў, бо першая знаходзіцца вельмі далёка ад Дзвінска, а другая — перапоўненая вучнямі. Аўтары ліста сцвярджалі, што праз адсутнасць у горадзе беларускай сярэдняй школы ў 1942/43 навучальным годзе шматлікія беларускія вучні былі вымушаныя запісацца ў латышскія і рускія гімназіі. Дзвінскі аддзел Беларускага аб'яднання атрымаў 46 заяў ад бацькоў з жаданнем

[54] LVVA, P-712 f., 1 apr., 4 lieta, 39 lp.

[55] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 33, л. 1 зв.

[56] *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 29 сакавіка — 5 красавіка, с. 5.

[57] *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1943, 21 лютага, с. 3; К. Езавітаў, *Патрэбны настаўнікі для беларускіх школаў у Лацьвіі,* "Раніца" 1943, 27 чэрвеня, с. 3.

[58] LVVA, P-712 f., 1 apr., 4 lieta, 25 lp.

адкрыцця ў горадзе беларускай гімназіі[59]. На пасаду дырэктара дзвінскай гімназіі кіраўнік аддзела Беларускага аб'яднання ў Дзвінску прапаноўваў кандыдатуру К. Езавітава[60]. Праўда, апошні катэгарычна адмовіўся ад пасады з-за занятасці на грамадскай і выдавецкай працы[61].

Нягледзячы на тое, што дзвінскі гебітскамісар станоўча паставіўся да жаданняў беларусаў, справа рухалася павольна. 15 траўня і 7 ліпеня 1943 г. рэферэнт П. Міраповіч інфармаваў кіраўніка Беларускага аб'яднання ў Дзвінску А. Якубецкага аб тым, што адкрыццё трэцяй беларускай гімназіі з'яўляецца немагчымым і што ёсць прынцыповая згода генеральнага дырэктара толькі на стварэнне паралельнага гімназічнага класа ў беларускай асноўнай школе ў Дзвінску. Рэферэнт прасіў даслаць звесткі наконт магчымага педагагічнага складу класа[62]. 18 кастрычніка 1943 г. кіраўніцтва Дзвінскага аддзела Беларускага аб'яднання зноў звярнулася з просьбай адкрыць беларускую гімназію ў Дзвінску. Гэтым разам адрасатам быў генеральны дырэктар асветы ў Дзвінску. Утрыманне гімназіі брала на сябе Беларускае аб'яднанне, якое таксама абавязвалася сфармаваць педагагічны калектыў. На пасаду дырэктара прапаноўваўся Б. Брэжго[63].

Аднак дадзеная прапанова была адхілена ўладамі ў Рызе. Замест гэтага было вырашана стварыць у Дзвінску паралельны першы клас пры адной з гарадскіх гімназій у якасці філіі беларускай гімназіі ў Індры. 25 кастрычніка 1943 г. рэферэнт П. Міраповіч прапанаваў, каб клас быў размешчаны ў адным з памяшканняў беларускай школы ў Дзвінску. Заняткі павінны былі адбывацца ў другую змену. Ініцыятыва не знайшла разумення з боку генеральнага дырэктара асветы генеральнай дырэкцыі, які бачыў у гэтым кроку *"фаварызацыю"* беларускага насельніцтва. Гэтая пазіцыя яскрава прасочваецца ў лісце генеральнага дырэктара асветы М. Прыманіса і кіраўніка школьнага дэпартамента самакіравання П. Купцса да рэферэнта Ф. Адольфі ад 3 лістапада 1943 г. Аўтары выказвалі сумнеў адносна таго, што знойдзецца дастатковая колькасць кандыдатаў у паралельны клас. У якасці доказу падкрэслівалася, што ў 1943/44 навучальным годзе ў першыя класы беларускіх гімназій у Розенаве і Індры было набрана адпаведна 20 і 34 вучні, да таго ж 1/3 з іх не адпавядала вучнёўскаму ўзросту. У гэтым лісце чытаем: "*Кожнаму будзе зразумела, што ў выпадку адкрыцця 1-га класу гімназіі пры беларускай народнай школе ў Дзвінску, дырэктар беларускай гімназіі*

[59] BA, R92/102, s. 247.
[60] LVVA, P-712 f., 1 apr., 4 lieta, 39 lp.
[61] LVVA, P-712 f., 1 apr., 5 lieta, 30 lp.
[62] LVVA, P-712 f., 1 apr., 3 lieta, 4 lp.
[63] BA, R92/102, s. 254.

*ў Індры па прычыне вялікай адлегласці і вышэйзгаданага чыгуначнага руху не будзе ў стане кантраляваць працы ў гэтым класе. Паколькі ў гэтым самым класе будуць навучаць пераважна настаўнікі беларускай народнай школы ў Дзвінску, сапраўднае педагагічнае кіраванне класам будзе належыць кіраўніку мясцовай народнай школы. Апрача таго, цяжка ўявіць, што настаўнікі, якія працуюць у народнай школе на поўную стаўку і не маюць ніякага досведу, змогуць паспяхова выкладаць у гімназіяльным класе. У сувязі з гэтым дэпартамент школьніцтва не можа лічыць прапанову мэтазгоднай і лічыць, што нешматлікія выпускнікі беларускіх народных школ у Дзвінску і Ілукшчынскай акрузе, якія выказалі жаданне працягваць сваё навучанне ў якой-небудзь гімназіі, маглі б быць прынятыя ў 1-шы клас дзяржаўнай беларускай гімназіі ў Індры*"[64]. Тым часам рэферэнт асветы Генеральнай акругі Латвія станоўча паставіўся да пастулатаў беларускіх дзеячаў і не згаджаўся з засцярогамі лашыскага школьнага кіраўніцтва. У лісце да генеральнага дырэктара асветы ад 9 лістапада 1943 г. ён пісаў: "*…для мяне незразумела, якім чынам у дазволе* (на адкрыццё класа — Ю. Г.) *можна бачыць фаварызацыю беларускага насельніцтва ў Генеральнай акрузе, […] заняткі ў многіх школах генеральнай акругі па прычыне адсутнасці памяшканняў адбываюцца ў розных месцах, якія часта знаходзяцца далёка адно ад другога. […] Мясцовасць Індра знаходзіцца на абшары, апанаваным бандамі. Шутцманшафт і Вермахт мусілі заадаптаваць там многія будынкі на свае патрэбы і таму зразумела, што закватараванне немясцовых дзяцей сустракаецца з цяжкасцямі. Гэта непакоіць бацькоў, якія жывуць па-за небяспечнай зонай. Другая беларуская гімназія ў Розенаве таксама знаходзіцца ў небяспечнай зоне, і перанясенне адной з гэтых двух школаў у адно месца з'яўляецца немагчымым, таму цалкам зразумела, што беларускае насельніцтва шукае выйсця і просіць адчыніць паралельны клас у Дзвінску, што ніякім чынам не пазбаўлена сэнсу*"[65].

У лістападзе 1943 г. рэферэнт беларускага школьніцтва П. Мірановіч даслаў у генеральную дырэкцыю асветы спіс вучняў (31 чалавек) — выпускнікоў беларускіх народных школ у Рызе, Дзвінску і на Ілукшчыне, якія жадалі навучацца ў паралельным класе. Тым не менш школьная дырэкцыя палічыла гэтыя аргументы непераканаўчымі. З ліста кіраўніка школьнага дыпартамента П. Купцса і кіраўніка дэпартамента сярэдніх школ Р. Мікелонса да П. Мірановіча ад 2 снежня 1943 г. вынікала, што іх пазіцыя па дадзеным пытанні заставалася нязменнай. Аўтараў непакоіў недахоп сярод беларускіх настаўнікаў асоб з вышэйшай і спецыяльнай

64 BA, R92/102, s. 259.
65 BA, R92/102, s. 256.

адукацыяй, якія маглі б выкладаць у гімназічным класе. Выказваўся таксама скептыцызм адносна таго, што знойдзецца адпаведная колькасць жадаючых вучыцца ў паралельным класе: 9 з 31 кандыдата не адпавядалі гімназічнаму ўзросту (былі старэйшымі)[66]. У рэшце рэшт паралельны клас не быў створаны.

Не зважаючы на вышэйзгаданую паразу з адкрыццём трэцяй гімназіі, беларусы здолелі адкрыць адну сельскагаспадарчую школу. У чэрвені 1942 г. нямецкія ўлады дазволілі выпускнікам беларускіх школ паступаць без іспытаў у 2-гадовую прафесійную школу[67]. У жніўні 1942 г. К. Езавітаў накіраваў ліст настаўніку Мячаславу Мяжэцкаму, у якім раіў браць ад вучняў і іх бацькоў дэкларацыі аб тым, што яны жадаюць навучацца ў беларускай сельскагаспадарчай школе[68]. Да 15 верасня 1942 г. было прынята 102 заявы ад кандыдатаў, з якіх 72 былі прынятыя ў першы клас і 30 — у другі. У хуткім часе з'явілася яшчэ каля 50 кандыдатаў[69]. Пытанне адносна патрэбы адкрыцця сельскагаспадарчай сярэдняй школы было разгледжана на пасяджэнні кіраўнікоў Беларускага аб'яднання 20 верасня 1942 г. у Рызе, падчас якога было вырашана звярнуцца да акупацыйных улад з адпаведным мемарандумам[70]. У лісце Цэнтральнай управы Беларускага аб'яднання да Ф. Адольфі ад 23 верасня 1942 г. звярталася ўвага на тое, што большасць кандыдатаў у школу паходзіць са шматдзетных незаможных сялянскіх сем'яў, якія мараць пра кар'еру ў вясковай адміністрацыі. Сярэдняя школа давала б ім такую магчымасць. Падкрэслівалася, што латышы і рускія ўжо маюць такія ўстановы[71]. У выніку восенню 1942 г. у Пасіене распачала працу двухгадовая беларуская сельскагаспадарчая сярэдняя школа (дырэктар — аграном Казімір Мяжэцкі), у якой навучалася каля 70 чал[72]. У школу прымалася моладзь, якая скончыла поўны курс сямігодкі. Першы і апошні выпуск навучэнцаў школы адбыўся 6 красавіка 1944 г.[73] У беларускай прэсе з'явілася згадка пра тое, што мясцовае насельніцтва з энтузіязмам вітала адкрыццё сельскагаспадарчай школы. Нейкі Аўсей з Солажаў выказаў нават жаданне перадаць на патрэбы школы 10 гектараў зямлі і частку сваіх будынкаў[74].

---

66 BA, R92/102, s. 262.
67 BA, R92/102, s. 36.
68 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 16, л. 14.
69 BA, R92/102, s. 175.
70 *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 18 кастрычніка, с. 3.
71 BA, R92/102, s. 166.
72 Э. Екабсонс, *Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай…*, с. 213.
73 *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1944, 21 траўня, с. 3.
74 *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 26 ліпеня, с. 3.

Нягледзячы на спрыяльную палітычную кан'юнктуру, арганізацыя беларускага школьніцтва сустракала пэўныя перашкоды. Дзеянні беларусаў у школьнай галіне выклікалі непакой многіх латышоў. З самага пачатку стварэння беларускага школьніцтва стаўленне латышскага боку да гэтай справы было адмоўным. Яскрава сведчыць пра гэта факт, што 8 кастрычніка 1941 г. беларуская дэлегацыя ў складзе П. Міcontainerановіча і Я. Кастылюка склала скаргу на імя Ф. Адольфі, што ў Дзвінскай, Прыдруйскай і Пустынскай акругах мясцовы школьны інспектар адмовіўся ствараць беларускія школы, а замест іх меў намер адкрыць латышскія. Беларусы сцвярджалі, што акруговая адміністрацыя і школьны інспектар абгрунтавалі свае дзеянні тым, што не атрымалі ад нямецкай улады ніякіх распараджэнняў наконт стварэння беларускага школьніцтва. У сувязі з гэтым беларускі бок прасіў зрабіць захады, каб былыя савецкія рускамоўныя школы ў "беларускіх" валасцях былі ператвораныя ў беларускія, а не латышскія. Апрача таго, беларусы прасілі прымусіць мясцовую адміністрацыю, каб яна не звальняла з гэтых школ настаўнікаў-беларусаў[75]. Існавалі кардынальныя разыходжанні паміж беларусамі і латышамі ў бачанні нацыянальнай прыналежнасці тэрыторый, на якіх адбывалася стварэнне беларускага школьніцтва. Беларускія дзеячы лічылі значную тэрыторыю Дзвіншчыны і Люцыншчыны часткай беларускага этнаграфічнага абшару, на якім 90 % насельніцтва складаюць беларусы. Сваю працу па разгортванні беларускага школьніцтва на гэтых землях яны разглядалі як працэс адраджэння, паколькі яно тут ужо існавала ў 1922–1934 гг. З гэтым карэнным чынам не згаджаліся латышскія школьныя дзеячы. Кіраўнік школьніцтва генеральнай дырэкцыі ў лісце да нямецкага рэферэнта асветы Генеральнай акругі Латвія не шкадаваў крытыкі ў бок беларускай школьнай справы. Беларускі актыў абвінавачваўся ў шматлікіх злоўжываннях і неаб'ектыўнасці, мэтай якіх было зацягванне дзяцей латышоў у беларускія школы. У асаблівую няласку ў латышскага школьнага кіраўніцтва трапіў М. Дзямідаў. Розгалас атрымалі падзеі ў Індры, дзе раней існавала латышская школа, але ў выніку дзеянняў М. Дзямідава была створаная таксама беларуская. Беларускага дзеяча абвінавачвалі ў запалохванні бацькоў з мэтай прымусіць іх аддаваць сваіх дзетак менавіта ў беларускую школу. Адзначалася, што 3 лістапада 1941 г. Дзямідаў з'явіўся ў пачатковай школе ў Індры і патлумачыў, што гэта школа будзе беларускай. Паводле латышскага боку, такая заява выклікала незадаволенасць і абурэнне як вучняў, так і іх бацькоў. У дакуменце адзначалася, што Дзямідаў пагражаў пакараннем бацькам, якія не вышлюць сваіх дзяцей у беларускую школу. Паводле слоў латышскага інспектара, Дзямідаў патлумачыў бацькам,

75 BA, R92/102, s. 69.

што ў лытышскай школе могуць вучыцца толькі дзеці, якія "*паходзяць з Курляндыі і Ліфляндыі*", а мясцовыя мусяць хадзіць у беларускую[76].

Абвінавачванні ў адрас Дзямідава працягваліся і пазней. У студзені 1942 г. латышскі дырэктар асветы генеральнай дырэкцыі неаднаразова скардзіўся гебітскамісару ў Дзвінску на паводзіны Дзямідава падчас арганізацыі школы ў Індры, выстаўляючы сур'ёзныя закіды адносна злоўжывання ім службовымі паўнамоцтвамі і дзейнасці, якая супярэчыла інструкцыям і загадам нямецкага кіраўніцтва. Аўтар вінаваціў Дзямідава ў неталерантнасці, даводзячы, што 22 снежня 1941 г. ён праігнараваў прысутнасць у школе значнай колькасці вучняў-латышоў і выдаліў з класа пяць вучняў, якія заявілі, што яны не разумеюць беларускай мовы. Варта працытаваць урывак аднаго з лістоў латышскага інспектара: "*Паводзіны Дзямідава і іншых арганізатараў беларускіх школ у адносінах да простага насельніцтва выходзяць па-за ўсялякія межы, прычым яны таксама падрываюць рэпутацыю нямецкай улады, з дапамогай якой яны збудавалі свой аўтарытэт. Наступныя факты пацвярджаюць сказанае вышэй. А) Настаўніцы С. Лепіна Дзямідаў сказаў, што ён быў у Берліне, дзе яму было прапанавана далучыць Латгалію да Мінска, ён аднак адмовіўся, бо мае латвійскі пашпарт і хацеў, каб латвійская тэрыторыя засталася некранутай. Б) Жыхарка Індры Юлія Гіліс у пратаколе падала і засведчыла, што Дзямідаў 3 лістапада 41 г. сказаў бацькам дзяцей школы ў Індры: "Латышы мусяць усе выехаць у Курляндыю, каб там жыць, бо тут, г. зн. у Індры, будзе Беларусь". Бацькі выказаліся супраць беларускай школы і лічылі, што было б лепш, каб арганізаваць нямецкую школу. Дзямідаў тады адказаў: "ці нямецкая мова яшчэ будзе патрэбная, невядома. Ужо аднойчы падчас вайны мы бачылі, што немцы здабылі вялікія абшары, але пазней мусілі вярнуцца на сваю радзіму. На працягу 20 гадоў нямецкая мова была непатрэбна, але беларуская мова як родная заўсёды будзе патрэбна". В) 6 лістапада 1941 г. Дзямідаў у школе ў Эзерніекі патлумачыў кіраўніку школы, што "немцы яму падпарадкоўваюцца, а не ён немцам, і яны павінны быць яму паслухмяныя". Бацькам дзяцей гэтай жа школы Дзямідаў сказаў: "Беларусь будзе ад Дынабурга да Полацка і там будуць беларускія школы". Тое самае выказванне чула настаўніца Горта Кіпа ў пачатковай школе ў Даўгавіешы 16 лістапада 1941 г., калі ён прамаўляў да бацькоў дзяцей*"[77]. Акрамя таго, Дзямідава папракалі, што ён выбраў сабе памочнікаў, якія ў мінулым скампраментаваныя супрацоўніцтвам з савецкай уладай. Беларускі дзеяч абвінавачваўся таксама ў безгаспадарчасці і няўдалым кіраванні

[76] BA, R92/102, s. 77.
[77] BA, R92/102, s. 101–102.

школай у Індры, што нібыта было прычынай заняпаду яе маёмаснага стану і пагаршэння якасці навучальнага працэсу. Паводле звестак школьнага дырэктара, 7 лістапада 1941 г. Дзямідаў *"захапіў"* увесь інвентар і грошы, якія былі ўласнасцю латышскай школы, а таксама самавольна перапыняў заняткі ў латышскай школе. Дзямідаў абвінавачваўся ў дзеяннях, вынікам якіх было спыненне навучальнага працэсу ў латвійскай школе. Адначасова беларус трапіў у канфлікт з дырэктарам латвійскай школы Альфрэдсам Магонсам. Апошні вінаваціў беларуса ў тым, што ён праявіў няздольнасць адрамантаваць школьнае цэнтральнае ацяпленне і прадухіліць неадпаведнае выкарыстанне запасаў дроваў, якімі апальваліся школьныя будынкі. У сувязі з гэтым аўтар скаргі дамагаўся разгляду справы і вяртання школы разам з маёмасцю латышскаму дырэктару. На яго думку, высвятленне нацыянальнай прыналежнасці вучняў павінна адбывацца не на падставе агітацыі і прымусу, а праз пісьмовую дэкларацыю бацькоў у органах мясцовага самакіравання. Латышскі дырэктар патрабаваў таксама спынення распаўсюджвання чутак пра імавернае далучэнне Латгаліі да Беларусі, паколькі гэтая справа была актуальнай у перыяд існавання Савецкай Латвіі[78].

Дырэктар генеральнай дырэкцыі лічыў, што свавольства беларусаў падарве давер латышоў да нямецкіх улад, і сцвярджаў, што латышы маюць маральнае права патрабаваць, каб у школах іншых нацыянальнасцей не працавалі колішнія актыўныя супрацоўнікі савецкай улады. На яго думку, беларусы не прытрымліваліся гэтага прынцыпу. Больш за тое, аўтар абвінавачваў Дзямідава ў скліканні 4 лістапада 1941 г. у Індры педагагічнага сходу, на які не былі запрошаныя латышскія настаўнікі, а замест іх удзельнічалі некаторыя беларускія настаўнікі, якія раней былі звольненыя з працы ў сувязі з камуністычнай дзейнасцю. Дырэктар падкрэсліваў, што латышы не маюць нічога супольнага з камуністамі і не павінны з імі мець стасункаў, як і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей. У сувязі з гэтым дырэктар прапаноўваў наступнае:

У воласці, дзе беларусы хочуць адкрыць свае школы, скіраваць змяшаную латышска-беларуска-нямецкую (па два прадстаўнікі ад кожнай нацыянальнасці) камісію з мэтай высвятлення нацыянальнага пытання. У прысутнасці камісіі бацькі мусяць пісьмова задэклараваць нацыянальнасць сваіх дзяцей і вырашыць, у якую школу іх адправіць.

Каб справа веравызнання і іншыя акалічнасці не ўплывалі на рашэнне адносна нацыянальнасці, камісія павінна азнаёміць бацькоў з загадамі школьнага рэферэнта Генеральнай акругі Латвія.

78 BA, R92/102, s. 100–102.

У беларускіх школах павінны працаваць толькі настаўнікі-беларусы, а ў латышскіх — толькі латышы[79].

Латышскае школьнае кіраўніцтва прадстаўляла выпадак Дзямідава як прыклад суб’ектыўных паводзінаў беларускага актыву падчас арганізацыі школьніцтва ў нацыянальна змяшаных валасцях Латгаліі. Скаргі латышскага боку прымусілі нямецкіх школьных чыноўнікаў звярнуць пільную ўвагу на справу адкрыцця беларускіх школ. У лісце да гебітскамісара ў Дзвінску ад 17 лістапада 1941 г. рэферэнт асветы Генеральнай акругі Латвія прасіў заняцца справай вызначэння нацыянальнага складу дзяцей, якія пражываюць на тэрыторыі, ахопленай беларускай школьнай акцыяй. Нагадвалася, што за беларусаў належыць лічыць толькі тых дзяцей, бацькі якіх у пісьмовай форме засведчылі, што іх роднай мовай з’яўляецца беларуская і яны належаць да беларускай нацыянальнасці. Рэкамендавалася таксама пазбягаць канфліктаў з кіраўнікамі латышскага школьніцтва, а ў выпадках, калі яны ўжо адбыліся, дакладна вывучыць справу[80]. У сувязі з гэтым 21–22 студзеня 1942 г. Індру наведаў рэферэнт Р. Вінберг, які сустрэўся з кіраўнікамі беларускай і латышскай школ. Нямецкі чыноўнік высветліў, што абвінавачванні супраць Дзямідава часткова грунтаваліся на непаразуменнях, а часткова былі вынікам пэўных нацыянальных тэндэнцый, і пры наяўнасці добрай волі канфлікт можа быць залагоджаны[81]. Каб канчаткова вычарпаць інцыдэнт, ён загадаў правесці новую і аб’ектыўную нацыянальную рэгістрацыю вучняў, паколькі папярэдняя была праведзена без удзелу беларускіх прадстаўнікоў. Чыноўнік таксама падкрэсліў, што з боку латышоў назіраецца выразнае жаданне любым коштам паўстрымаць працэс адкрыцця беларускіх школ. Немец інфармаваў, што ў Індры латышская паліцыя затрымала некалькіх беларускіх настаўнікаў, 4 з якіх былі арыштаваныя. У дачыненні да іх з боку ўлады не было ніякіх заўваг да моманту, пакуль гэтыя людзі не заангажаваліся ў працу на карысць беларускага школьніцтва[82].

22 студзеня ў Індры пад кіраўніцтвам Р. Вінберга адбылася супольная канферэнцыя з удзелам беларускага і латышскага настаўніцтва, прадстаўнікоў паліцыі і мясцовага самакіравання. Беларусаў прадстаўлялі М. Дзямідаў, С. Сахараў і К. Казак-Казакевіч. Удзельнікі павінныя былі вырашыць спрэчныя моманты і выпрацаваць агульныя прынцыпы суіснавання латышскай і беларускай школ такім чынам, каб у будучыні

79 BA, R92/102, s. 79.
80 BA, R92/102, s. 82.
81 BA, R92/102, s. 106.
82 BA, R92/102, s. 108.

больш не ўзнікала канфліктных сітуацый. Падчас гэтай канферэнцыі прадстаўнік самакіравання засведчыў, што, ствараючы свае школы, беларусы дзейнічалі ў вельмі хуткім тэмпе, не ўзгадняючы крокаў з мясцовымі ўладамі. Дзямідаў катэгарычна сцвярджаў, што ён не парушыў нямецкага распараджэння, у адпаведнасці з якім толькі дзеці беларусаў маглі вучыцца ў беларускіх школах. Больш за тое, азнаёміўшыся з аргументамі абодвух бакоў, інспектар Р. Вінберг зрабіў выснову, што падчас рэгістрацыі вучняў з боку латышоў былі злоўжыванні[83]. Нямецкі чыноўнік заклікаў бакі да ўзаемапаразумення і павагі. Ён выказаў меркаванне, што латышы павінны намагацца зразумець патрэбы беларусаў. Падчас канферэнцыі высветлілася, што Дзямідаў не дапусціў свавольства падчас прыняцця школы ад латвійскага кіраўніка. Не адпавядалі праўдзе таксама абвінавачванні яго ў безгаспадарчасці і адказнасці за дрэнны матэрыяльны стан школы. Было вырашана падзяліць інвентар паміж беларускай і латвійскай школамі. Удзельнікі канферэнцыі зрабілі выснову, што адносіны паміж беларусамі і латышамі лепшыя, чым былі ў пачатку стварэння беларускіх школ, і што ў будучыні ўсе спрэчныя справы належыць вырашаць у духу сяброўства[84].

Каб пераадолець напружанасць паміж бакамі, рабіліся спробы арганізацыі супольных культурных мерапрыемстваў. 28 чэрвеня 1942 г. у Розенаве адбылася школьная вечарына, на якой прысутнічалі настаўнікі мясцовых беларускай і латышскай школ, а таксама нямецкі інспектар Р. Вінберг і намеснік дзвінскага гебітскамісара Мадрэ. Сродкі, атрыманыя ад продажу квіткоў на вечарыну, былі прызначаныя на патрэбы абедвюх школ. Удзел у імпрэзе нямецкіх прадстаўнікоў можа сведчыць пра тое, што ініцыятыва яе арганізацыі зыходзіла ад акупацыйных улад, якія жадалі зняць напружанасць у латышска-беларускіх адносінах. Дырэктары латыш Лейньш і беларус М. Дзямідаў канстатавалі, што абодва народы мусяць знайсці новыя формы ўзаемнага супрацоўніцтва дзеля супольнай перамогі над бальшавізмам, а ўсялякія сваркі паміж імі непажаданыя[85].

83 Дзямідаў засведчыў, што ў момант, калі ён прыбыў у Індру, у школе было зарэгістравана 70 вучняў латышоў і каля 200 беларусаў, але з пачаткам навучальнага года аказалася, што латышоў было ўжо 170. З’яўленне “латышоў” ён лічыў вынікам агітацыі латвійскага настаўніцтва і адміністрацыі. Беларускі дзеяч выказаў шкадаванне, што некаторыя вучні адмовіліся ад сваёй беларускасці, у той час як іх бацькі ведаюць, што яны беларусы. Словы беларускага дзеяча пацвердзілі асабістыя назіранні рэферэнта Р. Вінберга, які дадаў, што падчас інспекцыі ў Індры 3 лістапада 1941 г. ён наведаў адзін з класаў і вызначыў, што ў ім было каля 30 беларусаў, 4 латышы і 1 паляк. Такі стан пярэчыў сцвярджэнням латышскага боку. Тым часам настаўнік Казакевіч сцвярджаў, што ён асабіста чуў, як латышскі настаўнік Скутан намаўляў вучняў, каб яны падчас рэгістрацыі запісаліся латышамі, пасля чаго некаторыя вучні, якія раней падалі беларускую нацыянальнасць, пажадалі змяніць яе на латышскую. Латышскі бок абараняўся, сцвярджаючы, што агітацыя з боку латышоў не праводзілася. Настаўнік Магоніс выказаў думку, што многія вучні-беларусы часта размаўляюць па-латышску, таму ў практыцы вельмі складана адназначна акрэсліць сапраўдную нацыянальнасць. BA, R92/102, s. 113–119.

84 BA, R92/102, s. 113–119.

85 *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* “Раніца” 1942, 26 ліпеня, с. 3.

Вышэйзгаданы інцыдэнт у школе ў Індры быў невыпадковы і неадзінкавы. У далейшым здараліся падобныя выпадкі ў іншых мясцовасцях, дзе існавалі латышская і беларуская школы. Атмасферу нездаровага спаборніцтва перадае настаўніцкая карэспандэнцыя. Бачна гэта на прыкладзе ліста аднаго з кіраўнікоў беларускай школы на Люцыншчыне, які ў чэрвені 1942 г. пісаў: "*Вёў барацьбу з латышамі, якія хацелі прыкласць усе сілы, каб зачыніць маю школу, але з гэтага нічога не выйшла. З гэтай барацьбы я выйшаў з перамогай. Зараз я чакаю, што латышская школа загнецца. […] Рэгістрацыю правёў добра — зарэгістраваў 94 вучня, у мінулым годзе было толькі 58. Зараз працую з першагоднікамі, якіх у школе 31. Productionўвішча латышскае школы такое: першагоднікаў 4, а ўсяго вучняў у школе 21, з якіх 18 расейцаў, а астатнія латышы. […] Дрэнная справа ў мяне з памешканнем, маю толькі две невялікія класы, у якіх магу змясціць толькі 48 вучняў, да і то з нацяжкаю, не маю ніякага інвентара. Латышская ж школа не жадае даць частку свайго*"[86].

23 кастрычніка 1942 г. рэферэнт па справах беларускага школьніцтва П. Мірановіч на падставе справаздачы інспектара беларускіх школ А. Махноўскага склаў скаргу на загадчыка латышскай народнай школы ў Грыве. Падставай да скаргі была інфармацыя аб тым, што латышскі загадчык не жадаў аддаць у распараджэнне мясцовай беларускай школы памяшканне, а таксама 13 кастрычніка 1942 г. па-хамску выгнаў беларускіх настаўнікаў і вучняў з іх класа. У выніку была склікана следчая камісія, якая пасля вывучэння інцыдэнту зрабіла выснову, што загадчык латышскай школы аддаў у распараджэнне рускай і мясцовай беларускай школам два будынкі з адпаведным інвентаром у прадмесцях Грывы. Руская школа распачала працу, у той час як беларусы не задаволіліся ўмовамі ў атрыманым будынку. Кіраўніцтва беларускай школы патрабавала, каб загадчык латышскай школы аддаў на патрэбы беларусаў будынак у цэнтры вёскі, у якім знаходзілася латышская школа. Кіраўнік латышскай школы 12 кастрычніка 1942 г. патлумачыў інспектару беларускіх школ А. Махноўскаму, што яго школа мае толькі тры памяшканні, у якіх адбываюцца заняткі для 230 вучняў. У сувязі з гэтым прапанаваў беларусам карыстацца будынкам у другую змену. Аднак на наступны дзень беларуская настаўніца самавольна заняла адно з трох памяшканняў латышскай школы, чым пазбавіла два класы латышскай школы магчымасці правядзення заняткаў. Беларускі бок прапанаваў падзел аўдыторый паміж дзвюма школамі. У рэшце рэшт беларуская школа ў Грыве рашэннем інспектара А. Махноўскага была пераведзена ў Дзвінск. Латышская школьная

[86] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 33, л. 28.

генеральная дырэкцыя сцвярджала, што ў гэтай школе навучалася 40 вучняў, з якіх было 11 цыганоў, 29 латышоў і палякаў. У сувязі з гэтым генеральны інспектар лічыў, што замест гэтай школы належыць стварыць беларускі камплект у мясцовай рускай школе. 9 лістапада 1942 г. кіраўнік дырэкцыі народных школ па загадзе генеральнага дырэктара асветы запатрабаваў ад рэферэнта А. Махноўскага, каб ён прадставіў спіс вучняў беларускай школы, чаго апошні не зрабіў[87].

Латышская цывільная адміністрацыя неаднаразова намагалася прыпыніць дзейнасць некаторых беларускіх школ у Латгаліі. Летам 1942 г. беларусы здолелі абараніць існаванне школы ў Бяляеве (Пасіенская валасць). У кастрычніку 1942 г. управа Скайсцкай воласці дарэмна дамагалася ад школьнага інспектарата ў Дзвінску закрыцця беларускай школы ў Гаравой (Калніешы). На думку прадстаўнікоў латышскай цывільнай адміністрацыі, гэтая школа не павінна была дзейнічаць, паколькі беларускі актыў спачатку на падставе непраўдзівых статыстычных даных наконт колькасці вучняў-беларусаў атрымаў памяшканне і інвентар, а потым па хутарах праводзіў агітацыю сярод бацькоў, каб яны накіроўвалі сваіх дзетак у беларускую школу. Валасны старшыня Андрэй Люта даводзіў, што яшчэ ў канцы XIX ст. большасць мясцовых складалі латышы, якія "*часткова забыліся сваю родную мову, размаўляюць на розных дыялектарх рускай мовы і пад уплывам вядомай агітацыі выдаюць сябе за беларусаў*"[88]. У снежні 1942 г. генеральны дырэктар асветы генеральнай дырэкцыі дамагаўся замест сямігадовай беларускай школы ў Гаравой адкрыць беларускі камплект у мясцовай латышскай школе, абгрунтоўваючы гэта тым, што, паводле яго дадзеных, у школе ў 1942/43 навучальным годзе налічвалася толькі 19 вучняў. Генеральны дырэктар сцвярджаў, што кіраўніцтва школы ўвяло ўсіх у зман, сцвярджаючы, што ў школе налічваецца 51 вучань, а рэферэнт беларускіх школ завысіў гэтую лічбу да 86[89].

Вінаватым у непаразуменні генеральны дырэктар лічыў інспектара беларускіх школ А. Махноўскага. 12 снежня 1942 г. генеральны дырэктар асветы генеральнай дырэкцыі ў лісце да рэферэнта Ф. Адольфі выказаў пажаданне звальнення А. Махноўскага (з 1 студзеня 1943 г.) з займанай пасады, адрасуючы ў яго бок цяжкія абвінавачванні ў шкодніцкай дзейнасці і свядомым увядзенні ў зман органаў школьнага кантролю[90]. Паводле латышскага дырэктара, А. Махноўскі нават у пяць разоў завышаў

[87] BA, R92/102, s. 188–189.

[88] Цыт. за: Э. Екабсонс, *Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай…*, с. 219–220.

[89] BA, R92/102, s. 188–189; НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 33, л. 21–21 зв.

[90] BA, R92/102, s. 189.

колькасць вучняў у беларускіх школах, каб пазбегнуць іх закрыцця. У якасці прыкладу падавалася народная школа ў Граверы (Аўлейская воласць), якая дзейнічала, нягледзячы на тое, што ў ёй было толькі 13 вучняў (да сярэдзіны красавіка 1942 г. засталося толькі 6). Паводле закона яе належыла зачыніць, а вучняў перавесці ў суседнюю школу ў Дудзелях. Замест гэтага інспектар беларускіх школ замоўчваў інфармацыю наконт сапраўднага колькаснага складу школы, якая напярэдадні была перафармаваная з шасцігадовай у чатырохгадовую і працягвала працаваць у 1942/43 навучальным годзе. Генеральны дырэктар выдаў загад аб закрыцці гэтай школы, але інспектар А. Махноўскі яму не падпарадкаваўся. Латышскі генеральны дырэктар лічыў, што А. Махноўскі беспадстаўна дамагаўся адкрыцця новых беларускіх школ і дзіцячага садка ў Краславе, бо насамрэч там не было адпаведнай колькасці дзяцей-беларусаў. На думку генеральнага дырэктара асветы, дзеянні А. Махноўскага шкодзілі школьнай справе, паколькі праз захаванне нерэнтабельных школ і стварэнне новых у месцах, дзе не было ў іх патрэбы, адбывалася марнаванне значных грашовых сродкаў[91].

Аднак абвінавачванні латышскага генеральнага дырэктара асветы не пацвердзіліся. У выніку праведзенай 4 лютага 1943 г. інспекцыі дзвінскі акруговы школьны інспектар сцвердзіў, што ў вышэйзгаданую беларускую школу ў Гаравой запісаліся 163 чал. Праўда, фактычная колькасць вучняў, якія наведвалі школу, складала 93 чал., паколькі частка запісаных перайшла ў іншыя школы. У дзень правядзення інспекцыі ў школе на занятках знаходзілася 79 вучняў. Нерэгулярнае наведванне тлумачылася абыякавым стаўленнем да гэтай справы бацькоў. У выніку школьнае кіраўніцтва было вымушанае ўвесці грашовыя пакаранні для бацькоў, якія занядбоўвалі абавязак высылання сваіх дзетак у школу. У беларускай школе ў Гаравой працавалі 3 настаўнікі. Школьным правам у школах з такой колькасцю вучняў прадугледжваліся 4 працоўныя месцы. Такім чынам, закід генеральнага дырэктара наконт таго, што інспектар А. Махноўскі без патрэбы намагаўся стварыць дадатковае месца працы, быў прызнаны неабгрунтаваным. Падобныя вынікі прынесла інспекцыя і ў мясцовай латышскай школе, дзе працавала 6 настаўнікаў і было 120 вучняў. Працэнт вучняў, якія рэгулярна наведвалі заняткі, складаў 2/3 ад агульнай колькасці. Акрамя таго, было прызнана, што патрабаванне латышскага генеральнага дырэктара асветы закрыць старэйшыя класы пазбаўляла 6 вучняў магчымасці далейшага навучання, паколькі ў Гаравой знаходзілася адзіная беларуская школа ў Скайцкай воласці[92]. Увесну 1943 г. дырэктар М. Прыманіс

91 BA, R92/102, s. 188.

92 BA, R92/102, s. 241.

загадаў А. Махноўскаму скараціць колькасць педагагічнага складу школы ў Варнавічах (Аўсеклі) з чатырох да двух настаўнікаў. Інспектар беларускіх школ абскардзіў гэтае рашэнне ў лісце (2 красавіка 1943 г.) да рэферэнта П. Міpановіча. А. Махноўскі выказваў неразуменне таго, што перавод настаўнікаў меў адбыцца за месяц да канца навучальнага года, што было крокам неабдуманым і шкодным. Інспектар прасіў высвятлення справы і падкрэсліваў, што гэтае рашэнне яму "*не па душы*"[93].

Падобныя інцыдэнты паміж беларусамі і латышамі здараліся таксама на Ілукшчыне. 11 студзеня 1942 г. настаўнік У. Гусарэвіч пісаў кіраўніку Беларускага аб'яднання аб цяжкіх умовах працы ў Ілукшчынскім павеце. У прыватнасці, настаўнік наракаў на дзейнасць мясцовай латышскай адміністрацыі, якая, ігнаруючы нацыянальнасць вучняў, запісвала іх у латышскія школы, заваблiваючы туды магчымасцю атрымання бясплатнага месца ў інтэрнаце[94]. Варта працытаваць фрагмент іншага ліста гэтага ж настаўніка (ад 2 кастрычніка 1942 г.) да К. Езавітава: "…*латышы ўсялякімі сродкамі тармазяць справу адчынення нашых школ і, дзякуючы таму, што яны маюць у сваіх руках дзяржаўны апарат, гэта ім удаецца. Калі гэтак будзе ісці і надалей, дык справа адчынення нашых школ і наогул беларуская справа ў Ілукшчыне загіне, а гэта адаб'ецца на нашым прэстыжу наогул. Вучыцялі не атрымовываюць пенсіі па 3–5 месяцаў, бюджэты школ не зацверджаюцца, наогул розныя распараджэнні цэнтральных устаноў застаюцца на паперы. […] Калі генералдырэкцыя прасветы прысылае паперу аб адчыненні школ, дык гаворыцца, што няма паперы ад фінансавай генеральнай дырэкцыі і г.д. а сёнека я даведаўся лепшае — нават наогул не збіраецца прымаць нашы буджэты і павятовы старшыня, збіраецца внесці кудысь нам мемарандум аб тым, што ў Ілукштанскім павеце наогул непатрэбны ні беларускія, ні расійскія школы. […] Мне здаецца, што нашым установам цэнтралі аб'еднання і рэферэнту трэба пачаць контратаку і дзе трэба даказаць і пераканаць, што ў Ілукшчыне не патрэбны, прынамсі ў гэтых раёнах, дзе адчынены нашы школы, школы латышскія. Дзеці ў латышскія школы набраны рознымі фокусамі. Абяцаюць дастаць абутак (і магчыма дадуць, бо камісіі па выданні абутку выключна з латышоў), пускаюць правакацыйныя слухі, што хто запішацца ў белар.[ускую] школу, тых вывязуць, і інш. Усё нават і не ўспомніш. Колькі было непрыемнасцей мне персанальна і іншым вучыцялём, не варта і пісаць. Трэба нарэшці, каб наша справа ў Ілукшчыне была развязана канчаткова. […] Латышскія школы, там дзе адчынены нашы, трэба зачыніць, бо тыя вучні, якія туды запісаліся, як*

[93] LVVA, P-712 f., 1 apr., 5 lieta, 19 lp.

[94] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 31, л. 2.

*відаць з іх прозвішчаў і хатняй мовы, беларусы*"[95]. З цягам часу сітуацыя не змянілася на лепшае. 28 сакавіка 1943 г. У. Гусарэвіч зноўку пісаў да К. Езавітава: "*Школы нашы адчыніліся і працуюць ніхто, нягледзячы на ўсі перашкоды, якія нам рабіліся і нават зараз робяцца. Галоўнае, гэта тое, што нас тут лічаць нейкім "фокусам" і як на такога і глядзяць. Мы для латышскіх школьных павятовых улад не існавалі, аж да апошняга часу. […] Праўнае становішча нашых школ дужа неакрэсленае і не можна сказаць, каб яно не стала яснейшым. Да гэтага часу мы былі безпасрэдна падпарадкаваны нашай інспекцыі, але дні 4 таму я атрымаў цыркуляр з Ілукшты ад латышскага інспектара, што распараджэннем прасветнай генерал-дырэкцыі інспектарам латышскіх школ Люцынскага, Дзвінскага і Ілукштанскага паветаў даручаецца кантраляваць беларускія школы (але не рускія) у адміністратыўным і педагагічным адношаннях. […] Мечык Мяжэцкі быў у рэферэнта, то той сказаў "наогул я лічу, што беларусам адсюль трэба выбірацца*"[96].

Згаданыя вышэй падзеі былі адлюстраваннем працэсаў, якія адбываліся на латышска-беларускім памежжы. Ішло своеасаблівае змаганне паміж беларускімі і латвійскімі дзеячамі за "сэрцы і душы" тутэйшага славянскамоўнага сялянства, нацыянальная свядомасць якога знаходзілася ў стадыі фармавання. Яшчэ ў міжваенны час, асабліва пасля 1934 г., латышскія дзеячы рабілі захады, каб надаць Латгаліі як мага больш латвійскае нацыянальнае аблічча, што было гарантам захавання рэгіёна ў складзе латышскай дзяржавы. Стаўленне латышскага боку можна зразумець, паколькі ў Латгаліі ў міжваенны час існавала рэальная праблема інтэграцыі гэтага рэгіёна з астатняй часткай дзяржавы. У паўднёвалатгальскіх валасцях толькі ў другой палове 1930-х гг. латышам удалося дасягнуць перавагі ў мясцовым самакіраванні. Натуральна, што ва ўмовах нямецкай акупацыі латышскі бок намагаўся не дапусціць страты з такімі цяжкасцямі здабытых уплываў[97]. Латышскі і беларускі бакі разумелі, што будучыня рэгіёна можа залежыць ад нацыянальнага складу яго жыхароў, а тым часам нацыянальна маласвядомае мясцовае сялянства было схільнае пад уплывам вонкавых чыннікаў дэклараваць розную нацыянальнасць. Найбольш паспяховым сродкам нацыянальнага выхавання была асвета. "Саперніцтва" мела сваю працяглую гісторыю. Беларускія школы ў Латгаліі ў даваенны перыяд былі закрытыя ў 1934 г., а на іх месцы створаныя латышскія. Ва ўмовах нямецкай акупацыі беларусы атрымалі магчымасць зноў разгарнуць тут сваю школьную працу. У пэўнай ступені беларускае школьніцтва развівалася за кошт латышскага,

---

95 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 31, л. 3–4 зв.

96 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 31, л. 5–6.

97 Э. Екабсонс, *Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай…*, с. 212.

паколькі беларускія школы нярэдка ствараліся шляхам перафармавання іх з латышскіх. Як беларускія, так і латышскія актывісты збіралі подпісы бацькоў аб тым, што яны належаць да латышскай ці беларускай нацыянальнасці і жадаюць высылаць сваіх дзяцей у нацыянальныя школы. З пачаткам нямецкай акупацыі суадносіны ў нацыянальным складзе пачалі змяняцца не на карысць латышоў, што яскрава паказала рэгістрацыя насельніцтва, праведзеная ў першыя месяцы немецкага панавання. Некаторыя прадстаўнікі латышскага боку былі выразна гэтым занепакоеныя, сведчаннем чаго сталі вострыя публікацыі (напрыклад, у газеце *Daugavas Vestnesis*), у якіх асуджаліся выпадкі "адмовы" ад латышскасці[98].

Раптоўны ўздым — пасля працяглай стагнацыі (ад сярэдзіны 1930-х гг.) — актыўнасці беларускай інтэлігенцыі не мог не выклікаць насцярожанасці ў латышоў, якія бачылі ў гэтым пагрозу страты Латгаліі. Засцярогі латышскага боку не былі пазбаўленыя рацыянальных падстаў, паколькі беларускія дзеячы сапраўды лічыліся з магчымасцю далучэння ў будучым "беларускіх" валасцей Латгаліі да Беларусі. Беларускія дзеячы разумелі, што новая палітычная кан'юнктура ў значнай ступені спрыяе ім, а акупацыйная рэчаіснасць стварае шанец на ўзмацненне сваёй пазіцыі за кошт латышоў. Беларускі бок не мог не выкарыстаць гэтага. 27 кастрычніка 1941 г. К. Езавітаў пісаў да А. Махноўскага: "…*уважайце, маемо мы за ўсё тое, што з намі яны рабілі, а яны хай памаўчаць. Адступаць тутака не варта, няможна, непатрэбна і маладушна нават. Могуць быць здарэнні, прыдзецца ўсе школы забраць у пэўных валасцёх, дык ці-ж і там мы будземо дэлікатнічаць? Пры абароне інтарэсаў уласнага народу дэлікатнічаць — шкоднае пачуццё. Вучыцеся ў саміх латышоў і ў немцаў. Нас за тое і білі, што мы за дужа дэлікатны народ. Хто з нашае дэлікатнасці толькі не скарыстаўся. […] Даволі! — Гэта трэба скончыць!*"[99]. Інспектар, аднак, лічыў, што не належыць фарсіраваць школьнае пытанне, каб не выклікаць непатрэбнага напружання. Ён сцвярджаў, што трэба дзейнічаць у паразуменні з латышамі. 18 жніўня 1942 г. А. Махноўскі пісаў К. Езавітаву: *"Вольнае-ж змаганне" па адчыненню школ вызывае толькі варожыя настроі і пасягненні на нас латышоў, што надта балюча адгукнулася на вучыцялёх нашых, так і на сялянстве. […] Дайце-ж нарэшце зразумець, што не да бясконца можа змагацца тутака ў Латвіі невялічкая кучка інтэлігенцыі за свае правы з арганізаванай сілай (урадам і паліцыяй) ульманаўскай Латвіі*"[100].

[98] *Беларусы ў Латвіі*, "Раніца" 1941, 20 лістапада, с. 3.

[99] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 16, л. 2.

[100] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 40, л. 9 зв.

Беларуска-латышскія непаразуменні знайшлі адлюстраванне таксама ў тагачаснай прэсе. На старонках берлінскай *Раніцы* К. Езавітаў вінаваціў латышскую адміністрацыю ў масавым звальненні беларускіх настаўнікаў, акрэсліваючы гэтыя дзеянні "*ульманісаўскім дурманам гульні ў "вялікае гаспадарства*", мэтай якога было асіміляванне нелатышскага насельніцтва. Аўтар адзначаў, што належыць "*бараніць станоўка гонару беларускага народу і яго сыноў, дзе-б яны сёнейка не жылі. А бараніць яго можам, найлепш, цвёрдым і шырокім уздымам беларускае нацыянальнае сведамасці і самаадданай працай на карысць беларускага народу*"[101]. Праўда, лідар беларусаў Латвіі адначасова выказаў думку, што нарэшце ў новых умовах "*наступіць поўнае паразуменне і ўзаемная пашана паміж двумя суседнімі народамі — беларускім і латышскім, якіх сварылі штучна раздзьмутыя, безасноўныя прэтэнзіі латышскіх шавіністаў на апанаванне беларускіх этнаграфічных тэрыторыяў*"[102].

Напружанне расло і абодва бакі не вагаліся выкарыстоўваць усе магчымыя сродкі, якія былі ў іх распараджэнні. Кожны рэалізоўваў уласныя інтарэсы і, выкарыстоўваючы новую ваенную рэчаіснасць, ставіў другі бок перад зробленымі фактамі. Адным са сродкаў змагання былі скаргі да нямецкіх акупацыйных улад, дзе бакі спаборнічалі ў тым, каб давесці сваю лаяльнасць Берліну і паказаць у найгоршым святле саперніка. Латышскі бок нярэдка намагаўся прадставіць беларусаў як зацятых і паслядоўных прыхільнікаў камунізму[103]. У лісце школьнага дырэктара генеральнай дырэкцыі да нямецкіх улад чытаем: "*Беларусы ў перыяд бальшавізму кіраваліся нацыянальнымі матывамі і сталі на баку камуністаў. У Дзвінскай акрузе і Дзвінску беларускія камуністы падпарадкавалі сабе справы асветы. Аддзелам асветы ў Дзвінску кіравалі камуністы Фільмановіч і Баркевіч — абодва беларусы; аддзелам асветы Дзвінскай акругі кіраваў камуніст — беларус Слісманіс; справы ўсіх школаў Латгаліі ў камісарыяце вёў беларускі камуніст Пігулеўскі. Гэтыя кіраўнікі праводзілі тады агітацыю на карысць часткова набіраючага моц далучэння Дзвінскага і Ілукшчынскага акругоў да Беларусі. Самі камуністы былі вымушаны прызнаць, што Дзвінскі і Ілукшчынскі акругі этнаграфічна і гістарычна, і таксама паводле нацыянальнага складу, з'яўляюцца часткай Латвіі. Пагэтаму далучэнне да Беларусі не адбылося. Не зважаючы на вострую агітацыю і поўную свабоду ў дзеянні беларускіх камуністаў, у Дзвінскай акрузе было заснавана толькі 5 беларускіх школаў. У адной з гэтых школаў існавалі расійскія*

101 *Беларусы ў Латвіі,* "Раніца" 1941, 20 лістапада, с. 3.
102 *Беларусы ў Латвіі,* "Раніца" 1941, 20 лістапада, с. 3.
103 BA, R92/102, s. 77–79.

*паралельныя класы, а менавіта ў Індры. У гэтых школах агульная колькасць беларускіх вучняў складала 577, а гэта значыць на 139 менш, чым у ранейшай латвійская дзяржаве. Беларусы разглядаюць зараз пачатковую школу ў Індры як чыста беларускую пачатковую школу, але ў камуністычныя часы яна была расійскай латышскай школай. Самі камуністы мусілі ў свой час пагадзіцца з тым, што воласць Індра мае вялікую колькасць жыхароў латышскай нацыянальнасці. "Таварыш" Слосманіс звольніў латышскіх настаўнікаў, засталося іх 4 з 18. На месца звольненых латышскіх настаўнікаў былі ўзяты 12 беларускіх настаўнікаў і толькі 2 расійскія. Ужо тады беларусы хацелі накінуць латышам сваю нацыянальнасць пад прыкрыўкай камунізму. Падчас кіравання школай дырэктарам Язэпам Клагішам усе 12 настаўнікаў былі схаванымі камуністамі. У часе камунізму з Дзвінскай акругі і Дзвінску было вывезена 70 латышскіх настаўнікаў. Латышы ў Латгаліі не забыліся пра гэта і ніколі не забудуцца, паколькі вывязенне гэтых латышскіх настаўнікаў адбылося па віне беларускага кіраўніка школы. Камуністы атрымалі ад кіраўнікоў аддзелаў асветы інфармацыю пра антыбальшавіцкія погляды. Тое, што беларусы зрабілі ўсё, што было ў іх моцы, даводзіць нам факт, што з іншай акругі не было вывезена так шмат настаўнікаў*"[104].

Некаторыя даносы вызначаліся асаблівым суб'ектывізмам і мелі на мэце не толькі скампраметаваць беларускае школьніцтва і яго асобных прадстаўнікоў, але нават давесці адсутнасць беларусаў у Латвіі. У актах Аддзела культуры і асветы генеральнага камісара ў Рызе захоўваецца нататка *Ці ёсць беларусы ў Латвіі*, у якой чытаем: "*Раней з беларусамі наогул ніхто не лічыўся як ў расійскія часы, так і латвійскія, і ніхто не ведаў, што ў Латвіі такі народ існуе. Таксама цяперашнія "беларусы" нічога не ведалі пра гэта і лічылі сябе рускімі, латышамі і палякамі. "Беларусаў" тут адкрылі толькі ў 1925 г., а менавіта сацыял-дэмакратычная і камуністычная партыі латвійскага сойму. Тады ў Савецкай Расіі была створана беларуская аўтаномія і камуністы з Мінску звярнуліся да рыжскіх марксістаў з просьбай аб рэгістрацыі беларусаў таксама ў Латвіі. Найбольш апекаваўся беларусамі марксіцкі паэт Райніс, які як міністр асветы зрабіў магчымым адкрыццё першых беларускіх школаў (з рускай мовай навучання). […] Фактычна беларускі рух у Латвіі з'яўляецца расійска-імперскім, з моцнай камуністычнай афарбоўкай. Ён заўсёды падтрымліваўся з Масквы, амаль усе беларускія дзеячы ў Латвіі былі камуністамі, у тым ліку настаўнікі. "Беларуская меншасць" у Латвіі лічылася зусім "чырвонай". […] Таксама зараз тутэйшых свядомых "беларусаў" трэба лічыць фарпостам*

[104] BA, R92/102, s. 78.

*Масквы і камунізму. Камуністы не могуць тут часта паказвацца, таму яны імкнуцца схавацца пад нацыянальным плашчыкам. Палітычная няпэўнасць у нас узрасла, асабліва ў памежнай Латгаліі. Культурна азначала б гэта русіфікацыю і збліжэнне з Расіяй, што не адпавядала б усім высілкам ідэі вялікай Нямеччыны. Новае развіццё "беларускай справы" выклікала сярод латвійскага народу балючае ўражанне, бо мы ж вядзем супольную гістарычную бітву супраць варварскага ворага. Расійцы забілі і вывезлі 30 000 латышоў, у Расіі забілі сотні тысячаў немцаў, а ў гэты ж час нехта хоча заснаваць бастыён Масквы і Славяншчыны ў Латвіі. Уся Беларусь была некалі населеная балтыйска-германскімі плямёнамі, якія на працягу тысячаў гадоў былі зрусіфікаваныя. І зараз на чыста латышскіх землях штораз больш на захад ствараюцца апоры русіфікацыі*"[105].

За словамі ішлі справы. Гісторыя захавала сведчанні пра выпадкі пераследу беларускіх настаўнікаў з боку цывільнай адміністрацыі і дапаможнай паліцыі. Нярэдка гэта адбывалася падчас акцый вывазу насельніцтва на прымусовую працу. Здаралася, што некаторыя настаўнікі затрымліваліся некалькі разоў. Пацвярджэнне гэтага можна знайсці ў беларускіх і нямецкіх крыніцах. У лісце А. Махноўскага (26 красавіка 1942 г.) да К. Езавітава чытаем: "*Зараз горшае становішча, чым было ўвосені і зімой. Бацькі-беларусы проста баяцца называцца беларусам, а каб не называцца латышом, дык проста не пушчаюць дзяцей нікуды. Рэгістрацыі, праведзеныя па загаду Гебітскамсіара для высвятлення ліку беларусаў і латышоў у некатарых школах, не далі вынікаў і яснага малюнку, бо бацькі ўхіліліся ад рэгістрацыі. Праўда, супраць латышоў паўстане на вёсцы страшэнная злосць, але пакуль яны заціснулі так меншасці, што сок цячэ*"[106].

У траўні 1942 г. на тэрыторыі Індраўскай і Пустынскай валасцей латышская паліцыя затрымала групу з 18 настаўнікаў беларускай гімназіі ў Індры, а ў Люцынскім павеце былі арыштаваны 22 настаўнікі[107]. У сувязі з гэтым затрыманнем 8 чэрвеня 1942 г. кіраўнік школы ў Лупандзях (Індраўская воласць) Д. Юркевіч інфармаваў К. Езавітава: "*Два тыдні таму назад беларускае вучыцельства было схвачана латышамі — палітычнымі паліцыянтамі. […] На гэтым латышы не спыніліся і прыступаюць да новых выпік і паставіць на тым, каб беларусаў вывесці із роднага кутка. Ёсць абвестка ў воласці, каб уся беларуская інтэлігенцыя запісывалася на выезд у Беларусію; чэм можна думаць яны ізноў не спыняцца і капаюць яму*"[108]. Чарговыя затрыманні адбыліся ў чэрвені 1942 г., калі латышская

105 BA, R92/102, s. 93–96.
106 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 33, л. 11 зв.-12.
107 BA, R92/102, s. 139.
108 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 37, л. 21.

паліцыя арыштавала 12 настаўнікаў (у тым ліку 6 кіраўнікоў беларускіх школ) і 4 вучняў гімназіі ў Індры[109]. У рапарце гебітскамісара ў Дзвінску адзначалася, што паліцыянты абражалі і кпілі з беларусаў, даючы зразумець затрыманым, што яны могуць "*падзяліць лёс габрэяў*"[110]. Вось якім чынам характарызавала сваё затрыманне настаўніца беларускай індраўскай школы Эмілія Казак-Казакевіч: "*Некалькі дзён я сядзела ў школьным гардэробе, пазней, калі набралася многа арыштаваных, мы былі пераведзены ў школьную залу, адтуль нас адправілі ў Дзвінск, дзе мы сядзелі ў падвале дома карнікаў. Праз некалькі дзён мяне перавялі ў Дзвінскую турму, дзе я сядзела ў агульнай камеры*"[111].

У чэрвені 1942 г. адзін з кіраўнікоў беларускай школы на Люцыншчыне звярнуўся да К. Езавітава з просьбай дапамагчы вярнуць у Латвію настаўніка Пятра Жукоўскага, які быў запісаны палякам і вывезены на працу ў Нямеччыну. У лісце чытаем: "*Ён быў кіраўнікам Залескай школы, і адзін год быў арганізатарам беларускіх школ Люцынскага павету, шчыры беларус, якіх так у нас мала, і добры працаўнік — ён быў бяльмом у глазу латышоў і вось у пачатку траўня яго па даносу забралі і павезлі ў Германію. […] Гэта ўсё зрабілі мясцовыя латышы, каб убраць з Пасіенскай воласці сілу, якой з'яўляўся Жукоўскі. Ніколі ён ніякой палітыкаю не займаўся, ні ў якіх партыях не быў. Заўсёды ён лічыў сябе беларусам, а вось тут яму прыпісалі польскасць. Ён можа дакументальна даказаць, што ён беларус, нават у вайсковым білеце ў яго так напісана. […] Пасля вывазу гр. Жукоўскага Залеская школа прыйшла ў поўны ўпадак*"[112].

Паводле сведчанняў відавочцаў, у камісіях, якія займаліся затрыманнямі, знаходзіліся загадчыкі латышскіх школ. Аддайма голас вышэйзгаданай настаўніцы Э. Казак-Казакевіч: "*Немцы пачалі наводзіць свае парадкі. Латышы адразу адчулі сябе гаспадарамі, хаця і ў залежнасці ад немцаў. У Індры зноў пачала працаваць латышская школа, кіраўніком якой быў Альфрэд Магоніс. Ён вельмі не любіў беларусаў, але не ўсё залежала ад яго. […] Магоніс і яго прыхільнікі, як, напрыклад, Міцкевіч Юзік, выдумвалі розныя небыліцы, каб толькі як-колечы пакараць беларусаў за тое, што яны хочуць "людзьмі звацца", імкнуцца да асветы, стараюцца захаваць і развіваць сваю культуру. Вось Магоніс і напісаў на мяне, што я камуністка і маю сувязь з партызанамі. Гэта была правакацыя, але для арышту*

[109] Э. Екабсонс, *Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай…*, с. 214–215.
[110] BA, R92/102, s. 139–140.
[111] *Крывіцкія руны: Беларускія пісьменнікі Латвіі,* Укл. і прадм. С. Панізьніка, Мінск 2003, с. 132.
[112] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 33, л. 28 зв.

*было дастаткова"*[113]. Датычнасць латышскіх настаўнікаў да затрымання беларусаў пацвярджаюць таксама нямецкія крыніцы. У рапарце Дзвінскага гебітскамісара ад 19 траўня 1942 г. чытаем: "*Зразумела, што сярод беларусаў у сувязі з гэтым здарэннем запанавала паніка. Прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі былі б тут асобамі, якія спрычыняюцца да ўспакаення насельніцтва і работнікаў, якія сапраўды падлягаюць працоўнаму абавязку; яны маглі б растлумачыць патрэбу такіх крокаў. Тым больш варта жалю тое, што менавіта гэтыя настаўнікі былі ўцягнуты ў гэты працэс. Таксама незразумела, што латышскія кіраўнікі школаў маюць права засядаць у тых камісіях. Магчыма, што гэта яны пастараліся, каб іх беларускія калегі былі затрыманы з мэтай працоўнага абавязку. […] Цяпер існуе пагроза, што цэлая праца над адбудовай, якая тут вядзецца на працягу 9 месяцаў, сарвецца*"[114]. У сувязі з гэтым гебітскамісар прапаноўваў выключыць з акцыі прымусовага набору рабочай сілы настаўнікаў і вучняў старэйшых класаў (пасля 15 гадоў). Ролю першых ён бачыў у тым, што яны аказвалі добры ўплыў на насельніцтва, таму іх неабходна было пакінуць у спакоі[115].

Дадзеныя інцыдэнты сур'ёзна ўскладнялі працу беларускага школьніцтва. У чэрвені 1942 г. настаўнік Казімір Мяжэцкі інфармаваў кіраўніка Беларускага аб'яднання: "*Паведамляю Вам, што ў Пасіенскай гм.[іне] адбылася рэгістрацыя беларускіх вуч.[ыцялей] для вывазу на Украіну. У звязку з гэтым нанесены вялікі ўдар беларускім школам, бо разышліся чуткі, што ўсіх вучыц.[ялей]-беларусаў вывязуць і беларускіх школ не будзе. Лік вучняў дашкольнае класы … зменшыўся на галаву. Незадаваленне сярод бацькоў і вучыцялёў. […] Мы проста не ведаем, як трымацца, як весці далейшую працу*"[116]. Тым часам К. Езавітаў падбадзёрваў настаўніцтва, сцвярджаючы, што ў акупацыйнай рэчаіснасці напады з боку нядобразычліўцаў не ў стане знішчыць беларускай справы. Ён дзяліўся сваімі думкамі з А. Махноўскім: "*Трэба разумець, што ўсе гэтыя запугівання — ёсць псіхалагічная вайна з боку тых, хто жыўцом хацеў бы беларусаў з'есці, але-ж зараз не тыя ўжо часы, што былі пры Ульманісе: а) тады за нас не маглі заступіцца беларускія сілы, бо БССР не мела свайго дыпламатычнага апарату; […] б) зараз у Остланду беларусы — галоўная маса жыхарства, з якой лічацца; апроч таго нямецкая ўлада зусім не жадае аблатышвання беларусаў, а знача ўсе гэтыя Няміры і К-о хутка атрымаюць па пысе гэтаксама, як атрымаў ужо дзе-хто; в) аб нашых,*

113 *Крывіцкія руны…*, с. 131–132.

114 BA, R92/102, s. 139–140.

115 BA, R92/102, s. 140.

116 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 34, л. 4–4 зв.

*якія часова церпяць, мы рупімося, і я скажу Вам шчыра: дужа добра, што адбыліся гэтыя арэшты, бо гэта кажа немцам, як беспадстаўны ўсе закіды і як латышы мала змяніліся нават у новых абставінах!*"[117]

Беларускі актыў энергічна ўключыўся ў акцыю вызвалення настаўнікаў. 17 траўня 1942 г. К. Езавітаў звярнуўся з просьбай да Ф. Адольфі, каб ён паспрыяў неадкладнаму вызваленню групы настаўнікаў і вучняў беларускай гімназіі ў Індры, якія былі затрыманыя паліцыяй у Індраўскай і Пустынскай валасцях. Кіраўнік БНК лічыў, што гэтыя рэпрэсіі маюць на мэце тэрарызаванне мясцовага беларускага насельніцтва і інтэлігенцыі. Езавітаў прыкладаў спіс з 18 арыштаваных настаўнікаў і пісаў, што затрыманне выклікала абурэнне сярод беларусаў, паколькі ахвярамі сталі людзі з 20-гадовым стажам працы на беларускай культурна-асветнай ніве ў Латвіі. Ён запэўніваў, што затрыманыя з'яўляюцца лаяльнымі ў адносінах да немцаў і бачаць у іх абарону не толькі ад савецкай русіфікацыі, але і ад свавольства латышскай адміністрацыі, якая намагалася латышызаваць мясцовых беларусаў, закрываючы іх школы. Езавітаў звяртаў увагу на тое, што затрыманні адбыліся ў дзень прыезду ў Рыгу міністра А. Розэнберга, што мела скампраметаваць немцаў у вачах беларусаў. Таму старшыня Беларускага аб'яднання прасіў, каб нямецкае кіраўніцтва паказала, што не талеруе кепскіх паводзінаў з боку асобных латышскіх чыноўнікаў у правінцыі[118]. Дзякуючы захадам П. Мірановіча, які правёў перамовы з прадстаўнікамі мясцовага СД у Дзвінску, 5 настаўнікаў з Індры і 5 з Пустынскай воласці былі вызваленыя. Пасля ўмяшання прадстаўнікоў нямецкай улады 4 з 6 арыштаваных беларускіх настаўнікаў былі вызваленыя, але пасля ад'езду немцаў зноў затрыманыя латышскай паліцыяй[119]. У чэрвені 1942 г. беларускія дзеячы здолелі не дапусціць высылкі групы настаўнікаў ва Украіну[120].

5 і 6 студзеня 1943 г. адбыліся наступныя затрыманні. Гэтым разам ахвярай паліцэйскай акцыі была група беларускіх настаўнікаў, сярод якіх знаходзіліся Язэп Клагіш з гімназіі ў Індры і Эмілія Казак-Казакевіч з тамтэйшай народнай школы, якія абвінавачваліся ў сувязях з савецкімі ўладамі ў 1940–1941 г.[121] Зноў дзеячам Беларускага аб'яднання давялося

[117] LVVA, P-712 f., 1 apr., 6 lieta, 17l p.

[118] BA, R92/102, s. 130.

[119] BA, R92/102, s. 130.

[120] Э. Екабсонс, *Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай…*, с. 208, 222.

[121] З ліста П. Мірановіча да нямецкага школьнага кіраўніцтва ад 2 лютага 1943 г. вынікае, што Я. Клагіш абвінавачваўся ў тым, што як загадчык школы ў Індры быў савецкім агентам. Перад пачаткам нямецка-савецкай вайны Я. Клагіш сапраўды займаў пасаду кіраўніка індраўскай народнай школы. Інспектар П. Мірановіч абараняў Я. Клагіша, тлумачачы, што агентам НКУС быў іншы загадчык школы, які ў 1941 г. уцёк разам з Чырвонай арміяй. Тым часам Э. Казакевіч абвінавачвалася ў сувязях з "савецкім палітыкам", які ў сапраўднасці быў звычайным настаўнікам, які прыбыў з Украіны. BA, R92/102, s. 224.

ратаваць паплечнікаў. 9 студзеня 1943 г. К. Езавітаў і П. Мірановіч наведалі генеральнага дырэктара ўнутраных спраў і старшыню Рады генеральных дырэктараў ген. Оскарса Данкерса. Размова тычылася беларуска-латышскіх узаемадачыненняў у Латгаліі і на Ілукшчыне. Невядома, якім быў вынік сустрэчы, але ў прэсе з'явілася абнадзейваючая зацемка, што кіраўнік самакіравання "*цалкам разумее імкненні беларускай меншасці ў Латвіі ўзгадаваць сваю сведамаю інтэлігенцыю*" і "*абяцаў падтрымаць беларускія натугі ў гэтым кірунку*"[122]. 15 студзеня 1943 г. старшыня Дзвінскага аддзела Беларускага аб'яднання А. Якубецкі і інспектар беларускіх школ А. Махноўскі сустрэліся з наместнікам гебітскамісара ў Дзвінску і ўручылі яму ліст з просьбай вызваліць з-пад варты беларускіх настаўнікаў: Яна Багдановіча (настаўніка савейкаўскай школы Індраўскай воласці), Віктара Дзяргача (настаўніка карклінскай школы Пустынскай воласці), Язэпа Клагіша (настаўніка індраўскай гімназіі) і вартаўніка савейкаўскай школы Баніфацыя Каскевіча[123]. У выніку частка затрыманых была вызваленая, але іншыя вывезеныя на працу ў Эстонію[124].

Падобныя інцыдэнты, аднак, не спыніліся і адбываліся ў пазнейшы час. У лютым 1943 г. была звольнена з працы Зінаіда Насевіч, настаўніца беларускай школы ў Дземене, якая абвінавачвалася ў палітычнай ненадзейнасці. Намаганні аддзела Беларускага аб'яднання ў Дзвінску, накіраваныя на вяртанне яе на пасаду, былі дарэмнымі[125]. 16 і 25 жніўня 1943 г. паліцыя арыштавала 6 беларускіх настаўнікаў краслаўскай, дземенскай, юхнавецкай і гараўскай школ. У гэты ж час былі таксама затрыманыя 4 вучні індраўскай гімназіі. У сувязі з інцыдэнтамі інспектар А. Махноўскі зноў быў вымушаны звярнуцца па дапамогу да Дзвінскага гебітскамісара[126]. Яму ўдалося дамагчыся вызвалення кіраўніка беларускай школы ў Краславе і настаўніцы гэтай жа школы, якія былі высланы на працу[127]. У снежні 1943 г. кіраўнік Беларускага аб'яднання К. Езавітаў прасіў Ф. Адольфі дапамагчы ў вызваленні беларускіх настаўнікаў, затрыманых паліцыяй у межах акцыі *"Sommerreise"*[128].

У беларускіх крыніцах сустракаецца інфармацыя пра масавыя звальненні беларускіх настаўнікаў[129]. У карэспандэнцыі латышскага

---

[122] *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1943, 31 студзеня, с. 3.

[123] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 37, л. 26–28.

[124] Адзін з настаўнікаў ,В. Дзяргач, які апынуўся ў працоўным лагеры ў Котла-Ярвэ, напісаў ліст да кіраўніка Беларускага аб'яднання, каб ён паспрыяў яго вызваленню і вяртанню ў Латвію. НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 16, л. 5.

[125] Э. Екабсонс, *Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай…*, с. 221–222.

[126] LVVA, P-712 f., 1 apr., 5 lieta, 27 lp.

[127] Э. Екабсонс, *Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай…*, с. 208, 222.

[128] BA, R92/101, s. 343.

[129] *Беларусы ў Латвіі,* "Раніца" 1941, 20 лістапада, с. 3.

дырэктара асветы генеральнай дырэкцыі з нямецкім школьным кіраўніцтвам шматразова выказвалася засцярога адносна таго, што сярод беларускага настаўніцтва знаходзіліся асобы, якія ў мінулым былі скампраметаваныя супрацоўніцтвам з савецкімі ўладамі. На думку латышскага боку, належыла зрабіць захады, каб настаўнікі дапускаліся да працы на падставе правіл, якія існуюць у латышскім школьніцтве, і толькі пасля прадстаўлення пасведчання аб дзейнасці ў перыяд існавання ў Латвіі савецкай улады[130]. Не падлягае сумневу, што некаторыя беларускія дзеячы сапраўды бралі ўдзел у грамадска-асветнай працы ў Савецкай Латвіі. Латышы, якія ў 1940 г. страцілі сваю дзяржаўную незалежнасць, разглядалі гэта як здраду і доказ камуністычных поглядаў прадстаўнікоў беларускага актыву. Тым часам для беларусаў лаяльнасць да ўлады (у тым ліку да савецкай) была ўмовай захавання і развіцця сваёй нацыянальнай культуры ў краіне, дзе яны былі нацыянальнай меншасцю, незалежна ад грамадска-палітычных умоваў, якія ў ёй панавалі. Беручы пад увагу гэтую акалічнасць і агульнае крытычнае стаўленне латышскага боку да беларускага школьніцтва, абвінавачванні беларускіх настаўнікаў у прасавецкіх настроях можна лічыць перабольшанымі. Тым больш што ў шматлікіх выпадках затрыманыя паліцыяй настаўнікі пасля рашучых захадаў рэферэнта беларускага школьніцтва і кіраўніцтва Беларускага аб'яднання былі вызваленыя, а гэта можа сведчыць пра адсутнасць хоць нейкіх доказаў іх віны. Гэта не азначае, што сярод настаўнікаў зусім не было прыхільнікаў ці нават супрацоўнікаў савецкай улады[131].

Супярэчлівымі былі таксама адносіны беларусаў з рускай меншасцю, якая складала найбольш шматлікую этнічную групу нелатышоў. Сярод прадстаўнікоў расійскіх інтэлектуальных эліт Латвіі назіраліся антысавецкія настроі, якія ў сваіх палітычных мэтах намагаўся выкарыстаць Трэці рэйх. Пасля пэўных ваганняў, восенню 1941 г. нямецкія ўлады дазволілі стварэнне ў Латвіі рускага школьніцтва. У нацыянальна мяшаных рэгіёнах не абышлося без непаразуменняў паміж беларускімі і рускімі дзеячамі[132]. Каменем нязгоды была дыяметральна адрозная інтэрпрэтацыя нацыянальнага паходжання мясцовага насельніцтва. Беларуска-рускія разыходжанні па гэтым пытанні выявіліся ўжо на

[130] BA, R92/102, s. 102.

[131] Прыкладам можа быць кіраўнік беларускай народнай школы ў Пасіене Браніслаў Юрэвіч, які быў агентам савецкіх спецслужбаў. Пасля прыходу Чырвонай арміі ў 1944 г. Б. Юрэвіч атрымаў заданне пераходу лініі фронту з мэтай знайсці і перадаць у савецкія рукі К. Езавітава. Разведчык выканаў заданне 24 красавіка 1945 г. А. Соловьев, *Белорусская центральная рада: создание, деятельность, крах,* Минск 1995, с. 137–142.

[132] BA, R92/103, s. 70–71, 178–179.

пачатковым этапе стварэння беларускага і рускага школьніцтва пад нямецкай акупацыяй. У лісце да генеральнага школьнага рэферэнта Генеральнай акругі Латвія ад 20 лістапада 1941 г. старшыня БНК сцвярджаў: "*…неабходна канстатаваць, што ў Істрынскай і Рундзенскай валасцях ёсць група настаўнікаў, якая кіруецца Мікалаем Эйгімам і Канстанцінам Нікіфароўскім, якія на працягу многіх гадоў праводзілі русіфікатарскую працу, зачыняючы дзейныя беларускія школы, намагаючыся пераканаць мясцовых праваслаўных беларусаў у тым, што яны вялікарусы. Гэтыя настаўнікі зараз варожа сустрэлі навіну аб адраджэнні беларускіх школаў і заяўляюць, што будуць дамагацца там рускіх школаў. Пажадана было б перанесці настаўнікаў… з гэтых раёнаў. […] Лічу абавязкам звярнуць вашую ўвагу на тое, што ў гарадах Рызе і Дзвінску, не лічачыся з безумоўна беларускім паходжаннем бацькоў, якія, як гэта бачна з дакументаў, з'яўляюцца выхадцамі з беларускіх губерняў, многія загадчыкі рускіх школаў у горадзе Рызе прымалі ў мінулыя гады, а сёлета ўжо рэгіструюць дзяцей гэтых выхадцаў з Беларусі ў свае школы. Дзеці і іх бацькі безумоўна з'яўляюцца беларусамі і ў вялікарускія школы не павінны былі прымацца. Каб абысці нацыянальны момант і выклікаць няяснасць, вялікарусы называюць свае школы рускімі, г.зн. такімі, у якія могуць прымацца і вялікарусы, і беларусы, і ўкраінцы. Па ініцыятыве і прыкладзе вялікарусаў і латышскія школьныя ўстановы называюць вялікарускія школы рускімі, што ўносіць няяснасць, таму хадайнічаю, каб ад гэтага часу вялікарускія школы не называліся рускімі, а вялікарускімі, і каб у вялікарускія школы дзеці беларускага паходжання не прымаліся. Належыць звярнуць увагу таксама на тое, што ў Ілукшскім, Дзвінскім і Люцынскім паветах вялікарускага насельніцтва па сутнасці няма, і карэнным насельніцтвам з'яўляюцца латгальцы і беларусы, а вялікарусы і палякі з'яўляюцца нешматлікім элементам, узмацненне ўплыву якога было звязана з расійскім панаваннем і польскімі маёнткамі, а таксама з дзейнасцю праваслаўнага вялікарускага духавенства і часткі духавенства каталіцкага, якое паходзіла з польскіх абласцёў*"[133].

Кіраўнік беларускай школы ў Краславе Яўген Красневіч інфармаваў К. Езавітава аб тым, што ў мястэчку адкрылася руская школа, у якой навучаецца каля 30 вучняў-беларусаў. У сваім лісце ён адзначаў: "*Кіраўнік школы гр. Кляменцьеў прыняццё іх у школу [тлумачыў] тым, што яны падалі дэкларацыю аб тым, што яны расейцы, але я добра ведаю, што яны ўсё каталікі і ў хаце гутараць па-беларуску*"[134].

---

133 BA, R92/102, s. 85.

134 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 32, л. 12.

Нягледзячы на розныя перашкоды, праца на ніве беларускага школьніцтва працягвалася[135]. Своесаблівым паказчыкам эфектыўнасці школьнай працы былі выпускі. У першы год існавання беларускага школьніцтва ў акупаванай Латвіі сямігадовыя народныя школы скончыла каля 150 навучэнцаў. Найбольшую колькасць складалі выхаванцы трох рыжскіх школ і індраўскай[136]. У апошні год акупацыі выпуск беларускіх народных школ склаў каля 180 чал[137]. Неабходна адзначыць, што некаторыя вучні скончылі школу са спазненнем. З бацькоўскіх і вучнёўскіх заяў да дырэкцыі народных школ вынікае, што ў некаторых выпадках у якасці прычыны затрымкі пазначалася адсутнасць магчымасці ў мінулым атрымаць адукацыю ў сваіх нацыянальных школах. У заяве Паўла Зашчэрынскага да кіраўніка Пасіенскай беларускай народнай школы ад 15 ліпеня 1943 г. чытаем: "*Прашу уважыць ніжэйпаданыя прычыны па якіх я не змог своечасова скончыць народную школу: У школу пачаў хадзіць у узросце 8 год у польскую школу. У першай класе прасядзеў 2 гады, бо хварэў і была апэрацыя сьляпой кішкі. У 4 кл. сядзеў 2 гады, бо польскую мову мне, як беларускую, была цяжка усвоіць, а беларускай школы ня было. У 1942/43 навучальным годзе паступіў у 7-ую класу сваей роднай школы і скончыў з правам пастуніць у гімназію*"[138]. У той жа час вучаніца гэтай жа школы Антаніна Мяжэцкая пісала: "*У школу пачала хадзіць 8-мі гадамі ўзростам у лытышскую школу, якая для мяне з'яўлялась чужой, беларускай школы не было, латышскую мову было цяжка асвоіць, а таму ў 7-й клясе (па старому) мусіла сядзець два гады. У 1941/42 навучальным годзе школы не наведывала, бо ня было абутку, у 1942/43 навуч.[альным] годзе скончыла Пасінскую народную школу з правам паступіць у гімназію*"[139].

Школы былі важнымі асяродкамі культурнага жыцця. Нярэдка яны былі месцам, дзе ладзіліся святочныя імпрэзы і ўрачыстасці, падчас якіх вучнямі выконваліся беларускія народныя танцы і спевы, патрыятычныя песні,

[135] У 1942 г. кіраўнік беларускай школы ў Краславе Я. Красневіч пісаў К. Езавітаву: "*У школе заняткі распачаліся 15 красавіка. Спачатку вучні як бы ўстрымліваліся ад беларускае школы, што мяне трошкі беспакоіла, але з часам, патрошку сталі з'яўляцца, нават сталі пераходзіць з латышскае школы, асабіста з малодшых класаў. Зараз у беларускае школе 65 вучняў – прыблізна столькі, колькі і ў латышскае школе. Спадзяюсь, што лік вучняў яшчэ павялічыцца таму, што выбухі з боку латышоў, магчыма, часова спыніліся. Таксама грамадзяне, як бы сталі верыць у тое, што і беларусы маюць такія правы, як і латышы. Наогул справа беларусаў патроху ўзмацняецца*". НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 32, л. 7.

[136] *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 28 чэрвеня, с. 3; К. Езавітаў, *Аб беларускім школьніцтве,* "Раніца" 1942, 25 снежня, с. 3.

[137] *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1944, 21 траўня, с. 3.

[138] LVVA, P-951 f., 1 apr., 128 lieta, 16 lp.

[139] LVVA, P-951 f., 1 apr., 128 lieta, 15 lp.

рыхтаваліся тэатральныя пастаноўкі і гімнастычныя выступы[140]. Школы былі натуральнай крыніцай падрыхтоўкі кадраў нацыянальнай інтэлігенцыі. Падчас урачыстага выпуску ў 1-й рыжскай беларускай школе 22 траўня 1942 г. інспектар П. Міраповіч адзначыў, што перад беларусамі адкрываюцца новыя магчымасці нацыянальнай працы, таму заклікаў вучняў, каб яны папаўнялі шэрагі свядомай беларускай інтэлігенцыі[141]. К. Езавітаў пісаў на старонках берлінскай *Раніцы*: "*Калі б беларускія гімназіі ў Люцыне, Дзвінску і ў Рызе ня былі-б у свой час прымусова зачынены, дык сёнека Люцынская гімназія мела-б ужо 18-ты выпуск, Дзвінская гімназія — 20-ты, а Рыская гімназія — 9-ты. Калі на кажны з гэтых выпускаў прыпала-б у сярэднім па 20–15 матурыстаў, дык мы мелі-б у Латвіі ўжо вялікую рэзерву беларускіх інтэлігентаў, у лічбе блізка 1000 чалавек, і не абчувалі-б гэтнае вострае нястачы інтэлігентных сілаў. Зараз-жа трэба далажыць усіх натугаў, каб як найхутчэй гэтыя сілы падрыхтаваць*"[142].

Безумоўна, нельга таксама забываць, што навучальны працэс у беларускіх школах пад нямецкай акупацыяй насіў на сабе адбітак часу. Іншую сітуацыю ва ўмовах акупацыйнага рэжыму нельга было ўявіць. Заслугоўвае ўвагі навучальная праграма для беларускіх сярэдніх школ у Латвіі, якая была апрацавана на падставе адпаведных навучальных праграм у латышскім школьніцтве. Выключэнне складалі праграмы па гісторыі, геаграфіі і беларускай мове. Варта звярнуць увагу на дзве першыя. Так, у праграме па гісторыі ўлічвалася мясцовая адметнасць у асвятленні гістарычных падзей. На ўроках настаўнікі мусілі тлумачыць гістарычныя працэсы з улікам таго, што адбывалася ў Латвіі. У праграме па гісторыі для першых класаў значнае месца адводзілася тэме сувязей беларускіх зямель з нямецкім светам. Асобна разглядалася тэма гандлёвых сувязей Полацка і іншых рускіх гарадоў з Лівонскім ордэнам і ўплыву нямецкай культуры на беларусаў у Сярэднявеччы. У другіх класах узнімаліся такія пытанні: барацьба беларусаў з паланізацыяй і беларускі народ пад польскім прыгнётам. Сярод тэм, звязаных з найшоўшай гісторыяй, прысутнічалі тэмы: супраціў беларускага сялянства калектывізацыі, беларускі рух пад польскім і маскоўскім панаваннем, распад Польшчы і СССР, а таксама пераможная вайна народаў Еўропы з плютакратычным і камуна-

[140] Так, напрыклад, 16 студзеня 1943 г. падчас святкавання Калядаў беларускімі вучнямі ў Розенаве драматычны гурток мясцовай гімназіі пад кіраўніцтвам настаўніка А. Салдашчынскага паставіў камедыю Ф. Аляхновіча "*Чорт і баба*". *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1943, 21 лютага, с. 3. Тым часам падчас каляднай ялінкі ў Розенаве 16 студзеня 1943 г. вучнёўскі хор пад кіраўніцтвам М. Мяжэцкага выканаў гімн "*Мы выйдзем шчыльнымі радамі*". НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 35, л. 21.

[141] *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 28 чэрвеня, с. 3.

[142] *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 18 кастрычніка, с. 3.

інтэрнацыяналістычным панаваннем. Тым часам навучальная праграма па геаграфіі ўтрымлівала шмат тэм, звязаных з *"Вялікай Нямеччынай"* і яе роляй у жыцці Цэнтральнай Еўропы[143].

Нягледзячы на ваенныя ўмовы, навучальны працэс у асноўным адбываўся згодна са школьнымі планамі. Паколькі асноўная маса вучняў паходзіла з сялянскіх сем'яў, школьнае кіраўніцтва было вымушана дапасаваць каляндар заняткаў да сельскагаспадарчага цыклу. Так, напрыклад, 1942/43 навучальны год у беларускіх сярэдніх школах быў скончаны ў пачатку траўня, перад тым, як на вёсцы распачаліся сезонныя працы (8 траўня адбылося ўрачыстае ўручэнне дыпломаў, якія атрымаў 181 выпускнік), а новы распачаўся 18 кастрычніка, калі працы былі завершаныя[144]. Здараліся таксама сітуацыі, калі графік школьных заняткаў карэктавалі эпідэміі. У 1941/42 навучальным годзе калядны перапынак у школах на Дзвіншчыне быў падоўжаны на два тыдні і заняткі распачаліся 15 (замест 2) студзеня ў сувязі з распаўсюдам плямістага тыфусу[145].

Кадравая палітыка знаходзілася ў руках акупацыйных улад. Права выкладаць у народнай школе магла атрымаць асоба, якая мела сярэднюю адукацыю, праслухала 2-гадовыя настаўніцкія курсы і адбыла педагагічную практыку[146]. Прызначэннем кіраўнікоў школ і настаўнікаў займаўся генеральны дырэктар асветы і культуры, які рабіў гэта па прапанове рэферэнта па справах беларускага школьніцтва. Перад зацвярджэннем кандытата на пасадзе настаўніка генеральны дырэктар раіўся з гебітскамісарам акругі, у якой пражываў кандыдат. Дазвол на працу ў асноўных школах давала камісія пры генеральным дырэктары, у пасяджэнні якой браў удзел рэферэнт[147]. Нямецкія чыноўнікі сачылі за тым, каб у школьніцтве не працавалі асобы, якія раней былі актыўнымі камуністамі. З іншага боку, падчас з'езду школьных інспектараў у Рызе была агучана думка, што не належыць жорстка ставіцца да былых камуністаў, бо гэта толькі павялічыць хваляванні сярод настаўнікаў і прынясе непажаданыя наступствы[148]. Акупанты пільнавалі, каб настаўнікі не належалі да якіх-небудзь палітычных арганізацый. "Няяснае" мінулае кандыдата магло перашкодзіць атрыманню пасады. Нярэдка акупанты рабілі свае высновы на падставе даносаў. Імаверна, так было ў выпадку

143 BA, R92/91, s. 15.

144 *Выпускі ў беларускіх школах у Латвіі,* "Наш Шлях" 1943, № 12, с. 2; *Biełaruskaje życcio u Łatvii,* "Biełaruski Hołas" 1943, 24 vieraśnia, s. 4.

145 *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 15 лютага, с. 4.

146 *Аб беларускім школьніцтве,* "Раніца" 1942, 25 снежня, с. 4.

147 BA, R92/102, s. 43.

148 BA, R92/102, s. 116.

К. Езавітава. У студзені 1942 г. гебітскамісар у Дзвінску інфармаваў школьныя ўлады ў Рызе аб тым, што беларускага дзеяча неабходна ўзяць пад нагляд СД, паколькі стала вядома, што ў мінулым ён выказваў “антынямецкія” настроі. Доказам стала публікацыя ў міжваенным выданні *Беларуская Школа ў Латвіі*, рэдактарам якога быў К. Езавітаў. Дзякуючы латвійскай школьнай інспекцыі, у рукі немцаў трапіў нумар за 1933 г., у якім быў змешчаны кароткі матэрыял К. Езавітава пра нямецкую акупацыю Беларусі ў 1918 г.[149] З падобнай крытыкай сустрэўся М. Дзямідаў, якога нядобразычліўцы небеспадстаўна абвінавачвалі ў нядаўніх сувязях з савецкімі ўладамі. У нататцы гебітскамісара ў Мітаве (6 студзеня 1942 г.) інфармавалася, што ад упаўнаважанага гебітскамісара ў Ілукшчынскім павеце Фрызена была атрыманая наступная характарыстыка М. Дзямідава: “*…зусім не падыходзіць да гэтага задання* (інспектара беларускіх школ — Ю. Г.)*, а нават можа прынесці шкоду, бо ён не толькі ў савецкія часы быў вельмі актыўны, але як чалавек з’яўляецца непрыдатным, аб чым даносяць мне кіраўнікі раёнаў і расійскае духавенства, якое яго ведае са школы*”[150]. Менавіта “сумнеўнае мінулае” М. Дзямідава было прычынай яго звальнення з пасады інспектара беларускіх школ[151].

Педагогі заахвочваліся да вывучэння нямецкай мовы. З гэтай мэтай восенню 1941 г. былі зладжаныя першыя курсы нямецкай мовы для настаўнікаў. Яшчэ адзін курс нямецкай мовы быў арганізаваны падчас каляднага перапынку 1941 г. пры беларускай гімназіі ў Індры[152]. Улетку 1942 г. пры індраўскай гімназіі працавалі 2-месячныя настаўніцкія курсы нямецкай мовы, у выніку чаго 25 курсантаў здалі іспыт на права выкладання нямецкай мовы ў школе, а 28 вытрымалі іспыт на валоданне мовай[153].

Прафесійныя і маральныя якасці педагагічнага складу былі рознымі. Дынаміка і хуткасць працэсу стварэння беларускага школьніцтва ў першыя месяцы нямецкай акупацыі, а таксама недахоп у краіне кваліфікаваных педагогаў адмоўна ўплывалі на якасць навучальнага працэсу. Паміж беларускімі дзеячамі назіраліся пэўныя разнагалоссі ў пытаннях, звязаных з працай настаўнікаў. Вельмі патрабавальным у дачыненні да калег быў К. Езавітаў. У лісце да А. Махноўскага (11 лістапада 1941 г.) ён пісаў: “*Наша вучыцельства надта інэртнае […] а канкрэтнай працы робіць вельмі мала. Не хапае тэмпэраменту, ініцыятывы ды разумення абстаноўкі. Усё чакаюць,*

[149] BA, R92/101, s. 45–46, 54.

[150] BA, R92/102, s. 103.

[151] BA, R92/102, s. 110.

[152] *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* “Раніца” 1942, 15 лютага, с. 4.

[153] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 35, л. 13 зв, 15.

*што ім згары нехта зробіць. Патрэбна штодзённая праца. Штодзённая ўсведамляючая работа*”[154]. Дбаючы пра нацыянальнае аблічча настаўнікаў, аўтар вышэйзгаданых радкоў актыўна пашыраў сярод іх беларускую прэсу, якая выходзіла ў Рызе, Вільні, Менску, Берліне і Беластоку[155]. Вельмі адмоўна педагагічны склад школ ацэньваў кіраўнік Дзвінскага аддзела БНК А. Якубецкі, які скардзіўся, што некаторыя настаўнікі не праводзяць заняткаў на роднай мове, а вучні паміж сабой карыстаюцца чужой мовай. У сваю чаргу інспектар беларускіх школ ставіўся да гэтай справы значна больш памяркоўна[156]. 4 снежня 1942 г. А. Махноўскі пісаў да К. Езавітава і П. Мі880 Мірановіча: “*Мне добра вядомы недахопы кадраў вучыцельскіх і тая вучнёўская маса, якая запаўняе гэтую школу, але я лічу, што мы зараз заняты будаўнічай працай і павінны асцярожна і ўважліва падыходзіць і да рознашорснай вучнёўскай масы, і да набранага вучыцельскага персанала. Мне каштавала вялікіх высілкаў арганізацыя гэтае школы і я лічу, што такі падыход грам.[адзяніна] Якубецкага да справы беларускасці, які ён ўжывае, можа разагнаць вучняў і вучыцялёў. Так востра ставіць пытанні, закранутыя грам.[адзянінам] Якубецкім, мы маглі-бы тут у Дзвінску толькі пасля некалькі гадоў працы і пры іншых абставінах і варунках. Беларуская школа зараз перапоўнена беларусамі, быўшымі на працягу многіх дзесяцігоддзяў пад польскімі ўплывамі, і не адразу можна ставіць нацыянальнае пытанне гэтак востра, як ставіць гэта грам.[адзянін] Якубецкі. Павінен Вам давесці да ведама, што гэта спольшчаная беларуская вучнёўская маса набрана з ведама Дзвінскага Гебітскамісарыята, бо і яны таксама, і я, пераканаы ў іх беларускім паходжанні. Няма зараз у нас кім замяніць і тых вучыцялёў, якія ў школе працуюць. Прагнаць — гэта рэч вельмі простая, але сабраць — не так лёгка*”[157]. З аналізу архіўных крыніц вынікае, што ў некаторых беларускіх школах настаўнікі ў зносінах з вучнямі карысталіся не беларускай, а латышскай ці рускай мовамі. У сувязі з гэтым генеральны дырэктар асветы ў звароце да рэферэнта асветы Генеральнай акругі Латвія (12 снежня 1942 г.) патрабаваў выдання адмысловага загада аб тым, каб заняткі ў беларускіх школах адбываліся на роднай мове[158].

Каб палепшыць прафесійныя здольнасці педагагічнага складу, было вырашана зладзіць настаўніцкія курсы. Упершыню думка аб арганізацыі настаўніцкіх курсаў была агучана К. Езавітавым у лісце да А. Якубецкага

154 LVVA, P-712 f., 1 apr., 6 lieta, 7 lp.

155 К. Езавітаў арганізаваў распаўсюд у Латгаліі наступных перыёдыкаў: берлінскай “*Раніцы*”, менскай “*Беларускай Газэты*”, віленскага “*Беларускага Голасу*”, беластоцкай “*Новай Дарогі*” і рыжскага “*Новага Шляху*”.

156 Э. Екабсонс, *Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай…*, с. 213–214.

157 LVVA, P-712 f., 1 apr., 5 lieta, 23 lp.

158 BA, R92/102, s. 189.

ў сакавіку 1942 г. Тады старшыня БНК прапаноўваў зладзіць курсы: 1) падрыхтоўкі новых настаўнікаў; 2) удасканалення кваліфікацыі настаўнікаў без поўных педагагічных правоў і 3) беларусазнаўства для ўсіх беларускіх настаўнікаў. Сваю прапанову беларускі дзеяч абгрунтоўваў тым, што ад 1920-х гг. у Латвіі не было магчымасці ўдзелу ў курсах беларусазнаўства[159]. У лісце ад 7 траўня 1942 г. П. Мірановіч прасіў у Ф. Адольфі згоды на арганізацыю ў Індры ў перыяд з 1 ліпеня да 31 жніўня 1942 г. курсаў для выпускнікоў сярэдніх школ і курсаў удасканалення для настаўнікаў, якія атрымалі адукацыю ў небеларускіх школах. Рэферэнт беларускага школьніцтва апеляваў да нямецкага чыноўніка, каб на гэтыя курсы ў якасці выкладчыкаў былі запрошаныя асобы з Менска і Вільні[160]. У чэрвені 1942 г. быў атрыманы дазвол Ф. Адольфі на правядзенне пры індраўскай гімназіі 8-тыднёвых курсаў для настаўнікаў народных школ. Настаўнікі, якія не ўзялі ўдзелу ў гэтых курсах, пазбаўляліся права працаваць у школах у наступным навучальным годзе[161]. Арганізацыя і правядзенне курсаў была даручана С. Сахараву. Курсы, на якія было прынята 62 настаўнікі, адбываліся ў перыяд з 2 ліпеня да 29 верасня 1942 г. Удзельнікі праслухалі лекцыі па методыцы выкладання роднай мовы (32 гадзіны), беларусазнаўству (44 гадзіны), матэматыцы (48 гадзін), фізічным выхаванні (80 гадзін), дыдактыцы (24 гадзіны), гісторыі педагогікі (20 гадзін) і псіхалогіі (16 гадзін). Курсы скончыла 56 слухачоў, з якіх 33 чалавекі паходзілі з Дзвіншчыны, 17 — з Люцыншчыны, 3 — з Ілукшчыны, 2 — з Браслаўшчыны і 1 — з Рыгі[162].

Неабходна адзначыць, што недастатковая кваліфікацыя часткі настаўнікаў была не галоўным клопатам у працы беларускіх школ. Беларускае школьніцтва ў Латвіі адчувала вельмі востры недахоп хоць нейкіх педагагічных кадраў. Пасля ліквідацыі ў сярэдзіне 1930-х гг. беларускіх школ у гэтай краіне значна зменшылася колькасць настаўнікаў. У выніку інкарпарацыі ў 1940 г. Латвіі ў склад СССР адны педагогі эмігравалі з краіны, другія былі пераведзеныя новай уладай у іншыя рэгіёны савецкай дзяржавы альбо трапілі ў войска[163]. Падчас адыходу ўлетку 1941 г. Чырвонай арміі за лініяй фронту апынулася некалькі настаўнікаў-беларусаў (У. Пігулеўскі, Я. Каяла, М. Калінін, С. Дынабургскі, Я. Кучык, В. Слосман, М. Слосман). Акрамя таго, трое беларускіх настаўнікаў (Г. Нікіфароўская, Я. Кудраўцоў, Л. Булаўская), якія ў момант набліжэння да Латвіі нямецка-савецкага фронту

[159] LVVA, P-712 f., 1 apr., 5 lieta, 9 lp.

[160] BA, R92/102, s. 129–130.

[161] BA, R92/101 s. 130.

[162] *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 26 ліпеня, с. 3; *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 20 верасня, с. 3.

[163] BA, R92/101 s. 89.

вярталіся з Масквы з сельскагаспадарчай выставы, былі эвакуяваныя за Волгу[164]. Паводле К. Езавітава, сярод 26 дзейных беларускіх настаўнікаў з міжваеннага часу 5 памерлі, 2 загінулі, 7 вывезеныя, 6 накіраваныя ў Беларусь, а 6 не маглі працаваць у сувязі з сямейнымі абставінамі[165]. Кіраўнік БНК лічыў, што адсутнасць настаўнікаў была асноўнай прычынай, якая запавольвала стварэнне беларускага школьніцтва ў Латвіі[166]. Праблема асабліва адчувалася ў гімназіях. Менавіта недахоп настаўнікаў быў сур'ёзнай перашкодай для стварэння трэцяй гімназіі. К. Езавітаў адзначаў у лісце да К. Дуж-Душэўскага: "*Ёсць патрэба ў адкрыцці гімназіі і ў Дзвінску, але мы нават не смеемо лятуцець зараз аб гэтым, бо няма каму будзе ў ёй выкладаць*"[167]. Праблема ўскладнялася тым, што сярод беларускага настаўніцтва было няшмат асобаў з вышэйшай і спецыяльнай адукацыяй, якія маглі б выкладаць спецыяльныя прадметы. Напрыклад, у 1943/44 навучальным годзе ў беларускай гімназіі ў Індры не хапала настаўнікаў 6 прадметаў: беларускай мовы, лацінскай мовы, гісторыі, псіхалогіі, працы і спеваў. Падобныя цяжкасці існавалі ў гімназіі ў Розенаве[168]. Безумоўна, усё гэта не спрыяла якасці навучання. Дастаткова адзначыць, што ў 1942/1943 навучальным годзе ў многіх школах класы аб'ядноўваліся з мэтай больш рацыянальнага выкарыстання педагагічных кадраў[169].

Каб неяк вырашыць пытанне недахопу настаўніцкіх кадраў, рабіліся спробы запрасіць настаўнікаў з Беларусі і Літвы. Па запрашэнні БНК у Латвію прыехала некалькі спецыялістаў, якія тут нарадзіліся (паходзілі з беларуска-латышскіх сем'яў). Гэта былі выпускнікі Віцебскага педінстытута. Беларускі актыў разлічваў, што ў Латвію прыедзе больш беларускіх настаўнікаў з Віцебшчыны і Полаччыны. На пачатку 1942 г. у прэсе з'явілася абвестка, у якой настаўнікі заахвочваліся шукаць працу ў беларускіх школах Латвіі[170]. Шмат высілкаў у гэтым напрамку прыкладаў К. Езавітаў. Выкарыстоўваючы асабістыя кантакты, ён намагаўся зацікавіць працай у Латвіі знаёмых беларускіх дзеячаў. У ягоным лісце да Мікалая Анцукевіча чытаем: "…*мы маемо вольную пасаду кіраўніка 7-гадовае беларускае школы ў Зілупэ і выкладчыка беларускай мовы і латыні ў гімназіі ў Зілупэ (Розенаве). Гімназія дазволена. Калі-б Ваш ліст быў на тыдзень раней, дык маглі-б Вам запрапанаваць дырэктара-арганізатара. Але думаю,*

[164] *Беларускае жыцьцё ў Латвіі,* "Раніца" 1941, 20 лістапада, с. 3.
[165] BA, R92/102, s. 150.
[166] *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 22 лютага, с. 3.
[167] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 14, л. 10.
[168] BA, R92/102, s. 262; НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 35, л. 20 зв.
[169] *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 18 кастрычніка, с. 3.
[170] *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 15 лютага, с. 4.

*што на месцу вы з Сяргеем Пятровічам Сахаравым добра будзеце жыць. У Зілупэ будзе тры школы: 7-гадовая асноўная школа, гімназія і сельска-гаспадарчая. Калі-б Вы мелі нахіл да сельскае гаспадаркі, дык маглі-б Вам дырэктара ў гэтай школе. Аклад кіраўніка 7-гадовае школы 180 марак плюс 20% на кватэру, або сама кватэра. Затым лекцыі ў гімназіі, а калі захочаце, дык і ў сельска-гаспадарчай школе. Пажаданы Ваш пільны прыезд, каб пазнаёміцца з абставінамі на месцы. Галадаваць не будзеце, бо маемо сувязі тамака з сялянствам і глебаю! Справа цікавая, бо некалькі чалавек Вас у гэтым новым горадзе будзе пачынаць новую справу. Сярэдняе школы тутака ніколі не было яшчэ, і наплыў жадаючых вялікі*"[171].

Лідар латвійскіх беларусаў спрабаваў таксама знайсці адпаведных кандыдатаў сярод ковенскіх беларусаў. У лісце да Клаўдзія Дуж-Душэўскага (23 жніўня 1943 г.) чытаем: "*Ці не змаглі-бы Вы самі, або вядомыя Вам іншыя беларускія грамадзяне, прыбыць да нас на працу, хаця-ж бы часова; калі не зможаце назаўсёды, дык хаця-ж бы на год-два, пакуль падрасце нашая моладзь, якую мы будзема працягваць і праз універсітэт і праз вучыцельскія курсы. Дужа прашу Вас пільна мне адказаць аб сабе персанальна, а таксама і аб тых Вашых знаёмых, якія згодны былі-б да нас пераехаць. Нам патрэбны: 1) добры дырэктар, 2) выкладчык гісторыі, 3) выкладчык лаціны, 4) выкладчык нямецкае мовы, 5) выкладчык співаў і музыкі. Жыць прыдзецца сярод вясковага жыхарства, што палягчае ўтрыманне. […] Праводзіліся ў нас розныя "чысткі" людзей, адганялі людзей ад працы[…], а зара, калі прыйшла магчымасць рэальнае працы, дык задыхаемося без адпаведна падрыхтаваных сілаў. Назіраецца і гэткі дзікі стан рэчаў, што цэлы шэраг свядомых беларускіх гарамдзянаў, нават першакласовых дзеячоў у мінулым, сядзіць цяперака ў чужым асяроддзі і працуе на чужых, а да сваіх не едзе*"[172]. Жадаючых аднак не знайшлося. Яскрава сведчыць пра гэта адказ аднаго з віленскіх беларусаў, які 13 кастрычніка 1942 г. пісаў да К. Езавітава наступнае: "*Што тычыцца вашай прапановы адносна працы ў вашых гімназіях, то дзякуй Вам на добрым слове, але мушу сказаць, што працу я прыму толькі такую, якая зможа забеспечыць мой матар'яльны быт. Тут я займаю нібы кіраўнічае становішча, але заўсёды і я, і маё дзіця галадалі. Дык працаваць толькі дзеля таго, каб працаваць,— я не маю ахвоты*"[173].

Надзеі на прыезд настаўнікаў з Беларусі таксама былі дарэмныя, а пераезды ў Латвію мелі адзінкавы характар. Адной з перашкодаў былі фармальныя прычыны, паколькі кандыдат мусіў атрымаць дазвол

171 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 12, л. 14.
172 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 14, л. 10.
173 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 39, л. 11.

нямецкіх улад на пражыванне ў іншай акрузе[174]. Больш за тое, адбываўся рух у адваротным напрамку: з Латвіі назіраўся адток інтэлігенцкіх кадраў у Генеральную акругу Беларусь. Асабліва гэта тычылася памежных з Латвіяй раёнаў, дзе таксама пачало стварацца беларускае школьніцтва. 1 сакавіка 1942 г. А. Махноўскі інфармаваў К. Езавітава пра выпадкі, калі беларускія настаўнікі пераманьваліся на працу на Браслаўшчыну[175]. Лідар беларусаў Латвіі вельмі адмоўна ставіўся да гэтых дзеянняў. У сакавіку 1942 г. ён пісаў да інспектара беларускіх школ: "*Тыя пераманіванні нашых людзей у Браслаўшчыну, якія робіць Дварэцкі і Відаўскі, ёсць псаванне нашае працы тутака! Нам і ўсей беларускай справе куды важней, каб нашы тутэйшыя людзі асталіся на сваіх мясцох, бо яны робяць вялікую справу для нашага руху. Для Браслаўшчыны хай выпісваюць людзей з Прагі, Берліну, Коўні і Вільні*"[176]. Беларускі актыў быў вымушаны дамагацца ад нямецкай улады, каб настаўнікі не маглі рэгістравацца на выезд у Беларусь. У ліпені 1942 г. намаганнямі беларускіх дзеячаў быў спынены добраахвотны выезд настаўнікаў з Латвіі[177]. Справу ўскладняў той факт, што ў канцы 1942 г. генеральны камісар акругі Беларусь В. Кубэ выдаў распараджэнне аб тэрміновым вяртанні на радзіму тых нешматлікіх настаўнікаў, якія ў 1942/43 навучальным годзе выехалі ў Латвію і знайшлі працу ў школьніцтве. Інспектар А. Махноўскі прасіў старшыню Беларускага аб'яднання хадайнічаць перад уладамі Генеральнай акругі Латвія, каб гэтыя настаўнікі працягвалі працаваць у Латгаліі[178]. У снежні 1942 г. ён жа інфармаваў К. Езавітава, што з Латвіі ў Беларусь выехала 50–60 настаўнікаў. У выніку ў беларускіх школах Латвіі не хапала 21 настаўніка[179].

Пэўныя надзеі на павелічэнне шэрагаў настаўніцтва беларускі актыў ускладаў на выпускнікоў беларускіх гімназій, найбольш здольныя з якіх разглядаліся як патэнцыйныя настаўнікі для пяцігадовых народных школ. Праблема, аднак, заключалася ў тым, што вырашэнне гэтага пытання патрабавала значнага часу, паколькі першыя выпускі ў індраўскай і розенаўскай гімназіях маглі адбыцца ў 1945 і 1946 г. адпаведна[180].

[174] BA, R92/101 s. 30; НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 12, л. 21.

[175] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 33, л. 10.

[176] LVVA, P-712 f., 1 apr., 6 lieta, 17 lp.

[177] *Хроніка беларускага жыцьця ў Латвіі,* "Раніца" 1942, 19 ліпеня, с. 3.

[178] BA, R92/101 s. 195.

[179] BA, R92/101 s. 195.

[180] К. Езавітаў слушна адзначаў: "*Тады кадры нашых настаўнікаў у 5-класовых школах будуць ужо дастаткова забяспечаныя і мы зможам далей падрыхтоўваць настаўнікаў нармальным парадкам, праводзячы па сканчэнні гімназіі яшчэ і праз 2-х гадовыя вучыцельскія курсы, што дасць права гэтым настаўнікам выкладаць і ў нашых 7-класовых школах. Аднак чакаць 3–4 гады нашыя школы не могуць*". К. Езавітаў, *Патрэбны настаўнікі для беларускіх школаў у Лацьвіі,* "Раніца" 1943, 27 чэрвеня, с. 3.

Неабходна было шукаць іншыя шляхі змагання з недахопам педагагічных кадраў. У канцы 1942 г. кіраўніцтва Беларускага аб'яднання ў паразуменні з рэферэнтурай і інспектаратам беларускага школьніцтва пачало заахвочваць беларусаў, якія не мелі скончанай сярэдняй адукацыі, выязджаць на вучобу ў Віленскую настаўніцкую семінарыю, дзе кандыдатам з Латвіі прадстаўлялася стыпендыя і месца ў бурсе[181]. Вядома, што некалькі латвійскіх беларусаў скарысталіся такой магчымасцю[182]. 3 ліпеня 1942 г. старшыня Беларускага аб'яднання К. Езавітаў звярнуўся да кіраўніка аддзела культуры і асветы пры генеральным камісары ў Рызе з просьбай: 1) дапусціць да ўдзелу ў летніх настаўніцкіх курсах выпускнікоў сярэдніх школ, якія ў 1942/43 навучальным годзе жадалі працаваць у беларускіх народных школах; 2) даць згоду на адкрыццё беларускіх настаўніцкіх курсаў з ніжэйшай кваліфікацыяй (нешта накшталт настаўніцкай семінарыі) для выпускнікоў сямігадовых народных школ, каб праз 4 гады яны маглі атрымаць падрыхтоўку для настаўнікаў народных школ 1-й ступені (без права выкладання ў 6 і 7 класах); 3) даць згоду на правядзенне іспыту (паводле стандартаў настаўніцкіх курсаў) для асоб, якія атрымалі хатнюю адукацыю, каб яны маглі працаваць настаўнікамі ў народных школах[183].

Нямецкае школьнае кіраўніцтва, аднак, неахвотна ставілася да адыходу ад агульнапрынятах нормаў. Неўзабаве рэферэнт асветы Генеральнай акругі Латвія адмоўна паставіўся да прапаноў старшыні Беларускага аб'яднання. Нямецкі бок не пагадзіўся дапусціць да працы ў народных школах асоб з сярэдняй адукацыяй, якія праслухалі настаўніцкія курсы, але не мелі адпаведнай педагагічнай практыкі. Рэферэнт Ф. Адольфі прытрымліваўся погляду, што вышэйзгаданыя курсы давалі толькі тэарэтычную падрыхтоўку. Беручы, аднак, пад увагу востры недахоп педагагічных кадраў сярод беларусаў, нямецкі чыноўнік дапускаў магчымасць працы гэтых людзей у народных школах у якасці практыкантаў пад наглядам дасведчаных загадчыкаў. У выпадку адбыцця гадавой практыкі і атрымання станоўчых водгукаў загадчыка школы яны маглі накіроўвацца на настаўніцкія курсы і пасля здачы іспыту атрымаць пасаду настаўніка. Ф. Адольфі адмоўна паставіўся да ідэі адкрыцця 4-гадовых курсаў (настаўніцкай семінарыі), матывуючы гэта адсутнасцю попыту на такую ўстанову, які вынікаў з малой колькасці беларускіх школ. Ён лічыў, што ўтрыманне семінарыі было б фінансавым

---

181 *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1042, 25 снежня, с. 8.

182 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 16, л. 5.

183 BA, R92/101 s. 151–152.

цяжарам для мясцовай адміністрацыі. Замест гэтага нямецкі рэферэнт асветы прапанаваў магчымае адкрыццё ў будучыні беларускага аддзялення ў настаўніцкай семінарыі ў Рэжыцы ці Вібе. Не згадзіўся ён таксама арганізаваць іспыты для кандыдатаў з хатняй адукацыяй, абгрунтоўваючы сваю пазіцыю тым, што арганізацыя іспытаў належыць да кампетэнцыі гарадской адміністрацыі і мусіць адпавядаць агульным стандартам, прынятым у Генеральнай акрузе Латвія[184].

1 снежня 1942 г. П. Мірановіч звярнуўся да Ф. Адольфі з просьбай дазволіць адкрыццё ў Рызе курсаў падрыхтоўкі настаўнікаў для беларускіх школ, на якія прымалася б моладзь з поўнай сярэдняй адукацыяй. На пасаду кіраўніка курсаў прапаноўваўся С. Сахараў. Заслугоўвае ўвагі тое, што беларускі дзеяч прапаноўваў назваць гэтыя курсы "Беларускім настаўніцкім інстытутам" (*Weissruthenisches Lehrerer institut*). Рэферэнт лічыў пажаданым, каб навучанне было 6-гадовым, прычым класы ад 1 да 4 разглядаліся як класы агульнага профілю, у якія павінны былі прымацца выпускнікі сямігадовых народных школ. У старэйшыя класы (5 і 6) планавалася ажыццяўляць набор выхаванцаў гімназій, якія атрымлівалі б спецыяльную падрыхтоўку. Мірановіч сцвярджаў, што, дзякуючы адкрыццю гэтага "інстытута", знікла б неабходнасць стварэння беларускай сярэдняй школы ў Рызе, а выпускнікі курсаў маглі б папаўняць педагагічны склад беларускага школьніцтва як у Латвіі, так і ў Беларусі[185]. Аднак і гэта просьба не была задаволена акупацыйнымі ўладамі. Замест гэтага ў 1944 г. пры рэферэнтуры беларускага школьніцтва была створана экзамінацыйная камісія для асоб з няпоўнай педагагічнай адукацыяй, якія былі дапушчаныя да працы ў народных школах. Кандыдаты мусілі вытрымаць іспыт па педагагічных прадметах. У склад згаданай камісіі ўвайшлі: К. Езавітаў, Я. Кастылюк і С. Сіцько[186]. 3 траўня 1944 г. у Рызе пачалі працу летнія настаўніцкія курсы ўдасканалення кваліфікацыі (кіраўнік Я. Кастылюк), у якіх узялі ўдзел 40 чал. На гэтых курсах выкладаліся беларуская літаратура і методыка гісторыі (К. Езавітаў), методыка геаграфіі (Я. Кастылюк), методыка прыродазнаўства (С. Сіцько), методыка малявання і каліграфіі (П. Мірановіч), методыка спеву (М. Грыўскі)[187]. Курсы былі выкананы ў поўным памеры і скончыліся згодна з праграмай. Аднак падрыхтаваныя на іх настаўнікі ўжо не

184 BA, R92/102, s. 153.

185 BA, R92/101 s. 89–90.

186 *Беларускае жыцьцё ў Латвіі,* "Раніца" 1944, 2 красавіка, с. 3.

187 *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1944, 21 траўня, с. 3.

здолелі выкарыстаць атрыманых ведаў у новым навучальным годзе, паколькі ўжо ўлетку 1944 г. Латгалія была занята Чырвонай арміяй[188].

Праблема недахопу настаўнікаў не знікла на працягу ўсяго часу існавання беларускага школьніцтва. Сведчыць аб гэтым факт, што ў апошні год нямецкай акупацыі беларускія дзеячы Латвіі працягвалі ў роспачы шукаць дапамогі ў Генеральнай акрузе Беларусь. Вельмі яскрава сітуацыю адлюстроўвае ліст К. Езавітава да М. Шкялёнка (7 траўня 1944 г.): "*Старых працаўнікоў і вучыцялёў у нас стала зусім мала: у Рызе на тры школы толькі тры старых вучыцялі-кіраўнікі, а рэшта ў нас усё моладзь і жанчыны. Адчуваемо страшэнную патрэбу ў новых сілах, асабліва для гімназіі. У свой час згаджаліся сюды прыехаць некаторыя грамадзяне з Менску, але ніяк справа гэтая стала на мейсцу, бо яны не атрымалі прапускоў. Дужа хацеў бы звольніцца з працы ў школе, бо адбірае гэта шмат часу, а сілы мае магчыма было-б выкарыстаць на іншай больш адказай і шырокай працы, аднак мне патрэбна замена, якой тутака не маемо. Дужа цяжкі стан стварыўся ў гімназіі: вучні — ёсць і будуць павялічвацца з кождым годам, сродкі — маемо, лічба класаў — расце кожды год, а настаўнікаў не хапала ўжо ў 1943-м годзе, а ўвосені будзе яшчэ цяжэй, бо прыбавяцца новыя класы. Ці не дасце Вы нам: 2-х выкладчыкаў беларускае мовы, але з вышэйшаю асветаю і пры тым пажадана, каб вышэйшая асвета была атрымана не ў савецкіх вышэйшых школах, якія дыпломы тутака не вызнаюцца латышамі, 2-х выкладчыкаў нямецкае мовы і аднаго прыродаведа. Праца ў Розенаве і Бальбінове. Варункі аплаты — добрыя. Жыццёвыя ўмовы — таксама добрыя*"[189].

У беларускіх школах Латвіі, асабліва на першым этапе іх стварэння, моцна адчуваўся таксама недахоп падручнікаў і школьнай літаратуры. Асаблівае запатрабаванне было на падручнікі па беларускай граматыцы, гісторыі, геаграфіі, арыфметыцы, прыродазнаўстве і нямецкай мове. Акрамя таго, з ліставання дырэктара індраўскай гімназіі С. Сахарава з К. Езавітавым вынікае, што першы скардзіўся на адсутнасць беларускага тэрміналагічнага слоўніка па гімнастыцы[190]. Беларускі актыў Латвіі мусіў паклапаціцца, каб прынамсі часткова забяспечыць школы дапаможнікамі. Значны

[188] Захавалася сведчанне Уладзіміра Брылеўскага, які прысутнічаў на ўрачыстасці закрыцця курсаў. Вось якім чынам ён узгадваў гэтую падзею: "*Урачыстасць адчыніў кароткім, але змястоўным словам кіраўнік курсаў і канферэнцыі Канстанцін Езавітаў, які прадставіў нас прысутным настаўнікам. Усе настаўнікі і настаўніцы былі маладыя векам людзі. Відаць было, што яны любяць сваю працу і ставяцца да яе паважна. Бачачы іхні энтузіязм, рабілася радасна і бадзёра на душы. На просьбу Езавітава прамовіў да настаўнікаў Уладзімір Глыбінны, а пасля яго Алесь Салавей прадэманстраваў колькі сваіх вершаў. Па тварах і прамяністых позірках настаўнікаў мы бачылі, што ўсё чутае моцна закранулі іхнія сэрцы. Яны перажывалі вялікую духовую радасць*". У. Брылеўскі, *Незабыўны дзень у маім жыцці. Апошняя сустрэча з Канстанцінам Езавітавым*, (у:) *Крывіцкія руны. Беларускі культурны мацярык у Латвіі*, Менск 2017, с. 335.

[189] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 18, л. 15.

[190] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 35, л. 16.

ўнёсак у гэтую справу зрабіў К. Езавітаў. Менавіта да яго ў першую чаргу звярталіся настаўнікі з просьбай аб атрыманні неабходных падручнікаў і літаратуры. Увесну 1942 г. газета *Раніца* пісала, што малодшыя класы ўдалося забяспечыць школьнай літаратурай, а вось у старэйшых гэта праблема заставалася актуальнай. Распачаўся пошук у насельніцтва старых выданняў[191]. Кіраўнік Беларускага аб'яднання адзначаў: "*Беларускае настаўніцтва з вялікім натугам збірае рэшткі беларускіх кніжок, якія былі перахоўваныя асобнымі грамадзянамі, якія верылі, што знішчыць беларускую мяншыню латышскім чыноўнікам-шавіністам не ўдасца, і раней ці пазней, а беларускія школы зноў будуць працаваць*"[192].

Пэўную дапамогу К. Езавітаву ў пошуку патрэбнай літаратуры аказвалі знаёмыя дзеячы з Вільні, Менска, Берліна і Беластока. Дзякуючы асабістым знаёмствам К. Езавітава з гэтымі людзьмі, у Латвію траплялі выданні, якія выйшлі пад нямецкай акупацыяй. Улетку 1942 г. Янка Станкевіч выслаў лідару латвійскіх беларусаў 200 асобнікаў сваёй кнігі *Крыўя — Беларусь у мінуласьці* (Менск, 1942). Апошні даслаў таксама К. Езавітаву некалькі рукапісаў школьных падручнікаў і заахвочваў да іх выдання ў Рызе[193]. Некаторыя выданні кіраўнік Беларускага аб'яднання атрымліваў ад Яна Бекіша з Вільні[194]. Тым часам старшыня Беларускага камітэта самадапамогі ў Берліне Мікалай Абрамчык пераслаў у Рыгу пэўную колькасць асобнікаў выдання *Гісторыя Беларусі ў картах* (Берлін, 1942)[195]. Літаратура, якую кіраўнік Беларускага аб'яднання атрымліваў ад знаёмых дзеячаў, ён прадаваў настаўнікам і вучням у Латгаліі і Ілукшчыне[196]. Нярэдка настаўнікі былі вымушаныя за ўласныя грошы набываць літаратуру. 23 лістапада 1942 г. кіраўнік школы ў Неўлінях Пустынскай воласці С. Кірыловіч пісаў К. Езавітаву, што ў школьнай бібліятэцы няма ніводнай беларукай кнігі, а ўсе латышскія. Неўзабаве настаўнік прасіў выслаць яму выданні *Беларусь у песьнях*, *Новая зямля* і *Сымон-музыка* і адначасова хацеў, каб школьная ўправа вылучыла адпаведныя сродкі на школьную бібліятэку, бо настаўнікі не мелі грошай[197]. Незалежна ад К. Езавітава, інспектарат беларускіх школ звяртаўся да сваіх калег у Генеральнай акрузе Беларусь з просьбай даслаць неабходную літаратуру. Так, 11 кастрычніка 1943 г. А. Махноўскі ў лісце да Язэпа Найдзюка прасіў даслаць шэраг кніг на патрэбы беларускіх

[191] *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 22 лютага, с. 3.

[192] *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* "Раніца" 1942, 29 сакавіка — 5 красавіка, с. 5.

[193] *Лісты Янкі Станкевіча да Кастуся Езавітава (1939–1942),* "Спадчына" 1999, № 5–6, с. 63.

[194] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 13, л. 10.

[195] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 12, л. 8.

[196] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 17, л. 17–18.

[197] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 32, л. 5.

школ у Латвіі. У першую чаргу ён звяртаў увагу на тое, што найбольш запатрабаванае выданне Язэпа Лёсіка *Беларускі Правапіс*[198].

Пытанне недахопу падручнікаў можна было таксама вырашыць шляхам арганізацыі выдавецкай дзейнасці на патрэбы школы. З ініцыятывы К. Езавітава ў сярэдзіне 1942 г. сярод настаўнікаў пачаўся збор сродкаў на выдавецкі фонд. Акцыю ініцыявалі педагогі дзвінскай школы, а потым яе падтрымала астатняе настаўніцтва Дзвіншчыны і часткова Люцыншчыны. Кожны настаўнік ахвяроўваў на справу адзін месячны заробак[199]. У гэтай справе К. Езавітаву дапамагаў інспектарат беларускіх школ[200]. Часам удавалася сабраць нядрэнныя сумы. Напрыклад, 13 чэрвеня 1943 г. інспектар беларускіх школ паведамляў, што ён атрымаў ад настаўніцтва Дзвіншчыны 1550 рэйхсмарак[201]. Праца прынесла свой плён, і ў сярэдзіне 1943 г. накладам 3 тыс. асобнікаў выйшла чытанка *Беларуская школа* (перадрук даваеннага выдання). Выданне аказалася вельмі карысным у педагагічнай працы, хоць і не пазбаўленым пэўных хібаў. У лісце да А. Махноўскага выдавец скардзіўся, што праз невялікі наклад кошты выдання былі вельмі вялікія. Больш за тое, тэкст рыхтавалі да друку латышскія наборшчыкі, якія не ведалі беларускай мовы, што адбілася на якасці[202]. Многім выдавецкім праектам не было наканавана здзейсніцца. Не выйшаў друкам беларуска-нямецкі слоўнік, які ўлетку 1942 г. апрацаваў К. Езавітаў супольна з П. Бруноўскім і П. Масальскім. Не пабачылі свету зборнік народных твораў пад рэдакцыяй Сяргея Сахарава і рукапісы падручнікаў Зофіі Дабжыньскай — лемантара і чытанкі *Наша кляса*. Не ўдалося перавыдаць у Рызе *Арытмэтыку* гэтай жа аўтаркі[203].

Матэрыяльны стан беларускіх школ быў розны. Многія праблемы тлумачыліся ўмовамі ваеннага часу. У гаспадарчых справах школы падпарадкоўваліся генеральнай дырэкцыі. Нярэдка школьныя будынкі рэквізаваліся акупацыйнымі ўладамі на патрэбы Вермахта. Так, пяцігадовая школа ў Грыве праз адсутнасць памяшкання, якое было занятае нямецкімі войскамі, з лістапада 1942 г. размяшчалася ў будынку былой сінагогі ў Дзвінску. Падобны лёс напаткаў беларускія гімназіі ў Індры і Розенаве, будынкі якіх у 1943 г. былі занятыя на патрэбы войска. У Індры гімназія размяшчалася найперш (люты 1943 — люты 1944 г.) у будынку мясцовай

198 LVVA, P-712 f., 1 apr., 5 lieta, 26 lp.

199 Ю. Туронак, *Беларуская кніга пад нямецкім кантролем*, [у] Ю. Туронак, *Мадэрная гісторыя Беларусі,* Вільня 2006, с. 342.

200 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 16, л. 5.

201 LVVA, P-712 f., 1 apr., 5 lieta, 18 lp.

202 LVVA, P-712 f., 1 apr., 4 lieta, 36 lp.

203 Ю. Туронак, *Беларуская кніга пад нямецкім кантролем*…, с. 342–344.

беларускай народнай школы, дзе заняткі адбываліся ў другую змену, а потым (ад лютага 1944 г.) — у адным з прыватных дамоў. У Розенаве ў 1943 г. настаўнікі і вучні двойчы мусілі змяняць месцазнаходжанне ў прыватных дамах (у лістападзе 1943 г. адзін з двух будынкаў быў заняты нямецкімі жаўнерамі, таму два класы гімназіі былі вымушаныя зноў шукаць сабе месца)[204]. Заняткі ў пустынскай школе восенню 1942 г. не маглі распачацца з-за адсутнасці адпаведнага будынка[205]. Школьны будынак у Дземене быў падзелены паміж латышскай (66 вучняў) і беларускай (87 вучняў) школамі, прычым з чатырох пакояў беларусы займалі толькі адзін. Недахоп месца адчувала таксама беларуская школа ў Гаравой, дзе адным памяшканнем карысталіся дзве школы: беларуская і латышская. Пры гэтым беларускія настаўнікі не атрымалі аніводнага пакою. На думку інспектара беларускіх школ, кіраўнік латышскай школы беспадстаўна забраў два пакоі з кухняй, якія належалі беларусам. У выніку загадчык школы І. Блажэвіч быў вымушаны жыць у пакоі канцылярыі, дзе таксама начавалі вучні, якія паходзілі з аддаленых ад школы вёсак. Пры гэтым сям'я кіраўніка школы жыла асобна, паколькі не было магчымасці размясціць яе ў школьным будынку[206]. Пакідала жадаць лепшага матэрыяльнае становішча вучняў гэтай школы, якія нярэдка не мелі абутку і адзення, што было адной з прычын нізкай прысутнасці на занятках. Інспектар А. Махноўскі лічыў, што гэта вынік недапрацовак валаснай адміністрацыі, якая не вылучала ніякіх сродкаў на набыццё адпаведнай колькасці абутку і адзення. Аднак пасля пісьмовага запыту інспектара ў сакавіку 1943 г. беларускай школе ў Гаравой было прызначана 500 купонаў на тэкстыльныя вырабы[207].

Цяжкае становішча перажывала таксама школа ў Пустыне. У лісце кіраўніка А. Клагіша да старшыні Беларускага аб'яднання чытаем: "*У тым выпадку, калі нам не дазволяць займацца ў школьным памяшканні, а ці ў крайнім выпадку на дзве змены з латышамі ў памяшканні латышскае школы, то справа беларусаў будзе зусім кепская. Ужо цяпер латышы падсмейваюцца, кажучы, што беларуская школа і мова можа быць у правінцыі, а не ў Пустыне, няхай гэты год адпачнуць і г.д. Тыя-ж … памешканні, якія прэдлажыў камандзір роты, не толькі не адпавядаюць школьным умовам, але калі бацькі даведаліся аб гэтым, то вельмі абразіліся і бачуць у гэтым здзек і бязсілле беларусаў перад латышамі. Дзякуючы гэтай сітуацыі бацькі страцілі веру ў тое, што беларусы маюць правы такія,*

[204] Э. Екабсонс, *Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай…*, с. 215.

[205] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 15, л. 10.

[206] BA, R92/102, s. 203.

[207] BA, R92/102, s. 241.

*як латышы. Таму зараз устрымліваюцца ад пасылкі дзяцей у беларускія школы не толькі ў Пустыне*"[208].

Стан бяспекі ў большасці школ не выклікаў пытанняў. Толькі ў асобных выпадках ён быў няпэўны, паколькі некаторыя школы знаходзіліся на абшарах, на якіх дзейнічала савецкая партызанка. У 1942–1943 гг. адбыўся шэраг нападаў партызан на беларускія школы. 28 лістапада 1942 г. ахвярай атакі стаў кіраўнік Шушкоўскай школы (Шкяўнская воласць) Аляксандр Чаркоўскі. Партызаны захапілі прыватную і школьную маёмасць. 11 снежня партызаны зноўку напалі на школу і часткова знішчылі будынак. У выніку савецкага тэрору ў ліпені 1943 г. школа спыніла сваю дзейнасць, а частка вучняў была скіраваная ў балтыньскую народную школу (Пасіенская воласць), але і ў гэтай школе ў лістападзе 1943 г. спынілася навучанне[209].

Ва ўмовах ваеннага часу ўзнікла яшчэ адна праблема ў дзейнасці беларускіх школ. У 1943 г. колькасць вучняў паменшылася ў сувязі з частымі акцыямі па вывазе насельніцтва на прымусовую працу і прызывам моладзі ў вайскова-паліцэйскія фарміраванні. Асабліва гэтая праблема адчулася ў 1943/44 навучальным годзе, калі быў створаны Латвійскі легіён СС. 30 сакавіка 1943 г. С. Сахараў інфармаваў кіраўніка Беларускага аб'ядання аб тым, што ў легіён узята з розенаўскай гімназіі 2 вучні, а з сельскагаспадарчай школы — 5[210]. Пазней заняткі ў гімназіі ў Розенаве апынуліся пад пагрозай зрыву, бо значная частка вучняў "*пайшла дабравольцамі на ваенную службу*" ці была "*ўзята на працу*". 25 кастрычніка 1943 г. П. Міранович інфармаваў Генеральную дырэкцыю адукацыі і культуры аб тым, што мабілізацыя юнакоў у войска зрабіла немагчымым стварэнне ў гімназіі ў Індры паралельных груп для 4 класа. Вядомыя выпадкі, калі вучні і настаўнікі беларускіх школ добраахвотна ўступалі ў Латышскі легіён СС. Прыкладам можа быць кіраўнік Зарэцкай (Айзупскай) школы Віктар Завіша, які ўвесну 1943 г. паступіў на вайсковую службу. Можна назваць прозвішчы некаторых вучняў беларускіх школ, якія трапілі ў Латвійскі легіён СС і загінулі на фронце[211].

Беларускае школьніцтва пад нямецкай акупацыяй спыніла сваё існаванне пасля заняцця Латгаліі Чырвонай арміяй летам 1944 г. На жаль, не захавалася шмат звестак аб працы школ у апошнія месяцы перад прыходам савецкай улады. Па-рознаму склаўся паваенны лёс

208 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 32, л. 9.

209 Э. Екабсонс, *Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай…*, с. 215.

210 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 35, л. 32 зв.

211 Навучэнец 4-га класа беларускай гімназіі ў Індры Генрых Блажэвіч у лістападзе 1943 г. быў прыняты ў Латвійскі легіён СС, а ўвесну 1944 г. юнак загінуў на фронце. Э. Екабсонс, *Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай…*, с. 218.

беларускіх дзеячаў, якія бралі чынны ўдзел у арганізацыі і развіцці школьнай справы. Вядома, што некаторыя з іх апынуліся на эміграцыі (А. Махноўскі, П. Міранові́ч, М. Дзямідаў), іншыя загінулі альбо прайшлі праз сталінскія лагеры (К. Езавітаў, С. Сахараў). Аднак гэтае пытанне патрабуе асобнага даследавання.

Падсумоўваючы, належыць адзначыць, што пад нямецкай акупацыяй у Латвіі адбылося ажыўленне мясцовага беларускага руху. Галоўным чыннікам, які гэтаму паспрыяў, была нацыянальная палітыка акупантаў. Кіруючыся халодным палітычным разлікам і жаданнем падначаліць сабе захопленыя землі, Трэці рэйх дазволіў існаванне пэўнай культурна-асветнай аўтаноміі для беларусаў. Асноўнай праявай беларускага жыцця ў гэты час было адраджэнне ў Латгаліі школьніцтва, якое не існавала тут з 1934 г. Беларускія дзеячы разглядалі школьніцтва як кузню беларускай нацыянальнай свядомасці і гарант захавання беларускай прысутнасці на дадзеным абшары. Маштаб беларускай школьнай дзейнасці нічым не саступаў яе паказчыкам у 1921–1934 гг., а ў дачыненні да пазнейшага перыяду — знаходжання краіны пад панаваннем рэжыму Карліса Ульманіса (1934–1940 гг.), а потым пад савецкай акупацыяй (1940–1941 гг.) — быў непараўнальна большы. Беларускае школьніцтва мусіла змагацца са шматлікімі цяжкасцямі, галоўнымі сярод якіх можна лічыць недахоп кваліфікаваных настаўнікаў і падручнікаў, а таксама кепскі матэрыяльны стан. Актыўнасць беларусаў на школьнай ніве выклікала канфлікт з латышамі, якія бачылі ў ёй імаверную пагрозу страты ў будучыні часткі Латгаліі. Нягледзячы, аднак, на розныя праблемы, размах школьнай працы не можа не ўражваць. Агулам пад нямецкай акупацыяй беларускае школьніцтва ў Латвіі налічвала дзве гімназіі, адну сельскагаспадарчую школу і 35 народных (у тым ліку 15 — сямігадовых і 20 — пяцігадовых) школ. Напрыканцы 1942 г. агульная колькасць вучняў гэтых школ складала 3888 чалавек. У беларускім школьніцтве працавала каля 100 настаўнікаў[212]. Бясспрэчна, гэтыя дасягненні былі магчымы перадусім дзякуючы самаахвярнай працы мясцовага беларускага актыву.

## Streszczenie

Jerzy Grzybowski, *Z dziejów szkoły białoruskiej na Łotwie pod okupacją niemiecką (1941–1944)*

Międzywojenne państwo łotewskie cechowała różnorodna struktura narodowościowa. Wśród najliczniejszych grup mniejszościowych należy wymienić Białorusinów. Zwarte skupiska ludności białoruskiej znajdowały się

[212] *Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі,* “Раніца” 1943, 28 лютага, с. 3.

w Łatgalii i częściowo w Semgalii. W latach 1921–1934 łotewscy Białorusini cieszyli się szeroką autonomią szkolną, której kres położył zamach stanu w 1934 r. przeprowadzony przez Karlisa Ulmanisa. W okresie okupacji niemieckiej Łotwy w latach 1941–1944 zaistniały okoliczności sprzyjające odbudowie szkolnictwa białoruskiego w tym kraju. Władze okupacyjne, kierując się zasadą "dziel i rządź", umożliwiły ponowne otwarcie szkół białoruskich — podstawowych i średnich. W ten sposób Niemcy usiłowali pozyskać działaczy białoruskich do własnych celów politycznych. Okupanci postrzegali ludność białoruską jako przeciwwagę dla wpływów łotewskich i polskich w regionie. Toteż popierano działania na rzecz wyodrębnienia Białorusinów ze społeczności łotewskiej, ponieważ tę ostatnią po wojnie zamierzano poddać germanizacji. Trud organizacji szkół podjęła nieliczna grupa działaczy białoruskich mieszkających na Łotwie. Ich działalność zmierzającą do reaktywacji szkolnictwa należy uznać za niezwykle owocną. Wymownie dowodzi tego fakt, że w omawianym okresie w Okręgu Generalnym Łotwa działały łącznie 2 gimnazja, 1 szkoła rolnicza i 35 szkół ludowych (podstawowych), do których uczęszczało ok. 4 tys. uczniów. Zatrudniono w nich blisko 100 nauczycieli. Niewątpliwie działalność pedagogiczna nosiła na sobie piętno czasu, w którym była prowadzona. Nauczyciele musieli ściśle stosować się do obowiązujących zasad ustalonych przez władze okupacyjne. Niemniej jednak działacze białoruscy traktowali szkolnictwo jako ważny czynnik kształtujący i podtrzymujący poczucie białoruskiej tożsamości narodowej.

Białoruska akcja szkolna wywołała dezaprobatę ze strony niektórych Łotyszy, którzy upatrywali w niej zagrożenie dla własnych interesów. Łotewska administracja szkolna wielokrotnie podejmowała próby zahamowania rozwoju szkolnictwa białoruskiego. Zabiegano również u Niemców o zamknięcie już istniejących szkół i stosowano represje wobec nauczycieli. Również stosunki Białorusinów z miejscowymi działaczami rosyjskimi nie układały się najlepiej. Rozdźwięki owe wynikały z faktu, że pomiędzy działaczami białoruskimi, łotewskimi i rosyjskimi trwała swoista rywalizacja o rząd dusz słowiańskojęzycznego włościaństwa w Łatgalii. Szkolnictwo białoruskie musiało zmierzyć się z wieloma problemami natury materialnej, a także z brakiem wykwalifikowanej kadry nauczycielskiej. Pomimo powyższych trudności białoruskie szkolnictwo funkcjonowało i działalność ta przynosiła efekty — co roku szkoły podstawowe w języku ojczystym kończyło blisko 200 absolwentów. Funkcjonowanie szkolnictwa białoruskiego w Łatgalii i Semgalii dobiegło końca latem 1944 r. wraz z nadejściem Armii Czerwonej.

## Summary

Jerzy Grzybowski, *From the history of Belarussian education in Latvia under German occupation (1941–1944)*

The inter-war Latvian state was marked by a varied national structure. The Belarusiansshould be mentioned as one of the largest minority groups. The tight-knit group of Belarussians could be found in Latgale, as well as partly in Semigallia. In the years 1921–1934, Latvian Belarusian enjoyed wide educational autonomy, which ended with the 1934 coup carried out by Karlis Ulmanis. During the German occupation in the years 1941–1944, circumstances occurred that were beneficial to Belarusian-language education in Latvia. The occupational authorities, utilising the principle of "divide and rule", enabled the opening of Belarusian schools once more — both elementary and secondary. In this way, the Germans attempted to gain Belarusian activists for their own political ends. The occupiers perceived the Belarusian population as somewhat of a counterweight to Latvian and Polish influences in the region. Thus, activities connected to distinguishing Belarusians from Latvian society were supported, as the latter was to be Germanised after the war. Organising schools was taken up by a small group of Belarusian activists living in Latvia. Their activity, intended to reactivate education, should be evaluated as very fruitful, indeed. That fact that during the above period in General District Latvia there were two gymnasiums, one agriculture school and thirty-five folk (elementary) schools operating with around 4000 students speaks volumes. Altogether they employed almost 100 teachers. Undoubtedly, pedagogic activity carried the mark of the times in which it took place. Teachers had to strictly adhere to the binding regulations put in force by the occupying authorities. Nonetheless, Belarusian activists treated education as an important factor in moulding and maintaining the feeling of Belarusian national identity.

The Belarusian education action elicited disapproval from the side of certain Latvians who perceived a threat to their own interestsin this activity. The Latvian education administration attempted to slow the development of Belarusian schooling on numerous occasions. They also appealed to the Germans to close existing schools. Relations between Belarussians and local Russian activists were also strained. These discords resulted from the fact that a rivalry existed between the Belarusian, Latvian and Russian activists for supremacy over the Slavic-speaking souls of the Latgale peasants. Belarusian education had to fend with many material problems, as well. What is more, the schools were constantly plagued with a lack of qualified teaching staff. Despite the above difficulties, Belarusian education functioned and brought effects — every year, close to 200 students graduated elementary school in their native language. The activity of Belarusian schools in Latgale and Semigallia was ended in the summer of 1944 by the arrival of the Red Army.

# Працы сяброў ЦБС

**Генадзь Семянчук**
**(Варшава/Гродна)**

## Кіеўскае княжанне Усяслава Брачыславіча (верасень 1068 — красавік 1069 г.)

Імя Усяслава Брачыславіча бясспрэчна стварае магутны вузел беларускай гісторыі. Французскі даследчык П'ер Нара назваў бы яго "месца-памяць"[1]. Але сапраўднага навуковага жыццяпісу полацкага князя Усяслава мы па-сёняшні дзень не маем. Пры тым, што гістарычная біяграфія, якая з'яўляецца адным са старажытнейшых жанраў гістарыяграфіі, надалей карыстаецца шырокай папулярнасцю. У падобных працах галоўным аб'ектам даследавання з'яўляецца чалавечая асоба. *"Адрозненне гэтага накірунку даследаванняў ад звыклага жанру гісторый з "жыцця знакамітых людзей" і так званых гістарычных партрэтаў складаецца ў тым, што ў ім асабістае жыццё і лёсы асобных гістарычных індывідаў, фармаванне і развіццё іх унутранага свету, "сляды" іх дзейнасці ў рознамаштабных прамежках прасторы і часу выступаюць адначасова як стратэгічная мэта даследавання і як адэкватны сродак пазнання гістарычнага соцыума, у якім яны існуюць і які адначасова ствараюць і такім чынам карыстаюцца ім дзеля высвятлення сацыяльнага кантэксту, а не наадварот, як гэта практыкуецца ў традыцыйных біяграфіях"*[2]. Гэта дае нам права паспрабаваць разглядзець скрозь біяграфію гістарычнай асобы тыя знакавыя (ключавыя) для нашай гісторыі моманты, якія, магчыма, не бачныя з іншых пунктаў гледжання. Асобы, рашэнні і ўчынкі якіх адыгралі вызначальную ролю ў гістарычных лёсах іх (і не толькі) народаў альбо дзяржаў, рабіліся сымбалямі гістарычнай альбо этнічнай самасвядомасці.

---

[1] П. Нора, *Между памятью и историей. Проблематика мест памяти*, [в:] *Франция-память*, ред. П. Нора, Санкт-Петербург 1999, с. 17–50.

[2] Л. П. Репнина,"*Новая историческая наука" и социальная история*, Москва 1998, с. 262–263.

Часам па невядомых для нас прычынах яны маглі і не ператварыцца ў “месцы памяці”, не зрабіцца сымбалямі. “*Праблема герояў мінулага — гэта праблема як гістарычная, так і гістарыяграфічная. У першым выпадку ідзе гаворка пра ўказанне на дзейнасць людзей, якіх называюць героямі, і пра вызначэнне іх ролі ў гістарычным працэсе, у другім жа — пра аналіз месца праблематыкі герояў у гістарычнай нарацыі, гэта значыць, пра рэфлексію над тым, якім чынам дзейнасць герояў мінулага адлюстравалася ў гістарыяграфіі. Героі мінулага існуюць толькі тады, калі яны прысутнічаюць у калектыўнай памяці, у традыцыі, у гістарычнай свядомасці альбо ў гістарыяграфіі. Па-за гэтымі формамі гістарычнага кадавання не існуюць не толькі героі, але і ўсе іншыя гістарычныя факты. Калі яны не замацаваліся ў той ці іншай форме грамадскай свядомасці, калі яны мелі месца ў мінулым, трапляюць у забыццё. У рэшце рэшт, менавіта гістарыяграфія з’яўляецца тым інструментам, які ў вялікай ступені ўплывае (галоўным чынам праз адукацыю) на замацаванне спіса герояў у дадзеным грамадстве (асабліва маюцца на ўвазе народы), а таксама на тое ці іншае разуменне іх ролі ў гісторыі*”[3].

Шматлікія аспекты, звязаныя з жыццём і дзейнасцю Усяслава Брачыславіча, неаднойчы разглядаліся ў навуковай і навукова-папулярнай літаратуры[4]. Нам таксама неаднаразова даводзілася звяртацца да асобы

[3] J. Topolski, *Jak się pisze i rozumie historię. Tajemnice narracji historycznej,* Warszawa 1996, s. 310.

[4] В. Е. Данилевич, *Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия*, Киев 1896, с. 63–70; Д. С. Леонардов, *Полоцкий князь Всеслав и его время*, “Полоцко-Витебская старина”, 1912, вып. 2, с. 121–216, 1916, вып.3, с. 87–180; R. Jakobson, G. Ruzicic, *The Serbian Zmaj ognjeni vuk and the Russian Vseslav Epos*, [w:] *Extrait de l’Annuare de l’Institut de Philologie et d’Histoire Orientales et Slaves*, Bruxelles 1950, t. X, s. 343–355; R. Jakobson, M. Szeftel, *The Vseslav epos*, [w:] Roman Jakobson, *Selected Writings*, The Hague 1966, vol. 4, p. 301–368; Б. В. Сапунов, *Всеслав Полоцкий в “Слове о полку Игореве”*, “Труды отдела древнерусской литературы Института русской литературы”, Ленинград 1961, том XVII, с. 75–84; Л. В. Алексеев, *Полоцкая земля (очерки истории Северной Белоруссии) в IX–XIII вв.*, Москва 1966, с. 241–252; Б. А. Рыбаков, *Древняя Русь. Сказания. Былины. Летописи,* Москва 1963, с. 85–98; ён жа. *Русские летописцы и автор “Слова о полку Игореве”*, Москва 1972, с. 451–457; Д. С. Лихачёв, *Скоморох Всеслав и ток на Немиге*, [в:] *Древности славян и Руси*, Москва 1988, с. 138–140; М. Ермаловіч, *Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды*, Мінск 1990, с. 107–150; С. В. Тарасаў, *Чарадзей сёмага веку Траяна. Усяслаў Полацкі,* Мінск 1991; J. Powierski, *Kryzys rządów Bolesława Smiałego. Polityka i jej odzwierciedlenie w literaturze średniowiecznej*, Gdańsk, 1992, s. 10–18, 27, 32–33, 35–40, 45–46, 53–60; А. А. Косоруков, *Любимые идеи — легенды — факты (Образ Всеслава Полоцкого в летописях, в “Слове о полку Игореве” и образ Вольха Всеславича в былинах)*, “Герменевтика древнерусской литературы”, вып. 5: XI–XIV вв., Москва 1992, с. 124–228; Ю. А. Заяц, *Полоцкий князь Всеслав и Ярославичи в 1065–1066 гг.: от Пскова до Белгорода*, “Гістарычна-археалагічны зборнік. Сярэднявечча”, Мінск 1994, вып. 4, с. 93–105 (у назве артыкула Ю. Заяца відавочная тэхнічная памылка — трэба 1065–1069 гг.—Г.С.); Э. М. Загарульскі, *Заходняя Русь IX–XIII стст.*, Мінск 1998, с. 62–72; М. Клімаў, *Полацкае княства ў IX–XI стст.*, [у:] Гісторыя Беларусі: У 6 тамах, том. 1. *Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст.*, Мінск 2000, с. 148–166; Л. В. Соколова, *Образ Всеслава Полоцкого в “Слове о полку Игореве”*, “Труды отдела древнерусской литературы Института русской литературы”, Санкт-Петербург 2003, том 53, с. 23–58; яна ж, *Смысловая функция перекличек рассказов об Олеге Святославиче и Всеславе Полоцком в “Слове о полку Игореве”*, “Труды отдела древнерусской литературы Института русской литературы”, Санкт-Петербург 2016, том 64, с. 628–652; В. В. Леонова, *Всеслав Полоцкий в “Слове о полку Игореве”: авторские интенции и мифологический контекст*, “Вестник Российского Университета Дружбы Народов”, серия: Литературоведение, Журналистика, 2015, № 4, с. 7–16.

полацкага князя[5], аднак увесь час з’яўляюцца новыя думкі і разважанні адносна гэтай неардынарнай гістарычнай постаці. Праўда, адзін незвычайны і вельмі значны факт у біяграфіі полацкага князя не дачакаўся асобнага даследавання. Гэта факт, а дакладней перыяд жыцця Усяслава Брачыславіча, калі ён выконваў функцыі вялікага кіеўскага князя. Сем месяцаў (згодна інфармацыі летапісу, ад 15 верасня 1068 г. да канца красавіка 1069 г.) ён займаў кіеўскі прастол. За 200 год (ад смерці Яраслава Уладзіміравіча ў 1054 г. да мангольскай навалы ў 30–40-я гады XIII ст.) Усяслаў быў адзіным князем, які заняў кіеўскі пасад, не з’яўляючыся Яраславічам, то бок ён парушыў дынастычную лінію. Дадзены момант яго жыццяпісу дадае чарговую загадку ў незвычайным лёсе Усяслава, адначасова падкрэслівае вялікую ролю гэтай асобы ў гісторыі Усходняй Еўропы другой паловы XI ст.

Няма нічога дзіўнага ў тым, што адразу пасля смерці Усяслава ў 1101 годзе, а магчыма яшчэ і пры жыцці, яго асоба ўспрымалася як феномен, які патрабаваў тлумачэнняў. На думку англійскіх гісторыкаў Саймана Франкліна і Джанатана Шэпарда,*“Усяслаў быў пасланы для таго, каб даць людзям нейкі важны наглядны ўрок, аб чымсьці перасцерагчы іх. Гісторыя Усяслава, як гісторыя забойства Барыса і Глеба, хутка набыла характар хрэстаматыйнага прыкладу адхілення ад нормы ў палітыцы. Праўда, адна цікавая рыса гэтай гісторыі заключалася ў тым, што яе тлумачылі дыяметральна супрацьлеглым чынам”*[6]. І сапраўды, сярод сучаснікаў — палітыкаў, інтэлектуалаў і паспалітага люду другой паловы XI — першых дзесяцігоддзяў XII ст.— полацкі князь займеў дзве супрацьлеглыя рэпутацыі.

У 1065 г. Усяслаў нападае на Пскоў, зімой 1066–1067 гг. сур’ёзнаму спусташэнню падвяргае Ноўгарад Вялікі (не выключана, што былі таксама іншыя яго вайсковыя дзеянні, не зафіксаваныя летапісамі). Гэтыя падзеі з’явіліся падставай для стварэння негатыўнага вобразу полацкага князя ў Кіеве і Ноўгарадзе. На Усяслава Брачыславіча глядзелі як на прадстаўніка паўпаганскіх, паўдэманічных сіл зла. Менавіта з ім звязвалі першапрычыну ўсіх бедаў дынастыі Яраславічаў у другой палове XI ст. Адсюль правакацыйныя плёткі аб незвычайных абставінах нараджэння

[5] Г. Семянчук, *Княства Усяслава Брачыславіча “Чарадзея”*, [у:] *Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі*, Полацк 1998, с. 281–291; ён жа, *Księstwo Wsiesława Briaczysławicza “Czarodzieja”*, [w:] *Pomorze, Mazowsue, Prusy.* Gdańskie Studia z Dziejów Sredniowiecza, Gdańsk 2000, nr 7, s.169–180; ён жа, *Усяслаў Брачыславіч, князь полацкі (штрыхі да гістарычнага партрэта)*, “Białoruskie zeszyty historyczne” 2002, № 18, с. 5–20; ён жа, *Усяслаў і Яраславічы. Спецыфіка палітычных адносінаў Полацка і Кіева ў другой палове XI ст.*, [у:] *Україна в Центрально-Східній Европі (з найдавніщих часів да XVIII ст.)*, Київ 2002, вып. 2, с. 38–58; ён жа, *Усяслаў Брачыславіч — князь Полацкі*, “ARCHE-Пачатак”, 2004, № 3, с. 91–98; ён жа, *Полацкая зямля ў “Повести временных лет”*, [у:] *Silva rerum nova. Штудыі ў гонар 70-годдзя Георгія Я. Галенчанкі*, Вільня-Мінск 2009, с. 247–257.

[6] С. Франклин, Дж. Шепард, *Начало Руси: 750–1200*, Санкт-Петербург 2000, с. 367.

Усяслава: быццам бы ён з’явіўся на свет Божы “*от вълхованья*”, з адзнакай на галаве, пасля чаго “*Рекоша бо волсви матери его: “Се язвено навяжи на нь, да носить е до живота своего”, еже носить Всеславъ и до сего дне на собе; сего ради немилостивъ есть на кровьпролитье*”[7]. Загадкавасць асобы Усяслава для тагачаснага насельніцтва Кіева, Ноўгарада, Чарнігава спрыяла таму, што пазней Усяслаў зрабіўся цэнтральным персанажам народных былін і казак у вобразе Волка (ці Волхва) Усяславіча альбо Усяслава-Пярэвараценя, прадстаўніка цёмных сіл прыроды[8].

На фармаванне негатыўнага вобразу полацкага князя Усяслава ў большай ступені паўплывалі адносіны суседзяў-канкурэнтаў да яго і яго дзяржавы. Па-першае, існаванне незалежнага і даволі багатага Полацка было сталай пагрозай ідэалогіі кіевацэнтрызму, якую актыўна ўсталёўвалі ва Усходняй Еўропе Яраславічы. Кідаецца ў вочы, што вайсковыя выправы паўднёварускіх князёў на Полацкую зямлю вылучаюцца жорсткасцю і лютасцю на фоне звычайных тагачасных вайсковых кампаній[9]. Па-другое, гісторыя Усяслава Брачыславіча мела далёка ідучыя наступствы ва ўнутранай палітыцы Русі на яе паўднёвых тэрыторыях. Менавіта полацкі князь сваімі актыўнымі дзеяннямі разбурыў раўнавагу падзелу ўлады паміж Яраславічамі[10].

Вераломства Яраславічаў у ліпені 1067 года, калі яны далі абяцанне пакою на крыжы і, не тлумачачы прычын, парушылі яго, нечакана зрабіла Усяслава Брачыславіча маральным аўтарытэтам на Русі. Нават для аўтара *Аповесці мінулых гадоў*, які апісаў падзеі 1067–1069 гг., полацкі князь быў увасабленнем зняважанай набожнасці і тагачаснай маралі. Усяслаў стаў першай вядомай асобай на Русі, якая паверыла ў выратавальную сілу хрысціянскага крыжа, які цалавалі Яраславічы ў знак прымірэння, а пазней схапілі яго і пасадзілі разам з двума сынамі ў Кіеве ў поруб. Знаходзячыся ў затачэнні, Усяслаў шчыра звяртаўся да Божай сілы: “*О кресте честный! Поне же в тобе веровах, избави мя от рва сего*”. А актам вызвалення полацкага князя “*Богъ же показа силу крестную на показанье земле Русьстей, да не преступають честнаго креста, целовавше*

[7] *Лаврентьевская летопись*, [в:] *Полное собрание русских летописей*, том 1, Москва 2001, 2-е изд., слп. 155.

[8] R. Jakobson, M. Szeftel, *The Vseslav epos*, p. 301–368; Б. А. Рыбаков, *Древняя Русь. Сказания. Былины. Летописи*, Москва 1963, с. 85–98; А. А. Косоруков, *Любимые идеи — легенды — факты (Образ Всеслава Полоцкого в летописях, в “Слове о полку Игореве” и образ Вольха Всеславича в былинах)*, с. 124–228.

[9] Аб гэтым чытаем у *“Павучэнні”* князя Уладзіміра Манамаха, непасрэднага ўдзельніка знішчальных паходаў на беларускія землі: *“А на лето (1077 г.) со отцемъ подъ Полтескъ, а на другую зиму (1077/1078 гг.) с Святополкомъ подъ Полтескъ,— ожьгъше Полтескъ; онъ иде Новугороду, а я с половци на Одрьск, воюя… По Всеславе пожегъ землю и повоеввъ до Лукамля и до Логожьска. Та на Дрьютьскъ воюя (1078 г.). …И на ту осень (1085 г.) идохом с черниговци и с половци, с читеевичи, к Меньску: изъехахом городъ, и не оставихом у него ни челядина, ни скотины”.— Лаврентьевская летопись*, слп. 247–248.

[10] С. Франклин, Дж. Шепард. *Начало Руси*, с. 369.

*его; аще ли преступить кто, то и зде приметь казнь и на придущемъ веце казнь вечную”*[11].

Звернем увагу яшчэ на адзін важны момант. Усе, хто ў XI ст. выступаў супраць Кіева і асабліва Яраслава Уладзіміравіча, а пазней яго трох старэйшых сыноў (Ізяслава, Святаслава і Усевалада) разам альбо паасобку, ужо сучаснікамі (летапісцамі і палітычнымі ідэолагамі) залічваліся ў ворагі. Да іх ліку можна аднесці Святаполка і Мсціслава Уладзіміравічаў, братоў Яраслава, у наступным пакаленні — унукаў апошняга: Расціслава Уладзіміравіча, Алега, Глеба і Рамана Святаславічаў, а таксама сваяка – Усяслава Брачыславіча. Падобную тэндэнцыю падтрымала і развівае большасць гісторыкаў на працягу ўжо некалькіх стагоддзяў. Кіевацэнтрызм да сённяшняга дня з’яўляецца характэрнай рысай пераважнай большасці гістарычных даследаванняў, прысвечаных мінуламу Усходняй Еўропы X — сярэдзіны XIII ст. Па-іншаму прапануюць паглядзець на тыя часы С. Франклін і Дж. Шэпард. Яны лічаць, што *“пашыранай памылкай з’яўляецца ўяўленне аб тым, што на Русі існавала пэўная палітычная “сістэма”, ад якой некаторыя беспрынцыпныя князі часам альбо заўсёды стараліся адхіляцца. Палітычнай культуры, якая была б дастасаванай да разгалінаванай, моцна ўсталяванай дынастыі, пры Яраславе і яго папярэдніках не існавала. Таму нашчадкам Яраслава даводзілася імправізаваць, прыстасоўваць звычаі, прэцэдэнты і ўсталяваныя ўяўленні да непрадбачаных сітуацый. Гэтак з’яўляліся дамоўленасці, выкліканыя імгненнай неабходнасцю, няўдалыя пачынанні, кампрамісы і пагадненні, хітрыя прыёмы, пры дапамозе якіх навацыі выдаваліся за традыцыі”*[12].

Праўда, усходнееўрапейская гістарыяграфія (расійская, савецкая, сучасныя расійская і ўкраінская) была (і надалей застаецца) больш “аптымістычнай” у ацэнках палітычнай сістэмы Русі ў X–XI стст. Для яе бясспрэчна існаваў моцны дзяржаўны стрыжань, вакол якога аб’ядноўвалася рускае насельніцтва (якое было для гісторыкаў і ўсходнеславянскім, і старажытнарускім), з устойлівымі традыцыямі. Называлі гэта па-рознаму: “родавая дзяржава” (Сяргей Салаўʼёў[13]), “тэорыя дамоўленага права” (Васілій Сергяевіч[14]), “сямейны саюз” і “старэйшынства” (Аляксандр Праснякоў[15]), “родавы сюзерэнітэт”

---

[11] *Лаврентьевская летопись*, слп. 172.

[12] С. Франклин, Дж. Шепард, *Начало Руси*, с. 359–360.

[13] С. М. Соловьёв, *История России с древнейших времён, том 1–2*, [в:] Соловьев С.М., *Сочинения: в 18 книгах*, кн. 1, Москва 1993, с. 333–339.

[14] В. И. Сергеевич, *Вече и князь. Русское государственное устройство и управление во времена князей Рюриковичей*, Москва 1867.

[15] А. С. Пресняков, *Княжое право в Древней Руси: очерки по X–XII векам*, Санкт-Петербург 1909, с. 34–42.

і "отчинное старейшинство" (Аляксей Талочка[16]), "калектыўны сеньярат" (Аляксандр Назаранка[17]). Праўда, аналіз падзей 60–70-х гадоў XI ст., якія адбываліся на тэрыторыі Русі (дарэчы, пры актыўным удзеле полацкага князя Усяслава), схіляюць нас (насуперак агульнапрынятым пазіцыям) да меркаванняў англійскіх навукоўцаў.

20 лютага 1054 г. памёр кіеўскі князь Яраслаў Уладзіміравіч. Згодна яго тэстаменту, Руская зямля была падзелена па канонах любові і саюзу паміж яго старэйшымі сынамі — Ізяславам, Святаславам і Усеваладам. Згодна запавету свайго бацькі, першы атрымаў Кіеў, што рабіла яго фармальна вядучай асобай у гэтым саюзе. Святаполку дастаўся Чарнігаў, а Усеваладу — Пераяслаўль. Два малодшыя сыны атрымалі ад Яраслава ва ўладанне Уладзімір Валынскі (Ігар), і Смаленск (Вячаслаў).

Галоўнай мэтай унутранай палітыкі трыумвірату старэйшых сыноў Яраслава было ўмацаванне і пашырэнне кіеўскай улады на землях Усходняй Еўропы, падобнае да таго, якое праводзіў іх дзед Уладзімір і бацька ў к. X — першай палове XI ст[18]. Калі ў 1057 г. памёр смаленскі князь Вячаслаў, то браты сваёй воляй, у парушэнне лесвічнага прынцыпу ўлады,"*посадиша Игоря Смолиньске, изъ Володимеря выведше*"[19]. Пры гэтым Валынь нікому не перадавалася, а, відавочна, засталася пад кіраваннем трыумвірату старэйшых Яраславічаў. Дадзенае меркаванне пацвярджаецца падзеямі, якія здарыліся пасля смерці Ігара ў 1060 г. Ні Смаленск, ні які-небудзь іншы горад не дасталіся сыну апошняга Давіду, а "*разделиша Смоленскъ собе на три части*"[20].

У сярэдзіне 60-х гадоў XI ст. назіраецца барацьба за Тмутаракань паміж Расціславам Уладзіміравічам, унукам Яраслава, і Святаславам Чарнігаўскім, прадстаўніком трыумвірату. У 1066 г. Расціслаў памірае, атручаны грэкамі. Пад уладай Кіева ў той час знаходзілася і тэрыторыя Галіцкай зямлі, бо ў 1097 г., перад пачаткам вайны Святаполка Ізяславіча з Расціславічамі (Валадаром і Васількам) за Перамышль і Церабоўль, першы казаў, што "*се есть волость отца моего и брата*"[21]. Непасрэдна Кіеву ў гэты час падпарадкоўваўся і Ноўгарад, у якім з канца X ст. сядзелі альбо самі кіеўскія князі, альбо іх дзеці. Ноўгарад не ўзгадваецца ў тэстаменце Яраслава, што

16 А. П. Толочко, *Князь в Древней Руси: власть, собственность, идеология*, Киев 1992, с. 22–45.

17 А. В. Назаренко, *Династический строй Рюриковичей X–XII веков,*[в:] Назаренко А. В., *Древняя Русь и славяне: Историко-филологические исследования*, Москва 2009, с. 47–87.

18 А. С. Пресняков, *Княжое право в древней Руси. Лекции по русской истории. Киевская Русь*, Москва 1993, с. 389–390.

19 *Лаврентьевская летопись,* слп. 162.

20 *Лаврентьевская летопись,* слп. 163; Л. В. Алексеев, *Смоленская земля в IX–XIII вв.: Очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии,* Москва 1980, с. 195.

21 *Лаврентьевская летопись,* слп. 258.

сведчыць аб аўтаматычным уключэнні яго ва ўладанні Ізяслава Кіеўскага, а ў самім горадзе княжыў яго сын Мсціслаў.

Натуральна, што ў такой палітычнай сітуацыі раней альбо пазней Яраславічы мусілі звярнуць сваю ўвагу на Полацк, які вылучаўся самастойнасцю сярод іншых княстваў на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Больш за тое, полацкі князь Усяслаў Брачыславіч для Яраславічаў быў чужынцам з пункту гледжання ўнутрыкняскіх адносін. Так, ён належаў да ліку сваякоў, аднак не з'яўляўся нашчадкам Яраслава. Таму Усяслаў не ўкладаўся ў схему сваяцкіх адносін, выпрацаваную паўднёварускімі князямі і прапагандыстамі іх кіевацэнтрычнай ідэалогіі.

Пэўны час пасля смерці Яраслава ўзаемаадносіны паміж яго старэйшымі сынамі –Ізяславам, Святаславам і Усеваладам – і полацкім князем Усяславам былі міралюбівыя і саюзніцкія.У 1060 г. яны сумесна здзейснілі ўдалы паход у стэп, на качэўнікаў торкаў:*"совокупиша вои бещислены и поидоша на коних и в лодьях, бещислены множьство, на торки"*[22]. Саюзніцкія адносіны паміж Полацкам і Кіевам працягваліся да сярэдзіны 60-х гадоў XI ст., калі Усяслаў Брачыславіч быў вымушаны іх парушыць і ўступіць у 20-гадовую канфрантацыю з сынамі і ўнукамі Яраслава. Захаваная ў летапісах інфармацыя не тлумачыць нам прычыны шматгадовага канфлікту паміж полацкім князем і сынамі Яраслава. Летапісныя паведамленні накшталт *"В се же лето Всеслав рать почал"* альбо *"Заратися Всеслав сын Брячиславль, Полочьске, и зая Новъгород"*, для большасці даследчыкаў сталі падставай бачыць у асобе полацкага князя галоўнага парушальніка ўсталяваных нормаў і пачынальніка міжусобных войнаў другой паловы XI ст. на Русі[23]. Называецца галоўным чынам дзве прычыны: дынастычная (жаданне Усяслава панаваць у Кіеве) і дзяржаўная (жаданне Полацка ўзмацніць свае ўплывы на Ноўгарад і гандлёвую камунікацыю ў Сярэднім Падняпроўі). Аднак больш грунтоўны аналіз унутранай палітыкі сыноў Яраслава пасля яго смерці дазваляе зрабіць іншыя назіранні і высновы.

Ужо пасля сумеснага паходу старэйшых Яраславічаў з Усяславам на торкаў у 1060 г. кіеўскі князь Ізяслаў разам з наўгародцамі выправіўся на сасолаў — народ, які пражываў у паўднёва-заходняй Эстоніі,—

[22] *Лаврентьевская летопись,* слп. 163.

[23] Н. М. Карамзин, *История государства Российского в 12-ти томах*, Москва 1991, т. II–III, с. 47; С.М. Соловьев, *История России с древнейших времён,* том 1–2, с. 342; М. Грушевський, *Історія України-Руси: В 11 т., 12 кн.*, Київ 1992, т. 2 — XI–XIII вік, с. 53; Ю. А. Заяц, *Полоцкий князь Всеслав и Ярославичи в 1065–1066 гг.: от Пскова до Белгорода*, с. 91–92; О.П. Толочко, П.П. Толочко, *Київска Русь*, Київ 1998, с. 178; Л.В. Соколова, *Смысловая функция перекличек рассказов об Олеге Святославиче и Всеславе Полоцком в "Слове о полку Игореве"*, с. 641–642, сноска 56.

і абклаў іх данінай[24]. Распаўсюджванне кіеўска-наўгародскай улады на гэты прыбалтыйска-фінскі народ было ўспрынята ў Полацку як пагроза ягонаму кантролю над заходнядзвінскай гандлёвай камунікацыяй і дамінаванню ў землях ліваў, куршаў, земгалаў. У той жа час Яраславічы ўзмацнілі свае пазіцыі на шляху "з вараг у грэкі", усталяваўшы кандамініум у Смаленскай зямлі. А гэта стварала небяспеку ўсходнім рубяжам Полацкага княства.

Менавіта ўзмацненне пазіцый Яраславічаў у раёне паўночных і ўсходніх межаў Полацкага княства, а таксама актывізацыя іх дзеянняў у Ніжнім Падзвінні, блізка заходнядзвінскай камунікацыі, якая ад пачатку існавання знаходзілася пад яго кантролем, з'явілася галоўнай прычынай канфрантацыі Усяслава з кланам Яраславічаў[25]. Гэтая барацьба полацкага князя з Яраславічамі падзяляецца на два этапы: першы (1065–1071 гг.) і другі (1077–1085 гг.). Спачатку найбольш актыўным быў Усяслаў Брачыславіч. У 1065 г. ён нападае на Пскоў: *"Всеслав рать почал"*[26], а зімою 1066–1067 гг. полацкі князь напаў на Ноўгарад: *"Приде Всеславъ и възя Новъгородъ, съ женами и съ детми; и колоколы съима у святыя Софие. О, велика бяше беда въ час тыи; и понекадила съима"*[27]. Як бачым, Усяслаў прайшоўся агнём і мячом па горадзе і абрабаваў святыню — Сафійскі сабор. Дадзены ўчынак полацкага князя сведчыць аб тым, што ён наважыўся на сур'ёзны канфлікт з Яраславічамі. С. Франклін і Дж. Шэпард бачаць у дзеяннях Усяслава спробу нейтралізацыі Ноўгарада, яго падпарадкавання Полацку, што дазваляла ўзмацніць кантроль над Балтыйскім узбярэжжам. Больш за тое, наўгародскі паход Усяслава распачаў цэлы ланцуг падзей, якія скончыліся найбуйнейшым за паўстагоддзе палітычным крызісам на Русі[28].

---

24 *Новгородская I летопись старшего и младшего извода*, [в:] *Русские летописи*, том десятый, Рязань 2001, с. 183.

25 А. Б. Головко, *Западные земли Руси и объединительная политика Киевского государства в X — первой трети XII веков*, [в:] *Киев и Западные земли Руси в IX–XIII вв.*, Минск 1982, с. 34–35; М. Ермаловіч, *Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды,* Мінск 1990, с. 113; J. Powierski, *Kryzys rządów Bolesława Smiałego,* s. 11–15.

26 *Лаврентьевская летопись,* слп. 164; *Псковские летописи*, ч. 1, Москва-Ленинград 1941, с. 18.

27 *Новгородская I летопись старшего и младшего извода*, с. 17, 184; J. Powierski, *Kryzys rządów Bolesława Smiałego,* s. 53.

28 С. Франклин, Дж. Шепард, *Начало Руси*, с. 362, 364.



***Усяслаў захоплівае Ноўгарад.* Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу**

Адказ Яраславічаў быў хуткім і жорсткім. Браты, аб’яднаўшы свае войскі, вырушылі ў кірунку паўднёва-заходніх межаў Полацкай зямлі. “*И придоша ко Меньску, и меняне затворишася в граде. Си же братья взяша Менескъ, и исекоша муже, а жены и дети вдаша на щиты, и поидоша к Немизе, и Всеславъ поиде противу. И совокупишася обои на Немизе, месяца марта въ 3 день; и бяше снегъ великъ, и поидоша противу собе. И бысть сеча зля, и мнози падоша, и одолеша Изяславъ, Святославъ, Всеволодъ, Всеславъ же бежа*”[29]. Непасрэдна бітва на Нямізе скончылася перамогай паўднёварускіх князёў, праўда, вялікім коштам, аднак пагроза з боку Усяслава не была ліквідаваная.



***Бітва на Нямізе.* Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу**

[29] *Лаврентьевская летопись,* слп. 166-167.

Праз чатыры месяцы, 10 ліпеня 1067 г., Яраславічы запрасілі полацкага князя на перамовы з мэтай заключыць перамір'е, пры гэтым *"целовавше крестъ честный къ Всеславу, рекше ему: "Приди к намъ, яко не сотворимъ ти зла". Он же надеявъся целованью креста, перееха в лодьи чересъ Днепръ. Изяславу же в шатеръ предъидущю, и тако яша Всеслава на Рши у Смолиньска, преступивше крестъ. Изяславъ же приведе Всеслава Кыеву, всади и в порубъ съ двема сынома"*[30].



***Палон Усяслава з сынамі.*** **Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу**

Восенню наступнага 1068 года ў Кіеве адбыліся падзеі, памяць пра якія захоўвалася сярод кіеўлян да сярэдзіны XII ст. У *АМГ* змешчана інфармацыя аб нападзе на Рускую зямлю полаўцаў. Трое Яраславічаў спаткалі іх над ракой Альтай, у Пераяслаўскай зямлі Усевалада, і пацярпелі моцную паразу. Пераможаныя князі збеглі з месца бітвы: *"Изяславу же во Всеволодом Кыеву побегшю, а Святославу Чернигову"*. За князямі "*люди кыевстии прибегоша Кыеву, и створиша вече на торговищи, и реша, пославшееся ко князи:* "*Се половци росулися по земли; дай, княже, оружье и кони, и еще бьемся с ними". Изяслав же сего не послуша"*[31]. Адмова выканаць іх патрабаванні паспрыяла таму, што кіеўскія людзі (хутчэй за ўсё тая іх частка, што не была задаволеная кіраваннем Ізяслава, верагодна па намове насельнікаў полацкага двара ў Кіеве) вызвалілі з поруба Усяслава і абвясцілі яго сваім князем. *"Двор жъ княхъ разграбиша, бещисленое множьство злата и сребра, кунами и белью. Изяслав же бежа в Ляхы"*[32]. Летапісец пракаментаваў гэта

30 *Лаврентьевская летопись*, слп. 167.
31 Тамсама, слп. 167, 170–171.
32 Тамсама, слп. 171.

ўсё як "божую кару" за вераломства Яраславічаў, дадаючы пры гэтым, што Усяслаў сядзеў на кіеўскім троне 7 месяцаў[33]. Крыніцы не зафіксавалі ніякіх актыўных намаганняў Усяслава захапіць Кіеў, таму відавочнай свядомай і падрыхтаванай узурпацыі ўлады з яго боку не назіраецца.



***Вызваленне Усяслава з поруба.*** **Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу**

Савецкая гістарыяграфія, абапіраючыся на марксісцкае разуменне гістарычных працэсаў, амаль аднадушна характарызавала кіеўскія падзеі 1068 года як антыфеадальную класавую барацьбу[34]. І толькі пецярбургскі даследчык Ігар Фраянаў у свой час убачыў у гэтых драматычных падзеях *"палітычны пераварот"*[35]. Здавалася б, звычайныя словы — "палітычны пераварот", але за імі крыюцца зусім іншыя магчымасці інтэрпрэтацыі тагачасных падзей.

Наколькі легітымным можна лічыць укняжанне Усяслава на кіеўскім троне? Звычайна даследчыкі абмінаюць гэтае пытанне, застаючыся

33 *Лаврентьевская летопись,* слп. 173. Падрабязны аналіз Кіеўскіх падзей 1068 г. зроблены Ігарам Фраянавым у адпаведным раздзеле манаграфіі *Древняя Русь. Опыт исследования истории социальной и политической борьбы*, Москва – Санкт-Петербург 1995, с. 173–195.

34 Б. Д. Греков, *Киевская Русь,* Москва 1953, с. 491; М. Н. Тихомиров, *Крестьянские и городские восстания на Руси XI–XIII вв.*, Москва 1955, с. 95, 96, 99; В. В. Мавродин, *Народные восстания в Древней Руси XI–XIII вв.*, Москва 1961, с. 59, 67–68; В. Т. Пашуто, *Черты политического строя Древней Руси*, [в:] А. П. Новосельцев, В. Т. Пашуто, Л. В. Черепнин, В. П. Шушарин, Я. Н. Щавелев, *Древнерусское государство и его международное значение,* Москва 1965, с. 26; Б. А. Рыбаков, *Киевская Русь и русские княжества XII–XIII вв.*, Москва 1982, с. 437–443; П. П. Толочко, *Древний Киев,* Киев 1983, с. 208; Я. Н. Щапов, *Характер крестьянских движений на Руси XI в.*, [в:] *Исследования по истории и историографии феодализма,* Москва 1982, с. 142; В. И. Буганов, *Очерки истории классовой борьбы в России XI–XVIII вв.*, Москва 1986, с. 21.

35 И. Я. Фроянов, *Древняя Русь. Опыт исследования истории социальной и политической борьбы*, Москва–Санкт-Петербург 1995, с. 173–195.

ў палоне толькі звестак летапісаў, аднаўляючы падзеі з пазіцый "кіевацэнтрызму". Напрыклад, Барыс Рыбакоў выказаў сумненні адносна паўнавартаснага ўкняжання Усяслава шляхам "*прославленія*" яго "*среде двора княжа*". Гісторык піша: "*Вокняжение великого князя оформлялось всегда в кафедральном храме Киева и всей Руси — в Софийском соборе. Об этом в сохранившейся части летописи ничего не сказано. Разгром княжеского двора, дележ денег, золотой утвари и дорогих мехов — все это не соответствовало торжественной процедуре интронизации нового цесаря Руси (уже Ярослав Мудрый получил этот почетный титул). Но летопись и не говорит, что Всеслав "сел на столе прадеда своего". Его только "прославили", провозгласили и, очевидно, с условием, что он будет оборонять киевлян от половцев*"[36].

Дадзеным меркаванням Барыса Рыбакова пярэчыць Ігар Фраянаў, звяртаючы ўвагу на тое, што апанент глядзіць на кіеўскія падзеі 1068 года павярхоўна, не ўнікаючы ў іх сутнасць. Як альтэрнатыву ён прапануе культурна-антрапалагічны падыход, сутнасць якога характарызуе наступная цытата: "*...Во время бедствий в общественном сознании Руси оживали, а точнее сказать срабатывали, языческие традиции, определявшие поведение людей, стремящихся вернуть благополучие*"[37]. На нашу думку, у прынцыпе слушнае меркаванне І. Фраянава патрабуе ўдакладнення. Пад "*язычніцкімі традыцыямі*" трэба разумець не нейкую абстрактную сітуацыю дахрысціянскага еўрапейскага свету, а канкрэтна скандынаўскую (нарманскую/варажскую) традыцыю. Роля варагаў на дняпроўскай міжнароднай камунікацыі ў 60-х гадах XI ст. (а значыць і ў Кіеве, а таксама ў княжацкіх дружынах) заставалася яшчэ даволі значнай[38]. Менавіта іх прававыя (традыцыйныя) практыкі маглі мець вырашальнае значэнне ў кіеўскай сітуацыі змены ўлады восенню 1068 года. Для гэтай сацыяльнай групы "*праслаўленне*" на княжацкім двары (сакральным месцы ўлады) новага князя/конунга і звязанае з гэтым законнае рабаванне "*іменія*" папярэдніка былі традыцыйнай нормай (а значыць, і легітымнай)[39].

Сітуацыя, якая склалася ў Кіеве ў 1068 годзе, метады і шляхі яе вырашэння адпавядалі традыцыям і праву тагачаснага дружыннага і гарадскога грамадства, якое яшчэ шмат у чым мела сляды варажскіх практык і слабой хрысціянскай канверсіі. Для той часткі кіяўлян, якія вызвалілі і "*пасадзілі*" на трон полацкага князя Усяслава Брачыславіча,

36 Б. А. Рыбаков, *Петр Бориславич: Поиски автора "Слова о полку Игореве"*, Москва 1991, с. 44.

37 И. Я. Фроянов, *Древняя Русь. Опыт исследования истории социальной и политической борьбы,* с. 185–186.

38 H. Paszkiewicz, *Początki Rusi*, Kraków 1996, s.172–201.

39 Г. С. Лебедев, *Эпоха Викингов в Северной Европе и на Руси,* Санкт-Петербург 2005, с. 182–186, 211–219.

іх дзеянні былі легітымнымі і апраўданымі. Дарэчы, іх выбар маўкліва падтрымалі браты Ізяслава — Святаслаў Яраслававіч Чарнігаўскі і Усевалад Яраслававіч Пераяслаўскі, не імкнучыся супрацьпаставіцца рашэнню кіяўлян, а магчыма, пазіцыі ўласных дружын.

Кіеўскі перыяд жыцця Усяслава як князя быў кароткім, а вынікі яго не адлюстраваныя ў летапісах[40]. Аляксей і Пётр Талочкі назвалі княжанне Усяслава ў Кіеве *"нетрывалым і загадкавым"*, *"бяздарным і бязглуздым"*, а ахвяры кіяўлян дзеля яго *"марнымі"*[41]. На іх думку, для летапісца княжання Усяслава нібы не існавала, ніякіх падзей не адклалася ў яго памяці (альбо ён жадаў менавіта падобным чынам прадставіць справу): эпізод і пустое месца, не больш як прэтэкст для маралі[42]. Не выпадкова з гэтым звязаныя словы аўтара АМГ: *"Богъ же показа силу крестьную на показание земли Рустеи, да не преступают честного креста, целоваше его"*[43]. Выходзячы з пункту гледжання радавога права, абсалютным нонсенсам і прамой абразай Ізяславу Кіеўскаму і ўсім Яраславічам назваў эпізод кіеўскага княжання Усяслава Брачыславіча расійскі даследчык Аляксандр Назаранка. Гэта ён звязвае з тым, што полацкія Ізяславічы-Усяславічы (а таксама галіцкія Расціславічы) нібы адносіліся да катэгорыі князёў-ізгояў, якія былі прынцыпова выключаныя з права княжыць на кіеўскім стале. Усяслаў Брачыславіч для яго –*"династически "подручный" князь на старшем столе"*, які апынуўся на ім, дзякуючы мяцяжу кіяўлян[44].

Толькі ці настолькі безнадзейныя нашыя веды пра дзейнасць полацкага князя ў Кіеве? Ці не сутыкнуліся мы з сітуацыяй, калі кіеўская ідэалагічная палітыка Яраславічаў свядома ўплывала на творчасць аўтараў і рэдактараў *Аповесці мінулых гадоў* пачатку XII ст. з мэтай замоўчвання і выкрэслівання Усяслава з гістарычнай памяці? Па гэтай жа прычыне няма імені полацкага князя сярод пераліку кіеўскіх князёў *А се по святомъ крещении, о княжении*

[40] Большасць даследчыкаў для апісання магчымых дзеянняў Усяслава як кіеўскага князя выкарыстоўваюць наступныя радкі з паэмы "Слова пра паход Ігаравы":

*Всеславъ князь людемъ судяше,*
*Княземъ грады рядяше,*
*А самъ въ ночь влъкомъ рыскаше:*
*Из Кыева дорискаше до куръ Тмутороканя,*
*великому Хръсови влъкомъ путь прерыскаше.*

Мы свядома абмінаем і не спасылаемся на інфармацыю дадзенай крыніцы, лічачы яе фальсіфікатам XVIII ст., які не дадае нічога новага да летапісных паведамленняў. Падрабязней пра "Слова пра паход Ігаравы" як фальсіфікат гл.: А. А. Зимин, *Слово о полку Игореве,* Санкт-Петербург 2006; аналіз інфармацыі пра Усяслава на старонках 115, 126, 131, 188, 200, 206–207, 212, 247, 258, 270, 277, 295–296, 328–329, 370, 383, 418.

[41] О. П. Толочко, П. П. Толочко, *Київська Русь,* Київ 1998, с. 181, 182.

[42] Тамсама, с. 183.

[43] *Лаврентьевская летопись,* слп. 172.

[44] А. В. Назаренко, *Династический строй Рюриковичей X–XII веков в сравнительно-историческом освещении*, [в:] А. В. Назаренко, *Древняя Русь и славяне (историко-филологические исследования)*, Москва 2009, с. 75–76, спасылка 105.

*киевьстемъ*, які знаходзім пад 989 г. у Наўгародскім першым летапісе малодшага ізводу (па Камісіённым спіску сярэдзіны XV ст.)[45], а таксама на першых старонках Іпацьеўскага летапісу — *Се же соуть имена княземъ Киевьскым княжившим в Киеве до избитья Батыева*[46]. Нам цяжка ўявіць, каб такая актыўная асоба, як Усяслаў, сем месяцаў бяздзейнічала. А тут ён, як можна здагадацца з падтэксту ці "маўчання" летапісу, выглядае хутчэй пакорлівым новаахрышчаным язычнікам, які вельмі заняты пошукамі глыбіняў хрысціянскай духоўнасці.

На самой справе Усяслаў Брачыславіч, калі быў кіеўскім князем, выкарыстаў сваё становішча, каб максімальна перашкодзіць Яраславічам пабудаваць цэнтралізаваную імперыю ва Усходняй Еўропе. За час свайго панавання ў Кіеве Усяслаў наладзіў добрыя адносіны з адной з самых аўтарытэтных асоб Русі таго часу – Антоніем Пячэрскім, а праз яго са Святаславам Яраславічам. Бо калі вярнуўся Ізяслаў, як піша летапісец, ён *"…нача гневатися… на Антония за Всеслава. И приславъ Святославъ нощью, поя Антония к Чернигову"*[47].

Найбольш праўдападобна, што Усяслаў здолеў зацікавіць Святаслава і, магчыма, Усевалада новымі тэрыторыямі ўзамен на лаяльнасць[48]. Паміж ім і астатнімі Яраславічамі была заключаная карысная для абодвух бакоў дамова коштам збеглага ў Польшчу Ізяслава. За сабою Усяслаў пакінуў Кіеў, натуральна, Полацак і дадаў Смаленск. Чарнігаўскаму князю Святаславу адышоў Ноўгарад, бо бачым там ягонага сына Глеба, а пераяслаўскаму князю Усеваладу дасталася Валынь, дзе сустракаем ягонага сына Уладзіміра, будучага Манамаха. У сувязі з магчымымі тэрытарыяльнымі перадзеламі, якія прадпрыняў Усяслаў, трэба разумець паведамленне Васіля Тацішчава: "*Всеслав, седя в Киеве, посла к новгородцам по дань. Новгородцы же реша: "Княже, мы есмя племени Ярославля и ко Полоцку дани отцы и деды не давали и тебе не хотим, а бери со своея волости"*[49].

Пасля перамогі над Яраславічамі ў пачатку верасня 1068 г. на р. Альта полаўцы не пакінулі паўднёвыя абшары Русі. Амаль праз два месяцы, у канцы кастрычніка, яны напалі на Чарнігаўскае княства. Летапіс інфармуе нас, што Святаслаў Яраславіч Чарнігаўскі, сабраўшы 3 000 ваяроў, выступіў

[45] *Новгородская первая летопись старшего и младшего извода,* с. 160.

[46] *Ипатьевская летопись,* [в:] *Полное собрание русских летописей*, том 2, Москва 2001, 2-е изд., Слп. 1–2.

[47] *Лаврентьевская летопись,* слп. 193.

[48] В. А. Кучкин, "*Слово о полку Игореве" и междукняжеские отношения 60-х годов XI века*, "Вопросы истории", 1985, № 11, с. 19–35.

[49] В. Н. Татищев, *История Российская: часть вторая*, [в:] В.Н. Татищев, *Собрание сочинений: в 8 томах*, Москва-Ленинград 1964, том IV, с. 155.

супраць нападнікаў. 1 лістапада каля г. Сноўска рускія войскі перамаглі полаўцаў, захапіўшы ў палон іх правадыра[50].

Натуральна, імя кіеўскага князя часоў бітвы пад Сноўскам Усяслава Брачыславіча свядома замоўчвалася аўтарам летапісу ў пачатку XII ст., які ажыццяўляў палітычную замову закладзенай Усеваладам Яраславічам кіруючай на той час у Кіеве княскай дынастыі. Згодна гэтаму паведамленню, уся слава пераможцы над полаўцамі была аддадзена Святаславу Яраславічу. Але варта задумацца, ці настолькі моцны і ўплывовы быў Святаслаў, а патэнцыял Чарнігаўскага княства такі магутны, што ў трохі большы за месяц тэрмін атрымалася сабраць даволі значнае войска, з дапамогай якога дасягнутая адчувальная перамога над качэўнікамі? Хутчэй за ўсё мы маем сітуацыю, калі на чале арганізацыі абароны паўднёвых межаў Русі ад ворага стаў кіеўскі князь Усяслаў Брачыславіч. Па-першае, ён выканаў патрабаванні ўзбунтаваных кіяўлян, даўшы ім, як яны прасілі ў ягонага папярэдніка Ізяслава, *"оружье и кони"*. Па-другое, да кіеўскага апалчэння далучыліся дружыны Святаслава і Усевалада Яраславічаў, а таксама ўласная Усяслава. На чале новага войска стаў старэйшы з Яраславічаў, найбольш вопытны ў вайсковай справе, які быў непасрэдна зацікаўлены ў абароне свайго Чарнігаўскага княства ад полаўцаў. Немалаважным у прызначэнні Святаслава ваяводам было добрае веданне ім тэрыторый, якія спусташалі качэўнікі[51]. Сам кіеўскі князь застаўся ў сталіцы ўпарадкоўваць сваю ўладу і вырашаць бягучыя справы. Трэба было таксама памятаць пра магчымых адкрытых і таемных ворагаў, прыхільнікаў Ізяслава. Ускосным пацвярджэннем галоўнай ролі Усяслава ў абароне паўднёвых зямель Русі ад полаўцаў восенню 1068 г. з'яўляецца і той факт, што пераможца бітвы пад Сноўскам Святаслаў Яраславіч не выкарыстаў зручны момант і вайсковую сілу, каб вызваліць кіеўскі трон ад нібыта незаконнага князя.

Да кіеўскага перыяду Усяслава адносіцца вельмі цікавая інфармацыя са спісу наўгародскіх епіскапаў: *"А Стефана в Киеве свои его хлопи удавиша"*[52]. Для тагачаснай Русі гэта была вельмі незвычайная падзея — забойства епіскапа, тым больш у сталіцы. Ці меў дачыненне да гэтага злачынства Усяслаў, які быў князем у Кіеве, адказаць пераканаўча няма магчымасці. Але сілы, якія здзейснілі забойства наўгародскага епіскапа, маглі выкарыстаць нестабільнасць улады ў пераходнай сітуацыі пэўнага хаосу.

---

[50] *Лаврентьевская летопись,* слп.172.

[51] Аб магчымым узначальванні кіеўскім князем Усяславам Брачыславічам разгрому полаўцаў у лістападзе 1068 г. меркаваў таксама Барыс Рыбакоў. Праўда, расійскі даследчык на падставе інфармацыі з "Слова пра паход Ігаравы" прыдумаў яшчэ і Тмутараканскую выправу Усяслава (нібы з мэтай здабыць там табуны коней), якая папярэднічала перамозе над полаўцамі каля Сноўска (Б. А. Рыбаков. *Русские летописцы и автор "Слова о полку Игореве"*, Москва 1972, с. 454–455).

[52] *Новгородская первая летопись старшего и младшего извода*, с. 473.

Думаецца, што Усяслаў, займаючы, нават часова, кіеўскі княжацкі стол, не забываўся і пра родны Полацк. Гісторыкі раннехрысціянскай архітэктуры на тэрыторыі Усходняй Еўропы заўважылі пэўную логіку ў практыцы княжацкага сакральнага будаўніцтва, якая адлюстроўвала рэальныя патрабаванні ў мураваных будынках. Першым будаваўся гарадскі сабор, наступнымі – храмы княжацкага двара, і пасля гэтага – манастырскія цэрквы[53]. Апошнія часта размяшчаліся па-суседстве з загарадным княскім дваром. Заняўшы месца Ізяслава Яраславіча ў Кіеве, Усяслаў атрымаў магчымасць распараджацца княжацкай гаспадаркай, у тым ліку ў будаўнічай галіне. На думку Валянціна Булкіна, найбольш праўдападобна, што дойліды, якія ў той час працавалі на Ізяслава, былі накіраваныя ў Полацк. Справа ў тым, што вялікі сабор у Бельчыцах, шасціслуповы храм з трыма прытворамі, тыпалагічна вельмі падобны на царкву Спаса на Берастове ў Кіеве і знаходзіцца ў храналагічным шэрагу непасрэдна за ёй (апошняя трэць XI ст.)[54].

Наступныя падзеі пацвердзілі, што кіеўскі княскі трон быў навязаны Усяславу сілай абставін, а не ўласным жаданнем. У яго не было імкнення княжыць у Кіеве, і ён не меў неабходнай падтрымкі сярод насельніцтва Кіеўскай зямлі. Таму Усяслаў не надта жадаў абараняць горад у красавіку 1069 г. ад польска-рускага войска на чале з Ізяславам і Баляславам Смелым: *“В лето 6577 (1069). Поиде Изяславъ с Болеславомъ на Всеслава; Всеслав же поиде противу”*. Але ён пакідае пад Белгарадам кіеўскае войска і вяртаецца дадому на Полаччыну[55].

Была яшчэ адна прычына ўцёкаў Усяслава з-пад Белгарада. Ён выступіў супраць Ізяслава і яго польскага саюзніка Баляслава, абапіраючыся на вайсковыя сілы жыхароў Кіева і ўласна Кіеўскай зямлі, а таксама на частку Полацкага войска. З летапіснага паведамлення вынікае, што побач з ім не было чарнігаўскага князя Святаслава і пераяслаўскага князя Усевалада з іх атрадамі. Таксама наўрад ці Усяслаў мог разлічваць на адданасць Яраславічаў у бітве з родным братам. Усё гэта паспрыяла ўсведамленню полацкім князем непазбежнасці паразы ў сутыкненні з войскамі Ізяслава.

Дарэчы, рэакцыя Святаслава і Усевалада Яраславічаў на вяртанне старэйшага брата Ізяслава была даволі дзіўнай. Як можна зразумець з летапісных паведамленняў, яго ніхто не чакаў і ніхто па ім не сумаваў. Больш за тое, браты сустракаюць Ізяслава не проста абыякава, але нават

[53] Вал. А. Булкин, Вас. А. Булкин, *Древний Полоцк: у истоков культуры*, [в:] *Проблемы археологии*. Вып. 3. Памятники древнего и средневекового искусства. Сборник статей в память профессора В. И. Равдоникаса, Санкт-Петербург, 1994, с. 169.

[54] Тамсама, с. 172.

[55] *Лаврентьевская летопись,* слп. 173–174.



***Уцёкі Усяслава з-пад Белгарада.* Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу**

варожа. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што нешта адбылося ў тыя вераснёўскія дні перад кіеўскімі падзеямі, што назаўсёды сапсавала ўзаемаадносіны паміж удзельнікамі трыумвірату[56].

Аўтар летапісу ніякім чынам не каментуе ўчынак Усяслава, не гаворыць і пра матывы яго ўцёкаў. Аднак іх няцяжка ўявіць, ведаючы ягоны характар і мэты ягонай новай палітыкі. Дакладнае прачытанне і цытаванне летапіснага паведамлення пра супрацьстаянне Усяслава і Ізяслава пад Белгарадам у 1068 г. зрабіла полацкага князя на старонках навуковых прац пераважнай большасці гісторыкаў баязліўцам. Толькі ці так гэта? Усяслаў не пажадаў уцягвацца ў вайну за кіеўскі княскі пасад. Мэтай ягонай палітыкі было не авалоданне гэтым пасадам, а супрацьстаянне аб’яднальнай палітыцы Яраславічаў. Уцякаючы ў родны Полацак, ён ведаў, што за час свайго побыту ў Кіеве зрабіў усё, што яму патрэбна: пасварыў Яраславічаў, аслабіў іх і тым самым узмацніў сябе і сваё княства. Аддаючы кіеўскі пасад Ізяславу, Усяслаў спадзяваўся, што той, атрымаўшы зноў уладу, пажадае вярнуць сабе і сваім сынам належнае ім паводле старшынства — землі, атрыманыя Святаславам і Усеваладам ад Усяслава. Далейшыя падзеі пацвердзілі разлікі Усяслава.

У 1069 г. Ізяслаў Яраславіч з дапамогай польскіх войскаў выгнаў Усяслава з Полацка, і на беларускіх землях усталявалася акупацыйная ўлада Ізяслава Яраславіча, якую рэпрэзентавалі па чарзе яго сыны. “*В лето 6577 (1069 г.). Изяславъ же… прогна Всеслава ис Полотьска, посади сына своего Мъстислава Полотеске; он же вскоре умре ту. И посади в него место*

[56] О. П. Толочко, П. П. Толочко, *Київська Русь,* с. 183.

*брата его Святополка, Всеславу же бежавшю"*[57]. Але з Ізяславам мы не бачым ягоных родных братоў Святаслава і Усевалада. Яны, хутчэй за ўсё, выбралі тактыку чакання. Дадзеных ім Усяславам зямель яны старэйшаму брату не вярталі і сваіх войскаў у дапамогу не пасылалі.

Полацкі князь не меў дастаткова сіл, каб пазмагацца за родны горад, і быў вымушаны падацца на эміграцыю, да прыбалтыйскіх народаў. Ужо ўвосень 1069 г. Усяслаў Брачыславіч апынуўся пад сценамі Ноўгарада на чале фінскага племені водзь. Пра гэта ўзгадвае Наўгародскі летапіс старэйшага ізводу: "*Въ то же лето, осень, месяця октября въ 23, на святого Якова брата господня, въ пятничи, въ чяс 6 дни, опять приде Всеслав къ Новугороду; новгородци же поставиша пълкъ противу ихъ, у Зверинця на Къземли; и пособи богъ Глебу князю съ новгородци. О, велика бяше сеця Вожиномъ и паде ихъ бещисленое число; а самого князя отпустиша бога деля"*[58]. Паход быў няўдалы. Горш падрыхтаванае і ўзброенае войска водзі зазнала паразу, а князь Усяслаў трапіў у палон. Летапіснае паведамленне ставіць перад даследчыкамі шэраг пытанняў. Чаму Усяслаў апынуўся на чале войска паганскага племені водзь? Чаму наўгародцы адпусцілі полацкага князя з Богам, а не адпомсцілі за жорсткі напад у 1066 г.? Відаць, энергічная натура полацкага князя не магла бяздзейнічаць. Выгнанне з Полацка супала з супрацьстаяннем фіна-вугорскіх народаў каланізацыйнай палітыцы Ноўгарада. І Усяслаў Брачыславіч, як спрактыкаваны ваяр, не адмовіўся ад кіравання сабраным войскам водзі. Больш складана адказаць на другое пытанне.

Другі раз Усяслаў трапіў у палон да сваіх ворагаў. Праўда, наўгародскі князь Глеб, сын Святаслава Яраславіча, не перадаў яго ў рукі свайго дзядзькі Ізяслава, кіеўскага князя. Хутчэй за ўсё, Глеб, як сын Святаслава, мог не лічыць Усяслава сваім ворагам, бацька ж яго быў абавязаны Усяславу. Са шматлікіх версій найбольш пераканаўчай бачыцца думка Аляксандра Касарукава: вызваляючы Усяслава з палону, Глеб ведаў, што той абавязкова кінецца ў змаганне за свой Полацак. Гэтую мэту і пераследаваў наўгародскі князь, які быў зацікаўлены ў аслабленні абодвух князёў-супернікаў[59]. Не выключана, што была таксама заключана дамова паміж Ноўгарадам Вялікім (а канкрэтней, наўгародскім вечам) і полацкім князем Усяславам аб ненападзе апошняга на Наўгародскую зямлю. І праўда, да сярэдзіны XII ст. летапісы не паведамляюць нам аб полацкіх выправах на паўночна-ўсходняга суседа.

57 *Лаврентьевская летопись,* слп. 174.

58 *Новгородская первая летопись старшего и младшего извода,* с. 17.

59 А. А. Косоруков, *Любимые идеи — легенды — факты (Образ Всеслава Полоцкого в летописях, в "Слове о полку Игореве" и образ Вольха Всеславича в былинах)*, "Герменевтика древнерусской литературы", вып. 5: XI–XIV вв., Москва 1992, с. 160.

Такім чынам, Усяслаў Брачыславіч сваімі актыўнымі дзеяннямі ў 60-я гады XI ст. парушыў раўнавагу размеркавання ўлады паміж Яраславічамі. Полацкі князь быў найбольш актыўным і паспяховым змагаром супраць стварэння адзінай дзяржавы з цэнтрам у Кіеве на тэрыторыі Усходняй Еўропы ў раннім Сярэднявеччы. Ліквідаваўшы ў першай чвэрці XII ст. Полацк як канкурэнта на палітычнай карце Усходняй Еўропы, нашчадкі Яраслава не змаглі вынішчыць вобраз Усяслава Брачыславіча з памяці кіяўлян і наўгародцаў. Яшчэ ў 1147 г., пад час бунту ў Кіеве супраць князя Усевалада Алегавіча Чарнігаўскага, паведамляе летапісец: "*Кияне же рекоша рад оже ны Богъ тебе избавилъ от великия льсти братю нашю идемъ по тобе и с детми акоже хощеши. И реч единъ человекъ по князи своемъ: рад идемъ, но первое о семъ промыслимы акоже и преж створиша при Изяславе Ярославличе высекше Всеслава ис пороуба злии они и поставили князя собе и много зла быс про то градоу нашему…*"[60]. У 1178 г. летапісец тлумачыць паход Мсціслава Расціславіча з наўгародцамі на Полацк (на князя Усяслава Святаслававіча) тым, што "*Ходилъ бо бяше дедъ его на Новъгородъ и взялъ ерусалимъ церковныи и сосоуды слоужебные и погостъ одинъ завелъ…*"[61].

## Streszczenie

Hienadź Siemianczuk, *Panowanie kijowskie Wsiesława Braczysławicza (wrzesień 1068 r. – kwiecień 1069 r.)*

Jeden niezwyczajny i bardzo znaczący fakt z biografii Wsiesława Braczysławicza nie doczekał się do tej pory osobnych badań. Chodzi o okres życia połockiego księcia, kiedy to sprawował on funkcję wielkiego księcia kijowskiego (według informacji z latopisu — od 15 września 1068 r. do końca kwietnia 1069 r.). Przez 200 lat, od śmierci Jarosława I Mądrego w 1054 r. do najazdu mongołów w latach 30–40. XIII w., Wsiesław był jedynym zasiadającym na tronie kijowskim księciem, który nie był Rurykowiczem, a więc naruszył linię dynastyczną. Księciem w Kijowie został w wyniku przewrotu politycznego, który miał miejsce po przegranej przez Izjasława, Światosława i Wsiewołoda Jarosławiczów bitwie z Połowcami nad rzeką Altą.

Sytuacja miała miejsce w Kijowie w 1068 r., a drogi i metody jej rozwiązania były adekwatne do praw i tradycji ówczesnych drużyn książęcych i społeczeństwa miejskiego, które nosiło jeszcze wyraźne ślady praktyk Waregów i słabej konwersji chrześcijaństwa. Dla tych kijowian, którzy uwolnili i osadzili na tronie księcia

[60] *Ипатевская летопись,* слп. 349.

[61] Тамсама, слп. 608.

połockiego Wsiesława Braczysławicza, podjęte działania były usprawiedliwione i słuszne. Swoją drogą, wybór ten milcząco poparli bracia Izjasława — Światosław Jarosławicz Czernichowski i Wsiewołod Jarosławicz Perejesławski, którzy nie dążyli do sprzeciwiania się decyzji kijowian, a możliwe, że i własnych drużyn.

Okres kijowski w życiu Wsiesława był krótki, a jego efekty nie znalazły odzwierciedlenia w latopisach. Tylko czy nasza wiedza o działalności połockiego księcia w Kijowie jest aż tak mizerna? Czy nie spotkaliśmy się już z sytuacją, kiedy to kijowska polityka ideologiczna Jarosławiczów świadomie wpływała na twórczość autorów i redaktorów *Opowieści lat minionych* z początku XII w. w celu przemilczenia roli Wsiesława i wykreślenia go z pamięci historycznej? W rzeczy samej Wsiesław Braczysławicz, będąc księciem kijowskim, wykorzystał swoją pozycję, żeby jak najmocniej przeszkodzić Jarosławiczom w budowie scentralizowanego imperium w Europie Wschodniej. Najprawdopodobniej udało mu się zaciekawić nowymi terytoriami Światosława i Wsiewołoda. Jako kijowski książę Wsiesław odegrał również istotną rolę w zwycięstwie ruskich wojsk dowodzonych przez Światosława nad Połowcami w listopadzie 1068 r. pod Snowskiem.

Wsiesław Braczysławicz, zajmując, nawet tymczasowo, kijowski tron książęcy, nie zapominał również o rodzimym Połocku. Według Waljancina Bułkina, architekci, którzy w tamtym okresie pracowali dla Izjasława, najprawdopodobniej zostali skierowani do Połocka w celu budowy wielkiego soboru w Bielczycach.

Kijowski tron książęcy przypadł Wsiesławowi w wyniku swoistych okoliczności, a nie przez jego ambicję. Nie dążył do panowania w Kijowie i nie miał odpowiedniego poparcia wśród mieszkańców ziemi kijowskiej. Dlatego też Wsiesław niespecjalnie chciał bronić miasta w kwietniu 1069 r. przed rusko-polskimi wojskami z Izjasławem i Bolesławem II Szczodrym na czele. Porzucił wojska kijowskie pod Biełgorodem i wrócił do domu na Połocczyźnie. Kijowski okres książęcy w życiorysie Wsiesława Braczysławicza podkreśla jego wielką rolę w historii Europy Wschodniej drugiej połowy XI w.

## Summary

Hienadź Siemianczuk *Vseslav Bryachislavich– Grand Prince of Kyiv (September 1068 – April1069)*

One unusual and quite significant period in the biography of Vseslav Bryachislavich has not yet received separate study — the period of the Polotsk prince's life when hewas Grand Prince of Kyiv (according to information from the chronicle, between 15 September 1068 and the end of April 1069). For 200 years, from the death of Yaroslav the Wise in 1054, until the Mongol invasion in

the 1230s and 1240s, Vseslav was the only prince not of the Rurik dynastyto sit on the Kyiv throne, thus disrupting the dynastic line. He became the Prince of Kyiv as a result of a political upheaval, which took place after Iziaslav, Sviatoslav and Vsevolod Yaroslavich's defeat at the hands of the Kipchaks (Cumans, Polovtsy) on the Alta River.

The situation which developed in Kyiv in 1068, as well as the paths and methods of its resolution, was in accordance with the laws and traditions of princely *druzhinas* (retinues) and village society — at the time, still clearly bearing traces of Varangian practices and rather weak conversion to Christianity. To those Kyivans who freed Vseslav, and put him on the throne, their actions were justified and fair (while on the subject, this course of action was tacitlysupported by Iziaslav's brothers — Sviatoslav and Vsevolod, who by their silence did not attempt to oppose the Kyivan's decision — possibly their own retinues).

Vseslav's rule of Kyiv was brief, and its effects did not find their way into the chronicles. Nevertheless, is our knowledge of the Prince of Polotsk's activity in Kyiv so pathetic? Are we not familiar with the Yaroslavich Kyivan political ideology consciously influencing the work of authors and editors of the Tale of Past Years, with the goal of erasing Vseslav from historical memory starting in the 12$^{th}$ century? Indeed, Vseslav Bryachislavich, as Prince of Kyiv, took advantage of his position to hinder the Yaroslavichs in their efforts to build a centralised empire in Eastern Europe. Most likely, he managed to pique the interest of Sviatoslav and Vsevolod with new territories. As Prince of Kyiv, Vseslav also played an essential role in the Ruthenian army's victory over the Kipchaks in November 1068.

Vseslav, even when he temporarily occupied the Kyivan throne, did not forget his native Polotsk. He usedthe opportunity to administer the princedom's economy, including in the area of construction. According to Valentin Bulkin, architects previously working for Iziaslav where directed to Polotsk with the goal of building a grand sobor in Belchitsa.

The Kyivan throne fell to Vseslav as a result of circumstances beyond his control, not his own ambition. He did not aspire to rule Kyiv and did not have adequate support among the inhabitants of the Kyivan lands. Thus, in April 1069, he did not especially care to defend the city against the combined Ruthenian-Polish armies headed by Iziaslav and Bolesław II the Generous. He abandoned the Kyivan army at Belgorod and returned home to Polotsk. If nothing else, the Kyivan period of Vseslav's biography underlines his major role in the history of Eastern Europe in the second half of the 11$^{th}$ century.

**Аляксандр Краўцэвіч**
**(Варшава/Гродна)**

# Каранацыя Міндаўга: месца ў прасторы і часе

Першы гаспадар Вялікага Княства Літоўскага быў, несумненна, асобай моцнай і яскравай. Пра тое сведчаць не толькі факты ягонай біяграфіі, але і пільная ўвага, з якой сучаснікі за гэтай біяграфіяй сачылі. Пры агульным, часам безнадзейным, недахопе крыніц з XIII ст., звестак пра жыццё і дзейнасць Міндаўга захавалася больш, чым пра ўсіх наступных вялікіх князёў другой паловы гэтага стагоддзя.

Напэўна, увагу сучаснікаў прыцягвала найперш значнасць падзеі — узнікненне новай дзяржавы. Адсюль і ўвага да асобы, якая аказалася ў самым віры працэсу дзяржаваўтварэння. Міндаўг, несумненна, падыходзіў для выканання гэтай гістарычнай задачы. Ад самага першага ўпамінання пра яго ў Галіцка-Валынскім летапісе пад 1219 г. да смерці ў 1263 г., на працягу 45 гадоў, ён увесь час знаходзіўся ў цэнтры панямонскіх падзей і заўжды быў на першых ролях. Ужо ў той самай першай летапіснай згадцы — апісанні дамовы групы літоўскіх князёў у колькасці 21 чалавека з Галіцка-Валынскім княствам — Міндаўг пазначаны як адзін з пяці мацнейшых (“старэйшых”, паводле летапісца)[1]. Гэта значыць, што ў іерархіі свайго племені ён ужо з маладых гадоў займаў высокае становішча, напэўна прынятае ў спадчыну ад бацькі, пра якога *Старэйшая лівонская рыфмаваная хроніка* паведамляе, што ён быў вялікім правадыром *konig groz*[2].

Пачатак працэсу ўтварэння ВКЛ прыпадае на канец 40-х гадоў XIII ст., г. зн. на той час Міндаўг ужо меў як мінімум 30 гадоў вопыту палітычнай і вайсковай дзейнасці. А вопыт быў не абы-які. Князь у племені, якое знаходзіцца на стадыі ваеннай дэмакратыі, гэта ў першую чаргу вайсковы правадыр, арганізатар няспынных рабаўнічых нападаў на землі варожых плямёнаў і дзяржаў. У такой надзвычай небяспечнай справе (напрыклад, наўгародскі князь Аляксандар Яраслававіч Неўскі ў 1245 г. толькі ў дзвюх сутычках пад Тарапцом забіў 8, а потым яшчэ некалькі літоўскіх князёў[3]) выжывалі адно самыя моцныя, разумныя ды ўдачлівыя. Міндаўг, несумненна, да такіх належаў.

---

1 *Полное собрание русских летописей* (далей *ПСРЛ*), т. 2, слп. 735–736.

2 *Livländische Reimchronik* / Her. von Leo Meyer. Padeborn 1876, S. 146–147, V. 6383–6385.

3 *Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов,* Под ред. и с пред. А. Н. Насонова, Москва 1950, с. 79, 304.

Наш герой умеў праводзіць нестандартныя і маштабныя дзеянні: саюз з Наваградкам, разлажэнне варожай кааліцыі знутры подкупам ды зменай свайго веравызнання, дараванне лівонскім рыцарам земляў, якімі не валодаў, прынянцце каралеўскай кароны ад рымскага папы і г. д.

Адным з такіх нестандартных хадоў пачынальніка ВКЛ было наданне яму годнасці караля Літвы з санкцыі і па даручэнні папы рымскага ў пачатку ліпеня 1253 г.

Да асноўных праблем, звязаных з каранацыяй, належыць вызначэнне **месца**, дзе адбывалася працэдура, а таксама **гістарычнае значэнне** гэтага акта для ВКЛ, Беларусі, Летувы і ўсёй Усходняй Еўропы.

Першая праблема значная не сама па сабе (не так ужо і важна, у якім менавіта горадзе і саборы была праведзена цырымонія), а ў сувязі з праблемай першай сталіцы дзяржавы. Калі акт хрышчэння, а потым працэдура каранацыі мелі месца ў Наваградку (як лічыць шмат хто з гісторыкаў), то гэтыя факты, здаецца, працуюць як доказы сталічнасці гэтага горада. Але тое можа быць прадметам дыскусіі, бо, напрыклад, у той самы год такую ж працэдуру правёў Даніла Раманавіч Галіцкі, аднак зрабіў гэта не ў сваёй сталіцы, а ў правінцыйным Драгічыне.

Дакладнага ўказання месца каранацыі ў блізкіх па часе стварэння крыніцах не захавалася. Як бы па іроніі гісторыі сведка працэдуры — францішканскі ці дамініканскі манах, аўтар *Апісання земляў*[4], створанага між 1255 і 1260 г.,— забыўся назваць месца дзеі. Вызначаць гэтае месца даводзіцца па ўскосных даных.

Даследчыкі на аснове аналізу крыніц прыходзяць да розных высноў. Адной з такіх ускосных крыніц з'яўляецца дакумент-дараванне земляў у Жамойці Міндаўгам Інфлянцкаму ордэну ад 1253 г. У ім змешчаны выраз *Datum in Lettowia in curia nostra*[5] ("*дадзена ў Летовіі на нашым двары*"). Прыняўшы, што гаворка ідзе не пра краіну, а пра канкрэтнае паселішча — рэзідэнцыю Міндаўга, некаторыя гісторыкі пачалі ўдакладняць яго месцазнаходжанне. Яшчэ ў пачатку XX ст. была высунута гіпотэза пра рэзідэнцыю Міндаўга ў паселішчы Латава на тэрыторыі сучаснай Летувы, якую падтрымалі некаторыя сучасныя летувіскія гісторыкі[6]. Беларускі даследчык Алесь Жлутка прапанаваў на гэтую ролю вёску Літоўку ў 4 км ад Наваградка[7].

---

4 В. Чамярыцкі, А. Жлутка, *Першая згадка пра Белую Русь — 13 ст.,* [у:] *Адраджэнне: Гіст. Альманах*, Мінск 1995, вып. 1, с. 143–152.

5 *Міндаў, кароль Літовіі, у дакумэнтах і сьведчаньнях = Mindowe, rex Lithowiae in litteris et testimoniis,* Уклад., пер. на бел. мову, камэнт. А. Жлуткі, Мінск 2005, дак. I. 2, с. 24–26.

6 Э. А. Вольтер, *Город Мендовга или где искать Летовию 13 века?* Санкт-Петербург 1910; T. Baranauskas, G. Zabiela, *Mindaugo dvaras Latava* [у:] *Lietuvos istorijos metraštis* 1997 metai, Vilnius 1998, p. 21–40; Т. Баранаўскас, *Месца каранацыі Міндоўга*, "Спадчына", 2002, nr 5–6, с. 26–31.

7 А. Жлутка, *Да пытання аб месцы каранацыі Міндоўга (Міндава) і сядзібе першага біскупа Літвы* [у:] *Навагрудчына ў гістарычна-культурнай спадчыне Еўропы (да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы)*, Мінск 2010, с. 98–99.

Іншыя летувіскія даследчыкі мяркуюць, што месца каранацыі Міндаўга знаходзіцца ў Вільні, нібыта дзеля яе быў спецыяльна збудаваны касцёл[8]. Гэтая версія абапіраецца на знаходку падмуркаў нейкага будынка пад сучасным катэдральным саборам. Мураваная пабудова з каменным падмуркам мае памеры 22,6 на 22,6 м і сцены таўшчынёй 1,6–1,7 м.[9] На жаль, вызначыць дату з'яўлення каменнага падмурка практычна немагчыма (калі сярод камянёў няма пракладак з цэглы), таму гэтая версія гісторыкамі іншых краін ставіцца пад сумнеў. Больш верагодная прывязка знойдзеных падмуркаў да касцёла, збудаванага паводле загаду вялікага князя Гедыміна ў першыя дзесяцігоддзі XIV ст., пра які вядома з пісьмовых крыніц[10].

Пра Навагрудак як месца каранацыі Міндаўга паведамляецца ў наратыўных творах XVI–XVII стст. Гэтыя звесткі ў Беларусі прааналізавалі Алесь Жлутка і Алег Дзярновіч. Апошні прапаноўвае размежаваць паняцці "рэзідэнцыя Міндаўга" — "месца каранацыі" — "сталіца"[11], але аргументаў на карысць гэтай высновы не прыводзіць. Між іншым, незразумела, як раздзяліць паняцці "рэзідэнцыя Міндаўга" і "сталіца", калі ў Сярэднявеччы яны былі тоеснымі.

Абодва даследчыкі канстатавалі, што, як Мацей Стрыйкоўскі[12] ў XVI ст., так і Альберт Віюк-Каяловіч[13] у XVII ст., а яшчэ *Густынскі летапіс*[14] XVII ст. называюць месцам каранацыі Навагрудак. Стрыйкоўскі ў больш ранніх творах бачыў у гэтай ролі Кернава, але пазней, у галоўнай сваёй працы "*Кронікі…*", адназначна схіліўся да Навагрудка. Праз аналіз асноўных крыніц XVI–XVII стст., якія паведамілі пра каранацыю ў Навагрудку, А. Жлутка прыйшоў да высновы пра іх самастойнасць, адсутнасць паміж імі кампілятыўнай сувязі, што прызнаў дадатковым аргументам на карысць Навагрудка як месца каранацыі[15]. Даследчык звярнуў увагу на яшчэ адну крыніцу XVI ст. — польскамоўную *Хроніку Прускіх майстраў* Марціна

[8] Z. Kiaupa, J. Kiaupienė, A. Kuncevičius, *Lietuvos istorijaiki 1795 metu*, Vilnius 2000, s. 61; Э. Гудавичюс, *История Литвы с древнейших времен до 1569 года*, Москва 2005, с. 55.

[9] А. Лухтан, В. Ушинскас, *К проблеме становления Литовской земли в свете археологических данных* [у:] *Древности Литвы и Белоруссии*, Вильнюс 1988, с. 102.

[10] *Gedimino laiškai — Послания Гедимина*, Vilnius 1966, *пасланне* 4, р. 3647.

[11] О. Дзярнович, *У истоков дискуссии: история споров о месте коронации Миндовга в 1253 г.* [у:] *Навагрудчына ў гістарычна-культурнай спадчыне Еўропы (да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы)*, Мінск 2010, с. 105.

[12] M. Stryjkowski, *Kronika Polska, Litewska, Żmodzka i wszystkiej Rusi* / M. Stryjkowski, Warszawa, 1846, t. 1–2, s. 289.

[13] *Historiae Litvanae pars prior…* Auctore P. A. W. Koialowicz Soc. Jesu., Dantisci 1650, p. 97.

[14] ПСРЛ, Санкт-Петербург 2003, т. 40, с. 3.

[15] А. Жлутка, *Толькі Стрыйкоўскі? (наратыўныя крыніцы пра каранацыю ў Навагрудку* [у:] *Людзі і ўлада Навагрудчыны: гісторыя ўзаемадзеяння (да 500-годдзя надання Навагрудку прывілея на магдэбургскае права*, Мінск 2013, с. 56, 58–62.

Мурыніуса, якая таксама называе Наваградак[16].

Кандыдатура Наваградка на месца каранацыі першага і апошняга караля Літвы з'яўляецца галоўнай па некалькіх прычынах:

Па-першае, у XIII ст. гэта быў найбуйнейшы і найбагацейшы горад Панямоння[17].

Па-другое, Міндаўг з гэтым местам быў звязаны нашмат больш, чым з іншымі панямонскімі гарадамі: Гародняй, Вільняй, Ваўкавыскам, Слонімам (жамойты і аўкштайты на той час гарадоў яшчэ не мелі).

Па-трэцяе, у Наваградку меўся адпаведны хрысціянскі храм — мураваная царква XII ст. святых Барыса і Глеба на гарадскім пасадзе.

Па-чацвёртае, на гэты горад паказваюць пазнейшыя крыніцы, якія абапіраліся на больш раннія і фармаваліся незалежна адна ад другой.

Адсюль дамінаванне ў гістарыяграфіі меркавання, што Міндаўг каранаваўся ў Наваградку. Перакананне, што хрышчэнне Міндаўга ў 1251 г., а праз два гады каранацыя праходзілі ў Наваградку, прысутнічае не толькі ў беларускай гістарыяграфіі, але, напрыклад, у асяродку польскіх гісторыкаў. Прывяду цытаты з твораў вядомых польскіх даследчыкаў ВКЛ Ежы Ахманьскага, Марцэлі Космана і Анджэя Рахубы. Першы ў сваёй *Гісторыі Літвы* выказаўся наступным чынам: "*Mendog zdołał utwierdzić swe panowanie w Litwie i za staraniem krzyżackim w Rzymie u papieża Innocentego IV uwieńczył swój sukces uroczystą koronacją na króla Litwy w Nowogródku na przełomie czerwca i lipca 1253 r.*"[18]. Марцэлі Косман: "*Nic, jak dotąd, nie podważa poglądu o Nowogródku na sąsiedniej Rusi Czarnej jak o miejscu chrztu i koronacji tego władcy* (Міндаўга — А. К.)"[19].

Анджэй Рахуба: "*Jak ważne były jednak w jego* (Міндаўга — А. К.) *powiekszającym się wieloetnicznym państwie nowe ziemie, świadczy fakt koronowania na króla latem 1253 r. (raczej 29 czerwca niż 6 lipca) w Nowogródku, gdzie posiadał rezydencję. Wybór tego miasta na miejsce koronacji wydaje się zastanawiajacy i symboliczny. Najnowsza historiografia litewska kwestionuje*

[16] Marcin Murinius, *Kronika mistrzow Pruskich*, Olsztyn 1989, s. 81: "*Za panowania Bolesława Wstydliwego w Polszczę Konrad Poppe z Osterlingu Roku Pańskiego 1252 na mistrzostwo jest wybrany Za czasu jego i Henryka mistrza iflantskiego Mendog książę litewski się okrzcił i wiele Zakonowi braciej iflantskiej nadał, potem o koronę do papieża Innocencyjusa IV prosząc posłał, ktorej mu też papież (widząc to być sobie na rękę) nie zbraniał. Posłał przeto brata Henryka prowincyjała polskiego, armakańskiego przed tym biskupa, a na ten czas chełmskiego w Prusiechlegata swego do Mendoga, ktory z arcybiskupem rygeńskim, z Krzyżakami pruskimi i iflantskimi do Nowogrodka Litewskiego przyjachawszy, z ramienia papieskiego i cesarskiego Mendoga na krolestwo litewskie koronował*".

[17] Ф. Д. Гуревич, *Древний Новогрудок*, Ленинград 1981; Ф. Д. Гурэвіч, *Летапісны Наваградак*, Санкт-Пецярбург — Наваградак 2003; А. К. Краўцэвіч, *Наваградак і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага* [у:] *Наваградскія чытанні*, Мінск 1996, вып. 4, с. 16.

[18] J. Ochmański, *Historia Litwy*, Wrocław-Warszawa-Kraków 1990, s. 48.

[19] M. Kosman, *Pompa funebris w Wilnie doby przedrozbiorowej*, "Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica" 1994, VI, s. 131.

*przekaz o Nowogródku jako miejscu koronacji, uznając, iż odbyła się ona w katedrze wileńskiej, co jednak oparte jest na mało przekonywających dowodach, a forsowane raczej ze względów politycznych*”[20].

Даволі дакладна рэканструяваны сам ход каранацыі. Аўтар рэканструкцыі летувіскі гісторык Зянонас Івінскіс звярнуў увагу на тую акалічнасць, што падобныя працэдуры, санкцыянаваныя рымскай курыяй, былі аднолькавымі па ўсёй Еўропе і апісанні многіх з іх захаваліся. Выкарыстаўшы блізкія па часе звесткі пра каранацыі іншых еўрапейскіх манархаў, З. Івінскіс апісаў працэдуру ўвядзення Міндаўга ў годнасць караля Літвы. Пасля ўзвядзення манарха на трон адбылося яго памазанне асвячоным алеем, потым убранне ў цырыманіяльны строй (каранацыйныя сандалі, белыя шаты), уручэнне мяча, фібулы для каралеўскай мантыі, пярсцёнка і інш[21].

Ацаніць гістарычнае значэнне факта каранацыі Міндаўга можна толькі праз высвятленне кантэксту падзей, з ім звязаных. І хрышчэнне, і каранацыя Міндаўга адбываліся падчас першай, таму, напэўна, самай важнай у гісторыі ВКЛ вайны. У 1249–1254 гг. нованароджаная дзяржава вяла вайну на выжыванне з Галіцка-Валынскім княствам і ягонымі саюзнікамі: Лівонскім ордэнам, Ятвяззю і *“паловай Жамойці”*[22]. Землі ўдзельнікаў кааліцыі ахоплівалі ВКЛ амаль з усіх бакоў, толькі на паўночным усходзе знаходзілася традыцыйна саюзная з ВКЛ Полацкая зямля.

Каб уратаваць дзяржаву і сябе самога, Міндаўг зрабіў нестандартны палітычны ход: звярнуўся да магістра Лівонскага ордэна з просьбай хрысьціць яго ў каталіцтва. Галоўнай задачай Ордэна, паводле статута, было хрышчэнне язычнікаў, таму браты-рыцары выказалі згоду і з ворагаў Міндаўга ператварыліся ў ягоных саюзнікаў. Дзяржава Міндаўга была ўратаваная. Пакуль лівонцы мелі сілу, гаспадар падтрымліваў з імі добрыя адносіны, выдаваў даравальныя прывілеі на розныя землі. Але, калі ў 1260 г. рыцары пацярпелі цяжкую паразу ад жамойтаў, Міндаўг забыўся як пра сваё хрышчэнне, так і пра каралеўскі тытул.

З дзеянняў Міндаўга вынікае, што першы гаспадар ВКЛ трактаваў справу хрышчэння і каранацыі інструментальна, як тактычныя хады ў сваёй знешняй палітыцы. Дарэчы, тое ж можна сказаць пра суседа-суперніка Міндаўга — Данілу Раманавіча, які прыняў карону ад папы таксама з тактычных меркаванняў, спадзяваючыся на дапамогу ад Захаду

[20] A. Rachuba, *Historia Litwy* [w:] A. Rachuba, J. Kiaupienė, Z. Kiaupa, *Historia Litwy. Dwugłos polsko-litewski*, Warszawa 2009, s. 14.

[21] Z. Ivinskis, *Mindaugas und seine Krone,* “Zeitschrift für Ostforschung”, 3. Jahrgang 1954, Heft 3, S. 360-386.

[22] ПСРЛ, Москва 1962, т. 2, слп. 815–816.

ў барацьбе з татарамі[23]. Абодва манархі былі моцна заангажаваныя ва ўсходнееўрапейскія справы і пакуль не бачылі патрэбы ўваходу сваіх дзяржаў у палітычную сістэму Заходняй Еўропы.

Каралеўства Літва аказалася эпізодам у гісторыі беларуска-літоўскага гаспадарства. Аднак хрышчэнне і каранацыя Міндаўга запачаткавалі дзве трывалыя традыцыі ў знешняй палітыцы ВКЛ. Першую з іх дакладней можна акрэсліць як традыцыйны дыпламатычны прыём: дэкларацыі вялікіх князёў літоўскіх пра намер прыняцця хрысціянства ў самыя напружаныя моманты барацьбы з Тэўтонскім ордэнам[24]. Рабілася гэта заўжды з адной мэтай: аслабіць мілітарны націск Ордэна на сваю дзяржаву.

Другая традыцыя — пачатак палітычнай арыентацыі ВКЛ на заходнееўрапейскую цывілізацыю. Усведамленне непазбежнасці такой арыентацыі фармавалася даволі марудна. Толькі больш чым праз стагоддзе вялікі князь Ягайла прыняў і ажыццявіў адпаведнае палітычнае рашэнне, галоўнай праявай якога было хрышчэнне па лацінскаму абраду яго самога і паганскай часткі дзяржавы і ўвядзенне дзяржаўнай пратэкцыі каталіцызму. Прайшло яшчэ шэсць вякоў, і сёння мы можам сцвярджаць, што гэтае рашэнне аказалася адным з найважнейшых ва ўсёй гісторыі ВКЛ і народаў, якія яго насялялі.

Важна таксама, як гэтую традыцыю шануюць сённяшнія спадкаемцы ВКЛ. Прыклад у гэтым сэнсе падаюць летувісы, якія трактуюць факт каранацыі Міндаўга як адну з важнейшых падзей у сваёй гісторыі. Каранацыя Міндаўга нібыта завяршыла стварэнне летувіскай дзяржавы, бо такім чынам гэтая дзяржава была прызнаная тагачасным светам. Гучаць прапановы нават зрабіць дзень каранацыі — 6 ліпеня — дзяржаўным святам сучаснай Летувіскай Рэспублікі[25].

## Streszczenie

Aliaksandr Kraucewicz, *Koronacja Mindoga: umiejscowienie w czasie i przestrzeni*

Problem z określeniem miejsca koronacji Mindoga w 1253 r. związany jest z rozbieżnościami przy próbach ustalenia położenia stolicy i z ogólną charakterystyką etniczną WKL. Stąd też oczywiste dążenie, na przykład, litewskich historyków do zlokalizowania tego miejsca na obszarze obecnej

[23] М. Грушевський, *Історія України-Руси*, Київ 1993, т. 3, с. 72.

[24] K. Chodynicki, *Próby zaprowadzenia chrześcijaństwa na Litwie przed r. 1386*, "Przegląd Historyczny", 1914, t. 18, s. 215–239.

[25] A. Bumblauskas, *Wielkie Księstwo Litewskie. Wspólna historia, podzielona pamięć*, Warszawa 2013, s. 55–56.

Litwy. Jednak większość historyków różnych narodowości za miejsce chrztu w 1251 r., a dwa lata później i koronacji Mindoga, uważa Nowogródek — pierwszą stolicę Państwa. Opierają się oni na wzmiankach autorów XVI- i XVII-wiecznych oraz informacjach ze źródeł XIII-wiecznych o ogólnej roli Nowogródka w stworzeniu WKL.

**Summary**

Aliaksandr Kraucewicz, *The Coronation of Mindaugas – ItsLocation in Time and Space*

The problem of determining the place of Mindaugas' coronation in 1253 is connected with indicating the location of his capital and influence on the general ethnic character of the Grand Duchy of Lithuania. Thus, the obvious efforts of — for example — Lithuanian historians to localise his capital on the territory of contemporary Lithuania. However, most historians of various nationalities believe that Mindaugas' baptism in 1251, and his coronation two years later, took place in Nowogródek (Polish spelling, now Navahrudak, Belarus) — the Grand Duchy's first capital. They base their assertion on mentions by 16$^{th}$ and 17$^{th}$ century authors, as well as information from 13$^{th}$ century source materials regarding the general role of Nowogródek in the creation of the Grand Duchy of Lithuania.

**Святлана Куль-Сяльверстава**
**(Беласток/Варшава)**

# Летазлічэнне ў выданнях Францішка Скарыны

Канец XV — першую палову XVI ст. умоўна можна лічыць эпохай Скарыны, хаця яе рамкі могуць быць больш шырокія, улічваючы ўплыў спадчыны першадрукара на духоўнае жыццё беларускіх зямель. Для Цэнтральнай і Усходняй Еўропы гэта была пераломная эпоха: першыя парасткі новага сацыяльна-эканамічнага ладу, пазначаныя сацыяльным авансам трэцяга саслоўя, увасобіліся ў Рэфармацыі, у працэсах вестэрнізацыі ўсходняга рэгіёна Еўропы, у развіцці гарадоў і іншых вызначальных з'явах сацыяльнага, эканамічнага і культурнага жыцця. Гэта эпоха была рэвалюцыйнай і для летазлічэння, якое з'яўлялася своеасаблівым адбіткам сацыяльных працэсаў. Паступовае пашырэнне таварна-грашовых адносін і разбурэнне натуральнай гаспадаркі, інтэнсіфікацыя эканамічнага жыцця прывялі да іншага стаўлення грамадства да часу: менавіта ў гэтую эпоху час пачынае дакладна ўлічвацца і вымярацца. Ратушы з гадзіннікамі робяцца неабходным атрыбутам буйных гарадоў, у тым ліку, да прыкладу, Вільні. Неабходнасць дакладнага вымярэння часу звязаная была з развіццём грашовых адносін, паколькі ад хуткасці гандлёвых аперацый, дакладнасці ў тэрмінах разлікаў і выплат залежаў поспех вытворцы, гандляра ці банкіра. Без перабольшвання можна сказаць, што пахавальнай музыкай для Сярэднявечча было тахканне гадзіннікаў.

Выданні Скарыны выдатна дэманструюць асноўныя тэндэнцыі, якія на беларускіх землях адбываліся ў сістэме летазлічэння, у стаўленні да часу. На сённяшні дзень гэтаму элементу скарынаўскіх выданняў — асаблівасцям ужывання асобных адзінак лічэння часу пры датаванні выданняў і іх частак, датам, якія ўзгадваюцца ў прадмовах, і інш.— не прысвечана ніводнага спецыяльнага даследавання. У выданнях дакументаў, факсімільных публікацыях твораў Ф. Скарыны, энцыклапедыях асаблівасцям яго сістэмы летазлічэння адведзена маргінальная роля: пра іх згадваюць, дыскутуючы пра канфесійную прыналежнасць першадрукара, пра час выхаду асабных кніг, пра крыніцы, якімі карыстаўся Скарына, ці ў сувязі з удакладненнем асобных дат яго жыцця. Так, да прыкладу, даты *Пасхаліі* з *Малой падарожнай кніжкі* сталі аргументам для датавання ўсяго выдання, а гербік, які выкарыстоўвае Ф. Скарына, прымусіў адшукваць даты

сонечных і месячных зацьменняў для вызначэння часу яго нараджэння[1]. Пры публікацыі твораў даты, якія прыводзіць Ф. Скарына, не паддаюцца навуковаму аналізу з дапамогай метадаў гістарычнай храналогіі, часам у каментарах да іх, а таксама да асобных храналагічных тэрмінаў, якімі карыстаецца першадрукар, робяцца памылкі ці недакладнасці ў тлумачэнні. Так, да прыкладу, тэрмін "Круг сонца", якім карыстаецца Ф. Скарына ў *Пасхаліі*, у акадэмічным выданні *Францыск Скарына. Творы* тлумачыцца наступным чынам: *"...астранамічная адзінка часу, які займае праходжанне сонцам свае арбіты за трапічны год паміж нябесных сузор'яў"*; адпаведна, тэрмін "Круг месяца" пазначаны тут як *"адзінка вымярэння часу, за перыяд праходжання месяцам арбіты зямлі паміж нябесных сузор'яў"*[2]. На самой справе дадзеныя тэрміны маюць не астранамічнае, а гісторыка-храналагічнае значэнне, і ў гэтым значэнні яны ўжываюцца Скарынам. Першы з іх вызначае нумар года ў 19-гадовым месячным (Мятонавым) цыкле; другі — нумар года ў 28-гадовым сонечным цыкле. Круг месяца выкарыстоўваецца пры вылічэнні даты поўні, Круг сонца — для вызначэння даты нядзелі пры вылічэннях дзён Пасхі ў хрысціянскай традыцыі.

Больш уважліва, чым іншыя даследчыкі, на скарынаўскай сістэме датавання і лічэння часу засяроджваецца Георгій Галенчанка. У яго кнізе *Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар*, выдадзенай у 1993 г., пытанням скарынаўскага летазлічэння прысвечана тры старонкі[3]. Зыходзячы з тэрміналогіі, а таксама звестак па агульнай гістарычнай храналогіі, беларускі даследчык карыстаўся пры аналізе дат і элементаў вылічэння часу працамі расійскіх хранолагаў. Менавіта таму, на нашую думку, ён не змог правесці дакладны і паўнавартасны аналіз скарынаўскага календара, не растлумачыў альбо недакладна растлумачыў існаванне таго ці іншага ягонага элемента. Даследаванні ўласна беларускай сістэмы летазлічэння ў час напісання дадзенай манаграфіі яшчэ не праводзіліся, таму, пэўна, і з'явіліся такія недакладнасці. Разам з тым, Г. Галенчанка зрабіў асобныя цікавыя і трапныя назіранні, якія падмацаваныя ягонымі энцыклапедычнымі ведамі па кадыкалогіі. Гэта датычыцца, да прыкладу, прынцыпаў, паводле якіх укладзены *Часасловец*, выкарыстання Скарынам народных назваў месяцаў, падзелу сутак на гадзіны і інш.

Найбольш інфарматыўнай для вывучэння сістэмы скарынаўскага летазлічэння, безумоўна, з'яўляецца *Пасхалія* — частка г. зв. *Малой*

---

1 Г. Я. Галенчанка, *Францыск Скарына: у павуціне версій, стэрэатыпаў і міфаў*,[у:] *Российские и славянские исследования: науч. сб.*, Минск 2008, вып. 3, с. 123–136.

2 Францыск Скарына, *Творы: прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія*, Мінск 1990, с. 181.

3 Г. Я. Галенчанка. *Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар*, Мінск 1993, с. 135–137.

*падарожнай кніжкі*, але ва ўсіх скарынаўскіх кнігах ёсць элементы летазлічэння, вартыя аналізу з пункту погляду гістарычнай храналогіі.

Большасць скарынаўскіх выданняў і асобныя іх часткі маюць дату друку. Звычайна пазначаныя год і месяц выдання, часам толькі год, у некаторых выпадках дадаецца дзень, калі выданне было пачатае ці скончанае. Элементы даты, іх пазначэнне цалкам адпавядаюць правілам справаводства, якія ў той час выкарыстоўваліся, што трэба асобна падкрэсліць, у **свецкіх** актах кірылічнага пісьма, у тым ліку ў дакументах Вялікакняскай канцылярыі. Скарына, у адрозненне ад вялікакняскіх пісараў, не выкарыстоўвае для датавання індыкты, якія на той час былі ўжо архаічным элементам летазлічэння. Яшчэ адной адметнасцю скарынаўскага датавання публікацый з'яўляецца пазначэнне дня з дапамогай нумара, што таксама падкрэслівае свецкі характар даты. Асобныя элементы скарынаўскага летазлічэння больш падрабязна будуць прааналізаваныя ніжэй, цяпер жа хочацца адзначыць наступнае. На нашую думку, у такім характары датавання выданняў увасобілася стаўленне Друкара да сваёй працы: да выдання Бібліі Скарына падыходзіў не як да акта веры, не з пункту погляду верніка-артадокса, а як да акта асветніцтва, як асоба Рэнесансу, якая перадусім імкнецца да ведаў і разумення сусвету.

Вельмі цікавую інфармацыю для гісторыка-храналагічнага аналізу дае скарынаўская *Пасхалія*. Ва ўступным слове да яе Ф. Скарына адзначае, што друкуе *"паскалію"* для тых, *"кто хощет паскалью водить и о празницех разуметь"*[4]. Сэнс гэтага выказвання добра зразумелы з пункту погляду гістарычнай храналогіі: *"паскалью водить"* у дадзеным выпадку азначае не проста святкаваць Вялікдзень, а мець уяўленне аб тым, як ён вылічваецца, умець выкарыстоўваць спецыяльныя храналагічныя метады для вылічэння рухомых свят. Зыходзячы з такога пачатку прадмовы, было б лагічна далей чакаць ад выдаўца апісання метадаў вылічэння Пасхі, спецыяльных табліц ці схем.

У скарынаўскую эпоху вылічэнне даты Вялікадня, якая была агульнай для каталікоў і праваслаўных, у лацінскай і грэка-візантыйскай цэрквах рабілася з дапамогай дастаткова складаных метадаў, выкарыстоўваліся розныя тэрміны і формулы. Зыходнымі дадзенымі для разліку Пасхі з'яўляліся дата вясновага раўнадзенства, дата поўні пасля гэтага раўнадзенства і дата першай нядзелі пасля поўні. Дата раўнадзенства, замацаваная Нікейскім саборам у 325 г., была стабільнай і не залежала ад астранамічных паказчыкаў — 21 сакавіка. Для вылічэння даты поўні

[4] Францыск Скарына, *Творы*, с. 94.

і ў грэка-візантыйскай, і ў лацінскай традыцыі выкарыстоўваўся 19-гадовы месячны цыкл, адкрыты старажытнагрэчаскім матэматыкам і астраномам Мятонам Афінскім. Кожныя 19 гадоў паўтараліся даты сонечнага календара, на якія прыпадала поўня. Нумар года ў гэтым цыкле і ў грэка-візантыйскай, і ў лацінскай традыцыі акрэсліваўся тэрмінам “Круг месяца”. Для вызначэння даты нядзелі патрэбныя былі вылічэнні, якія мелі зыходнымі дадзенымі 7-дзённы тыдзень і адметнасць юльянскага календара — сістэму высакосных гадоў. Спалучэнне гэтых двух элементаў давала 28-гадовы цыкл: кожныя 28 гадоў алгарытм размяшчэння дзён тыдня па каляндарных датах паўтараўся. Нумар года ў 28-гадовым цыкле называўся ў грэка-візантыйскай і ў лацінскай традыцыі “Кругам сонца”. Але нават маючы лічбы Круга месяца і Круга сонца, неабходна было рабіць спецыяльныя вылічэнні ці карыстацца табліцамі, каб знайсці дату Пасхі, бо поўны цыкл, у які паўтараецца алгарытм размяшчэння Пасхі адносна каляндарных дат (т. зв. Вялікі Індыктыён), складае (19 х 28) 532 гады. Методыка вылічэння Пасхі распрацоўвалася на працягу стагоддзяў, у яе аснову былі пакладзеныя матэматычныя вылічэнні Кірыла Александрыйскага, дапоўненыя затым Дыянісіям Малым. У грэка-візантыйскай традыцыі для вылічэння велікоднай даты ўжывалася вруцэлета (кірылічная літара-лічба, якая вылічваецца на падставе Круга сонца) і спецыяльныя табліцы ці прымянялася методыка лічэння па суставах і пальцах рук[5]; у лацінскай традыцыі тая ж методыка была заснаваная на лацінскім алфавіце, выкарыстоўваліся табліцы і формулы, іх дапаўнялі т. зв. хранаграмы — спецыяльныя вершы на лацінскай мове, якія дазвалялі кампутыстам запамінаць парадак ключоў ці літар пры вылічэннях[6].

У скарынаўскай *Пасхаліі* адсутнічаюць формулы і табліцы для вылічэння даты Вялікадня, няма тлумачэнняў, якім чынам акрэсліваюцца Пасха і іншыя рухомыя святы. З усіх правіл царкоўнай кампутыстыкі згадваецца толькі падзел на рухомыя святы, якія ўваходзяць у пасхальны цыкл, і нерухомыя, якія прывязаныя да акрэсленых дат календара.

Цікавым фрагментам гэтай часткі *Пасхаліі* з’яўляецца згадка пра месячны каляндар: *“Праздники суть двоякие. Одны, што не имають отделенного дня во святцех, но рушаются водле бегу полноты месеца небесного…”*[7]. У дадзеным выпадку Ф. Скарына спасылаецца на розніцу паміж месячным годам і каляндарным сонечным годам, якая складае 11 дзён, што абумоўлівае перамяшчэнне фаз Месяца

[5] И. А. Климишин, *Календарь и хронология*, Москва 1985, с. 355–356.

[6] H. Wąsowicz, *Chronologia średniowieczna*, Lublin 2015, s. 285–413.

[7] Францыск Скарына, *Творы*, с. 94.

па датах каляндарнага года. Менавіта на гэтай розніцы пабудаваны 19-гадовы месячны цыкл.

У скарынаўскай *Пасхаліі* пазначаныя святы на працягу 21 года — з 1523 па 1543 г. Г. Галенчанка справядліва адзначае, што выбар колькасці гадоў абумоўлены Мятонавым цыклам: 19 гадоў і два дадатковыя — апошні з папярэдняга цыклу і першы з наступнага[8]. На нашую думку, пасхалія, якую надрукаваў Ф. Скарына, не была ім самім распрацаваная. Гэта было проста немагчыма, калі ведаць правілы складання пасхалій: яны распрацоўваліся па даручэнні вышэйшых царкоўных іерархаў вучонымі-багасловамі і толькі пасля спецыяльнага зацвярджэння-дабраславення пачыналі выкарыстоўвацца. Тэрміны, на якія распрацоўваліся пасхаліі, былі рознымі. Так, да прыкладу, адна з найбольш старажытных пасхалій, якую выкарыстоўвалі ў той час у Кароне, пачыналася з 1045 г. і заканчвалася 1581 г. Яна мела выгляд прамавугольніка, па баках якога ўпісаныя былі даты Пасхі і гады па эры ад стварэння свету, а астатнюю частку табліцы займалі лічбы Круга месяца. Для выкарыстання гэтай табліцы дадаткова патрэбны быў т. зв. вечны каляндар з распісанымі па днях лічбамі Круга месяца[9]. У Маскоўіі адной з вядомых была *Пасхалія мітрапаліта Зосімы*, апрацаваная каля 1492 г., складзеная на 20 гадоў[10].

Верагодна, Францішак Скарына выкарыстаў пасхалію, якая ў той час мелася ў праваслаўных храмах ці ў бібліятэцы віленскага біскупа. Гісторыкі царквы і кадыколагі, як падаецца, маглі б адшукаць гэтую крыніцу скарынаўскай публікацыі, абапіраючыся на згадкі аб замене пасхальных табліц у царкоўных дакументах ці на звесткі Тыпіконаў, якія перапісваліся ў манастырах у скарынаўскую эпоху. У якасці гіпотэзы выкажам меркаванне, што Першадрукар выкарыстаў пасхальную табліцу і адаптаваў яе звесткі для *“люду паспалітага”*. На карысць такой думкі сведчыць наяўнасць у пералічэнні параметраў года спецыфічных кампутысцкіх тэрмінаў, якія не былі патрэбныя для звычайных карыстальнікаў царкоўнага календара: Круга сонца і Круга месяца. Магчыма, што пасхалія, якая была пратографам скарынаўскай публікацыі, заканчвалася менавіта 1543 г. (7051 г. ад СС), што і абумовіла храналогію скарынаўскай публікацыі. Г. Галенчанка выказвае меркаванне, што Ф. Скарына мог карыстацца кнігамі і атласамі па астраноміі, у тым ліку творамі Ёгана Шцёфлера (Johannes Stöffler)[11], у якіх абавязкова меліся табліцы з месячным і сонечным цыкламі.

[8] Г. Я. Галенчанка, *Францыск Скарына*, с. 136.

[9] H. Wąsowicz, *Chronologia*, s. 309–310.

[10] И. А. Тихонюк, *“Изложение пасхалии” московского митрополита о. Зосимы,*[в:] *Исследования по источниковедению истории СССР. Сборник статей,* Москва 1986, с. 45–61.

[11] Г. Я. Галенчанка, *Францыск Скарына*, с. 140.

Як падаецца, рэдукцыя даты эры ад СС на эру ад РХ, якая прыводзіцца Скарынам, з'яўляецца яго ўласным дадаткам да пасхаліі і зроблена дзеля адаптацыі дадзеных царкоўнага календара для выкарыстання недухоўнымі асобамі, прадстаўнікамі *"люду паспалітага"*, якія, як і першадрукар, жывуць па эры Дыянісія.

Кожны з элементаў сістэмы лічэння часу, якую выкарыстоўвае ў сваіх творах Францішак Скарына, мае адметнасці, што дазваляюць ахарактарызаваць як погляды самога першадрукара, так і асяроддзе, у якім ён дзейнічаў, той самы *"люд паспаліты"*, для якога друкаваліся кнігі. Разгледзім падрабязней кожны з элементаў датацыі Скарыны.

## Эра

Георгій Галенчанка, аналізуючы датацыю скарынаўскіх выданняў, піша, што Скарына карыстаўся дзвюма эрамі: эрай візантыйскай (ад стварэння свету), і эрай ад Раства Хрыстовага. Аб выкарыстанні Скарынам для летазлічэння візантыйскай эры, на думку беларускага даследчыка, сведчаць даты скарынаўскай *Пасхаліі*. Г. Галенчанка робіць дапушчэнне, што ў часы Скарыны візантыйскую эру ўжывалі ў Полацку, яна часта сустракаецца ў летапісных крыніцах, і на беларускіх землях была асноўнай аж да XVIII ст., а эра ад РХ радзей тут сустракаецца. Узгадвае беларускі навуковец чамусьці і ўвядзенне эры ад РХ Пятром I у 1700 г., хаця ніякага дачынення да нашай гісторыі пятроўская рэформа не мае. Эра ад РХ, або эра Дыянісія (у часы СССР — наша эра), у Г. Галенчанкі названая хрысціянскай. Так яна ніколі не называлася, магла называцца лацінскай або каталіцкай[12].

Падаецца, што ў дадзеных памылковых сцвярджэннях беларускага навукоўца транслююцца погляды на сістэму летазлічэння на беларускіх землях, якія склаліся ў расійскай гістарычнай храналогіі. Нявывучанасць гэтай часткі нашага гістарычнага мінулага неаднойчы прыводзіла да прыкрых памылак, таму падобная ацэнка беларускага даследчыка не з'яўляецца выключэннем.

Францішак Скарына для адліку часу ўжываў выключна эру ад Раства Хрыстовага. Даты паводле гэтай эры стаяць у пражскіх і віленскіх выданнях. Пазначэнне пачатку эры Скарынам з'яўляецца звычайным, яно сустракаецца ў актавых і асабістых дакументах, у хроніках і летапісах таго часу, у тым ліку ў Літоўскай Метрыцы: *"по нароженіи Христове"*, *"нарожения сына божия"*, *"нарожения нашего спасителя Ісуса Христа, сына божия, воплощения слова божия"*, *"лета Христова"*[13].

[12] Г. Я. Галенчанка, *Францыск Скарына*, с. 136.

[13] Францыск Скарына, *Творы*, с. 29, 43, 52, 72, 94 і інш.



Іисуса Навина 407. ми

Доконавлютсѧ книги Іисуса сына На
вина. Зовемаѧ ѿ еврей Егушуа бин Нун
Божиею ласкою. И его пресвѧтое, пребла
гословеное, и пречистое девици Матери Ма
рии. К наибуце людем посполитым руско
го ѧзыка. Выданы и выложены повелением
и працею ученаго мужа Францыска Скори
ны. И зславенаго града Полоцька. В наеу
ках вызволеных и в лекарстве Доктора:
У великом месте Празском. По летех
нароженьѧ нашего спасителѧ Іиса Хрста
сына божиѧ з непорушоное панны Марии
Тысечи, пѧтистех, и осминадесети
месеца декабриѧ:
днѧ двадцатого:
Тоу Феоу Харитас:

**Пазначэнне эры ў выданнях Францішка Скарыны**

Візантыйская эра (ад стварэння свету) была першай эрай, якую выкарыстоўвалі ў пісьмовых крыніцах на беларускіх землях. Эра Дыянісія з'яўляецца ў нашых пісьмовых помніках у канцы XIV ст., трывала замацоўваецца ў справаводстве з сярэдзіны XV ст. У сярэдзіне XVI ст. яна ўжо пануе ў актавых крыніцах і з'яўляецца найбольш ужыванай у крыніцах асабістага паходжання. Менавіта замена эры з візантыйскай на эру Дыянісія была найбольш заўважнай прыкметай вестэрнізацыі летазлічэння. У другой палове стагоддзя рэформа канцылярыі ВКЛ,

праведзеная Львом Сапегам, канчаткова замацавала фармуляр дакументаў і храналагічную дату: год па эры ад РХ, месяц і нумар дня. Так датаваліся акты рознага характару — ад запісаў гродскіх і земскіх кніг да запісаў выракаў копных судоў. У летапісах і хроніках часоў Скарыны візантыйская эра не была асноўнай, як піша Г. Галенчанка. Яна трапляла туды ў выпадку выкарыстання старажытных пратографаў — рэдукцыю дат пры гэтым не рабілі[14]. Паказальна, што эра ад Раства Хрыстовага ў Маскоўскай дзяржаве ў сярэдзіне XVI–XVII ст. часам называлася "літоўскай", што падкрэслівала адрозненні ў летазлічэнні Масковіі і ВКЛ[15].

Тое, што Скарына выкарыстоўвае візантыйскую эру ў *Пасхаліі*, звязанае не з практыкай паўсядзённага ўжывання гэтай эры і не з яе распаўсюджаннем у той час на нашых землях, а з прынцыпамі вылічэння даты Пасхі паводле Александрыйскай пасхаліі, якую выкарыстоўвалі ў той час і праваслаўная царква, і каталіцкая і якая была звязаная з візантыйскай эрай. У лацінскіх пасхаліях, нягледзячы на тое, што з 1431 г. пры папе Яўгене IV эра Дыянісія была прынятая як абавязковая ў папскай канцылярыі, кампутысты пры разліках карысталіся візантыйскай эрай[16]. Скарына таксама выкарыстоўвае яе, але хутчэй як элемент вылічэння, а не як частку датацыі. Таму тут пытанне не столькі гістарычнай храналогіі, колькі багаслоўскае — пытанне канона.

Асобна трэба сказаць пра стыль, які выкарыстоўвае Скарына. З эрай ад РХ ужывалася некалькі стыляў на працягу яе існавання, але на беларускіх землях вядомыя толькі два — студзеньскі і снежаньскі. Апошні (год пачынаўся з 25 снежня) ужываўся ў ордэнскай сістэме летазлічэння, часам яго можна сустрэць і ў нас, але амаль выключна ў XV ст. Паўсядзённым стылем, па якім жыў Ф. Скарына, з вялікай доляй верагоднасці быў студзеньскі стыль. Тым больш што ў той час і Прага, і Кракаў, і Піза жылі па гэтым стылі. Што ж тычыцца вераснёўскага стылю, які Г. Галенчанка называе стылем выданняў Скарыны[17] (перш за ўсё ягоных святцаў),— гэта таксама пытанне не летазлічэння, а канон.

Вераснёўскі стыль быў характэрны для візантыйскай эры, з канца XV ст. ён быў адзіным для яе стылем, які выкарыстоўваўся ў праваслаўных землях, найперш у Маскоўскай дзяржаве. У сувязі з гэтым паўстае пытанне пра

[14] Больш падрабязна аналіз ужывання дзвюх эр у помніках беларускага пісьменства зроблены ў наступнай працы аўтаркі: С. Куль-Сяльверстава. *Беларускі час. Летазлічэнне ў Беларусі ад старажытнасці да сучаснасці*, Гродна 2015, с. 34–53.

[15] *Опись архива Посольского приказа 1626 года* / Подгот. В. И. Гальцов; под ред. С. О. Шмидта, ч. 1, Москва 1977, с. 91, 93, 96.

[16] И. А. Климишин, *Календарь и хронология*, с. 250.

[17] Г. Я. Галенчанка, *Францыск Скарына*, с. 136.

дакладнасць рэдукцыі дат, якую робіць Ф. Скарына ў *Пасхаліі*. Пераводзячы дату па візантыйскай эры на эру Дыянісія, першадрукар не ўлічвае розніцы ў чатыры месяцы, якая ўзнікае з-за рознага пачатку года. Так, 7031 год пададзены ім як 1523, 7032 — як 1524, і г. д[18]. Згодна з правіламі рэдукцыі, розніца паміж эрамі складае са студзеня па верасень 5508, а з верасня па студзень — 5509 гадоў, таму належала пісаць падвойныя даты па эры ад РХ (7031–1522/1523; 7032–1523/1524 гг. і г. д.). Аднак, на нашую думку, друкаванне адной даты ў дадзеным выпадку абумоўлівалася логікай самой скарынаўскай *Пасхаліі*. Галоўнай яе задачай было паказаць час рухомых свят пасхальнага цыклу. З нерухомых свят Ф. Скарына пазначае толькі Раство Хрыстовае. Святы пасхальнага цыклу ахопліваюць першую палову года, да свята Пятра і Паўла. Таму асаблівасці рэдукцыі дат з улікам вераснёўскага і студзеньскага стыляў можна было не ўлічваць і пазначаць толькі адзін нумар года па эры ад РХ.

Цікавым для аналізу элементам скарынаўскай *Пасхаліі* з'яўляецца індыкт, адна з нямногіх адзінак, якая заснаваная не на астранамічных назіраннях, а на эканамічных патрэбах. Індыкт — парадкавы нумар года ў пятнаццацігадовым цыкле. У 312 г. адлік з дапамогай індыктаў, якія былі звязаны з перапісамі падаткаплацельшчыкаў у Егіпце, а затым і ў Старажытным Рыме, быў замацаваны ў якасці адзінкі летазлічэння імператарам Канстанцінам. Лічэнне індыктамі вялося паралельна з лічэннем гадамі, лічба індыкта (парадкавы нумар дадзенага года ў пятнаццацігадовым цыкле) магла пісацца побач з нумарам года ад акрэсленай эры, а часам індыкт ужываўся замест нумара каляндарнага года. Пачатковым пунктам адліку індыктамі быў абраны першы год па эры ад стварэння свету. Існавала некалькі практык адліку індыктамі, але найбольш распаўсюджаным, у тым ліку на нашых землях, быў т. зв. грэчаскі індыкт (*Constantinopolitana* або *indictio Graeca*), у якім змена індыкта наступала да сярэдзіны V ст. з 25 верасня, а пасля — з 1 верасня[19]. Традыцыя лічэння індыктамі, што прыйшла на землі ВКЛ разам з праваслаўем, выглядала арганічнай адзінкай лічэння часу толькі ў візантыйскай сістэме. Нумар года і нумар індыкта ў ёй змяняліся адначасова — у верасні, а адлік індыктаў пачынаўся, як і эра,— ад стварэння свету. Але паступовае выцісканне візантыйскай эры і вераснёўскага стылю лацінскай сістэмай летазлічэння, у якой год змяняўся 1 студзеня, а адлік вёўся ад Раства Хрыстовага, рабілі грэчаскі індыкт чужародным элементам новага пазначэння дат. Не зважаючы на гэта,

[18] Францыск Скарына, *Творы*, с. 94–100.

[19] Э. Бикерман, *Хронология древнего мира. Ближний восток и античность* / Перевод И. М. Стеблин-Каменского, Москва 1975, с. 73.

індыкт актыўна ўжываўся да сярэдзіны XVI ст., калі эра ад РХ і студзеньскі стыль ужо занялі дамінуючае месца ў летазлічэнні. Выкарыстанне індыкта побач з эрай ад РХ уяўляла сабой своеасаблівы кампраміс паміж заходняй і ўсходняй, праваслаўнай і лацінскай традыцыямі лічэння часу. Яго знікненне з датавання, між іншым, сведчыла пра перамогу на беларускіх землях заходнееўрапейскіх уплываў над старажытнымі візантыйскімі, аб працэсах мадэрнізацыі не толькі летазлічэння, але і іншых сфер жыцця.

Францішак Скарына не выкарыстоўвае індыкт у датаванні сваіх выданняў, гэты элемент лічэння з'яўляецца толькі ў *Пасхаліі*, пры гэтым нумары індыктаў дакладныя, адпавядаюць згаданаму году паводле візантыйскай эры. Год па эры Дыянісія мае два грэчаскія індыкты, што абумоўлена розніцай у пачатку адліку: нумар года змяняецца ў студзені, нумар індыкта — у верасні. У *Пасхаліі* Скарына паказвае толькі адзін індыкт, што тлумачыцца, на нашую думку, тымі ж меркаваннямі, што і ў выпадку рэдукцыі дат з адной эры на другую: індыкт пазначаўся для першай паловы года па эры Дыянісія, не закранаючы месяцы пасля 1 верасня.

## Год

Год (лета) у скарынаўскіх выданнях пазначаецца ці кірылічнымі літарамі-лічбамі, ці лічбамі, напісанымі словамі. У *Пасхаліі* асобна пазначаныя простыя і высакосныя гады. У дадзеным выпадку цікавым з'яўляецца назва высакоснага года, якой карыстаецца Скарына: *"лето переступное"*. Сёння гэтая назва вельмі рэдка ўжываецца ў беларускай мове, існуе яна ва ўкраінскай мове[20], а ў польскай (*przestępny rok*) з'яўляецца асноўным тэрмінам для пазначэння высакоснага года.

## Месяц

У скарынаўскім датаванні сустракаецца вызначэнне *"нябесных"* і *"кніжных"* месяцаў. Як падаецца, гэта надзвычай цікавы факт, паколькі ён дае дадатковыя веды аб стаўленні першадрукара да астраноміі. Астраномія была ў ліку прадметаў другой ступені навучання ў Кракаўскім універсітэце. Як адзначае Г. Галенчанка, Кракаўскі ўніверсітэт быў буйным цэнтрам еўрапейскай астраноміі і астралогіі, тут вучыўся Мікалай Капернік[21]. Ф. Скарына спецыяльна называе астраномію важнай часткай *"вызваленых навук"*, падкрэсліваючы, якія астранамічныя з'явы пазначаныя ў біблейскіх кнігах: *"...о сотворении солнеца и месеца и звезд... яко стояло солнеце*

[20] *Словник української мови: в 11 томах,* том 6, Київ 1975, стор. 291.

[21] Г. Я. Галенчанка, *Францыск Скарына*, с. 135.



БОЖИЯ :~

Кончаетсѧ книга рекомаѧ премудрсть. По
мощию бога в тройци единаго. и матери
его пречтое девици марии. повелени
емъ, працею, и выкладом ученаго мужа
в лекарскихъ наукахъ доктора франциска
скоринина сына, с полоцка. в славномъ
старомъ месте празскомъ. лета пона
рожении спасителѧ нашего. тысещного пѧт
сотаго и осмъ надесѧтаго. мца генуарѧ
днѧ девѧтаго надесѧть :~

**Пазначэнне года ў выданнях Францішка Скарыны**

*на едином месте за целый день… еже солнеце вспять поступило… о новостворенoй звезде”*[22].

Адрозненне *“нябесных”* і *“кніжных”* месяцаў — гэта розніца паміж астранамічным (трапічным) ці сідэрычным месяцам і месяцам як адзінкай лічэння часу ў сонечным календары. Гэтую розніцу Ф. Скарына спецыяльна

---

[22] Францыск Скарына, *Творы*, с. 46.

падкрэслівае: *"…у великом месте Празском по летех нарожения нашего спасителя тысеща пятистех и девятинадеяти, месяца книжънаго декаврия, дня пятого на десять."*[23] *"Нябесныя"* месяцы пазначаныя ва ўступе да *Пасхаліі* як адна з частак вылічэння даты Вялікадня. Асобна паведамляецца, што пасхаліі існуюць, каб ведаць каляндарную дату рухомых свят: *"…в которые дни книжных месецей их празновати имамы"*. Як ужо адзначалася, Скарына падкрэслівае ва ўступе, што менавіта адрозненне месячнага і каляндарнага года прыводзіць да з'яўлення рухомых свят[24].

Скарына дае пераклад народных назваў месяцаў на юльянскія. Г. Галенчанка прыводзіць надзвычай цікавае параўнанне назваў месяцаў у *Малой падарожнай кніжыцы* і ў іншых рукапісных і друкаваных крыніцах. У актавых дакументах таго часу ўжываліся як рымскія назвы месяцаў, так і народныя. І яшчэ адно назіранне: гэтыя народныя назвы толькі часткова паўтараюць больш архаічныя славянскія, якія маюцца, да прыкладу, у розных спісках *Аповесці мінулых гадоў*. Паўстае пытанне: ці народныя назвы, якія дае Скарына, сапраўды, як піша Г. Галенчанка[25], з'яўляюцца беларускімі? На нашую думку, гэта назвы месяцаў, якія ў той час выкарыстоўваюцца ў польскамоўных дакументах, што ствараліся як на тэрыторыі Кароны, так і на тэрыторыі ВКЛ. Менавіта ў XVI стагоддзі пачынаецца пранікненне гэтых назваў у польскамоўныя дакументы, у кірылічных яны ў той час сустракаюцца значна радзей. Больш інтэнсіўнае і хуткае ўваходжанне народных назваў месяцаў у польскамоўныя пісьмовыя крыніцы, на нашую думку, звязанае, між іншым, з асаблівасцямі датавання такіх дакументаў у часы Сярэднявечча. Пазначэнне месяца не было абавязковым элементам даты, часцей пазначаўся год і рэлігійнае свята, якое выпадае на гэты дзень. Таму пры секулярызацыі датавання, што адбываецца ў часы Рэнесансу, стварылася магчымасць увесці ў незанятую нішу ў датаванні мясцовую назву месяца. Пераход ад лацінскіх назваў да польскіх адбываўся ў польскамоўных дакументах некалькі стагоддзяў. Яшчэ ў XVII ст. у адным дакуменце можна сустрэць і адны, і другія, напісаныя поруч: *"Roku terazniejszego, tysąc szescset szesdziesągego, począwszu ode dnia pierwszego msca Marca, przez ten cały miesąc Marzec, Kwiecien, Maj y Jun, aż do miesąca Jula…"*[26]. Юзаф Шыманьскі адзначае, што ў Польшчы назвы месяцаў канчаткова ўсталяваліся ў XVI ст., да гэтага часу тут назіраецца шматварыянтнасць, калі ў розных мясцовасцях маглі ўпісваць у фармуляр

23 Тамсама, с. 76.
24 Францыск Скарына, *Творы*, с. 94.
25 Г. Я. Галенчанка, *Францыск Скарына*, с. 134.
26 *Акты Виленской археографической комиссии* (далей — АВАК), Вильна 1909, т. 34, с. 147.

не толькі лацінскія, але і рознага гучання славянскія назвы месяцаў. Так, у дакументах кракаўскай капітулы поруч з лацінскімі найменнямі сустракаюцца архаічныя для польскай мовы агульнаславянскія назвы: просінец, стромпач, унор і іншыя[27].

У кірылічнай традыцыі пазначэнне месяца было амаль абавязковым, пры гэтым трывала замацаваліся юльянскія (рымскія) назвы, іх замена народнымі ў гэтым выпадку была больш складанай і практычна не апраўданай.

З народных назваў, якія сустракаюцца ў творах Ф. Скарыны, толькі назва аднаго месяца — прасінец (снежань) — адсутнічае ў польскамоўных дакументах, лістападам названы кастрычнік, а груднем — лістапад. Пералік месяцаў, які дае Скарына, амаль цалкам супадае з назвамі іх у тагачасных польскіх календарах[28]. Параўнанне з *Дзесятаглавам* 1502–1507 гг., праведзенае Г. Галенчанкам, гаворыць на карысць меркавання пра польскія назвы: ад скарынаўскіх і ад тагачасных польскіх у гэтым рукапісным творы адрозніваюцца назвы 7 месяцаў. Выкарыстанне народных назваў месяцаў у тагачасных крыніцах беларускага паходжання пакуль спецыяльна не даследавалася, магчыма, больш шырокі аналіз дазволіць удакладніць пытанне аб моўнай прыналежнасці ўжываных Скарынам тэрмінаў.

## Тыдзень і дзень

Як і ўся Еўропа, якая карысталася юльянскім календаром, ВКЛ і Скарына пачыналі тыдзень у нядзелю. Гэта быў першы дзень тыдня, а субота — апошні.

Вельмі характэрным з'яўляецца пазначэнне Скарынам дня падзеі: падаецца толькі нумар дня ў месяцы, пры датаванні выданняў не згадваецца ні дзень тыдня, ні рэлігійнае свята, якое прыпадае на гэты дзень. Менавіта пазначэнне дня ў вялікай ступені робіць скарынаўскую датацыю свецкай. У гэты час і ў лацінскай, і ў кірылічнай пісьмовай традыцыі склаліся дастаткова трывалыя звычаі пазначэння дня падзеі. У лацінскай традыцыі для датавання ўжываўся літургічны каляндар, у якім дні пазначаліся з дапамогай рэлігійнага свята ці прысвятка, а назва месяца не ўжывалася: *«Datum Grodnae, feria secunda in vigilia Sancti Andreae Apostoli»* (*"Дадзены ў Гродне, у панядзелак, у свята Святога Андрэя Апостала"*)[29]; *«Actum et datum Cracoviae, feria quinta, Ipso die festi Sanctorum Simonis et Iudae*

[27] J. Szymański, *Nauki pomocnicze historii*, Warszawa 2012, s. 134.
[28] H. Wąsowicz, *Chronologia*, s. 251.
[29] *Lietuvos Metrika = Lithuanian Metrica Литовская Метрика*, Kn. 25, Vilnius, 1998, s. 79.

*Apostolorum*" (*"Складзена і дадзена ў Кракаве, у чацвер, у дзень Святых Сымона і Юды Апосталаў"*)[30]; *«Actumin Grodno[31], feriaquinta Caenae Domini»* (*«Складзена ў Гродне, у чацвер, у дзень Тайнай Вячэры"*)[32]; *«Dan w Trokach, feria tertia proxima ante festum corporis Christi»* (*"Дадзены ў Троках, у аўторак, бліжэйшы перад святам Цела Гасподня"*)[33]. Такое напісанне даты было абавязковым у лацінскамоўных дакументах, сустракаецца яно таксама і ў польскамоўных да канца XVIII ст. (*Volumina Legum*). У праваслаўнай традыцыі свята ці прысвятак часцей пазначалі адначасова з напісаннем нумара дня і месяца: *"Лета божого нароженя 1595, месяца ноября 30 дня в понедело(к) за тыдзень пред святым Николою…"*[34].

Цікавым, на нашую думку, з'яўляецца той факт, што падобнае датаванне, без згадкі рэлігійных свят, апрача Раства Хрыстовага і Пасхі, ужывалі пазней пратэстанты. У прадмовах і пасляслоўях скарынаўскіх выданняў, між іншым, адсутнічаюць малітвы да святых і айцоў царквы, згадваюцца толькі Хрыстос і Маці Божая, што таксама характэрна для пісьмовых помнікаў, пакінутых пратэстантамі.

Скарына дастаткова дакладна акрэслівае памер сутак, пачатак дня, аб чым падрабязна піша Г. Галенчанка[35]. Падзел на 24 гадзіны ў той час быў звычайным для сутак, хаця сустракаліся і іншыя варыянты. Літургічны падзел адрозніваўся ад свецкага, вызначаючы 8 службаў і размяркоўваючы дзень адпаведна ім, пры гэтым не звязваючы іх з астранамічнымі гадзінамі. Адрэзкі паміж службамі былі няроўнымі і змяняліся ў розныя поры года. Кананічны падзел сутак на службы выглядаў наступным чынам:

— Ютрань (лац. *Matutinum* ці *Matutinae*; у візантыйскім абрадзе — ὄρθρος) — уначы.

— Хвалы (лац. *Laudes*) — на світанні.

— Першая гадзіна (лац. *Prima*) — прыблізна шостая гадзіна раніцы.

— Трэцяя гадзіна (лац. *Tertia*) — прыблізна дзявятая гадзіна раніцы.

— Шостая гадзіна (лац. *Sexta*) — апоўдні.

— Дзявятая (лац. *Nona*) — прыблізна трэцяя гадзіна дня.

— Нешпары (лац. *Vesperae*) — на заходзе.

---

30 Ibidem,— s. 81.

31 Так у тэксце.

32 *Lietuvos Metrika = Lithuanian Metrica Литовская Метрика*, Kn. 25, s. 290.

33 *Skarbiec dyplomatów papieskich, cesarskich, królewskich, uchwał narodowych, postanowień różnych władz i urzędów posługujących do krytycznego wyjaśnienia dziejów Litwy, Rusi Litewskiej i ościennych im krajów*. Zebrał i w treści opisał Ignacy Daniłowicz, t. 2, Wilno 1862, s. 9.

34 *Баркулабаўскі летапіс. Летапісы і хронікі Беларусі. Сярэднявечча і раньнемадэрны час.* Тэматычны дадатак да нумару "ARCHE" № 9 за 2009 ("Беларусь і Літва: 1000 год разам"), с. 388.

35 Г. Я. Галенчанка, *Францыск Скарына*, с. 138.

— Камплета (лац. *Completorium*) — перад сном.

У *Часаслоўцы* Ф. Скарына дае дакладны пералік службаў, якія ў той час былі прынятыя ў хрысціян ВКЛ, іх назвы і час: *"полунощница"*, *"другая полунощница, певаемая в суботы"*, *"третья полунощница — во вся воскресения"*, *"утреня обычная во вся дни"*, *"обедница"*, *"павечерница великая, певаемая в посте"*, *"павечерница малая"*[36].

Прыгадаем, што ў эпоху Скарыны механічныя гадзіннікі былі вядомыя ўжо амаль паўтара стагоддзя, таму ўжыванне Скарынам такой адзінкі лічэння, як гадзіны і мінуты (*"дробные"*) не з'яўляецца нечым выключным — гэта на той час распаўсюджаныя веды.

## Высновы

Летазлічэнне, якое выкарыстоўвае Ф. Скарына ў сваіх выданнях, мае свецкі характар, у аснове яго ляжыць эра ад Раства Хрыстовага, юльянскі каляндар, рымскія назвы месяцаў, пазначэнне дня парадкавым нумарам у месяцы.

Пры публікацыі *Пасхаліі* Ф. Скарына карыстаецца асноўнымі элементамі і метадамі кампутыстыкі, пазначае для кожнага года элементы, у тым ліку эру ад стварэння свету, Круг сонца і Круг месяца, якія дазваляюць вылічыць дату Вялікадня і час іншых рухомых свят. Эра ад стварэння свету выкарыстоўваецца ім менавіта як элемент вылічэння Пасхі, а не як частка яго ўласнага летазлічэння.

Датаванне выданняў Ф. Скарыны можна ахарактарызаваць як з'яву Рэнесансу, блізкую да прынцыпаў рэфармацыйнага руху: адсутнічаюць згадкі пра рэлігійныя святы і прысвяткі, не згадваюцца дні памінання святых, што было характэрна для сярэднявечных лацінскамоўных тэкстаў і часта сустракалася ў кірылічных помніках.

Аналіз летазлічэння скарынаўскіх выданняў, асабліва такіх элементаў, як месяц, суткі і іх падзел, гадзіны і іх падзел, патрабуе далейшага, больш глыбокага вывучэння. Адкрытымі застаюцца наступныя пытанні: якімі крыніцамі карыстаўся Першадрукар, складаючы *Пасхалію*; як суадносяцца літургічныя і астранамічныя гадзіны ў яго публікацыі; як уплывалі лацінскія і грэка-візантыйскія традыцыі кампутыстыкі на яго вылічэнні. Думаецца, што далейшыя даследаванні ў гэтым накірунку могуць прынесці цікавую інфармацыю не толькі пра асобу Першадрукара, але і пра эпоху, у якую жыў і працаваў Францішак Скарына.

[36] Францыск Скарына, *Творы*, с. 101.

## Streszczenie

Swiatłana Kul-Sialwierstawa, *Metody chronologii w publikacjach Franciszka Skaryny*

Metody chronologii, które wykorzystuje Franciszek Skaryna w swoich publikacjach, do tej pory nie doczekały się gruntownej analizy, chociaż zbadanie ich może doprowadzić do ciekawych informacji nie tylko o osobie pierwszego białoruskiego drukarza, ale i o epoce, w której żył. Metody chronologii Skaryny mają charakter świecki, w datowaniu wykorzystywane były: era od narodzenia Chrystusa, kalendarz juliański, rzymskie nazwy miesięcy i znakowanie dnia miesiąca przy użyciu liczby porządkowej. Do określenia daty Wielkanocy i innych ruchomych świąt używano metod ówczesnej komputystyki: wyznaczona era od stworzenia świata, orbita Słońca i Księżyca. Archaiczne dla epoki Renesansu elementy wyznaczenia czasu, grecka indykcja i era od stworzenia świata wykorzystywane były przez Skarynę tylko jako element obliczeń komputystycznych. Brak odniesień w datach do świąt czy dni upamiętnienia świętych zbliża podstawy wyznaczenia czasu przez Skarynę do zasad i poglądów działaczy Reformacji.

## Summary

Swiatłana Kul-Sialwierstawa, *Chronological Methods in Francysk Skaryna's Publications*

The chronological methods utilised by Francysk Skaryna in his publications have not undergone a thorough analysis to this day, although carrying out such an analysis could lead to interesting information regarding not only the person of the first Belarusian printer, but also the times in which he lived. The chronological methods of Skaryna have a secular character — dates utilise the era from the birth of Christ, Julian calendar, Roman names of months and mark days of the month with ordinal numbers. To determine the dates of Easter, contemporary methods of computus were used –the designated era since the creation of the world, and orbit of the Sun and Moon. An archaic element of determining time for the Renaissance, Greek indiction and the era from the creation of the world, were only used by Skaryna as one element of computus calculation. The lack of reference regarding dates to feasts, feast days, or saint's days brings Skaryna's basis for determining time closer to the principles and views of Reformation activists.

**Сяргей Токць**
**(Варшава/Гродна)**

# Шляхта Гродзенскай губерні на расійскай дзяржаўнай службе ў 30–50-ыя гады XIX ст.

Уваходжанне зямель былой Рэчы Паспалітай у склад Расійскай імперыі паклала пачатак фармаванню ў мясцовым грамадстве новай сацыяльнай групы — дзяржаўнай бюракратыі, ці чыноўніцтва. Істотнай праблемай пры арганізацыі мясцовага дзяржаўнага апарату для расійскага ўрада стала кадравае пытанне — забеспячэнне адміністрацыйных і судовых устаноў добранадзейнымі чыноўнікамі, якія праводзілі б у жыццё палітыку Санкт-Пецярбурга. Так, імператрыца Кацярына II 8 снежня 1792 г. загадала, каб на службовыя пасады ў новаўтвораных на землях былой Рэчы Паспалітай губернях *"определяемы были люди известной способности и бескорыстия* [...] *не исключая из числа к местам определяемых и тех природных тамошних жителей, в коих более привязанности и усердия к Империи Нашей усмотрена будет"*[1]. Пры гэтым тутэйшая шляхта атрымала тыя ж самыя правы і прывілеі пры паступленні на дзяржаўную службу, якія былі ў расійскага дваранства[2], што павінна было заахвоціць яе прадстаўнікоў да паступлення на службу імперыі. А для арганізацыі справаводства на рускай мове загадвалася: *"…канцелярских служителей заимствовать из Малороссийских, Тульской, Калужской и прочих губерний"*[3]. Калі ў дзейнасці і справаводстве шляхецкага саслоўнага самакіравання імперская ўлада доўгі час цярпела выкарыстанне польскай мовы, то дзяржаўныя бюракратычныя ўстановы ад пачатку заснавання павінны былі пісаць паперы на рускай мове. Такім чынам, асабовы склад чыноўніцкага корпуса на былых землях Рэчы Паспалітай ад пачатку фарміраваўся як з мясцовых ураджэнцаў, так і з прысланых з усходу расійскіх чыноўнікаў.

У красавіку 1811 г. у Гродзенскае губернскае праўленне былі пададзены звесткі адносна саслоўнага паходжання ўсіх чыноўнікаў і канцылярскіх служачых губерні. Паводле гэтых дадзеных, у 1810 г. у губернскіх і павятовых установах налічвалася 135 чыноўнікаў, прычым шляхта (дваране) сярод іх

---

1 *Полное собрание законов Российской империи* (далей — ПСЗ РИ), Собрание 1, т. 23, № 17 090.

2 Тамсама, № 17327.

3 Тамсама, № 17090.

складала 87 %. У азначаным дакуменце таксама гаварылася пра *"крайний недостаток знающих российский диалект"*[4]. Такім чынам, напярэдадні вайны 1812 г. чыноўніцкі апарат у Гродзенскай губерні складаўся пераважна з мясцовых ураджэнцаў шляхецкага паходжання.

У другой палове 1820-х гадоў улада паступова пачынае весці наступ на адметнасці шляхецкага самакіравання ў Заходніх губернях імперыі. Мясцовай шляхце, сярод іншага, закідвалася абвінавачанне ў нежаданні пастулаць на дзяржаўную службу. У сенацкім указе ад 9 сакавіка 1826 г. гаварылася, каб тых дваран, якія не маюць обер-афіцэрскага чыну і не вывучалі рускую мову, ні ў якім разе не дапускаць да выбарных пасад[5]. Прычым улады тлумачылі, што ранейшыя паслабленні для "польскай" шляхты былі выкліканы спадзяваннямі ўрада, што *"в продолжении назначенного срока дворяне Польских губерний подобно Российским, приготовятся к участвованию в выборах на общих правилах"*. Але гэтыя спадзяванні не апраўдаліся, паколькі *"дворяне тех губерний по окончании наук, вместо того, чтобы подражая Российскому дворянству, обращаться прежде в военную или гражданскую коронную службу* [...] *стремятся преимущественно к получению должностей от дворянских выборов зависящих и не редко успевают при оных наполнять присутственные места молодыми неопытными людьми, не имеющими сведений в делопроизводстве и знания в языке Российском"*[6].

14 красавіка 1826 г. гродзенскі губернатар Міхал Бабяцінскі атрымаў прадпісанне ад цэсарэвіча Канстанціна, у якім апошні загадваў: "*…молодых дворян, вовсе не служивших или бывших на службе, но недошедших до обер-офицерского чина и не научившихся Российскому языку, не допускать ни под каким предлогом к должностям от выбора дворянства зависящим*"[7]. Цэсарэвіч загадаў гродзенскаму губернатару абавязаць шляхецкіх маршалкаў скласці асобныя шнураваныя кнігі і ўнесці туды ўсіх шляхцічаў, якія ўжо ўдзельнічалі ў выбарах, як і тых, хто не браў удзелу ў выбарах, але даслужыўся на ваеннай ці цывільнай дзяржаўнай службе да обер-афіцэрскага чыну. Права на ўдзел у выбарах таксама атрымлівалі ўсе шляхцічы, узнагароджаныя якім-небудзь расійскім ордэнам.

Паўстанне 1830–1831 гг. стала праверкай на лаяльнасць для чыноўніцтва Заходніх губерняў. Паводле дадзеных гродзенскай губернскай адміністрацыі,

[4] *Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне* (далей — НГАБ у Гродне), ф, 2, в. 2, спр. 116, арк. 11.

[5] НГАБ у Гродне, ф. 1, в. 2, спр. 1300, арк. 7 адв.

[6] Тамсама, арк. 7–7 адв.

[7] Тамсама, арк. 3 адв.

у ім бралі ўдзел 14 мясцовых чыноўнікаў (Табліца 1)[8]. Праўда, ратмана Навагрудскай ратушы Антона Віктаровіча хутчэй трэба аднесці да выбарных асоб гарадскога самакіравання. Да шляхецкага самакіравання больш належаў ганаровы наглядчык вучылішчаў Ваўкавыскага павета Станіслаў Радавіцкі. Астатнія 12 былі чыноўнікамі розных адміністрацыйных устаноў. Сярод іх сустракаліся і заможныя памешчыкі, як, напрыклад, тытулярны саветнік канцылярыі гродзенскага губернатара Канстанцін Парчэўскі, уладальнік маёнтка Жыдомля ў Гродзенскім павеце. Але колькасць тых, хто далучыўся да паўстання, складала ўсё ж нязначны працэнт ад агульнай колькасці губернскіх і павятовых чыноўнікаў. Абсалютная большасць апошніх у часе падзей паўстання захавала лаяльнасць да імперыі і пастанавіла не рызыкаваць сваімі пасадамі.

**Табліца 1. Чыноўнікі Гродзенскай губерні, якія далучыліся да паўстання 1830–1831 гг.**

| п/п | Чыноўнікі | Месца службы |
|---|---|---|
| 1. | Вацлаў Крыжаноўскі | Засядальнік Навагрудскага земскага паліцэйскага суда ад кароны |
| 2. | Фларыян Каспяровіч | Справавод Кобрынскага гарадавога (начальніка гарадской паліцыі) |
| 3. | Аляксандр Антушэвіч | Справавод пружанскай гарадской паліцыі |
| 4. | Палькоўскі | Канцылярыст Пружанскага ніжняга земскага суда |
| 5. | Антон Віктаровіч | Ратман Навагрудскай ратушы |
| 6. | Станіслаў Радавіцкі | Ганаровы наглядчык вучылішчаў Ваўкавыскага павета |
| 7. | Дамінік Карэнга | Калежскі рэгістратар 1-га дэпартамента Гродзенскага галоўнага суда |
| 8. | Чаранкевіч | Канцылярыя Гродзенскага павятовага казначэйства |
| 9. | Тамаш Краскоўскі | Канцылярыя губернатара |
| 10. | Апалінар Сабалеўскі | Канцылярыя губернскага праўлення |
| 11. | Юзаф Шчапінскі | Лекар гродзенскага ваеннага шпіталя |
| 12. | Канстанцін Парчэўскі | Тытулярны саветнік канцылярыі губернатара |

[8] НГАБ у Гродне, ф. 1, в. 3, спр. 1116, арк. 2–3.

| | | |
|---|---|---|
| 13. | Дэ Ронка | Пружанскі акруговы ляснічы |
| 14. | Шрэтэр | Стражнік Гайнаўскай лясной дачы, калежскі рэгістратар |

*Крыніца: НГАБ у Гродне, ф. 1, в. 3, спр. 1116, арк. 2–3*

Але, нягледзячы на лаяльнасць большасці чыноўніцтва ў часе паўстання, той факт, што абсалютную большасць служачых дзяржаўнага апарату ў Заходніх губернях складалі мясцовыя ўраджэнцы, якія паходзілі са шляхты каталіцкага веравызнання, выклікаў занепакоенасць улады. 15 красавіка 1832 г. быў выдадзены ўказ, які абвяшчаў ільготы тым расійскім чыноўнікам, якія пагодзяцца паехаць служыць у "Літоўскія" (да іх ліку афіцыйна адносілі тады Віленскую, Гродзенскую і Мінскую) губерні[9]. Такім чыноўнікам аплочваўся праезд да месца службы, выдаваліся пад'ёмныя грошы на новым месцы, захоўвалася пенсія за ранейшую службу. Але гэта не прынесла заўважнага эфекту.

У другой палове 1830-х гадоў мясцовыя дзяржаўныя ўлады пачалі збіраць інфармацыю пра маладых дваран, якія паступалі на службу ў губернскія і павятовыя ўстановы. Паводле прадпісання Міністэрства ўнутраных спраў ад 19 снежня 1836 г. на падставе загада імператара Мікалая I, губернатары абавязваліся *"подавать полугодовые сведения о поступивших на службу молодых дворянах или пользующихся классным чином"*[10]. Напрыклад, за першую палову 1837 г. у *"присутственные места"* Гродзенскай губерні паступілі 11 маладых шляхцічаў. Усе яны былі мясцовымі ўраджэнцамі. Што тычыцца адукацыі, то адзін з іх скончыў Крамянецкі ліцэй ва Украіне, восем — гімназіі, два — павятовыя шляхецкія вучылішчы.

Паводле дадзеных на канец 1851 г., за 1848–1851 гг. у Гродзенскай губерні паступілі на цывільную службу 111 дваран[11]. Паводле геаграфічнага паходжання большасць з іх з'ўлялася ўраджэнцамі Гродзенскай губерні — 91%. З Віленскай губерні паходзілі 3 чыноўнікі, па адным з Мінскай, Кіеўскай, Харкаўскай, Наўгародскай, Курляндскай, Чарнігаўскай губерняў і з Санкт-Пецярбурга.

Паводле атрыманай адукацыі сярод гэтых чыноўнікаў шляхецкага паходжання найбольш было выпускнікоў гімназій — 68 асоб. Прычым пераважалі выпускнікі Гродзенскай гімназіі — 29 чалавек, навучэнцаў Беластоцкай гімназіі было 19, Свіслацкай — 18, па адным — Мінскай

9 ПСЗ РИ, Собр. 2, т. 7, № 5293.

10 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 19, спр. 1157, арк. 1.

11 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 28, спр. 311, арк. 81–103.

і Кіеўскай. Павятовыя шляхецкія вучылішчы скончылі 13 чалавек. Ва ўніверсітэтах навучаліся 20: у Маскоўскім — 10, Санкт-Пецярбургскім і Харкаўскім — па 4, у Дэрпцкім — 2. Адзін чыноўнік скончыў Рышэльеўскі ліцэй у Адэсе, а яшчэ адзін — кадэцкі корпус у Мураме. Хатнюю адукацыю мелі 8 служачых. У цэлым узровень адукацыі гэтай групы маладых чыноўнікаў можна ацаніць як высокі.

Паводле даных на канец 1856 г., у 1852–1856 г. на дзяржаўную цывільную службу ў Гродзенскай губерні паступілі 99 маладых дваран[12]. Паводле геаграфічнага паходжання яны размяркоўваліся такім чынам: Гродзенская губерня — 86, Віленская і Мінская губерні — па 2, Санкт-Пецярбургская, Ковенская і Люблінская — па адным. Такім чынам, абсалютная большасць служачых шляхецкага паходжання (каля 93 %), якія паступалі ва ўстановы Гродзенскай губерні ў 1852–1856 гг., мела мясцовае паходжанне.

У вышэйшых навучальных установах з тых, хто паступіў на службу ў 1852–1856 гг., навучаліся 7 асоб: у Санкт-Пецярбургскім універсітэце — 3, Маскоўскім — 2, Кіеўскім — адна, у Варшаўскім ліцэі — адна. У гімназіях навучаліся 50 чалавек з гэтай групы: у Гродзенскай — 29, Беластоцкай — 13, Свіслацкай — 6, Мінскай і Валынскай — па адным. У Горы-Горыцкім земляробчым інстытуце навучаліся 3 чыноўнікі, у Віленскім дваранскім інстытуце — 2. Павятовыя вучылішчы скончылі 20 асоб, парафіяльныя пачатковыя школы — 6 чыноўнікаў, па адной асобе — Кобрынскае гарадское і Мінскае духоўнае вучылішчы. Хатнюю адукацыю мелі 5 чалавек, а адносна трох асоб інфармацыя пра адукацыю ўвогуле адсутнічала. Такім чынам, развітая сістэма мясцовых навучальных устаноў давала мясцовай шляхецкай моладзі добрыя магчымасці атрымаць адукацыю і паступіць на дзяржаўную службу.

13 лістапада 1851 г. віленскі генерал-губернатар Ілля Бібікаў загадаў начальніку Гродзенскай губерні Хрыстафору фон дэр Ховену падаць яму звесткі пра канфесійны склад мясцовых чыноўнікаў[13]. Паводле сабраных даных, у губерні на той час налічвалася ўсяго 1594 чыноўнікі. Канфесійны склад гэтай групы выглядаў наступным чынам: каталікі — 1269 (79,6 %), праваслаўныя — 209 (13,1 %), лютэране — 53 (3,3 %), мусульмане — 42 (2,6 %), іўдзеі — 21 (1,3 %). У губернскім праўленні, напрыклад, налічвалася 108 чыноўнікаў: 83 каталіка, 18 праваслаўных, чацьвёра мусульман і тры пратэстанты. Такім чынам, у мясцовым чыноўніцкім корпусе назіралася выразная колькасная дамінацыя служачых каталіцкага веравызнання. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што абсалютная большасць іх паходзіла з мясцовай шляхты.

12 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 28, спр. 854, арк. 91 адв.—118.
13 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 22, спр. 75, арк. 7–8.

**Табліца 2. Канфесійны склад чыноўніцкага корпуса Гродзенскай губерні на 1852 г.**

| Урадавыя і саслоўныя ўстановы | Чыноўнікі і служачыя паводле канфесійнай прыналежнасці | | | | | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Праваслаўныя | Каталікі | Лютэране | Іўдзеі | Мусульмане | |
| Губернскае праўленне | 18 | 83 | 3 | - | 4 | 108 |
| Канцылярыя губернатара | 8 | 35 | 4 | - | 2 | 49 |
| Казённая палата | 15 | 169 | 3 | - | 13 | 200 |
| Палата дзяржаўных маёмасцей | 23 | 132 | 6 | - | 4 | 165 |
| Палата крымінальнага суда | 4 | 25 | 1 | - | 6 | 36 |
| Палата грамадзянскага суда | 1 | 47 | - | - | 2 | 50 |
| Урачэбная ўправа | | 39 | 3 | - | - | 42 |
| Губернскі пракурор | 5 | 17 | 2 | - | - | 24 |
| Дырэктар вучылішчаў | 33 | 81 | 11 | - | - | 125 |
| Губернская паштовая кантора | 12 | 26 | 1 | - | - | 39 |
| Прыказ грамадскай апекі | 3 | 16 | - | - | - | 19 |
| Губернская будаўнічая і дарожная камісія | 2 | 17 | 3 | - | - | 22 |
| Губернскі маршалак шляхты | 2 | 56 | - | - | - | 58 |
| Земская паліцыя | 27 | 135 | 3 | - | 1 | 166 |
| Гарадская паліцыя | 13 | 43 | 3 | - | 1 | 60 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Павятовыя суды і дваранскія апекі | 8 | 147 | 1 | - | 1 | 157 |
| Гарадскія магістраты, думы і ратушы | 21 | 111 | 3 | 15 | 6 | 156 |
| Маршалкі шляхты | 3 | 39 | - | - | - | 42 |
| Кватэрныя камісіі | 2 | 21 | 2 | 6 | 1 | 32 |
| Совесны суд | | 10 | - | - | - | 10 |
| Гімназія | 8 | 15 | 3 | - | - | 26 |
| Інстытут высакародных дзявіц | 1 | 5 | 1 | - | 1 | 8 |
| **Разам** | **209** | **1 269** | **53** | **21** | **42** | **1 594** |

*Крыніца: НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 22, спр. 75, арк. 7–8.*

Віленскі генерал-губернатар Бібікаў 1 ліпеня 1852 г. выдаў распараджэнне падначаленым губернатарам сабраць для яго статыстычныя даныя адносна стаўлення мясцовай шляхты да дзяржаўнай службы. Гэтыя звесткі павінны былі ўтрымліваць спіс усім *"дворянам, владеющим и не владеющим недвижимой собственностью, кои в здешнем крае или в других местах состоят в службе Коронной или по выборам Дворянства"*[14]. Найбольш падрабязныя звесткі падаў слонімскі маршалак Яўстах Валовіч. Паводле яго даных, на дзяржаўнай службе знаходзіліся 149 шляхцічаў гэтага павета[15]. Але ў спіс былі ўключаныя ўсе дваране, якія служылі ў дзяржаўных і саслоўных установах Слонімскага павета, у тым ліку і тыя, што паходзілі з іншых паветаў і прыехалі сюды з цэнтральнай Расіі. У выніку з ліку 149 шляхцічаў 75 (50,3 %) служылі на чыноўніцкіх пасадах у самім Слонімскім павеце, 14 (9,4 %) былі абраныя шляхтай на розныя пасады шляхецкага самакіравання, 24 (16,1 %) служылі ў іншых паветах Гродзенскай губерні і ў губернскім горадзе, па 17 (11,4 %) — у іншых губернях імперыі і ў Расійскім войску. З ліку гэтых чыноўнікаў і служачых 51 (34,2 %) быў памешчыкам, 16 (10,7 %) валодалі ўласнымі дамамі, 3 (2,0 %) — ненаселенымі зямельнымі ўчасткамі, а крыху больш за палову — 79 (53 %) не мелі ніякай нерухомай маёмасці.

14 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 28, спр. 309, арк. 1.
15 Тамсама, арк. 236–250.

Заможныя землеўладальнікі звычайна служылі на пасадах, якія абіраліся шляхтай. Так, віленскі губернскі маршалак Франц Пуслоўскі меў ва ўласнасці 4835 сялянскіх душ у Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях і стала жыў у Вільні[16]. Яго брат Вандалін меў 5000 душ у Гродзенскай і Магілёўскай губернях і стала пражываў у маёнтку Мерачоўшчына. У дакуменце яго пасада пазначалася як ганаровы лоўчы Гродзенскай губерні. Наўрад ці гэтая архаічная пасада прызнавалася на той час расійскай адміністрацыяй. Павятовы маршалак Яўстах Валовіч меў 368 душ у маёнтку Люшнева. У яго было тры сыны і шэсць дачок, а старэйшы сын Уладзімір ужо служыў гвардзейскім афіцэрам у расійскім войску[17].

Геаграфія цывільнай службы шляхцічаў Слонімскага павета за межамі роднай губерні выглядала так: Санкт-Пецярбург (3), Вільна (6), Віленская губерня (2), Мінская губерня (2), Коўна (1). Таксама ў самых розных мясцінах служылі і вайскоўцы са слонімскай шляхты. Напрыклад, Грацыян Амброн служыў ваенным камісарам дзесьці ў *"киргизских степях"*, а Фадзей Есьман, уладальнік 44 сялянскіх душ у маёнтку Міхайлава, з'яўляўся начальнікам ніжагародскай жандарскай каманды.

У Кобрынскім павеце на дзяржаўнай службе знаходзіліся, паводле азначаных дадзеных, 52 шляхцічы, з якіх 14 займалі пасады па выбары шляхты (у іх ліку 7 папячыцеляў запасных хлебных магазінаў)[18]. Сярод чыноўнікаў, якія прызначаліся на цывільныя пасады "ад кароны", 14 служылі ва ўстановах Кобрынскага павета, 7 — у іншых паветах Гродзенскай губерні і ў самім губернскім горадзе, 10 — у іншых губернях імперыі. Службовая геаграфія тых, хто служыў за межамі Гродзеншчыны, выглядала наступным чынам: Мінск, Пінск, Слуцк, Луцк (Валынская губерня), Смаленская губерня, Варшава (2 асобы), Санкт-Пецярбург, Аланецкая губерня (2 асобы). Яшчэ 7 шляхцічаў знаходзіліся на вайсковай службе. Сярод служылай кобрынскай шляхты выразна пераважалі памешчыкі — 41 (78,8 %). Паводле сямейнага стану большасць была халасцякамі — 33 (63,5 %).

Памешчыкамі з'яўляліся амаль усе, хто служыў на пасадах па выбары шляхты. Павятовым шляхецкім маршалкам у Кобрыне быў тады Ян Дзяконьскі, які валодаў маёнткамі Пятровічы і Тулічы (разам налічвалі 679 душ прыгонных сялян). Дэпутатам ад кобрынскай шляхты на губернскі сход з'яўляўся Фелікс Савіцкі — халасцяк, уладальнік маёнтка Бабры (55 сялянскіх душ). Яго родны брат Антон Савіцкі быў засядальнікам кобрынскага павятовага суда, валодаў маёнткамі Петрыкі і Залучча

[16] Тамсама, арк. 237.

[17] Тамсама.

[18] Тамсама, арк. 315–325.

(105 сялянскіх душ). Юліян Капцеўскі служыў засядацелем палаты грамадзянскага суда ў Гродне. За яго жонкай Сафіяй лічыўся маёнтак Буховічы (107 сялянскіх душ). Суддзёй Кобрынскага павятовага суда з'яўляўся Юліян Бельскі, уладальнік маёнтка Бельск (124 сялянскія душы). Беззямельны шляхціч Кобрынскага павета Генрых Задарноўскі займаў выбарную пасаду бурмістра ў горадзе Аўгустове Сувалкаўскай губерні Каралеўства Польскага[19].

Памешчыкі былі і сярод чыноўнікаў, якія служылі паводле бюракратычнага прызначэння "ад кароны". Напрыклад, Віктар Відацкі з'яўляўся старшым сталаначальнікам у Гаспадарчым дэпартаменце ўнутраных спраў у сталічным Санкт-Пецярбургу. Яго бацька Ян валодаў маёнткамі Янаполь, Ракавічы, Глінішчы, Акопы і Гвозніца. Іх сваяк Эдмунд Відацкі служыў у далёкім паўночным Аланецку павятовым страпчым (у яго бацькі ў Кобрынскім павеце ва ўласнасці налічвалася 156 сялянскіх душ).

Па Кобрынскім павеце быў таксама асобна пададзены спіс шляхты, якая знаходзілася на дзяржаўнай ці саслоўнай службе, але яшчэ не была зацверджана ў дваранстве Герольдыяй. Такіх чыноўнікаў налічвалася тут 20 чалавек[20]. З іх ліку 7 служылі ў сваім павеце, 6 — у межах Гродзенскай губерні, 4 — па-за межамі сваёй губерні, 2 служылі ў войску і адзін на пасадзе па выбары шляхты. Большасць сярод прадстаўнікоў гэтай катэгорыі таксама складалі памешчыкі — 14 (70 %). Напрыклад, да іх ліку належалі тры браты Маеўскія, маці якіх валодала маёнткам Відацін (21 сялянская душа). Аляксандр Маеўскі служыў у Ціхвіне чыноўнікам Наўгародскай акругі кіравання грашовымі зборамі з дзяржаўных сялян, Вацлаў быў настаўнікам музыкі ў Беластоцкім інстытуце, а Фабіян служыў у канцылярыі маскоўскага губернатара. Памешчык Канстанцін Скірмунт служыў у Пінскім павятовым казначэйстве Мінскай губерні.

У Ваўкавыскім павеце былі на дзяржаўнай службе 30 шляхцічаў, з іх 9 — на пасадах па выбары шляхты, 14 — канцылярскімі чыноўнікамі ва ўстановах Ваўкавыскага павета і 7 — у губернскіх установах і ўстановах іншых паветаў Гродзенскай губерні[21]. З ліку гэтых чыноўнікаў 26 (87 %) валодалі маёнткамі з прыгоннымі сялянамі, адзін валодаў участкам зямлі ў шляхецкай ваколіцы, а 3 зусім не мелі нерухомай маёмасці. Маршалак шляхты тытулярны саветнік Юліян Талочка быў жанаты, меў сына Эдуарда, які ўжо служыў у канцылярыі маршалка шляхты, ці фактычна свайго бацькі, а таксама чатырох дачок. У гэтай канцылярыі маршалка служылі таксама

19 Тамсама, арк. 319.

20 Тамсама, арк. 327–328.

21 Тамсама, арк. 325–326.

браты Уладзімір і Аляксандр Булгарыны, а трэці іх брат — Баляслаў — у канцылярыі губернскага маршалка шляхты. Губернскі сакратар Дамінік Галібуртан па выбары шляхты займаў пасаду ваўкавыскага павятовага суддзі. Цікава, што з 30 азначаных урадвікаў 12 яшчэ не былі зацверджаны ў дваранстве Герольдыяй. Тым не менш Яўхім Тулоўскі з гэтай катэгорыі "незацверджаных" быў абраны шляхтай на пасаду засядацеля павятовага суда, Калікст Булгарын стаў папячыцелем запасных хлебных магазінаў па Ваўкавыскім павеце, а Канстанцін Кшывіцкі з'яўляўся па выбары губернскага шляхецкага схода папячыцелем гродзенскай губернскай гімназіі і высакароднага пансіёна. Усе яны былі ўладальнікамі маёнткаў з сялянамі. У даных ваўкавыскага маршалка адсутнічалі звесткі пра тых мясцовых шляхцічаў, якія служылі па-за межамі Гродзенскай губерні. Несумненна, што такія асобы былі, але па невядомых нам прычынах не трапілі ў азначаны спіс.

Сярод тых шляхцічаў, якія займаліся гаспадаркай у сваіх маёнтках у Ваўкавыскім павеце, таксама сустракаліся адстаўныя чыноўнікі і вайскоўцы. Калежскі рэгістратар Юзаф Пачабут-Адляніцкі займаўся гаспадаркай у маёнтку Ялаве, быў халасцяком. Адстаўны капітан Юзаф Абухоўскі займаўся гаспадаркай у маёнтку Канабаі, таксама быў халасцяком. У некаторых шляхцічаў з гэтай групы на дзяржаўнай службе знаходзіліся дарослыя дзеці. Напрыклад, Франц Далінскі займаўся гаспадаркай у маёнтку Коржычы. Меў жонку Клацільду і сыноў Уладзіміра і Людвіка. Уладзімір служыў у Ніжагародскім пяхотным палку, а Людвік — у канцылярыі будаўнічага аддзялення Гродзенскага губернскага праўлення. Удавец Юзаф Здановіч пражываў у маёнтку Біскупцы. Яго сын Максіміліян служыў мытным чыноўнікам на прускай мяжы. Ян Кулікоўскі жыў у маёнтку Мешкелі. Меў жонку, пяць сыноў і дачку. Старэйшы сын Юзаф вучыўся ў Віленскай рыма-каталіцкай семінарыі, другі сын, Станіслаў, займаўся прыватнай службай, Антон вучыўся ў Свіслацкім вучылішчы. Двое малодшых сыноў і дачка знаходзіліся пры бацьках.

Сын Яна Кярсноўскага Казімір служыў у Ковенскай палаце дзяржаўных маёмасцей, а сын Адама Шэгідзевіча Якуб — у Гродзенскай палаце дзяржаўных маёмасцей. Сыны Абрахама Байрашэўскага са Свіслачы Самуіл і Якуб служылі ў Гродзенскай казённай палаце. Тамаш Гарбацэвіч з мястэчка Свіслач займаўся землямерствам, яго сыны Людвік і Юзаф былі настаўнікамі Лыскаўскага і Слонімскага павятовага вучылішчаў, а дочкі Юлія, Юзэфа і Флора займаліся прыватнай службай. Павел Янаў сын Корн займаўся "заработкамі", а яго шматлікія сыны знаходзіліся на службе: Ігнат быў штаб-лекарам, Яўсебі — лекарам, Аляксей — чыноўнікам у Санкт-Пецярбургу,

Людвіг — у пецярбургскай паліцыі, Вікенці — у Наўгародскай губерні на паліцэйскай службе, Багуслаў — у Ноўгарадзе памочнікам аптэкара, самы малодшы Франц вучыўся ў Свіслацкім вучылішчы. Толькі дзве дачкі Паўла Корна, Раіна і Елізавета, знаходзіліся пры бацьках. Пётр Леванеўскі ў Гродне займаўся штатнай службай. Сын Антона Сержпутоўскага з маёнтка Князікоўшчына Лявон служыў ва Уланскім яго Вялікасці Аляксандра Мікалаевіча палку. Раман Патраўскі з мястэчка Пескі служыў па вольным найме ў станавога пісара 5-га стану Ваўкавыскага павета.

Менавіта адукацыя адкрывала для дробных шляхцічаў дарогу да дзяржаўнай службы. Таму бацькі імкнуліся ўсімі сіламі даць гэтую адукацыю сваім дзецям. Так, Вікенці Крывец займаўся гаспадаркай у маёнтку Янаўшчына. Меў жонку, трох сыноў і дзвюх дачок. Старэйшыя сыны Франц і Тамаш вучыліся ў Свіслацкім вучылішчы. Валерыян Букраба жыў у ваколіцы Ясколды. Меў трох сыноў і дзвюх дачок. Старэйшы сын Ян быў ужо жанаты і меў сына і дачку, а малодшыя сыны Юзаф і Аляксандр таксама навучаліся ў Свіслацкім вучылішчы. Старэйшыя сыны Яўхіма Фальскага з маёнтка Рудаўка Андрэй і Фелікс вучыліся ў Гродзенскай гімназіі. Браты Антон і Юзаф Леванеўскія навучаліся ў Гродне ў вучылішчы. Там жа вучыўся старэйшы сын Казіміра Сарасека Юзаф. Рамуальд Вярцінскі навучаўся ў прыходскім вучылішчы.

У Пружанскім павеце на дзяржаўнай службе знаходзіліся 74 шляхцічы, зацверджаныя Герольдыяй у дваранстве[22]. З іх ліку 15 (20,3 %) былі на вайсковай службе, 19 (25,7 %) служылі цывільнымі чыноўнікамі і служачымі ў сваім павеце, па 17 (23,0 %) чалавек знаходзіліся на цывільнай службе ў межах Гродзенскай губерні і па-за яе межамі, 6 (8,1 %) — на розных пасадах па выбары шляхты. Прычым геаграфія службы выхадцаў з Пружаншчыны выглядала даволі страката: Магілёўская губерня — 4, Ковенская — 3, Віленская — 3, Каралеўства Польскае — 3, Наўгародская губерня — 2, Валынская — 1, Перм — 1, Санкт-Пецярбург — 1. З ліку гэтай служылай шляхты 23 (31,1 %) асобы не мелі ніякай нерухомай маёмасці, тры валодалі толькі дамамі, а яшчэ адзін чалавек меў участак незаселенай зямлі. Усе астатнія (63,5 %) былі памешчыкамі.

Цікавым прыкладам дробнапамешчыцкай сям'і, прадстаўнікі якой звязалі свой лёс з дзяржаўнай службай, з'яўляліся ўладальнікі маёнтка Ляхі (усяго 9 мужчынскіх душ сялян) Шаняўскія. Апалон Шаняўскі служыў у Бугскім уланскім палку. Антон Шаняўскі быў земскім спраўнікам Быхаўскага павета Магілёўскай губерні, а Фердынанд — падсудкам

22 Тамсама, арк. 313–316.

павятовага суда ў тым жа павеце. Адольф Шаняўскі служыў інжынерам-кандуктарам Магілёўска — Варшаўскага шасэ, а Аляксандр навучаўся ў Віленскай духоўнай семінарыі[23].

Акрамя таго, у Пружанскім павеце налічвалася 55 асоб, яшчэ не зацверджаных Герольдыяй у дваранстве, якія таксама знаходзіліся на дзяржаўнай службе[24]. З іх ліку не меў нерухомай уласнасці 21 (38,2 %) чалавек, 4 (7,3 %) валодамі толькі дамамі, а 10 (18,2 %) — зямельнымі ўчасткамі без сялян у шляхецкіх ваколіцах. У самім Пружанскім павеце служылі 20 чалавек, у Гродзенскай губерні — 21, за межамі губерні — 10, ваенных было 4. Ігнат Барэйша служыў радавым Пяцігорскай інваліднай каманды. Пратасій Ромер служыў ляснічым у Пермскай губерні, а яго брат Лявон — у канцылярыі віленскага генерал-губернатара. Ім належаў маёнтак Лікаўка (28 мужчынскіх душ сялян). Рамуальд Сцяпура служыў у штаце Галоўнага ўпраўлення Царскага Сяла пад Санкт-Пецярбургам.

У Беластоцкім павеце на дзяржаўнай службе знаходзіліся 123 асобы з 80 сямей (з ліку гэтых сямей 45 былі ўжо зацверджаны ў шляхецтве Герольдыяй, а справы 35 толькі разглядаліся). З іх 27 былі на ваеннай службе, 83 — на цывільнай, 8 — на дваранскай саслоўнай па выбары і 5 — на духоўнай службе (святары)[25]. З цывільных чыноўнікаў 16 служылі ў Беластоцкім павеце (амаль усе ў самім Беластоку, за выключэннем двух, якія служылі ў Заблудаве і Кнышыне), у межах Гродзенскай губерні — 17, па-за межамі Гродзенскай губерні — 52. Геаграфія службы тых, хто знаходзіўся па-за межамі Гродзенскай губерні, выглядала наступным чынам: Коўна — 17, Санкт-Пецярбург — 3, Варшава — 2, Масква — 2, Мінск — 3, Падольская губерня — 2, Радам (Каралеўства Польскае) — 2, Аўгустоў (Каралеўства Польскае) — 1, Астрахань — 1, Віцебск — 1, Вятка — 1, Жытомір (Валынская губерня) — 1, Екацярынаслаў — 1, Камчатка — 1, Каралеўства Польскае — 1, Кіеў — 1, Кіеўская губерня — 1, Магілёў — 1, Маскоўска-Пецярбургская чыгунка — 1, Ноўгарад — 1, Петразаводск (Аланецкая губерня) — 1, Пскоў — 1, Цвер — 1, Цельшы (Ковенская губерня) — 1, мытная служба (без указання месца) — 4. З 80 сямей, з якіх паходзілі вайскоўцы і цывільныя чыноўнікі, 40 (50 %) не мелі нерухомай маёмасці. З гэтых даных вынікае, што асабліва шмат шляхцічаў Беластоцкага павета выпраўлялася на службу ў Ковенскую губерню.

У Брэсцкім павеце на дзяржаўнай службе знаходзіліся 83 асобы з ліку шляхты: 51 чалавек з іх быў ужо зацверджаны ў дваранстве, а 32 яшчэ не

[23] Тамсама, арк. 314 адв.

[24] Таксама, арк. 317–319.

[25] Тамсама, арк. 424–430 адв.

зацверджаны. Сярод *"не получивших еще окончательного утверждения в дворянском достоинстве"* знаходзіўся і брэсцкі павятовы маршалак, калежскі сакратар Люцыян Віслоцкі — уладальнік маёнткаў Лышчыцы і Чыжэвічы.

З ліку гэтых дзяржаўных служачых 19 служылі ў межах свайго павета, 14 — у межах Гродзенскай губерні, 21 — па-за межамі губерні, 13 — на выбарных шляхтай пасадах, 15 — на ваеннай службе. Адносна адной асобы месца службы не было пазначана. Некаторых лёс закінуў далёка ад роднага краю. Напрыклад, тры браты Кушалеўскія служылі: Казімір — у Сімбірскім егерскім палку, Пётр — у Архангельску ў Беламорскай памежнай варце, Юры — станавым прыставам у Омскай губерні. Антон Чарняўскі служыў цывільным чыноўнікам на Каўказе.

У гэтай групе служылай шляхты Брэсцкага павета налічвалася шмат памешчыкаў — 35 (43,8 %), пяць чалавек валодалі толькі дамамі, адзін шляхціч — ненаселенай зямлёй, іншыя ж увогуле не мелі нерухомай маёмасці[26].

У Бельскім павеце на дзяржаўнай службе знаходзіліся 52 шляхцічы[27]. Прычым амаль палова з іх служыла па-за межамі Гродзенскай губерні — 24 асобы (48 %). Геаграфія службы выглядала так: Рыга (1 асоба, інжынер), Коўна (10), Вільна (2), Пензенская губерня (1 асоба, ляснічы), горад Роўна Валынскай губерні, горад Радам у Каралеўстве Польскім, Трокі Віленскай губерні, Жытомір Кіеўскай губерні, Каралеўства Польскае (гмінны войт), Кіеўская губерня (без удакладнення месца службы), Казань, Смаленск, дзве асобы на мытні (без удакладнення месца службы). У самім Бельскім павеце служылі 10 чалавек, у іншых паветах Гродзенскай губерні — таксама 10 (пераважна ў Беластоку і Гродне). На ваеннай службе знаходзіліся 5 чалавек, прычым адзін з іх — у якасці лекара. Акрамя таго, адзін шляхціч гэтага павета вучыўся ў кадэцкім корпусе і яшчэ адзін — у Харкаўскім універсітэце. З ліку прадстаўнікоў дадзенай групы толькі 3 асобы не мелі ніякай уласнасці.

У Сакольскім павеце на дзяржаўнай і саслоўнай службе знаходзіліся 54 асобы[28]. З іх 14 служылі ў сваім павеце, у межах Гродзенскай губерні — 13, у іншых мясцовасцях Расійскай імперыі — 14, на выбарных шляхтай пасадах — 8, на ваеннай службе — 5. Напрыклад, Казімір Краўзэ служыў у Санкт-Пецярбургу капітанам у гвардзейскім палку, а яго брат Вікенці быў падпалкоўнікам. Фелікс Імбра таксама служыў у сталіцы імперыі ў чыне надворнага саветніка. Людвік Плавінскі вучыўся ў Харкаўскім універсітэце.

26 Тамсама, арк. 438–442.

27 Тамсама, арк. 43–46.

28 Тамсама, арк. 347–363.

Шляхты, якая не знаходзілася на службе, але была зацверджана ў сваім шляхецкім званні, налічвалася ў Сакольскім павеце 69 сямей[29]. У некаторых з іх сваякі знаходзіліся на дзяржаўнай службе. Напрыклад, брат Антона Мінеўскага служыў у Ковенскім губернскім праўленні. Якуб Толкін меў чатырох сыноў, *"из коих некоторые занимаются гражданскою службою"*. Сын Станіслава Шкіландзя Барталамей служыў у Гродзенскім губернскім праўленні, сын Казіміра Шкіландзя Ігнат — у Наўгародскім губернскім праўленні. Адзін сын Якуба Шкіландзя, Ян, служыў у сакольскім павятовым казначэйстве, а другі — Юзаф — у камісіі шляхоў зносін у Ноўгарадзе. Сын Яна Шкіландзя Павел знаходзіўся на ваеннай службе. Адносна сям'і Горскіх сцвярджалася, што Юзаф Горскі служыць у войску палкоўнікам, Дамінік з'яўляецца па выбары шляхты засядацелем Беластоцка-Сакольскага павятовага суда, а Ігнат Горскі знаходзіцца на службе ў Варшаве. Людвік Галеўскі працаваў у канцылярыі гарадской думы (не ўдакладнялася ў якой), але, *"будучи оставлен за штатом* [...] *ныне ничем не занимается"*.

Незацверджанай шляхты, якая не мела маёнткаў і не была на дзяржаўнай службе, налічвалася ў Сакольскім павеце 358 сямей[30]. Некаторыя з прадстаўнікоў гэтай групы знаходзіліся на дзяржаўнай службе, як іх родныя і сваякі. Напрыклад, губернскі сакратар Антон Марцінкевіч сам займаўся гаспадаркай, а яго сын Адольф з 1848 г. служыў у Томскай губерні, меў чын калежскага сакратара (ён прысутнічаў і ў спісе тых шляхцічаў Сакольскага павета, якія знаходзіліся на дзяржаўнай службе), сын Андрэй працаваў вольнанаёмным пісарам у Беластоцкім земскім судзе.

Такім чынам, сабраныя павятовымі маршалкамі даныя ўтрымлівалі звесткі пра 672 шляхцічы (без уліку Гродзенскага павета, звесткі пра які ў дакуменце адсутнічаюць, акрамя таго, тыя ж самыя асобы маглі падавацца ад розных паветаў), якія знаходзіліся на той момант на дзяржаўнай службе. Яны складалі прыкладна 3,4 % ад агульнай колькасці шляхты мужчынскага полу гэтых паветаў. Прычым большасць сярод служылай шляхты складалі памешчыкі. Гэтыя лічбы нельга лічыць дакладнымі. Несумненна, значная частка служылай шляхты не была тут улічана.

Але 21 красавіка 1852 г. выдадзены імператарскі ўказ *Аб высылцы на службу сыноў неправаслаўных памешчыкаў Заходніх губерняў*[31]. У гэтым указе гаварылася наступнае: *"Постоянным предметом желаний наших было, чтоб дворянство польского происхождения в Западных губерниях империи, Ковенской, Виленской, Гродненской, Минской, Волынской, Подольской*

[29] Тамсама, арк. 330–347.

[30] Тамсама, арк. 363–406.

[31] ПСЗ РИ, Собр. 3, т. 27, № 26 190.

*и Киевской соревновалось Великороссийскому дворянству всех исповеданий других губерний империи в благородных чувствах долга верноподданных служить в рядах победоносных войск наших, или посвящало себя службе гражданской"*[32]. Але гэтыя чаканні манарха не спраўдзіліся, і *"большая часть молодых дворян, принадлежащих зажиточнейшим семействам, пребывает в праздности, чуждаясь всякой службы"*. А таму імператар пастанавіў: *"… сыновей дворян не православных помещиков вышеупомянутых губерний, у которых за ними или за женами их не менее ста душ крестьян, по достижении 18-ти лет высылать на службу для зачисления в подпрапорщики или юнкера по экзамену, или ежели не выдержат экзамена, рядовыми на правах дворян"*[33]. Тыя ж, хто пойдзе служыць у войска добраахвотна, атрымлівалі права свабоднага выбару адносна таго, у якім палку ці родзе войск служыць. Хто ж з маладых памешчыкаў жадаў паступіць на цывільную службу, павінен быў аб'явіць, куды ён хоча *"определиться, но непременно в Великороссийские губернии"*. Вызваленнем ад дзяржаўнай службы, паводле гэтага ўказа, мог быць толькі дрэнны стан здароўя.

20 мая 1852 г. Гродзенская казённая палата падала гродзенскаму губернатару фон дэр Ховену спіс памешчыкаў, ва ўласнасці якіх было больш за 100 сялянскіх душ мужчынскага полу[34]. Такіх памешчыкаў у губерні, паводле гэтых даных, налічвалася 434 асобы. З іх ліку 23 асобы былі на ваеннай службе (5,3 %), 13 — на цывільнай (3,0 %) і 4 мелі прыдворныя чыны (0,9 %). Найбольшая колькасць памешчыкаў азначанай катэгорыі назіралася ў Кобрынскім павеце — 88, а найменш іх было ў Сакольскім павеце — 9.

**Табліца 3. Памешчыкі Гродзенскай губерні, якія мелі ва ўласнасці не менш за 100 душ (1852 г.) паводле даных Гродзенскай казённай палаты**

| Павет | Колькасць памешчыкаў | | | |
|---|---|---|---|---|
| | **Усяго** | **Былі на ваеннай службе** | **Былі на цывільнай службе** | **Мелі прыдворныя чыны** |
| Гродна | 58 | 16 | 7 | 1 |
| Беласток | 31 | - | - | - |
| Бельск | 28 | - | - | |
| Брэст | 68 | 4 | 3 | - |
| Ваўкавыск | 54 | - | - | - |

[32] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 22, спр. 117, арк. 1.

[33] Тамсама, арк. 1.

[34] Тамсама, арк. 4–33.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Кобрын | 88 | 2 | 2 | 3 |
| Пружаны | 41 | 1 | - | - |
| Саколка | 9 | - | - | - |
| Слонім | 57 | - | 1 | - |
| **Разам** | **434** | **23** | **13** | **4** |

*Крыніца: НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 22, спр. 117, арк. 4–33.*

Паводле ж звестак павятовых маршалкаў шляхты, у Гродзенскай губерні было 366 уладанняў, у якіх налічвалася больш за 100 прыгонных сялян. У сем'ях гэтых памешчыкаў быў 401 сын, у тым ліку 174 (43,4 %) былі старэйшыя за 18 год. У гэтай групе дарослых сыноў былі ці служылі раней на вайсковай службе 56 чалавек (32,2 %), на цывільнай службе — 61 асоба (35,1 %), знаходзіліся на вучобе ў дзяржаўных навучальных установах — 15 (8,6 %). Такім чынам, на падставе прыведзеных вышэй лічбаў нельга гаварыць пра поўнае ігнараванне службы маладымі памешчыкамі.

**Табліца 4. Памешчыкі Гродзенскай губерні, якія мелі ва ўласнасці не менш за 100 душ паводле даных павятовых маршалкаў за 1852 г.**

| Павет | Уладальнікі | Сыны ўладальнікаў | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | **Агульная лічба** | **Старэйшыя за 18 год** | **З ліку старэйшых за 18 год** | | |
| | | | | **Ваенная служба** | **Цывільная служба** | **Вучоба** |
| Гродзенскі | 49 | 40 | 15 | 4 | 6 | 2 |
| Беластоцкі | 26 | 26 | 13 | 2 | 8 | - |
| Бельскі | 27 | 41 | 27 | 10 | 10 | 1 |
| Брэсцкі | 54 | 53 | 12 | 3 | 2 | 2 |
| Ваўкавыскі | 53 | 52 | 18 | 7 | 5 | 2 |
| Кобрынскі | 57 | 79 | 47 | 14 | 15 | 7 |
| Пружанскі | 40 | 40 | 17 | 5 | 7 | - |
| Сакольскі | 10 | 11 | 1 | 1 | - | - |
| Слонімскі | 50 | 59 | 24 | 10 | 8 | 1 |
| **Разам** | **366** | **401** | **174** | **56** | **61** | **15** |

*Крыніца: НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 22, спр. 117, арк. 58–99.*

У прыведзеных звестках сустракаем шмат цікавай інфармацыі пра заможных памешчыкаў. Маці вядомага мастака Напалеона Орды Юзэфіне належаў маёнтак Варацэвічы ў Кобрынскім павеце (342 сялянскія душы). Пра самога ж Напалеона было напісана: *"В 1831 г. присоединился к польским мятежникам и выбыл из пределов России, где ныне находится неизвестно"*[35]. Удава Францішка Блоцкая (100 сялянскіх душ) мела аж сем сыноў. Старэйшы сын Карл (50 год) акрэслены псіхічна хворым (*звар'яцеў*), Ксаверы (45) быў адстаўным паручнікам, Петр (40 год) па выбары шляхты служыў на пасадзе суддзі, Мікадзім (39) быў адстаўным паручнікам, Раман (30) знаходзіўся на цывільнай службе, Юльян (32) быў адстаўным вайскоўцам, а самы малодшы сын Франц (17 год) вучыўся ў гродзенскім высакародным пансіёне[36].

Некаторыя сыны багатых памешчыкаў служылі далёка ад сваёй радзімы. Так, сын Якуба Відацкага Эдмунд служыў аланецкім (Аланецкая губерня была самай паўночнай у еўрапейскай частцы Расійскай імперыі) павятовым страпчым у чыне калежскага сакратара, а яго брат Юльян — у грэнадзёрскім імператара Аўстрыйскага палка паручнікам[37]. Старэйшы сын удавы сапраўднага стацкага саветніка Ягора Райскага Эммы (444 сялянскія душы) Валерыян (22 гады) служыў прапаршчыкам у артылерыйскай брыгадзе, а малодшыя сыны Яўген (17) і Севярын (15) навучаліся ў 2-й гімназіі сталічнага Санкт-Пецярбурга.

З чатырох сыноў Платона Русецкага (201 сялянская душа) старэйшы Антон (19 год) вучыўся ў Каралеўстве Польскім, а тры малодшыя — у гімназіі ў прыбалтыйскай Мітаве. Брат уладальніка 195 сялянскіх душ Пятра Ажэшкі, мужа пісьменніцы Элізы Ажэшкі Фларыян (18 год) таксама вучыўся ў гімназіі ў Мітаве[38]. У Юзафа Крашэўскага (124 душы) было чацвёра сыноў: старэйшы Эміліан (27 год) быў адстаўным штабс-капітанам расійскай арміі, Яўстах (25 год) і Канстанцін (22 гады) нідзе не служылі, малодшы сын Пётр навучаўся на той час у Беластоцкай гімназіі[39]. У Юзафа Гутоўскага (221 сялянская душа), які памёр у 1851 г., было шэсць сыноў, з якіх ніхто не служыў. Старэйшы сын надворнага саветніка Рамана Корсака (398 сялянскіх душ) Уладзіслаў (19 год) вучыўся ў Дэрпцкім універсітэце. Сын Марыяны Орды Вітольд (24 гады) скончыў Дэрпцкі ўніверсітэт і кіраваў маёнткам[40].

---

35 Тамсама, арк. 77а. адв.

36 Тамсама, арк. 75–76 адв.

37 Тамсама, арк. 75.

38 Тамсама, арк. 77.

39 Тамсама.

40 Тамсама, арк. 77а.

У Слонімскім павеце сын маршалка Яўстаха Валовіча ад першага шлюбу Уладзіслаў служыў паручнікам гусарскага палка, сыны Каэтана Астраменцкага Леў (15 год) і Уладзімір (12 год) навучаліся ў гродзенскай гімназіі. Сын Пятра Орды Адам (17 год) вучыўся ў Корпусе інжынераў у Пецярбургу. Сын Яна Палубінскага Уладзіслаў (27 год) скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт і пражываў у Валагодскай губерні. Сын памерлага Антона Пшацлаўскага Юзаф меў чын сапраўднага стацкага саветніка і служыў у Санкт-Пецярбургу ў міністэрстве (не ўдакладнялася ў якім).

У Ваўкавыскім павеце Валерыян Астраменцкі (350 душ) меў пяць сыноў. Старэйшы Валерыян (23 гады) служыў у Санкт-Пецярбургу на грамадзянскай службе, другі сын Міхал (21 год) — у Каралеўстве Польскім аграномам, трэці Аляксандр (18 год) вучыўся ў Санкт-Пецярбургу ў кадэцкім корпусе. Малодшыя сыны Аляксандр (16 год) і Ксаверы (5 год) жылі з маці ў Каралеўстве Польскім. Сыны Аляксандра Быхаўца (530 душ) Станіслаў (23 гады) і Казімір (22 гады) служылі ў войску. Першы ў лейб-гвардыі Драгунскім палку, другі — у лейб-гвардыі конна-піянерскім дывізіёне. Усе тры сыны Бернарда Булгарына (155 душ) знаходзіліся на цывільнай службе: Уладзімір (25 год) — у штаце канцылярыі лідскага павятовага маршалка, Аляксандр (24 гады) — у штаце канцылярыі ваўкавыскага павятовага маршалка, Баляслаў (23 гады) — у штаце канцылярыі Гродзенскай грамадзянскай палаты. Сыны Станіслава Булгарына (119 душ) Міхал (18 год) і Лявон (17 год) навучаліся ў Беластоцкай гімназіі.

Несумненна, што ўказ ад 21 сакавіка 1852 г. выразна супярэчыў палажэнням *Жалованной грамоты дворянству*, нададзенай яшчэ Кацярынай II у 1785 г. Урад абгрунтоўваў такую экстраардынарную меру нежаданнем заможнай шляхты Заходніх губерняў паступаць на службу Расійскай імперыі. Тое ж, што цывільную службу яны павінны былі пачынаць абавязкова ў вялікарасійскіх губернях, тлумачылася неабходнасцю лепшага засваення рускай мовы. Трэба прызнаць, што адносна памешчыкаў Гродзенскай губерні абвінавачанне ў нежаданні служыць з’яўлялася не зусім справядлівым. Паводле даных, сабраных павятовымі маршалкамі, 56 (32,2 %) чалавек з ліку дарослых сыноў памешчыкаў дадзенай катэгорыі (без уліку Бельскага павета — С. Т.) служыў у царскім войску, а на грамадзянскай службе — 61 (35,1 %). Такім чынам, 67,3 % сыноў памешчыкаў пабывалі на дзяржаўнай службе, што даказвае неабгрунтаванасць прэтэнзій урада, прынамсі адносна шляхты Гродзенскай губерні.

У такой сітуацыі заможныя і ўплывовыя памешчыкі адразу пачалі рабіць актыўныя захады, каб вызваліць сваіх сыноў ад прымусовай службы. Напрыклад, губернскі маршалак князь Канстанцін Чацвярцінскі пісаў

31 ліпеня 1852 г. губернатару фон дэр Ховену: *"... сын мой Юрий родился 10 мая 1832 года, следовательно в мае месяце сего года окончив 20 лет за силою Высочайше утвержденного мнения Комитета Министров 5 прошлого июня месяца, не распространяется на его действие Высочайшего повеления 21 апреля сего года"*[41]. Памешчык Бельскага павета Юліян Ябланоўскі пісаў гродзенскаму губернатару, што вытрымаў экзамены ў Дэрпцкі ўніверсітэт, але кіраўніцтва гэтай установы, *"не зная о состоянии моих родителей делает ко вступлению моему препятствия"*. Ябланоўскі атрымаў ад бельскага маршалка пасведчанне аб беднасці яго бацькоў, паводле якога на гэтую сям'ю не распаўсюджвалася дзеянне царскага ўказа, а таксама прасіў губернатара паслаць пасведчанне ў Дэрпцкі ўніверсітэт, каб яго там прынялі на вучобу[42].

Рэктар Дэрпцкага ўніверсітэта, у сваю чаргу, 12 верасня 1852 г. пісаў гродзенскаму губернатару, што студэнты з Гродзенскай губерні Станіслаў Сільвястровіч і Уладзіслаў Корсак, *"обязанные подписками, чтобы они, по окончании курса наук непременно поступили* [...] *на государственную службу* [...] *отпущены были на летнюю вакацию в Гродненскую губернию и до тех пор не возвратились в Дерпт"*[43]. Такая ж падпіска была ўзятая ў Дэрпце ва Уладзіміра Вірыёна. Ян Вірыён звянуўся да губернатара, што яго сын не падлягае дзеянню азначанага ўказа. Віленскі генерал-губернатар Бібікаў напісаў гродзенскаму губернатару Хрыстафору фон дер Ховену: *"... за всем тем я надеюсь, что ему, как верноподданному, не будет противно, если сын его, по окончании Университетского курса наук, поступит на службу на общем основании по собственному его избранию места служения"*[44].

28 сакавіка 1855 г. генерал-губернатар запатрабаваў ад гродзенскага губернатара звесткі пра колькасць дваран Гродзенскай губерні, якія знаходзіліся на ваеннай ці грамадзянскай службе, прычым асобна прасіў адзначыць тых, хто паступіў на службу ў адпаведнасці з указам ад 5 чэрвеня 1852 г.[45] Паводле сабраных звестак, 359 шляхцічаў Гродзенскай губерні знаходзіліся на ваеннай службе Расійскай імперыі, сярод іх было 3 генералы, 36 штаб-афіцэраў і 216 обер-афіцэраў (Табліца 6).

41 Тамсама, арк. 199–199 адв.
42 Тамсама, арк. 238.
43 Тамсама, арк. 254.
44 Тамсама, арк. 263.
45 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 22, спр. 522, арк. 1.

**Табліца 6. Шляхта Гродзенскай губерні на дзяржаўнай ваеннай службе і цывільнай службе па-за межамі губерні ў 1855 г.**

| Павет | Усяго было на ваеннай службе | Генералы | Штаб-афіцэры | Обер-афіцэры | Паступілі на службу паводле ўказа 1852 г. | Цывільная служба па-за межамі губерні |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Гродна* | 20 | - | - | - | 1 | 1 |
| Беласток | 51 | 2 | 5 | 34 | 10 | 49 |
| Бельск | 50 | - | 7 | 42 | 1 | 48 |
| Брэст | 27 | - | 4 | 22 | 1 | 20 |
| Ваўкавыск | 25 | - | - | - | - | 30 |
| Кобрын | 84 | 1 | 11 | 64 | 8 | 22 |
| Пружаны | 30 | - | 4 | - | - | 30 |
| Саколка | 25 | - | 1 | 11 | 13 | 2 |
| Слонім | 47 | - | 4 | 43 | - | 20 |
| Разам | 359 | 3 | 36 | 216 | 34 | 222 |

*Адсутнічае інфармацыя па 2-му паліцэйскаму стану Гродзенскага павета.

*Крыніца: НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 22, спр. 522, арк. 29, 35.*

На цывільнай службе па-за межамі Гродзенскай губерні налічваліся 222 шляхцічы. Паводле ўказа 1852 г. паступілі на службу 34 маладыя памешчыкі. Прычым адносна Гродзенскага павета губернатарам так і не была атрыманая інфармацыя з 2-га паліцэйскага стана (кватэра станавога прыстава знаходзілася ў мястэчку Вялікая Бераставіца графа Касакоўскага), а ўсяго ў Гродзенскім павеце налічвалася 5 паліцэйскіх станаў. Апроч таго, павятовы маршалак Раман Ляхніцкі зрабіў допіс, што *"еще 13 дворян подало прошение об определении их в военную службу на основании Высочайше утвержденного 5-го Июня 1852 г. Положения; но поступили ли они уже на действительную службу, сведений о том не известно"*[46].

У лютым і чэрвені 1855 г. выдадзены сакрэтныя загады імператара Мікалая I пра паступовую замену службоўцаў мясцовага паходжання ў Заходніх губернях *"чиновниками из русских и о переводе туземцев в Великорусския*

[46] Тамсама, арк. 29.

*губернии*"[47]. Такім чынам, гэтыя загады выкрывалі сутнасць кадравай палітыкі расійскага ўрада ў Заходніх губернях. Урад турбавала не тое, што мясцовая шляхта не жадае служыць, а тое, што яна не жадае асімілявацца з расійскім дваранствам і адракацца ад роднай польскай мовы. Але смерць імператара і змены ва ўнутранай палітыцы Расійскай імперыі пасля паражэння ў Крымскай вайне затрымалі рэалізацыю гэтых сакрэтных загадаў. 26 жніўня 1856 г. быў выдадзены ўказ новага імператара Аляксандра II *О распространении на уроженцев Западных губерний Империи общих правил касательно приема на службу по гражданской части и перемещения из одного места в другое*[48]. 8 сакавіка 1857 г. віленскі генерал-губернатар Уладзімір Назімаў напісаў гродзенскаму губернатару Івану Шпееру, што ў дзень каранацыі Аляксандра II 26 жніўня 1856 г. *"Его Величеству благоугодно было даровать Дворянству и другим сословиям Западных губерний Разныя Монаршия милости, уравнивающие их со всеми прочими подданными Его Императорского Величества"*, а таму ўрад са свайго боку пастанавіў, што сакрэтны загад з лютага 1855 г. ужо *"не должен иметь силы и действия"*[49].

А ў справаздачы за 1858 г. гродзенскі губернатар Шпеер адзначыў: *"Дворяне, как члены благородного сословия, безпоместные и мелко-паместные с малыми изъятиями состоят в Государственной службе военной или Гражданской, а значительные помещики по приобретению чинов также в военной или Гражданской службе занимаются в своих имениях сельским хозяйством"*[50]. Такім чынам, ранейшае абвінавачанне, якое часта паўтаралася прадстаўнікамі расійскіх улад, што мясцовая шляхта ў Заходніх губернях не жадае ісці на дзяржаўную службу, уже не адпавядала рэчаіснасці. Але цяпер гэта не столькі радавала ўлады, колькі выклікала іх занепакоенасць.

Павел Баброўскі пісаў у сваім даследаванні Гродзенскай губерні пра мясцовых чыноўнікаў: *"Весьма немного служащих принадлежит к дворянству Великороссийских, Белорусских* (меліся на ўвазе Віцебская і Магілёўская губерні — С. Т.) *і Малороссийских губерний: все таковые исповедуют православную веру, говорят по-русски и занимают большею частию высшие места в губернии и уездах. Все чиновники местного происхождения, равно как Царства Польского и смежных, так называемых Литовских губерний, говорят по-польски и Русский язык знают настолько, чтобы в состоянии производить все дела"*[51].

---

47 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 22, спр. 801, арк. 1.

48 ПСЗ РИ, Собр. 2, т. 28, нр 30885.

49 Тамсама, арк. 1 адв.

50 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 13, спр. 1043, арк. 4.

51 П. Бобровский, *Материалы для географии и статистки России, собранные офицерами Генерального штаба, Гродненская губерния, ч.* 1, Санкт-Петербург 1963, с. 729.

Такім чынам, у 1830-1850-ыя гады абсалютную большасць чыноўніцкага корпуса губернскіх і павятовых дзяржаўных устаноў у Гродзенскай губерні складалі прадстаўнікі мясцовай шляхты каталіцкага веравызнання. Таксама з часам узрастала колькасць шляхцічаў, якія паступалі на дзяржаўную вайсковую і цывільную службу па-за межамі губерні, паколькі службовая кар'ера ўяўлялася перспектыўным жыццёвым шляхам для многіх прадстаўнікоў прывілеяванага стану. Аднак дзяржаўная служба не прыводзіла да моўна-культурнай асіміляцыі мясцовай шляхты з расійскім дваранствам, не размывала яе польска-літвінскую нацыянальную ідэнтычнасць. Гэта выклікала занепакоенасць расійскіх улад і разглядалася як патэнцыйная небяспека для імперыі, што пацвярджаў удзел шляхты ў паўстанні 1830–1831 гг. У выніку з'явіліся дыскрымінацыйныя пастановы, якія абмяжоўвалі саслоўныя правы шляхты Заходніх губерняў. Але гэтая палітыка да пачатку 1860-х гадоў не прыносіла чаканага ўладамі эфекту. Напярэдадні паўстання 1863–1864 гг. каталіцкая шляхта Гродзенскай губерні па-ранейшаму складала большасць сярод мясцовага дзяржаўнага чыноўніцтва, і толькі на самых вышэйшых пасадах знаходзіліся прысланыя ўрадам чыноўнікі з усходу.

## Streszczenie

Siarhei Tokć, *Szlachta guberni grodzieńskiej w rosyjskiej służbie państwowej w latach 30—50 XIX w.*

W artykule rozpatrywana jest kwestia stosunku szlachty guberni grodzieńskiej do państwowej służby w wojsku i urzędach cywilnych Imperium Rosyjskiego, jak również polityka kadrowa rządu rosyjskiego. Od początku powołania guberni w 1802 r. urzędnicy instytucji gubernialnych i powiatowych byli rekrutowani w absolutnej większości z szeregów miejscowej szlachty. Jednocześnie rząd rosyjski cały czas oskarżał stan szlachecki guberni "zachodnich" o niechęć wstępowania do służby państwowej. Tym był usprawiedliwiany szereg decyzji dyskryminujących uprzywilejowany stan. W 1852 r. dzieci bogatych ziemian zobowiązywały się do wstępowania do służby państwowej po uzyskaniu pełnoletniości, do tego przy podejmowaniu służby cywilnej mieli być wysyłani poza granice zachodnich guberni. Analiza danych statystycznych miejscowej administracji państwowej świadczy o tym, że oskarżenia o niechęć do służby nie były sprawiedliwe. Liczba przedstawicieli stanu szlacheckiego, którzy wstępowali do służby cywilnej lub wojskowej, cały czas się powiększała. W 1855 r. rząd przyjął nawet tajną uchwałę o zastąpieniu w guberniach zachodnich miejscowych urzędników przez osoby delegowane z centralnych guberni Rosji. Prawdziwą

przyczyną niezadowolenia rządu rosyjskiego była niechęć miejscowej szlachty do asymilowania się z arystokracją rosyjską, wyrzeczenia się rodzimego języka i swojej polsko-lićwińskiej tożsamości.

## Summary

Siarhei Tokć, *The Nobility of Grodno Guberniya in Service to the Russian State (1830s-1850s)*

The article examines the issue of the relation between the nobility of the Grodno guberniya and state service in the army and civil offices of the Russian Empire, as well as Russian government cadre policy. Uponthe establishment of the guberniya in 1802, officials from guberniya and poviat institutions were overwhelmingly recruited from the ranks of the local nobility. However, the Russian government simultaneously accused the nobles of the “Western” guberniyas of reluctance to go into state service all the time. This was the justification of a series of discriminatory decisions against the privileged class. In 1852, the children of rich landowners committed themselves to entering state service after achieving adulthood, in addition to which, when taking up civil service, they were to be sent beyond the borders of the “Western” guberniyas. Analysis of local state administration statistical data testifies to the fact that accusations of unwillingness to take up service were unfair. The number of representatives of the noble estate entering civil or military service continued to grow. In 1855, the government even passed a secret bill concerning the replacement of local officials in the “Western” guberniyas with people delegated from Central Russian guberniyas. The real reason for the Russian government’s dissatisfaction was the reluctance of the local nobility to assimilate with the Russian aristocracy and — what went with it –to give up their native language and Polish-Lithuanian identity.

**Сяргей Раманаў (Свіслач),**
**Іна Соркіна (Варшава/Гродна)**

# Феномен шматкультурнасці мястэчак Беларусі (на прыкладзе Свіслачы)

Адно з галоўных месцаў у гістарычнай сістэме паселішчаў Беларусі, а таксама сярод культурна-гістарычных феноменаў нашай краіны займалі мястэчкі. Як паселішчы пераходнага тыпу паміж вёскай і горадам, яны арганічна аб'ядналі ў сабе ўклад вясковага і гарадскога жыцця, побыт селяніна і гараджаніна. Для мястэчак былі характэрныя поліэтнічнасць, поліканфесійнасць іх насельніцтва, што абумоўлівала шматнацыянальны характар культуры мястэчка.

Вячаслаў Рагойша адзначаў: *"Нацыянальная, сацыяльная, рэлігійная, моўная, палітычная талерантнасць, пачуццё сужыцця "ў адной лодцы", так характэрныя для колішніх і сучасных беларусаў,— усё гэта ў вялікай ступені "напрацоўка" і заслуга мястэчак.* […] *У беларускіх мястэчках на роўных ці з некаторай перавагай аднаго або другога сыходзіліся веры (праваслаўная, каталіцкая, іудзейская, часам — ісламская), этнасы (беларусы, палякі, габрэі, часам — беларускія татары, рускія стараверы), мовы (беларуская, польская, ідыш, руская).* […] *Для культуролагаў мястэчка цікавае як унікальная форма спакойнага, талерантнага прадуцыравання і сужыцця некалькіх нацыянальных культур, спецыфічная лабараторыя іх інтэнсіўных узаемасувязей і ўзаемаўзбагачэння, выпрацоўкі на гэтай аснове своеасаблівага феномена — поліэтнічнай, поліканфесійнай, полілінгвістычнай местачковай культуры"*[1].

Навацыі сусветнай гуманітарнай навукі (канцэпцыі "культурнай памяці" Алеіды і Яна Асманаў, "месцаў памяці" П'ера Нара, мульцікультуралізму Петэра Гаслінгера, "нацыянальных сімвалаў" і "культурных знакаў" Альвідаса Нікжэнтайціса) дазваляюць па-новаму падыйсці да праблемы даследавання і асэнсавання шматкультурных і шматканфесійных гарадоў Цэнтральна-Усходняй Еўропы, у тым ліку і Беларусі[2]. Нам падаецца прымальным выкарыстанне пералічаных вышэй метадалагічных падыходаў

---

1 В. Рагойша, *Заходнебеларускае мястэчка як асяродак беларуска-польскага культурнага сумежжа (на прыкладзе Ракава),* [у:] *На шляхах да ўзаемаразумення, Беларусіка*, кн. 15, Мінск 2000, с. 62.

2 Раздзел "*Вільня ў памяці народаў рэгіёну*" ў гадавіку антрапалагічнай гісторыі "*Homo Historicus 2009*" (рэд. А. Ф. Смалянчук, Вільня 2010); А. Смалянчук, *Трансфармацыя знакаў памяці постсавецкага Гродна,* [у:] *Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст.*, рэд. А. Ф. Смалянчук, Н. У. Сліж, Гродна 2013, с. 380–397.

і ў дачыненні мястэчак. Пакажам гэта на прыкладзе Свіслачы, што на Ваўкавышчыне. У беларускай гістарыяграфіі гэта робіцца ўпершыню[3].

## Генезіс шматкультурнасці мястэчка

Часам актыўнага паўставання мястэчак на беларускіх землях быў перыяд XV — першай паловы XVII ст. У гэты ж час адбывалася і станаўленне Свіслачы як мястэчка. Даволі дакладныя дакументальныя звесткі пра палітычнае і эканамічнае становішча Свіслачы Ваўкавыскай прасочваюцца ў крыніцах з XV–XVI стст. Менавіта ў гэты час пасяленне разам з воласцю пачынае выдавацца з дзяржаўнага фонду прыватным асобам на правах часовага карыстання: "арэнды", "дзяржавы", "заставы". Верагодна, што Свіслач атрымала статус мястэчка паводле каралеўскага прывілея 1520 г.[4]

Асаблівасцю сеткі мястэчак на беларускіх землях быў пераважна прыватнаўласніцкі статус гэтых паселішчаў. Не стала выключэннем і Свіслач. У 1540 г. Жыгімонт ІІ Аўгуст падарыў Свіслацкую пушчу разам з мястэчкам Гераніму Аляксандравічу Хадкевічу. На працягу XVI — першай трэці XIX ст. Свіслач знаходзілася ў валоданні шэрагу шляхецкіх родаў — Хадкевічаў, Пакашаў (з 1595 г.), Крышпінаў-Кіршанштэйнаў (з 1635 г.), Тышкевічаў (з 1753 г.).

Паводле высноў Станіслава Александровіча, адной з характэрных рыс гарадоў і мястэчак Вялікага Княства Літоўскага ў XVI–XVII стст. з'яўлялася этнічная і рэлігійная разнастайнасць насельніцтва — летувісы і беларусы (у розных прапорцыях), а таксама палякі, "маскалі", габрэі, немцы, шатландцы, галандцы, часам італьянцы і французы ды іншыя. Нельга не ўзгадаць татараў, часам караімаў ці армян. Гэта праяўлялася ў адначасовым знаходжанні побач касцёлаў, цэркваў, кальвінскіх ці лютэранскіх збораў, сінагог, часам мячэцяў, а таксама ў паралельным функцыянаванні канфесійных школ, кляштараў, рэлігійных арганізацый і друкарняў (у некаторых асяродках)[5]. Як адзначае А. Нікжэнтайціс, тыповымі крыніцамі фарміравання мульцікультурнасці горада ці рэгіёна з'яўляюцца міграцыя, заваяванні і акультурацыя[6].

---

3 Дадзенае даследаванне з'яўляецца працягам і развіццём дыпломнага праекта Сяргея Раманава (падрыхтаванага ў 2010 г. пад навуковым кіраўніцтвам канд. гіст. навук, дацэнта І. В. Соркінай), а таксама артыкулаў Іны Соркінай: І. Соркіна, *Мястэчка Свіслач у першай палове XIX ст.,* [у:] *Старонкі гісторыі Свіслацкага краю: Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі* / Пад рэд. І. П. Крэня, Гродна 2001, с. 48–61; І. Соркіна, *Асаблівы сусвет м. Свіслач,* "Спадчына", 2002, № 2–3, с. 102–118.

4 И. Лаппо, *Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти короля Стефана Батория (1560–1586). Опыт исследования политического и общественного строя,* т. 1, СПб., 1901.

5 S. Aleksandrowicz, *Studia z dziejów miasteczek Wielkiego Księstwa Litewskiego,* Toruń 2011, s. 272.

6 А. Нікжэнтайціс, *Нацыянальны сімвал у шматкультурным горадзе,* [у:] *Homo historicus 2009. Гадавік антрапалагічнай гісторыі* / пад. рэд. А. Ф. Смаленчука. Вільня 2010, с. 307.

Што датычыцца мястэчак Беларусі, то іх этнакультурнае аблічча істотна змянілася пасля разбуральных войнаў сярэдзіны XVII ст. і пачатку XVIII ст. Войны прывялі да знішчэння беларускага мяшчанства і запаўнення гэтай сацыяльнай і культурнай нішы габрэямі. Мясцовыя арыстакраты, зацікаўленыя ў гаспадарчым аднаўленні сваіх маёнткаў, росце гандлю і рамёстваў, запрашалі габрэяў у свае паселішчы ў абмен на гарантыю бяспекі, свабоды гандлю і веравызнання, а таксама аўтаномнае абшчыннае самакіраванне. Вялікая колькасць прывілеяў была прадастаўлена габрэйскім абшчынам у канцы XVII–XVIII ст. Праз працэсы міграцыі і акультурацыі гарады набывалі новае этнакультурнае аблічча. Менавіта ў гэту эпоху закладваліся вытокі феномена небеларускасці гарадскіх паселішчаў Беларусі, які канчаткова паўстаў на працягу XIX — пачатку XX ст. Гарады і мястэчкі сталі пераважна габрэйскімі ў выніку абмежавальнай палітыкі царскага ўрада (увядзення мяжы аселасці, высялення габрэяў з сельскай мясцовасці). Мястэчка пераўтварылася ў штэтл — асяродак габрэйскай гісторыі рэгіёна, культурнай творчасці габрэяў.

Першае вядомае нам дакументальнае сведчанне пра габрэяў Свіслачы — дакумент пад назвай *Рэестр падымнага Ваўкавыскага павета 1690 г.*, паводле якога маёмасць Крышпіна-Кіршанштэйна *"Свіслач Вялікая разам з Рудняй і жыдамі"* налічвала 116 дымаў[7].

Найбольш поўна этнічнае і канфесійнае становішча Свіслачы адлюстраванае ў крыніцах XIX ст. На 1816 г. суадносіны хрысціян і іўдзеяў у мястэчку складалі адпаведна 337 і 277 чал., у 1829 г.— 456 і 805 чал., у 1857 г.— 935 і 893 чал[8]. Для першай паловы XIX ст. характэрны пэўны парытэт паміж колькасцю хрысціянскага і габрэйскага насельніцтва, з невялікай перавагай у бок хрысціян. Карэнным чынам сітуацыя змянілася ў другой палове XIX — пачатку XX ст.: у 1870 г. з 1947 жыхароў Свіслачы 1560 былі іўдзеямі (80,1 %)[9]; па звестках на 1890 г.— 538 хрысціян і 1420 габрэяў, 1901 г.— 760 хрысціян і 2300 габрэяў (75 %). Статыстыка насельніцтва другой паловы XIX — пачатку XX ст. пераканаўча сведчыць аб колькаснай перавазе габрэяў над хрысціянамі.

Дамінаванне габрэяў сярод насельніцтва мястэчка перадвызначыла іх перавагу ў палітычным жыцці. Першай палітычнай партыяй, якая заснавала сваю ячэйку ў Свіслачы ў 1898 г., была арганізацыя сіяністаў. Менавіта шэраг сіянісцкіх арганізацый і БУНД мелі найбольшы ўплыў

---

7 S. Krakowski, *Wykaz podatku podymnego powiatu Wołkowyskiego z roku 1690,* Wilno 1939, s. 40.

8 І. Соркіна, *Мястэчка Свіслач у першай палове XIX ст.,* [у:] *Старонкі гісторыі Свіслацкага краю,* Гродна 2001, с. 52.

9 *Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи* (городовое положение 16 июня 1870 г.), т. V, Санкт-Петербург 1879, с. 90.

у мясцовым самакіраванні ў 1920-я — 1930-я гг. На выбарах у магістрат у 1927 г. размеркаванне мандатаў выглядала наступным чынам: сялянскае прадстаўніцтва атрымала 1 мандат, беларускае прадстаўніцтва — 2 мандаты, артадоксы і сіяністы — 6 мандатаў, БУНД — 3 мандаты. Як бачна, з 12 радных габрэі мелі аж 9 месцаў. Такі поспех быў вынікам этнічнай кансалідацыі і добрай дысцыпліны галасавання. На сеймавых выбарах 1928 г. палітычная сітуацыя была наступнай: "беспартыйны блок супрацоўніцтва з урадам" — 224 галасы, беларусы — 222 галасы, габрэі — 418 галасоў. Права голасу мелі 1692 асобы, а скарысталі з яго 1300 чалавек, што дало даволі добры вынік у 77 % палітычнай актыўнасці[10]. Некаторы час у пачатку XX ст. свае прадстаўніцтвы ў мястэчку мелі некалькі партый сацыялістычна-анархічных накірункаў, якія, аднак, былі забароненыя ў 1920-я — 1930-я гг. Падобным чынам на нелегальным становішчы тут існавалі прадстаўніцтвы БСРГ (з 1925 г.), КПЗБ і КСМЗБ (з 1926 г.). Усяго ячэек гэтых арганізацый на Свіслаччыне налічвалася каля 15[11]. У канцы 1934 г. кіраўніком падпольнага Свіслацкага райкама быў выбраны Пінсах Вайнер. Таму не дзіўна, што пасля падзей верасня 1939 г. новым кіраўніком мястэчка прызначылі Вайнера, які адседзеў 8 гадоў "за камунізм".

Для габрэяў Свіслачы, як і ў цэлым для мястэчка, адным з самых спрыяльных перыядаў у гісторыі быў час, калі Свіслач знаходзілася ва ўладанні рэферэндарыя літоўскага Вінцэнта Тышкевіча (1757–1816). Свіслацкі кагал павялічыўся з 220 чал. у 1766 г. да 805 у 1829 г.[12] Пасля канфіскацыі Свіслацкага маёнтка ў генерала Тадэвуша Тышкевіча, аднаго з кіраўнікоў антыімперскага паўстання 1830–1831 гг., жыхары мястэчка адчулі пагаршэнне свайго становішча. У прыватнасці, Гродзенская казённая палата патрабавала плаціць казне дадатковы чынш 5 руб. серабром у год (звыш пазямельнага) за гандлёвыя крамы ў габрэйскіх дамах. У перапісцы чыноўнікаў па гэтым пытанні адзначалася, што габрэі Свіслачы мелі ад уладальніка своеасаблівы прывілей: "*Свислочское еврейское общество не имеет особо лавок, а только таковые устроены в их домах от фронту, за что они платят чинш сообразно занимаемой ими земли, а особо за постройку лавок, никаким оброком не обложены.* […] *Всякий хозяин дома из еврейского общества имеет выданную крепостную сделку от прежнего вотчинника им. Свислочи референдария В. Тышкевича, из коей видно, что*

[10] W. Karpyza, *Swisłocz*, Część 4, Kroniki Roskie, Gożów Wielkopolski 1973 (машынапісная манаграфія ў архіве Сяргея Раманава), s. 118.

[11] П. Абрамсон, *Эмигрантский журнал*, Лондон 1969, (пераклад з англ. мовы), Матэрыялы Свіслацкага гісторыка-краязнаўчага музея, с. 74; *Памяць: Свіслацкі р-н.: Гіст.-дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі* / Рэдкал. І.І. Варанец і інш., Мінск 2004, с. 101.

[12] І. Соркіна, *Асаблівы сусвет м. Свіслач,* "Спадчына", 2002, № 2–3, с. 106.

*им дозволено распоряжаться и перестраивать домы по своей воле и для собственной выгоды, с тем только дабы не портить фронта"*[13].

Свіслач першай паловы XIX ст. была даволі вядомым эканамічным (дзякуючы Успенскаму кірмашу, заснаванаму паводле каралеўскага прывілея 16 студзеня 1783 г.) і культурным (дзякуючы гімназіі, заснаванай у 1805 г.) цэнтрам. Гэта прыцягвала сюды замежнікаў, дадавала этнаканфесійнай і культурнай разнастайнасці. На Успенскі кірмаш у мястэчка прыязджалі гандляры з украінскіх і рускіх гарадоў, Каралеўства Польскага, Аўстрыі, Прусіі, Даніі, Францыі, Італіі, Турцыі. Некаторыя іншаземцы былі задзейнічаны ў прамысловай сферы: напрыклад, уладальнік папяровай фабрыкі ў Свіслачы Іаган Ральф паходзіў з Галандыі, а майстрам на гарбарным прадпрыемстве Пінкаса Бярэзніцкага працаваў нейкі немец[14].

Цікавым чынам выглядае сітуацыя з грамадскай пазіцыяй і культурным самавызначэннем іншаземцаў. У прыватнасці, на пачатку XIX ст. акруговым ляснічым у Белавежскай пушчы працаваў жыхар Свіслачы, швейцарац Яўген дэ Ронк. Ён прымаў актыўны ўдзел у паўстанні 1830–1831 гг. (па сутнасці, у чужым яму расійска-польскім канфлікце). Паколькі дэ Ронк, як ляснічы, добра ведаў сваю пушчу, то падрыхтаваў для паўстанцаў склад харчавання, стрэльбы, падрабязныя планы лясоў і яшчэ прывёў з сабою 80 стралкоў[15]. Атрад дэ Ронка вясной 1831 г. налічваў да 500 чал[16]. Расійскія войскі жорстка адпомсцілі швейцарцу: ноччу напалі на яго дом, забілі жонку і дзяцей, спалілі хату, а гаспадарку зруйнавалі.

У 1810–1824 гг. у Свіслацкай гімназіі працаваў выкладчыкам француз Жан дэ Нявіль. Ён нарадзіўся ў 1779 г. і паходзіў з сям'і французскіх эмігрантаў, вучыўся ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў і Віленскім універсітэце. У свіслацкай гімназіі дэ Нявіль выкладаў малюнак і рускую мову. Дэ Нявіль быў адным з вучняў славутага мастака Францішка Смуглевіча, і, у сваю чаргу, настаўнікам не менш вядомага Напалеона Орды. Жан дэ Нявіль пакінуў шэраг унікальных малюнкаў мястэчка Свіслач пачатку XIX ст., такіх як "Свіслач. Вуліца Рудаўская", "Свіслач. Старыя дворыкі на рынку", "Гарадская брама ў Свіслачы", "Свіслач. Будынак гімназіі" і інш. Звычайна аўтарства гэтых малюнкаў прыпісваецца Напалеону Орду, што не адпавядае рэчаіснасці, паколькі Орда заўсёды падпісваў малюнкі і маляваў свае эскізы Свіслачы ў 60-я гг. XIX ст., а на ўзгаданых выявах падаецца мястэчка пачатку XIX ст. Адносна нядаўна ўдалося знайсці

13 НГАБ у Гродне. ф.1, воп. 4, адз. зах. 494, арк. 1–3.

14 А. Айн, *Свислочь,* [у:] "Ваўкавышчына", 2008, № 4 (14), с. 51.

15 W. Kalinka, *Żywot Tadeusza Tyszkiewicza,* Poznań 1853, s. 146.

16 А. Радзюк, *Паўстанне 1831 г. на Ваўкавышчыне*, "Ваўкавышчына", 2007, № 3, с. 9.



**Касцёл Св. Троіцы ў Свіслачы (Літаграфія Ф. Бжазоўскага з малюнка Ж. дэ Нявіля)**

літаграфію з малюнка дэ Нявіля "Траецкі касцёл у Свіслачы", на якой справа ўнізе пазначаныя ініцыялы аўтара: *J. Nieuville*[17].

Французскі кампанент мястэчка быў прадстаўлены яшчэ шэрагам сем'яў, сярод якіх вызначаюцца Пероны і Понсе дэ Садоны, якія таксама не засталіся ў баку ад грамадска-палітычных падзей. Вядома, што браты Сабеслаў і Роберт Понсе дэ Садоны працавалі ўрачамі ў Свіслачы і Ваўкавыску ды прымалі непасрэдны ўдзел у паўстанні 1863–1864 гг. Бацька братоў быў французам па нацыянальнасці, выхадцам са Швейцарыі. Пасля завяршэння вайны 1812 г. ён застаўся ў Расійскай імперыі і працаваў настаўнікам у Вільні, Слуцку, Навагрудку, і нарэшце асеў у Свіслачы. У часы паўстання 1863–1864 гг. старэйшы брат Сабеслаў Понсе дэ Садон прыняў ад М. О. Гліндзіча пасаду кіраўніка паўстаннем у Ваўкавыскім павеце, за што пазней быў высланы разам з братам у Сібір. Сабеслаў быў сасланы ў Табольск, дзе і памёр 16 мая 1864 г., аб чым ваўкавыскі паліцэйскі спраўнік паведаміў яго бацькам у Свіслачы. Малодшы брат Роберт быў сасланы ў Казанскую губерню, дзе з 1864 г. працаваў урачом у Цывільскім уездзе. Нават знаходзячыся пад наглядам паліцыі, неаднаразова выступаў з крытыкай мясцовых улад за нізкі ўзровень медыцынскай дапамогі і прыгнятанне нярускіх народнасцей. У 1874 г. пераехаў у Казань, дзе

[17] M. Zgliński, *Kościół parafialny p.w. Trojcy w Świsłoczy Wielkiej* [w:] *Kościoły i klasztory rzymsko-katolickie dawnego województwa nowogródzkiego*, cz. II, t. 2, Kraków 2006, s. 281–311.

працаваў да 1893 г. Пазней перасяліўся ў Польшчу і яшчэ ў 1905 г. працаваў прыватным лекарам у пасёлку Цэглаў пад Варшавай[18]. Аб тым, што французы складалі сталы этнічны элемент мястэчка, сведчыць той факт, што па сённяшні дзень на Старых могілках захаваліся надмагільныя помнікі Перонаў і Понсе дэ Садонаў з надпісамі на французскай мове.

Аднак не заўсёды такая поліэтнічнасць мела станоўчы ўплыў на мястэчка. Напрыклад, у часы вайны 1812 г. мястэчка неаднаразова было захоплена VII корпусам французскай "Вялікай арміі". Другая назва VII корпуса гучала як "саксонскі", таму што ён цалкам складаўся з рэкрутаў, набраных у нямецкіх княствах, а бадай што адзіным французам у ім быў сам камандуючы корпусам, паплечнік Напалеона генерал Жан Рэнье. 6 лістапада 1812 г. корпус Рэнье заняў Свіслач, дзе на нейкі час затрымаўся яго штаб. Больш за ўсё ў мястэчку Рэнье спадабаліся… вінныя склепы графаў Тышкевічаў, дзе захоўвалася каля 300 бутэлек віна: вянгерскага, бардо, шампанскага[19].

Гістарычна так склалася, што некаторыя народы атрымалі негатыўнае ўспрыняцце ў менталітэце местачкоўцаў. Да ліку такіх адносяцца шведы, якія захоплівалі і руйнавалі мястэчка ў часы "Патопу" 1655 г. і Паўночнай вайны 1700–1721 гг. На дзеянні шведскай арміі ў 1655 г., калі яна спаліла драўляны касцёл у мястэчку, магла паўплываць грамадска-палітычная пазіцыя ўладальніка Свіслачы Гераніма Крышпін-Кіршанштэйна, які адмовіўся падпісаць Кейданаўскую унію і разам з сям'ёй ад'ехаў у Кёнігсберг. Але пасля падпісання 17 студзеня 1656 г. дамовы паміж Швецыяй і Брандэнбургам-Прусіяй улады Прусіі прымусілі ўсіх перасяленцаў з Літвы прысягнуць Швецыі. Кіршанштэйн ізноў адмовіўся прыняць прысягу і ўцек у Жамойць, дзе зрабіўся ініцыятарам і кіраўніком вялікага антышведскага паўстання[20].

Верагодна, апошні раз Свіслач была спаленая шведамі ў студзені 1708 г., падчас пераходу войска Карла XII з Новага Двара на Гродна.

У Свіслачы стала пражывалі татары. Леан Патоцкі ў сваіх мемуарах згадвае, што на пачатку XIX ст. вуліца Варшаўская ў Свіслачы была заселена татарамі, якія займаліся гарбарным рамяством[21]. У мястэчку таксама існаваў

---

[18] Ф. Игнатович, *Медики — участники восстания 1863 года и их судьбы,* [у:] *Ваўкавышчына: з гісторыі краю і лёсу людзей*, Ваўкавыск 1997, с. 136.

[19] В. Швед, С. Данскіх, *Заходні рэгіён Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў (1805–1815 гады)*, Гродна 2006, с. 152–154.

[20] А. Катлярчук, *У ценю Польшчы і Расеі. Вялікае Княства Літоўскае і Швэцыя ў часе эўрапейскага крызісу сярэдзіны XVII ст.*, Мінск 2009, с. 166.

[21] Л. Патоцкі, *Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану* / укл., прадмова, камент. А. М. Філатавай; пер. з польскай І. У. Саламевіча, Мінск 1997, с. 24.

цэлы раён, які знаходзіўся ў непасрэднай блізкасці ад ракі Свіслач і меў назву Татарскія агароды. Верагодна, што агародніцтва грала вялікую ролю ў занятках местачковых татар. Мячэці тут ніколі не было, а бліжэйшая ісламская святыня ў Ваўкавыскім павеце знаходзілася ў Крушынянах.

Вынікам існавання і дзейнасці некалькіх этнаканфесійных груп мястэчка з'явілася шматкультурнасць. Мульцікультурны горад ці мястэчка з'яўляецца феноменам рэгіянальнай гісторыі і культуры, ён нехарактэрны для Заходняй Еўропы, гарадское насельніцтва якой у даследуемы перыяд было пераважна монаэтнічным[22].

## Рэлігійная сітуацыя

Рэлігія, як і мова, лічыцца адным з асноўных этнавызначальных фактараў. У часы Сярэднявечча і Новага часу культура і рэлігія былі моцна звязаныя паміж сабой, з'яўляліся ўзаемаабумоўленымі фактарамі гістарычнага развіцця і ўплыву на грамадства.

Найстарэйшымі хрысціянскімі канфесіямі на землях Свіслаччыны былі праваслаўе і каталіцтва. Касцёл існаваў у Свіслачы з XV ст[23]. Першыя дакладныя згадкі пра праваслаўныя цэрквы на гэтых землях адносяцца да XVI ст. Так, пры продажы Свіслачы Хадкевічамі С. Пакашу ў дакуменце 1595 г. адзначаецца: *"…таксама з мястэчкам Свіслаччу, касцёлам і цэрквамі і іх абсталяваннем і правам палявання…"*[24]. Тут, безумоўна, гаворка ідзе аб храмах Свіслацкай воласці. XVII–XVIII стагоддзі азначаныя дамінаваннем уніяцкай царквы ў мястэчку. У 1721 г. каталіцкая парафія налічвала тут 921 чалавека, але ў самым мястэчку каталікоў было толькі 70. У 1797 г. на Свіслаччыне налічвалася 1850 уніятаў, 1127 каталікоў, 310 іўдзеяў, 21 мусульманін, 7 лютэран і 1 кальвініст[25].

На гістарычнае развіццё Свіслачы паўплывала Рэфармацыя. У гэты час Свіслаччу валодалі Хадкевічы — вядомы "русінскі" род у ВКЛ. Хадкевічы першапачаткова прытрымліваліся праваслаўя, але ў часы Рэфармацыі сталі пратэстантамі, у перыяд Контррэфармацыі прынялі каталіцтва. Калі ў 1580 г. памерла Ганна Хадкевіч, яе сыны Ян Караль і Аляксандр пахавалі яе ў склепе кальвінісцкага збора ў Гнезне, недалёка ад Свіслачы. Для магнатаў ВКЛ пратэстантызм быў своеасаблівым сімвалам сепаратызму. Такі стан

[22] А. Нікжэнтайціс, *Нацыянальны сімвал у шматкультурным горадзе,* [у:] "Homo historicus 2009. Гадавік антрапалагічнай гісторыі", пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Вільня 2010, с. 307.

[23] E. Maliszewski, *Pszewodnik po gubernii Grodzieńskiej,* Warszawa 1919, s. 38.

[24] W. Karpyza, *Swisłocz,* Część 4, Kroniki Roskie. Gożów Wielkopolski 1973, s. 5.

[25] M. Zgliński, *Kościół parafialny p.w. Trojcy w Świsłoczy Wielkiej,* [w:] *Kościoły i klasztory rzymsko-katolickie dawnego województwa nowogródzkiego,* red. nauk. M. Kałamajska-Saeed, cz. II, t. 2, Kraków 2006, s. 286.

рэчаў усё ж не кранаў непасрэдна местачкоўцаў, паколькі Рэфармацыя ў ВКЛ была "княжацкай" і, як вядома, не мела шырокага распаўсюджання ў мяшчанскім асяроддзі. Аднак сітуацыя на местачковым узроўні змянілася карэнным чынам, калі Ян Караль Хадкевіч у 1595 г. прадаў Свіслач Себасцьяну Пакашу. Пакаш перабудаваў мясцовы касцёл на пратэстанцкі збор, і, прыняўшы кальвінізм *"wraz z poddanymi"*, заставаўся ў гэтай веры на працягу каля 30 гадоў[26]. Кальвініскі збор у Свіслачы існаваў таксама каля 30 гадоў, да часу, калі ў 1633 г. унук Себасцьяна Эльяшэвіча Пакаша — Себасцьян Пжэцлававіч зноў перарабіў збор на касцёл і прасіў прысланць каталіцкага святара, які ведае мясцовую мову. Можна меркаваць, што Пакаш прыняў кальвінізм услед за сваім патронам, вядомым апекуном ідэй Рэфармацыі ў ВКЛ Крыштафам Радзівілам Пярунам. Той факт, што жыхары мястэчка да часу Контррэфармацыі спавядалі пратэстантызм, дазваляе лічыць іх прыналежнымі да агульнаеўрапейскіх рэфармацыйных працэсаў.

З часоў падзелаў Рэчы Паспалітай і інкарпарацыі беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі, праваслаўе пачало карыстацца шырокай дзяржаўнай падтрымкай. Аднак сталася гэта не адразу: расійскія манархі баяліся польскага нацыянальнага руху і прытрымліваліся палітыкі лавіравання ў адносінах да каталіцкай царквы. Пералом у гэтым пытанні наступіў пасля падаўлення паўстання 1863–1864 гг., калі ўлады ўзялі афіцыйны курс на татальную русіфікацыю краю. Рэлігійнае жыццё на Свіслаччыне ў XIX ст.— своеасаблівы *"смутны час"*. І вызначаецца гэты перыяд у першую чаргу Поразаўскай і Свіслацкай "*смутамі*", як акрэслілі гэтыя падзеі гісторыкі другой паловы XIX — пачатку XX ст. У абодвух выпадках справа датычылася былых уніятаў, якія імкнуліся да змены веравызнання. Дадзеныя канфлікты адлюстроўваюць тыповую рэлігійную сітуацыю, што склалася на беларускіх землях пасля падзей Полацкага сабору 1839 г., з той розніцай, што на Свіслаччыне яна набыла асаблівы размах і вастрыню, мела шырокі розгалас. Калі ў 1858 г. больш за сто праваслаўных жыхароў Поразава вярнуліся ва ўніяцтва, генерал-губернатар Назімаў адправіў туды атрад салдат, якія розгамі вярнулі новаахрышчаных у праваслаўе. Справа набыла шырокую вядомасць. Рускі дэмакрат А. І. Герцэн у сваім лонданскім *Колоколе* пісаў аб ёй як аб *"новом злодействе русской администрации"*. Пасля такой шырокай агалоскі свецкія ўлады вымушаныя былі адмовіцца ад падобнага ўмяшальніцтва ў рэлігійныя справы. Аналагічная сітуацыя склалася ў Свіслачы ў 1871–1873 гг. і атрымала назву "Свіслацкай смуты". Тут асаблівую актыўнасць праяўляў мясцовы праваслаўны святар А. Гамаліцкі, які дабіваўся змены

---

[26] W. Przyałgowski, *Żywoty biskópów wileńskich,* t. 1, s. 127.

веры недазволенымі метадамі. У выніку шматлікіх скарг жыхароў Свіслачы да губернатара справа трапіла на старонкі друкаваных выданняў. Урадавыя органы вымушаныя былі прыняць адпаведныя меры, у выніку якіх праваслаўны святар заменены на іншага. Пра гэтыя падзеі пакінуў сваё сведчанне вядомы гісторык М. Каяловіч[27].

У пачатку другой паловы XIX ст. рэлігійная сітуацыя ў мястэчку выглядала наступным чынам. У 1857 г. у Свіслачы налічвалася 393 праваслаўныя (пазначаныя як *"беларусы"*), 532 каталікі *("палякі"* і *"літоўцы"*), 10 пратэстантаў *("палякі"* і *"немцы"*) і 893 іўдзеі[28]. У мястэчку таксама жылі татары — мусульмане.

Падобна на тое, што ў пазнейшы перыяд рэлігійная сітуацыя карэнным чынам не змянялася. У 1928 г. тут было зафіксавана 1842 іўдзеі, 881 праваслаўны, 584 каталікі, 15 мусульман і 4 пратэстанты[29].

## Калейдаскоп культурнага жыцця мястэчка

Этнаканфесійная разнастайнасць непасрэдным чынам уплывала на культурнае жыццё мястэчка. Так, у 1788–1789 гг. капельмайстарам тэатральнай капэлы ў Свіслачы быў італьянец Карм'е Чыпрыяні — вядомы ў свой час кампазітар, скрыпач і дырыжор, якога запрасіў у Свіслач Вінцэнт Тышкевіч. Праграма тэатра Тышкевіча была арыентаваная на заходнееўрапейскі рэпертуар, аснову якога складалі камічныя оперы такіх кампазітараў, як А. Э. М. Грэтры, Б. Блез, Ж. Н. Меро, П. А. Мансіны і інш. Нотная бібліятэка Тышкевіча складалася з твораў Піхля, Плацыла, Сакіні, Камеле. Сярод сусветна вядомых кампазітараў фігуравалі Ё. Гайдн, І. С. Бах, Дж. Пазіэлла, Л. Бакерыні, Г. Пуньяні і шэраг менш вядомых: К. Абель, Э. Гофман, Ф. Хафмайстэр, Шустэр, Высоцкі і інш[30].

У тэатры існаваў дастаткова прафесійны оперны калектыў, паколькі выкананне опер такіх вядомых мэтраў, як П. А. Маньсіны (адзін са стваральнікаў камічнай оперы), А. Э. Грэтры (з яго імем звязаны росквіт французскай камічнай оперы XVIII ст.), І. А. Хасэ (адзін з вядучых майстроў оперы-sesia) і іншых, патрабавала ад вакалістаў пэўнага майстэрства і прафесійнай падрыхтоўкі. Да таго ж у часы Грэтры камічная опера мела вялікі склад выканаўцаў: адзін толькі аркестр складаўся з 25 музыкантаў.

---

27 А. Мялешка, *З гісторыі канфесійнага становішча на Свіслаччыне*, [у:] *Старонкі гісторыі Свіслацкага краю: Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі,* с. 171–174.

28 І. Соркіна, *Мястэчка Свіслач у першай палове XIX ст.*, [у:] *Старонкі гісторыі Свіслацкага краю: Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі,* с. 52.

29 W. Karpyza, *Swisłocz*, Część 4, Kroniki Roskie, Gożów Wielkopolski 1973, s. 78.

30 І. У. Чуланава, *Музычна-тэатральная культура Свіслачы канца XVIII — першай паловы XIX ст.*, "Ваўкавышчына", 2009, № 5 (15), с. 16.

Акрамя аўстра-нямецкай, італьянскай і французскай тэатральных школ, у свіслацкім тэатры, па сведчанні даследчыка А. Мілера, у пачатку XIX ст. была добра прадстаўлена польская школа: у мястэчку час ад часу працавалі гродзенская трупа Яна Шыманскага (1803), віленская трупа Мацея Кажынскага (1817–1819), сюды прыязджалі і варшаўскія славутасці з Teatra Narodowego — І. Вяроўскі, Банавентура Кудліч і інш[31].

Усе прафесійныя трупы Тышкевіч браў на сваё ўтрыманне, плаціў ім грошы і даваў некаторыя каштоўныя прэзенты, за што яны павінны былі ставіць п’есы і нічога не патрабаваць ад публікі. Прыцягваліся да паказаў таксама артысты з сялян і жыхароў мястэчка. Вядома, што ў пачатку XIX ст. у свіслацкім парку быў пастаўлены аднапавярховы драўляны будынак пад гонтавым дахам, прызначаны спецыяльна для тэатра: мелася вялікая тэатральная зала (212 кв. м) і дзве танцавальныя (83,5 кв. м)[32].

Пасля адкрыцця ў 1805 г. знакамітай Свіслацкай гімназіі ў мястэчку пачаў дзейнічаць яшчэ і школьны тэатр, у якім сіламі навучэнцаў ставіліся гістарычныя трагедыі В. Жэвускага і драмы Ю. Нямцэвіча, прымеркаваныя да свята 29 чэрвеня — заканчэння навучальнага года ў гімназіі. Вось як апісвае адно з такіх выступленняў Л. Патоцкі: *“…пад расцягнутым багатым шатром спачываў на ложы Канстанцін Астрожскі. Ён быў накрыты буркаю, навокал быў развешаны вайсковы рыштунак: зброя, шчыт, меч, коп’і, булава, харугвы — гетманская і здабытая ў непрыяцеля. Побач сядзела дачка. Малады збраяносец каля ног, падыгрываючы на ліры, спяваў вядомую думу Ю. Нямцэвіча пра перамогу пад Оршаю”*[33].

Вядома, што тэатр таксама існаваў тут у 20–30-х гг. XX ст., калі быў адноўлены вучнямі мясцовай настаўніцкай семінарыі. У ім, між іншым, ставіліся больш сучасныя творы: “*Блажэк апантаны*” і “*Яселек*” Анчыца, “*Варшавянка*” ст. Выспяньскага і інш. Выступленні семінарыстаў наведвалі нават мясцовыя габрэі, а дэкарацыямі займаўся прафесар Павал Бялэк з вучнямі. Пры семінарыі таксама існаваў свой аркестр, якім кіраваў Банецкі, а пасля яго Леанард Хільман і Эдуард Гойлік — пазней вядомы кампазітар, прафесар вышэйшай школы ў Беластоку. Аркестр граў на ўсіх галоўных святах і падзеях у семінарыі і мястэчку, у тым ліку на выступленні вучнёўскай дружыны скаўтаў, на пахаваннях былога дырэктара семінарыі Баляслава Борыса і грамадскага дзеяча Свіслачы аптэкара Яна

31 Тамсама, с. 18.

32 *Архітэктура Беларусі: энцыклапедычны даведнік,* Мінск 1993, с. 432.

33 Л. Патоцкі, *Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану* / укл., прадмова, камент. А. М. Філатавай; пер. з польскай І. У. Саламевіча, Мінск 1997, с. 68–69.

Стралкоўскага (аркестр выконваў траўрны марш Ф. Шапэна)[34].

Значным асяроддзем культурнага жыцця мястэчка на працягу амаль двух стагоддзяў з'яўлялася сфера адукацыі. Вялікую ролю ў развіцці мястэчка мела заснаванне тут Вінцэнтам Тышкевічам у 1805 г. гімназіі — на той час адной з першых свецкіх навучальных устаноў такога тыпу ва ўсёй Расійскай імперыі. Гімназія цягам першай паловы XIX ст. з'яўлялася адным з самых вядомых цэнтраў развіцця культуры і грамадска-палітычнай думкі на беларускіх землях.

Выкладчыкі і навучэнцы Свіслацкай гімназіі складалі значную частку насельніцтва мястэчка. Напрыклад, у 1816 г. сталае насельніцтва Свіслачы налічвала 614 чалавек, а выкладчыкі і вучні гімназіі — 328 чалавек (у 1818 г.)[35]. Атрымліваецца, што 35 % жыхароў былі звязаныя з навукай і асветай.

Вучні Свіслацкай гімназіі, як і студэнты Віленскага ўніверсітэта, з'яўляліся ўдзельнікамі шэрагу таемных таварыстваў: "Навуковага", "Маральнага", таварыства "Заран", а таксама падтрымлівалі сталыя сувязі з філаматамі, філарэтамі і рухам дзекабрыстаў[36]. У часе паўстання 1830–1831 гг. рабілася спроба падрыхтаваць у Свіслачы паўстанне з удзелам гімназістаў, але план не быў здзейснены[37].

Свіслацкая гімназія перажыла некалькі выпрабаванняў, звязаных з палітычнымі падзеямі. Першы моцны ўдар па ёй быў нанесены рэпрэсіямі ў сувязі з адкрыццём тайных таварыстваў, наступны — у 1830-ыя гады, калі ўлады перакройвалі ўсю сістэму навучання ў Літве і Беларусі. Неаднаразова разглядалася пытанне аб закрыцці Свіслацкай гімназіі. У 1845 г. яна была пераўтворана ў прагімназію, а ў 1851 г. пераведзена ў Шаўлі. Прагімназія працягвала існаванне да паўстання 1863–1864 гг., калі яе дзейнасць была часова прыпыненая. Канчаткова ўстанова ліквідавана па рашэнні ўрада ад 15 чэрвеня 1865 г.

Навучальныя ўстановы Свіслачы вядомыя сваімі выпускнікамі, такімі як Напалеон Орда, Восіп Кавалеўскі, Юзаф Крашэўскі, Кастусь Каліноўскі, Рамуальд Траўгут ды інш.

Неабходна звярнуць увагу на тое, што знаходжанне гімназіі ў Свіслачы станоўча ўплывала на гаспадарчае жыццё мястэчка. Вельмі важнай прывілегіяй для жыхароў было вызваленне іх ад воінскага пастою. Калі

34 W. Karpyza, *Swisłocz,* część 4, Kroniki Roskie, Gożów Wielkopolski 1973, s. 88, 119, 138, 153.

35 І. Соркіна, *Мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст.,* Вільня 2010, с. 257.

36 *Вильна 1823–1824: Перекрёстки памяти* / Сост. Федута А. И.; вступ. ст., коммент. Лавринец П. М., Рейтблат А. И., Федута А. И., Минск 2008, с. 24–25.

37 А. Самусік, *Свіслацкая гімназія*, [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі,* т. 6, кн. I, с. 262–263.

ў 1823 г. у сувязі з барацьбой улад з тайнымі студэнцкімі таварыствамі прымалася рашэнне размясціць у Свіслачы роту салдат на чале са штаб-афіцэрам, каб здзяйсняць нагляд за гімназістамі, то ў перапісцы паміж чыноўнікамі канстатавалася, што мястэчка *“по нахождению в оном гимназии освобождено от постоя”*[38].

Аб значнай ролі наяўнасці гімназіі для эканомікі Свіслачы яскрава сведчыць скарачэнне прыбыткаў ад корчмаў пасля яе закрыцця. Так, у жніўні 1850 г. на таргах піцейны продаж дастаўся на 4 гады, з 1 студзеня 1851 г., мяшчанам Ратнеру і Гольдбергу за плату ў дзяржаўны скарб па 1745 рублёў серабром у год. Аднак у снежні 1850 г. яны нечакана перадалі свае правы на піцейны продаж купцу Булькаўштэйну з Беластока і мешчаніну Ахноху з м. Бераставіцы. Трэба адзначыць, што зрабілі яны гэта своечасова, бо з 1 верасня 1851 г. гімназія ў Свіслачы была закрытая, што рэзка змяншала прыбыткі ад утрымання піцейнага продажу. Натуральна, не з-за таго, што асноўны даход прыносілі гімназісты. Пасля страты гімназіі мястэчка стала менш бойкім. Магчыма, гэтыя змены і прадбачылі хітрамудрыя свіслацкія мяшчане. Расчараваныя Булькаўштэйн і Ахнох звярнуліся ў красавіку 1853 г. у Сенат з прашэннем аб вызваленні іх ад утрымання піцейнага продажу ў Свіслачы. Яны скардзіліся на *“ветхость корчем и убытки от сокращения продажи питей за уменьшением народонаселения по случаю вывода из м. Свислочи гимназии”*[39]. Сенат не знайшоў законных падстаў для задавальнення хадайніцтва.

Наяўнасць гімназіі ў Свіслачы адкрывала перспектывы набыцця мястэчкам статусу горада. І такое пытанне ўздымалася. Так, у 1837 г., калі збіраліся звесткі аб канфіскаваных маёнтках, Гродзенская казённая палата знайшла магчымым пераўтварыць у гарады мястэчкі Дзятлава, Ружаны і Свіслач. У даведцы адзначалася, што м. Свіслач можа быць пераўтворанае ў горад з прычыны заснавання гімназіі, у якой збіраецца немалая колькасць вучняў. Ад гімназістаў і ад прыязджаючых бацькоў жыхары маюць немалыя выгады. Ад розных асобаў паступала шмат просьбаў аб дазволе будаваць дамы нават на ўмовах павышанага чыншу за зямельныя пляцы. Усё гэта ўзмацняла прамысловасць і гандаль. Акрамя таго, вялікія прыбыткі прыносіў Успенскі кірмаш. Іншымі словамі, мясцовыя жыхары праз казённую палату даводзілі, што яны ў стане ўтрымліваць органы гарадскога самакіравання. Аднак гродзенскі грамадзянскі губернатар не падтрымаў гэтай ініцыятывы, бо не бачыў патрэбы ў заснаванні новых гарадоў[40].

38 НГАБ у Гродне. ф. 1, воп. 2, адз. зах. 246, арк. 154.

39 НГАБ у Гродне. ф. 2, воп. 6, адз. зах. 11, арк. 1–2.

40 Тамсама. ф. 1, воп. 4, адз. зах. 663, арк. 3–5 адв, 11, 12.

Гэта патрабавала пэўных матэрыяльных і арганізацыйных намаганняў, на што не ў стане была даць своечасовы адказ бюракратычная сістэма Расійскай імперыі.

Акрамя гімназіі і прагімназіі ў мястэчку дзейнічалі пачатковыя навучальныя ўстановы. Першыя сведчанні аб існаванні школы ў мястэчку адносяцца да другой паловы XVII ст., калі ў 1668 г. тагачасны ўладальнік Свіслачы Крышпін-Кіршанштэйн надаў ей невялікую грашовую і зямельную фундацыю[41]. Пазней у мястэчку існавалі народнае вучылішча і царкоўна-прыходская школа, якой кіраваў мясцовы праваслаўны святар. Жаночая адукацыя ў XIX ст. была прадстаўлена прыватным дзявочым пансіёнам Арлоўскіх і царкоўнай школай для дзяўчынак. Адукацыйныя патрэбы габрэйскай моладзі задавальнялі два хедары і адна талмуд-тора.

У другой палове XIX — пачатку XX ст. у Свіслачы існаваў цэлы шэраг педагагічных навучальных устаноў: "расійская" (1876–1915 гг.), "беларуская" (1916–1918 гг.) і "польская" (1922–1934 гг.) настаўніцкія семінарыі, гімназія імя Рамуальда Траўгута (1935–1939 гг.). Гісторыя гэтых навучальных устаноў і лёсы іх выпускнікоў ствараюць вялікі пласт у беларускай, расійскай і польскай культурах, вынікам чаго з'яўляецца імкненне асобных нацый "прысвоіць" сабе гістарычнае мінулае мястэчка праз пэўныя нацыянальныя сімвалы і культурныя знакі.

Мульцікультурнасць знаходзіла свае праявы і ў іншых галінах творчасці, такіх як, напрыклад, выяўленчае мастацтва і архітэктура. Апошняя адлюстроўвала не толькі знешняе аблічча мястэчка, але і сведчыла аб яго пэўнай культурна-цывілізацыйнай прыналежнасці.

Зірнем на Тышкевічаву Свіслач вачыма сучасніка таго перыяду графа Леана Патоцкага: *"Вінцэнт Тышкевіч атрымаў Свіслач ад бацькі. Малы, бясформенны і брудны гарадок перабудаваў зусім нанова, заклаў галандскага кшталту парк, перарэзаў яго каналамі і заснаваў вялікі заасад.* […] *У самай сярэдзіне горада быў квадратны рынак, аздоблены спічастаю пірамідаю, што завяршалася доўгім пазалочаным шпілем. Вялі да яго шырокія, пад шнур выцягнутыя вуліцы, забудаваныя ладнымі дамамі, пакрытымі гонтай,— Гродзенская, Рудаўская, Мсцібаўская, Брэсцкая і Варшаўская. Вуліца Гродзенская і рынак заселены былі габрэямі, Варшаўская — татарамі, якія займаліся вырабамі шкураў, па іншых мясціліся студэнты"*. Вуліцы былі брукаваныя, па баках абсаджаныя дрэвамі. У цэнтры рыначнай плошчы ў пачатку XIX ст. былі ўзведзены гандлёвыя рады з 48 крамамі. На рынку стаялі 5 пастаялых двароў, якія мелі назвы: "Пад Арлом", "Пад Аленем", "Пад Валом", "Пад Аднарожцам", "Пад Лебедзем". Тут жа

[41] Wołyniak, *Z przeszłości powiatu Wołkowyskiego,* Kraków 1905, s. 43.

знаходзіўся *“кафенгаўз або шынок, салідны, з більярдам, для забавы прыезжых”*, аптэка. Каля плошчы знаходзіліся фарны касцёл, пры ім — вежа з гадзіннікам, непадалёк — уніяцкая царква са званіцай. У парку мясціліся палац, будынак тэатра, аранжарэя, звярынец (у якім *“трымалі да ста ланяў і больш за дзесятак аленяў”*), а таксама альтанкі, гаспадарчыя пабудовы. Л. Патоцкі пісаў, што госці Свіслацкай зямлі здзіўляліся яе добраўпарадкаванасці: *“…Едучы па роўным гасцінцы, абсаджаным дрэвамі, забяспечаным бар’ерамі, і ўязджаючы ў акуратна і прыгожа збудаваны горад, які ўтрымліваюць чыста і ахайна, забывалі на хвіліну, дзе знаходзіліся і пераносіліся ў думках на берагі Эльбы альбо Рэйна…”*[42].

Пасля перабудовы мястэчка Тышкевічам у 1782 г. планіровачная структура Свіслачы адпавядала гатычнаму стылю: у забудове пераважаў лінейны характар, вуліцы прымыкалі да плошчы па датычнай і сыходзіліся да вуглоў рынка такім чынам, што працягам аднаго з бакоў вуліцы з’яўлялася адна з ліній забудовы рынку[43]. Планіроўку Свіслачы адлюстроўвае план 1794–1795 гг.[44]




**План мястэчка Свіслач 1795 г.**

[42] Л. Патоцкі, *Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану*, Мінск 1997, с. 24–28.

[43] А. І. Лакотка, *Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры*, Мінск 1999, с. 139.

[44] AGAD, zb. kart., 77–11.



**Будынак гімназіі (Літаграфія з малюнка верагодна Ж. дэ Нявіля)**

Свіслацкі парк Вінцэнта Тышкевіча быў разбіты ў стылі галандскага барока[45]. У стылі барока ў мястэчку таксама быў збудаваны драўляны Траецкі касцёл XVII ст.

У другой палове XIX — пачатку XX ст. на культурным фоне паселішча быў адчувальны ўплыў расійскіх архітэктурных традыцый, прыкладам чаго з'яўляецца збудаваная ў 1884 г. архітэктарам П. І. Залатаровым у рэтраспектыўна-рускім стылі Крыжаўзвіжанская царква[46].

Аднак дамінуючым мастацкім стылем у архітэктуры Свіслачы канца XVIII — XIX ст. быў класіцызм. У гэтым стылі быў збудаваны ў мястэчку архітэктарамі М. Шульцам і К. Падчашынскім комплекс гімназічных будынкаў[47]**.** Класіцызм таксама стаў вызначальным у абліччы вялікіх уязных брам на кожнай з вуліц мястэчка, і ў выглядзе гандлёвых радоў на рынкавай плошчы. Замкнёная кампазіцыя гандлёвых радоў складалася з чатырох аднапавярховых крылаў пад двухсхільнымі гонтавымі дахамі і ўтварала прамавугольны ў плане двор. Рады складаліся з 40 аднатыпных ячэек-крам і трох вуглавых складскіх памяшканняў. У цэнтры двух даўжэйшых крылаў былі зробленыя арачныя праезды ў двор. Над адным з праездаў змяшчалася зала купецкага сходу, афармленая па бакавым фасадзе драўлянай балюстраднай галерэяй на мураваных слупах[48].

Цікавым выглядае апісанне Леанам Патоцкім свіслацкіх палацыкаў: *"Свіслацкі асабняк, ці хутчэй стары крышпіноўскі палац, атынкаваны*

---

45 А. Федарук, *Из истории усадебно-парковых ансаблей Беларуси,* [у:] *Сядзібы і паркі Гродзеншчыны,* выпуск II, Гродна 2004, с. 74.

46 А. Кулагін, *Эклектыка. Архітэктура Беларусі другой паловы XIX — пачатку XX ст.*, Мінск 2000, с. 193.

47 М. Загідуліна, *Караль Падчашынскі — архітэктар класіцызму,* [у:] *З гісторыі краю і лёсаў людзей Воранаўшчыны: матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі,* Ліда 2006, с. 84.

48 *Архітэктура Беларусі: энцыклапедычны даведнік,* с. 431.

*на белае, з ломаным дахам, з прыбудоўкамі справа, злева і ззаду, не змахваў на жытло сібарыта XVIII стагоддзя або марнатраўнага сына. Той, хто ўваходзіў у сярэдзіну праз абаграваныя сені, меў з правага боку сталовы пакой з двума вокнамі. Ад яго адны дзверы вялі ў вялізную залу, у якой у час кірмашоў сядала за стол каля ста асобаў, другія — у кутні салон, выклеены блакітнай папераю. За імі былі два маленькія кабінеты. У салоне ўздоўж сцен — канапкі і альховыя столікі, пратраўленыя на чорнае і чорным пакрытыя. На вокнах — белыя муслінавыя фіранкі. Пасярод — більярдны стол на два локці даўжыні і на локаць шырыні. Насценныя гадзіннікі і партрэты сям'і Панятоўскіх пэндзля Бакіярэллі былі адзінай раскошаю сціплага апартамента гэтага пана-мільянера. З левага боку сяней — канцылярыя, за ёю — спальня, а за ёю — гардэроб пана рэферэндарыя. У флігелях размяшчаліся, з аднаго боку, служба і кухня, а з другога — пакоі для гасцей… Перад домам — брукаваны пад'езд, а на дзядзінцы і ў парку — бар'еры і маляваныя лавачкі, дарожкі, пасыпаныя жвірам, мурава гладкая, як сукно, на зямлі ніводнага лісточка ці галiначкі, а дрэвы падстрыжаныя, прылізаныя, завітыя, як прычоска ў тагачаснага элеганта"*[49].

Пра іншы дом уладальніка мястэчка Патоцкі піша наступнае: *"За Брэсцкаю брамаю — дворыкі, прызначаныя для пенсіянераў. Адзін з іх, італьянскай архітэктуры, аздоблены ўнутры відамі Рыму і Неапаля, называўся "Віла". У ім пан рэферэндарый хацеў на старасці гадоў праводзіць летнюю пару года…"*[50].

Часам праз архітэктуру адна культурна-гістарычная эпоха хавала ў сабе аблічча іншай: *"За мілю ад Свіслачы, у фальварку Клепачы пані рэферэндарыева пачала будаваць цудоўны палацык, які нагадваў часы Людовіка XV. Дабудоўваў яго муж… Кляпацкі асабнячок, які атрымаў назву "Сынфаны", што па-грэчаску значыць "новы дом", стаіць над вялікім ставам, перасечаным астравамі, абсаджанымі дрэвамі. На адным з іх вежа з гадзіннікам, на другім альтанка, на трэцім домік для трусаў, чацвёрты, абведзены частаколам, там трымалі сарнаў. З супрацьлеглага боку выглядаў малы, але ахайны грэка-уніяцкі касцёльчык. Асабнячок складаўся з двух салонаў, з якіх адзін васьмікутны, увесь выкладзены кафелькамі. Ён адначасова служыў і купальняй і меў ванну, схаваную ў канапе. Другі быў абабіты жоўтым адамашкам, спальны пакой — зяленым. І ў кожным з іх адпаведныя шторы на вокнах і мэбля лакіраваная на бела з золатам. На сценах віселі партрэты пані рэферэндарыевай, караля Станіслава Аўгуста, кс. прымаса Панятоўскага і пана генерала Тышкевіча, венецыянскія люстры вялікіх памераў у пазалочаных рамах, парыжскія гадзіннікі. Адразу за домам некалі быў фруктовы сад… За садам грабавы лабірынт, далей на*

[49] Л. Патоцкі, *Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружану*, с. 31–32.

[50] Тамсама, с. 28.

*лузе каруселі і гушкалкі, нарэшце бярозавы лясок з абсечанымі вярхушкамі, як у Свіслачы*"[51].

Выяўленчае мастацтва мястэчка прадстаўлена творамі шэрагу мастакоў. Цікава і тое, што жывапісцы пакінулі прыкметны след у культуры Свіслачы, дзякуючы ім, мы маем шмат выяў мястэчка. Да такіх прац трэба аднесці малюнкі Жана дэ Нявіля першай паловы XIX ст., Напалеона Орды — другой паловы XIX ст. і Вітальда Карпызы — пачатку XX ст.




**Свіслач на малюнках Напалеона Орды: «Гімназічны пляц» і «Брэсцкая вуліца»**








**Свіслач на малюнках Вітальда Карпызы: «Крыпта Юзэфы з Салагубаў Тышкевіч», «Капліца Анёлаў Ахоўнікаў у Свіслачы», «Адна з 5-ці брам з XIX ст. у Свіслачы», «Парафіяльны касцёл ў Свілачы», «Царква ў Свіслачы».**

[51] Тамсама, 49–50.





**Могілкавая скульптура у Свіслачы, аўтарства гродзенскай працоўні Баляслава Шышкевіча**

Скульптура мястэчка таксама несла на сабе выразны адбітак свайго часу. У якасці прыкладу мы можам узгадаць існуючыя і сёння на Старых могілках Свіслачы высокамастацкія каменныя надмагіллі ў стылі рамантызму. Сярод іх адмысловае месца належыць вырабам майстэрні Баляслава Шышкевіча. Такіх на свіслацкім некропалі маецца два: гэта помнікі на магіле Івана Андрэевіча Лойкі (26.09.1841–12.08.1907), а таксама на сямейным пахаванні Сцяпураў: Уладзіміра Канстанцінавіча Сцяпуры (10.12.1872–5.04.1905) і Мікалая Канстанцінавіча Сцяпуры (27.05.1879–17.03.1905). Дадзеныя вырабы ўвасабляюць у сабе ўсе асноўныя стылістычныя рысы, характэрныя для майстэрні гродзенскага скульптара. Да найбольш характэрных і эфектных помнікаў, якія адлюстроўваюць "почырк" майстра, належаць помнікі ў выглядзе вялікіх валуноў, як правіла, стылізаваных пад скалу. Гэтую скалу звычайна вянчае крыж, аздоблены так, каб ён ствараў уражанне зробленага са ствала дрэва (бярозы). Ставіліся такія помнікі на нізкіх каменных плітах з пяшчаніку. На франтальнай, адшліфаванай частцы такіх валуноў размяшчаўся надмагільны надпіс з эпітафіяй. На ніжняй пліце звычайна ставілася таўро фірмы. На помніку І. А. Лойку ў Свіслачы таксама маецца таўро: "*Шишкевич. Гродно*". На верхняй частцы помніка, каля крыжа, знаходзяцца "пасаджаныя" долатам каменячоса кусты

папараці, якія прабіваюцца паміж камянямі. Акрамя ўсяго пералічанага, крыж звычайна абвіты плюшчам. Часам побач размешчаны букет руж (як на помніку сямейству Сцяпураў), асобныя парасткі якога могуць пераплятацца на крыжы. У ніжняй частцы помніка майстар, як правіла, змяшчаў знакі, вядомыя з папярэдніх эпох: перавернутыя згасаючыя паходні, вянкі з сухацветаў з уплеценымі ружамі, марскія якары і іншыя знакі. Да прыкладу, на магіле І. А. Лойкі мы назіраем перавернутую паходню, а на магіле Сцяпураў — ружу. Як вядома, у могілкавай скульптуры кожная дэталь нясе ў сабе адмысловы сэнс. Перавернутая згасаючая паходня сімвалізуе згаслае жыццё. Найбольшая колькасць прац Шышкевіча знаходзіцца на праваслаўным і каталіцкім (Фарным) некропалях горада Гродна. Большасць надмагілляў, вырабленых у майстэрні Шышкевіча, адрознівае арыгінальнасць форм, дэкаратыўнасць і вытанчаны рамантызм. У аснове ўсіх гэтых якасцей — творчая індывідуальнасць майстра, характар матэрыялу (лёгкі пяшчанік на гранітнай або мармуровай аснове) і, зразумела, у пэўнай ступені, пажаданні заказчыка[52]. Верагодна, творы Б. Шышкевіча захаваліся на старым некропалі Вільні (могілкі Роса)[53]. Прынамсі, там маецца шэраг помнікаў падобнага стылістычнага характару. Тым больш незвычайна, што вырабы гэтай майстэрні захаваліся ў Свіслачы — невялікім правінцыйным мястэчку.



**Помнік Рамуальду Траўгута (сучасны выгляд)**

Цікавую скульптурную кампазіцыю ўяўляў з сябе пастаўлены ў 1928 г. у Свіслачы помнік Рамуальду Траўгуту. Аўтарам гэтага праекта прынята лічыць прафесара мясцовай настаўніцкай семінарыі Паўла Бялэка. Аднак свой сапраўдны выгляд помнік атрымаў толькі пасля сур’ёзнай карэкціроўкі эскізаў архітэктарам Збароўскім. Кампазіцыя ўяўляла сабой вялікую штучную скалу, вуглы якой былі аздоблены галовамі львоў, а вяршыню вянчаў вялікі арол з паднятымі крыламі — сімвал паўстанцаў 1863–1864 гг. Скульптура была зроблена ў стылі эклектыкі з перавагай рамантызму і мела шэраг надпісаў. Помнік разбураны ў 1939 г. і рэканструяваны ў канцы 80-х гг. XX ст[54].

[52] С. Раманаў, *Рамантызм у камені*, “Літаратура і мастацтва”, 2010, № 27.

[53] J. Rozmus, J. Gordziejew, *Cmentarz farny w Grodnie (1792–1939)*, Kraków 1999, s. 55–82.

[54] С. Раманаў, *Пад выявай збройнага арханёла*, “Свіслацкая газета”, 2009, № 72.

Этнакультурная дэтэрмінацыя гісторыі мястэчка добра прасочваецца таксама праз творы літаратуры і навуковыя працы. Кожная значная этнічная група пакідала пасля сябе культурную спадчыну, якая пазней служыла сродкам атаясамлівання сябе з жыццём мястэчка і стварэння вобраза "свайго" мястэчка, своеасаблівай ментальнай "прыватызацыі". Стварэнню "польскай ідэнтычнасці" ў мястэчку спрыялі творы Юзафа Крашэўскага[55]. Як вядома, знакаміты пісьменнік, пачынальнік рэалізму ў польскай літаратуры, пэўны час жыў у Свіслачы і скончыў мясцовую гімназію. У яго творы *Obrazyz życiaipodróży* асобная глава прысвечана Свіслачы. Яшчэ адзін мемуарны твор — *Wieczory Lachaz Lachów*, *czyli opowiadania przy kominku starego literata polskiego* — прысвяціў Свіслачы іншы вучань гімназіі — Леан Зянковіч[56]. Свае *Успаміны аб Тышкевічавай Свіслачы, Дзярэчыне і Ружане* пакінуў нам Леан Патоцкі. Тагачасны ўладальнік мястэчка Тышкевіч прафінансаваў выданне Самуэлем Багумілам Ліндэ *Słownika ęzyka polskiego* — фактычна першага польскамоўнага тлумачальнага слоўніка. Асабістым сябрам рэферэндарыя Тышкевіча і частым госцем у мястэчку быў знакаміты паэт Францішак Карпіньскі. Зорка польскага сентыменталізму, Карпіньскі жыў у сваім фальварку Хараўшчызна на Свіслаччыне, дзе напісаў шэраг твораў, у тым ліку *Размову Платона са сваімі вучнямі*, выдадзеную ў Гродне ў 1804 г.[57]

Сваё бачанне мястэчка пакінуў таксама рускі этнічны кампанент. Напрыклад, пра Свіслач неаднаразова пісаў шырока вядомы і надзвычай папулярны ў дарэвалюцыйны час расійскі пісьменнік Усевалад Крастоўскі. У сваёй кнізе *Очерки кавалерийской жизни*, выдадзенай у 1892 г., пісьменнік асобную главу назваў *Базарный день в Свислочи*[58]. Пра мястэчка гэты пісьменнік распавядаў таксама ў рамане *Кровавый пуф*, прысвечаным паўстанню 1863–1864 гг., і іншых сваіх творах. У працах Крастоўскага прасочваецца выразнае непрыняцце габрэйскай і польскай культурных традыцый.

Руская культурная традыцыя знайшла адлюстраванне і ў тагачаснай навуцы. Так, выкладчыкамі Свіслацкай настаўніцкай семінарыі працавалі вядомыя этнографы М. Я. Нікіфароўскі і Д. Г. Булгакоўскі. 19 снежня 1900 г. пры семінарыі была адкрыта метэаралагічная станцыя, якая мела вытворчыя сувязі з вядучымі абсерваторыямі Санкт-Пецярбурга і Кіева. Кіраваў працай метэаралагічнай станцыі выкладчык матэматыкі

55 J. Kraszewski, *Obrazy z życia i podróży*, Warszawa 1842.

56 L. Zienkowicz, *Wieczory Lacha z Lachów, czyli opowiadania przy kominku starego literata polskiego,* Warszawa 1864.

57 А. Мальдзіс, *Карпінскі Францішак,* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т.*, т. 4, Мінск 1997, с. 125–126.

58 В. Крестовский, *Очерки кавалерийской жизни*, Москва 1998, с. 287.

С. В. Валасковіч. Пазней ён разам са сваім былым вучнем Ф. О. Лукашэвічам напісаў *Методику арифметики* — для свайго часу надзвычай прагрэсіўны падручнік па матэматыцы. Найбольш цікава тое, што рускія таксама лічылі мястэчка сваім і намагаліся знішчыць уплыў канкурыруючай польскай этнаканфесійнай групы. 28 сакавіка 1883 г. обер-пракурор сінода Канстанцін Пабеданосцаў пісаў да імператара Аляксандра III: *"Гродненской губернии в Волковысском уезде есть местечко Свислочь, издавна известное как один из центров польской культуры, бывшее некогда для всего Полесья тем, чем Вильна для Литвы. Прежде русское, место это совсем ополячено в XVIII столетии графом Тышкевичем, его владельцем. Оттого и теперь там жители, хотя большею частью православные, значительно ополячены и грамотность между ними польская… Могущественным средством … для привлечения народа было бы проявление Высочайшего к ней внимания. Посему я осмеливаюсь просить Ваше Императорское Величество, не благоугодно ли будет в знак внимания Вашего и одобрения пожаловать Свислочской школе лично от Вас икону Божией Матери. Этот дар произвел бы на месте самое благодетельное действие и других усердных людей возбудил бы к подражанию"*[59].

Акрамя рускіх і палякаў "сваю" Свіслач намагаліся "стварыць" габрэі. Даследаванню гісторыі паселішча прысвяцілі працы габрэйскія пасляваенныя эмігранты Пауль Абрамсан і Абрахам Айн[60]. Паводле сведчання апошняга, у бібліятэцы галоўнай сінагогі захоўваліся дакументы па гісторыі мястэчка, якія, аднак, згарэлі ў адным з пажараў. У 1984 г. на мове ідыш пабачыла свет праца Ліўшыца *Гісторыя Свіслачы і ваколіц*[61], а ў 1990-я гады ў Ізраілі была выдадзена мемарыяльная кніга свіслацкіх габрэяў.

Свіслач упісаная ў летапіс беларускага нацыянальнага руху. У 1916–1918 гг., у час існавання ў Свіслачы беларускай настаўніцкай семінарыі, прафесарам філалогіі Брэслаўскага ўніверсітэта Рудольфам Абіхтам быў распрацаваны ў Свіслачы і выдадзены ў 1918 г. у Вроцлаве адзін з першых беларускіх буквароў, які друкаваўся лацінкай і атрымаў назву *Просты спосаб стацца ў кароткім часе граматным*. Пазней дырэктарам семінарыі і выкладчыкам беларускай мовы тут працаваў вядомы беларускі дзеяч Баляслаў Пачобка. Ён стаў аўтарам першай, выдадзенай у пачатку 1918 г., *Граматыкі беларускай мовы*.

---

59 К. Победоносцев, *Письма к Александру III* [Электронны рэсурс] — Рэжым доступу: http://www.hrono.ru/libris/lib_p/pobed_pisma.html — Дата доступу: 20.10.2016.

60 П. Абрамсон, *Эмигрантский журнал,* Лондон 1969. (пераклад з англ. мовы), Матэрыялы Свіслацкага гісторыка-краязнаўчага музея; А. Айн, *Свислочь*, "Ваўкавышчына", 2008, № 4 (14), с. 45–52.

61 Е. Ліўшыц, *Гісторыя Свіслачы і ваколіц* (на іўрыце), 1984, с. 410. Матэрыялы Свіслацкага гісторыка-краязнаўчага музея.

Звяртаючы ўвагу на дадзеныя спробы стварыць беларускую граматыку яшчэ да Станкевіча і Тарашкевіча, неабходна згадаць пра яшчэ адну асобу. Гэта архібіскуп усіх рыма-каталіцкіх цэркваў у Расійскай імперыі, ураджэнец прадмесця Свіслачы, Занкаў, Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч. У 1776 г. Сестранцэвіч прасіў дазволу ўрада на друкаванне каталіцкіх рэлігійных кніг на "рускай" мове, на што сенат не пагадзіўся. Богуш-Сестранцэвіч з'яўляецца таксама аўтарам нявыдадзенай *Беларускай граматыкі*.

Са Свіслаччу і Свіслаччынай звязаныя лёсы шэрагу дзеячаў беларускага нацыянальнага руху: К. Каліноўскага, А. Станкевіча, В. Гадлеўскага, К. Сваяка, А. Каўша, Т. Вернікоўскага, М. Краўцова, А. Якубецкага, А. Грыкоўскага, У. Шалешкі, В. Мурашкі, М. Дзямідава і інш.

Такім чынам, для этнічнага і канфесійнага складу мястэчка былі характэрныя вялікая стракатасць і разнастайнасць, вынікам чаго з'явілася ўнікальная культурная спадчына, якая была прадуктам як асобнай дзейнасці шматлікіх этнаканфесійных груп, так і іх удалага культурна-гістарычнага сінтэзу. Багатае гістарычнае мінулае Свіслачы дазваляе лічыць яе "мястэчкам многіх народаў", своеасаблівай "культурнай Мекай", у стварэнне якой уклалі частку сябе беларусы, габрэі, палякі, рускія, татары, немцы, галандцы, французы, італьянцы, швейцарцы і інш. З іншага боку, сённяшняя рэчаіснасць гэтых народаў уздымае пытанне аб "гістарычным праве" на мястэчка, праве пераемнасці культурнай традыцыі свайго этнасу, а таксама аб "месцах памяці" народаў, якія пакінулі свой след у гісторыі і культуры мястэчка.

## Трансфармацыя нацыянальных сімвалаў і культурных знакаў Свіслачы ў савецкі і постсавецкі перыяды

Лёс этнарэлігійнай і мульцікультурнай спадчыны Свіслачы ў савецкі і постсавецкі перыяды гісторыі раскрываецца на прыкладзе аналізу папулярных гістарычных нарысаў і музейнай экспазіцыі, а таксама сістэмы гісторыка-культурных помнікаў, мемарыяльных месцаў і ўрбанімікі Свіслачы.

Найбольш у якасці тэарэтыка-метадалагічнай асновы для разгляду дадзенай праблемы падыходзіць канцэпцыя "нацыянальных сімвалаў" і "культурных знакаў" вядомага літоўскага гісторыка Альвідаса Нікжэнтайціса. Паводле меркавання даследчыка, мульцікультурны горад "прыватызуецца" асобнай этнаканфесійнай або культурна-гістарычнай групай не столькі дзякуючы рэаліям мінулага або сучаснасці, колькі з дапамогай нацыянальных сімвалаў. Аўтарам гэтага тэрміна з'яўляецца

нямецкі гісторык Людвіг Штайндорф, які пад нацыянальнымі сімваламі разумее інстытуты ўлады (гарадская ратуша, парламент), навуковыя і культурныя ўстановы (музей, універсітэт, тэатр), сакральныя месцы (могілкі), помнікі і г. д[62].

"Нацыянальныя сімвалы" і "культурныя знакі" з'яўляюцца аднымі з асноўных інструментаў вылучэння нацыянальнай і культурнай памяці ў шматкультурным горадзе. У адпаведнасці з падыходам А. Нікжэнтайціса, такімі сімваламі і знакамі могуць быць будынкі, помнікі, мастацкія і літаратурныя творы, гістарычныя асобы, дні памяці і пэўныя святы. З аднаго боку, яны з'яўляюцца важнай часткай калектыўнай памяці сацыяльных, этнічных ці іншых груп, а з другога — патрабуюць намаганняў ад гэтых груп па захаванні, фіксацыі і пэўнай цыклічнасці звяртання да іх. Наяўнасць у гарадской прасторы "нацыянальных сімвалаў" і "культурных знакаў" залежыць ад спробы інтэрпрэтацыі і выкарыстання іх гэтымі групамі праз пэўныя механізмы: рытуалы, абрады, нацыянальныя святы і г. д.

Гістарычныя працы таксама праз закладзеную канцэпцыю нясуць у сабе пэўны палітычны, этнаканфесійны і соцыякультурны сэнс. У кантэксце праблемы, якая разглядаецца ў дадзеным даследаванні, неабходна праналізаваць папулярныя нарысы па гісторыі Свіслачы і Свіслаччыны праз ідэі гістарычнай пераемнасці і мульцікультуралізму. Такіх прац сучасныя навука і публіцыстыка далі некалькі. Аднак асноўнымі можна лічыць матэрыялы навукова-практычнай краязнаўчай канферэнцыі ад 23 мая 1988 г. *Старонкі гісторыі Свіслацкага краю*, выдадзеныя ў 2001 г., і гісторыка-дакументальную хроніку *Памяць. Свіслацкі раён*, падрыхтаваную ў 90-я гг. XX ст. і выдадзеную ў 2004 г. Усе астатнія папулярныя працы пераважна альбо кампілююць даўно вядомую фасталогію, альбо з'яўляюцца вытворнымі ад дзвюх папярэдніх.

Зборнік *Старонкі гісторыі Свіслацкага краю* прадстаўляе шэраг артыкулаў гродзенскіх і мінскіх гісторыкаў, якія і сёння не страцілі сваю навуковую каштоўнасць. Большасць артыкулаў прысвечана асобным момантам культурнага, рэлігійнага, палітычнага і эканамічнага развіцця Свіслачы і Свіслаччыны пераважна ў XIX–XX стст. і не ўтварае якой-небудзь цэльнай канцэпцыі.

Абодва выданні сцвярджаюць, што ўпершыню Свіслач згадваецца ў гістарычных крыніцах у 1256 г., аднак ні адно з выданняў не падае ніякай грунтоўнай інфармацыі пра гісторыю Свіслачы XIII–XVIII стст. У кнізе *Памяць* з 526-ці старонак толькі 87 прысвечаны апісанню сямі стагоддзяў

[62] А. Нікжэнтайціс, *Нацыянальны сімвал у шматкультурным горадзе,* [у:] "Homo historicus 2009. Гадавік антрапалагічнай гісторыі", пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Вільня 2010, с. 310.

гісторыі паселішча і рэгіёна, а астатнія 439 старонак датычацца XX ст. Перыяд XIII–XVIII стст. тут практычна не даследаваны і прадстаўлены некалькімі апісальнымі рэтраспектыўна-сінтэзнымі артыкуламі А.С. Палубінскага, І.І. Варанца, І.П. Крэня. Да пытання аб нацыянальнай і культурна-гістарычнай прыналежнасці Свіслачы ў даследчыкаў няма адзінага падыходу. Так, І.П. Крэнь называе Свіслач *"старажытным беларускім горадам"*, а А.С. Палубінскі прысвячае невялікі артыкул габрэям Свіслаччыны. "Польскі перыяд" у гісторыі мястэчка звычайна маскіруецца праз культуралагічныя і біяграфічныя тэмы, а яшчэ часцей ігнаруецца ці падаецца ў негатыўным святле з пазіцый савецкай гістарыяграфіі. Найбольшая ўвага ў гэтых працах звяртаецца на савецкае мінулае Свіслачы і на доказ тэзіса, што менавіта ў гэты час паселішча перажывае час свайго росквіту. Наколькі спрэчны гэты тэзіс, сведчыць хоць бы той знешне фармальны факт, што ў савецкі час Свіслач мела статус гарадскога пасёлка, тады як у часы Расійскай імперыі паселішча ледзь не атрымала статус горада, мела гэты статус у "польскі перыяд" (у 1926 г.) і на этапе гісторыі суверэннай Беларусі (у 2000 г.).

Такія ж высновы магчыма зрабіць і ў дачыненні да экспазіцыі мясцовага гісторыка-краязнаўчага музея. Музей быў заснаваны паводле рашэння Гродзенскага аблвыканкама ад 12 красавіка 1976 г. Экспазіцыя пачала працаваць з 24 жніўня 1979 г. Асноўны фонд музея налічвае 6 895 адзінак захоўвання, навукова-дапаможны — 4 007 адзінак. Агульная плошча музея складае 297 кв. м, а плошча экспазіцыйнай залы — 189 кв. м. У музеі працуюць 3 экспазіцыйныя залы[63]. Першая з іх прысвечана гісторыі Свіслаччыны ад старажытных часоў да 1900 г. Другая зала прысвечана падзеям 1900–1945 гг., а трэцяя — пасляваеннай Свіслачы. Маецца таксама Куток прыроды, у якім прадстаўленыя флора і фаўна Белавежскай пушчы. Тут мы зноў сустракаемся з той жа непрапарцыянальнасцю ў асвятленні падзей гісторыі, калі дамінуючым перыядам з'яўляецца XX ст., а асноўнымі яго адзнакамі — Вялікая Айчынная вайна і "савецкасць" Свіслачы і Свіслаччыны. Аналіз экспазіцыі паказвае, што яна змяшчае ў сабе культурныя знакі розных эпох і народаў. Так, "польскасць" прадстаўлена стэндамі з інфармацыяй пра Тышкевічаў, Рамуальда Траўгута, Напалеона Орду, Юзафа Крашэўскага і інш. "Беларускасць" адлюстравана ў архетыпе некалькіх нумароў *Мужыцкай праўды*, асобах Кастуся Каліноўскага і Баляслава Пачобкі. "Габрэйскасць" рэпрэзентуецца праз асобу Эстэр Рахіль Камінскай, заснавальніцы габрэйскага нацыянальнага тэатра ў Польшчы. Найбольшая колькасць стэндаў з інфармацыяй нясе ў сабе

[63] *Музеі Беларусі,* рэдкал. Г.П. Пашкоў, Л.В. Календа, М.Н. Нікіцін, Мінск 2008, с. 502–503.

адзнакі “савецкасці”. Парадыгма эпохі праяўляецца як праз удзел землякоў у Вялікай Айчыннай і Афганскай войнах, так і праз перыяд мірнага будаўніцтва камунізму. Большая частка музейнай выставы прысвечана падзеям Вялікай Айчыннай вайны. Тут можна пабачыць фотаздымкі партызан і падпольшчыкаў, савецкіх салдат, што вызвалялі Свіслач. Шмат інфармацыі прысвечана палкоўніку М. П. Масонаву — Герою Савецкага Саюза, што загінуў пры вызваленні Свіслачы. Пасляваеннае жыццё таксама прадстаўлена праз шэраг асоб-сімвалаў: Аркадзя Брыша — аднаго са стваральнікаў атамнай бомбы ў СССР, Яніну Карольчык — алімпійскую чэмпіёнку 2000 г. па штурханні ядра.

Такім чынам, музейная экспазіцыя і папулярныя гістарычныя нарысы змяшчаюць у сабе шэраг нацыянальных сімвалаў і культурных знакаў розных этнасаў і гістарычных эпох. Аднак пры іх вывучэнні мы сутыкаемся са шматлікімі недарэчнасцямі і анамаліямі гістарычнага даследавання. Адной з асноўных праблем з’яўляецца тое, што некаторыя этнасы і створаная імі культурна-гістарычная спадчына ўвогуле не знайшлі свайго адлюстравання ў музейнай экспазіцыі і папулярных гістарычных нарысах. Да ліку такіх адносяцца мясцовыя габрэі і татары, не кажучы ўжо пра французаў, галандцаў, швейцарцаў, немцаў, італьянцаў ды інш., якія тут некалі жылі. Адной з галоўных прычын такога становішча з’явілася фізічнае знікненне гэтых этнасаў з карты паселішча. Пры гэтым патрэбна адзначыць, што разам са знікненнем пэўнай этнаканфесійнай групы яе культурна-гістарычная спадчына нівеліравалася ці “прысвойвалася” іншымі групамі. Гэтую сітуацыю добра адлюстроўвае прыклад з габрэямі, якія эканамічна і дэмаграфічна дамінавалі ў жыцці мястэчка ў другой палове XIX — пачатку XX ст., але памяць пра якіх была амаль цалкам выкрэслена пасля знішчэння габрэйскага насельніцтва ў гады Другой сусветнай вайны. У той жа час некаторыя этнаканфесійныя групы, якія мелі высокую ступень этнічнай свядомасці і сталую сувязь са сваёй Радзімай, змаглі пераЖыць шматлікія катаклізмы XX стагоддзя і працягнуць культурна-гістарычную пераемнасць сваёй этнаканфесійнай групы. Да ліку такіх можна аднесці палякаў. Сёння ў горадзе і раёне існуе некалькі аддзелаў Саюза палякаў, якія займаюцца ўмацаваннем свайго нацыянальнага адзінства праз шматлікія культурныя і грамадскія мерапрыемствы. Прысутнасць палякаў у этнічным складзе горада абумовіла таксама іх прэтэнзіі на гісторыка-культурную спадчыну мястэчка, у выніку чаго польскі этнічны элемент атрымаў адлюстраванне ў музейнай экспазіцыі і папулярных гістарычных нарысах.

Савецкая ідэалогія не спрыяла захаванню памяці пра “нятытульныя” нацыі, паколькі дамінуючым савецкім падыходам заставаўся прынцып

інтэрнацыяналізму. Акрамя гэтага, даследаванню багатай гістарычнай і культурнай спадчыны Свіслачы перашкаджаў недахоп крыніц ды іншыя цяжкасці. Дадзеная праблема можа быць растлумачана і з пазіцый мульцікультуралізму. Кожная наступная этнаканфесійная група імкнулася "сцерці" памяць аб папярэдняй, выцесніць яе з гістарычнай і культурнай прасторы мястэчка і заняць яе месца. Гэтыя працэсы мелі месца ў папярэднія стагоддзі і назіраюцца ў наш час. Даследаванне гісторыі Свіслачы папярэдняй эпохі не адпавядала інтарэсам пануючай этнаканфесійнай ці культурна-гістарычнай групы ўжо таму, што яно аднаўляла карціну багатага мульцікультурнага мінулага горада, і, тым самым, ставіла пытанне аб гістарычным праве пануючай групы на паселішча.

Як вядома, гісторыка-культурныя помнікі, мемарыяльныя месцы і ўрбаніміка нясуць у сабе вялікі культурны, палітычны і ідэалагічны сэнс. Больш таго, яны ствараюцца і ахоўваюцца дзяржавай дзеля фарміравання светапогляду і сістэмы каштоўнасных арыентацый грамадзян. Гэта, разам са сродкамі масавай інфармацыі, адзін з інструментаў шырокага ўплыву на свядомасць грамадства. Менавіта аналіз гэтага інструменту можа даць адказы на пытанне аб тым, якія культурна-гістарычныя і ідэалагічныя тэндэнцыі культывуе дзяржава ў грамадстве і чые нацыянальныя сімвалы і культурныя знакі маюць прыярытэт у сучасным беларускім горадзе.

Паводле шэрагу крытэрыяў уся ўрбаніміка Свіслачы падзеленая намі наступным чынам: дзеячы, сімвалы і назвы савецкага горада; дзеячы, сімвалы і назвы польскага горада; дзеячы, сімвалы і назвы беларускага горада; мясцовыя геаграфічныя і прыкметавыя характарыстыкі. Для зручнасці аналіз урбанімікі прадстаўлены ў табліцы.

**Урбаніміка Свіслачы**

| **Катэгорыі** | **Колькасць** |
|---|---|
| **Дзеячы, сімвалы і назвы «польскага» горада**<br>вул. Крашэўскага, завул. Крашэўскага. | 2 |
| **Дзеячы, сімвалы і назвы савецкага горада**<br>вул. Будзёнага, вул. Варановіча, завул. Варановіча, вул. Гагарына, вул. Горкага, завул. Горкага, вул. Гарбатага, вул. Дзяржынскага, вул. Чырвонаармейская, вул. Камсамольская, вул. Кірава, вул. Леніна, вул. Мяльнова, вул. Масонава, вул. Мічурына, вул. Пагранічнікаў, вул. Першамайская, завул. Першамайскі, вул. Перамогі, вул. Пралетарская, вул. Савецкая, вул. Свярдлова, завул. Свярдлова, вул. Кастрычніцкая, вул. Чкалава, завул. Штабны, вул. Юбілейная, вул. Калініна, вул. Маладзёжная, вул. Меліяратараў, вул. Урбановіча, вул. Астапчыка, вул. Васіленка, вул. Цагельнік, вул. 17 верасня. | 35 |
| **Дзеячы, сімвалы і назвы беларускага горада**<br>вул. Каліноўскага, вул. Янкі Купалы, вул. Якуба Коласа, вул. Караткевіча, вул. Францыска Скарыны. | 5 |
| **Мясцовыя геаграфічныя і прыкметавыя характарыстыкі**<br>вул. Зарэчная, завул. Зарэчны, вул. Лугавая, завул. Лугавы, вул. Новая, вул. Паўночная, вул. Садовая, вул. Чыгуначная, завул. Чыгуначны 1, завул. Чыгуначны 2, вул. Кветкавая, вул. Палявая, завул. Палявы, вул. Зялёная, вул. Ціхая, вул. Школьная. | 16 |

Усяго сучасная Свіслач налічвае 58 элементаў урбаністычнай структуры (48 вуліц і 10 завулкаў), якія маюць агульную даўжыню каля

25 кіламетраў і займаюць 425 гектараў плошчы[64]. У агульнай колькасці элементаў урбанімікі менш за астатнія прадстаўлена "польскасць" — усяго 3 % (вуліца Крашэўскага і аднайменны завулак). "Беларускасць" Свіслачы ў вулічнай сетцы займае 9 %, мясцовыя геаграфічныя і прыкметавыя характарыстыкі — 28 %, а савецкае мінулае рэпрэзентуе 60 %. Такім чынам, на сённяшні дзень паводле ўрбанімікі Свіслач працягвае заставацца пераважна савецкім горадам. Неабходна звярнуць увагу на тое, што ўрбаніміка не проста статычна асвятляе культурна-гістарычныя эпохі і этнаканфесійныя групы ў лёсе паселішча, але і паказвае іх дынаміку і неаднароднасць развіцця. Так, напрыклад, з назваў 11-ці даваенных вуліц горада: Леніна, Сталіна, Першамайскай, Чырвонаармейскай, Пралетарскай, Чкалава, Дзяржынскага, Горкага, Камсамольскай, Новай і Садовай — у сучаснай Свіслачы мы сустракаем усе, за выключэннем вуліцы Сталіна. Назва гэтай вуліцы змененая яшчэ ў савецкі час, у гады барацьбы з культам асобы. Тады ж, у 1956 г., з гарадской плошчы знік помнік Сталіну. Відавочна, што тагачаснае савецкае грамадства і партыйнае кіраўніцтва не жадалі, каб іх эпоха асацыіравалася з імем гэтага дзеяча. Парадокс заключаецца ў тым, што ў пачатку 2000-х гг. гэты помнік у Свіслачы быў адноўлены і зараз займае сваё месца на так званай Алеі герояў. Пасля падзей XX з'езда КПСС і распаду СССР гэта быў другі па ліку помнік Сталіну, пасля помніка, устаноўленага на радзіме гэтага дзеяча ў грузінскім гарадку Горы[65]. Пазней падобны помнік з'явіўся ў Беларусі на мемарыяльным комплексе "Лінія Сталіна".

Як бачна, адлюстраваная ў сістэме гісторыка-культурных помнікаў і ўрбаніміцы Свіслачы "савецкасць" нясе ў сабе ўсю неадназначнасць эпохі. Гэтая рыса характэрная таксама для адлюстравання нацыянальных сімвалаў і культурных знакаў іншых гістарычных эпох і этнаканфесійных груп. Так, беларускі складальнік урбанімікі горада прадстаўлены пяццю вуліцамі, якія рэпрэзентуюць розныя віды "беларускасці". Вуліцы Кастуся Каліноўскага, Якуба Коласа і Янкі Купалы атрымалі назвы яшчэ ў перыяд БССР і адлюстроўваюць сваю пераемнасць з савецкай Беларуссю. Вуліцы Францыска Скарыны і Уладзіміра Караткевіча паўсталі ў больш позні час і атрымалі назвы з апорай на традыцыі суверэннай Беларусі 90-х гг. XX ст. Менавіта ў 90-я гг. вуліцы імя Ф. Скарыны з'яўляюцца ў многіх гарадах Беларусі як сімвал новай, ужо не савецкай Беларусі. Адсюль вынікае, што старая "савецкая беларускасць" падмацоўваецца абсалютна іншымі знакамі

64 М. Гайдучек, *Свислочь и её улицы*, "Свіслацкая газета", 2008, 26 ліпеня, с. 3.

65 Дарэчы, гэты помнік таксама быў знесены летам 2010 г. паводле загаду прэзідэнта Мікаэла Саакашвілі, а на яго месцы ўстаноўлены помнік ахвярам т. зв. руска-грузінскай вайны 2008 г.




**Помнік Кастусю Каліноўскаму ў Свіслачы, аўтарства Заіра Азгура, 1958 г.**

і сімваламі, прычым яна не адштурхоўвае іх, а цалкам арганічна сумяшчаецца з імі, што ў сваю чаргу стварае гэты ўнікальны феномен, характэрны для сучаснай Рэспублікі Беларусь.

Цікавым чынам гэту акалічнасць ілюструе прыклад з выкарыстаннем архетыпа Кастуся Каліноўскага, чый лёс цесна звязаны са Свіслаччынай. Помнік Каліноўскаму быў пастаўлены ў Свіслачы яшчэ ў лістападзе 1958 г. і знаходзіцца на сваім месцы па сённяшні дзень. Аўтарам гэтай скульптуры з'яўляецца шырокавядомы Заір Азгур. Пазней, у 70-я гг. XX ст., у горадзе з'явілася вуліца імя Каліноўскага. Сёння не выклікае сумненняў той факт, што асоба Кастуся Каліноўскага з'яўляецца знакавай і вызначальнай у беларускай гісторыі. Таму і ў сучаснай Беларусі вобраз гэтага дзеяча надзвычай папулярны. Але ж неабходна разумець тую акалічнасць, што сённяшнім грамадствам запатрабаванае выкарыстанне яго нацыянальных ідэй і поглядаў, яго асобы як нацыянальнага сімвала, сімвала барацьбіта за беларускую ідэю. У той жа час савецкая ідэалагічная сістэма цікавілася пераважна рэвалюцыйна-дэмакратычнымі поглядамі і сацыяльным складнікам ідэалогіі Каліноўскага, ігнаруючы нацыянальны аспект. Тым не менш сёння два гэтыя погляды на адну асобу ўтвараюць адзінае цэлае, дзе кожны можа бычыць тое, што яму найбольш адпавядае.

Такім чынам, урбаніміка горада нясе ў сабе культурныя знакі і нацыянальныя сімвалы розных этнасаў і гістарычных эпох. Найбольшае адлюстраванне тут атрымала “савецкасць”: усе цэнтральныя вуліцы нагадваюць аб гэтым перыядзе, галоўная плошча горада носіць імя Карла Маркса. Вуліцы з беларускай семантыкай у назвах маюць у тапаграфічнай структуры Свіслачы пераважна другараднае значэнне, тады як урбаніміка “польскасці” наогул выцесненая ў нерэспектабельны раён горада. Цалкам сцёртая з вулічнай семантыкі памяць аб габрэйскім і татарскім этнічных кампанентах.

Ці заўсёды існавала такая сітуацыя? У міжваенны перыяд у вулічных назвах Свіслачы пераважала польская сімволіка: вул. Пілсудскага,

Крашэўскага, Сянкевіча, Бітнера, Канстытуцыі 3 мая і інш. Аднак у польскім горадзе ўсе ж знайшлося месца для габрэйскай і татарскай ідэнтычнасці. Існавалі наступныя ўрбанімічныя назвы: вул. Прышколак (там размяшчаўся двухпавярховы драўляны габрэйскі хедар), вул. Берка Еселевіча (габрэялітвака, які ўдзельнічаў у паўстанні 1794 г.), сінагагальны дворык і г. д. Існаваў таксама цэлы раён непасрэдна каля ракі Свіслач, які меў назву “Татарскія агароды”.

У сённяшняй вулічнай структуры яшчэ адну, даволі вялікую, групу назваў вуліц аб’ядноўваюць геаграфічныя і прыкметавыя прывязкі да мясцовасці. Некалі гэты геаграфічны прынцып у вулічнай лакалізацыі быў дамінуючым, і ў канцы XVIII — пачатку XX ст. вуліцы насілі назвы паводле геаграфічных напрамкаў: Гродзенская, Варшаўская, Брэсцкая, Мсцібаўская, Рудаўская і г. д. Жыхары Свіслачы ў польскі і савецкі перыяды працягвалі ўжываць старыя геаграфічна-прыкметавыя назвы вуліц. Па сутнасці, ужыванне гэтых назваў ёсць праява “тутэйшасці” — не правінцыйнасці і адсутнасці нацыянальнай свядомасці, а асаблівай формы гарманічнай знітаванасці чалавека з навакольным асяроддзем, у якім ён існуе на працягу ўсяго свайго жыцця. Генетычна гэты феномен звязаны з тым, што асяродкам захавання традыцыйнай беларускай мовы і культуры была вёска. Шырокае распаўсюджанне традыцыя мясцовай лакалізацыі атрымала ў горадзе разам з прытокам вясковых жыхароў адразу пасля Другой сусветнай вайны. Вядома ж, такі спосаб самаідэнтыфікацыі мясцовых жыхароў у шматнацыянальным горадзе ўзнік не адразу, а быў выпрацаваны з часам як спосаб адаптацыі насельніцтва да змянення палітычных умоў існавання. Так, напрыклад, у 20-я — 30-я гг. вуліца Варшаўская атрымала назву імя маршалка Юзафа Пілсудскага. Аднак мясцовыя жыхары паміж сабой працягвалі называць яе Варшаўскай. У “польскі час” і ў гады БССР сучасную вуліцу Пралетарскую, не ўжываючы новых яе назваў, традыцыйна называлі “акопамі”, што магчыма назіраць у асяродку старэйшых людзей і па сённяшні дзень. Гістарычныя абставіны і ўлады змяняліся, а местачковая ідэнтычнасць у такіх дзіўных формах імкнулася захаваць свае нацыянальныя сімвалы і культурныя знакі ў супрацьстаянні з новымі тэндэнцыямі.

Гісторыка-культурныя помнікі Свіслачы часам выступаюць у якасці сродку культурнай і нацыянальнай камунікацыі. Цікавым чынам праз гэтыя помнікі выглядае развіццё расійска-польскага этнакультурнага супрацьстаяння. Адным з першых у мястэчку ў 1911 г. з’явіўся помнік Аляксандру II, які, аднак, быў знесены польскімі войскамі ў 1920 г. У 1928 г. у Свіслачы па ініцыятыве мясцовай польскай інтэлігенцыі быў пастаўлены

помнік Рамуальду Траўгуту, які пасля падзей 17 верасня 1939 г. быў разбураны савецкімі войскамі. Гэты помнік аднавілі ў 80-я гг. XX ст. Таксама "польскасць" рэпрэзентуе мемарыяльная табліца на адной з гарадскіх вуліц, дзе ўказана, што з 1924 г. яна насіла імя вядомага медыка Адольфа Бітнера. Большая частка помнікаў прысвечана савецкаму мінуламу і падзеям Вялікай Айчыннай вайны: Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан на вул. 17 верасня, 14-мятровая скульптура-абеліск "Асілак", помнікі Леніну і Сталіну і г. д. Паказальна тое, што гэтая тэндэнцыя пашыраецца і ў наш час: у 2008–2009 гг. у горадзе з'явіліся новыя помнікі: Герою Савецкага Саюза, удзельніку Вялікай Айчыннай вайны М. П. Масонаву і воінам-інтэрнацыяналістам — удзельнікам вайны ў Афганістане.

Пытанне аб тым, якім чынам на прыкладзе помнікаў адбываецца выцясненне адных нацыянальных сімвалаў іншымі, цікава ілюструе наступная сітуацыя. На будынку сённяшняга гарадскога кінатэатра "Звязда" вісіць мемарыяльная дошка, якая распавядае аб тым, што 17 ліпеня 1944 г., у дзень вызвалення Свіслачы, на гэтым будынку савецкімі воінамі быў узняты чырвоны сцяг. У той жа час тут няма ніводнай згадкі пра тое, што гэты будынак з'яўляецца былой харальнай сінагогай XIX ст., часткай унікальнай архітэктурнай забудовы т. зв. сінагагальнага дворыка. Габрэйскае мінулае наогул сёння практычна цалкам выцесненае з гарадской прасторы. Сімвалічна ў гэтым сэнсе тое, што адзіны помнік габрэям (на мове арыгінала "ахвярам фашызму") знаходзіцца па-за межамі Свіслачы, у лесе, званым Вішаўнікам, дзе адбылася канчатковая ліквідацыя свіслацкага гета.

Акрамя помнікаў гісторыі і культуры А. Нікжэнтайціс звяртае ўвагу на памяць пра памерлых. Памяць пра памерлых належыць і да камунікатыўнай, і да культурнай памяці. У апошняй яна павінна мець спецыфічных носьбітаў гэтай памяці, інстытуцыі або рытуалы. Успамін пра памерлых належыць да такой катэгорыі памяці, якая выхоўвае пачуццё агульнасці. Гарадскія некропалі Свіслачы ў сувязі з гэтым перажылі шэраг трансфармацый. Першыя могільнікі знаходзіліся ў непасрэднай блізкасці да царквы і касцёла, якія былі знішчаныя ў гады Другой сусветнай вайны. У пасляваенны час на тэрыторыі праваслаўных могілак і царквы быў збудаваны дзіцячы садок, а на каталіцкім некропалі размясцілі будынак гаркама партыі. У 1782 г. у канцы вуліцы Гродзенскай былі закладзеныя новыя могілкі, якія функцыянуюць і сёння пад назвай праваслаўных або Старых могілак. Сучасны каталіцкі некропаль быў адкрыты ў 1898 г., у свядомасці мясцовых жыхароў ён атрымаў стэрэатыпнае акрэсленне як "польскія могілкі". Сёння цалкам знішчаны яшчэ некалькі сакральных месцаў, якія захоўвалі ў сабе нацыянальныя і культурныя знакі іншых этнасаў. Так, на паўднёва-заходнім

ускрайку мястэчка знаходзіліся нямецкія ваенныя могілкі часоў Першай сусветнай вайны. На ўсходзе Свіслачы лакалізаваўся вялікі габрэйскі некропаль, які быў закрыты ў 1970 г. Паказальна, што будаўнічыя працы тут пачаліся ўжо ў канцы 70-х гг. XX ст., і сёння на гэтым месцы размяшчаецца некалькі прыватных жылых кварталаў у раёне паміж сучаснымі вуліцамі Першамайскай і Астапчыка.

## Высновы

Гарады і мястэчкі Беларусі, а таксама і ўся краіна, у агляднай гістарычнай рэтраспектыве ніколі не былі аднамоўнымі і монакультурнымі. Шматкультурнасць і шматмоўнасць заўжды з'яўляліся падставай для дыялогу, адкрытасці і талерантнасці. На прыкладзе Свіслачы бачна, што шматкультурнасць мястэчка сталася вынікам яго поліэтнічнасці і поліканфесійнасці, супрацоўніцтва і супрацьстаяння паміж этнаканфесійнымі групамі насельніцтва. Менавіта гэтымі працэсамі было абумоўлена стварэнне ўнікальнай мульцікультурнай спадчыны, якую мае Беларусь.

Шматкультурная спадчына, гэты скарб Беларусі, знішчаецца, нівеліруецца, "прысвойваецца" іншымі групамі, прыпісваецца плёну працы асобных пакаленняў, дасягненням асобных культурна-гістарычных эпох. Памяць аб іншых культурна-гістарычных эпохах, нацыях і канфесіях паступова выцясняецца з кніг і падручнікаў, урбанімікі і гістарычных помнікаў, а ў выніку і са свядомасці грамадзян.

Аднак Свіслач, як і іншыя былыя шматкультурныя мястэчкі і гарады, і сёння працягвае несці ў сабе адбітак гэтага феномену, пэўным чынам уздзейнічаць на свядомасць жыхароў і гасцей. Цікава апісвае гэту акалічнасць вядомы краязнаўца і публіцыст Алесь Карлюкевіч: *"Як толькі ўдасца патрапіць вам у Свіслач, адразу агледзьце алею ў цэнтры горада, дзе ў адзін рад выстраіліся Каліноўскі, Траўгут, Ленін, Сталін… Помнікі з розных часоў — сімвал гістарычнай шматаблічнасці. Яна, шматаблічнасць, між іншым, фарміравала характары, праектавала лёсы сыноў і дачок Свіслаччыны"*[66].

На прыкладзе Свіслачы былі разгледжаны інструменты вылучэння нацыянальнай і культурнай памяці ў шматкультурным горадзе (нацыянальныя сімвалы і культурныя знакі) — будынкі, помнікі, мастацкія і літаратурныя творы, гістарычныя асобы, урбаніміка ды інш.).

Гістарычная Свіслач з'яўляецца месцам культурнай творчасці і, адпаведна, месцам памяці многіх народаў. У першую чаргу гэта добра адлюстоўвае гарадская тапаніміка і месцы памяці — вуліцы

[66] А. М. Карлюкевіч, *Радзімазнаўства: Мясціны. Асобы: краязнаўчыя нарысы,* Мінск 2010, с. 148–149.

і могілкі: беларускія, польскія, яўрэйскія, нямецкія, французскія. Яны патрабуюць большай увагі да іх інтэрпрэтацыі і выкарыстання менавіта як нацыянальных сімвалаў і культурных знакаў. Галоўнымі праблемамі, якія перашкаджаюць зрабіць гэта сёння, з'яўляюцца адсутнасць зацікаўленых прадстаўнікоў нацыянальных груп, а таксама дзяржаўная палітыка.

Сучасная гісторыка-культурная памяць жыхароў Свіслачы арыентаваная ў бок савецкай спадчыны, якая рэпрэзентуецца сучаснай гарадской тапанімікай, памятнымі і мемарыяльнымі месцамі, звязанымі з пахаваннямі загінулых у Другой сусветнай вайне, экспазіцыяй мясцовага краязнаўчага музея. І хоць за апошнія гады адбываецца павольны зварот да беларускай гістарычнай спадчыны, на сённяшні дзень Свіслач паводле гістарычнай памяці працягвае заставацца пераважна савецкім горадам.

Надзвычай актуальным пытаннем застаецца вывучэнне і правільнае выкарыстанне шматкультурнай спадчыны гарадоў і мястэчак Беларусі. Феномен шматкультурнасці гарадскіх цэнтраў Беларусі з'яўляецца іх характэрнай і непаўторнай асаблівасцю, вынікам працы многіх пакаленняў розных этнаканфесійных груп. Прыклад Свіслачы паказвае, што такія полікультурныя асяродкі маюць вялікі патэнцыял і, пры стварэнні адпаведных умоў, здольныя выкарыстоўваць яго дзеля свайго далейшага развіцця.

Дадзенае даследаванне пераканаўча паказвае надзвычайную важнасць захавання памяці не толькі пра мінулае беларускага народа, але і пра іншыя традыцыйныя этнічныя супольнасці Беларусі — габрэяў, палякаў, татараў, літоўцаў, рускіх-старавераў. Гэта адна з галоўных перадумоў захавання цывілізацыйнай, культурнай і моўнай адметнасці нашай краіны.

На вялікі жаль, за апошняе стагоддзе Беларусь зазнала істотныя змены ў сваім этнакультурным і моўным аблічча. Велізарныя страты панесла польская мова і культура, амаль незваротна зніклі ідыш і габрэйская культура, у складаных умовах апынулася беларушчына. Нельга не пагадзіцца з меркаваннем Сяргея Шупы, што, калі сённяшні трэнд радыкальна не зменіцца, аднамоўнай Беларусь стане на працягу аднаго-двух пакаленняў, упершыню за сваю пісаную і няпісаную гісторыю. Стрымаць надыход аднамоўнасці і аднакультурнасці (альбо паўкультурнасці) могуць толькі салідарныя дзеянні ўсіх неабыякавых людзей Беларусі — незалежна ад паходжання, мовы, сацыяльнага статусу. Ідэалам мусіла б стаць Інтэгральная Беларусь… Збліжэнне пазіцый цяперашніх рэальных або ўяўных моўна-культурных супольнасцей патрабуе пэўных кампрамісаў і пагадненняў[67].

[67] С. Шупа, *Аднамоўная Беларусь*. Электронны рэсурс, рэжым доступу: https://www.svaboda.org/a/25165965.html

## Streszczenie

Siarhiej Ramanau, Ina Sorkina, *Fenomen wielokulturowości miasteczek Białorusi: na przykładzie Świsłoczy*

W artykule rozpatrywane są przejawy wielokulturowości w urbanistycznej przestrzeni białoruskiego miasteczka (na przykładzie Świsłoczy) na przestrzeni szerokiego przedziału historycznego (XVI–XX w.). Podstawą naukową i konceptualną danego badania są innowacje światowej humanistyki (koncepcje "pamięci kulturowej" Aleidy i Jana Assmannów, "miejsc pamięci" Pierre'a Nora, "multikulturowości" Petera Haslingera, "symboli narodowych" i "znaków kulturowych" Alvydasa Nikžentaitisa), które przyczyniają się do lepszego zrozumienia złożonego zjawiska wielokulturowości miasteczka wschodnioeuropejskiego. Na przykładzie Świsłoczy zbadano narzędzia wyodrębnienia się pamięci narodowej i kulturowej w mieście wielokulturowym ("symbole narodowe" i "znaki kulturowe" — budynki, pomniki, dzieła literatury i sztuki, postaci historyczne, urbanistyka itd.).

Zanalizowano luki kulturowe i wyznaczono podział stref etniczno-kulturowych i historycznych w topograficznej i kulturowej przestrzeni miasteczka. Wykazano, że w kształtowaniu się miejscowej przestrzeni urbanistycznej brali udział przedstawiciele wielu grup etnicznych: Białorusini, Polacy, Żydzi, Rosjanie, Niemcy, Włosi, Cyganie, Tatarzy, Holendrzy, Francuzi i inni. Artykuł odzwierciedla dynamikę procesu powstawania wielokulturowego społeczeństwa w miasteczku od XVI do XX w., historię powstania i inicjowania szeregu "symboli narodowych" i "znaków kulturowych" ówczesnego społeczeństwa małomiasteczkowego. Autorzy odnoszą się również do analizy losów wielokulturowego dziedzictwa miasta w XX w.: kulturowej i politycznej walki o charakter odzwierciedlenia i reprezentowania własnych interesów różnych ideologicznych systemów etniczno-narodowych, wyznaniowych i społecznych oraz ich spadkobierców (na przykładzie toponimii i urbanistyki Świsłoczy).

Historyczna Świsłocz jest miejscem twórczości kulturalnej, jak również miejscem pamięci wielu narodów. Dobrze to obrazują przede wszystkim miejska toponimia i miejsca pamięci — ulice i cmentarze: białoruskie, polskie, żydowskie, niemieckie, francuskie. Interpretacja ich i wykorzystanie jako symboli narodowych i kulturowych wymaga większej uwagi. Obecnie realizację tego zadania najbardziej utrudnia brak zainteresowanych tym członków grup narodowych, jak również polityka państwowa.

Współczesna pamięć historyczno-kulturowa mieszkańców Świsłoczy kieruje się głównie w stronę dziedzictwa sowieckiego, które reprezentowane jest przez obecną toponimię miejską, miejsca upamiętnienia i czci związane z poległymi

w II wojnie światowej oraz wystawę lokalnego muzeum krajoznawczego. Mimo powolnego zwrotu, w ostatnich czasach, w kierunku białoruskiej spuścizny historycznej, dziś Świsłocz, według pamięci historycznej, w dalszym ciągu pozostaje przeważnie miastem radzieckim.

Niezwykle ważną kwestią pozostaje badanie i prawidłowe wykorzystanie wielokulturowego dziedzictwa miasteczek Białorusi. Przykład Świsłoczy pokazuje, że takie ośrodki wielokulturowej spuścizny mają ogromny potencjał i przy stworzeniu odpowiednich warunków mogą go wykorzystać w procesie dalszego rozwoju.

## Summary

Siarhiej Ramanau, Ina Sorkina, *The Multiculturality Phenomenon of Belarusian Towns – Example Svislach*

The article looks at manifestations of multiculturalism in the urban space of the Belarusian town (the example of Svislach) and encompasses a wide swathe of history ($16^{th}$ to the $20^{th}$ century). The scientific and conceptual basis of the given study are innovations in world humanities (Aleida and Jan Assmann's conception of "cultural memory", Pierre Nora's places of memory, Peter Haslinger's multiculturalism, Alvydas Nikžentaitisa's "national symbols" and "cultural markers"), which lead to a better understanding of the complex phenomenon of multiculturalism in the towns of Eastern Europe. Svislach serves as the example town.There, tools of distinction of national and cultural memory were studied in a multicultural town ("national symbols" and "cultural markers" — buildings, monuments, works of literature and art, historical figures, urban planning, etc.)

Cultural gaps were analysed and a separation of ethnic-cultural and historical spheres were delineated in the topographical and cultural space of the town. It is demonstrated that representatives of many ethnic groups took part in the creation of the town's urban space — Belarusians, Poles, Jews, Russians, Germans, Italians, Tatars, Romani, Dutch, French and others. The article reflects the dynamic of the establishment-process of a multicultural society in the town from the $16^{th}$ to the $20^{th}$ century — the history of creating and initiating a series of "national symbols" and "cultural markers" by this small-town society. The authors also give space to analysing the fate of the town's multicultural heritage in the $20^{th}$ century — the cultural and political struggle for the character of reflecting and representing the interests of various ethnic-national, religious and social ideological systems, as well as their heirs (on the basis of Svislach's toponomy and urban planning).

Historical Svislach is a place of cultural invention and memory for many nations. This is well-illustrated by the town's toponomy and places of

remembrance: streets and cemeteries — Belarusian, Polish, Jewish, German and French. Interpreting them, and utilising their national and cultural symbols, requires greater focus. Today, what most hinders the realisation of this goal is a lack of interest by members of the various national groups, as well as state policy.

The contemporary historical-cultural memory of the inhabitants of Svislach is mainly directed towards Soviet heritage, which is represented by the towns current toponomy, places of remembrance and reverence, and connected to those that died during World War II, as well as the local sightseeing museum. Despite a slow recent turn towards Belarus's historical legacy, today, according to historical memory, Svislach continues to remain a mostly Soviet city.

An extremely important issue remains the study and correct utilisation of the multicultural heritage of Belarusian towns. The example of Svislach shows that such centres of multicultural legacy have enormous potential, and that with the creation of suitable circumstance, they can take advantage of this for further growth and development.

January 1923, this foreign trade agreement was ignominiously torn up by the government of the Belarusian People's Republic.

This was the last attempt of the leaders of the BNR to realize its own foreign trade policy. After that, BNR emigrant activity continued by inertia for another two years, with very little financial resources. This activity consisted in sending out "diplomatic" memoranda and appeals, in which protests against the occupation of the province by the Soviets and "Pan-Polish" were voiced. The financial crisis led to the complete political bankruptcy of the BNR's political structures, stated at the 1925 Berlin National Conference.

In conclusion, the proclamation of BNR independence exceeded the organisational and financial capabilities of the Belarusian movement from the outset. The efforts of the Belarusian government — still operating on the territory of Belarus in 1918 — at the expense of foreign trade transactions with trade and economic structures of the Ukrainian People's Republic, helped for a time to provide the local population and returning Belarusian refugees with food and other essential goods, thereby preventing an impending humanitarian catastrophe. On the other hand, during the period of political emigration (1919–1925) the BNR's foreign trade activities allowed the setting up of Belarusian publishing activity in exile, despite the fact that many of the concluded business transactions and ventures failed. The financial component also assisted the propaganda activities of political structures of the BPR. While the Belarusian government was in exile, the voice of protest of Belarusians against the expansionist, anti-national and anti-democratic policies of Moscow and Warsaw in relation to Belarus and its people were heard throughout the civilized world. However, the aggravated financial crisis after 1923, along with the political split among supporters of the independence of Belarus and the lack of effective support from Western European democracies, ultimately predetermined the crisis of the BNR political institutions, and their dissolution in 1925.

## Скарочаны змест

Уладзімір Ляхоўскі, Андрэй Чарнякевіч, *Замежны гандаль Беларускай Народнай Рэспублікі*

Артыкул прысвечаны знешнегандлёвым палітычным інстытутам Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) і іх дзейнасці ў перыяд 1918–1923 гадоў. Ён ахоплівае спробы Народнага Сакратарыята ўсталяваць камерцыйныя адносіны з Украінскай Народнай Рэспублікай у 1918 годзе, аналізуе фінансавыя крыніцы знешнегандлевых праектаў БНР у перыяд эміграцыі. Асобна ў артыкуле разглядаецца дзейнасць беларускіх

гандлёвых прадстаўніцтваў у Веймерскай Рэспубліцы ды Літве, у тым ліку — супрацоўніцтва надзвычайнай місіі БНР у Берліне ды Рады БНР з нямецкім гандлёвым домам IWEG.

## Streszczenie

Uladzimir Liachouski, Andrej Czarniakiewicz, *Handel zagraniczny Białoruskiej Republiki Ludowej*

Artykuł poświęcony jest politycznym instytutom handlu zewnętrznego Białoruskiej Republiki Ludowej (BRL) i ich działalności w latach 1918–1923. Opisuje on próby nawiązania kontaktów handlowych z Ukraińską Republiką Ludową w 1918 r. przez Sekretariat Ludowy oraz przedstawia analizę źródeł finansowania projektów handlu zewnętrznego BRL w okresie emigracji. W artykule oddzielnie rozpatrywana jest działalność białoruskich przedstawicielstw handlowych w Republice Weimarskiej i na Litwie, w tym — współpraca przedstawicielstwa nadzwyczajnego BRL w Berlinie i Rady BRL z niemieckim domem handlowym IWEG.

**Генадзь Сагановіч**
**(Варшава/Мінск)**

# Крытыка гістарыяграфіі БССР часоў адлігі ў друку беларускай эміграцыі

Увядзенне ў СССР пасля Другой сусветнай вайны адзінага стандарту русацэнтрычнай канцэпцыі гісторыі саюзных рэспублік у Мінску ўвасобілася ў распрацоўцы і выданні акадэмічнай *Гісторыі БССР* у 2 тамах, якая атрымала статус афіцыйнага канону[1]. На аспрэчванне яе асноўных тэзісаў у савецкай Беларусі нават у гады палітычнай адлігі, у другой палове 50-х і першай палове 60-х гг., адважваліся зусім нямногія. У гэтай сувязі заканамерным падаецца пытанне: як рэагавалі на афіцыйныя трактоўкі мінулага Беларусі тыя гісторыкі і кваліфікаваныя спецыялісты гуманітарнага профілю, якія воляй лёсу апынуліся па-за межамі савецкага блоку, у *“вольным свеце”*? Асаблівы інтарэс беларускіх навукоўцаў на эміграцыі магло б выклікаць гісторыяпісанне перыяду адлігі, якое мела прыкметы абнаўлення і магло ўсяляць надзеі на сур’ёзныя перамены ў савецкай дзяржаве. Як жа эміграцыя ўспрымала мінскія публікацыі тых гадоў, што ў асвятленні айчыннай гісторыі трапляла пад яе ўвагу і выклікала крытыку або, наадварот, прымалася, наколькі абгрунтаванай была сама крытыка — усё гэта пытанні, якімі яшчэ ніхто спецыяльна не займаўся.

У адрозненне ад украінскай, беларуская эміграцыя валодала вельмі абмежаваным патэнцыялам навуковых кадраў і выдавецкіх магчымасцей. Калі пакідаць па-за ўвагай асветна-прапагандысцкія і аматарскія публікацыі, датычныя гісторыі, то застанецца тры навуковыя перыёдыкі беларускай эміграцыі, якія выходзілі ў гады адлігі: *“Беларускі зборнік”*, што быў органам беларускага аддзела Інстытута вывучэння СССР, заснаванага ў 1950 г. у Мюнхене[2]; *“Запісы”* — навуковы штогоднік Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва (Нью-Ёрк), выданне якога пасля нью-ёркскай серыі (1952–1954) было адноўлена, пры гэтым з 1962 па 1970 г. ён выходзіў таксама ў Мюнхене[3]; і англамоўны часопіс Беларуска-Англійскага

[1] Падрабязней гл.: Г. Сагановіч, *Канструяванне афіцыйнага выкладу гісторыі ў пасляваеннай БССР,* “Rocznik Centrum Studiów Białoruskich / Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў”, R. 1, nr. 1, Warszawa 2015, s. 201–214.

[2] Паралельна ў Мюнхене выходзіла англамоўная версія перыёдыка *“Belorussian Review”*, дзе ў перакладзе друкаваліся асноўныя матэрыялы з *“Беларускага зборніка”*. Пар.: V. Kipel, Z. Kipel, *Belarusian publishing in the West = Беларускі друк на Захадзе: abibliography* / ed. By J. Garbinski, L. Yurevich, New York 2006, p. 580.

[3] V. Kipel, Z. Kipel, *Belarusian publishing in the West,* p. 600–601.

Таварыства *“The Journal of Byelorussian Studies”*, які выходзіў з 1965 г. у Лондане[4]. У пералічаных перыёдыках гісторыя Беларусі была сталай тэматыкай. Спачатку на іх старонках змяшчаліся кароткія анатацыі кніжных выданняў і агляды зместу галоўных айчынных часопісаў, крытычныя разборы асобных публікацый, а праз нейкі час прадстаўнікі эміграцкай гуманітарыстыкі змаглі выступіць і з прафесійным аналізам стану гістарычнай навукі ў БССР. Прадметам нашага аналізу тут будуць толькі публікацыі, у якіх закраналася айчынная гісторыя дасавецкага перыяду.

Належыць адразу адзначыць, што эміграцыя не мела ілюзій наконт палітычнай адлігі ў СССР. Ужо на самым яе пачатку ў беларускім эміграцыйным друку загучалі скептычныя ацэнкі і крытыка тых праяў лібералізацыі, пра якія паведамлялася з радзімы. Як вядома, афіцыйныя погляды ўлад на ўсе сферы жыцця рэспублікі адлюстроўваў друкаваны орган ЦК КПБ *“Коммунист Белоруссии”*. Гэта быў галоўны перыёдык БССР, таму невыпадкова яго змест нейкі час рэгулярна пераказваўся на старонках мюнхенскага *“Беларускага зборніка”*, і гэтыя агляды не пакідалі месца для аптымізму. Напрыклад, ужо ў аглядзе часопіса камуністаў за 1957 г. Янка Запруднік заўважыў дзве галоўныя рысы, характэрныя для публікацый пра гісторыю: па-першае, амаль кожны нумар змяшчаў артыкулы, мэтай якіх было паказаць падтрымку бальшавікамі і ўсім народам Кастрычніцкай рэвалюцыі, а па-другое, прасочвалася выразная тэндэнцыя прарасійскай інтэрпрэтацыі гісторыі Беларусі. У сваёй нататцы аўтар звярнуў увагу на публікацыю аднаго з нумароў 1957 г., у якой выкладалася прынятая тады ў якасці афіцыйнай схема. Паводле яе усходнія славяне (“рускія”) да XIII ст. жылі як адзіная старажытнаруская народнасць, а з XIII да XVIII ст. беларускі народ, трапіўшы пад літоўскае і польскае панаванне, вёў барацьбу за ўз’яднанне з Расіяй; ліквідацыя ВКЛ мела для Беларусі *“прагрэсіўнае значэнне”*, а беларусы, маўляў, упершыню атрымалі дзяржаўнасць ад Леніна і Кастрычніцкай рэвалюцыі, поспех якой у Беларусі тлумачыўся шырокай падтрымкай бальшавікоў з боку беларускага народа[5]. Каментуючы апошні тэзіс, Я. Запруднік указаў на поўнае ігнараванне мінскімі ідэолагамі таго факта, што ў 1917 г. на тэрыторыі Беларусі знаходзілася паўтарамільённая расійская армія, і далей акрэсліў, якую генеральную лінію для сучаснай беларускай гістарыяграфіі вызначае галоўны перыёдык БССР: орган ЦК КПБ паслядоўна *“сінхранізуе ўсе рэвалюцыйныя падзеі на Беларусі з петраградскімі й маскоўскімі”*, каб паказаць, што бальшавіцкая рэвалюцыя

[4] *Ibidem*, p. 669.

[5] Гл.: П. Москатов, *Белорусский народ в борьбе за свободную и счастливую жизнь,* “Коммунист Белоруссии”, 1957, № 9, с. 8–15.

*“не была ў сваіх пачатках толькі з’явай петраградскай, расейскай, накінутай пасля сілай на акраіны імперыі”*, але быццам яна адбывалася адначасова і на гэтых ускраінах[6].

У іншым аглядзе Янка Запруднік адмыслова спыніўся на артыкуле, прысвечаным праблемам гістарычнай навукі[7]. Яго аўтары папракалі акадэмічных гісторыкаў у шматлікіх недахопах, у тым ліку ў недастатковай якасці і нізкім навуковым узроўні выдадзеных прац, неразвітасці цэлых накірункаў гістарычнай навукі ў рэспубліцы, і фактычна прызнавалі, што ў святле рашэнняў XX з’езда гэта *“правал”* гістарыяграфіі. У адказ на гэта Я. Запруднік іранічна заўважыў: калі ўлічваць, што апрача Інстытута гісторыі ў рэспубліцы працуе 6 кафедраў агульнай гісторыі і 23 кафедры гісторыі партыі і марксізму-ленінізму, то *“якая гутарка можа быць пра гістарычную навуку ў БССР пасля гэткага прызнання?”*[8].

На адсутнасць лібералізацыі ў гістарычнай белетрыстыцы звяртаў увагу таксама Алесь Беразняк (сапраўднае імя — Ісідар Гуткоўскі[9]), які рыхтаваў для мюнхенскага зборніка агляды публікацый часопіса *“Полымя”*[10]. Ён пісаў, што адліга была распачатая *“як тактычны манеўр”*, яна амаль не ўнесла ніякіх змен у характар літаратуры і не ўсяліла надзеі на яе развіццё. Як адзначаў аўтар, гэта стала відавочна пасля крытыкі пісьменнікаў партыйнымі гісторыкамі[11], апублікаванай у газеце *“Звязда”* (органе ЦК КПБ!) на самым пачатку 1957 г., пасля якой літаратура зноў падпарадкавана палітыцы партыі і не адхіляецца ад афіцыйнай лініі. Абвешчаны XX з’ездам курс на палітычны лібералізм мусіў бы прывесці да аслаблення кантролю за літаратурным выяўленнем нацыянальнага жыцця ў цяперашнім і мінулым, аднак А. Беразняк падкрэсліў, што *“гэтая жыццёва важная праблема застаецца пад самым жорсткім табу”*, і адзначыў, што ў БССР кантроль партыі над літаратурным працэсам асабліва жорсткі[12]. Праз год ён звярнуў увагу на тое, як у *“Полымі”* выкрыўляецца найноўшая гісторыя і ўслаўляецца савецкі патрыятызм: у літаратуры пра мінулае Заходняй Беларусі пад

[6] Я. Запруднік, *Камуніст Беларусі,* 1957 № 6–12, “Беларускі зборнік”, Мюнхэн 1958, кн. 9, с. 168–169. Пар.: J. Zaprudnik, *Komunist Belarusi, 1957, nr. 6–12*, “Belorussian Review”, Munich 1958, vol. 6, p. 127–128.

[7] А. Короткевич, П. Савочкин, К. Шабуня, *О некоторых вопросах развития исторической науки в республике,* “Коммунист Белоруссии”, 1957, № 2, с. 17–18.

[8] Я. Запруднік, *Камуніст Беларусі,* 1957 № 2–5, “Беларускі зборнік”, 1957, кн. 8, с. 163–164. Пар.: ibidem, *Komunist Belarusi, 1957, nr. 2–5*, “Belorussian Review”, 1957, vol. 5, p. 129.

[9] За дапамогу ў ідэнтыфікацыі аўтара дзякую Лявону Юрэвічу (Нью-Ёрк).

[10] Гл.: А. Беразьняк, *Убітым шляхам сацыялістычнага рэалізму (агляд часопіса “Полымя” за 1956 г.),* “Беларускі зборнік”, 1957, кн. 7, с. 5–39.

[11] Л. Абэцэдарскі, А. Сідарэнка, *За ідэйную чыстату нашых літаратурных пазіцый,* “Звязда”, 1957, 12 студзеня, с. 2. Праз некалькі дзён гэты артыкул мусіла перадрукаваць газета беларускіх пісьменнікаў. Гл.: “Літаратура і мастацтва”, 1957, 16 студзеня, с. 2–3.

[12] A. Bieraźniak, *Recent Soviet Belorussian Literature*, “Belorussian Review”, 1957, vol. 5, p. 56–57.

польскай уладай, выдадзенай у Мінску з нагоды 40-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі, аўтары цалкам замоўчваюць беларускі нацыянальны рух — пісьменнікам пра яго проста не дазваляюць нічога пісаць[13].

З асобных публікацый, адмыслова прысвечаных разгляду савецкіх інтэрпрэтацый айчыннай гісторыі, першай свет убачыла праца Яна Станкевіча, прысвечаная разбору 1 тома акадэмічнай гісторыі БССР[14]. Актыўны дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША доктар Я. Станкевіч у міжваенны час скончыў Карлаў універсітэт у Празе, быў мовазнаўцам і гісторыкам. Яго праца выйшла кніжным фарматам у серыі *"Досьледы і матэрыялы"* Інстытута вывучэння СССР праз два гады пасля выхаду згаданага тома[15], а пазней мюнхенскі перыёдык змясціў яе моцна скарочаную версію ў перакладзе на англійскую мову[16]. Хоць, па прызнанні самога аўтара, ён змог крытычна разгледзець толькі частку тэзісаў "Гісторыі БССР", яго рэцэнзія разраслася ў цэлую кнігу. Эміграцыйны гісторык вылучыў у ёй абмеркаванне такіх праблем, як тэрытарыяльны абсяг Беларусі, паходжанне беларускага народа, гісторыя X–XIII стст., тэрмін "Русь", беларуская культура, месца беларусаў у ВКЛ і характар гэтай дзяржавы, а таксама становішча Беларусі ў Расійскай імперыі.



**Ян Станкевіч (1891–1976)**

Выразна адмоўнае стаўленне да акадэмічнага выдання Я. Станкевіч выказаў у самым пачатку свайго разбору. Расхваленаму ў Мінску першаму тому "Гісторыі БССР" эміграцыйны гісторык наогул адмаўляў у праве называцца гісторыяй Беларусі! Бо *"гістарычная і этнаграфічная тэрыторыя"* беларускага народа ў ёй *"штучна абрэзана"*,— абураўся ён, і ў выніку пад назвай Гісторыі БССР разгледжана толькі *"палавіна*

---

13 A. Bieraźniak, *Soviet Belorussian Literature*, "Belorussian Review", 1958, vol. 6, p. 65.

14 *История Белорусской ССР*, т. 1 / под ред. В.Н. Перцева, К.И. Шабуни, Л.С. Абецедарского, Минск: АН БССР, 1954. Далей у тэксце –*"Гісторыя БССР"*.

15 Я. Станкевіч, *Савецкае хвальшаваньне гісторыі Беларусі,* Мюнхэн 1956. Далей цытаты гэтага твора падаюцца паводле мінскага перавыдання: Я. Станкевіч, *Гістарычныя творы* / рэд. В. Булгакаў, Мінск 2003, с. 270–415.

16 J. Stankievič, *The Soviet Falsification of Belorussian History*, "Belorussian Review", 1957, vol. 4, p. 56–95.

*Беларусі*"[17] (сам Станкевіч прысвяціў вызначэнню "правільных" этнаграфічных межаў Беларусі значную частку свайго тэксту і моцна пашырыў іх, залічыў да беларускага народа не толькі крывічоў, але і вяцічаў з севяранамі[18]). У дадатак жа, сцвярджаў крытык, сярод аўтараў тома не знайшлося *"ніводнага ведамага беларускага гісторыка"*[19], галоўная роля ў падрыхтоўцы працы *"належыць расейцам"*, і — што можна лічыць найбольш сур'ёзным папрокам — яго аўтары не спасылаюцца ні на якія крыніцы, а цытуюць толькі класікаў марксізму-ленінізму. З улікам адзначанага, Я. Станкевіч не ўстрымаўся ад сцвярджэння, што рэцэнзаваная праца *"амаль цалкам складаецца з фальсіфікацый"*[20].

Адным з самых непрымальных падыходаў мінскіх аўтараў Я. Станкевіч лічыў прыпісванне беларусам толькі славянскага паходжання ды ўцісканне іх існавання ў адзіную старажытнарускую народнасць. Спасылаючыся на археалагічныя і лінгвістычныя дадзеныя, ён даводзіў, што славяне былі толькі адным з двух этнічных кампанентаў этнагенезу беларусаў, а другім былі балты[21]. Што да старажытнарускай народнасці, то, як ён сцвярджаў, беларусы не з'яўляліся яе часткай, бо яны *"не маглі ўтвараць ніякай агульнай народнасці з ноўгарадцамі і ўкраінцамі, а рускай народнасці да XI ст. не існавала"*[22]. Даследчык адмаўляў і этнічны змест тэрміна "Русь".

Не менш увагі і месца Я. Станкевіч прысвяціў высвятленню нацыянальнага характару ВКЛ і праблеме яго ўзаемаадносін з Маскоўскай дзяржавай[23]. Аўтар катэгарычна абвяргаў савецкую канцэпцыю ўтварэння ВКЛ як падпарадкавання ўсходніх славян літоўцамі і даводзіў, што гэтая дзяржава ўжо ад сваіх пачаткаў мела беларускі характар, што літоўскія феадалы ніколі не заваёўвалі беларускія землі, а масы беларускага народа трымаліся *"свайго гаспадарства"* і не імкнуліся да Масквы, дзе жыццё было нашмат горшае[24]. Каб убачыць, наколькі радыкальна адрознівалася асвятленне беларускай гісторыі ў абагульняльным выданні АН БССР ад перспектывы яго крытыка, дастаткова адзначыць, што калі ў першым далучэнне Беларусі да Расіі ў канцы XVIII ст. падавалася як

[17] Я. Станкевіч, *Савецкае хвальшаваньне гісторыі Беларусі,* с. 271–273.

[18] Тамсама, с. 285–359.

[19] Гэта не адпавядала праўдзе, аўтары ў большасці былі беларусамі.

[20] Я. Станкевіч, *Савецкае хвальшаваньне гісторыі Беларусі,* с. 270–271; Пар.: J. Stankievič, *The Soviet Falsification of Belorussian History*, p. 56, 68.

[21] Я. Станкевіч, *Савецкае хвальшаваньне гісторыі Беларусі,* с. 279–285.

[22] J. Stankievič, *The Soviet Falsification of Belorussian History*, p. 59, 67, 72.

[23] Я. Станкевіч, *Савецкае хвальшаваньне гісторыі Беларусі,* с. 377–402, гл. асабліва 377–387.

[24] Я. Станкевіч, *Савецкае хвальшаваньне гісторыі Беларусі,* с. 394–396, 398.

вельмі карысная для беларусаў падзея, то для Я. Станкевіча яно было *“найбольшай трагедыяй беларускага народу”*[25].

Агульная ацэнка эмацыйнага крытыка зводзілася да таго, што акадэмічны том уяўляў сабой *“фальсіфікацыю гісторыі Беларусі”* ў адпаведнасці з палітычным курсам на русіфікацыю, або *“перанос расейскай гісторыі на частку этнічна і палітычна беларускай тэрыторыі”*, бо яго аўтары ставілі мэтай *“не адкрыццё гістарычнага развіцця беларускага народу, а яго падмену чужымі працэсамі, менавіта гістарычным развіццём расійскага народу”*[26]. Падганяючы мінулае краю пад русацэнтрычную схему, яны нават Канстанціна Каліноўскага ператварылі ў русафіла, указаў Я. Станкевіч.

Аднак найбольшы ўнёсак у крытычны агляд гісторыяпісання ў БССР зрабіў Паўла Урбан, выпускнік Лёвенскага ўніверсітэта (Бельгія), на той час навуковы супрацоўнік мюнхенскага Інстытута вывучэння СССР. Спецыялізуючыся на савецкай гістарыяграфіі[27], ён ужо ў пачатку адлігі, таксама як Я. Запруднік і А. Беразняк, сцвярджаў, што ў савецкай гістарычнай навуцы пасля ХХ з’езда не трэба шукаць лібералізацыі, бо на справе яна па-ранейшаму *“застаецца падпарадкаванай інтарэсам этапавай палітыкі партыі”*, а дырэктывы партыйнага з’езда *“толькі ўдакладнілі раней узніклыя тэндэнцыі”*[28]. Пасля вельмі кароткага перыяду адлігі, якая часова давала больш свабоды гісторыкам, пачалася барацьба КПСС з любымі праявамі нацыяналізму. І ў БССР, як і ў іншых савецкіх рэспубліках, ужо ў 1957 г. камуністы распачалі барацьбу з *“буржуазна-нацыялістычнымі”* тэндэнцыямі ў гістарычнай навуцы і літаратуры, абвясціўшы *“разгорнуты паход партыі супраць нацыянальных імкненняў”*[29]. Як і А. Беразняк, П. Урбан называў паказальным з’яўленне ў *“Звяздзе”* артыкула Лаўрэнція Абэцэдарскага і Аляксея Сідарэнкі *“За ідэйную чыстату нашых літаратурных пазіцый”*, у якім аўтары жорстка асудзілі імкненні беларускіх літаратуразнаўцаў (Міхася Ларчанкі і Рыгора Бярозкіна) перагледзець некаторыя з агульнапрынятых палажэнняў па пытаннях гісторыі літаратуры і культуры беларускага народа[30]. Ад гэтага часу з боку партыйных органаў любыя спробы пакрытыкаваць

---

25 Тамсама, с. 402.

26 Тамсама, с. 411. Пар.: J. Stankievič, *The Soviet Falsification of Belorussian History*, p. 76–77.

27 Гл. яго раннія артыкулы: П. Урбан, *Сучасныя палітычныя тэндэнцыі ў савецкай гістарычнай навуцы,* “Беларускі зборнік”, 1957, кн. 7, с. 40–63; ён жа. *Зварот да ранейшых догмаў у савецкай гістарычнай навуцы,* “Беларускі зборнік”, 1957, кн. 8, с. 53–68.

28 П. Урбан, *Сучасныя палітычныя тэндэнцыі ў савецкай гістарычнай навуцы,* с. 40–41.

29 Тамсама, с. 57–58.

30 П. Урбан, *Смена тенденций в советской историографии,* “Институт по изучению СССР, Исследования и материалы”, сер. 1, вып. 44, Мюнхен 1959, с. 41.



**Паўла Урбан (1924–2011)**

прарасійскую канцэпцыю айчыннай гісторыі ацэньваліся як *“буржуазны нацыяналізм”* і адыход ад *“ленінскіх”* прынцыпаў партыйнасці. У якасці прыкладу новай савецкай нацыянальнай палітыкі, якая пад выглядам савецкага патрыятызму прапагандавала расійскі вялікадзяржаўны шавінізм, П. Урбан прывёў публікацыю сакратара ЦК КПБ Цімафея Гарбунова: узвялічваючы рускіх, той ужо ў пачатку 1957 г. даводзіў да камуністаў рэспублікі, што хоць усе народы СССР раўнапраўныя, асаблівая роля сярод іх належыць рускаму народу, які, маўляў, *“цэментуе дружбу савецкіх народаў”* і да т. п[31].

Неўзабаве пасля гэтых публікацый П. Урбан выступіў на старонках адноўленых *“Запісаў”* з самым грунтоўным на той час аналізам даробку беларускай гістарыяграфіі[32]. Зрабіўшы сціслы агляд развіцця гістарычнай думкі ў Беларусі за перыяд ад канца XIX ст. да 1958 г., ён падкрэсліў асаблівы маштаб страт, якія панесла маладая беларуская гістарыяграфія ў выніку сталінскіх рэпрэсій і чыстак 30-х гадоў. Фактычна тады ў БССР была *“зліквідаваная нацыянальная гістарыяграфія […] яшчэ ў пачатковай стадыі свайго развіцця”*,— пісаў аўтар і дадаваў, што далей функцыянавала ўжо толькі *“казённая гістарыяграфія”*[33].

Разглядаючы прадукцыю гістарычнай навукі ў БССР, даследчык асобнае месца адвёў згаданаму вышэй акадэмічнаму двухтомніку *“Гісторыя БССР”*. Падобна Я. Станкевічу, ён адразу адзначыў галоўную ролю расійскіх гісторыкаў у падрыхтоўцы абагульняльнай працы па айчыннай гісторыі. Як вядома, другі том, што ахопліваў савецкі перыяд, рыхтаваўся ўжо пасля смерці Сталіна, прычым апошнія праўкі ў рукапіс уносіліся пасля XX з’езда КПСС, таму ў ім можна было б чакаць прыкметы пэўнай лібералізацыі, але марна. Хоць П. Урбан не разбіраў зместу гэтага тома падрабязна, ён указаў на некалькі важных асаблівасцей, якія адразу характарызавалі ўсю працу:

---

31 Гл.: Т. Горбунов, *Могучая жизненная сила ленинской национальной политики,* “Коммунист Белоруссии”, 1957, № 4, с. 14. Пар.: П. Урбан, *Смена тенденций в советской историографии,* с. 45, 47.

32 П. Урбан, *Стан вывучэньня гісторыі ў БССР,* “Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва” (далей — “Запісы”), Мюнхэн 1962, кн. 1, с. 203–225.

33 П. Урбан, *Стан вывучэньня гісторыі ў БССР,* с. 205.

аўтары разглядалі беларускі нацыянальны рух як нешта чужое, ініцыяванае польскай або нямецкай агентурай, і даводзілі, што *“толькі Масква магла прынесці і прынесла нацыянальнае вызваленне беларускаму народу”*[34].

Больш грунтоўна эміграцыйны даследчык заняўся першым томам, у якім асвятлялася блізкая яго інтарэсам даўняя гісторыя Беларусі[35]. Ужо ў пачатку ён паўтарыў тэзіс пра тэндэнцыйнасць і антыбеларускасць *“казённай”* гістарыяграфіі БССР, *“накінутай расейская агентурай”* з мэтай *“выпалашчваць нацыянальны змест з гісторыі Беларусі”*[36]. У якасці адной з галоўных установак выдання ён з ходу назваў тое, што ў ім праводзілася ідэя *“выключнай ролі расейскага народу ў гісторыі беларускага і іншых народаў СССР”*, прычым з гісторыі беларускага народа была *“жыўцом выкінутая цэлая эпоха — эпоха Вялікага Княства Літоўскага”*, быццам варожай беларусам дзяржавы. Наогул, у гэтым томе *“адсутнічае гісторыя беларускага народу”*, сцвярджаў П. Урбан, таксама як і ўвесь нацыянальны рух і супраціў бальшавікам[37]. Увесь двухтомнік гісторыі Беларусі, якім так ганарылася кіраўніцтва Інстытута гісторыі, тут эмацыйна названы *“хвальшыўкай”*, а шматгадовая праца па яго падрыхтоўцы — *“камедыяй”*.

Пасля крытычнай ацэнкі абагульняльнай працы П. Урбан звярнуўся да манаграфічных выданняў па гісторыі Беларусі. За перыяд ад завяршэння Другой сусветнай вайны да 1960 г. у Мінску выйшла некалькі дзясяткаў такіх прац, аднак, як справядліва адзначыў даследчык, дасавецкаму мінуламу народа прысвячалася толькі іх маленькая частка, абсалютная ж большасць — савецкай эпосе, найперш утварэнню БССР. І ў планах Інстытута гісторыі АН БССР на сямігодку (1959–1965) з 36 прынятых тэм ажно 20 былі звязаны з сацыялістычным будаўніцтвам і савецкай партызанкай. Толькі лібералізацыяй, санкцыянаванай у 1956 г., даследчык тлумачыў *“невялікі ўхіл у бок тэматыкі з гістарычнага мінулага Беларусі”*. У той час беларускія гісторыкі звярнуліся да больш аб’ектыўнага вывучэння свайго мінулага, прызнаў П. Урбан і аднёс да найбольш вартых выданняў эпохі адлігі працу Мікалая Алексютовіча пра Скарыну[38], манаграфію Анатоля Смірнова пра Каліноўскага[39], гістарычныя нарысы пра Полацк[40] і два тамы

---

34 Тамсама, с. 209.

35 Тэмай дысертацыі, абароненай П. Урбанам на гістарычным факультэце Лёвенскага ўніверсітэта, была тэма *“Вялікае Княства Літоўскае ў часы вялікага князя Аляксандра (1492–1506)”*.

36 П. Урбан, *Стан вывучэньня гісторыі ў БССР,* с. 203.

37 Тамсама, с. 208, 209–210.

38 М. Алексютовіч, *Скарына. Яго дзейнасць і светапогляд,* Мінск, 1958.

39 А. Смірноў, *Кастусь Каліноўскі ў паўстанні 1863 года,* Мінск 1959.

40 К. Поликарпович, Э. Загорульский, *История Полоцка: очерки,* Минск 1962.

гістарычных дакументаў, падрыхтаваныя акадэмічнымі гісторыкамі[41]. Аднак палітыка партыі хутка зноў змянілася, і пасля XXII з'езда КПСС усталяваўся рэакцыйны рэжым, горшы за той, што панаваў у апошнія гады жыцця Сталіна, сцвярджаў даследчык. Менавіта пры Хрушчове пачалася палітыка русіфікацыі — насаджэнне *"мовы вялікага народу"*. Гэтая палітыка ажыццяўлялася *"пры помачы выкаранення так званага "буржуазнага нацыяналізму" з гісторыі нерасейскіх народаў"*, калі працы гісторыкаў з саюзных рэспублік ацэньваліся не паводле іх навуковай вартасці, *"...але вылучна згодна таго, наколькі яны адлюстроўваюць "гістарычную веліч" расейскага народу, ці наколькі ідэалізуюць "прагрэсіўную ролю" Расейскай імперыі"*[42]. Не без падстаў называючы хібай дамінаванне сацыяльна-эканамічнага аспекту ў працах беларускіх гісторыкаў і занядбанасць палітычнай гісторыі ды культуры, П. Урбан сцвярджаў, што даследаванне мінулага ў Беларусі звялося да практыкі вывучэння *"звычайнай правінцыі Расіі"*. Нават у развагах пра 8-томную *"Гісторыю БССР"*, пра якую заяўлялі ў Мінску[43], гаварылася, што ў ёй павінна найперш быць паказаная *"неразрыўная сувязь гісторыі беларускага народа з гісторыяй вялікага рускага народу"*, таму новая абагульняльная праца можа быць толькі копіяй разгледжанага двухтомніка, ці *"апалёгіяй расейскага каляніялізму ў Беларусі"*[44],— заключаў суровы крытык.

На прарасійскую тэндэнцыйнасць тагачаснага гісторыяпісання Беларусі П. Урбан указваў неаднаразова і звязваў яе з палітыкай Масквы, якая, маўляў, толькі прыкрываецца лозунгам *"пралетарскага інтэрнацыяналізму"*, а на справе кіруецца інтарэсамі расійскага вялікадзяржаўнага шавінізму. З залежнасці гістарычнай навукі БССР ад Масквы ён выводзіў яе найбольшую (у параўнанні з іншымі савецкімі рэспублікамі) русіфікаванасць і беспрыкладную фальсіфікацыю гісторыі. *"Гісторыя іншых нерасейскіх народаў СССР не перажыла падобнага хвальшавання, як гэта сталася з гісторыяй беларускага народу"*,— сцвярджаў гісторык. Калі ў іншых рэспубліках, тлумачыў ён, пры ўсёй тэндэнцыйнасці, асвятленне гісторыі *"усё ж захоўвае сваё нацыянальнае аблічча й сваю гістарычна-нацыянальную цягласць"*, то гісторыя беларускага народа *"фактычна зусім зліквідаваная з лёгкае*

[41] *Белоруссия в эпоху феодализма. Сборник документов и материалов: в 3 т.*, т. 1: *С древнейших времен до середины XVII в.*, Минск: АН БССР, 1959; т. 2: *С середины XVII до конца XVIII в. – до воссоединения с Россией,* Минск: АН БССР, 1960.

[42] П. Урбан, *Стан вывучэньня гісторыі ў БССР,* с. 212–213, 215.

[43] Гл.: И. С. Кравченко, *Некоторые итоги и перспективы развития исторической науки в Белорусской ССР,* "История СССР", 1962, № 1, с. 218.

[44] П. Урбан, *Стан вывучэньня гісторыі ў БССР,* с. 214.

*рукі Масквы”*. Паказваючы, што фальшаванне ажыццяўлялася нават у выданні архіўных дакументаў, аўтар прывёў у прыклад згаданыя тамы зборніка *“Белоруссия в эпоху феодализма”*, у якія, як заўважыў даследчык, былі сабраныя толькі тыя дакументы, якія адпавядалі прарасійскай канцэпцыі. Другую прычыну такога стану гістарычнай навукі ў БССР аўтар бачыў у бяспрыкладным па маштабе вынішчэнні кадраў беларускай гістарыяграфіі пры Сталіне (ён піша: *“Падобных рэпрэсіяў і абмежаванняў у даследаванні гісторыі собскага народу не перажывала ніводная з іншых савецкіх нацыянальных рэспублікаў!”*) і ў тым, што з 30-х гадоў нацыянальная гісторыя ў сярэдніх і вышэйшых школах рэспублікі не выкладалася[45].

Паслядоўна крытыкуючы афіцыйную канцэпцыю гісторыі Беларусі, П. Урбан асабліва шмат увагі надаваў абвяржэнню асноўнага тэзіса пра тое, што беларускі народ атрымаў дзяржаву толькі дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі. Сам даследчык, як і прадстаўнікі першай школы нацыянальнай гістарыяграфіі, выводзіў станаўленне беларускай дзяржаўнасці з Полацкага княства, якое *“жыло сваім самастойным жыццём”*. Полацк не падпарадкоўваўся Кіеву, сцвярджаў П. Урбан, а тэорыю адзінай старажытнарускай народнасці лічыў наогул несур’ёзнаю[46]. Што да ВКЛ, то эміграцыйны беларускі навуковец прызнаваў яго заснавальнікамі літоўцаў, аднак пры гэтым схіляўся да таго, каб саму Літву лічыць племем славянскім. З іншага боку, ён сцвярджаў, што пры ацэнцы нацыянальнага характару Княства важней не тое, хто яго засноўваў, а тое, *“чым яно сталася ў працэсе свайго развіцця й існавання”*. Дык вось, працэс развіцця ВКЛ, на думку П. Урбана, *“засведчыў яго чыста беларускі характар, а значыцца й Вялікае Княства Літоўскае было беларускай нацыянальнай дзяржавай”*[47] — верыў даследчык.

Праблеме нацыянальнага характару ВКЛ гісторык неўзабаве прысвяціў спецыяльны аб’ёмісты артыкул, у якім зноў востра раскрытыкаваў падыходы навукоўцаў БССР да гісторыі гэтай дзяржавы[48]. Там ён яшчэ раз падкрэсліў, што ў выніку мэтанакіраванага фальшавання перыяд ВКЛ *“зусім выкінуты з нашага гістарычнага мінулага”*. У БССР няма даследаванняў, прысвечаных гісторыі ВКЛ ці мінуламу беларускага народа гэтага перыяду, а ў абагульняльных працах гісторыя асвятляецца так, быццам беларускі народ у тым перыядзе перажываў *“нацыянальнае прыгнечанне”* і няспынна змагаўся супраць прыгнятальнікаў за аб’яднанне *“з вялікім рускім народам”*,

45 П. Урбан, *Стан вывучэньня гісторыі ў БССР,* с. 216, 218.

46 Тамсама, с. 219.

47 П. Урбан, *Стан вывучэньня гісторыі ў БССР,* с. 220–221.

48 П. Урбан. *Пра нацыянальны характар Вялікага Княства Літоўскага й гістарычны тэрмін “Літва”*, “Запісы”, Мюнхэн 1964, кн. 3, с. 35–89.

падкрэсліў П. Урбан і ў якасці прыкладу такога асвятлення мінулага прывёў акурат акадэмічную *"Гісторыю БССР"*[49].

У цытаваным артыкуле гісторык паслядоўна сцвярджаў ідэю выключнага значэння ВКЛ як дзяржавы і самой эпохі ВКЛ для беларусаў. Прыводзячы мноства гістарычных фактаў у абвяржэнне тэзіса пра антыбеларускі характар ВКЛ, эміграцыйны даследчык указваў, што, наадварот, гэтая дзяржава была славянскай (беларускай), і беларускі народ выяўляў *"літоўскі патрыятызм"*, ахвярна абараняючы ВКЛ ад знешніх агрэсараў, у т. л. ад Масквы, а спадчына гістарычнай Літвы *"захавала наш народ ад нацыянальнае смерці праз наступныя стагоддзі і жывіць яшчэ й сёння"*[50].

Чаму ж у працах тагачасных гісторыкаў БССР так паслядоўна ачарнялася ВКЛ, недаацэньвалася ці ігнаравалася дасавецкае мінулае Беларусі? За такой устаноўкай П. Урбан зноў бачыў палітыку Масквы. Бо прызнанне факта, што беларускі народ меў асаблівую гісторыю, падрывала б як тэорыю адзінай старажытнарускай народнасці, так і канцэпцыю гістарычнай пераемнасці Кіеў — Масква — Расійская імперыя. Наогул, сапраўдная гісторыя Беларусі, асабліва гісторыя ВКЛ, азначала б фіяска вялікадзяржаўніцкіх канцэпцый, сцвярджаў ён і заключаў: фальшаванне гісторыі ВКЛ адбываецца дзеля таго, каб утрымліваць Беларусь у расійскай арбіце, а *"казённая бэсэсэраўская гістарыяграфія"*, якая гэтым займаецца, служыць інтарэсам Масквы[51].

На старонках *"Запісаў"* змястоўна крытыкаваў гістарычную навуку БССР і Станіслаў Станкевіч, тагачасны рэдактар гадавіка БІНІМу і спецыяліст у галіне мовазнаўства і літаратуры, які ў свой час атрымаў ступень доктара ў Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя. З яго публікацый асабліва варты ўвагі аналіз дыскусіі вакол *"Нашай Нівы"* і звязаных з ёю лідараў беларускага нацыянальнага адраджэння, распачатай у 1956 г. у Мінску[52]. Перамены, якія адбываліся ў савецкай Беларусі ў сувязі з асуджэннем культу асобы Сталіна і палітычнай лібералізацыяй у СССР, ён называў *"рэгабілітацыйным рухам"*. Даследчык узяў за аснову ацэнкі газеты, дадзеныя ў 1 томе *"Гісторыі БССР"* абодвух выданняў (1954 і 1960 г.), дзе *"Наша Ніва"* рэкламавалася як контррэвалюцыйны і рэакцыйны орган друку, ды паказаў, што асноўныя довады пра такі характар *"Нашай Нівы"* або зусім галаслоўныя, ніяк не падмацаваныя фактамі, або сталі вынікам тэндэнцыйнай

[49] Тамсама, с. 35.

[50] Тамсама, с. 75, 89.

[51] П. Урбан, *Стан вывучэньня гісторыі ў БССР*, с. 221, 225.

[52] С. Станкевіч, *Савецкае асуджэньне "Нашай Нівы" й спробы ейнай рэгабілітацыі,* "Запісы", 1964, кн. 3, с. 91–115.

інтэрпрэтацыі вырваных з кантэксту асобных фактаў. Гэта было *"настырлівае хвальшавашьне"* гісторыі, ад якога з пачаткам палітычнай лібералізацыі ў Мінску спрабавалі адмовіцца і зняць з *"Нашай Нівы"* кляймо рэакцыйнага выдання. У якасці першай спробы рэабілітацыі газеты С. Станкевіч разглядаў асцярожны артыкул Міхася Ларчанкі ў *"Літаратуры і мастацтве"*[53], жорстка раскрытыкаваны афіцыйнымі гісторыкамі ў партыйным органе (гл. спас. 8). Як напісаў даследчык, партыйнае кіраўніцтва БССР парадаксальным чынам пад лозунгамі дэсталінізацыі захавала вернасць тым дагматычным пазіцыям, якія прымаліся пры Сталіне, і гэта яскрава засведчыла тэндэнцыйнасць другога выдання *"Гісторыі БССР"*, яшчэ большая, чым першага[54]. Аднак афіцыйная характарыстыка *"Нашай Нівы"* настолькі разыходзілася з гістарычнай праўдай, што партыі не ўдалося прадухіліць другой спробы яе рэабілітацыі: на старонках *"Полымя"* з'явіўся артыкул Міколы Вераб'я[55], які паспрабаваў паказаць прагрэсіўны і рэвалюцыйны характар газеты. Тады гэтую публікацыю яшчэ вастрэй заатакаваў ужо цэлы калектыў аўтараў у цэнтральным органе ЦК Камуністычнай партыі Беларусі[56]. Яшчэ праз год гэты ж часопіс у ананімным рэдакцыйным артыкуле[57] асудзіў за адыход ад ранейшых ацэнак самога Цімафея Гарбунова, члена ЦК КПБ і акадэміка АН БССР, які ў сваёй маскоўскай публікацыі ахарактарызаваў *"Нашу Ніву"* як газету *"ярка дэмакратычнага характару"*, прагрэсіўную і рэвалюцыйную[58]. Рэзкай ананімкай *"партыя сказала сваё апошняе аўтарытэтнае слова й гэтым перасекла ўсякую далейшую дыскусію"*, падсумаваў аўтар і яшчэ раз падкрэсліў, што ацэнкі *"Нашай Нівы"*, дадзеныя ў акадэмічнай *"Гісторыі БССР"* і неаднаразова паўтораныя партыйнымі гісторыкамі ў сувязі са спробамі рэабілітацыі газеты, узніклі ў гады культу асобы Сталіна і мелі *"ўсе характэрныя азнакі гэтага культу"*[59].

53 М. Ларчанка, *Некаторыя пытанні гісторыі беларускай літаратуры,* "Літаратура і мастацтва", 1956, № 47, с. 2–4; Л. Абэцэдарскі, А. Сідарэнка, *За ідэйную чыстату нашых літаратурных пазіцый,* "Звязда", 1957, 12 студзеня, с. 2.

54 С. Станкевіч, *Савецкае асуджэньне "Нашай Нівы" й спробы ейнай рэгабілітацыі,* с. 105.

55 М. Верабей. *Ленінскі твор на старонках газеты "Наша Ніва",* "Полымя", 1961, № 2, с. 132–136.

56 Л. Абецедарский, О. Ефремова, Е. Корнейчук, К. Шабуня, *Вопреки историческим фактам,* "Коммунист Белоруссии", 1963 № 5, с. 64–69.

57 *Противоречивые суждения по одному вопросу,* "Коммунист Белоруссии", 1964, № 9, с. 74.

58 Т. Горбунов, *Книгопечатание в Белоруссии конца XIX – начала XX в.,*[в:] *400 лет русского книгопечатания. 1564–1964* / Академия наук СССР, т. 1, Москва 1964, с. 565–566.

59 С. Станкевіч, *Савецкае асуджэньне "Нашай Нівы" й спробы ейнай рэгабілітацыі,* с. 114–115.



**Станіслаў Станкевіч (1907–1980)**



**Янка Запруднік**

З абгрунтаванай крытыкай у адрас гісторыкаў БССР у сваіх публікацыях на старонках тых жа *"Запісаў"* не раз выступаў і Янка Запруднік, таксама выпускнік Лёвенскага ўніверсітэта. У прыватнасці, публікуючы матэрыялы пра I Усебеларускі З'езд 1917 г., ён папракаў паслясталінскую гістарыяграфію, што тая неахвотна згадвае пра гэтую вехавую падзею, а 2-гі том *"Гісторыі БССР"* прысвяціў ёй *"усяго паўтары балонкі прапаганды, пры гэтым пустое"*, залічваючы ўдзельнікаў з'езда ў *"нацыяналісты і правыя эсэры"*[60].

У апошнія гады адлігі да крытычнага агляду гісторыяпісання БССР далучыўся і навуковы часопіс Англа-Беларускага Таварыства, які змяшчаў, напэўна, найбольш узважаныя рэцэнзіі. Спачатку ў *"Часопісе Беларускіх Даследаванняў"* з'яўляліся кароценькія анатацыі і нататкі пра публікацыі па гісторыі і культуры Беларусі, а ўжо з другога нумара на яго старонках друкаваліся цалкам змястоўныя агляды беларускіх часопісаў[61], рэцэнзіі на манаграфіі, часам дастаткова салідныя. Характэрным прыкладам узважанай, і ў той жа час прынцыпова крытычнай пазіцыі можна лічыць разгляд школьнага падручніка *"Гісторыя БССР"* пад рэдакцыяй Л. Абэцэдарскага[62]. У рэцэнзіі было адразу падкрэслена, што аўтары падручніка не вызваліліся ад канцэпцый гісторыкаў Расійскай імперыі і разглядаюць Польшчу, Нямеччыну і Швецыю *"як смяротную пагрозу сям'і ўсходнеславянскіх народаў"*, тады як усялякую сувязь беларусаў ці ўкраінцаў з Расійскай імперыяй лічаць праявай прагрэсу, і любыя сацыяльныя сілы, дзеянні якіх не адпавядалі такому

[60] Я. Запруднік, *Да Першага Ўсебеларускага Зьезду 1917 г.,* "Запісы", 1964, кн. 3, с. 131–176, с. 131–132.

[61] Варта адзначыць, што з перыёдыкаў асабліва падрабязна разглядаўся змест нумароў *"Полымя"*, якое было справядліва названа *"несумненна найбольш сур'ёзным на сёння беларускім часопісам"*, значэнне якога *"далёка перасягае сферу літаратуры"*. Гл.: "The Journal of Byelorussian Studies" (далей — JBS), 1967, vol. 1, nr. 3, p. 258–259.

[62] *Гісторыя БССР: вучэб. дапам. для вучняў сярэдняй школы* / Л. С. Абэцэдарскі, М. П. Баранава, Н. Г. Паўлава, Мінск 1965. Рэц.: JBS, 1966, vol.1, nr. 2, p. 123–126.

погляду, класіфікуюцца імі як *“чужыя валадары ці элементы варожага класу”*. Таму шляхта ВКЛ выдаецца за літоўскіх і польскіх прыгнятальнікаў, хоць яна ў большасці была *“чыста русінскага роду”*. У гэтай сувязі невядомы крытык (рэцэнзія апублікавана без указання аўтарства) звярнуў увагу на вялізнае перабольшванне ступені феадальнага прыгнёту ў ВКЛ савецкімі гісторыкамі і адзначыў, што ў Расіі ён несумненна быў мацнейшы. Пярэчанне выклікала і катэгарычна негатыўнае рэкламаванне царкоўнай уніі 1596 г. у падручніку. Аўтар указваў, што, з улікам усіх акалічнасцей пашырэння новай канфесіі, усё ж ніхто не можа ставіць пад сумнеў *“вельмі важнай ролі грэка-каталіцкай царквы ў захаванні ідэнтычнасці беларускага народу”*. Унію некаторыя гісторыкі лічылі нацыянальнай царквой, і такі погляд на яе быў *“нядаўна падтрыманы савецкім гісторыкам Пращковічам”*[63], падкрэсліў даследчык. Далей аўтар на фактах абвяргаў ідылічную карціну *“трыумфальнай вайны за вызваленне прыгнечаных братоў”*, як Абэцэдарскім была прэзентаваная вайна 1654–1667 гг., і звяртаў увагу на тое, што падзеі ў Беларусі ў XIX ст., пачынаючы ад кампаніі Напалеона, у падручніку паказаны не з беларускага, а з расійскага пункту гледжання.

Цікава, што беларуская эміграцыя ў Лондане адразу ж заўважыла і ацаніла гісторыкаў-іншадумцаў, якія ў Мінску адважыліся выступіць з крытыкай афіцыйнай гісторыі. У цытаванай рэцэнзіі на падручнік адзначалася, што адыёзную канцэпцыю ВКЛ як чужой для беларусаў дзяржавы *“энергічна заатакавалі больш прагрэсіўныя савецкія гісторыкі, асабліва марксіст Алексютовіч і ў пэўнай ступені М. Прашковіч”*[64].

У анатацыі на кнігу *“Беларуская дакастрычніцкая проза”* крытык справядліва абураўся падборам твораў і асабліва *“асуджэннем літаратуры з палітычных прычынаў”*, якое абярнулася адсутнасцю важных тэкстаў Вацлава Ластоўскага, Алеся Гаруна, Язэпа Лёсіка і іншых пісьменнікаў у анталогіі прозы[65]. Падобныя заўвагі адрасаваліся складальнікам выдання *“Беларуская дакастрычніцкая паэзія”* (1967)[66]. Дастаткова крытычна была разгледжана таксама кніга Сцяпана Майхровіча пра Францішка Скарыну[67], якая, згодна з высновай рэцэнзента, праз мноства памылак і пропускаў мала дадавала ў веды пра геніяльнага палачаніна. Аўтару ставілася ў віну галоўным чынам *“паліткарэктнасць”*, з-за якой ён удаваўся ў фантазіі, нават калі выкарыстоўваў дакументы (як у эпізодзе з “прывабнасцю”

[63] Меўся на ўвазе артыкул М. Прашковіча *“Слова пра Афанасія Філіповіча”* (“Полымя”, 1964, № 6, с. 166–171).

[64] JBS, 1966, vol. 1, nr. 2, p. 123.

[65] JBS, 1967, vol. 1, nr. 3, p. 240–241.

[66] JBS, 1968, vol. 1, nr. 4, p. 360.

[67] С. Майхровіч, *Георгій Скарына,* Мінск 1966.

Масквы для Скарыны), і наогул напісаў пра беларускага перакладчыка і друкара *"з маскоўскай перспектывы"*[68].

Каб запярэчыць уражанню аб тэндэнцыйнай устаноўцы на крытыку, трэба падкрэсліць, што ў аглядах беларускай літаратуры нярэдкімі былі і пазітыўныя водгукі. З выданняў акадэмічных гісторыкаў, напрыклад, станоўчую ацэнку атрымала манаграфія Зіновія Капыскага пра беларускія гарады[69]. Рэцэнзент аддаў належнае навуковаму ўзроўню аўтара і яго заключнай выснове, згодна з якой беларускія гарады не заняпалі ў XVII ст., як гэта раней сцвярджалася ў савецкай гістарыяграфіі, а працягвалі развівацца, хоць і павольна. Цалкам пазітыўна ацэньваліся працы гісторыкаў літаратуры Генадзя Кісялёва *"З думай пра Беларусь"* (1966), Адама Мальдзіса *"Творчае пабрацімства"* (1966)[70], а таксама Аркадзя Жураўскага *"Гісторыя беларускай літаратурнай мовы"* (т. 1, 1967)[71].

Асаблівае месца ў рубрыцы кніжных аглядаў занялі рэцэнзіі Аляксандра Надсана, якія вылучаюцца прадметнасцю заўваг і кампетэнтнасцю аўтара. Напрыклад, разглядаючы мінскі зборнік, прысвечаны 450-годдзю беларускага кнігадрукавання[72], далёкі ад усялякай палітыкі аўтар пазітыўна ацаніў навуковую вартасць большасці артыкулаў, а затым паказаў хібы няўдалых публікацый (асабліва В. Зайцава, але не толькі, дасталася і М. Прашковічу з М. Алексютовічам, якія вызначыліся крытыкай афіцыйнай версіі гісторыі БССР), пералічыў мноства канкрэтных недахопаў і назваў артыкулы, якія сваім зместам проста не адпавядалі тэме зборніка. Хоць рэдактарам не ўдалося паказаць цэльную карціну развіцця беларускага кнігадруку, *"многія матэрыялы зборніка вельмі каштоўныя і з'яўляюцца важным унёскам у развіццё даследаванняў Скарыны і яго твораў"*, — заключыў рэцэнзент. Таксама карэктна А. Надсан адрэцэнзаваў абагульняльную працу па гісторыі беларускай літаратуры[73]. Найвышэй ён ацаніў раздзел пра летапісы, напісаны Вячаславам Чамярыцкім. З заўвагамі, але пазітыўна былі ахарактарызаваныя раздзелы Мікалая Прашковіча пра Сімяона Полацкага і палітычную сатыру, а таксама Аляксандра Коршунава пра беларускую літаратуру другой паловы XVI — першай паловы XVII ст. (хоць тут апошняму не без падстаў інкрымінавалася

68 JBS, 1967, vol. 1, nr. 3, p. 246–248.

69 З. Ю. Копысский, *Экономическое развитие городов Белоруссии (XVI–XVII вв.),* Минск 1966. Рэц.: JBS, 1968, vol. 1, nr. 4, p. 351.

70 JBS, 1968, vol. 1, nr. 4, p. 352–355.

71 JBS, 1969, vol. 2, nr. 1, p. 112–115.

72 *450 год беларускага кнігадрукавання*/ рэд. К. К. Атраховіч, Мінск 1968. Рэц.: JBS, 1969, vol. 2, nr. 1, p. 101–104.

73 *Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры,* т. 1: *З старажытных часоў да канца XVIII ст.* / рэд. В. Барысенка, Мінск 1968. Рэц.: JBS, 1969, vol. 2, nr. 1, p. 110–112.



**Аляксандр Надсан (1926–2015)**

канфесійная заангажаванасць пры аналізе выданняў палемічнай літаратуры). А найбольш крытыкі атрымаў Вячаслаў Зайцаў, які пісаў пра Францішка Скарыну: яго веды па тэме, як паказаў рэцэнзент, аказаліся занадта імглістыя. Агулам жа А. Надсан даў разгледжанаму тому добрую ацэнку і ўбачыў у ім сведчанне таго, што даследаванні даўняй літаратуры Беларусі за апошняе дзесяцігоддзе *"прыкметна прагрэсавалі"*. Такім чынам, тут цяжка было знайсці падставы, каб папракнуць аўтара ў *"неўспрыманні ўсяго, што робіцца і пішацца за межамі вольнага свету"* і *"адсутнасці плюралізму"*, а такія папрокі беларускія інтэлектуалы з Мінска маглі выказаць сваім крытыкам з эміграцыі нават у гады позняй перабудовы[74].

Але ці мела гэтая крытыка нейкае ўздзеянне на гістарыяграфію БССР часоў адлігі? Гэта яшчэ трэба высвятляць. Цікава, што менавіта тады ў акадэмічным Інстытуце гісторыі пачалі займацца публікацыямі беларускай эміграцыі. Так, у лютым 1959 г. на пасяджэнні вучонай рады названай установы супрацоўнік Г. Верасаў знаёміў калектыў з арганізацыямі беларускай эміграцыі і яе перыёдыкамі, а таксама прэзентаваў спіс *"некаторых манаграфій, выдадзеных беларускімі нацыяналістамі"*[75]. З сур'ёзных прац, датычных гістарыяграфіі, там ужо фігуравала цытаваная вышэй кніга *"Савецкае хвальшаваньне гісторыі"* Беларусі Я. Станкевіча. А ў верасні 1967 г. на партыйным сходзе супрацоўнікаў акадэмічнага інстытута яго дырэктарка Ніна Каменская вызначыла ў якасці адной з галоўных задач падначаленага ёй калектыва *"напісанне навуковых і навукова-папулярных прац, якія выкрываюць буржуазных фальсіфікатараў гісторыі СССР і БССР"*[76]. Яшчэ праз год па рашэнні Прэзідыума АН БССР для барацьбы з *"фальсіфікатарамі гісторыі Беларусі"* і выкрывання *"паклёпніцкіх выдумак"* аб мінулым беларускага народа ў складзе названага інстытута быў

74 Гл.: Б. Сачанка, *Беларуская эміграцыя*, Мінск 1991, с. 80.

75 *Цэнтральны Навуковы Архіў Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі*, Ф. 3, воп. 1, спр. 339, с. 44-45.

76 *Нацыянальны Архіў Рэспублікі Беларусь* (далей – НАРБ), Ф. 1353, воп. 2, спр. 784, с. 74.

заснаваны адмысловы сектар замежнай гістарыяграфіі[77]. Вядома, названы сектар ствараўся ў адпаведнасці з пастановамі Красавіцкага (1968 г.) Пленума ЦК КПСС і Чэрвеньскага Пленума ЦК КПБ, прынятымі пасля агульнага абвастрэння супрацьстаяння савецкага блока з Захадам у выніку ўвядзення савецкіх войск у Чэхаславакію, аднак у фокусе яго ўвагі мусіла быць найперш дзейнасць беларускай эміграцыі. Невыпадкова супрацоўнікам новага падраздзялення даручалася *"изучать то, что издается за рубежом по истории Белоруссии"*,— з тым, каб *"давать решительный отпор клеветникам"*[78]. Так што крытычныя галасы гісторыкаў з беларускай эміграцыі, трэба думаць, былі прынамсі пачутыя Мінскам.

## Streszczenie

Hienadź Sahanowicz, *Krytyka historiografii BSRR z czasów odwilży w białoruskiej prasie emigracyjnej*

Po II wojnie światowej, kiedy w Mińsku przyjęto oficjalną koncepcję historii narodowej, wyłożoną w akademickiej *Historii BSRR,* publicznie nie poddawano jej głównych założeń krytycznej dyskusji, nawet w okresie odwilży. Jedynym fundamentalnym przeciwnikiem historiografii BSRR została emigracja białoruska, która dysponowała ograniczonym potencjałem kadry i periodyków. Artykuł ogranicza się do analizy trzech tytułów emigracyjnych — *Belarusian Review* (Monachium), *Zapisy* (Nowy Jork i Monachium) i *The Journal of Belarusian Studies* (Londyn), które regularnie publikowały przegląd i poważną krytykę historycznej literatury sowieckiej Białorusi. Autorami ich byli wiodący przedstawiciele humanistyki emigracyjnej w tamtych czasach: Janka Stankiewicz, Stanisław Stankiewicz, Janka Zaprudnik, Aliaksandr Nadsan i Paula Urban (ten ostatni wystąpił z profesjonalną analizą stanu nauk historycznych w Mińsku). Oceniając oficjalną koncepcję *Historii Białorusi* skrajnie negatywnie, chcieli obalić tezę, że WKL było państwem antybiałoruskim, a naród białoruski uzyskał swoją państwowość tylko dzięki rewolucji październikowej. Pogląd historyków emigracyjnych był wręcz odwrotny — uważali WKL za państwo słowiańskie (białoruskie), które miało wyjątkowe znaczenie dla Białorusinów.

W przeglądach literatury historycznej z BSRR nierzadko zdarzały się też i pochlebne opinie. Pozytywnie zostały ocenione np. monografie Zinowija Kapyskiego, Hienadzia Kisjaljowa, Adama Maldzisa i Arkadzia Żurauskiego. Emigracja białoruska od razu zauważyła i wysoko ceniła historyków o odmiennych

[77] Пар.: В.Ц. Леанавец, *Удасканальванне арганізацыі гістарычнай навукі ў БССР (60-я гады),* "Весці АН БССР. Серыя грам. навук", 1986, № 1, с. 78.

[78] НАРБ. ф. 1353, воп. 2, спр. 847, с. 68–70.

як яны, ідучы служыць у савецкую армію, бралі з сабой невялікага фармату Евангеллі: "*Была с собой в армии маленькая Евангелька. Всё время тут держал* (паказвае рукой на грудзі з левага боку, каля сэрца — Т. К.)"[37].

Часта бацькі дарылі такія Евангеллі сваім сынам перад іх адыходам у армію. Пры гэтым сведкі распавядаюць, што вельмі складана было ўтрымаць пры сабе Святое Пісанне. Наратывы пра тое, як Біблію/Евангелле ўдалося захаваць або вярнуць назад у выпадку канфіскацыі, вернікі напаўняюць цудадзейнасцю: "*Когда я шёл в армию, мама мне подарила Евангелле маленькое. Всегда оно было у меня в кармане. Другой раз нас проверяли. Вот в шеренгу поставят и –"выверни карманы". Один-два проспустит, той –"выверни карманы". Ну, и я стою. Коло меня: "Выверни карманы". Ну, пронесло. Не обнаружили, что у меня Евангелле. Потом через год-полгода проверка личных вещей. Уже проверяли сложнее, по отдельности, вещмешок твой, твои вещи, и всё досконально проверяли. А тут в кармане Евангелия. Я думаю, куда мне её деть? Я сюда под пояс, под нижнее бельё, и под пояс и всё. Ну, проверяют, всё проверили, всё нормально. Сново пронесло. На втором-третьем году была проверка. Мы работали, а наши вещи были в казарме. И находят мою Евангелию. Только я подхожу, а дневальный выбегает: «Муха, у тебя Библию нашли». Кричит. Ну, то что. Особо претензий не имели. Но только: «А зачем ты носишь? А почему ты держишь?» Я говорю: «Позвольте, если мама мне дала как подарок, неужели я должен выбросить его? Я его и ношу». Ну, забрали. Ну, пару раз вызвали на беседы. А уже под осень один из товарищей: "Муха, я знаю, где твоя Библия лежит". А тот парторг у его комнате, у него там книги разные. И там моё Евангелие. А тот солдат убирал или что. И уже мне потом: "Я знаю, где твоё… Я могу забрать". Ну, говорю: "Забери". Он хоп и забрал. А он про неё забыл, тот парторг. И я снова имею Евангелие. И вот так она мне вернулась. И так я привёз её домой*"[38].

Калі паглядзець на фотаздымкі вернікаў баптыстаў, звяртае на сябе ўвагу тое, што фатаграфаваліся яны з Бібліямі ў руках.

Біблія была нібыта знешнім маркерам, які адрозніваў баптыстаў ад іншых, ствараў іх асаблівасць. Фатаграфаванне з Бібліямі ў руках было характэрным для даваеннага часу ў Заходняй Беларусі, у савецкі перыяд такая яўная маркіроўка амаль адсутнічала. Верагодна гэта было звязана з тым, што, па-першае, не хапала Біблій, па-другое, сярод шматлікіх вернікаў існаваў страх перад ганеннямі і нават фотаздымак з Бібліяй мог выклікаць пераслед з боку ўлад.

[37] Дарафей Л., 1929 г.н., запісана 10.09.2015 г., г. Брэст, Тацянай Касатай.

[38] Мікалай М., 1932 г.н., запісана 27.08.2014 г., г. Брэст, Тацянай Касатай.



**Вернікі з Бібліямі, Заходняя Беларусь, 1932 г. Асабісты архіў**

Слова Божае суправаджала евангельскіх хрысціян-баптыстаў паўсюль. Варта ўзгадаць, што ў іх дамах віселі і зараз таксама вісяць шыльды з надпісамі са Святога Пісання. Гэтыя шыльды выразаюцца з дрэва, або ўрыўкі з Бібліі пішуцца на вялікіх аркушах паперы, таксама сустракаюцца надпісы, вышытыя на тканіне. У савецкі перыяд быў распаўсюджаны нелегальны друк паштовак з біблійнымі тэкстамі[39]. Такія паштоўкі часта атрымлівалі вернікі, якія апынуліся ў турмах і працоўных лагерах.

Адной з тэм спеваў падчас малітоўных сходаў з'яўлялася Біблія:

*Люблю, Спаситель, в Книге дивной*
*Слова любви Твоей читать*
*И вести радостной, призывной*
*Люблю восторженно внимать*
*Открой сердца детей Своих*
*И Сам войди, о Боже, в них!*
*Дай слово им Твое принять*
*И мир вкусить святой опять!*
*Ведь слово Божье — мощный дух*
*И может исцелить недуг;*

39 НАРБ, ф. 136, воп. 1, спр. 32, арк. 69.

*Оно спасенных веселит*
*И от паденья их хранит.*
*Хвала Тебе, о Боже мой,*
*Отец и Сын и Дух Святой!*
*Хвала за дар любви Твоей,*
*За слово жизни для людей*[40].

Біблія змяняла і лексіку вернікаў. Іх размовы заўсёды насычаныя выказваннямі са Святога Пісання. Адзін з вернікаў узгадваў, што, калі ён быў у працоўных лагерах, то аднойчы сустрэў аднаверца і атрымаў магчымасць нарэшце "*паразмаўляць на роднай Евангельскай гаворцы*"[41].

Згаданы вышэй Збігнеў Пасек сцвярджае, што Біблія як прадмет (не толькі як ідэя), праз які Бог прамаўляе да чалавека, захоўвала для баптыстаў частку святасці[42]. Таму трымалі яе каля сэрца ў арміі, яна заўсёды займала ганаровае месца ў доме, яе праслаўлялі ў песнях, урыўкі з яе паўсюль суправаджалі верніка. Пра атрыманне/захаванне Біблііі евангельскія хрысціяне-баптысты распавядалі містычныя гісторыі на ўзроўні цудаў.

Цудатворнасцю вернікі напаўняюць не толькі наратывы пра асабістае атрыманне Бібліі, але і пра яе шырокі распаўсюд. Адна са сведак наступным чынам тлумачыла, як з'явілася Біблія ў Беларусі: "*Золотой век пришёл, двинулась цивилизация, а почему? Потому что люди заедали один другога. Такой грех был, ненависть. А были люди, которые сказали:* "*Давайте нам эту Божью книгу*"*. И был Радзивил, пришёл педагог Скарына*"[43].

Але асноўную каштоўнасць і моц мела не кніга як прадмет, а праўдзівае Слова Божае, якое вернік павінен вывучаць, чытаць, каб "*жыць паводле Евангелля*"[44].

## Жыццё паводле Евангелля

"*Ну, мы ж с надеждой на Бога живём. Вы знаете, как говорится, слава Богу, стремимся так жить, как нас учит Евангелье. Вот так и мы живём. И так живём*"[45]. У савецкі час у пратэстантаў Біблія магла быць адзінай кніжкай у сям'і. Была яна таксама падручнікам для чытання, настаўлення ў жыцці і самаадукацыі.

---

40 Са зборніка духоўных песен *"Песня Адраджэння"* 1978 г. [online] http://lyrics.christian.by/v-nachale-sobraniya/365-lyublyu-spasitel-v-knige-divnoj.html [доступ: 11.03.2017].

41 Сшытак верніка, з фондаў Музея гісторыі рэлігіі, г. Гродна.

42 Z. Pasek, *Kultura religijna protestantyzmu*, s. 45.

43 Лідзія Х., 1936 г.н., запісана 8.09.2015 г., г. Брэст, Тацянай Касатай.

44 Мікалай М., 1932 г.н., запісана 27.08.2014 г., г. Брэст, Тацянай Касатай.

45 Мікалай М., 1932 г.н., запісана 27.08.2014 г., г. Брэст, Тацянай Касатай.

Адзін са сведак узгадваў, як атрымала яго маці Евангелле ад Лукаша Дзекуць-Малея: “*Кто хотел получить Библию в подарок, то должен был на память изучить главу или две з Нового Завета, от Луки, или от Тимофея, или… И вот я помню, мать заберёт меня на поле, она полит это просо, и шоб выучить эту главу давались такие листочки, там написано было Писание. И она учит, траву рвёт и учит Писание от Марка, от… И потом уже собирались туда и хто хорошо выучил, тому давали Евангелие или Библию, уже даром давали.* ***Но сначало надо было заработать, выучить****. А мать ни одного класса не кончила. Но она научилась от брата читать и писать*”[46].

Іншы сведка больш шырока патлумачыў выхаваўчую ролю Святога Пісання: “*Ушинский пишет: воспитывать может только воспитанный человек. А воспитанный может быть человек тот, который знает Евангелле там и всё. Вот в христианском таком духе. Только Евангелле может воспитать*”[47].

Як і сёння, вернікі ў Бібліі шукалі тлумачэння таму, што адбываецца. Напрыклад, падчас пасляваеннай калектывізацыі сярод баптыстаў і пяцідзясятнікаў былі распаўсюджаны эсхаталагічныя ідэі, вобразы. Як светапогляд, так і дзеянні евангельскіх хрысціян-баптыстаў фарміраваліся на падставе Святога Пісання.

Варта адзначыць, што ў савецкі перыяд у асяроддзі евангельскіх хрысціян-баптыстаў адсутнічала магчымасць развіцця багаслоўя, тэалагічных разважанняў. Гэта было звязана з рэпрэсіямі супраць адукаваных лідараў евангельскіх хрысціян, баптыстаў і пяцідзясятнікаў у 1930-я гг. (у Заходняй Беларусі амаль адразу пасля вайны), адсутнасцю для вернікаў магчымасці атрымаць як свецкую вышэйшую адукацыю, так і багаслоўскую[48], адарванасцю ад заходнееўрапейскай тэалогіі. Таму евангельскія хрысціяне-баптысты ў БССР успрымалі Біблію як кнігу пазнання і практычнага настаўлення ў жыцці, што дапамагала ім у асабістым развіцці (перамагаць свае заганы), давала трываласць у грамадскім, вельмі часта варожым, асяроддзі.

У Бібліі шукалі адказы на жыццёвыя пытанні, звярталіся да яе, каб зрабіць правільны выбар. Такая практыка лёсавання была даволі

[46] Сцяпан С., 1933 г.н., запісана 10.09.2015 г., г. Брэст, Тацянай Касатай.

[47] Віталь Х., 1938 г.н., запісана 26.08.2014 г., г. Брэст, Тацянай Касатай.

[48] Толькі ў 1968 г. у Маскве былі адкрытыя завочныя багаслоўскія курсы. У 1949 г. з 204 прэсвітараў 8 мелі сярэднюю адукацыю, астатнія — пачатковую, што датычыцца духоўнай/багаслоўскай адукацыі, то вышэйшую меў толькі адзін прэсвітар, сярэднюю — 5, 163 — зусім не мелі. *НАРБ*, фонд 952, воп. 2, спр. 33, арк. 15.




**Вернікі незарэгістраваных абшчын БССР на сустрэчы з нагоды вызвалення Зінаіды Вільчынскай, 1987 г. Фотаздымак верніка Васіля Ш. з г. Ваўкавыск, Гродзенская вобласць**

распаўсюджанай[49]. Зінаіда Вільчынская, верніца з г. Брэста, сябра нелегальнай праваахоўнай арганізацыі "Савет родзічаў вязняў" у сваіх успамінах узгадвала, як яна пасля вяртання з працоўнага лагера ў 1987 г. прыняла рашэнне далей дапамагаць вернікам, сваякі якіх патрапілі ў турму: "*Дзеці прынеслі мне шкатулку Божых абяцанняў, каб я дастала з яе біблійны верш. Мне трапіў верш Прытчы 31:8–9: "Адкрывай вусны твае за безгалосага і для абароны ўсіх сірот. Адкрывай вусны твае для правасуддзя і для справы беднага і ўбогага"*. […] *Я не сумнявалася, што гэта зрабіў Госпад.* […] *Я запыталася ў маей сям'і: "Што вы думаеце пра гэта? **Хто кажа праз гэты ўрывак з Пісання?**" — "**Госпад**".— "А калі Госпад кажа, ці магу я гэта праігнараваць? Ці магу я не паслухаць Яго?" — "Не",— адказаў мой муж*"[50].

Вернікі, прытрымліваючыся евангельскіх запаветаў у штодзённым жыцці, давалі прыклад добрага сем'яніна, сумленнага працаўніка, што з'яўлялася адной з форм евангелізацыі. Нават у савецкай літаратуры і архіўных дакументах апісваецца вобраз верніка ЕХБ як чалавека, які не ўжывае алкаголь, не лаецца, сумленна працуе (у гэтым савецкія

49 Z. Pasek, *Kultura religijna protestantyzmu*, s. 37.

50 *Пусть воды шумят. Христиане в ГУЛАГе*, составитель Георгий Винс [online] http://rusbaptist.stunda.org/pust_vody_shumyat.pdf [доступ: 11.03.2017].

чыноўнікі бачылі прыстасавальніцтва да савецкай рэчаіснасці), мае вялікую сям'ю, займаецца дабрачыннасцю.

Евангелізацыя з'яўлялася адным з галоўных сэнсаў баптызму і пяцідзясятніцтва, бо ў Бібліі гаворыцца: "*І прапаведана будзе гэтае Евангелле Царства па ўсім свеце, дзеля сведчання ўсім народам; і тады прыйдзе канец*" (Матф. 24:14). У савецкі перыяд дзейнасць па распаўсюджванні Евангельскай весткі амаль цалкам была забаронена. Але вернікі спрабавалі выконваць гэты запавет і займаліся евангелізацыяй.

Упаўнаважаныя Савета па справах рэлігій пастаянна пісалі пра евангелізацыю дзяцей, якая праяўлялася праз рэлігійнае выхаванне ў абшчынах і сем'ях ЕХБ. За што вернікі часта атрымлівалі штрафы, арыштоўваліся, былі выпадкі пазбаўлення бацькоўскіх правоў[51].

У 1960-я — 1980-я гг. евангельскія хрысціяне-баптысты найчасцей прыцягваліся да адміністратыўнай і крымінальнай адказнасці за навучанне дзяцей рэлігіі[52]. Толькі за 1967 г. у Гродзенскай вобласці 16 вернікаў, прыхільнікаў Савета цэркваў ЕХБ, былі прыцягнутыя да адміністратыўнай адказнасці, а 2 — да крымінальнай[53]. Пры гэтым ганенні і рэпрэсіі не спынялі нелегальную дзейнасць нядзельных школ, дзіцячых летнікаў, хораў, яны існавалі на працягу ўсяго савецкага перыяду[54]. У адозве Савета цэркваў ЕХБ да вернікаў у 1965 г. сцвярджалася: "*Слова Божае заклікае бацькоў-вернікаў абвяшчаць сваім дзецям пра Госпада: "Не схаваем ад дзяцей… славу Госпада, сілу Яго і цуды Яго…, каб ведаў будучы род, дзеці, якія родзяцца, і каб яны ў свой час абвяшчалі сваім дзецям ускладаць надзею сваю на Бога і не забываць спраў Божых і захоўваць запаветы Яго" Пс. 77:4,7*"[55].

Падпольна праводзіліся і сустрэчы моладзі па вывучэнні Бібліі. Такую практыку часта называлі "*разбор Слова*"[56]. Летам моладзевыя сустрэчы арганізоўваліся на прыродзе, напрыклад, у Белавежскай пушчы. Пры гэтым моладзь займалася не толькі вывучэннем Бібліі, але і дабрачыннасцю (практычнае прымяненне біблійных запаветаў). Моладзевая група вернікаў з Брэста называлася "Добры самарыцянін"[57], сама назва кажа пра яе мэты і накірунак дзейнасці.

---

51 *Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці* (далей — ДАВВ), ф. 1439, воп. 1, спр. 5, арк. 53–54; воп. 2, спр. 12, арк. 1–5.

52 Е. Панич, *Дети и детство евангельских христиан-баптистов в условиях позднего советского времени (1960е-80е годы)* [w:] Theological Reflections: Euro-Asian Journal of Theology, nr. 13, s. 133.

53 *Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці* (далей — ДАГВ), ф. 475, воп 1, спр. 22, арк. 30.

54 НАРБ, ф. 136, воп. 1, спр. 57, арк. 1.

55 ДАВВ, ф. 4029, воп. 1, спр. 19, арк. 224.

56 Практыка вывучэння Бібліі (разбора Слова) паступова абмяжоўвалася ўладамі ў канцы 1940-х — пачатку 1950-х гг.

57 В. Вильчинский, *Недаром пролитые слёзы*, с. 383.

Якім чынам вывучалі Біблію маладыя людзі, можна зразумець з прыведзенай ніжэй анкеты, якую ў 1973 г. канфіскавалі супрацоўнікі міліцыі ў Гомелі ў верніцы Веры Владынцавай (у яе доме праводзілася моладзевая сустрэча).

*Ці прачытаў(ла) ты сваю Біблію?*

*Ці пачынаеш ты дзень з чытання Слова Божага?*

*Ці разважаеш ты пра тое, што прачытаў(ла)?*

*Ці вучыш ты Слова Божае на памяць (залатыя вершы)?*

*Ці трэба ведаць Слова Божае на памяць (навошта)?*

*Ці вывучаеш ты Слова Божае?*

*Твой метад вывучэння Слова Божага.*

*Практычнае прымяненне Слова Божага ў жыцці (прывесці прыклад).*

*Ці з'яўляюцца падчас чытання Слова Божага незразумелыя (цяжкія) пытанні і як ты іх вырашаеш?*

*Што заахвочвае цябе да чытання Слова Божага?*[58]

Гэта анкета мае інфарматыўны характар для тых, хто яе складаў, а для тых, хто яе запаўняў,— практычны. З дапамогай адказаў на пытанні стваралася інструкцыя: як трэба чытаць Біблію, на што звяртаць увагу. Напрыклад, было зразумела, што трэба чытаць Слова Божае, пачынаць дзень з гэтага, разважаць над прачытаным, вучыць на памяць урыўкі з Бібліі і г. д. Як ужо згадвалася вышэй, чытанню Бібліі ў евангельскіх хрысціян-баптыстаў надавалася вялікае значэнне, бо праз гэта адбываецца пазнанне Бога і хрысціянскага жыцця. Для моладзі фармаванне веры праз вывучэнне Бібліі было найбольш актуальным.

Моладзевыя сустрэчы, навучанне дзяцей рэлігіі з'яўляліся забароненымі ў савецкі перыяд формамі евангелізацыі. Адзіным легальным спосабам публічнага сведчання Слова Божага заставалася правядзенне малітоўных сходаў, на якіх Біблія займала цэнтральнае месца. У асноўным сходы складаліся з агульнай малітвы і тлумачэння прэсвітарам урыўка са Святога Пісання.

З боку вернікаў былі нешматлікія спробы евангелізацыі ў публічных месцах[59], часта для гэтага выкарыстоўвалі розныя святы, вяселлі, нават пахаванні. Некаторыя евангельскія хрысціяне-баптысты прыносілі Біблію на працу, чыталі яе сваім калегам. У 1979 г. у Мінску 26-гадовая баптыстка Вера Селівончык (намесніца начальніка аддзела ў навукова-даследчай

58 НАРБ, ф. 136, воп. 1, спр. 32, арк. 70.

59 Верніца В. Н. Радзівонава з г. Ліды Гродзенскай вобласці ў рэйсавым аўтобусе ўключыла магнітафон з запісам Псалмоў і заклікала пасажыраў да веры ў Бога. ДАГВ, ф. 475, воп. 1, спр. 148, арк. 108.



**Падчас малітвы ў абшчыне ЕХБ у в. Лапуты, Докшыцкі раён, Віцебская вобласць. З фондаў Музея гісторыі рэлігіі, г. Гродна**

лабараторыі Міністэрства мясцовай прамысловасці[60]) на палітінфармацыі[61], як было напісана ў даведцы старшага інспектара Савета па справах рэлігій па БССР А. Панамарова, *"адклала ўсе газеты ў бок, сказала, што ўсё напісанае ў газетах вы, напэўна, самі добра ведаеце. Таму я лепш раскажу вам пра тое, што вы не прачытаеце ў газеце. І пачала з таго, што ў пачатку нашага летазлічэння ў Іўдзейскім царстве нарадзіўся вялікі чалавек, імя якому было дадзена Ісус Хрыстос. Затым яна ўзяла Біблію і пачала яе чытаць пра нараджэнне Хрыста"*[62].

Пасля гэтай падзеі з Верай Селівончык была праведзена "*выхаваўчая размова*", на якой дзяўчына абяцала больш не рабіць такіх учынкаў.

Друкаванне і распаўсюд Бібліі таксама з'яўляліся своеасаблівай формай сведчання Слова Божага. У сшытку з казаннямі аднаго з прэсвітараў незарэгістраванай абшчыны было напісана: *"молімся за супрацоўнікаў выдавецтва "Хрысціянін", якія ў неверагодных умовах размнажаюць Слова Божае, каб выратаваліся многія"*[63]. Вернік Уладзімір Вільчынскі з Брэста

[60] Вера Селівончык атрымала гэту пасаду яшчэ да таго моманту, як стала верніцай. Яе бацькі таксама былі вернікамі ЕХБ.

[61] Паведамленне пра бягучыя палітычныя падзеі ўнутрыдзяржаўнага і міжнароднага жыцця.

[62] НАРБ, ф. 136, воп. 1, спр. 57, арк. 52.

[63] Сшытак верніка, з фондаў Музея гісторыі рэлігіі, г. Гродна.

ў сваіх мемуарах пісаў, што моладзь з мэтай евангелізацыі насельніцтва раскідвала па паштовых скрынях сваіх суседзяў нелегальна надрукаваныя Евангеллі[64].

Такім чынам, забароненая публічная евангелізацыя мела месца ў БССР. Тут зноў узгадаем тэорыю Мішэля дэ Сэрто пра тактыкі слабых, якія пануючы парадак прымушалі функцыянаваць у іншым рэгістры[65]. Вернікі заставаліся іншымі ўнутры створанай зверху сістэмы і ў сваіх тактыках праяўлялі актыўнасць і крэатыўнасць.

## Высновы

Біблія ў БССР пасля вайны была вялікай рэдкасцю. Вернікі баптысты, для якіх Святое Пісанне было крыніцай веры, пазнання Бога, фарміравання сябе як верніка, настаўлення ў жыцці, імкнуліся мець Біблію. Чытанне або слуханне Бібліі было абавязковым для баптыстаў. Яны завучвалі ўрыўкі са Святога Пісання на памяць. Слова Божае заўсёды павінна было быць побач. Вернікі рознымі спосабамі імкнуліся атрымаць Біблію: праз кантрабанду, перадачу ад бацькоў/сваякоў, нелегальны друк, набыццё за грошы. У гэтых дзеяннях праяўлялася вынаходлівасць і актыўнасць. У пасляваенны час не стаяла пытанне, на якой мове будзе Біблія, абы яна была зразумелай. Толькі ў 1970-я гг. вернікі на з'ездах Саюза ЕХБ прапаноўвалі зрабіць пераклады Бібліі на мовы нацыянальнасцей, што жылі ў Савецкім Саюзе[66]. Асаблівую актыўнасць у гэтым пытанні праяўлялі ўкраінцы.

Трэба было жыць паводле Святога Пісання, таму вернікі імкнуліся займацца евангелізацыяй, шукаючы пры гэтым розныя спосабы і шляхі, бо ў савецкі час публічнае сведчанне Слова Божага было забаронена. Бацькі за рэлігійнае навучанне сваіх дзяцей траплялі ў турму або атрымлівалі штрафы. Таму арганізоўваліся падпольныя школкі для дзяцей, дзіцячыя летнікі, хоры, праводзіліся нелегальныя моладзевыя сустрэчы па вывучэнні Бібліі. Мелі месца і адкрытыя сведчанні Слова Божага. Але асноўныя формы евангелізацыі ў савецкі час — правядзенне малітоўных сходаў, а таксама асабісты прыклад вернікаў у штодзённым жыцці: дома, на працы.

Святое Пісанне ўспрымалася евангельскімі хрысціянамі-баптыстамі як крыніца мудрасці, якая давала сапраўднае разуменне жыцця. Нездарма найбольш распаўсюджаны адказ сведкаў на пытанне, што для Вас Біблія, гучаў наступным чынам: гэта жыццё. Атрымаўшы ў асноўным

64 В. Вильчинский, *Недаром пролитые слёзы*, с. 234.

65 М. де Серто Мишель, *Изобретение повседневности*, с. 104.

66 В. Заватски, *Евангелическое движение в СССР*, с. 499.

пачатковую свецкую адукацыю, вернікі займаліся духоўнай самаадукацыяй і самавыхаваннем. Шукалі ў Бібліі пазнання і мудрасці.

Ганаровае месца Бібліі ў штодзённай прасторы, яе вывучэнне, пастаяннае суправаджэнне Слова Божага, жыццё паводле Евангелля (у тым ліку тактыкі слабых паводле М. дэ Сэрто) садзейнічалі захаванню царквы евангельскіх хрысціян-баптыстаў у неспрыяльных умовах у савецкі перыяд, а таксама ўмацаванню веры кожнага верніка.

## Streszczenie

Tacciana Kasataja, *Biblia w życiu codziennym Ewangelicznych Chrześcijan Baptystów w BSRR*

W artykule rozpatrywane jest miejsce Biblii w życiu codziennym Ewangelicznych Chrześcijan Baptystów w BSRR. Autorka stara się odpowiedzieć na pytania: z jakich Biblii (tłumaczenia, redakcje) korzystali wierzący? Jakie miejsce święta księga zajmowała w przestrzeni prywatnej i publicznej? W jaki sposób ją studiowano? Czy zasada "życia według Biblii" odpowiadała rzeczywistości? Wyjaśnienie tych kwestij daje możliwość zrozumienia codziennych praktyk i strategii zachowań Ewangelicznych Chrześcijan Baptystów.

W czasach powojennych Biblia w BSRR była rzadkością. Wierzący baptyści, dla których Pismo Święte było źródłem wiary, poznania Boga, kształtowania się jako osoby wierzącej, nastawienia do życia, starali się posiadać egzemplarz Biblii. Czytanie lub słuchanie Biblii było obowiązkiem baptystów. Uczyli się oni fragmentów Pisma Świętego na pamięć. Słowo Boże towarzyszyło wierzącemu wszędzie: w domu (osobista lektura Biblii, tablice z cytatami z Pisma Świętego), w domach modlitwy (słuchanie interpretowania przez prezbitera fragmentu Biblii, pieśni na temat Słowa Bożego), w wojsku, w więzieniu, w obozie pracy. Wierzący na różne sposoby starali się zdobyć Biblię: drogą przemytu, w paczce od rodziców/krewnych, przez nielegalny druk, zakup. W działaniach tych przejawiali dużą kreatywność.

Ewangeliczne Chrześcijanie Baptysty dążyli do życia według nakazów biblijnych. W praktyce przejawiało się to w zachowaniach wiernych, relacjach rodzinnych i społecznych, w odniesieniu do pracy. Jednym z głównych nakazów była ewangelizacja, ale publiczne świadectwo Słowa Bożego było zakazane w czasach radzieckich. Dlatego też wierzący ograniczali się do osobistej ewangelizacji poprzez przykład osobisty w życiu codziennym i udział w spotkaniach modlitewnych albo organizowali potajemne spotkania młodzieżowe w celu studiowania Słowa Bożego, szkółki niedzielne i obozy dla dzieci, druk podziemny i kolportaż literatury religijnej, w tym Biblii. Istniały

przypadki ewangelizacji publicznej. Za takie działania wierni byli pociągani do odpowiedzialności karnej lub administracyjnej. Dla Ewangelicznych Chrześcijan Baptystów w niesprzyjającym okresie radzieckim Biblia "jako Słowo Boże" była źródłem wytrwania w wierze.

## Summary

Taćciana Kasataja, *The Bible in the Daily Life of Evangelical Christians-Baptists in the BSSR*

The article considers the place of the Bible in the daily life of Evangelical Christians-Baptists in the BSSR. The author attempts to answer various questions — what Bible (translations, versions) did Evangelical Christians-Baptists utilise? What place did it occupy in the private and public spheres? How wasit studied? Did the principle of "life according to the Bible" correspond to reality? The answers to these questions make it possible to understand the everyday behavioural practices and strategies of Evangelical Christians-Baptists.

In the post-war period, the Bible was a rarity in the BSSR. Every practising Baptisttried to possess a copy of the Bible. For them, the Holy Scripture was a source of faith, as well as a way of getting to know God, educating oneself as a person of faithand coaching one's attitude to life. Reading or listening to the Bible was a Baptist responsibility. Fragments of the Holy Scripture were most often learned by rote. The Word of God accompanied the practising Baptist everywhere: at home (personal study of the Bible, plaques with biblical quotes), in prayer homes (listening to presbyter-interpreted fragments of the Bible, songs on the subject of the Word of God, in the army, prison and in labour camps. Believers attempted to gain a copy of the Bible by various means — smuggling, parcels from parents/relatives, illegal printings, purchase. These activities were marked by resourcefulness and creativity.

Evangelical Christians-Baptists strived to live their lives according to the Bible and its decrees. In practice, this manifested itself in the behaviour of adherents, family relations, in society and with relation to work. One of the main decrees was evangelisation, howeverpublic displays of faith were forbidden during the Soviet period. For this reason, believers restricted themselves to personal evangelisation by setting a personal example in their daily life and taking part in prayer meetings, or organising secret Bible study youth meetings, Sunday schools and camps for children, underground printing and distributing religious literature, including the Bible. Incidents of public evangelisation do exist and such activity usually resulted in administrative or criminal penalties for the offenders. For Evangelical Christians-Baptists, during the difficult Soviet period, the Bible — as the Word of God — was a source for persevering in their faith

**Тадэвуш Гавін**
**(Варшава/Гродна)**

# Палітыка ўлад Рэспублікі Беларусь у дачыненні да польскай меншасці ў 1991–2005 гг.

У снежні 1991 г. канчаткова быў вырашаны лёс Савецкага Саюза[1]. 8 снежня 1991 г. кіраўнікі Беларусі, Расіі і Украіны падпісалі ў Белавежскай пушчы дамову аб спыненні існавання СССР. 25 снежня 1991 г. Міхаіл Гарбачоў у тэлевізійным звароце склаў з сябе паўнамоцтвы прэзідэнта Савецкага Саюза[2]. Беларусь атрымала гістарычны шанц на будаўніцтва незалежнай і суверэннай дзяржавы[3]. Палітычныя падзеі, звязаныя з распадам СССР, паўплывалі на паляпшэнне стаўлення ўлад у Мінску, Гродне і іншых гарадах рэспублікі да палякаў Беларусі, у тым ліку да прадстаўніка іх інтарэсаў перад органамі ўлады — Саюза палякаў. Пераломным у адносінах паміж СПБ і цэнтральным кіраўніцтвам Беларусі стаў 1992 год.

9 студзеня 1992 г. кіраўнік дзяржавы Станіслаў Шушкевіч прыняў дэлегацыю Саюза палякаў на Беларусі. Гэтая сустрэча сведчыла пра тое, што часткова абноўленая некамуністычная цэнтральная ўлада РБ мела намер будаваць адносіны з нацыянальнымі меншасцямі інакш, чым раней, спрабуючы вырашаць іх праблемы, а не замоўчваць і хаваць ад шырокай грамадскасці. Размова з Шушкевічам паказала кіраўніцтву СПБ, што галоўныя пытанні, якія хвалявалі палякаў і тычыліся выкладання польскай мовы ў школах, адкрыцця польскамоўных школ, польскамоўнага друку, магчыма было вырашыць у новых палітычных умовах[4].

Варта адзначыць, што з 1988 г. і да распаду СССР ніхто з партыйнага і савецкага кіраўніцтва Беларусі не выказаў жадання сустрэцца з беларускімі

---

1 Падрабязней на гэту тэму гл.: Р. Г. Пихоя, *Власть. Номенклатура. Собственность. Об одной из причин распада СССР* [w:] *Historia est testis temporum. Księga Pamiątkowa z okazji jubileuszu 90-lecia Profesorów Richarda Pipesa, Piotra Wandycza, Zbigniewa Wójcika*, pod redakcją Jana Malickiego, Warszawa 2017, s. 143–166; S. Ciesielski, *Pierestrojka a kwestia narodowa — Zakaukazie i Azja Centralna,* [w:] *Nie tylko Litwa. Geneza i przebieg upadku ZSRR w roku 1991,* Tom 1, pod redakcj A. Srebrakwoskiego i G. Straucholda, Jomianki 2017, s. 11–100.

2 М. Горбачёв, *Понять перестройку… Почему это важно сейчас,* Москва 2006, с. 351–363.

3 Падрабязней на гэту тэму гл.: M. Ruchniewicz, *Od BSRR do Republiki Biaioruś (1986–1991),* [w:] *Nie tylko Litwa,* s. 293–326.

4 Падрабязней на гэту тэму гл.: Т. Гавін, *Польскамоўная адукацыя ў 1988–1996 гг. у Беларусі: праблемы адраджэння і роля беларускай супольнасці Гародні,* [у:] *Гарадзенскі соцыум. Горад і яго жыхары: партрэт на фоне эпохі. X–XX стст. Зборнік навуковых артыкулаў*, Мінск 2016, с. 322–323; L. Michajlik, *Spotkanie odbyło się. Co dalej?,* “Głos znad Niemna” nr 3 (14), 15.02.1992.

палякамі і выслухаць іх праблемы. Пры гэтым з боку СПБ выказваліся просьбы пра наладжванне камунікацыі. Такое стаўленне камуністычных беларускіх улад да палякаў чарговы раз сведчыла пра тое, што "польскае пытанне" яны разглядалі як часовае, якое змогуць утаймаваць. Сустрэча кіраўніцтва СПБ з С. Шушкевічам выявіла адсутнасць у польскай арганізацыі вопыту ўдзелу ў такіх перамовах і ўмення з усяго спектра праблем, што агучваліся, выбраць галоўныя і на іх сканцэнтравацца[5].

Адхіленне ад улады камуністычнай партыі і абранне Станіслава Шушкевіча на пасаду старшыні Вярхоўнага Савета РБ сталі важнымі падзеямі для беларускай дзяржавы[6]. Аднак шматлікія камуністы і далей займалі кіруючыя пасады ва ўсіх структурах улады — заканадаўчай, выканаўчай, судовай. Некаторыя з іх партыйныя кабінеты памянялі на кабінеты выканаўчай улады, а кабінеты ў ЦК КПБ — на кабінеты ў Савеце Міністраў і Вярхоўным Савеце Беларусі. Дэмакратычныя сілы на чале з Шушкевічам не выкарысталі моманту распаду СССР, забароны дзейнасці КПСС і не ўвялі ў структуры ўлады новых, не звязаных са старой наменклатурай палітычных дзеячаў, якія б імкнуліся будаваць беларускую нацыянальную і незалежную дзяржаву. Гэта прывяло да аслаблення пазіцый прыхільнікаў дэмакратычных змен, у тым ліку Станіслава Шушкевіча.

Аднак у новых палітычных умовах СПБ нашмат лягчэй было рэалізаваць свае мэты і задачы, чым да распаду СССР. Там, дзе СПБ праяўляў актыўнасць у перамовах з уладамі і ведаў, чаго ў выніку хацеў дасягнуць, улады, як правіла, ішлі на ўступкі. 21 лютага 1992 г. Сапоцкінскі пасялковы савет (большасць у ім складалі члены СПБ) у Гродзенскім раёне прыняў рашэнне аб перайменаванні вуліц у пасёлку. Так, вуліца Леніна была названа ў гонар Яна Паўла ІІ, Кастрычніцкая — у гонар генерала Юзафа Альшына-Вільчынскага[7], вуліцы Тэалінскай вернутая яе старая назва. Да таго ж назвы вуліц напісалі на дзвюх мовах — беларускай і польскай[8]. Гэта адзіны прыклад палітычнай актыўнасці палякаў, звязаны з ліквідацыяй савецкіх назваў вуліц. Палякі мелі большасць і ў іншых мясцовых саветах. Напрыклад,

[5] Тамсама. СПБ прадставіў старшыні Вярхоўнага Савета РБ Станіславу Шушкевічу 21 праблемнае пытанне, большасць з якіх знаходзілася ў кампетэнцыі мясцовых органаў улады. Тым не менш СПБ здолеў атрымаць плён ад гэтай сустрэчы.

[6] M. Ruchniewicz, *Od BSRR do Republiki Biaioruś (1986–1991),* [w:] *Nie tylko Litwa,* s. 302.

[7] Генерал Юзаф Альшына-Вільчынскі — камандуючы аператыўнай групай "Гродна", адзін з удзельнікаў абароны горада ў 1939 годзе. 22 верасня 1939 г. вайскоўцамі Чырвонай арміі быў расстраляны разам з начальнікам штаба і ад'ютантам на вачах у жонкі недалёка ад пасёлка Сапоцкін. Падрабязней на гэту тэму гл.: Z. Mierzwiński, *Generałowie II Rzeczypospolitej*, Warszawa 1990, s. 195–199; B. Mieszczeriakow, *Na cmentarzu w Sopoćkiniach,* "Głos znad Niemna", nr 9 (11), październik 1991.

[8] Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Ojcowizna. Odrodzenie polskości na Białorusi,* Grodno-Lublin 1993, s. 130.

у Воранаўскім раёне іх пражывала больш за 85 % ад агульнай колькасці насельніцтва. Але такой актыўнай дзейнасці з боку польскай меншасці тут не было. Больш за тое, у гэтым раёне, дзе на пасадзе загадчыка раённага аддзела народнай адукацыі знаходзіўся паляк, сябра СПБ, у адрозненне ад Гродна і Ваўкавыска, не былі прыкладзеныя намаганні для адкрыцця польскай школы[9].

Як ужо было адзначана вышэй, камуністы, якія перайшлі з партыйных камітэтаў у структуры выканаўчай і заканадаўчай улады, былі галоўнымі праціўнікамі польскага нацыянальнага адраджэння ў РБ. Адсутнасць культуры павагі да законаў штурхала іх да супрацьстаяння ўвядзенню выкладання польскай мовы ў школах і тым больш адкрыццю польскамоўных школ. Найбольш спрыяльныя ўмовы для вырашэння пытання, звязанага з адкрыццём польскай школы, склаліся ў Гродне, дзе старшынёй гарадскога выканаўчага камітэта быў Сямён Домаш, які паважаў існае заканадаўства і актыўна ўключыўся ў беларускае нацыянальнае адраджэнне[10]. Менавіта ён ад імя Гродзенскага выканаўчага камітэта ў лісце ад 6 лютага 1992 г. на адрас СПБ упэўніў польскую грамадскую арганізацыю, што да моманту пераходу дзяцей, якія навучаліся на польскай мове, з пачатковай школы ў сярэднюю пытанне аб адкрыцці польскамоўнай школы будзе вырашана[11].

Рэалізацыі задач, пастаўленых СПБ, садзейнічала падпісанне 23 чэрвеня 1992 г. Дагавора паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Польшча "Аб добрасуседстве і дружалюбным супрацоўніцтве"[12]. У артыкуле 14 дакумента гаварылася: *"Дагаворныя Бакі пацвярджаюць, што асобы, якія належаць да* [...] *польскай меншасці ў Рэспубліцы Беларусь, маюць права індывідуальна ці сумесна з іншымі членамі сваёй групы на свабоднае захаванне, развіццё і выражэнне сваёй этнічнай, культурнай, моўнай*

---

9 Варта прызнаць, што віна ў тым, што палякам не дазволілі адкрыць польскую школу ў Воранаве, ляжыць не толькі на раённых уладах, якія не жадалі выконваць беларускае заканадаўства, але і на паляках: як на тых, што працавалі ў сістэме органаў мясцовай улады, так і на членах СПБ, якія не праявілі дастатковай актыўнасці і рашучасці ў вырашэнні гэтага пытання. Падобная сітуацыя была і ў г. Шчучыне, дзе загадчыкам раённага аддзела народнай адукацыі быў паляк Эдвард Дзікевіч. Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki. Odrodzenie polskości na Białorusi w latach 1987–2000,* Białystok 2003, s. 225–227.

10 Раней, як адзначалася вышэй, быў старшынёй гарадскога выканаўчага камітэта Ліды.

11 R. Karaczun, *Odrodzona szkoła*, Grodno 1998, s. 18. У сярэдніх школах № 3 Кастрычніцкага раёна Гродна і № 21 Ленінскага раёна працавалі першыя класы з польскай мовай навучання. СПБ разглядаў іх у якасці падмурка для стварэння ў Гродне польскамоўных школ.

12 A. Wierzbowska-Miazga, *Wybór dokumentów prawnych dotyczących mniejszości narodowych*, t. II: *Polacy na Białorusi*, Warszawa 2001, s. 254–259; K. Fedorowicz, *Polityka Polski wobec Białorusi,* [w:] *Polityka wschodnia Polski. Uwarunkowania, koncepcje, realizacja,* red. A. Gil, T. Kapuśniak, Lublin — Warszawa 2009; H. Giebień, *Polska wobec mniejszości polskiej na Białorusi w latach 1991–2016 (do października 2016). Zarys problemu,* [w:] *Polacy na Białorusi, Od końca XIX do początku XXI wieku. Wybrane problemy stosunków polsko-białoruskich*, pod redakcją T. Gawina, Warszawa 2017, s. 541–559.

*і рэлігійнай самабытнасці без якой-небудзь дыскрымінацыі і ва ўмовах поўнай роўнасці перад законам"*[13].

Дагавор гарантаваў вельмі важную для польскай нацыянальнай меншасці магчымасць *"…ствараць, а таксама падтрымліваць дзейнасць уласных асветных, культурных і іншых устаноў, арганізацый і таварыстваў, якія могуць звяртацца за добраахвотнай фінансавай і іншай дапамогай, у тым ліку дзяржаўнай, у адпаведнасці з нацыянальным заканадаўствам, мець магчымасць карыстацца сродкамі масавай інфармацыі, а таксама прымаць удзел у дзейнасці міжнародных няўрадавых арганізацый"*[14]. Дамова таксама давала права выкарыстоўваць у напісанні польскамоўнае гучанне імя і прозвішча[15].

Магчымасці СПБ у справе адкрыцця польскіх школ і выкладання польскай мовы ў навучальных установах пашырыліся пасля прыняцця Вярхоўным Саветам Закона "Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь" ад 11 лістапада 1992 года[16].

У пятым артыкуле закона гаварылася, што *"Рэспубліка Беларусь, паважаючы правы чалавека, гарантуе грамадзянам Рэспублікі Беларусь, якія прылічваюць сябе да нацыянальных меншасцей, роўныя палітычныя, эканамічныя і сацыяльныя правы і свабоды, у тым ліку:*

*а) права на атрыманне дапамогі з боку дзяржавы ў справе развіцця нацыянальнай культуры і адукацыі; б) права на вывучэнне і карыстанне роднай мовай; в) права на друк і распаўсюд інфармацыі на роднай мове; г) права на наладжванне культурных сувязей з суайчыннікамі за межамі Рэспублікі Беларусь; д) права вызнання любой рэлігіі, выканання нацыянальных і рытуальных абрадаў на роднай мове*[17]; […] *Любыя дзеянні, накіраваныя на дыскрымінацыю па нацыянальных прыкметах, стварэнне перашкодаў у рэалізацыі нацыянальнымі меншасцямі сваіх правоў, распальванне міжнацыянальнай варожасці, караюцца па законе"*[18].

[13] *Договор между Республикой Беларусь и Республикой Польша о добрососедстве и дружелюбном сотрудничестве.* Вступил в силу 30 марта 1993 г., гл. [у:] *Национальный центр правовой информации Республики Беларусь,* ИПС, "ЭТАЛОН" версия 6.7 [11.10.2017].

[14] Тамсама.

[15] Падрабязней на гэтую тэму гл.: A. Wierzbowska-Miazga, *Wybór dokumentów prawnych dotyczących mniejszości narodowych*, t. II: *Polacy na Białorusi*, s. 254–259; *Договор между Республикой Беларусь и Республикой Польша о добрососедстве и дружелюбном сотрудничестве.* Вступил в силу 30 марта 1993 г., гл. [у:] *Национальный центр правовой информации Республики Беларусь,* ИПС, "ЭТАЛОН" версия 6.7 [11.10.2017].

[16] "Ведомости Верховного Совета Республики Беларусь", 1992, № 35, с. 550.

[17] Тамсама; *Закон Республики Беларусь 11 ноября 1992 г. № 1926-XII. О национальных меньшинствах в Республике Беларусь.* С изменениями и дополнениями гл. [у:] *Национальный центр правовой информации Республики Беларусь,* ИПС, "ЭТАЛОН" версия 6.7 [11.10.2017].

[18] Тамсама.

Прыведзеныя вышэй дагавор і закон фармальна давалі даволі вялікія магчымасці для польскага нацыянальнага адраджэння ў Беларусі. Але, як паказаў час, рэалізаваць гэтыя магчымасці з-за супраціўлення мясцовых улад не паўсюль удалося. Закон 1992 г., у адрозненне ад раней прынятых савецкіх законаў, абмяжоўваў права прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей, у тым ліку і палякаў, на стварэнне ў РБ нацыянальных раёнаў і нацыянальных саветаў[19]. Паўстае пытанне: чаму новая беларуская ўлада, якая імкнулася да дэмакратызацыі палітычнага ладу, пазбавіла нацыянальныя меншасці такой магчымасці? Верагодна, па гэтым пытанні супалі меркаванні як дзеячаў беларускага адраджэння, так і народных дэпутатаў — былых прадстаўнікоў савецкай наменклатуры. Хутчэй за ўсё, яны баяліся, што дазвол палякам ствараць самакіравальныя нацыянальныя раёны і сельскія саветы можа прывесці да пагрозы нацыянальнай бяспецы Беларусі. Выступленне прадстаўніка КДБ Беларусі ўпэўніла кіраўніцтва краіны і дэпутатаў у слушнасці іх меркавання па гэтым пытанні[20].

У гэты перыяд (1991–1995 гг.) у Беларусі быў прыняты і шэраг іншых законаў, а таксама падпісаныя дамовы паміж РБ і РП, якія стваралі спрыяльны клімат для дзейнасці польскай нацыянальнай меншасці[21]. Праўда, вельмі часта рэалізаваць гарантаваныя законамі і міжнароднымі дагаворамі правы было складана.

Саюз палякаў на Беларусі з мэтай адраджэння польскамоўнай адукацыі ў Гродне імкнуўся дамагчыся ад улад перадачы памяшкання пад польскую школу. Вопыт перамоў упэўніў кіраўніцтва СПБ, што вырашыць гэтае пытанне так, як прапаноўваў старшыня Гродзенскага гарвыканкама, будзе дастаткова складана. Таму вясной 1993 г. СПБ змяніў тактыку, прыняўшы рашэнне, падтрыманае старшынёй Таварыства "Польская супольнасць" (Stowarzyszenie "Wspólnota Polska") прафесарам Анджэем Стэльмахоўскім, аб будаўніцтве польскай школы ў Гродне за кошт бюджэту РП. Гэтая тактыка дазваляла палякам ужо ў бліжэйшай будучыні мець сваю школу і, такім чынам, пачаць працэс аднаўлення знішчанай у 1948 г. польскамоўнай адукацыі.

Палітычная сітуацыя ў 1993 г. для СПБ была як ніколі спрыяльнай. У гэты час Сямён Домаш прасунуўся па службовай лесвіцы і стаў

[19] *Российский государственный архив новейшей истории* (далей — РДАНГ), ф. 2, воп.5, спр. 294, арк. 1: *Постановление Сентябрьского пленума ЦК КПСС о национальной политике партии в современных условиях, а также материалы к нему, 19–20.09.1989.*

[20] Гл. выступленне старшыні КДБ Эдуарда Шыркоўскага на закрытым пасяджэнні Вярхоўнага Савета РБ у 1992 г. В. Карбалевич, *Место Польши в политике Беларуси*, [у:] *Наш радавод*, Гродна-Беласток 1999 (2000), кн. 8, с. 579.

[21] Спіс, назвы і змест прынятых законаў і падпісаных дагавораў гл.: A. Wierzbowska-Miazga, *Wybór dokumentów prawnych dotyczących mniejszości narodowych*, t. II: *Polacy na Białorusi*, s. 129–274.

старшынёй Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта замест Дзмітрыя Арцымені, які быў праціўнікам адкрыцця польскай школы ў Гродне. Старшынёй гарадскога выканаўчага камітэта быў абраны паляк Генрых Крупенка, які раней дапамагаў ПКАТ і СПБ. Намеснікам старшыні гарвыканкама працаваў Аляксандр Мілінкевіч, які лічыў, што беларускае нацыянальнае адраджэнне і польскае павінны адбывацца адначасова і дапаўняць адно аднаго[22].

Зусім іншая сітуацыя склалася ў Лідзе. Там, нягледзячы на патрабаванні бацькоў і дапамогу СПБ, не атрымалася, у адрозненне ад Гродна, закласці падмурак пад будучую польскую школу і стварыць у 1991–1993 гг. першыя класы з польскай мовай навучання. Ініцыятывам палякаў супрацьдзейнічалі старшыня Лідскага гарадскога выканаўчага камітэта Уладзімір Малец і загадчык гарадскога аддзела народнай адукацыі Аркадзь Мазоўка[23]. Чаму ў двух гарадах адной вобласці склаліся супрацьлеглыя падыходы да пытання польскамоўнай адукацыі? Верагодна, кіраўніцтва Беларусі і Міністэрства народнай адукацыі далі мясцовым уладам неабмежаваныя магчымасці ў вырашэнні гэтага пытання. Пры гэтым неафіцыйна яны падтрымлівалі дзеянні тых мясцовых кіраўнікоў, якія стрымлівалі аднаўленне польскамоўнай адукацыі ў сваіх рэгіёнах. Падобнае стаўленне назіралася і ў іншых гарадах Мінскай, Брэсцкай і Віцебскай абласцей[24]. Варта адзначыць, што ўлады для рэалізацыі сваіх планаў супрацьдзеяння развіццю польскамоўнай адукацыі выкарыстоўвалі падначаленых і залежных ад іх палякаў, якіх прымушалі "добраахвотна" выступаць у мясцовым друку супраць навучання дзяцей на польскай мове. Такім чынам, у шматлікіх бацькоў з'яўляўся сумнеў адносна таго, ці варта абцяжарваць сваіх дзяцей навучаннем на польскай мове, калі пасля заканчэння такой школы ў іх не будзе будучыні ў Беларусі, як упэўнівалі аўтары некаторых артыкулаў[25].

Візіты ў Беларусь польскага прэм'ер-міністра Ганны Сухоцкай у 1992 г. і прэзідэнта Польшчы Леха Валэнсы ў 1993 г. і іх сустрэчы з кіраўніцтвам СПБ, а таксама з прадстаўнікамі польскай меншасці ў Гродне (прэм'ера)

---

22 20 верасня 2017 г. Сямён Домаш, Генрых Крупенка і Аляксандр Мілінкевіч за дапамогу СПБ у адраджэнні польскамоўнай адукацыі і выкладання польскай мовы ў дзяржаўных адукацыйных установах РБ узнагароджаныя Срэбным медалём Stowarzyszenia "Wspólnota Polska" (SWP) з Варшавы. Медалі былі ўручаныя ў Гродне старшынёй SWP Дарыўшам Пятром Баніслаўскім, генеральным консулам РП у Гродне Яраславам Ксёнжкам і старшынёй СПБ Анжалікай Борыс. *Nagrody i wyróżnienia na konferencji naukowej w Grodnie,* http://znadniemna.pl/25303/nagrody-wyroznienia-konferencji-naukowej-grodnie/[22.09.2017].

23 T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*, s. 230.

24 Падрабязней на гэту тэму гл.: T. Gawin, *Polskie odrodzenie na Białorusi 1988–2005*, Białystok 2010, s. 188–201.

25 Адным з такіх праўладных актывістаў быў паляк з Ліды В. Станевіч, які напісаў артыкул *Без амбіцый?* у "Лідскай газеце" ад 8.09.1992 г. Артыкул быў надрукаваны акурат у той час, калі вырашаўся лёс першага класа з польскай мовай навучання ў Лідзе. У выніку СПБ і бацькам-палякам не ўдалося дамагчыся арганізацыі польскамоўнай адукацыі ў горадзе.

і ў Баранавічах (прэзідэнта) павялічвалі аўтарытэт СПБ не толькі сярод беларускай грамадскасці, але і ў асяроддзі ўлад, якія разумелі, што Польшча сур'ёзна ставіцца да СПБ і да польскага нацыянальнага адраджэння ў Беларусі.

Саюз палякаў на Беларусі з асветніцкай мэтай стварыў польскамоўную газету *Глос знад Немна* (*Głos znad Niemna*), зарэгістраваную Дзяржаўным камітэтам па справах друку ў Мінску 20 верасня 1990 года[26]. Газета была афіцыйна легалізаваная на паўгода раней, чым адбылася рэгістрацыя самога СПБ. Перад распадам СССР такія станоўчыя для СПБ парадоксы адбываліся.

17 лютага 1994 г. старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах друку Анатоль Бутэвіч прыняў запрашэнне галоўнага праўлення СПБ наведаць арганізацыю. У выніку перамоў кіраўніцтва СПБ з міністрам было вырашана, што ўрад РБ возьме на сябе 75 % выдаткаў, звязаных з выданнем газеты *Глос знад Немна*. Гэта быў не толькі жэст добрай волі, але і сведчанне павагі да СПБ з боку беларускага ўрада ў асобе міністра Анатоля Бутэвіча[27].

Канстытуцыя РБ, прынятая ў сакавіку 1994 г., прадугледжвала пераход ад парламенцкай рэспублікі да прэзідэнцкай. Вярхоўны Савет РБ прызначыў першы тур выбараў прэзідэнта Беларусі на 23 чэрвеня 1994 г. Улады незалежнай парламенцкай РБ, дзе шматлікія структуры знаходзіліся пад грамадскім кантролем, вымушаныя былі ўлічваць палітычныя настроі ў грамадстве. У сувязі з гэтым яны не мелі намеру праводзіць прэзідэнцкія выбары з выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу, каб на пасаду прэзідэнта быў абраны раней ухвалены імі кандыдат. Таму ўсе кандыдаты ў прэзідэнты РБ пачалі актыўна змагацца за галасы выбаршчыкаў. Паколькі да лета 1994 г. СПБ здолеў аб'яднаць у сваіх шэрагах тысячы палякаў амаль з усіх заходніх абласцей Беларусі і г. Мінска, а таксама меў свае грамадскія структуры і ва ўсходніх абласцях, ніводны з прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта РБ не мог праігнараваць галасы беларускіх палякаў.

Прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч быў адным з кандыдатаў, які планаваў змагацца за галасы палякаў. 13 траўня 1994 г. ён накіраваў міністра адукацыі Віктара Гайсёнка на сустрэчу з галоўным праўленнем СПБ з мэтай вырашэння тых праблем, пра якія раней у сваіх лістах

[26] Падрабязней на тэму выдавецкай дзейнасці СПБ гл.: A. Bubko, "*Magazyn Polski*", [w:] *Polska mniejszość na Białorusi. Związek Polaków na Białorusi w 20-lecie działalności,* red. Z. J. Winnicki i T. Gawin, Białystok 2010, s. 245–266; A. Dobroński, *Grodzieńsko-białostocki "Głos znad Niemna"*, [w:] *Polska mniejszość,* s. 223–244.

[27] E. S. (E. Skrobocki), *Wizyta ministra,* "Głos znad Niemna" nr 8, 28.02–06.03.1993; T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005, Historia działalności,* s.177–178. Ва ўмовах сённяшняй палітычнай сітуацыі ў Беларусі, калі ўрад цалкам адарваны ад народа і яму непадсправаздачны, цяжка ўявіць візіт міністра не толькі ў польскую грамадскую арганізацыю, але і ў любую іншую.

да ўлад пісаў Саюз палякаў на Беларусі[28]. Гэтая сустрэча, верагодна, павінна была зняць напружанасць у адносінах паміж урадам і СПБ, а таксама падрыхтаваць падмурак да бесканфліктных перамоў прэм'ер-міністра Кебіча з кіраўніцтвам Саюза палякаў і такім чынам дапамагчы заваяваць галасы польскай меншасці падчас прэзідэнцкай выбарнай кампаніі.

Вячаслаў Кебіч прыехаў з візітам у галоўнае праўленне СПБ праз чатыры дні, 17 траўня 1994 г. Разумеючы, што СПБ галоўным чынам хвалююць пытанні польскамоўнай адукацыі, Кебіч на сустрэчу запрасіў кіраўніцтва Гродзенскай вобласці, а менавіта: старшыню аблвыканкама Сямёна Домаша, яго намесніка па справах адукацыі Мікалая Калацэя, старшыню гарвыканкама Генрыха Крупенку і загадчыка абласнога аддзела народнай адукацыі Аляксея Саўчыка. Сустрэча стала пераломнай для вырашэння праблем, звязаных з далейшым развіццём польскамоўнай адукацыі ў Беларусі[29].

Падчас перамоў было вырашана, што ў Гродне з'явяцца дзве польскія школы, адна з якіх (разам з Цэнтрам польскай культуры) будзе пабудавана на сродкі з беларускага бюджэту, другая (як і школа ў Ваўкавыску) — за кошт фінансавання РП. Гэта была канструктыўная сустрэча. Прэм'ер-міністр Кебіч не падымаў пытанняў, звязаных з выбарамі, хаця ўсім была зразумелая мэта яго прыезду ў Гродна і размоў з прадстаўнікамі СПБ. Развітваючыся, Кебіч сказаў старшыні Саюза палякаў на Беларусі: *"У прэзідэнцкіх выбарах, якія хутка адбудуцца, вы можаце галасаваць за каго толькі жадаеце. Але ў мяне да Вас асабістая просьба — ні ў якім выпадку не галасуйце за Аляксандра Лукашэнку. Калі ён пераможа, то павядзе Беларусь у камуністычнае мінулае"*[30].

Прыезд прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча ў Гродна і яго сустрэча з кіраўніцтвам СПБ узмацнілі пазіцыі Сямёна Домаша, Генрыха Крупенкі, Аляксандра Мілінкевіча і іншых дзяржаўных дзеячаў, якія дапамагалі СПБ у дасягненні яго статутных мэт, асабліва ў справе адраджэння польскамоўнай адукацыі. З гэтага моманту іх заангажаванасць у вырашэнне "польскага пытання" была не выключна асабістай ініцыятывай і праяўленнем добрай волі, а зрабілася выкананнем палітычнай праграмы беларускага ўрада.

---

28 Падрабязней на тэму гэтай сустрэчы гл.: R. Karaczun, *Odrodzona szkoła*, Grodno 1998, s. 30–31.

29 Падрабязней на гэту тэму гл.: Тамсама, с. 32–34; Архіў СПБ, дакументы ўваходныя за 1994 г. *Протокол встречи премьера Республики Беларусь с руководством СПБ от 17 мая 1994 г.*

30 M. Świgoń, J. Dziurbejko, *Donośna wizyta,* "Głos znad Niemna", nr 20 (106), 23–29.05.1994; T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki*.., s. 276.

7 ліпеня 1492 г. памірае Казімір. У яго засталося пяцёра сыноў. Старэйшы, Уладзіслаў, быў каралём чэшскім (з 1490 г.); трэці, Ян Ольбрахт, стаў каралём польскім; чацвёртаму, Аляксандру, дасталася Вялікае Княства Літоўскае; шосты, Фрыдрых, быў кракаўскім епіскапам, потым атрымаў яшчэ і гнезненскую архіепіскапію. І толькі пяты, Жыгімонт, быў па-за дзяржаўнымі справамі.

Малады і амбітны, новы вялікі князь Аляксандр актыўна ўзяўся за дзяржаўныя справы. Вялікую ўвагу ён надаваў развіццю гарадоў і мястэчак, стварэнню новых. Не менш за 49 з іх атрымалі ад вялікага князя розныя прывілеі. Ён актыўна праводзіў урбанізацыйную палітыку і дбаў аб развіцці лакальных рынкаў. Усё гэта мела на мэце толькі адно — хутчэйшае папаўненне скарбу краіны, які ва ўмовах ваенных сутычак з Маскоўскай дзяржавай аказаўся поўнасцю спустошаным, а падаткі, якія шлі з мястаў, адыгрывалі значную ролю ў гэтай справе[5]. Пачалося актыўнае наданне гарадам права на самастойнасць — Магдэбургскага права. Гэта садзейнічала іх актыўнаму развіццю. Так, у гэтыя часы нямецкае права атрымалі Літовеж[6], Высокае[7], Лосічы[8], Гродна[9], Бельск Падляскі[10], Ваўкавыск[11] ды інш. Важным новаўвядзеннем было стварэнне ў 1500 г. Наваградскага ваяводства. Таксама ў асобную адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку была выдзелена Бранская зямля[12].

Важную ролю надаваў Аляксандр і сталіцы ВКЛ, у якой ён праводзіў большасць часу. Жадаючы быць побач з вялікім князем, сюды пацягнуліся магнаты і шляхта. Гэта выклікала даволі вялікі прыток насельніцтва. Аляксандр нават абмежаваў куплю-продаж дамоў у Вільні[13].

З уступленнем на вялікакняскі пасад Аляксандра ў Літве пачаўся новы перыяд развіцця дзяржавы — гэта пераходны этап ад Сярэднявечча да Новага часу. Прынцыпова змяніліся таксама і спосабы вырабу манет: на змену сярэднявечнай тэхналогіі біцця манет з расплюснутых кавалкаў сярэбранага дроту прыйшоў спосаб біцця на загатоўках з раскатанага

5 K. Pietkiewicz, *Polityka w. ks. Litewskiego Aleksandra wobec miast,* “Białostocczyzna” 2002, № 1–2, s. 18–33.

6 *Акты Литовской метрики,* т. 1, вып. 2 (1499–1507) / сост. Ф. И. Леонтович, Варшава 1897. с. 83–84.

7 *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 6 (1494–1506). Užrašytų knyga 6* / Parengė A. Baliulis, Vilnius 2001, p. 290–291.

8 *Акты Литовской метрики*, т. 1, вып. 2 (1499–1507), с. 153–154.

9 *Акты Виленской археографической комиссии,* т. VII: Акты Гродненского гродского суда, Вильна 1874, с. 59–61.

10 *Собрание государственных и частных актов, касающихся истории Литвы и соединённых с ней владений (от 1387 до 1710 года),* ч. 1 / под ред. М. Круповича, Вильно 1858, с. 30–31.

11 *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 7 (1506–1539). Užrašytų knyga 7* / parengė I. Ilarienė, L. Karalius, D. Antanavičius. Vilnius 2011, p. 579–580.

12 K. Strasz, *Aleksander Jagiellończyk w Wilnie i na ziemiach b. W. Ks. Litewskiego,* Wilno 1935, s. 8.

13 Ю. Крачковский, *Старая Вильна до конца XVII столетия,* Вильна 1893, с. 59–60.

сярэбранага ліста. Паслядоўнасць дзеянняў была прыблізна такой: браліся срэбра вядомай пробы і лігатура (як правіла, медзь), якія плавіліся ў спецыяльнай печы. За тым, каб будучыя манеты былі патрэбнай пробы, сачыў прабірэр, які браў пробы на якасць, такім чынам робячы аналіз складу металу. Для атрымання неабходнай, загадзя вызначанай лотавай пробы, прабірэр дадаваў срэбра або лігатуру. Калі атрымлівалася патрэбная канцэнтрацыя, метал вылівалі ў загадзя падрыхтаваныя формы. Потым пачынаўся працэс раскаткі металу да патрэбнай таўшчыні. У атрыманых лістах спецыяльнымі прабойнікамі круглай формы выбівалі манетныя кружкі. Пры дапамозе двух штэмпеляў наносіліся выявы на манетны кружок, які пасля гэтага рабіўся манетай.

Літоўская чаканка была прадстаўлена біццём дынарыяў і паўгрошаў[14].



**Паўгрош Аляксандра**

Упершыню на манетах ВКЛ былі ўведзеныя доўгія легенды на лацінскай мове. Так, на аверсе паўгроша размяшчаўся дзяржаўны герб Ягелонаў “Пагоня”, вакол яго — надпіс *MON ALEXANDRI*, што азначае *“манета Аляксандра”*. На рэверсе змяшчаўся “Арол”, але без кароны,— польскі герб часоў панавання дынастыі Ягелонаў — вакол якога надпіс *MAGNI DVC LITVANIE* (*“вялікага князя літоўскага”*). Такім чынам, надпіс гаварыў аб прыналежнасці манеты не Вялікаму Княству Літоўскаму, а менавіта вялікаму князю Аляксандру — *“манета Аляксандра — вялікага князя літоўскага”*. Упершыню на літоўскіх манетах з’явіўся герб Ягелонаў “Арол”. Гэтым падкрэсліваліся віды Аляксандра і на польскую карону.

[14] Д. В. Гулецкий, *Монеты Великого Княжества Литовского (со второй половины 14-го века до 1536 года)*, Минск 2014, с. 92–110.

Вага гатовых паўгрошаў не была аднолькавай. Гэта было звязана з прынцыпам *Al-marko*, які азначаў выбіццё канкрэтнай колькасці манет з адной грыўны срэбра, не звяртаючы ўвагі на вагу кожнай асобнай манеты. Аналізуючы склад добра апісанага скарбу з Мацяляй (Літва)[15], В. Какарэка вызначыў сярэднюю вагу 295 паўгрошаў Аляксандра, якія меліся ў скарбе. З улікам таго, што 3% вагі страчваецца пры абарачэнні, сярэдняя вага паўгроша Аляксандра раўнялася 1,155 г, пры тым што дыяпазон вагі асобных манет быў вялікі — ад 0,77 г да 1,51 г[16]. Вызначаная сярэдняя вага аказалася трошкі меншай за тую, якую вылічыў польскі нумізмат М. Гумоўскі — 1,197 г.[17] На думку В. Какарэкі, гэта звязана з тым, што для аналізу былі адабраныя тыя манеты з калекцыі, якія мелі лепшы стан (а значыць і вагу), або даследаваныя манеты са скарбу з Мацяляй былі ў актыўным абарачэнні большы час і маюць большую ступень зносу[18]. Першым да вызначэння пробы паўгрошаў спрычыніўся Ф. Пекасінскі, які вылічваў яе на падставе кракаўскай грыўны. Агнявое апрабірванне дзвюх манет дало вынік — 0,372 і 0,373 пункты, або VI-лотавая проба[19]. Але, як трапна заўважыў М. Гумоўскі, у ВКЛ выкарыстоўвалася свая грыўна, якая была трошкі лягчэйшая за кракаўскую. Яе вага складала 191,29 г. Атрымліваецца, што кожны паўгрош змяшчае толькі 0,446 г чыстага срэбра, а з адной грыўны білася 429 паўгрошаў[20]. Э. Іванаўскас і Р. Дучыс на падставе сваіх дадзеных



**Пенязь Аляксандра**

---

15 Z. Duksa, *Matelių lobis (Molėtų r. 1622 / 1954),* "Numizmatika", 2000, № 1, p. 125.

16 В. Какареко, *Монетное дело Александра Казимировича (1492–1506), Материалы III Междунар. нумизмат. конф.: "Монета — символ государства",* Минск, 27–29 авг. 2007 г., "Банкаўскі веснік [Спецвыпуск]", 2008, № 7, с. 62–63.

17 M. Gumowski, *Mennica wileńska w XVI i XVII w.,* Warszawa 1921, s. 16.

18 В. Какареко, *Монетное дело Александра Казимировича (1492–1506),* с. 63.

19 F. Piekosiński, *O monecie i stopie menniczéj w Polsce w XIV i XV wieku,* [w:] *Rozprawy i Sprawozdania z Posiedzeń Wydz. Hist.-Filozof. Akad. Umiejęt. w Krakowie,* 1878, t. IX, s. 162.

20 M. Gumowski, *Mennica wileńska w XVI i XVII w.,* s. 16–17.

прыйшлі да іншых высноў[21]. Трэба адзначыць, што пры біцці манет восі аверса і рэверса не вытрымліваліся. Манеты біліся вялікімі накладамі, таму на гэта проста не хапала часу.

Пензі мелі тыя самыя выявы, што і паўгрошы, аднак яны былі анэпіграфнымі — не мелі легендаў і надпісаў.

Толькі на аверсе каля герба "Пагоня" была змешчана невялікая літара "А", якая, верагодна, азначала першую літару імя вялікага князя. Дыяметр пенязя ў сярэднім быў 13 мм. М. Гумоўскі ўзважыў 18 манет з розных калекцый і вылічыў сярэднюю вагу пенязя — 0,335 г, а з улікам 3 % на страту вагі пры абарачэнні — 0,345 г. У дадзеным выпадку таксама можна выказаць упэўненасць, што сярэдняя вага будзе крыху меншай, бо для аналізу былі ўзятыя калекцыйныя манеты ў добрым стане з вядомых польскіх збораў. Апрабаванне вызначыла IV лотавую (ці 250-ю метрычную) пробу срэбра. Атрымліваецца, што пенязь утрымліваў 0,085 г чыстага срэбра. З літоўскай грыўны срэбра (191,29 г) білася 2 250 такіх манет. На той час ужо існавала дзесяцічная сістэма: паўгрош раўняўся 5 пенязям, грош — 10. 100 грошай (або 1 000 пенязяў) складалі рубель. Атрымліваецца, што рубель грошай, складзены з 1 000 пенязяў, змяшчаў у сваім складзе толькі 85 грам чыстага срэбра. З аднаго рубля чыстага срэбра білася 2,25 рубля пенязямі. Такім чынам чысты прыбытак складаў 125 %[22]. У сярэдзіне XIX ст. быў выяўлены адзіны экзэмпляр літоўскага гроша Аляксандра.



**Грош Аляксандра (гальванакопія)**

[21] E. Ivanauskas, R. J. Douchis, *Lietuvos monetų kalybos istorija 1495–1769,* Vilnius 2002, p. 184.

[22] M. Gumowski, *Mennica wileńska w XVI i XVII w.,* s. 14.

Ён быццам бы паходзіў з-пад нямецкага Гановера і ўпершыню быў апісаны Г. Гротам у 1862 г. Выдатнейшы польскі нумізмат Кароль Бэйер стаў наступным гаспадаром гэтай манеты, якую потым перадаў графу Замойскаму[23]. Першым да даследавання гроша спрычыніўся Ф. Пекасінскі, паспрабаваўшы вызначыць яго стапу. Ужо тады ўзнікла шмат пытанняў па *"літоўскаму шырокаму грошу"*[24]. К. Строньчынскі з пэўнай доляй верагоднасці называў літоўскі грош *"скойцам"*[25]. Да Другой сусветнай вайны грош захоўваўся ў прыватнай калекцыі Замойскіх у Варшаве, але ён знік пры таямнічых абставінах падчас вайны. Захаваліся толькі яго апісанні. Добрае даследаванне літоўскага гроша зрабіў М. Гумоўскі, які прыйшоў да высновы, што гэта тагачасны фальсіфікат[26]. У нашы дні канчаткова развеяў міф аб рэальнасці існавання такой манеты літоўскі даследчык Э. Іванаўскас[27]. Аднак, нягледзячы на гэта, некаторыя даследчыкі нават і ў XXI ст. па-ранейшаму выказваюцца аб рэальнасці існавання літоўскага гроша Аляксандра як надзвычай рэдкай або пробнай манеты[28].

Новая грашовая сістэма складалася толькі з двух наміналаў — паўгроша і пенязя. Грош, застаўшыся лічыльнай адзінкай, складаўся з двух паўгрошаў, або з 10 пенязяў. Такая структура з'яўлялася прыкладам дзесяцічнай грашовай сістэмы, самай перадавой у тагачаснай Еўропе.

З-за недахопу архіўных дакументаў мы не можам цалкам аднавіць карціну коштаў і закупак срэбра для чаканкі манеты. Аднак часткова захаваліся такія дакументы пачатку XVI ст. аб дзейнасці кракаўскай мынцы. З гэтых крыніц мы можам мець уяўленне аб пэўных фінансавых аспектах дзейнасці манетнага двара. Вядома, што срэбра на мынцу паступала самай высокай (XV) лотавай пробы. Кошт адной кракаўскай грыўны складаў 5 дукатаў. Найбольш папулярнай залатой манетай быў вугорскі дукат, які меў пастаянную якасць і вагу. Яго курс увесь час павышаўся: 1503 г.— 33 польскіх гроша, 1504 г.— 34, 1505 г.— 36, хаця па Канстытуцыі 1504 г. курс дуката ўстанаўліваўся максімум у 32 гроша. Апошняе рашэнне, як мы бачым, не выконвалася. З кожнай грыўны выбівалася 480 каронных паўгрошаў. Радовішчаў свайго срэбра не было, таму краіна вымушаная была яго закупаць у купцоў і спецыяльных дастаўшчыкаў срэбра, якімі з'яўляліся Ян Турзо і Ян Бонэр. У 1504 г. яны паставілі 4 000, а ў 1505 г. ужо

[23] Тамсама, s. 17.

[24] F. Piekosiński, *O monecie i stopie menniczéj w Polsce w XIV i XV wieku,* s. 163–164.

[25] K. Stronczyński, *Dawne monety Polskie dynastyi Piastów i Jagiellonów,* Piotrków 1885, cz. III, s. 87.

[26] M. Gumowski, *Mennica wileńska w XVI i XVII w.,* s. 18–20.

[27] E. Ivanauskas, *Aleksandro Jogailaičio lietuviškas grašis — XIX klastotė,* "Numizmatika", 2001–2002, № 2–3, p. 301–305.

[28] Ш. И. Бектинеев, *Денежное обращение на территории Беларуси в IX–XVI веках: нумизматические исследования,* Мінск 2014, с. 241.

8 000 грывен срэбра XV-ай лотавай пробы. Таксама ў мынцу паступалі прыватныя ахвяраванні і срэбра ад памерлых дзяржаўных дзеячаў[29].

Да сённяшняга часу застаецца спрэчным пытанне аб пачатку эмісійнай дзейнасці Віленскай мынцы ў часы Аляксандра. У 1492 г. са смерцю Казіміра перарываецца дынастычная унія паміж ВКЛ і Польскім каралеўствам. Літву наследуе Аляксандр, а Польшчу — Ян Ольбрахт. У сувязі з гэтым Іёахім Лялевель лічыў, што літоўскія манеты не маглі несці польскі герб, а каронныя манеты не бралі літоўскі аж да пасольства 1499 г..[30] Сапраўды, гэтае пасольства мела на мэце палітычнае, эканамічнае збліжэнне дзвюх краін і садзейнічала паляпшэнню адносін паміж імі[31]. І. Лялевель у дадзеным выпадку блытае паняцці: гербы "Пагоня" і "Арол" не былі на той момант дзяржаўнымі гербамі, а з'яўляліся выключна дынастычнымі сімваламі Гедымінавічаў і Ягелонаў. Іншы польскі даследчык, Ф. Пекасінскі, лічыў, што Аляксандр пачаў біць літоўскія манеты на прыклад польскіх толькі ў 1501 г.[32] і, верагодна, пасля прыняцця польскай кароны. Аднак І. Лялевелю і Ф. Пекасінскаму не былі вядомыя архіўныя крыніцы, якія тычацца працы віленскай мынцы канца XV — пачатку XVI ст. 9 чэрвеня 1499 г. гаспадарскі маршалак Ян Літавор Храптовіч робіць справаздачу вялікаму князю пра дзейнасць мынцы за 4 гады. З 1495 г. па чэрвень 1499 г. мынца прынесла прыбытак у памеры 61 920 залатых, лічачы па 22 грошы за залаты. За адзначаны перыяд у манету перабіта 24 658 грывен і 2 скойца срэбра. Сума ўсіх расходаў на вытворчасць манет склала 56 041 капу і 26 грошай[33]. З гэтай справаздачы невядома, якія наміналы біліся ў мынцы з 1495 па 1499 г. і ці працавала мынца да 1495 г. У дакуменце не ідзе гаворкі пра адкрыццё манетнага двара і закупку неабходнага абсталявання, што патрабавала даволі вялікіх сродкаў. У сувязі з гэтым М. Гумоўскі выказвае думку, што гэта была не першая справаздача і мынца функцыянавала і раней[34]. Але трэба пагадзіцца з літоўскімі даследчыкамі Э. Іванаўскасам[35] і Э. Рэмецасам[36], якія ўказваюць, што гэтая справаздача была першай, а мынца пачала сваю эмісійную дзейнасць менавіта з 1495 г. Адкрыццё манетнага двара

29 Gumowski, M. *Mennica koronna za Aleksandra Jagiellończyka* / M. Gumowski // Wiadomości Numizmatyczno-Archeologiczne. — 1909. — № 7. — S. 125—127.

30 J. Lelewel, *O monecie polskiej,* Poznań 1862, s. 20.

31 *Volumina legum,* t. 1: Ab anno 1347 ad annum 1547, Petersburg 1859, s. 129–130.

32 F. Piekosiński, *O monecie i stopie menniczéj w Polsce w XIV i XV wieku,* s. 161.

33 *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 6 (1494–1506),* p. 138.

34 M. Gumowski, *Mennica wileńska w XVI i XVII w.,* s. 8.

35 E. Ivanauskas, R. J. Douchis, *Lietuvos monetų kalybos istorija 1495–1769,* p. 12–13.

36 E. Remecas, *XVI a. monetų apyvarta dabartinės Lietuvos teritorijoje,* "Pinigų studijos. Ekonomikos istorija", 2002, nr. 2, p. 58.

і арганізацыя яго бесперабойнага функцыянавання патрабавала вялікай арганізацыйнай працы. На гэта і спатрэбілася некалькі гадоў пасля ўступлення на пасад Аляксандра. Новы вялікі князь прыняў дзяржаву ў вельмі неспакойныя часы — працягвалася вайна з Масковіяй, якая скончылася ў 1494 г. падпісаннем “вечнага міру”[37].

Т. Нарбут сцвярджаў, што ў 1503 г. Я. Курзавецкі атрымаў дазвол на біццё польскай манеты ў Гродне[38]. Ніякіх спасылак і крыніц аўтар не прыводзіць. На сённяшні момант пацвярджэння гэтай інфармацыі няма.

ВКЛ не мела сваіх радовішчаў каляровых металаў, таму яно вымушанае было закупаць срэбра за мяжой. Верагодна, з-за гэтага і быў уведзены закон аб забароне вывазу срэбра за межы Княства. Меліся нават канкрэтныя справы па выпадках парушэння забароны. Так, у маі 1495 г. Пётр Дзяржковіч у Смаленску забраў у мажайскага купца Якуша Андрэевіча Малышкіна, які вяртаўся з Вільні ў Масковію, 22 грывенкі срэбра. Ён матываваў гэта тым, што *“заповедано из Литовскіе земли серебро въ наши земли возити”*. Незадаволенасць гэтым фактам выказвалася ў Маскве літоўскім паслам. Маскоўскі бок патрабаваў вяртання срэбра, абяцаючы ў далейшым улічваць, што нельга вывозіць срэбра з Літвы[39]. Праз два месяцы такая ж сітуацыя разглядалася і ва ўзаемных пасольствах паміж Літвой і Масковіяй[40]. Э. Іванаўскас і Р. Дучыс адзначаюць яшчэ некалькі крокаў, якія папярэднічалі рэфармаванню грашовай сістэмы. У 1495 г. з эканамічных прычын было праведзена высяленне габрэяў, якіх звязвалі з грашовай спекуляцыяй і фальшываманецтвам. Такім чынам можна было разлічваць на значнае памяншэнне спроб спекуляцый “новымі” і “старымі” грошамі. Другім важным крокам пры правядзенні рэформы было стварэнне ў Вільні ў 1495 г. ювелірнага цэха. У выніку было абмежавана кола людзей, якія могуць працаваць з каштоўнымі металамі[41].

Ранейшых звестак (да 1495 г.) аб працы мынцы няма, аднак беларускі даследчык Ш. І. Бекцінееў у сваёй манаграфіі, не спасылаючыся ні на якія крыніцы, у розных месцах наогул падае розную храналогію гэтых падзей: мынца створана ў 1492 г.,[42] каля 1492[43], пасля 1492 (у тэксце памылка: 1482 г.)[44].

37 В. М. Цемушаў, *На ўсходняй мяжы Вялікага княства Літоўскага (сярэдзіна XIV — першая палова XVI ст.),* Смаленск 2014, с. 156–218.

38 T. Narbutt, *Dzieje starożytne narodu litewskiego*. Tom 1: *Mitologia Litewska,* Wilno 1835.

39 *Сборник Императорского Русского Исторического Общества* / под ред.: Г. Ф. Карпова, Санкт-Петербург, 1882, т. 35, с. 193.

40 Тамсама, с. 209–216.

41 E. Ivanauskas, R. J. Douchis, *Lietuvos monetų kalybos istorija 1495–1769,* p. 14.

42 Ш. И. Бектинеев, *Денежное обращение на территории Беларуси в IX–XVI веках,* с. 9, 45, 71, 245, 247, 267, 297.

43 Тамсама, с. 70, 177, 240, 297.

44 Тамсама, с. 32.

А. Кіркор дапускаў, што пастаянная віленская мынца магла быць заснаваная ў апошнія гады княжання Казіміра[45]. М. Гумоўскі, аўтар класічнай манаграфіі, прысвечанай дзейнасці Віленскай мынцы ў XVI–XVII стст., сцвярджае, што манетны двор працаваў яшчэ пры жыцці Казіміра і выпускаў пенязі без літары "A", якая азначала "Аляксандр", бо апошні пакуль яшчэ не з'яўляўся вялікім князем. У доказ ён прыводзіць два архіўныя дакументы са збораў князёў Любартовічаў-Сангушкаў, якія датуюцца 1491–1492 гг., дзе ёсць згадкі пра курс літоўскага і пражскага грошаў у пераліку на пенязі[46]. Трэба падрабязна спыніцца на аналізе саміх дакументаў.

У першым дакуменце, датаваным 14 верасня 1491 г., у прыватнасці гаворыцца, што першы падскарбі Федка Багданавіч Храптовіч прадае Канстанціну Іванавічу Астрожскаму свой двор у Вільне за *"полтораста коп грошей литовской монеты по десяти пенязей у грош"*[47]. Аднак Федка Храптовіч займаў пасаду падскарбія значна пазней. Паводле А. Банецкага,— з 1502 г.,[48] аднак мы выявілі дакумент, датаваны 1499 г., у якім згадваецца *"подскарбии наш Федко Хребътович"*[49]. Ранейшых звестак пра гэтую пасаду, занятую Ф. Храптовічам, няма. У тэксце дакумента Канстанцін Астрожскі названы гетманам гаспадарскім, старастай луцкім, браслаўскім, вінніцкім, маршалкам валынскай зямлі. Гэтыя пасады ён атрымаў значна пазней за 1491 г. і займаў іх да 1522 г., калі стаў троцкім ваяводам[50]. Яшчэ адна цікавая акалічнасць, якая сведчыць пра памылковую даціроўку, заключаецца ў тым, што ў дакуменце згадваецца земскі падскарбі Міхал Богуш Багавіцінавіч[51], які займаў гэтую пасаду ў 1509 г. і ў перыяд 1519–1530 гг.[52]

Дакумент, на нашу думку, няправільна датаваны ("*лето сем тисячное*"), бо там прапушчана слова трыццаць. Калі браць за галоўную прыкмету індыкт (парадкавы нумар года ў пятнаццацігадовым цыкле), то наступныя магчымыя даты дакумента –1506 або 1521 г. (7030 г.). Першая дата не падыходзіць, бо ў гэтым годзе К. Астрожскі быў вязнем у Маскоўскім княстве. Другі год найбольш пасуе для датавання гэтага дакумента: менавіта у гэтым годзе

[45] А. К. Киркор, *Монетное дело в Литве,* "Древности: Труды Московского Археологического общества", Москва 1869, т. 2, вып. 2, с. 103.

[46] M. Gumowski, *Mennica wileńska w XVI i XVII w.,* s. 3–5.

[47] *Archiwum książąt Lubartowiczów Sanguszków w Sławucie*, Lwów 1887, t. I (1366–1506), s. 95–96.

[48] A. Boniecki, *Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku,* Warszawa 1883, s. 30.

[49] *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 6 (1494–1506),* p. 227.

[50] A. Boniecki, *Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku*, s. 232; А. В. Ярушевич, *Ревнитель православия, князь Константин Иванович Острожский (1461–1530) и православная литовская Русь в его время,* Смоленск 1896, с. 169.

[51] *Archiwum książąt Lubartowiczów Sanguszków w Sławucie*, т. I (1366–1506), s. 96.

[52] A. Boniecki, *Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku,* s. 11.

К. Астрожскі ўжо займаў усе тыя пасады, якія былі пералічаныя ў дакуменце і М. Богуш Багавіцінавіч быў земскім падскарбіем[53].

Другі дакумент мае датаванне 22 лістапада 1492 г. З тэкста мы даведваемся, што гаспадарскі баярын Іван Цімафеевіч Куль прадаў князю Васілю Андрэевічу Палубенскаму двор Мікіціна за 100 коп шырокіх грошай *"по чотырнадцати пенязий у грош"*[54]. Шырокія грошы з дакумента — гэта, несумненна, пражскія грошы, якія былі асновай грашовага абарачэння Вялікага Княства Літоўскага да канца XV ст.

Самы ранні вядомы на дадзены момант дакумент часоў Аляксандра Ягелончыка, у якім пражскі грош пералічваецца на літоўскі, датаваны 1500 г. Пры пераліках атрымліваецца, што адзін пражскі грош роўны 12 літоўскім пенязям[55]. Гэты курс захоўваўся прыблізна да 1507 г.[56] Пасля 1507 г. у дакументах ніколі не выкарыстоўваўся "стары курс" у 12 пенязяў, а заўсёды быў "новы" — 14 пенязяў[57]. У некаторых выпадках курс быў яшчэ большы — 15 літоўскіх пенязяў за адзін пражскі грош[58]. На сённяшні момант невядома ніводнага дакумента, дакладна датаванага да 1507 г., у якім курс пражскага гроша пры пераліках на літоўскі складаў бы 14 пенязяў.

Адразу трэба адзначыць, што ў дакуменце, на які спасылаецца М. Гумоўскі, канкрэтная дата не пазначана. Яна вылічаная па індыкту. Улічваючы інфармацыю, прыведзеную вышэй, можна зрабіць выснову, што і гэты дакумент таксама няправільна датаваны. Наступныя магчымыя даты (па індыкту) — 1507 і 1522. На наш погляд, найбольш верагодным з'яўляецца менавіта 1522 г., бо вядомы толькі адзін дакумент 1507 г., у якім абазначаны курс пражскага гроша ў 14 пенязяў[59]. Пасля 1514 г. колькасць такіх дакументаў рэзка ўзрастае. Цікава, што іншы даследчык, Й. Вольф, робіць у сваёй працы спасылку на гэты дакумент, аднак датуючы яго ўжо па-іншаму — 1507 г.[60] Такім чынам, цытаваныя дакументы не могуць з'яўляцца доказам таго, што ў 1491–1492 гг. Віленскі манетны двор ужо

53 А. В. Карач, *Документы и нумизматика ВКЛ (конец XV — первая половина XVI века): ошибки исследователей,*[в:] *Русь, Литва, Орда в памятниках нумизматики и сфрагистики: сборник научных статей,* Москва 2015, вып. 1, с. 261.

54 *Archiwum książąt Lubartowiczów Sanguszków w Sławucie*, Lwów 1890, т. III (1432–1534), s. 23–34.

55 *Белоруссия в эпоху феодализма*, т. 1: *С древнейших времён до середины XVII века,* Минск, 1959, с. 187.

56 В. Н. Рябцевич, *Нумизматика Беларуси,* Минск 1995, с. 167.

57 *Lietuvos valstybės istorijos archyvas,* F. 1282, ap. 5, b. 112. l. 1; *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 7 (1506–1539).* Užrašymų knyga 7 / parengė I. Ilarienė, L. Karalius, D. Antanavičius. Vilnius 2011, p. 570, 577; *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 10 (1440–1523).* Užrašymų knyga 10 / parengė E. Banionis, A. Baliulis, Vilnius 1997, p. 60; *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 19 (1535–1537).* Užrašymų knyga 19 / parengė D. Vilimas, Vilnius 2009, p. 99.

58 *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 19 (1535–1537),* p. 437.

59 В. Н. Рябцевич, *Нумизматика Беларуси,* с. 167.

60 J. Wolff, *Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku,* Warszawa 1895, s. 370.

працаваў і была сістэма лічэння *“10 пенязяў у грош”*[61].

Э. Іванаўскас і Р. Дучыс у 2002 г. са спасылкай на архіўны дакумент, вядомы толькі С. Янушонісу, напісалі, што ў 1489 г. згадваецца віленскі грашовы майстар Генрых Шлягер[62]. Некаторыя даследчыкі нават сцвярджаюць, што мынца біла манеты з імем Аляксандра яшчэ пры жыцці яго бацькі Казіміра: у 1489 г. адбылася спроба адкрыцця новага Віленскага манетнага двара[63]. Цікава, што сам дакумент аўтарам невядомы і нідзе не апублікаваны, а яго існаванне пацвярджае толькі сам С. Янушоніс. Такая таямнічасць дазваляе выказаць меркаванне аб нерэальнасці існавання дакумента або аб скажэнні звестак.

Другі афіцыйны дакумент, які сведчыць пра дзейнасць віленскай мынцы, датуецца 8 снежня 1506 г. Новы вялікі князь Жыгімонт дае ліст маршалку Міхаілу Глінскаму, у якім засведчана прыняцце *“лічбы”* аб дзейнасці мынцы і васкоўні за папярэднія 5 год (1501–1506 гг.). З квіта даведваемся, што ён кіраваў мынцай з 06.12.1501 г. Ні канкрэтных наміналаў, ні прыходна-расходных аперацый, якія б сведчылі пра фінансава-гаспадарчую дзейнасць мынцы, не ўказана. З 15 ліпеня 1506 г. М. Глінскі кіраваў яшчэ і васкоўняй. За наступныя паўгады мынца разам з васкоўняй прынесла прыбытак у памеры *“две тисячи копъ и триста копъ, и пятьдесятъ копъ грошей, а сукна семъ поставовъ лунских, а шесть поставовъ новогонских, а ковшы серебреные у восмънадцать гривен серебра, а три тарели серебреных позолочиваных”*[64].

Такім чынам, з двух дакументаў пра дзейнасць мынцы ў часы Аляксандра вядома, што яна дакладна функцыянавала ў перыяд з 1495 па 1499 г. і з 1501 па 1506 г. Невядома, ці была якая-небудзь актыўнасць у перыяд 1499–1501 гг. Літоўскія манеты гэтага перыяду недатаваныя, таму вельмі цяжка прасачыць храналогію, памеры эмісій і наогул вызначыць, у які перыяд якія выпускаліся наміналы.

Адзначым, што паводле стылю напісання асобных літар (M, N, C, D) вылучаецца два варыянты напісання легендаў на паўгрошах: рэнесансны і гатычны, а таксама змяшаны — на аверсе рэнесансная легенда, а на рэверсе — гатычная (ці наадварот).

Большасць даследчыкаў (Э. Іванаўскас, А. Грамыка, Д. Гулецкі) выказваюцца за тое, што першапачаткова біліся манеты з гатычнай легендай,

61 А. В. Карач, *Документы и нумизматика ВКЛ (конец XV — первая половина XVI века): ошибки исследователей,* с. 262.

62 E., Ivanauskas, R. J. Douchis, *Lietuvos monetų kalybos istorija 1495–1769,* p. 14.

63 Д. Гулецкі, А. Грамыка, А. Крываручка, *Манеты Беларусі (да 1707 г.),* Мінск 2007, с. 78; Д. Гулецкі, *Манеты беларускай даўніны,* Мінск 2007, с. 93–94.

64 *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 8 (1499–1514).* Užrašymų knyga 8 / parengė A. Baliulis, R. Firkovičius, D. Antanavičius. Vilnius 1995, p. 133.

а потым — з рэнесанснай. Гэтая выснова робіцца на супастаўленні тыпаў выяваў на манетах і іх зменлівасці[65]. Такая версія мае шэраг праблемных момантаў. Па-першае, калі меркаваць, што ў сярэдзіне 1506 г. выпускаліся паўгрошы з рэнесанснай легендай, то чаму праз паўтара гады, у канцы 1508 г., зноў замянілі рэнесансныя літары на гатычныя? Па-другое, колькасць памылак у легендах. Пры ўвядзенні новых манет заўсёды ёсць вялікая верагоднасць памылак і недакладнасцей пры першых выпусках. Так, на "гатычных" паўгрошах такіх памылак усяго толькі 4, а на "рэнесансных" у 3,5 разы больш — 14[66]. Па-трэцяе, А. Грамыка і Д. Гулецкі на аснове супастаўлення тыпаў выяў сцвярджаюць, што пенязі не біліся ў першы перыяд дзейнасці віленскай мынцы (1495–1499 гг.), а іх эмісіі прыходзяцца на 1501–1506 гг.[67] Аднак у дакументах 1497–1500 гг. сустракаецца назва "пенязь" (у значэнні дробная манета)[68]. Таксама варта адзначыць, што Аляксандр, калі стаў каралём польскім у 1501 г., адразу спыніў выпуск каронных пенязяў. Магчыма, спыненне эмісій літоўскіх пенязяў магло адбыцца як раз у гэты час і ў ВКЛ. Такім чынам, атрымліваецца, што версія з першапачатковым выпускам "рэнесансных" манет з'яўляецца недастаткова абгрунтаванай.

В. Какарэка прапануе сваю версію і сцвярджае, што храналогію эмісій трэба "перавярнуць": першапачаткова біліся паўгрошы менавіта з рэнесанснай легендай. Да гэтай высновы ён прыйшоў, таксама аналізуючы выявы гербоў "Пагоня" і "Арол". Выявы гербоў змяняліся пастунова, таму В. Какарэка параўнаў выявы "Арла" на манетах Аляксандра і на самых ранніх манетах Жыгімонта Старога. Толькі адзін тып "Арла" на паўгрошах Аляксандра аказаўся найбольш падобным да "Арла" на літоўскім паўгрошы і на глогаўскім грошы Жыгімонта Старога, а значыць, храналагічна такая манета была выпушчаная апошняй. Атрымалася, што першапачаткова біліся манеты з рэнесанснай легендай, а потым з гатычнай[69]. Апошняя думка нам падаецца больш лагічнай.

З-за таго, што ў першай справаздачы не пазначана, якія канкрэтна наміналы біліся ў 1495–1499 гг., некаторыя даследчыкі прыводзяць свае

[65] А. Громыко, *Литовские монеты Александра Казимировича: классификация и периодизация,* [у:] *Калекцыйная спадчына Вялікага княства,* Мінск 2008, с. 117–132; Д. В. Гулецкий, *Монеты Великого Княжества Литовского (со второй половины 14-го века до 1536 года),* Минск 2014, с. 93–110; E. Ivanauskas, *Coins and bars of Lithuania 1236–2012*, Kaunas 2013, t. I, p. 139–151.

[66] E. Ivanauskas, *Coins and bars of Lithuania 1236–2012,* p. 140–151; Д. В. Гулецкий, *Монеты Великого Княжества Литовского (со второй половины 14-го века до 1536 года),* с. 94–108.

[67] А. Громыко, *Литовские монеты Александра Казимировича: классификация и периодизация,* с. 117–132; Д. В. Гулецкий, *Монеты Великого Княжества Литовского (со второй половины 14-го века до 1536 года),* с. 100–110.

[68] *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 6 (1494–1506),* p. 215–216, 244, 254; *Белоруссия в эпоху феодализма,* т. 1, с. 307.

[69] В. Какареко, *Монетное дело Александра Казимировича (1492–1506),* с. 61–67.

датаванні грашовых эмісій Аляксандра. Так, М. Гумоўскі сцвярджаў, што спачатку біліся толькі пенязі, а паўгрошы крыху пазней. Як доказ ён прыводзіў думку аб наяўнасці дакументаў, у якіх сустракаецца слова "пенязь". І тэрмін "паўгрош" упершыню сустракаецца толькі ў 1522 г., а гэта часы Жыгімонта Старога[70]. Трэба адзначыць, што ўпершыню такі намінал як "паўгрош" у дакументах ВКЛ сустракаецца значна раней — у снежні 1495 г. Так, у пастанове аб памерах мыта ў Коўне гаворыцца: *"А коли немецъ немцу продасть сол в Ковне, то другое мыто маеть платити по грошу от копы, а от бочки по полугрошку. А коли вилневецъ приедеть до Ковна, не маеть конем своимъ вывезти къ их потребам, а коли пак хурманомъ повезти, по полгроша ж маеть дати от бочки мыта"*[71]. Няма сумненняў, што згаданы "полугрошка" — гэта менавіта літоўскі паўгрош. Далей М. Гумоўскі піша, што літоўскія паўгрошы выпускаліся як да прыняцця Аляксандрам польскай кароны, так і пасля гэтага, бо стылістыка і легенды не змяніліся нават пасля 1501 г., калі Аляксандр стаў каралём Польскім[72].

Э. Іванаўскас і Р. Дучыс на аснове супастаўлення тыпаў "Пагоні" і "Арла" сцвярджаюць, што першапачаткова біліся толькі паўгрошы. Як доказ яны прыводзяць думку аб тым, што пенязяў з раннімі тыпамі "Пагоні" і "Арла" няма. Пазней білася шмат паўгрошаў і вельмі мала пенязяў. Такая карціна была характэрнай для першага этапу чаканкі (1495–1499 гг.)[73] Цікава, што ў сваіх наступных каталогах манет ВКЛ, 2009 і 2013 г. в., Э. Іванаўскас адмаўляецца ад папярэдняй думкі і пачатак эмісій пенязяў і паўгрошаў датуе аднprofessional — 1495 г.[74]

У 2008 г. А. Грамыка выказаў версію аб тым, што ў перыяд 1495–1500 гг. пенязі наогул не біліся, а выпускаліся толькі паўгрошы[75]. Да гэтай думкі ён прыйшоў, аналізуючы тыпы і разнавіднасці гербоў на пенязях, аднак мы ўжо паказалі вышэй, што такая методыка не заўсёды можа дапамагчы ў храналогіі эмісій. Дадзеная версія, на наш погляд, памылковая. Таксама аб гэтым сведчаць і згадкі слова "пенязь" (у значэнні дробная манета) у дакументах 1497–1500 гг.[76] Не на карысць гэтай версіі А. Грамыкі сведчаць вось яшчэ якія абставіны. На пачатак манетнай рэформы Аляксандра асноўным грашовым сродкам, які быў у абарачэнні на тэрыторыі ВКЛ,

70 M. Gumowski, *Mennica wileńska w XVI i XVII w.,* s. 15.

71 *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 6 (1494–1506),* p. 307.

72 M. Gumowski, *Mennica wileńska w XVI i XVII w.,* s. 15–16.

73 E. Ivanauskas, R. J. Douchis, *Lietuvos monetų kalybos istorija 1495–1769,* p. 13.

74 E. Ivanauskas, *Coins and bars of Lithuania 1386–2009,* p. 41–42; E. Ivanauskas, *Coins and bars of Lithuania 1236–2012,* p. 135.

75 А. Громыко, *Литовские монеты Александра Казимировича: классификация и периодизация,* с. 92–100.

76 *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 6 (1494–1506),* p. 215–216, 244, 254; *Белоруссия в эпоху феодализма*, т. 1, с. 407.

заставаўся пражскі грош. Выпускаючы новую манету ў абарачэнне, урад ВКЛ павінен быў адразу вызначыцца з курсам новых манет да пражскіх грошаў. Калі прыняць за праўду, што пенязі не выпускалі да 1501 г., узнікае пытанне: па якім курсе пускаліся новыя манеты ў адносінах да пражскага гроша? Калі пенязяў не існавала, то атрымліваецца, што адзін пражскі грош на 1495 г. раўняўся двум ці тром літоўскім паўгрошам. Абодва варыянты курса абмену гэтых манет выглядаюць цалкам неверагоднымі: два паўгрошы за адзін пражскі грош — гэта вельмі нізкі кошт, а тры — завялікі. Для гэтых пералікаў акурат і былі патрэбныя пенязі, тым больш, што насельніцтва ўжо прызвычаілася да такіх дробных манетак. Можна выказаць асцярожную версію, што ў 1495 г. вызначаўся прымусовы курс літоўскага гроша да пражскага адзін да аднаго. Аднак насельніцтва хутка выкрыла неадпаведнасць утрымання чыстага срэбра ў дзвюх манетах і не жадала падпарадкоўвацца такому рашэнню ўлады. Праз некаторы час курс афіцыйна быў павялічаны да 1,2 гроша за адзін пражскі грош.

Варта адзначыць, што раней А. Грамыка (у сааўтарстве) выказваў іншую версію, што пенязі біліся на працягу дзесяцігоддзя ці крыху болей і прытрымліваўся версіі М. Гумоўскага аб адкрыцці Віленскай мынцы яшчэ пры жыцці Казіміра[77].

Несумненна, жадаючы вельмі хутка насыціць мясцовы рынак новымі манетамі, кіраўніцтва ВКЛ распрацавала праграму, паводле якой пражскія грошы падвяргаліся актыўнаму абмену на новыя манеты і паступалі на мынцу ў якасці сыравіны каштоўнага металу. Такая кампанія па выкупе і абмене пражскіх грошаў прыносіла дзяржаве неблагі прыбытак. Аднак насельніцтва, відаць, не надта актыўна мяняла пражскія грошы на новыя манеты па такім курсе, бо ўжо праз некалькі гадоў з’явілася вялікакняская ўстаўная грамата падняпроўскім валасцям аб відах і памерах падаткаў (ад 3 чэрвеня 1500 г.), у якой рубель прыраўноўваецца да 2 коп грошаў (100 пражскіх грошаў = 120 літоўскіх)[78]. Такім чынам, у 1500 г. ужо існаваў прымусовы курс абмену ў памеры 1,2 гроша літоўскага (12 пенязяў) за адзін “шырокі” грош. Па колькасці ўтрымання срэбра пражскі грош быў “цяжэйшы” за літоўскі эквівалент у 12 пенязяў, бо ўжо з 1507 г. сустракаецца больш высокі курс — 14 літоўскіх пенязяў[79]. У абсалютнай большасці дакументальных крыніц, у якіх сустракаецца пералік пражскага гроша на манету ВКЛ, курс вызначаецца ў памеры 1,4 літоўскага за адзін пражскі

[77] Д. Гулецкі, А. Грамыка, А. Крываручка, *Манеты Беларусі (да 1707 г.),* Мінск 2007, с. 78.

[78] *Белоруссия в эпоху феодализма*, т. 1, с. 187.

[79] В. Н. Рябцевич, *Нумизматика Беларуси,* 1995, с. 167.

грош[80], а часам яшчэ вышэйшы — 1,5 гроша[81].

Ранейшыя эмісіі літоўскіх пенязяў (Казімір, Вітаўт, Ягайла), дзякуючы сваёй высокапробнасці і большай вазе ў параўнанні з "новымі" пенязямі Аляксандра, таксама падвяргаліся выкупу і пераплаўцы на манетным двары. Аднак відавочна, што іх роля ў канцы XV ст. была абсалютна нязначная — няма ніводнага выпадку, каб раннія літоўскія пенязі сустракаліся разам з пазнейшымі эмісіямі ў адным скарбе.

Літоўскія даследчыкі Э. Іванаўскас і Р. Дучыс у 1999 г. выказалі меркаванне аб тым, што пасля смерці Аляксандра ў 1506 г. мынца яшчэ некаторы час працавала, выпускаючы пенязі без літары, але ад імя наступнага князя Жыгімонта[82]. У такім выпадку застаецца незразумелым, які быў сэнс гэтых вельмі непрацяглых эмісій і ці біліся паўгрошы разам з пенязямі, а калі так, то чаму няма іншых варыянтаў легендаў на паўгрошах, якія б сведчылі аб сваёй непрыналежнасці да памерлага князя? Трэба адзначыць поўную несур'ёзнасць гэтай версіі, бо ўжо ў наступных выданнях каталогаў манет ВКЛ Э. Іванаўскас адмовіўся ад яе[83]. Упершыню пенязі без літары "А" былі апісаныя яшчэ ў XIX ст[84]. Э. Рэмецас прытрымліваецца думкі, што адсутнасць літары "А" звязаная з бракам манетнай вытворчасці[85]. Беларускі нумізмат В. І. Какарэка згодны з ім, але дапускае яшчэ версію, што пенязі без літары — гэта падробкі XIX ст[86]. Апошнюю думку трэба прызнаць дакладна памылковай, бо ў Гальшанскім скарбе, частка якога захоўваецца ў Нумізматычным кабінеце БДУ (схаваны на мяжы XV–XVI стст.), быў выяўлены такі пенязь[87]. Д. Гулецкі зрабіў іканаграфічны аналіз тыпаў "Пагоні" і "Арла" на пенязях і высветліў, што вядомыя манеты без літары, верагодна, біліся не ў пачатку ці ў канцы, а храналагічна ў сярэдзіне эмісій[88]. Але пазней, зноў прааналізаваўшы тыпы выяваў на пенязях, ён кардынальна змяніў сваю думку пра даціроўку такога пенязя і далучыўся да першапачатковага меркавання Э. Іванаўскаса аб эмісіях пасля смерці

80 *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 7 (1506–1539),* p. 570–577; *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 10 (1440–1523),* p. 60.

81 *Русская Историческая Библиотека*, Санкт-Петербург 1903, т. 20, с. 437; В. Н. Рябцевич, *Нумизматика Беларуси,* с. 167.

82 E.Ivanauskas, R. J. Douchis, *Coins of Lithuania 1386–1707,* s. 47.

83 E. Ivanauskas, *Coins and bars of Lithuania 1386–2009,* Vilnius 2009; E. Ivanauskas, *Coins and bars of Lithuania 1236–2012*, Kaunas 2013, t. I.

84 K. Stronczyński, *Dawne monety Polskie dynastyi Piastów i Jagiellonów*, Piotrków 1885, cz. III, s. 84.

85 E. Remecas, *XVI a. monetų apyvarta dabartinės Lietuvos teritorijoje,* "Pinigų studijos. Ekonomikos istorija", 2002, nr. 2, p. 59.

86 В. Какареко, *Монетное дело Александра Казимировича (1492–1506),* с. 64.

87 Дз. Гулецкі, *Гальшанскі скарб часоў Аляксандра, знойдзены ў 1976 г.,* [у:] *Калекцыянер: зборнік артыкулаў*, Мінск 2014, с. 130.

88 Дз. Гулецкі, *Рэдкія манеты Жыгімонта Старога 1508–1529 гг. у зборах найвялікшых польскіх музеяў,* "Банкаўскі веснік", 2008, № 4, с. 58–59.

Аляксандра[89]. Э. Іванаўскас і Р. Дучыс у сваім каталозе апісалі пенязь такога тыпу (без фота), спаслаўшыся на зборы Нацыянальнага музея Літвы, аднак яго супрацоўнікі не змаглі знайсці ў сваіх калекцыях згаданую манету. На дадзены момант апісаныя, як мінімум, тры такія манеты[90]. Пенязі без літары "А", на нашу думку, трэба лічыць манетамі з часткова непрачаканеным элементам.

М. Гумоўскі наогул сцвярджаў, што мынца працягвала дзейнічаць і пасля смерці Аляксандра, да справаздачы Міхаіла Глінскага Жыгімонту Старому ў снежні 1506 г., выпускаючы пенязі і паўгрошы з імем памерлага князя[91]. Можна пагадзіцца, што са смерцю вялікага князя эмісіі хутка не маглі спыніцца і некаторы час яшчэ працягваўся выпуск пенязяў і паўгрошаў. Але малаверагодна, што мынца дзейнічала на працягу ўсіх чатырох месяцаў пасля смерці Аляксандра.

Адсутнасць дакументальных крыніц не дазваляе шырока вывучыць абставіны функцыянавання манетнага двара ў часы Аляксандра. Пасля смерці польскага караля Яна Ольбрахта новым манархам становіцца Аляксандр. Такім чынам, дзве краіны — ВКЛ і Польскае каралеўства — аб'ядноўваюцца пад уладай аднаго манарха. На элекцыйным Петркоўскім сейме (14.09.1501) таксама было прынята рашэнне, што каронная і літоўская манеты будуць аднолькавымі па вазе і ўтрыманні срэбра, аднак манета ВКЛ павінна несці на сабе свой старажытны герб[92]. Адзначым, што такія спробы былі і пазней, але да часоў Стэфана Баторыя літоўская манета была больш вартасная за каронную.

Па ўмовах Мельніцкай уніі 1501 г., якая юрыдычна афармляла ўладу Аляксандра ў Польшчы, абедзве краіны мусілі зблізіцца палітычна і эканамічна. Паводле адной з пастаноў гэтай уніі, манета павінна быць аднолькавай і раўнай па вазе ў Літве і Польшчы[93]. Аднак акт уніі не быў зацверджаны соймам, і фактычна яго ўмовы не дзейнічалі на тэрыторыі ВКЛ. Дакладна невядомая метралогія і тое, чые манеты (Літвы ці Кароны) павінны былі стаць прататыпамі для будучых адзіных эмісій. Уніфікацыі манет дамагаліся палякі і, верагодна, новыя манеты планавалі стварыць на аснове польскіх. Усё гэта паказвае не што іншае, як апасенні Польшчы з нагоды пашырэння рэалізацыі і спажывецкага рынку літоўскіх манет,

89 Д. В. Гулецкий, *Монеты Великого Княжества Литовского (со второй половины 14-го века до 1536 года),* Минск 2014, с. 110.

90 Дз. Гулецкі, *Гальшанскі скарб часоў Аляксандра, знойдзены ў 1976 г.,* с. 130; Дз. Гулецкі, *Рэдкія манеты Жыгімонта Старога 1508–1529 гг. у зборах найвялікшых польскіх музеяў,* с. 55–58.

91 M. Gumowski, *Mennica wileńska w XVI i XVII w.,* s. 23.

92 F. Piekosiński, *O monecie i stopie menniczéj w Polsce w XIV i XV wieku,*, s. 89–90.

93 *Volumina legum,* t. 1, s. 132.

канкурэнцыі з кароннымі манетамі ў некаторых памежных землях Польшчы і імкненне абмежаваць гаспадарчую самастойнасць Літвы.

У суседняй Польшчы адчуваўся недахоп большых наміналаў, таму па сеймавай ухвале ў студзені 1502 г. планаваўся выпуск "шырокіх" грошай, якія шлі б па курсе 20 грошай за адзін дукат. Таксама была вызначаная манетная стапа новых манет[94]. Аднак пасля выпуску пробных экзэмпляраў далей справа не пайшла, і ў Кароне па-ранейшаму выпускаліся толькі паўгрошы. 6 чэрвеня 1502 г. датаваны ліст Аляксандра, у якім паведамляецца пра стапу будучых паўгрошаў, якая павінна быць такой самай, як і ў часы Яна Ольбрахта[95]. Каронныя паўгрошы з імем Аляксандра біліся на Кракаўскай мынцы ў 1502–1506 гг., і, як і літоўскія, не нясуць даты выпуску. Адзначым, што каронныя паўгрошы былі на 20 % менш вартасныя, чым літоўскія.

У выніку грашовай рэформы Аляксандра Ягелончыка ў абарачэнне патрапілі першыя ўласна літоўскія манеты масавага чакану — пенязь і паўгрош. Гэтая падзея адбылася ў канцы XV ст. і спрыяла ўзнікненню развітых таварна-грашовых адносін і агульнага вялікага манетарнага рынку. Стварэнне ўласнай моцнай еўрапейскай грашовай сістэмы было адным з важнейшых фактараў, які паўплываў на далейшую інтэграцыю ВКЛ у Еўропу.

## Streszczenie

Andrej Karacz, *System monetarny Wielkiego Księstwa Litewskiego w czasach Aleksandra Jagiellończyka*

Latem 1492 r. wielkim księciem litewskim został Aleksander, syn Kazimierza. Młody i ambitny wielki książę energicznie zajął się sprawami państwa, w tym również mennictwem. Nowy system monetarny czasów Aleksandra Jagiellończyka składał się tylko z dwóch nominałów — półgrosza i denara (pieniądza). Grosz, który został jednostką nominalną, składał się z dwóch półgroszy lub 10 denarów (pieniędzy). Taka struktura była przykładem dziesiętnego systemu monetarnego, jednego z najbardziej awangardowych w ówczesnej Europie. W wyniku reformy walutowej Aleksandra Jagiellończyka faktycznie do obiegu weszły pierwsze monety litewskie masowego obrotu — denar (pieniądz) i półgrosz. Miało to miejsce pod koniec XV w. i sprzyjało rozwojowi stosunków handlowo-pieniężnych oraz wspólnego rynku walutowego. Stworzenie własnego silnego europejskiego systemu monetarnego było jednym z najważniejszych czynników

[94] F. Piekosiński, *O monecie i stopie menniczéj w Polsce w XIV i XV wieku*, "Rozprawy i Sprawozdania z Posiedzeń Wydz. Hist.-Filozof. Akad. Umiejęt. w Krakowie", 1878, t. IX, s. 264.

[95] Тамсама, с. 273–276.

sprzyjających dalszej integracji WKL z Europą. Z okresem panowania wielkiego księcia Aleksandra związana jest również działalność emisyjna mennicy w Wilnie oraz utworzenie w 1495 r. cechu jubilerskiego.


## Summary

Andrej Karacz, *The Monetary System of the Grand Duchy of Lithuania during the Reign of AlexanderJagiellon*

In summer 1492, Alexander Jagiellon, son of Kazimierz, was made Grand Duke of Lithuania. Young and ambitious, the Grand Duke energetically threw himself into affairs of state, including the minting of coins. Alexander Jagiellon's new monetary system consisted of two denominations –the półgrosz (half-groat) and denar (money). The grosz, which became the nominal unit, consisted of two półgroszes or ten denars. This structure was an example of the decimal monetary system, one of the most advanced in Europe at the time. As a result of Alexander Jagiellon's currency reform, the first Lithuanian coins in mass circulation came into existence — półgrosz and denar. This took place at the end of the 15$^{th}$ century and was conducive to the development of trade-monetary relations, as well as a mutual currency market. The Grand Duchy's creation of its own strong, European monetary system was one of the most important factors that aided its further integration with Europe. The reign of Grand Duke Alexander is also connected to the production activity of the Vilnius mint, as well as the creation of the jeweller guild.

**Кірыл Сыцько**
**(Мінск)**

# Інстытут Беларускай культуры і падрыхтоўка да святкавання 400-годдзя беларускага кнігадрукавання (паводле матэрыялаў Цэнтральнага навуковага архіва Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі)

Гады існавання Інстытута Беларускай Культуры (1922–1928) сталі сапраўдным “гарнілам” для маладой на той момант айчыннай навукі. Адным са шматлікіх выпадкаў супольнай працы сяброў ІБК стала дзейнасць у 1924–1926 гг. Скарынінскай юбілейнай камісіі, якую, па невядомых прычынах, традыцыйна асвятляюць з кропкі гледжання альбо фондаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (то бок з кропкі гледжання справаздач і планаў вышэйшых эшалонаў Савецкай улады ў краіне), альбо карыстаючыся газетнымі артыкуламі за згаданы перыяд, успамінамі і г. д. (то бок па крыніцах, якія апрыёры не могуць лічыцца самадастатковымі ў навуковым аналізе гістарычнай рэальнасці). І ў адным, і ў другім выпадку аналізуецца толькі верхавіна айсберга. У дадзеным артыкуле аўтар абапіраецца на фонд 67 (*Інстытут Беларускай Культуры)* Цэнтральнага навуковага архіва Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, які дазваляе акцэнтаваць увагу на пытаннях падрыхтоўкі да свята.

Як вынікае з архіўных матэрыялаў, асоба Францішка Скарыны прыцягнула пільную ўвагу сяброў Інбелкульта ў красавіку — траўні 1924 г. Так, ён узгадваецца ў запісцы *О работах по истории Белорусской культуры* ў кантэксце даследавання і бібліяграфічнага апісання беларускіх старадрукаў[1].

Традыцыйна, аднак, лічыцца, што афіцыйна прадстаўленая ідэя святкавання 400-годдзя беларускага друку ў Беларусі належыць Вацлаву Ластоўскаму, які звярнуў увагу на асобу Ф. Скарыны ў № 8 часопіса *Крывіч* за красавік-снежань 1924 г.[2] Аўтар дадзенага артыкула, са свайго боку,

[1] *Цэнтральны навуковы архіў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі* (далей — ЦНА НАН Беларусі), ф. 67, воп. 1, спр. 4, арк. 149.

[2] В. Ластоўскі, *Доктар Франціш Скарына (1525–1925),* “Крывіч”, № 8, 1925, с. 3–13.

ніколькі не спрабуючы прынізіць ролю і месца В. Ластоўскага ў развіцці беларускай гістарычнай навукі ў цэлым і скарыназнаўства ў прыватнасці, лічыць гэтую думку не зусім карэктнай.

Справа ў тым, што згаданы вышэй нумар часопіса, як вынікае з надрукаванага ў ім некралога, прысвечанага смерці доктара філалагічных навук Казімераса Бугі[3], памёршага 2 снежня 1924 г., пабачыў свет не раней за гэты дзень. У гістарыяграфіі прац, што тычыліся Ф. Скарыны, датай выхаду дадзенага часопіса называецца 1925 г.[4]

У той жа час, як вынікае з архіўных матэрыялаў ЦНА НАН Беларусі, 16 чэрвеня 1924 г. (то бок як мінімум за паўгады да выхаду № 8 часопіса *Крывіч*), на адным з першых пасяджэнняў гісторыка-археалагічнай секцыі[5] (якую варта не блытаць з гісторыка-археалагічнай камісіяй ІБК), прафесар Уладзімір Іванавіч Пічэта выказвае прапазіцыю аб неабходнасці правядзення юбілейных мерапрыемстваў і выдання прац, прысвечаных беларускаму першадрукару. Пры гэтым падкрэслівалася тое, што ў Беларусі на той момант не існавала аніводнай навуковай працы пра Ф. Скарыну. Асаблівую цікавасць выклікае дыскурс прамовы навукоўца: украінец па нацыянальнасці, рускамоўны прафесар асабліва акцэнтаваў увагу на беларускіх культурна-нацыянальных чынніках і на беларускай нацыі. Апроч гэтага, ён прапанаваў выдаць брашуру на дзвюх мовах — беларускай і габрэйскай[6]. Аргументам на карысць неабходнасці святкавання 400-годдзя беларускага друку стаў выхад *“…першай кнігі на беларускай мове…”*[7]. Пры гэтым, нягледзячы на акцэнт на культурна-нацыянальныя чыннікі (то бок рэчы, якія апрыёры маюць пэўную ацэначную афарбоўку), нельга не адзначыць навуковую аргументаванасць, вытрыманасць і ўзважанасць прамовы У. Пічэты. Дадзеная прапанова была падтрыманая адзінагалосна, нягледзячы на некаторую баязлівасць і нерашучасць сяброў секцыі, Мікалая Касяпровіча ў прыватнасці.

Аднак не можа не звяртаць на сябе ўвагі той факт, што ў сваім выступе У.І. Пічэта выказвае заўвагі наконт таго, што ў Вільні і Коўне створаныя цэнтры для святкавання ўрачыстасці (пры гэтым дакладна вядома, што такія цэнтры, камісіі, сектары і г.д. на той момант у гэтых гарадах не існавалі).

[3] *Казімір Буга (Некралог)*, “Крывіч”, № 8, с. 109.

[4] У. Пічэта, *Scoriniana*, [у:] *400-лецьце Беларускага друку,* Мінск 1926, с. 320.

[5] У шэрагу выданняў можна сустрэць звесткі аб тым, што гісторыка-археалагічная секцыя ўтварылася ў пачатку 1925 г., што не адпавядае рэчаіснасці. Так, ад імя сакратара секцыі ўжо ў пачатку 1924 г. пісаў дакладныя запіскі Васіль Друшчыц, а ў чэрвені 1924 г. пратаколам пасяджэння дадзенай структуры было прынятае рашэнне аб яе злучэнні з этнаграфічнай секцыяй.

[6] ЦНА НАН Беларусі, ф. 67, воп. 1, спр. 8, арк. 49.

[7] Тамсама, арк. 49 адв.



**Уладзімір Пічэта (фота 1920 года)**

Аналізуючы літаратуру, якая да таго часу выйшла, можна казаць аб тым, што віленская ініцыятыва магла належаць або аднаму з аўтараў г. зв. *краёвай ідэі* Людвіку Абрамовічу[8], або кс. Адаму Станкевічу[9], якія ў пачатку 1925 г. амаль адначасова выдалі кнігі ў згаданым вышэй горадзе.

Калі верыць Сігітасу Нарбутасу, то апроч узгаданых вышэй асоб існавалі і іншыя. Так, ушаноўвалі памяць Ф. Скарыны і групы студэнтаў універсітэта імя Стэфана Баторыя, прычым гэтыя мерапрыемствы цягнуліся ўвесь міжваенны перыяд[10].

Калі ж гаварыць пра Коўна, то гэта можа ўказваць на тое, што В. Ластоўскі, які ў 1924–1925 гг. знаходзіўся ў дадзеным горадзе, мог выказваць свае думкі раней за У. І. Пічэту ў вуснай форме, аднак афіцыйнае "пратакольнае" абгрунтаванне гэтай ідэі ў навуковым выглядзе ўсё ж належыць апошняму.

Зрэшты, можна выказаць меркаванне аб тым, што прафесар не ведаў ні аб падрыхтоўцы Л. Абрамовічам і А. Станкевічам кніг, ні аб ідэях В. Ластоўскага (калі апошнія, вядома, існавалі і выказваліся ў чэрвені 1924 г.), а словы аб падрыхтоўцы да святкавання ў Вільні і Коўне маглі прагучаць у якасці дадатковага аргумента арганізацыі працы (як бінарная апазіцыя, вытрыманая ў духу тагачаснай савецкай ідэалогіі: маладая беларуская савецкая навука не магла саступіць спаборніцтва *буржуазнай* і *панскай* польскай навуцы ў даследаваннях гісторыі Беларусі, культуралогіі і г. д.).

У любым выпадку можна казаць аб тым, што значную ролю ў падрыхтоўцы мерапрыемстваў, прысвечаных юбілею беларускага кнігадруку, у абеларушванні і пачатках "сакралізацыі" асобы Францішка Скарыны на Беларусі адыгралі не ініцыятывы верхніх эшалонаў савецкай улады, не Вацлаў Ластоўскі, але прафесар, у будучым — акадэмік Акадэміі

[8] L. Abramowicz, *Cztery wieki drukarstwa w Wilnie (1525–1925),* Wilno 1925.

[9] А. Станкевіч, *Доктар Францішак Скарына — першы друкар Беларускі. 1525–1925,* Вільня 1925.

[10] S. Narbutas, *Skorinos atminimo įprasminimas. Lietuva,* [w:] *Pranciškaus Skorinos "Rusėniškajai Biblijai" – 500,* Vilnius 2017, p. 103–104.

навук БССР Уладзімір Іванавіч Пічэта, які, па ўсім відаць, адмоўна ставіўся да таго, што ідэю ўшанавання беларускага першадрукара могуць рэалізаваць у ІІ Рэчы Паспалітай.

У. І. Пічэта, у прыватнасці, прапаноўваў наступныя захады да святкавання юбілею:

1. Стварэнне Юбілейнай камісіі.

2. Арганізацыю выставы старадрукаваных выданняў.

3. Стварэнне ўлёткі на беларускай і габрэйскай мовах, прысвечанай Ф. Скарыне.

4. Выданне навуковага зборніка.

5. Выданне навукова-папулярнай кнігі на беларускай мове для вучняў сярэдніх спецыяльных устаноў адукацыі і шырокага кола чытачоў[11].

Неўзабаве пасля гэтага, восенню 1924 г. (але не вясной 1925 г., як пішуць некаторыя аўтары[12]), пачала сваю працу Скарынінская камісія ў складзе Уладзіміра Пічэты (старшыні), Васіля Друшчыца (сакратара) і сяброў — Міхала Пятуховіча, Мікалая Шчэкаціхіна, Язэпа Лёсіка і Язэпа Дылы. Пазней, у лютым 1925 г., яна папоўнілася новымі сябрамі — Зміцерам Жылуновічам і Саламонам Кацэнбогенам[13].

Неабходна адзначыць часовы характар дадзенай камісіі і тое, што ўсе яе сябры, якія прысвячалі час дзейнасці па ўшанаванні Ф. Скарыны, як вынікае з пратаколаў, ліставанняў і справаздач, працавалі і ў іншых, пастаянных камісіях, а таксама былі занятыя іншымі відамі дзейнасці. Так, усё той жа У. І. Пічэта на працягу 1925–1926 гг. некалькі разоў выязджаў у Польшу — у Познань, Варшаву і Кракаў — у якасці прадстаўніка БССР для прачытання навуковых дакладаў[14].

Натуральна, што часовы характар працы і неабходнасць надаваць увагу выкананню іншых задач не маглі не паўплываць на якасць і хуткасць распрацоўкі юбілейных мерапрыемстваў. Пры гэтым нельга не адзначыць апантанасць удзельнікаў камісіі навуковай працай. Так, некаторыя пасяджэнні і сходы праходзілі ў выходныя дні і заканчваліся пазней за 10-ю гадзіну вечара[15].

Скарынінская камісія прыкладала ўсе намаганні, каб навукова абгрунтаваць неабходнасць прадстаўляць асобу Францішка Скарыны

11 ЦНА НАН Беларусі, ф. 67, воп. 1, спр. 8, арк. 49.

12 У. Садоўскі, *Францыск Скарына — пралетарскі першадрукар. Як у БССР святкавалі 400-годдзе беларускага друку.* Электронны рэсурс, рэжым доступу: http://budzma.by/news/francysk-skaryna-pralyetarski-pyershadrukar-yak-u-bssr-svyatkavali-400-hoddzye-byelaruskaha-druku.html

13 ЦНА НАН Беларусі, ф. 67, воп. 1, спр. 12, арк. 4–4 адв.

14 ЦНА НАН Беларусі, ф. 2, воп. 1, спр. 607, арк. 3.

15 ЦНА НАН Беларусі, ф. 67, воп. 1, спр. 12, арк. 10.

ў якасці беларускага першадрукара, у чым бачыцца прычына некаторай маруднасці дадзенай працы і шматлікія пераносы даты святкавання. У адрозненне ад намаганняў камісіі артыкул В. Ластоўскага быў шчыра аздоблены рамантычна-ідэалагічнымі абаротамі і прамымі запазычаннямі з Яўхіма Карскага[16]. Гэта датычыць, у прыватнасці, характарыстыкі асобы першадрукара, зробленай Я. Ф. Карскім у 1918 г. у артыкуле *Доктор Франциск Скорина*[17]. Сябры Інбелкульта намагаліся правесці шырокі навуковы аналіз, што, у прынцыпе, не перашкодзіла М. Шчэкаціхіну выказваць тэорыі пра датаванне нараджэння першадрукара, прасякнутыя духам рамантызму, уласцівага тагачасным беларускім дзеячам культуры[18].

Першым этапам навукова-прыкладной дзейнасці Скарынінскай камісіі можна назваць даследаванне гравюр беларускіх старадрукаваных кніг з фондаў Расійскай публічнай бібліятэкі і бібліятэкі Расійскай акадэміі навук, дзеля чаго ў Ленінград напрыканцы 1924 г. быў накіраваны ўсё той жа М. Шчэкаціхін[19].

Тым не менш, нягледзячы на дастаткова актыўны пачатак працы, ужо ў лютым 1925 г. было прынята рашэнне адкласці святкаванне юбілею на больш позні тэрмін (пры гэтым першапачатковы тэрмін у крыніцы не пазначаны)[20]. У ліставаннях з бібліятэкамі БССР датай святкавання называлася 25 кастрычніка 1925 г, пры гэтым свята атрымлівала назву “Дзень кнігі”[21].

Таксама мяняўся і першапачатковы фармат, прапанаваны У. Пічэтам. Новы юбілейны план уключаў, у прыватнасці, наступныя пункты:

1. Прыцягненне да ўдзелу ў святкаванні ўсіх школ і рабочых клубаў краіны.

2. Арганізацыю ўрачыстага аб’яднанага пасяджэння Інбелкульта і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

3. Арганізацыю ўрачыстага пасяджэння ў Полацку з зачытваннем шэрагу дакладаў.

4. Зварот да сродкаў масавай інфармацыі з просьбай у як мага большым аб’ёме адлюстраваць правядзенне Скарынаўскага юбілею.

5. Наданне імя Францыска Скарыны адной вуліцы і адной школе ў Полацку.

16 В. Ластоўскі, *Доктар Франціш Скарына (1525–1925),* “Крывіч”, 1925, № 8, с. 3–13.

17 Е. Карский, *Доктор Франциск Скорина,* “Чырвоны Шлях”, 1918, № 3–4, с. 13–16.

18 М. Шчэкаціхін, *Калі нарадзіўся Францішак Скарына,* “Полымя”, 1925, № 5, с. 148–152.

19 ЦНА НАН Беларусі, ф. 67, воп. 1, спр. 6, арк. 41.

20 Тамсама, арк. 7.

21 ЦНА НАН Беларусі, ф. 67, воп. 1, спр. 12, арк. 70.

6. Ліццё “скарынаўскага” шрыфту і замова двух партрэтаў — “*...адзін масавы, другі — даражэйшы...*”.

7. Прыняце мер, каб своечасова да юбілею выйшлі брашуры і навуковы зборнік.

8. Накіраванне ў школы і рабочыя клубы наступных лектараў: Пічэты, Петуховіча, Друшчыца, Дылы, Пяткевіча, Забелы, Бурдзейкі, Каўпака, Пашковіча, Маркевіча, Гірканта[22].

Газета *Савецкая Беларусь* пісала аб тым, што перанос даты святкавання выкліканы перадусім практычнымі патрэбамі — неабходнасцю правесці свята ў агульнарэспубліканскім маштабе, “*...каб уся Савецкая Беларусь магла як належна падрыхтавацца...*”[23], што, у прынцыпе, цалкам адпавядае карэкціроўцы Скарынінскай камісіяй сваіх планаў, прыведзеных вышэй.

Апроч пералічаных арганізацыйных былі і іншыя, куды больш канкрэтныя матэрыяльныя прычыны. Так, адзін з пратаколаў сведчыць, што ў 1925 г. перад Інбелкультам стаяла неабходнасць аплаты абсталявання і рамонтных работ у будынку інстытута, на што пайшлі грошы ў памеры 2 754 рублёў 40 капеек, за якія першапачаткова планавалася выдаць зборнік *400-лецьце Беларускага друку*[24].

Аднак гэтым жа пратаколам выдзялялася грашовая сума памерам 200 рублёў на набыццё ў Якава Кругера партрэта першадрукара[25]. Варта адзначыць, што дадзены партрэт сапраўды быў набыты і з’явіўся ў кнізе *400-лецьце Беларускага друку* ў выглядзе фотакопіі, зробленай вядомым беларускім фотамастаком Львом Дашкевічам.

Такім чынам, можна казаць аб тым, што святкаванне 400-годдзя беларускага кнігадрукавання ў спісе прыярытэтных задач і патрэб Інстытута беларускай культуры знаходзілася далёка не на першым месцы з-за абмежаванняў у фінансаванні. Так ці іначай, святкаванне было перанесена чарговы раз — на снежань 1925 года, пры гэтым яго падрыхтоўка ішла са спазненнямі і неналежным чынам.

Так, 23 снежня 1925 г. навуковая рада на чале з Усеваладам Ігнатоўскім прыняла рашэнне: нягледзячы на тое, што “*...падгатоўка да сьвяткаваньня як належна незакончана...*” (пры гэтым з моманту прыняцця рэзалюцыі па юбілеі і стварэння камісіі прайшло паўтары гады), свята ў любым выпадку павінна адбыцца ў перыяд 29–30 снежня 1925 г. Асаблівая ўвага надавалася друку як мага большай колькасці артыкулаў у рэспубліканскай

[22] ЦНА НАН Беларусі, ф. 67, воп. 1, спр. 6, арк. 7.

[23] “Савецкая Беларусь”, 1925 г., 25 сакавіка, с. 1.

[24] ЦНА НАН Беларусі, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 299.

[25] Тамсама, арк. 299 адв.

перыёдыцы, выданню брашуры і камандзіроўцы ў Полацк Івана Віткоўскага, Міхала Грамыкі і Мікалая Шчэкаціхіна[26]– тым пунктам першай прапановы У. Пічэты, якія не патрабавалі вялікіх грашовых выдаткаў. Аднак варта адзначыць, што шэраг мерапрыемстваў, напрыклад Першая Усебеларуская выстава, прысвечаная юбілею рэвалюцыі 1905 г. і 400-годдзю беларускага кнігадрукавання, прайшоў на дзяржаўным узроўні пад апякунствам іншых арганізацый (Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПбБ, Наркампраса, Саюза працаўнікоў мастацтва і інш.).

Нельга не ўзгадаць і тое, што апроч названых вышэй пунктаў працы былі і іншыя, выкананыя ІБК пазней. Гэта падрыхтоўка так званага скарынаўскага шрыфта, які пасля выкарыстоўваўся ў гербе БССР узору 1927 г., і зборніка навуковых артыкулаў *400-лецьце Беларускага друку*.

Падрыхтоўка гэтага выдання з’яўляецца наогул адным з найбольш цікавых этапаў святкавання Скарынаўскага юбілею і выбіваецца з агульнага плану мерапрыемстваў. Згаданую кнігу ніякім чынам нельга абмінуць увагай хаця б з-за таго, што, як справядліва адзначаў У. І. Пічэта ў сваёй прамове, прааналізаванай вышэй, да гэтага часу ў Беларусі не было навуковых прац па скарыназнаўстве. Такім чынам, дзякуючы намаганням сяброў Інстытута Беларускай Культуры, першая комплексная навуковая праца па скарыназнаўстве — зборнік *400-лецьце Беларускага друку* — убачыла свет у 1927 г.,[27] хаця на вокладцы годам выдання пазначаны 1926 г.
Ужо згаданы вышэй Усевалад Ігнатоўскі ў сакавіку 1925 г. падкрэсліваў неабходнасць выдання дадзенага зборніка *“своечасна*[28]*”*. Гэта, як і шэраг планавых мерапрыемстваў, не атрымалася рэалізаваць у адпаведнасці з заяўленым графікам.

Аб тым, што зборнік не павінен быў з’явіцца ні ў 1925, ні ў 1926 гадах, апроч прыведзенага вышэй рашэння Прэзыдыума Інбелкульта аб вяртанні Скарынінскай камісіяй грошай, вылучаных на яго выданне, сведчыць і выдавецкі план за абазначаны перыяд, у якім зборнік *400-лецьце Беларускага друку* наогул не згадваецца[29]. Толькі пазней, у чарнавым варыянце даведкі па выкананні планаў, алоўкам было дапісана: *“…Скарына…”*[30].

Такая марудлівасць была выкліканая перадусім фінансавымі пытаннямі, апісанымі вышэй. Так ці інакш, рэдакцыйная калегія зборніка пачала сваю паўнавартасную працу не раней за люты 1926 г. Як вынікае з выходных

[26] ЦНА НАН Беларусі, ф. 67, воп. 1, спр. 12, арк. 28–28 адв.

[27] A. Gruša, *Skorinos atminimo įprasminimas. Baltarusija*, [w:] *Pranciškaus Skorinos “Rusėniškajai Biblijai” – 500* Vilnius 2017, p. 115.

[28] ЦНА НАН Беларусі, ф. 67, воп. 1, спр. 12, арк. 9 адв.

[29] ЦНА НАН Беларусі, ф. 67, воп. 1, спр. 17, арк. 189–190.

[30] Тамсама, арк. 178.

дадзеных кнігі, калегія працавала ў наступным складзе: У. Пічэта, В. Друшчыц, Я. Дыла, З. Жылуновіч, Я. Лёсік, М. Шчэкаціхін[31].

Цікавасць выклікае таксама той факт, што шэраг навукоўцаў Інбелкульта і іншых установ, якія бралі непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы выдання, у самым зборніку не пазначаныя. Так, у складзе рэдакцыйнай калегіі ў зборніку не згадваюцца, у прыватнасці, Браніслаў Эпімах-Шыпіла, які рэдагаваў замежныя імёны і словы, Восіп Сіманоўскі, Юлія Бібіла, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Міхал Эндэ і іншыя асобы, якія ўзялі самы непасрэдны ўдзел у рэдактарскай, аздабленчай і іншых працах, што вынікае з лістоў на іх імя[32], а таксама са справаздач і даведак выдавецтва Інбелкульта.

Праца па падрыхтоўцы выдання вялася ўсю першую палову 1926 г. Пры гэтым, як можна бачыць, нягледзячы на патрабаванне У. Ігнатоўскага выдаць зборнік *400-лецьце Беларускага друку* своечасова, нейкіх захадаў па прасоўванні яго ў прыярытэтных спісах на выданне ў рэдакцыі не рабілася. Прычынай такой запаволенасці, апроч ужо названых вышэй фінансавых фактараў, была і некаторая неарганізаванасць аўтараў.

Калі прыводзіць канкрэтныя прыклады, то неабходна адзначыць, што ў лютым 1926 г. Інбелкульт даслаў ліст на імя мастака, выкладчыка Віцебскага мастацкага тэхнікума М. Эндэ, у якім, у прыватнасці, адзначалася, што палова артыкулаў зборніка канчаткова гатовая да друку і ўсё замаруджваецца тым, што ў рэдакцыю не прыйшлі абяцаныя мастацкія аздабленні літар.

Можна казаць аб тым, што дэфініцыя "палова" ў гэтым лісце як мінімум не адпавядала рэчаіснасці. Так, пазней, 25 сакавіка 1926 г., Міхал Красінскі адзначаў, што ў Беларускае Дзяржаўнае выдавецтва здадзена толькі два артыкулы (пры тым што ўсяго ў зборнік іх увайшло 12) — *Гуманізм у Італіі* і другі, памерам 3 аўтарскія аркушы, назва якога ў допісе Красінскага не была пазначаная[33].

Паводле адной з пазнейшых даведак пра стан усіх здадзеных у друк зборнікаў Інстытута Беларускай Культуры, зборнік, прысвечаны 400-годдзю беларускага друку, быў перададзены ў Белдзяржвыдавецтва Скарынінскай камісіяй прыкладна каля 19 траўня 1926 г., аднак вымагаў вялікіх пераробак, з-за чаго справа моцна замаруджвалася. Апроч таго, востра стаяла пытанне аб сродках на яго друк.

Калі верыць аўтару дадзенай даведкі М. Красінскаму, сакратару выдавецтва Інстытута Беларускай культуры, галоўным "*...тормазам*

[31] *400-лецьце Беларускага друку,* Мінск 1926.

[32] ЦНА НАН Беларусі, ф. 67, воп. 1., спр. 17, арк. 29, 30, 46, 47.

[33] Тамсама, арк. 177.

*у працы выдавецтва ёсьць няхват падрыхтаваных аўтарамі рукапісаў… Члены Інбелкульту… свае нават ужо напісаныя працы не спяшаюцца падрыхтаваць да друку…*"[34]. Паводле табліцы, прыкладзенай да даведкі, першая карэктура некаторых артыкулаў паступіла ў Інстытут Беларускай Культуры толькі ў траўні 1926 г. Так, напрыклад, карэктура артыкула Дзмітрыя Ягорава *Падуанскі універсытэт…* паступіла толькі 06.05.1926 г.[35]

Пры гэтым артыкул Дз. Ягорава, перад тым як трапіў у рэдакцыю, наогул прайшоў доўгі шлях і, трэба адзначыць, не па віне аўтара. Так, у прыватнасці, яшчэ 12 лютага 1926 г. сакратар Выдавецкага Аддзела ІБК пісаў Міхалу Круталевічу, на якога былі ўскладзеныя абавязкі перакладу артыкула з рускай мовы на беларускую. Як вынікае з ліста, пераклад павінны быў быць зроблены да ўсё таго ж 12 лютага, аднак на гэты момант нават не быў распачаты, у сувязі з чым выдавецкі аддзел патрабаваў тэрмінова вярнуць рукапіс для здачы ў пераклад іншай асобе[36].

У выніку ўсіх пералічаных цяжкасцей зборнік убачыў свет толькі ў пачатку 1927 г. Трэба, аднак, адзначыць яго добрую карэктуру і візуальнае напаўненне. Усяго ў кніжцы змешчана 70 ілюстрацый. Чытачам было прапанавана 12 навуковых артыкулаў такіх аўтараў, як Уладзімір Перцаў, Дзмітрый Ягораў, Антон Ясінскі, Мацвей Любаўскі, Уладзімір Пічэта, Васіль Дружчыц, Міхал Пятуховіч, Мікалай Шчэкаціхін, Язэп Воўк-Левановіч. Зазначым, што 4 з 12 артыкулаў належалі праф. У. Пічэце: *Полацкая зямля ў пачатку XVI сталецьця*, *Беларускае адраджэньне ў XVI сталецьці*, *Друк на Беларусі ў XVI і XVII сталецьцях*, *Scoriniana*. Апроч гэтага, нельга забываць шэраг артыкулаў за аўтарствам Уладзіміра Іванавіча, прысвечаных беларускаму першадрукару, у перыядычных выданнях, такіх як *Савецкая Беларусь* і інш.

Цікавым, аднак, з’яўляецца той факт, што пазней, калі напрыканцы 20-х — у пачатку 30-х гг. XX ст. беларусізацыя, беларускае адраджэнне і асоба Ф. Скарыны трапілі ў апалу, важкі ўнёсак старшыні Скарынінскай камісіі ў справу сакралізацыі асобы беларускага першадрукара быў фактычна забыты. Так, напрыклад, у асабістай справе У. І. Пічэты за акадэмічны перыяд (1921–1939 гг.) маецца водгук на навуковую дзейнасць акадэміка за аўтарствам прафесара кафедры гісторыі народаў СССР Маскоўскага педагагічнага інстытута імя Карла Лібкнехта Аляксандра Савіча, у якім ні слова не гаворыцца не толькі аб ролі і месцы Уладзіміра Іванавіча ва ўшанаванні Францішка Скарыны, але і аб працах па скарыназнаўстве

34 Тамсама, арк. 185.
35 Тамсама, арк. 186.
36 Тамсама, арк. 16.

наогул, нягледзячы на тое, што астатняя навуковая дзейнасць разбіраецца і аналізуецца да дробязей[37].

Такім чынам, можна казаць аб тым, што значную ролю ва ўшанаванні памяці Францыска Скарыны ў БССР у цэлым і ў Інстытуце Беларускай Культуры непасрэдна адыграў менавіта прафесар Уладзімір Іванавіч Пічэта. Ён не толькі прапанаваў ідэю святкавання на сходзе гісторыка-археалагічнай секцыі ў чэрвені 1924 г., але ўзначаліў Скарынінскую юбілейную камісію і браў самы непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы ўрачыстасцей. Аб зацікаўленасці і апантанасці У. Пічэты асобай беларускага першадрукара сведчыць і той факт, што з 12 артыкулаў зборніка *400-лецьце беларускага друку* чатыры належалі менавіта яго аўтарству.

Сама падрыхтоўка да юбілею была спалучаная з шэрагам цяжкасцей, вялася амаль паўтары гады і, як ужо было адзначана вышэй, па стане на снежань 1925 г. скончаная неналежным чынам. 29–30 снежня 1925 г. у БССР на рэспубліканскім узроўні ўгодкі Беларускага кнігадрукавання былі адсвяткаваныя правядзеннем краязнаўчых сходаў на месцах, выставамі, выступленнямі сяброў Інстытута Беларускай Культуры ў рэгіёнах з дакладамі на скарынаўскую тэму і г. д.

## Streszczenie

Kirył Syćko, *Instytut Kultury Białoruskiej i przygotowania do obchodów 400-lecia białoruskiego drukarstwa (na podstawie materiałów Centralnego Archiwum Naukowego Państwowej Akademii Nauk Białorusi)*

Korzeni “sakralizacji” pierwszego słowiańskiego drukarza Franciszka Skaryny należy szukać w 1920 r., kiedy to masowo obchodzono 400. rocznicę białoruskiego drukarstwa. W artykule autor proponuje odtworzenie wydarzeń z lat 1924–1926, związanych z przygotowaniami do obchodów rocznicy drukarstwa na podstawie materiałów byłego Instytutu Kultury Białoruskiej. Białoruska tradycyjna historiografia przypisuje pomysł uhonorowania Skaryny Wacławowi Łastouskiemu, co nie do końca odpowiada prawdzie. Otóż profesor Uladzimir Piczeta na posiedzeniu komisji historyczno-archeologicznej wyszedł z taką inicjatywą siedem miesięcy przed Łastouskim, tj. w czerwcu 1924 r. Idea ta spotkała się z aprobatą i jesienią 1924 r. została powołana tzw. “Komisja Jubileuszowa Skaryny”, której przewodził Piczeta, a jej głównym celem było zaplanowanie obchodów. Przygotowania spotkały się z wieloma wyzwaniami, z których najważniejszym było zebranie środków finansowych. W wyniku zmagań

[37] ЦНА НАН Беларусі, ф. 2, воп. 1, спр. 607, арк. 20–28.

z trudnościami datę obchodów kilkakrotnie przekładano, a tom jubileuszowy został ostatecznie wydany dopiero w 1927 r. Bezpośrednie uhonorowanie Skaryny odbyło się w dniach 29–30 grudnia 1925 r., pomimo faktu, że Komisja Skaryny nie zdołała odpowiednio przygotować się do tego wydarzenia.


## Summary

Kirył Syćko, *The Institute of Belarusian Culture and the Preparations for the Celebration of 400 Years of Belarusian Printing (On the basis of materials from the Central Archives of the National Science Academy of Belarus)*

The roots of the "sacralisation" of the first Slavic printer Francysk Skaryna should be looked for in the 1920s, when mass celebrations of the 400th anniversary of Belarusian printing took place. In the article, the author proposes reconstructing the events of 1924–1926 connected to the celebrations, on the basis of materials from the former Institute of Belarusian Culture. Belarusian historiographical tradition ascribes the idea of honouring Skaryna to Vaclau Lastouski, which is not entirely the case. At a sitting of a historical-archaeological commission, Professor Uladzimir Pičeta put forward the idea in June 1924, seven months before Lastouski. As a result of the approval of this initiative in autumn 1924, the so-called "Skaryna Jubilee Commission" was established, headed by Pičeta. Its main goal was planning the aforesaid celebrations. Itswork met with many obstacles, the most trying of which was financial in nature. As a result of these difficulties, the date of the celebrations was pushed back on numerous occasions, while the jubilee volume was finally published in 1927. The celebrations honouring Skaryna took place on 29–30 December 1925, despite the fact that the Skaryna Commission was not yet adequately prepared for the event.

# Крыніцы

**Андрэй Мяцельскі**
**(Мінск)**

## Дакументы па гісторыі Віцебска і Віцебскага павета ў кніге запісаў № 35 Метрыкі ВКЛ.

Невычарпальнай крыніцай па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага з'яўляюцца кнігі Метрыкі ВКЛ. У іх захаваліся матэрыялы, якія асвятляюць розныя бакі дзейнасці дзяржавы ў асобных рэгіёнах. У кнізе запісаў № 35 Метрыкі ВКЛ сабраныя 211 дакументаў, якія тычацца падзей 1551–1558 гг. Улічваючы, што дакументы кнігі былі напісаныя да Люблінскай уніі, то ў ёй шмат матэрыялаў, якія асвятляюць мінулае Падляшша, Валыні, Галіцыі і зямель, што прылягалі да Кіева. У прапанаванай публікацыі прадстаўлены дакументы, якія адносяцца да гісторыі Віцебска і Віцебскага павета ў сярэдзіне XVI ст. і асвятляюць розныя бакі жыцця дадзенага рэгіёна.

Кніга запісаў № 35 Метрыкі ВКЛ захоўваецца ў Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў у Маскве пад сігнатурай: Фонд 389, вопіс 1, адзінка захавання 35. Гэта не арыгінал, а копія канца XVI — пачатку XVII ст. У ёй 318 аркушаў памерамі 29 х 18 см. Пераплёт кнігі запісаў № 35 апошняй чвэрці XVIII ст. Крышкі пераплёту кнігі выступаюць за блок і выраблены з кардону, які абцягнуты скурай цёмна-карычневага колеру. Памеры крышак — 30,5 х 19,5 см. Таўшчыня кнігі — 6,5 см. Верхні і ніжні бакі вокладкі ўпрыгожаныя па баках раслінным арнаментам. Па цэнтры вокладкі геаметрычны арнамент у выглядзе прамакутнікаў. Падобнае афармленне мае і тыльны бок кнігі Метрыкі.

Дакументы кнігі копіі складаліся пры канцлеры Мікалаі Радзівіле Чорным, а на мяжы XVI — XVII стст. былі перапісаны на паперы, якая мае вадзяныя знакі "Ліс", "Любеч", "Лілея", "Лебедзь". У той жа час амаль палова аркушаў мае вадзяныя знакі ў выглядзе сеткі. Большую частку дакументаў,

якія тычацца Віцебска і Віцебскага павета пісаў Станіслаў Камароўскі. Акрамя таго ў кнізе шмат дакументаў, якія пісалі Іван і Гермаген Гарнастаі, а таксама Астафі Валовіч.

Увазе чытачоў прапануюцца 7 дакументаў, якія знаходзяцца на наступных аркушах Кнігі запісаў № 35 Метрыкі ВКЛ: 1) арк. 31 – 31 адв; 2) арк. 62 – 63 адв.; 3) арк. 63 – 64 адв.; 4) арк. 77–80 адв.; 5) арк. 130 – 131 адв.; 6) арк. 210 –211; 7) 245 –249 адв. Матэрыялы да друку падрыхтаваны ў адпаведнасці з правіламі публікацыі кірылічных дакументаў.

**1** **1551 VIII 14, Вільня**

Привилеи*и* бояринув*и*теб*(ъ)*скому Григо*р*ю/ Глебовичу Шапъце на три земли пустовских/ у волости Лемницко*и*[1], и на две сеножати/ на вечность.

*[арк.31]* **Ж**икгимо*нт* Авгус*т*, Бож*ю* м(и)л(о)стью корол*(ъ)* пол*(ъ)*ски*и*, велики*и* княз / литов*(ъ)*ски*и*, руски*и*, пруски*и*, жомо*и*тски*и*, мазовецки*и* и иных./

**Б**илъ намъ чоломъ боярын*(ъ)* нашъ повету Витебъского Грыгоре*и* Гле/бови*ч(ъ)* Шапъка и покладал*(ъ)* пере*д* нами листъ воеводы вите*б(ъ)*ского / п(а)на Стани*с*лава Петровича Ки*ш(ъ)*ки[2] въ которомъ пише*т*.

Ижъ / продо*к(ъ)* его воевода витебъски*и* па*н(ъ)* Юрии Во*и*техови*ч(ъ)* Носило*в(ъ)*/ски*и*[3] да*л(ъ)* ему тры земли пусто*в(ъ)*скихъ дъвора н(а)шого Лемницъкого на *и*ме / Миха*л(ъ)*ко*в(ъ)*щынó а Студе*н(ъ)*цо*в(ъ)*щыну, Ко*п*цовъщыну, и на то w*н(ъ)* два ли/сты п(а)на Носило*в(ъ)*ского перед нимъ указывалъ.

А к тому по третемъ листе wказа*л(ъ)*, и*ж* ему тотъ же воевода витебъски*и* панъ Носиловъски*и* / далъ две сеножати того *ж* двора нашого Лемъни*ц*кого; w*д*ну Мы/сле*в(ъ)*скую, которую кошывали на дво*р* нашъ Лемъницки*и* люди / Ботиничы Коробе*и*никъ, а другую сеножать на то*и* стороне Дви/ны подле реки которую кошывали ка*с*пляне[4]. W*н(ъ)* те*ж* водле ты*х* / листовъ продка своего зоставуючы тые земли и сеножати до / воли нашое господа*р*ское ему далъ.

И билъ намъ чоломъ тотъ // *[арк. 31 адв.]* Грыгоре*и* Глебовичъ Шапъка, абы*х*мо ласку нашу учынили / и пожаловали его тыми землями и сеножатьми на вечъ/ность.

---

1 Сучасная в. Лемніца ў Задуброўскім с/с Віцебскага раёна Рэспублікі Беларусь.

2 Кішка Станіслаў Пятровіч — (? — 01.11.1544) староста брацлаўскі (1522), дзяржаўца ўсвяцкі і азярышчанскі, з 1544 г. ваявода віцебскі.

3 Насілоўскі Юры Войцехавіч (? — 1544) быў ваяводам віцебскім у 1542–1544 гг.

4 Маюцца на ўвазе жыхары вёскі Каспляны, якая і зараз існуе ў Віцебскім раёне на рацэ Каспля, левым прытоку р. Заходняя Дзвіна.



**РДАСА, ф. 389, воп. 1, ад.зах. 35, арк. 31**

Мы з ласки нашое то вчынили и на его чоломъбитье / тые земли и сеножати ему дали и симъ листомъ нашымъ / даемъ ему самому, жоне его и детемъ ихъ на вечъность.

Мае*т* / wнъ тые земли пустовъские Михалъковъщыну, Студе*н(ъ)*цо*в(ъ)*щы/ну, Копъщовъщыну и две сеножати Мыслевъскую и на то*и* сто/роне Двины подле реки со всими землями пашъными и дво*р*/ными, гаи, лесы и *з* зарослями де*р*жати и ужывати на вечъно*ст* / потому, яко се тыи земли и сеножати здавна и нине в собе / мають.

Воленъ w*н(ъ)* тамъ прыбавити, розшыры*ти* и людми / wсадити, а намъ господару с того служъбу земъскую служы/ти подле уфалы того паньства нашого Великого Князства Литовъского.

И на то ему даемъ сесь нашъ *лист* з нашею / печатью.

Писанъ у Вильни, лета Бо*ж*его нароженья 15/51, м(е)*с*(я)ца августа 15 д(ъ)ня, инъди*кт* 9./

По*д*пи*с* руки короля его мило*сти*./

Коморо*в(ъ)*ски*и*[5], писа*р*.

5 Камароўскі Станіслаў выконваў абавязкі пісара і сакратара ў 1550–1553 гг. Адначасова быў дзяржаўцам жыжмарскім, глускім і быхаўскім.



**РДАСА, ф. 389, воп. 1, ад.зах. 35, арк. 62 ад.**

**2** **1549 VI 7, Віцебск / 1551 XI 29, Вільня**

Привиле*и* во*и*ту и мещаномъ витебски*м*, вызволяючи / и*х* w*т* дава*н(ъ)*я по*д*во*д* по*д* послы и го*н(ъ)*цы во*д*лугъ листу судового воеводы витеб*(ъ)*ско*г(о)* п(а)на Станислава Кишки.

*[арк. 62 адв.]*Жикгимо*нт* Авъгу*ст*, Божю мило*с*тю коро*л(ъ)* по*л(ъ)*ски*и*, велики*и* княз ли(то)*в*/ски*и*, руски*и*, пруски*и*, жомоитъски*и*, мазовецъки*и* и ины*х*./

**Ч**инимъ знаменито симъ нашы*м* листомъ, всимъ по*с*полите, кому / будеть потреба того ведати.

Поведили пере*д* нами вои*т* / и вси мещане места наш*ог(о)* витебъского, ижъ по*д*даные н(а)ши по*д*/водники витебъские Ереме*и* Иванови*ч(ъ)* Моро*з* а Wлифе*р* Семенови*ч(ъ)* / Солоха, а Ши*р*ко Плешеви*ч(ъ)* а Ива*н(ъ)* Кощееви*ч(ъ)*, а Серге*и* Здрокуля з ы*н(ъ)*/шими поплечники своими мели з ними право пере*д* воеводою / витебски*м*, пано*м* Стани*с*лаво*м* Петрович*о*м Кишкою w подводы, *иж* / wни по*д* послы по*д*водъ не дають. И панъ воевода з росу*д*ку сво/его и во*д*ле и*х* прывил*(ъ)*евъ в томъ ихъ правы*х* знашолъ

и wтъ / ты*х* по*д*водъ вольны*ми* учынилъ, на што имъ и листъ сво*и* / судовы*и* далъ, которы*и* wни пере*д* нами покладали и та*к(ъ)* ся / в собе слово wтъ слова маеть.

“Я, Стани*с*лавъ Петрови*ч(ъ)* / Кишъка, воевода витебски*и*, деръжавъца усвя*т*скии и wзеры*ш(ъ)*скии // *[арк. 63]* смотрели есмо того дела.

Стояли пере*д* нами wчевисто, / жаловали на*м* по*д*даные г(о)*с*(по)д(а)рьские подводники вите*б(ъ)*ские Ереме*и* / Ивanови*ч(ъ)* Мороз а Wлифе*р* Семеновичъ Солоха, а Ши*р*ко Плешиве*ц* / а Иванъ Кощее*в(ъ)*, а Се*р*ге*и* Дрокула и з ынъшыми поплечники свои*ми* / на во*и*та витебъского Гришу Гутора и на вси*х* мещанъ г(о)*с*(по)д(а)рьски*х* / витебски*х* тымъ wбычае*м*.

Ижъ, де*и*, wни велели у на*с* взяти де/сятъ коне*и* у по*д*воды под посла его милости г(о)*с*(по)д(а)рьского пана Анъ/тонея Мора, которые таковые по*д*воды wни сами з места ко*л*ко / будеть потреба винъни давати, а мы по*д* гонъца только w*д*ну / по*д*воду а прово*д*ника дае*м*.

Вои*т* на то со *в(ъ)*сими мещаны wтъпо*р* чы/нили и поведили, ижъ мы николи по*д* посла по*д*водъ не даива*ли* / и тепе*р* не дае*м* и давати не буде*м*, бо вы сами колько васъ естъ / а иле потреба будеть, то есте винъни по*д* посла давати.

Мы / по*д*водниковъ пытали, естли которы*и* дово*д* w то на нихъ мели, / а ки*м* бы того довести хотели. Wни поведили, ижъ дово*д*у / никоторого на ни*х* не маю*т*ь. Вои*т* з мещаны того ся пры/ви*л*емъ свои*м* чере*з* наясне*и*шого г(о)*с*(по)д(а)ря нашого милостивого Жикги/монъта имъ даного wтъводили и пере*д* нами его положили в немъ / wписуеть, ижъ у горо*д*ски*х* люде*и* и в посельски*х* путны*х* коне*и* в по*д*/воды не брати.

Мы тое вырозуме*в(ъ)*шы и и*х* рече*и* з обу сторонъ / выслухавши, кгды*ж* тые по*д*водники на ни*х* доводу не мели а ни / вчинили, а вои*т* з мещаны прыви*л*емъ его милости г(о)*с*(по)д(а)рьски*м* / ся wтъвели, нашли есмо *их* якъ во*и*та такъ и мещанъ вси*х* / в томъ правы*х* и w*д* даванья по*д*водъ правых и wтъ даванья / по*д*во*д* вольны*х* учынили, и на то имъ дали се*с* нашъ листъ судо*выи* / з нашою печатью.

А пры то*м* были бояре г(о)*с*(по)д(а)рьские витебъские, / горо*д*ничы*и* и хоружы*и*, панъ Гу*р*ко Wле*х*новичъ, а конюши*и* г(о)*с*(по)д(а)рьски*и* / Богданъ Анъдреевичъ, Копоть Василе*и* Григоревичъ, Жданъ Янушкови*ч(ъ)*, / Миха*и*ло Кузмини*ч(ъ)* Лете*ц*ки*и*, Есифъ Васильеви*ч(ъ)*.

Писанъ у Витебъ/ску, по*д* ле*т*(ы) Бо*ж*его нароженья тисеча пятьсотъ сорокъ девято*г(о)*, / м(е)*с*(е)ца июля, семы*и* день, инъдиктъ семы*и*.

И били намъ чоло*м* / вои*т* и мещане витебски*и*, абы*х*мо въ то*м* ласку нашу учынили и на / то имъ дали сесь нашъ листъ и тотъ су*д* и листъ

судовы*и* // *[арк. 63 адв.]* пана воеводы витебъского нашы*м* листо*м* потвердили, яко*ж* / и воевода витебски*и,* панъ Стани*с*лавъ Кишка то пере*д* нами wче/висто вызналъ, ижъ тые по*д*во*д*ники правозными пере*д* нимъ / w тые подводы мели и *з* росу*д*ку wнъ своего мещанъ wтъ по*д*во*д* пра/вы*х* знашолъ.

Мы на и*х* чоло*м*бите з ласки*и* нашое то есмо учы/нили и тотъ судъ и листъ судовы*и* пана воеводы витебского пры / моцы зоставили и потве*р*дили, и симъ листо*м* нашы*м* потве*р*жае*м*./

Маеть вои*т* и мещане витебские w тые по*д*воды захованы быти / во*д*ле листу судового и wчивистого пере*д* нами вызнанья пана / воеводы витебского и подлугъ теперешнего потве*р*женья / нашого, а тые вже по*д*даные наши по*д*водники витебские / чере*з* то и*х* ку тымъ по*д*водамъ прытягивати не мають./

И на то есмо дали имъ се*с* нашъ листъ з нашею печать.

Пи/санъ у Вильни, лета Бо*ж*его нароженья тисеча пя*т*со*т* пя*т*де/сятъ перъвого, м(е)*с*(е)ца ноября, два*д*цать девятого д(ъ)ня./

Коморовъски*и,* писарь.



**РДАСА, ф. 389, воп. 1, ад.зах. 35, арк. 63 ад.**

**3** **1551 XI 23, Вільня**

Привиле*и* во*и*ту и вси*м* мещано*м* витеб*(ъ)*ски*м* по*т*ве*р*же*н(ъ)*е / и*м* некоторы*х* пляцо*в(ъ)* схоромами вместе Витебско*м* поку / плены*х*, и позволенье и*м* на ты*х* пляца*х* до*м* гости*н(ъ)*ны*и* / збудовати и ѡ*т* тул пожито*к(ъ)* на потребы ме*ст*ские ме*ти*

*[арк. 63 адв.]* **Ж**икгимон*т* Авъгу*ст*, Бож*ю* мило*ст*ю коро*л* полски*и*, велики*и* княз ли(то)*в*/ски*и*, руски*и*, пруски*и*, жомоитъски*и*, мазовецки*и* и ины*х*./

**Ч**инимъ явно симъ нашымъ листомъ, всимъ посполите, нинешни*м* / и напото*м* будучы*м*, кому потребъ того ведати·

Што пе*р*во сего / воитъ и вси мещане места нашого витебъского до на*с* з прозбами / своими приходили сами ѡтъ себе, и ѡтъ вси*х* мещанъ нашы*х* / тамошъны*х* витебски*х*, ѡповедаючи, ижъ до того места // *[арк. 64]* нашого витебского многие чужоземъцы такъ Москва, яко и не*м*/цы в часы непереми*ря* и прыежчаючи инъшы*е* с то*р*го*в(ъ)*лями свои*ми*, / а инъшы и бе*з* то*р*говъли становяться по рознымъ домомъ / и та*м* в оны*х* господа*х* свои*х* не ведати што справують и спосо*б(ъ)*, / и ра*д* и всю справу ѡного места нашого да свои*х* земль выносят. / Якожъ и ты*х* часо*в(ъ)* прошлы*х* ѡказалося было тамъ в то*м* месте / неколько зраде*ц* зъ земль непрыяте*л(ъ)*ски*х*, которые *ж* ведля пра/ва и каранье свое приняли.

И выстерегаючы ся тые то ме/щане н(а)шы витебские, абы на пото*м* wтъ таковы*х* прыежъ/чи*х* госте*и* чужозе*м*цовъ большая зрада и шкода wному месту / нашому витебъскому погранич*(ъ)*ному, чого Боже уховa*и*, не ста/ла, били намъ чоломъ, абыхмо имъ дозволили неколько до/мовъ и пляцовъ за рекою Ви*т*бою за пенези местъкие скупити / и на wны*х* пляцо*х* wдинъ домъ гостинъны*и* збудовати, в кото/ромъ бы такъ чужоземцы, яко и вси инъшы*е* гости прые*ж*/чые становилися, а не инъ, де*и*, где же бы кождая справа / *их*. Штобы wни та*м* в то*м* месте нашомъ будучи справова*ли*, / абы и враду за*м*ковому и вряду местъкому витебскому / та*и*на не была.

Якожъ мы на wнъ ча*с* бачечы тую прозбу и*х* бы/ти слушъную и wному месту нашому и речы по*с*полито*и* быти по/жыточную, на то есмо прызволили и имъ на то на покупенье пляцо*в(ъ)* / и домовъ за рекою Ви*т*бою листъ нашъ дозволены*и* дали, за которы*м* / же wни дозволене*м* нашы*м* купили та*м* у Витебъску у в Ы*и*вашка Ивано/вича Гребенъчича пля*ц* его и*х* з *их* хоромами, и *з* местъцо*м* лаво*ч(ъ)*нымъ на / вечъность, за пя*т*десятъ копъ гроше*и* личъбы литовъское. А у брата / его у Костъка Гребе*н(ъ)*чича купили пля*ц* его и *з* хоромами, и *з* местъцо*м* / лаво*ч(ъ)*ны*м*, и две части пляцу, которы*и* wнъ у бра*ти* своее у Степана / а у Дорофея купилъ за девятъдесятъ копъ гроше*и* личбы лито*в(ъ)*ское / потому жъ на вечъность. А у Марыны Пашковое Гарасимовича / и у дете*и* ее Богдана а у Ильи а в Костъка купили пля*ц* ее на / вечъность зъ хоромами и *з* лавочны*м* местъцо*м* за се*м*десятъ копъ / гроше*и* личъбы лито*в(ъ)*ское. А въ Хомы Степановича Библина купили на / вечъно*ст* пля*ц* его wтъчызны*и* и *з* хоромами за сто копъ гроше*и* личъбы ли/то*в(ъ)*ское. А у Ма*р*и Ма*р*кияновое и въ сына ее у Па*в(ъ)*ла и *в(ъ)* дочокъ ее у Крысты*ны*, // *[арк. 64 адв.]* а *в(ъ)* Га*н(ъ)*ны, а у Федоры купили пля*ц* и*х* на вечность с хоромами и з ме*ст*/цомъ лавочнымъ за пятъдесятъ копъ гроше*и* личъбы литовское. / А у Ка*р*па Игнатовича Коваля купили пля*ц* его, которы*и* wнъ купле/ю *ж* wтъ тещы своее Мола*н(ъ)*и мелъ на вечъность и *з* хоромами за два*д*/цать копъ гроше*и* личъбы лито*в(ъ)*ское.

На которую продажу кажды*и* / з ни*х* зособна листы свои продажные по*д* печа*т*ми своими и тежъ / по*д* сведомо*м* и печатъми некоторы*х* люде*и* добры*х* землянъ та/мошъны*х*, витебски*х* дали имъ, которые wни листы купчые / пере*д* нами покладали.

И били на*м* чоломъ вои*т* и вси мещане вите*бс*/кие, абыхмо в томъ имъ ласку нашу вчынили и пры то*и* купли / и*х* зоставили, и на то дали имъ нашъ листъ и тую куплю, и ли/сты и*х* купчые нашы*м* листо*м* имъ на вечъность имъ потве*р*дили, w чомъ же и воевода витебски*и*, панъ Стани*с*лавъ Петровичъ Ки*ш(ъ)*ка / за ними у прычине насъ жедалъ.

Мы на *их* чоло*м*би*т*е и на прычы/ну воеводы витебского то вчынили, тые листы *их* купчые / потве*р*дили и пры моцы зоставили, и си*м* нашы*м* листо*м* на вечъ/ность имъ потве*р*жаемъ.

А тые вже продавъцы, выше*и* мене/ные, такъ и пото*м*ки и близкие *их*, до ты*х* пляцо*в(ъ)* ничого мети и / по*д* ними *их* поискивати не мають, и вже вои*т* и мещане витебские / на ты*х* пляцо*х* купленых мають wдинъ до*м* гостинъны*и* збудовати./

А коли wни тамъ домъ гостинъны*и* збудують, тогды вси гости и / люди прыежчие, чужозе*м*цы, не маю*т* нигде инъде, wдно в томъ дому / гостинъно*м* становитися, а пла*т,* которы*и* с того дому прыходити будеть, мають wни по*д* сведомо*м* во*и*та и мещанъ ста*р*шыхъ / выбирати и у во*и*та в скрыни местъко*и* за печатью его и за печа*т*/ми колько мещанъ тамошъны*х* ста*р*шы*х* в целости ховати. А на по/требы местъкие тые п(е)н(е)зи wборочати и во все*м* wни в то*м* до*му* / гостинъно*м* справовати ся мають потому, яко и мещане места / н(а)шого виленьского в дому свое*м* гостинъно*м* справуються.

И на то / есмо дали имъ сесь нашъ листъ з нашою печатью.

Писанъ / у Вильни, лета Бо*ж*его нароженья тисеча пя*т*сотъ пя*т*деся*т* / пе*р*вого, м(е)*с*(е)ца ноября, два*д*цать трети*и* день./

Станисла*в(ъ)* Коморовъски*и,* писа*р,* /

наме*стник(ъ) жиж*мо*р*ски*и*, глушъски*и* и быхо*в(ъ)*/ски*и.*



**РДАСА, ф. 389, воп. 1, ад.зах. 35, арк. 77**

**4 1540 VIII 29, Вільня / 1541 X 11, Берасце / 1551 XI 20, Вільня**

Потве*р*же*н(ъ)* евои*т*у и всим*м* мещано*м* места витеб*(ъ)*ско*го* листу / судового и привил*я* короля его м(и)л(о)*с*ти Жикгимо*н(ъ)*та, которими / вызволено их wт всяких тяжкосте*и* и незвыклых пошли*н(ъ)* и нови*н(ъ)* / на них wт воево*д* тамошних и wт наместнико*в(ъ)* их вкладаных [etc.]

*[арк. 77]* **Ж**икгимон*т* Авъгусть, Бож*ю* мило*ст*ю корол пол*(ъ)*ски*и*, велики*и* княз литов*(ъ)*/ски*и*, руски*и*, пруски*и*, жомоитъски*и*, мазовецки*и* и иных./

**Ч**инимъ знаменито симъ нашы*м* листо*м*, всимъ посполите, нинешни*м* / и напото*м* будучи*м*, кому того потреба будеть ведати.

Поведили / пере*д* нами вои*т*, мещане и все посполство места нашого витебского / w то*м*, ижъ воевода бы*в(ъ)*ши*и* витебски*и*, небожчикъ, панъ Мате*и* Яно/вичъ Во*и*теховича[6] на*д* wбыча*и* стародав*(ъ)*ны*и* и прывилья

[6] Тут гаворка ідзе пра Мацея Войцехавіча Клочку (? — 11 красавіка 1543), дзяржаўца ваўкавыскага і мерацкага (1528 — каля 1535), маршалка гаспадарскага (1520–1543), віцебскага ваяводу (1532–1543), старасту жамойцкага (1542–1543).

их почал / былъ имъ крыв(ъ)ды и тяжкости немалые чинити и новины уво/дити, w которых wни крывдах своихъ королю его милости, славное / памети пану wтъцу нашому жаловали и право з нимъ передъ // *[арк. 77 адв.]* его милостю wчевисто мели, и пан(ъ) wтец нашъ з выроку своего wт / всих тых крывдъ и тяжкостеи, што панъ Матеи на них был узялъ / их вызволити и на то имъ листъ свои судовыи дати рачилъ, а по/томъ панъ Юри Воитеховичъ Носилов(ъ)скии зоставши воеводою ви/тебскимъ предся почалъ имъ крыв(ъ)ды и новины которые ся имъ / wтъ пана Матея деяли чинити. Где wни на пана Юря Носилов(ъ)/ского королю его милости, пану wтъцу н(а)шому, будучи в Берести на вал/номъ соиме жаловали и w том з ним право мели и его милость пан(ъ) / wтец нашъ и на wнъ час ведля первого суда своего wтъ тых крив(ъ)дъ / и новинъ, которые имъ панъ Юри Нисолов(ъ)скии чинилъ вызволилъ, на / што имъ и листъ свои далъ и тымъ листом и первыи суд свои потвер/дилъ, которыи wни листъ его милости перед нами покладали / и такъ ся в собе слово wт слова маеть.

"Жикгимонт, Божю милостю / корол(ъ) пол(ъ)скии, великии княз литовъскии, рускии, прускии, жомоитъскии, ма/зовецкии и иных.

Чинимъ явно симъ нашымъ листом.

Били намъ / чоломъ мещане и все поспол(ъ)ство места нашого витебъского / w том, што воевода витебскии, небощикъ, панъ Юри Воитехович(ъ) Носи/ловъскии крывды и втискии имъ великие чинилъ и новины уводил(ъ), / и на замку нашом кликати имъ велелъ, а предки, деи, ихъ и wни сами / николи на замъку не кликивали, лечъ только у воротъ замъку ви/тебского повинъни стеречы.

И к тому, деи, wнъ заборонялъ имъ / в том месте нашом ручниц и стрелъбы мети, и не дозволялъ имъ / з места з ручницою на поле на звер и на птыху выити, и за то их / казалъ грабити. Над то wнъ имъ навину увелъ и казалъ по их / земляхъ местъцких коло места на тетерыч(ъ) принады ставити / и служебника своего на то уставилъ которыи, деи, кони, быд/ла их по полям ихъ забиралъ и имъ самымъ з места по их / полям дорогою ездити заказывалъ и перед тым, деи, здав(ъ)на / на полях ихъ местъцких прынад не бывало. Лечъ, деи, только по / дворам нашымъ на Любошкове[77] и на Клемницы[8] и на Лужосне[9] з ве/ковъ прынады сутъ.

К тому, деи, которые мосты по улицам / кождыи з них промежку себе у месте мостять и земского мо/стовничого на то мають, которое тое роботы ихъ пры/гледаеть, а панъ, деи, воевода того ихъ мостовничого земског(о)

7 Любашкава, былая вёска у Сялютскай воласці Віцебскага ўезда Віцебскай губерні Расійскай імперыі.

8 Клемница, верагодна, гаворка ідзе пра Лемніцу ў Задуброўскім с/с Віцебскага раёна Рэспублікі Беларусь.

9 Лужасна, вёска ў Мазалаўскім с/с Віцебскага раёна Віцебскай вобласці Рэспублікі Беларусь.

/ wтъ // *[арк. 78]* wтъдаляючи своего служебника на то прыставилъ, и по тры/кроть на wдномъ году мосты казалъ мостити. И хотя бы но/вые и где былъ мостъ wнъ велелъ скидывати и з места кождог*(о)* / дыму по шестинадцать пенезеи бралъ, а водле стародавного, деи, / wбычаю wдинъ раз в месте мостъ wныи мощивали.

А которыи, / деи, мещанинъ въ якую кол*(ъ)*векъ вину впадет и панъ, деи, воевода и все / врадникъ вины непомерные не водлугъ уставы нашое з нихъ / брали и пры том, деи, водле уставы и привил*(ъ)*я нашого змирское куницы / по шести грошеи повинъни wни пану воеводе давати, а wт рубля / грошеи здечного по чотыры грошы децкованья, wтъ мили по гро/шу и панъ, деи, воевода надъ тую уставу нашу ничого не дбаючы wт / змирское куницы по дванадцати грошеи, а wтъ рубля по десяты гро/шеи и децкованье слуги его такъже не водлугъ давного wбычаю на/ них брали, а тежъ, деи, на которых судех пры немъ и пры его наместнику / wни бывали.

Ино, деи, всякихъ пересудовъ половица з бояры та/мошними имъ прыхоживал*(ъ)*и а wнъ, деи, то все самъ на себе бралъ / где тых часов*(ъ)* здеся на вальном соиме у Берести будучи пану Юрю Носилов*(ъ)*/скому, воеводе витебскому, у хоробе wные мещане витебские w тых / всих речах на него нам жаловали и перед судями нашими дворными на / всякие справы судовые wтъ нас высажоными съ служебники / его Себестыяном а Федором, которых панъ воевода витебскии ку wт/казу имъ до судеи наших дворныхъ послал*(ъ)* wчевисто мовили, и w тые / вси речи вышеи мененые жалобы свои покладали какъ же wные / служебники пана воеводы wтъ пана своего на тые речи жало/бы их перед нами поведили, ижъ wнъ жадных крывдъ и новинъ / имъ не чинить. Wдно потому ся справуеть яко и первые воеводы, / предки его, ся справовывали, и яко тежъ за пана Матея Воитеховича / Яновича воеводы витебского бывало.

На против*(ъ)*ку чогожъ wни ли/стом нашым судовым ся боронили, ижъ w тые речы, которые / панъ Матеи ку крыв*(ъ)*де а wбътяжливости ижъ имъ уводилъ пра/во мели, и в томъ з выроку нашого правы wстали.

Какъ же суди / наши дворные wного листу нашого першого судового и тых всих / речеи ихъ выслухавшы, водле давного wбычаю и водле привилья / нашого wтъ нас имъ даного и листу судового в том ихъ зоставили // *[арк. 78 адв.]* и в замку имъ кликати не велели, а ручницы и всякие стрел*(ъ)*бы мают / wни пры замъку деръжати и на поле на звер и на птахи з ручницами / ходити, а по земляхъ ихъ меских wколо места на тетерычъ пры/над не маютъ ставити, wдно тамъ где перед тым у дворехъ на/шых тамошъных прынады бывали.

А мосты по улицам у месте / wдинъ раз на году за земъскимъ мостовничим, а не з воеводиными слу/жебники маюць мостити. А вины водле привилья и вставы / нашое з них брати не на широкую личъбу по чотырнадцати пенезеи, / wдно на литовъскую лич(ъ)бу по десяти пенезеи у грошъ, а wтъ ста / копъ десять копъ грошеи, а wтъ десяти копъ грошеи копу грошеи, / а wтъ рубля десять грошеи, wтъ змирских куниц по шести грошеи, а wт / рубля грошеи здел(ъ)ного по чотыри гроши, wтъ мили децкованья / по грошу, а в прысуде панове воеводы и их намесники водле пры/вилья нашого не маюць их заделяти."

Для чогожъ тые ме/щане витебские били намъ чолом, абыхмо пры том всем ихъ зоста/вили и на то листъ нашъ имъ дали, за которымъ бы wни wтъ / пановъ воевод витебских спокоине были захованы, якожъ и w том / листъ нашъ первшыи судовыи через которыи wни wтъ пана Мате/я правы в том зостали перед нами покладали. Которого жъ мы / листу нашого wгледавши казали его слово wтъ слова в сесъ / нашъ листъ вписати и такъ ся wныи листъ в собе маеть./

"Жикгимонт, Божю милостю корол(ъ) пол(ъ)скии, великии княз литов(ъ)скии, рускии, прускии, жомо/итскии, мазовецкии и иных.

Воеводе витебскому, маршалъку нашому, дер/жавцы волъковыиском у, пану Матею Воитеховичу Яновича и иным / воеводам, хто напотом будеть Витебскъ деръжати.

Што wчевисто / жаловали намъ на тебе воит и вси мещане места витебского w том, / што жъ имъ wтъ тебе крывды и тяжкости великие деють, нови/ны имъ уводишъ и кажешъ на замку кликати, и коли к Рызе wни / ездять берешъ на них мыто с кождого струга wтъ их товаровъ и теж / wтъ соли, и wтъ селедцовъ, и wтъ меду. И коли, деи, хто з нихъ поедеть / уверхъ стругом або чолномъ и ты, деи, кажешъ на них мыта брати / на Лужосне и на усвечи и тежъ хто, деи, з нихъ коли рыбо́ зверхо́ пры/везеть до места и ты, деи, wтъ тыхъ рыбъ велишъ на нихъ / мыта брати.

И тежъ уставилъ еси в городе уяв(ъ)щика / своего печать брати без которых же печатеи явъщика твоег(о) / невольного // *[арк. 79]* не вол(ъ)но было имъ где ездити. И пушкарем, деи, витебскимъ велишъ / по двором их ходити, котълы и дрова и попел(ъ) на салетру в нихъ / брати. И служебниковъ своихъ и ключ(ъ)никовъ витебских по земълям / их посылаешъ, свепетовъ и корневъ поискивати, а слуги, деи, ездечы / по их двором збожъя по гумнам и по полем, и сена по сеножатемъ берут, / и тежъ, деи, струги их на свои потребы в них моцно берешъ и самых / ихъ в ланъцуги сажаешъ, домы и коморы ихъ печатаешъ и забо/роняешъ, деи,

имъ ездити и куповати рысе*и* и куни*ц* и бобровъ / и иного зверу, и тежъ меду пре*с*ного по волостя*м* нашымъ и по села*м* / князскимъ и боя*р*скимъ чого имъ за пе*р*вшы*х* воевод николи не бывало. И тежъ, де*и*, пере*д* ты*м* тамъ у Витебску ябедниковъ вои*т* з мещаны / карывал*(ъ)*, а тыми, де*и*, разы ты ябедниковъ зъ и*х* моцы wтънимае*ш(ъ)* / и за ними стоишъ.

А к тому, де*и*, которые з нихъ за границою живо/тину або кони купившы до замъку нашого прыгонять, або те*ж* / у волости Витебско*и* бы*д*ла купять, а хотя бы тежъ хто з нихъ / и всю доморощеную животину або коня продалъ и вря*д*никъ, / де*и*, тво*и* городовы*и*, мыта на тебе береть с кождого коня по чо/ты*р*на*д*цати пенезе*и*, а wтъ рогатое животины по семи пенезе*и*, / а езо*в(ъ)*ничи*и*, де*и*, тво*и* подъ замъкомъ нашимъ витебско*м* с кождого струга / и wтъ кождого чо*л*на мыта з нихъ береть по чоты*р*на*д*цати пенезе*и*, / а вря*д*никъ, де*и*, твои любашковъски*и* на Любашкове с кождого воза бере*т* / на ни*х* мыта по чоты*р*на*д*цати пенезе*и*, и которы*и*, де*и*, з нихъ з Ви/тебска поедеть зъ со*л*ю або з ынъшимъ товаро*м* в паньство на/шо литовское, и зася тежъ до Витебска с ты*м* же возомъ свои*м* / ве*р*нетъся яки*х* кольвекъ товаро*в(ъ)* маючы, ино, де*и*, тотъ же вря*д*/никъ тво*и* другое мыто с того жъ воза по семи пенезе*и* береть.

Або / бродъники, де*и*, тво*и* витебские на *и*мя Васко Збоевичъ и Сенько Подо/валица по*д* земля*ми* *их* местъцкими, пашнями и сеножатъми, где / wни выгонъ местъцки*и* мають, боброго*н(ъ)* вчинили и бобры гоня*т* / где жъ, де*и*, пере*д* ты*м* николи пе*р*вшые бобро*в(ъ)*ники витебские ты*х* / гоновъ не мевали и бобро*в(ъ)* не гонивали. И инъшые, де*и*, кры*в(ъ)*ды и тя*ж*/кости твоя мило*ст* самъ и вря*д*ники твои имъ делають и новину / уводять чого, де*и*, пере*д* тымъ николи за пре*д*ковъ твоихъ, пе*р*вши*х* // *[арк. 79 адв.]* воево*д* витебски*х* не бывало и для, де*и*, ты*х* мытъ незвыча*и*ныхъ / и новоуставлены*х* тепе*р* wни купе*ц*ства своего wпустилися и до / Рыги с товары своими струговъ посылати не*с*меють и сами езди/ти не хотять, а в то*м*, де*и*, мыто и комора наша гинеть и никоторого по/жытъку на*м* г(о)*с*(по)д(а)рю вчинити не можеть.

Якожъ мы w вси*х* тыхъ кри*в(ъ)*/да*х* и тяжкостя*х* ихъ wчевисте тебе з ни*м* смотрели и тые вси тя*ж*/кости, што ты ново и*м* былъ увелъ зася есмо ихъ wставили / и wчевисто тобе розсказали, и ты*м* листо*м* нашы*м* приказуе*м* по*д* заруко/ю нашою по*д* трыста рубля*ми* гроше*и*, аж бы еси чере*з* то крывдъ / и тяжкосте*и* имъ не делалъ и новинъ не уводи*л* и на городе кликати / *их* не заставлялъ, и мыто wтъ струговъ, wтъ соли, wтъ меду, / w*т* рыбы в нихъ не бралъ, и печате*и* брати имъ въ явъщиковъ / своихъ не заставлялъ, и пушкаро*м* по домо*м* ихъ ходити, котло*в(ъ)* / и дровъ и попелу на салетру в нихъ брати не казалъ. Слугъ / своихъ з клю*ч(ъ)*никомъ витебъски*м* по

*VI. 1799 год, дня 12 лютага. Метрыка хросту Адама-Бернарда Міцкевіча*

Anno Domini 1799 Mensis Februarij 12 die PARD (per Admodum Reverendus Dominus) Antonius Postlett Can: Livon: (canonicus Livonicus) baptizavit infantem nus (nominibus) Adamum Bernardum filium G D (Generosi Domini) Nicolai Mickiewicz camer: Minscs. (Camerarii Minscensis) Causidici Novogr: et Barbarae Majewska CCLL (Conjugum Legitimorum), as nobelium. Patrinus fuit P M Dnus ( per magnicus Dominus) Bernardus Obuchowicz Judex Ter: Mozyr: (terrestris Mozyriensis) cum Dna Aniela Uzlowska Judicus finium p. Distr: novog:conjuge. O zgodności tych metrycznych wypisów z Księgami autentycznemi nowogródzkiego Kościola Świadcze X. Konstans Ejsmontt Prob. i Dziekan Nowogródka[52].

*У год Пана 1799, 12 лютага. Найвялебны пан Антоній Постлет, Лівонскі канонік, ахрысціў немаўля з імёнамі Адам-Бернард сына шляхетнага пана Мікалая Міцкевіча, каморніка Мінскага, адваката Наваградскага, і Барбары Маеўскай – законных і шляхетных сужонкаў. Хросным быў вяльможны пан Бернард Абуховіч[53], земскі суддзя Мозырскі, з пані Анэляй Узлоўскай[54], жонкаю памежнага суддзі Наваградскага павета.*

Novo-gródek

«Anno Domini 1799 Mensis Februarij 12 die P A R D (Per Admodum Reverendus Dominus) Antonius Postlett Can : Livon : (Canonicus Livonicus) baptizavit infantem nus (nominibus) Adamum Bernardum filium G D : (Generosi Domini) Nicolai Mickiewicz Camer : Minscs (Camerarii Minsensis) Causidici Novogr : et Barbaræ Majewska C C L L (Conjugum Legitimorum), as nobilium. Patrinus fuit P M Dnus (Per magnicus Dominus) Bernardus Obuchowicz Judex Ter : Mozyr : (Terrestris Mozyriensis) cum Dna Aniela Uzlowska Judicis finium p. Distr : Novog : conjugo.

**Метрыка хросту Адама-Бернарда Міцкевіча. 12 лютага 1799 г.**

*VII. 1799 г., дня 12 лютага. Метрыка хросту Адама-Бернарда Міцкевіча*

1799. Nowogródek, (die) 12 Februarii, per admodum reverendus dominus Antonius Postlett canonicus Livoniensis baptisavit infantem nomine Adamum

52 *Korespondencya Adama Mickiewicza,* Paryż 1885, t. IV, s. 40.

53 Адам-Бернард Абуховіч – наваградскі гродскі рэгент, наваградскі абозны, мазырскі земскі суддзя, жонка Ганна Валадковіч

54 Анэля Вузлоўская (з Вярэйскіх) – жонка Язэпа Вузлоўскага,наваградскага ротмістра. Мела брата Адама-Тадэвуша, наваградскі гродскі рэгент, наваградскі стражнік, гродскі пісар, падстолі, маршалак, жонка Людавіка Клот.

Bernardum filium generosi domini Nicolai Mickiewicz camerarii Minscensis et Barbarae Majewska coniugum legitimorum. Patrinus fuit per magnificus dominus Bernardus Obuchow icz iudex terrestris Mozyriensis cum illustrissima domina Anjela Uzłowska iudicis finium conjuge.

*Наваградак. 12 лютага найвялебны пан Антоній Постлет, канонік лівонскі, ахрысціў немаўля на імя Адам Бернард, сына Мікалая Міцкевіча, мінскага каморніка, і Барбары Маеўскай, законных сужонкаў. Хросным быў яснавяльможны пан Бернард Абуховіч, мазырскі земскі суддзя, і найяснейшая пані Анэля Вузлоўская, жонка памежнага суддзі.*

LVIA, f. 604, ap. 11, b. 37, p. 837

**Метрыка хросту Адама-Бернарда Міцкевіча. 12 лютага 1799 г.**

**Юльян-Аляксандр**

Наступныя метрыкі датычны хросту Юльяна-Аляксандра. Прыводзім усе чатыры знойдзеныя варыянты. Добра заўважана, як у копіях адсякаліся дзеля эканоміі атраманта асістэнты на хросце. Цікава, што імя трэцяга сына Мікалая Міцкевіча ў апошнім запісу было скарочана да Юльяна. Тут упершыню ў якасці асістэнткі на сакраманце прысутнічае ўжо згаданая Марыяна Маеўская, родная сястра Барбары.

*VIII. 1801 год, дня 11 жніўня. Метрыка хросту Юльяна-Аляксандра Міцкевіча*

Anno Domini 1801. Mensis Augusti 11 die. Ego Benedictus Agimowicz S:T:Lec: (Sancta Theogiae lector) Prier Contus Ordn: Praedi cater Bvi Julianum Alexandrum filium M. Dni Nicolai Mickiewicz Rottm novogr: Rottm novogr: et MD Barbara de domo Majewska CCLL Nobilium . Pni (Patrini) MD (Magnificus Dominus) Joachim Bykowski Dapifer Bresten: cum MD :Giertruda Bykowska tribuna Smolen: Ass: MD : Joannes Czuprow subcenturio exer: Ross:

cum MD Juliana Bakowa Rottm: Minscen: MD :Nicodemus baka Rott:Min:cum MD Marianna Majewska.

O zgodności tych metrycznych wypisów z Księgami autentycznemi nowogródzkiego Kościola Świadcze X.Konstans Ejmontt Prob. I Dziekan Nowogródka[55].

*У год Пана 1801. 11 жніўня. Я, Бенедыкт Агімовіч, лектар святой тэалогіі, прыёр канвэнта Ордэна Прапаведнікаў, ахрысціў Юліяна Аляксандра[56], сына шляхетных яснавяльможнага пана Мікалая Міцкевіча, наваградскага ротмістра, і яснавяльможнай пані Барбары з дому Маеўскіх, законных сужонкаў. Хросныя: яснавяльможны пан Яўхім Быкоўскі[57], стольнік Берасцейскі, з яснавяльможнай пані Гертрудай Быкоўскай[58], войскай Смаленскай. Сведкамі былі яснавяльможны пан Ян Чупраў[59], падсоцкі расійскага войска, з яснавяльможнай пані Юльянай Бакавай[60], ротмістравай Менскай; яснавяльможны пан Нікадэм Бака[61], ротмістр Менскі, з яснавяльможнай пані Мар'янай Маеўскай[62].*

Novo-
gródek

Anno Domini 1801. Mensis Augusti 11 die. Ego Benedictus Agimowicz S: T: Lec: (Sancta Theologiæ Lector) Prior Contus Ordn: Prædicator Bvi Julianum Alexandrum Filium M. Dni Nicolai Mickiewicz Rottm Novogr: et M D: Barbaræ de domo Majewska C C L L Nobilium. Pni (Patrini) M D (Magnificus Dominus) Joachim Bykowski Dapifer Bresten: cum M D: Giertruda Bykowska Tribuna Smolen: Ass: M D: Joannes Czuprow subcenturio exer: Ross: cum M D Juliana Bakowa Rottm: Minscen: M D: Nicodemus Baka Rott: Min: cum M D Marianna Majewska.

**Метрыка хросту Юліяна-Аляксандра Міцкевіча. 11 жніўня 1801 г.**

*IX. 1801 год, дня 11 жніўня. Другая метрыка хросту Юльяна-Аляксандра Міцкевіча.*

---

55 *Korespondencya Adama Mickiewicza,* Paryż 1885, t. IV, s. 40.

56 Юльян-Аляксандр Міцкевіч (1801-1871) – навуковец-правазнаўца, выкладаў у Крамянецкім ліцэі, Кіеўскім і Харкаўскім універсітэтах. Жонка Тэрэза Тараевіч. Сын Францішак і дачка Марыя.

57 Ян (Яўхім-Казімір) Быкоўскі (1767-1800) – берасцейскі стольнік, першая жонка Ганна Парчэўская, другая – Марыя Раецкая. Сын Тадэвуша Быкоўскага, 1763-мазырскі харужы, 1765-76 смаленскі войскі, і Гертруды Зміеўскай.

58 Гертруда Быкоўская – маці Яна Быкоўскага, жонка Тадэвуша Быкоўскага.

59 Ян Чупраў – афіцэр расійскіх войскаў, дадзеныя пра асобу невядомыя.

60 Юльяна Бака – жонка Нікадэма Бакі, менскага ротмістра

61 Нікадэм Бака – менскі ротмістр, меў сына Язэпа.

62 Марыяна Маеўская – сястра Барбары, гл. вышэй.

1801. Nowogródek, sierpnia 11, Julian Alexander UUrodzonych Mikolaja i Barbary z Majewskich Mickiewiczów rotmistrzów Nowogródzkich ślubnych małżonków syn. X. Benedykt Agonowicz, przeor Dominikanów Nowogródzkich. UUrodzone Jan Bykowski, chorąży Brzeski z Giertrudą Bykowską sędziną Smolenską, Jan Czuprów sztabs kapitan wojsk Rossyiskich z Julianną Bakową rotmistrzówą Minską, Nikodem Baka rotmistrz Miński z Maryanną Majewską.

*1801. Навáградак жніўня 11, Юліян-Аляксандр, народжаных Мікалая і Барбары з Маеўскіх Міцкевічаў ротмістраў Навагр. шлюбных сужонкаў сын. Кс. Бенедыкт Агановіч, прыёр Дамініканаў Навагр. Народжаоныя Ян Быкоўскі, харужы брэсцкі, з Гертрудай Быкоўскай, судзінай смаленскай; Ян Чупроў, штабс-капітан войск расійскіх, з Юліанай Бакавай, ротмістровай мінскай, Нікадзім Бака, ротмістр мінскі, з Марыянай Маеўскай.*

НГАБ, ф. 937, воп. 4, ад.зах. 148, арк. 2

**Другая метрыка хросту Юліяна-Аляксандра Міцкевіча.**
**11 жніўня 1801 г.**

*X. 1801 год, дня 11 жніўня. Трэцяя метрыка хросту Юльяна-Аляксандра Міцкевіча*

1801 Augustus Die 11. Eodem die, admodum reverendus pater sacrae thealogiae magister Benedictus Aginowicz praesbiter conventus Nowogrodensis Ordinis Praedicatorum bapisavit infantem nomine Julianum Alexandrum [parentis] magnifici domini Nicolai Mickiewicz rothmagistri Novogrodensis et Barbarae consortis eius de domo Maiowskich coniugum legitimorum levantes ad fontem magnificus dominus Joachim Bykowski, dapifer Brescensis

cum magnifica domina Gertruda Bykowska tribun[a] Smolenscensis de civitate Nowogrodensi.

*У той жа дзень найвялебны Бенедыкт Агіновіч, магістр святой тэалогіі, прэсбітар навааградскага канвэнта Ордэна Прапаведнікаў, ахрысціў немаўля на імя Юліян-Аляксандр бацькі вяльможнага пана Мікалая Міцкевіча, навааградскага ротмістра, і Барбары з дому Маёўскіх, законных сужонкаў. Трымалі да хросту вяльможны пан Яўхім Быкоўскі, берасцейскі стольнік, і вяльможная пані Гертруда Быкоўская, смаленская войская, у г. Навааградку.*

LVIA, f. 604, ap. 11, b. 37, p. 851b

**Трэцяя метрыка хросту Юліяна-Аляксандра Міцкевіча. 11 жніўня 1801 г.**

*XI. 1801 год, дня 11 жніўня. Чацвёртая метрыка хросту Юліяна-Аляксандра Міцкевіча.*

1801 Augustus Die 11. Eodem die, admodum reverendus pater sacrae thealogiae magister Benedictus Aginowicz praesbiter conventus Nowogrodensis Ordinis Praedicatorum bapisavit infantem nomine Julianum [parentis] magnifici domini Nicolai Mickiewicz rothomagistri Novogrodensis et Barbarae consortis eius de domo Maiowskich coniugum legitimorum levantes ad fontem magnificus dominus Joachim Bykowski, dapifer Brestensis cum magnifica domina Gertruda Bykowska tribun[a] Smolenscensis, de civitate Nowogrodensi.

*У той жа дзень найвялебны Бенедыкт Агіновіч, магістр святой тэалогіі, прэсбітар навааградскага канвэнта Ордэна Прапаведнікаў, ахрысціў немаўля на імя Юліян бацькі вяльможнага пана Мікалая Міцкевіча, навааградскага ротмістра, і Барбары з дому Маеўскіх, законных сужонкаў. Трымалі да хросту вяльможны пан Яўхім Быкоўскі, берасцейскі*

*стольнік, і вяльможная пані Гертруда Быкоўская, смаленская войская, у г. Наваградку.*

LVIA, f. 604, ap. 11, b. 37, p. 858


Eod Die Adm Rdus Pr Sa Th Magister Benedic:
tus Aginowicz Praep Stus Novogd: Ord Praedicat: baptisa
vit infantem nne Julianum Prio MDni Nicolai Mickie:
wicz Rotho magi: Novogd: et Barbara Consortis eius de
domo Maiewskich. CC. LL. Leev: F: MD. Joachim
Bykowski Dapifer Brester: cum MD Gertruda By:
kowska Tribunat: Smol: de Civitte Novogd:

**Чацвёртая метрыка хросту Юліяна-Аляксандра Міцкевіча. 11 жніўня 1801 г.**

**Казімір-Юры**

Намі знойдзеныя тры метрыкі хросту Казіміра-Юрыя. Метрыка XIII, якая паходзіць з вывадовай справы Міцкевічаў і захоўваецца ў фондах НГАБ, прадстаўляе асаблівую цікавасць. Яна больш поўная, чым версіі метрык з чацвёртага тома *Korespondencyj Adama Mickiewicza*. Прычым асістэнты размешчаныя ў іншай канфігурацыі. Абедзве метрыкі, як вынікае, перапісваліся з арыгінала, аб чым сведчаць запісы пад імі. Таму як магла адбыцца такая трансфармацыя, застаецца загадкай. Пэўную цікавасць выклікаюць і асістэнты. Напрыклад, згаданая ў метрыцы Петранэла з Дабжынскіх Заборская, на той момант жонка Альбрэхта Заборскага, наваградскага ротмістра. У 1809 годзе яна стане жонкай Францішка Тараевіча ( хроснага Міхала-Антона Міцкевіча, гл. Метрыку XV), а сведкам на вяселлі будзе Мікалай Міцкевіч. Францішак Тараевіч стане кумам на хростах дзяцей Вінцэнта Міцкевіча, стрыечнага брата Мікалая. Быў ён блізкім сябрам сям’і і калегам па адвакацкай справе Мікалая Міцкевіча. Згаданая Ганарата Лісоўская, магчыма, была жонкай Антона Лісоўскага, які быў у сяброўскіх адносінах з Мацеем і Людавікай з Пілецкіх Тараевічаў.

*XII. 1804 год, дня 7 сакавіка. Метрыка хросту Казіміра-Юрыя Міцкевіча.*

Anno Domini 1804 mensis Martii 7 die. Ego Fulgentius Kamienski Gvardjanus Novogr: Bvi Casimirum Georgium[63] 26 Februar: natum Filium MD Nicolai Mickiewicz et MD Barbarae de Domo Majewska CCLL: Pni (Patrini) magnificus Dominus Thadeus Pilecki judex Praesidens Castrorum Novogrodecensium cum Magnifica Domina Petonella Zaborska Rotomagistra Novogrodecensi. Apistenses MD Fraciscus Krzywkowski[64] Thaesaurarius novogr. cum MD Marianna Majewska MD Ignatius Jerzykowicz[65] cum MD Rosa Orzeszkowna[66].

O zgodności tych metrycznych wypisów z Księgami autentycznemi nowogródzkiego Kościola Świadcze X.Konstans Ejmontt Prob. I Dziekan Nowogródka[67].

*У год Пана 1804, 7 сакавіка. Я, Фульгенцый Каменскі, гвардыян Наваградскі, ахрысціў Казіміра Георгія 26 лютага, народжанага сына вяльможнага пана Мікалая Міцкевіча і вяльможнай пані Барбары з дому Маеўскіх, законных сужонкаў. Хросныя: вяльможны пан Тадэвуш Пілецкі, суддзя, прэзідэнт гродскі Наваградскі, з вяльможнай пані Пэтранэляй Заборскай ротмістра Наваградскага. Дапаможныя: вяльможны пан Францішак Кржыўкоўскі, Наваградскі скарбнік, з вяльможнай пані Марыянай Маеўскай, вяльможны пан Ігнат Ержыковіч з вяльможнай пані Розай Арэшкаўнай.*

Locus Domicilii

Novo-gródek

Anno Domini 1804 Mensis Martii 7 die. Ego Fulgentius Kamieński Gvardjanus Novogr: Bvi Casimirum Georgium 26 Februar: natum Filium M D Nicolai Mickiewicz et M D: Barbaræ de Domo Majewska C C L L: Pni (Patrini) Magnificus Dominus Thadeus Pilecki Judex Præsidens Castrorum Novogrodecensium cum Magnifica Domina Petronella Zaborska Rotomagistra Novogrodecensi. Apistenses M D Franciscus Krzywkowski Thæsaurarius Novogr. cum M D Marianna Majewska M D Ignatius Jerzykowicz cum M D Rosa Orzeszkówna.

**Метрыка хросту Казіміра-Юрыя Міцкевіча. 7 сакавіка 1804 г.**

63 Казімір-Юры Міцкевіч – (1804-1839) служыў лекарам на Чарнаморскім флоце, жонка Марфа Пупажэнская.

64 Францішак Кржыўкоўскі – скарбнік наваградскі, жонка Ганна з Дашкевічаў.

65 Ігнат Ержыковіч – дадзеныя пра асобу невядомыя.

66 Роза Арэшка – дачка Казіміра і Разаліі з Забельскіх Арэшкаў, стрыечная сястра Барбары Маеўскай, цётка Адама Міцкевіча.

67 *Korespondencya Adama Mickiewicza*, Paryż 1885, t. IV, s. 40.

*XIII . 1804 год, дня 7 сакавіка. Другая метрыка хросту Казіміра-Юрыя Міцкевіча.*

Wypis z Metryk chrestnych Nowogródzkiego Rzymsko-Katolickiego Parafialnego kosćiola

Nowogródek, anno Domini millesimo octingentesimo quarto, mensis Martii die septima. Ego, Fulgentius Kamieński, guardianus Nowogrodensis, baptizavi Casimirum Georgium vigesima sexta Februarii natum filium magnifici domini Nicolai Mickiewicz, et magnificae dominae Barbarae de domo Majewska, coniugum legitimorum nobilium. Patrini fuerunt magnificus dominus Thadeus Pilecki, iudex praesidens Nowogrodensium castrorum[68] cum magnifica domina Petronella Zaborska Rotomagistra Nowogrodensi. Assistentes magnificus dominus Franciscus Krzywkowski tesaurarius Nowogrodensis cum magnifica domina Honorata Lisowska, magnificus dominus Joannes Strzałkowski, Marianna Maiewska, magnificus dominus Ignatius Jerzykowicz cum magnifica domina Rosa Orzeszkówna.

Jakową metryką zapisaną na karcie 9: za № 193, z ksiąg pomienionego kościola wydaiąe, przy wyciśnieniu Parafialnej pieczęci I podpisem wlasnorzęcznym zatwierdzam. – Datum w Nowogródku 1832 roku czerwca 14 dnia X. Pawel Hrynaszkiewicz administer nowogródzki. Poswiadczam iż takowy extrakt jest z księgą autentyczną zgodny, Starojelna die 20 czerwca 1832 roku. Xiądz Chlewiński dekan Nowogródzki manu propria.

*Навāградак, у год Пана тысяча восемсот чацвёрты, сёмага сакавіка. Я, Фульгенцый Каменскі, гвардыян Навāградскі, ахрысціў Казіміра Георгія, народжанага дваццаць шостага лютага, сына вяльможнага пана Мікалая Міцкевіча і вяльможнай пані Барбары з дому Маеўскіх, законных шляхетных сужонкаў. Хроснымі былі: вяльможны пан Тадэвуш Пілецкі, навāградскі гродскі суддзя, прэзідэнт, з вяльможнай пані Петранэляй Заборскай, навāградскай ротмістрыняй. Сведкі: вяльможны пан Францішак Кржыўкоўскі, навāградскі скарбнік, з вяльможнай пані Ганаратай Лісоўскай, вяльможны пан Ян Стралкоўскі, Марыяна Маеўская, вяльможны пан Ігнат Ержыковіч з вяльможнай пані Розай Арэшкаўнай.*

НГАБ, ф. 319, воп. 2, ад.зах. 1991, арк. 20

[68] Тадэвуш Пілецкі – навāградскі будаўнічы (1794), навāградскі гродскі суддзя (1803).

*XIV. 1804 года, дня 7 сакавіка. Трэцяя метрыка хросту Казіміра-Юрыя Міцкевіча.*

[W] Nowogródku, 26 lutego, 7 marca. Kazimierz Jerzy, Mikołaja i Barbary Mickiewiczów szlachty ochrzcil. X. Fulcenty Kamienski gwardyjan. Nowogródzki. Tadeusz Pilecki, Petronela Zaborska.

*У Наваградку 26 лютага, 7 сакавіка, Казімір-Юры, Мікалая і Барбары Міцкевічаў, шляхты, ахрысціў ксёндз Фульцэнт Каменскі, Наваградскі гвардыян. Тадэвуш Пілецкі, Петранэля Заборская.*

НГАБ, ф. 937, воп. 4, ад.зах. 177, арк. 7



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Nowo. grodku. | 26. Lute go. | 7. | Kazimierz Jerzy | Mikołaja i Barbary Mickiewiczow szlachty ochrzcil. | X. Fulcenty Kamienski Gward. Nogr. | Tadeusz Pilecki Petronela Zaborska |

**Трэцяя метрыка хросту Казіміра-Юрыя Міцкевіча. 7 сакавіка 1804 г.**

## Міхал-Антоній

На дадзены момант намі знойдзены толькі два варыянты метрык хросту апошняга сына Мікалая і Барбары з Маеўскіх Міцкевічаў. У другім варыянце пад скарот патрапілі дзве пары асістэнтаў, сярод якіх і цётка Міхала-Антона, Марыяна Маеўская.

*XV. 1805 год, дня 7 мая. Метрыка хросту Міхала-Антонія Міцкевіча*

Anno Domini 1805, Mai 7 die. Ego Gundisalvos Ejmontt concionator Ordinis Praedicatorum baptisavi Michaelem Antonium[69] 29 aprilis natum filium MD Nicolai Mickiewicz et MD Barbarae de Domo Majewska legitimorum Conjugum ae Nobilium. Patrini M D. Franciscus Terajewicz cum MD Valeria Hacisca[70]. Asistenses MD Fraciscus Siemiradzki[71] cum MD Marianna Majewska. MD Michael Godaczewski cum MD Lucia Jablonska.

O zgodności tych metrycznych wypisów z Księgami autentycznemi nowogródzkiego Kościola Świadcze X. Konstans Ejmontt Prob. I Dziekan Nowogródka[72].

---

69 Міхал-Антон Міцкевіч (1805-1811) – памёр у дзіцячым узросце.

70 Валерыя Гацыская – з Яблонскіх, 6.11.1800 г. у Тугановічах адбыўся яе шлюб з Бенедыктам Гацыскім, навагардскім будаўнічым, старостам Вірыдымаўскім, дэпутатам Галоўнага Трыбунала ВКЛ, наваградскім земскім суддзёй, шамбелян Яго Каралеўскай Мосьці.

71 Францішак Семірадзкі – рэгент земскі наваградскі.

72 *Korespondencya Adama Mickiewicza*, Paryż 1885, t. IV, s. 40.

*У год Пана 1805, 7 мая. Я, Гундысальвас Эймонт, казнадзей Ордэна Прапаведнікаў, ахрысціў Міхала Антонія, народжанага 29 красавіка, сына вяльможнага пана Мікалая Міцкевіча і вяльможнай пані Барбары з дому Маеўскіх, законных і шляхетных сужонкаў. Хросныя: вяльможны пан Францішак Тэраевіч з вяльможнай пані Валерыяй Гацiскай. Дапаможныя: вяльможны пан Францішак Семірадзкі з вяльможнай пані Марыянай Маеўскай, вяльможны пан Міхал Гадачэўскі з вяльможнай пані Люцыяй Яблонскай.*

КАМ, с. 40.


Novo-
gródek

Anno Domini 1805, Mai 7 die. Ego Gundisalvos Ejmontt Concionator Ordinis Prædicatorum baptisavi Michaelem Antonium 29 Aprilis natum filium M D Nicolai Mickiewicz et M D Barbaræ de Domo Majewska legitimorum Conjugum ac Nobilium. Patrini M. D. Franciscus Terajewicz cum M D Valeria Hacisk a. Apistonsos M D. Franciscus Siemiradzki cum M D Marianna Majewska. M D. Michael Godaczewski cum M D. Lucia Jabłońska.

**Метрыка хросту Міхала-Антонія Міцкевіча. 7 мая 1805 г.**

**XVI.**

**Метрыкі пахаванняў**

Метрыка смерці Ганны Маеўскай. Ёсць верагоднасць таго, што гэта Ганна з Арэшкаў, жонка Мацея Маеўскага. На такую думку наводзіць і шляхецкі тытул, і сталы ўзрост. Нагадаю, што Ганна з Арэшкаў нарадзілася ў 1732 годзе, а гады жыцця не заўсёды пісаліся дакладна. Напрыклад, Міхал-Антоній Міцкевіч на момант смерці яшчэ не меў поўных 6 гадоў. А з годам нараджэння Мікалая Міцкевіча ўвогуле няма ніякай яснасці, бо паводле метрыкі смерці ён нарадзіўся недзе ў 1765 г. Але, згодна з уласнаручна падпісаным дакументам 1795 года, яму на той момант было ўжо 33 гады[73]. А значыць, год нараджэння хутчэй за ўсё 1762. Нагадаем, што шлюб яго бацькоў, Якуба і Тэадоры (з Пэнкальскіх) Міцкевічаў, адбыўся ў 1761, як вынікае з кантэксту судовых дакументаў Наваградскага ваяводства. У 1764 годзе быў актыкаваны *Акт вечыста дарчы ад Пані Тэадоры Міцкевіч Пану Якубу Міцкевічу, мужу свайму* (напісаны 10 снежня 1761 г.)[74].

[73] LVIA, Spis Rodzin Szlacheckich Nowogródzkich 1796 r., f. 391, ap. 6, b. 4.

[74] НГАБ, ф. 1730, воп. 1, ад.зах. 36, арк. 884-885 адв.

*XVI. 1798 год, дня 11 красавіка. Метрыка смерці Ганны Маеўскай.*

1798 Urodzona Anna Majewska lat 60. Nowogródek. Kwietnia 11 dnia. Cmentarz Dominikanów Nowogródskich, kwietnia 11dnia.

*Народжаная Ганна Маеўская, 60 год. Наваградак, красавіка 11 дня. Могілкі Дамініканскія наваградскія , красавіка 11 дня.*

НГАБ, ф. 937, воп. 4, ад.зах. 144, арк. 1



| | | |
|---|---|---|
| Urodzona Anna Majewska lat 60.- | Nowogrodek Kwietnia 11. dnia. | Cmentarz Dominikanów Nowogr. Kwietnia 11. d. |

**Метрыка смерці Ганны Маеўскай .11 красавіка 1798 г.**

*XVII. 1811 год, дня 17 красавіка. Метрыка смерці Антона-Міхала Міцкевіча.*

Szlachetny Antoni Mickiewicz maiący wieku lat 6, w Nowogródku 17 dnia aprila. Na mogilach xięży Dominikanów, 18 Dnia aprila pogrzebiony.

*Шляхетны Антон Міцкевіч, ва ўзросце 6 год, у Навааградку, 17 дня красавіка. На могілках ксяндзоў дамініканаў 18 красавіка пахаваны.*

НГАБ, ф. 937, воп. 4, ад.зах. 177, арк. 115 адв.



| | | |
|---|---|---|
| Szlachetny Antoni Mickiewicz maiący wieku lat 6. — | w Nowogrodku 17 Dnia Aprila | Na Mogiłach xięży Dominikanów 18 Dnia Aprila pogrzebiony |

**Метрыка смерці Міхала-Антонія Міцкевіча. 17 красавіка 1811 г.**

**Метрыка смерці Мікалая Міцкевіча**

На дадзены момант вядомыя два варыянты. Адзін, на лаціне, паходзіць з выдання "*Korespondencya Adama Mickiewicza*" (t. IV), і, па ўсёй верагоднасці, адпавядае арыгіналу. Другі, польскамоўны, захоўваецца ў фондах НГАБ.

*XVIII. 1812 год, дня 16 мая. Метрыка смерці Мікалая Міцкевіча.*

Locus Mortis nowogrodek

Anno Domini 1812, mensis Mai 16 die, obiit in Domino, omnibus Sacramentis munitus nobilis Nicolaus Mickiewicz, camerarius districtum Novogr.

Annorum 47 sepultus est in tumulo Ordinis Praedicatorum hoc mensis 17 die.

*У год Пана 1812, 16 мая. Адышоў да Пана ўмацаваны ўсімі сакрамэнтамі шляхетны Мікалай Міцкевіч, каморнік Наваградскага павета. 47 год, пахаваны ў грабніцы (на могілках) Ордэна Прапаведнікаў 17 дня таго ж месяца.*



| | |
|---|---|
| Locus Mortis Novogródek | Anno Domini 1812 Mensis Mai 16 die Obiit in Domino, omnibus Sacramentis munitus Nobilis Nicolaus Mickiewicz Camorarius Districtum Novogr. Annorum 47 sepultus est in tumulo Ordinis Praedicatorum hoc mensis 17 die. |

**Метрыка смерці Мікалая Міцкевіча. 16 мая 1812 г.**

*XIX. 1812 год, дня 16 мая. Другая метрыка смерці Мікалая Міцкевіча.*

Mikołay Mickiewicz szlachetny wieku 47. W Nowogródku życie ukączyl 16 maja z gorączki. Pochowany na cmentarzu Dominikańskim 17 maja.

*Мікалай Міцкевіч, шляхетны, веку 47, у Наваградку жыццё завяршыў 16 траўня з-за гарачкі. Пахаваны на Дамініканскіх могілках 17 траўня.*

НГАБ ф. 937, воп. 4, ад.зах. 177, арк. 119



| | | |
|---|---|---|
| Mikołay Mickiewicz Szlachetny wieku 47. | w Nowogródku życie ukączył 16 maja z gorączki | Pochowany na Cmentarzu Dominikańskim 17 maja |

**Другая метрыка смерці Мікалая Міцкевіча. 17 мая 1812 г.**

## Метрыка смерці Барбары Міцкевіч

Гэтых метрык, як і ў выпадку з метрыкамі смерці Мікалая Міцкевіча, таксама знойдзена дзве. Першая паходзіць з выдання "*Korespondencya Adama Mickiewicza*" (t. IV), другую метрыку[75] не прыводзім, бо яна ідэнтычная першай, з той толькі розніцай, што імя Барбары ў ёй напісана памылкова як Разалія.

*XX. 1820 год, дня 9 кастрычніка. Метрыка смерці Барбары з Маеўскіх Міцкевіч.*

Nowogródek. Roku 1820 Miesiąca Octobra 9 dnia życie ukończyła ze slabości zdrowia urodzona Barbara Mickiewiczowa komornikowa, wdowa po zmarłym mężu Mikołaju mająca lat 53. Pogrzebiona 11 octobra na cmentarzu XX Dominikanów.

[75] НГАБ, ф. 937, воп. 4, ад.зах. 151, арк. 108.

O zgodności tych metrycznych wypisów z Księgami autentycznemi nowogródzkiego Kościola Świadcze X. Konstans Ejmontt Prob. I Dziekan Nowogródka.

*У 1820 годзе, 9 кастрычніка, скончыла жыццё ў немачы здароўя народжаная Барбара Міцкевічавая, каморнікавая, удава па памерлым мужу Мікалаю, маючы 53 гады. Пахаваная 11 кастрычніка на могілках ксяндзоў дамініканаў.*

| | |
|---|---|
| Nowogródek | Roku 1820 Miesiąca Octobra 9 dnia życie ukończyła ze slabości zdrowia Urodzona Barbara Mickiewiczowa komornikowa Wdowa po zmarłym mężu Mikołaju mająca lat 53. Pogrzebiona 11 Octobra na Cmentarzu XX Dominikanów. |

**Метрыка смерці Барбары з Маеўскіх Міцкевіч. 9 кастрычніка 1820 г.**

Nowogródek

Roku 1820 Miesiąca Octobra 9 dnia życie ukończyła ze slabości zdrowia urodzona Barbara Mickiewiczowa komornikowa, wdowa po zmarłym mężu Mikołaju mająca lat 53. Pogrzebiona 11 octobra na cmentarzu XX Dominikanów

O zgodności tych metrycznych wypisów z Księgami autentycznemi nowogródzkiego Kościola Świadcze X. Konstans Ejmontt Prob. I Dziekan Nowogródka.

*У 1820 годзе, 9 кастрычніка скончыла жыццё ў немачы здароўя народжаная Барбара Міцкевічавая, каморнікавая, удава па памерлым мужу Мікалаю, маючы 53 гады. Пахаваная 11 кастрычніка на могілках ксяндзоў дамініканаў.*

**Зміцер Дрозд**
**(Мінск)**

# Новыя дакументы аб правядзенні “польскай аперацыі” НКУС у БССР. Дакладныя запіскі і даведкі Асобага Аддзялення 13-й Стралковай Дагестанскай дывізіі

28–29 верасня 2017 года ў прэзідэнцкім палацы ў Варшаве (Бельведэры) адбылася Міжнародная канферэнцыя “Польская аперацыя” НКУС 1937–1938 гг. Аднаўленне памяці пра злачынства”. У ёй прыняло ўдзел каля 50 навукоўцаў (у большасці прафесары і дактары навук) і грамадскіх дзеячаў, якія займаюцца тэмай рэпрэсій у СССР і аднаўленнем памяці аб ахвярах, з Польшчы, Беларусі, Украіны, Расіі і ЗША. У адкрыцці мерапрыемства ўдзельнічалі прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда, дырэктар Цэнтра польска-расійскага дыялогу і згоды доктар Яраслаў Шарэк і старшыня Інстытута нацыянальнай памяці Эрнэст Выцішкевіч.

Такая вялікая ўвага да “польскай аперацыі” НКУС (многія прамоўцы адзначалі, што куды больш правільна называць яе антыпольскай) толькі падкрэсліла, што і цяпер, праз 80 гадоў, мы не можам лічыць гэтую тэму ні дастаткова, ні тым больш цалкам вывучанай. Да гэтага часу практычна поўная закрытасць архіваў КДБ у Беларусі не спрыяе правядзенню якіх-небудзь сур’ёзных навуковых даследаванняў тэмы сталінскага тэрору. Па сутнасці, мы маем толькі адзін дакумент, уведзены ў навуковы ўжытак Уладзімірам Адамушкам яшчэ ў 1994 годзе ў кнізе *Палітычныя рэпрэсіі 20–50-х гадоў на Беларусі* (Мінск 1994, с. 55–56). Гэта паведамленне “*Об итогах операции по польской, немецкой и латвийской агентуре в БССР, проводившейся в период август 1937 г.— сентябрь 1938 г. на основе приказов НКВД СССР*”:

*Итоги операции по польской агентуре:*

*1. Всего арестовано польских шпионов, диверсантов и участников повстанческих организаций — 21.407 человек…*

*3. По этой операции было изъято и разоблачено:*

*Перебежчиков из Польши — 3.088. Польских легионеров — 894. Политэмигрантов — 468.*

*Бывших контрабандистов, лично бывших в Польше,— 1.024. Бывших членов польских политических партий — 94.*

*4. Следствием вскрыто и ликвидировано:*

*а) шпионских резидентур — 467; б) шпионов — 13.042; в) диверсантов — 2.679; г) разоблачено повстанцев и участников «ПОВ» — 4.425. Повстанцы были объединены в 522 повстанческие группы, которые входили в 11 разветвленных повстанческих организаций; д) контрреволюционного националистического актива польских колоний — 575 чел.*

*5. Национальный состав арестованных характеризуется следующими данными:*

***Поляков — 9.196 чел. Белорусов — 10.120.*** *Евреев (из этого числа подавляющее большинство евреев являются польскими евреями — политэмигранты и польские перебежчики) — 1.059. Русских — 383. Украинцев — 181. Немцев — 105. Латышей — 122. Литовцев — 133. Прочих — 110.*

*Зам. нач. 3-го отдела УГБ НКВД*
*Ст. лейтенант гос. безопасности (Ларин)*
*12 декабря 1938 г., г. Минск.*

На падставе якіх дакументаў складалася гэтая справаздача, можна даведацца, вывучыўшы тры з іх, што захаваліся ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь сярод перапіскі Асобага Аддзялення 13-й Стралковай Дагестанскай дывізіі (13-я СД) з кіраўніцтвам НКУС БССР. Гэтая дывізія ў 1936 годзе была пераведзена з Паўночна-Каўказскай у Беларускую Ваенную Акругу і заняла пазіцыі ў Мінскім умацаваным раёне ўздоўж заходняй мяжы СССР. Загад аб пачатку "польскай аперацыі" быў аддадзены 11 жніўня, а 2 снежня 1937 года начальнік Асобага Аддзела накіраваў кіраўніцтву сваю першую справаздачу:

*Совершенно секретно*
*Начальнику 5-го отдела УГБ НКВД БССР*
*младшему лейтенанту т. Завадскому*[1]
*г. Минск*

---

[1] Завадскі Уладзімір Мікалаевіч — нарадзіўся ў 1906 годзе, нацыянальнасць — рускі, месца нараджэння — г. Смаленск. Член ВКП (б). Званне малодшага лейтэнанта прысвоена загадам Народнага камісара ўнутраных спраў Саюза ССР № 184, 23.03.1936 году. Арыштаваны 05.02.1939. Асуджаны 07.01.1940. Абвінавачанне — арт. 69 КК БССР (фальсіфікацыя спраў). Рашэнне: ВМП. Электронная крыніца: http://nkvd.memo.ru/index.php/Завадский,_Владимир_Николаевич.

Завадскі В. М. Ваенным трыбуналам Беларускай Асобай Вайсковай Акругі 3–7.11.1940 года асуджаны па арт. 69 КК БССР з санкцыі арт. 64 КК БССР да ВМП — расстрэлу. Завадскі прызнаны вінаватым у тым, што, знаходзячыся з лістапада 1937 года па верасень 1938 года на пасадзе начальніка 5-га аддзела НКУС БССР, парушаў рэвалюцыйную законнасць і метады вядзення следства шляхам падлогаў і фальсіфікацый пратаколаў допытаў, культывавання і агульнага прымянення да следча-зняволеных мер фізічнага ўздзеяння, арыентаваў падведамныя яму асобыя органы на пагалоўныя арышты і збіванні асоб камначсастава, звольненых з Чырвонай Арміі, і дапускаў іншыя вычварэнствы ў следчай працы (т. 1 л. 648–651). Электронная крыніца: http://www.marakou.by/by/davedniki/ahvyary-i-karniki/yani-vinishcali-nashyh-prodkay.html.

***Докладная записка***

***О итогах операции по польской линии, проведенной Особым Отделом 13-й стрелковой дивизии***

*По польской линии из окружения частей 13-й СД Особым Отделом 13-й СД оперировано:*

*— Диверсантов, шпионов и контрреволюционных националистов — 18 человек.*

*— Прошло по делам 21 человек, из коих 2 человека разыскиваются, один арестован ранее Дзержинским Районным отделением НКВД.*

*Из этого количества две резидентуры диверсионно-шпионского характера. С количеством участников — 7 человек. Одна шпионская резидентура — 5 человек и одна группа контрреволюционно националистического характера — 2 человека. Остальные — одиночки.*

*Из числа 18 арестованных: справки направлены в Москву на 12 человек, прошли через Тройку — 5 человек, освобождена по беременности — 1. Итого: 18 человек.*

*Кроме 18, как сказано, 2 разыскиваются и один арестован и расстрелян ранее по другому делу. Из числа оперированных: 3 человека служили в военном строительстве, 2 сторожами и 1 в качестве чернорабочего.*

*Из числа военнослужащих и жён начсостава по польской линии арестовано не было. На представленных к аресту 2 жён начсостава санкцию мы не получили в силу того, что они обе имеют грудных детей.*

*Кроме выше указанных дел ОО 13 СД через 5-й отдел передано 24 дела в 3-й и 4-й отделы, в силу того, что ОО не имело помещения для ведения следствия, и 50 % оперативного состава было мобилизовано Наркоматом. По всем 24 делам объекты арестованы, большинство из них расстреляно. По 14 справкам я не получил ответа от 5-го отдела.*

*На 2.12.1937 представлена справка на арест, как польского шпиона, начальника 1-й части Штадива 13 майора Чулановского. По штабам частей разработок на штабной начсостав, подозреваемый в прямом шпионаже,— не имеем.*

*Домработниц у начсостава 13 СД нет, даже у командира 13 стр. дивизии и начслужб дивизии — домработниц нет, как правило, большинство имеют приходящих женщин для стирки белья и уборки квартиры. Этот контингент, хотя нами и учитывается, но в силу того, что он часто меняется,— не всегда своевременно берется нами на учет и агентурно проверяется.*

*Все дела по польской линии персонально вели полковой уполномоченный младший лейтенант Госбезопасности Шандриков[2], оперуполномоченный Криворученко[3] и Начособдив. Количество разоблачённых шпионов и диверсантов падает на каждого одинаковое.*

*Приложение: справка, характеризующая дела.*

*Начальник ОО 13-й СД старший лейтенант государственной безопасности Кириллов[4].*

*№ 1908. 2.12.1937. Минск, БССР[5].*

З дакумента бачна, што хоць АА 13-й СД "правяло" па сваіх справах 21 чалавека, але аж 24 справы з-за перагружанасці былі накіраваныя ў іншыя аддзелы, і большасць гэтых людзей была ўжо не толькі арыштаваная, але і расстраляная. Яшчэ на 14 даведак АА 13-й СД на той момант не атрымаў адказу. Такім чынам, з гэтых дакументаў немагчыма даведацца, колькі менавіта людзей адправілі на той свет або ў лагеры ўсяго тры чалавекі: Кірылаў і яго калегі па аддзяленні. Трох жанчын, нягледзячы на намаганьні чэкістаў, пакуль не атрымалася арыштаваць з-за цяжарнасці ці наяўнасці маленькіх дзяцей. Ужо па адным гэтым дакуменце бачна, што было даволі складана весці статыстыку, бо кожны аддзел хацеў прыпісаць сабе як мага больш спраў ды "шпіёнаў", працуючы літаральна з раніцы да вечара, але адны справы перадаваліся ў іншыя падраздзяленні, іншыя даведкі не мелі адказу, а па трэціх не атрыманыя санкцыі на арышт.

Цікавы і згаданы арышт маёра Чуланоўскага. Яшчэ на 9 сакавіка 1937 года самому Кірылаву нічога не было вядома пра яго нейкія сувязі з Польшчай

---

2 Шандрыкаў Цімафей Нічыпаравіч — нарадзіўся ў 1905 годзе; месца нараджэння — Віцебская вобл., Сіроцінскі р-н, в. Дуброўск. Званне малодшага лейтэнанта прысвоена загадам Народнага камісара ўнутраных спраў СССР № 184, 23.03.1936 года, лейтэнанта — № 1400, 19.06.1939 года, маёра – 29.03.1944 года. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, узнагароджаны ордэнамі і медалямі: медаль "За адвагу" (1941), ордэн Чырвонай Зоркі (1944). Электронная крыніца: Кадравы склад НКУС:
http://nkvd.memo.ru/index.php/Шандриков,_Тимофей_Никифорович.

3 Крываручанка Рыгор Ціханавіч — нарадзіўся ў 1904 годзе, нацыянальнасць — рускі. Член ВКП(б). Званне малодшага лейтэнанта прысвоена загадам Народнага камісара ўнутраных спраў СССР № 174, 22.03.1936, лейтэнанта — загадам войскам Волхаўскага фронту № 0100/н, 17.10.1942, на 21 снежня 1943 — падпалкоўнік (супрацоўнік контрразведкі Ваенна-марскога флоту). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, узнагароджаны ордэнамі і медалямі: медаль "За баявыя заслугі" (1942), ордэны Чырвонай Зоркі (1943 і 1944), ордэн Айчыннай вайны 2-й ступені (1944). Электронная крыніца: Кадравы склад НКУС:
http://nkvd.memo.ru/index.php/ /Криворученко,_Григорий_Тихонович.

4 Кірылаў Аляксандр Мацвеевіч — (1897, Масква — 1968, Ленінград). Нарадзіўся ў сям'і маляра. Рускі. Адукацыя: сельская школа, с. Багацішчава Тульскай губ. 1909; Вышэйшая школа памежнікаў АДПУ СССР 1925; 1 курс камвуза, Растоў-на-Доне 1939. Супрацоўнік Асобага Аддзялення 13 стр. дывізіі. ПКВА 09.29–11.36. Дывізія ў 1936 годзе пераведзена ў БВА. Званні: ст. лейтэнант ДБ (Дзяржбяспекі) 22.03.36; капітан ДБ 17.07.39; маёр ДБ 28.10.39; палкоўнік ДБ 14.02.43; генерал-маёр берагавой службы 24.07.43. Узнагароды: ордэн Леніна; 3 ордэны Чырвонага Сцяга, ордэн Айчыннай вайны 2 ступені, 5 медалёў; знак "Заслужаны супрацоўнік НКУС" 02.02.42. Пенсіянер з 1949 г., Ленінград. (З кнігі: Н. В. Петров, *Кто руководил органами госбезопасности. 1941–1954,* Москва 2010).

5 *Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь* (далей — НАРБ), ф. 34, воп. 4, ад. зах. 6, арк. 540, 541.

ці польскае паходжанне. У *Даведцы на кіруючы камандны склад 13-ай Стралковай Дывізіі* ён даваў такую характарыстыку: *“Начальнік аператыўнай часткі штаба 13-й дывізіі маёр Чуланоўскі Міхаіл Міхайлавіч, нараджэння 1899 года, беспартыйны, сын настаўніка, ураджэнец м. Вялікі Такмак УССР. У 1915 г. добраахвотна пайшоў у старую армію, а ў 1916 скончыў школу прапаршчыкаў у г. Палтаве. У Чырвонай арміі з 1918 года, у снежні 1921 года ў баі пад станцыяй Разенгардаўскай (недалёка ад Чыты) трапіў у палон да белагвардзейцаў (падкрэслена), дзе прабыў па люты 1922 г, будучы хворым у шпіталі ў г. Спаску, пасля ранення і абмаражэння ног. З 25 кастрычніка 1922 па выхадзе з палону з’явіўся ў штаб дывізіі і быў прапушчаны праз спецыяльную камісію і зноў пакінуты ў войску на камандных пасадзе. У 13-й СД працуе з мая 1935 года. Матэрыялаў, што кампраметуюць яго, няма. Палітычная і службовая характарыстыка станоўчая*[6]*”*.

Невядома, ці быў маёр Чуланоўскі рэпрэсаваны, ва ўсялякім выпадку ў даступных у Інтэрнэце спісах рэпрэсаваных яго прозвішча не сустракаецца. Не заўсёды “цэнтр” даваў санкцыю на арышт. Магчыма, доказаў, прадстаўленых Кірылавым, аказалася недастаткова. Хутчэй за ўсё, менавіта пра яго гаворка ідзе ў *Кнізе Памяці Курскай вобласці*: *“Чуланоўскі Міхаіл Міхайлавіч, г. Курск, падпалкоўнік, 05.03.1942 прапаў без вестак”*. Як мы бачым па прадстаўленай раней даведцы, у яго не было ніякіх сувязей з Польшчай, адзіным кампраматам на яго стала знаходжанне ў палоне, што, магчыма, дазволіла яму перажыць гэтую нацыянальную аперацыю НКВД.

У асабістых справах абавязкова захоўваліся ўсе звесткі аб сувязях з замежжам не толькі самога чалавека, але і яго жонкі. Абавязкова паведамлялася, ці былі ён ці яна за мяжой, ці ёсць там сваякі ці сябры, ці вядзецца альбо калісьці вялася перапіска. Дзеля справядлівасці, трэба адзначыць, што ў дакументах ёсць інфармацыя пра сваякоў у ЗША, Францыі, Германіі і іншых краінах, але Польшча, як бліжэйшае да БССР замежжа, знаходзіцца на першым месцы. Трэба адзначыць, што і ўся Заходняя Беларусь тады ўваходзіла ў склад Польшчы, і следчыя з поспехам гэтым карысталіся, запісваючы ва “ўраджэнцы Польшчы”, ўсіх, хто нарадзіўся ў акрэсленым рэгіёне яшчэ да рэвалюцыі (хоць тады гэтая тэрыторыя была Гарадзенскай, Мінскай, Віленскай ці іншымі губернямі Расійскай імперыі). Вялікім попытам сярод следчых карысталіся і ўцекачы з тэрыторыі Польшчы, што пакінулі сваю радзіму яшчэ ў часы Першай сусветнай вайны, нават тыя, хто не меў з радзімай ніякай сувязі. Г. зн. ужо на гэтым этапе ажыццяўлялася фальсіфікацыя, якая дазваляла значна прасцей запісаць

6 НАРБ, ф. 34, воп. 4, ад. зах. 6, арк. 482.

чалавека ў "польскія шпіёны". Безумоўнымі кандыдатамі ў шпіёны былі ўсе, хто калі-небудзь займаўся кантрабандай і хадзіў праз мяжу ці нават меў такіх сваякоў.

У наступным дакуменце падрабязна апісваюцца ўсе арыштаваныя па "польскай лініі" Асобым Аддзяленнем 13-й стралковай дывізіі грамадзяне БССР і прыдуманыя ім следчымі фантастычныя злачынствы. Як адзначаецца, у большасці гэтыя людзі былі расстраляныя. Да аднаго з "доказаў" шпіёнскай дзейнасці следчыя аднеслі кантакты з польскім консульствам у Мінску.

*Совершенно секретно*

***Справка***

***О характере дел по польской операции,***
***прошедших в особом отделе 13-й дивизии***

*1. Диверсионнно-шпионская резидентура в деревне Коски (окружение Станьковского гарнизона) в количестве 4-х человек, возглавляемая АБРАМОВИЧЕМ Антоном[7] (разыскивается по Смоленской области и в Витебском районе).*

*Резидентура создана в 1925 году польскими агентами — КАЛЕЧИЦ Винцесем и ЦВИРБУТ[8]. В резидентуру входили, кроме резидента АБРАМОВИЧА Антона — ШПИЛЕВСКИЙ Болеслав[9], АБРАМОВИЧ Иван[10] (однофамилец АБРАМОВИЧА Антона) и КАЛЕЧИЦ Раймунд[11] (брат польского агента — КАЛЕЧИЦ Винцеса). Кроме передачи шпионских сведений, резидентура имела задание на военное время совершать диверсии в тылу Красной Армии: жечь мосты, склады, портить связь и т.д.*

---

7 Абрамовіч Антон Язэпавіч, нар. 1900 у в. Коскі Койданаўскага р-ну Менскай акр., беларус, зь сялян, пачатковая адукацыя, селянін, аднаасобная гаспадарка ў в. Коскі. Арыштаваны 32.02.28. Асуджаны 31.04.1932 "тройкай" за а/с агітацыю паводле арт. 72, 76 КК БССР на 3 гады ППЛ. 20.11.1989 справу пераглядала Пракуратура Менскай вобл. КГБ РБ 29555-с. Электронная крыніца: https://www.svaboda.org/a/24806640.html.

8 Асобы не ўстаноўленыя.

9 Шпілеўскі Баляслаў Францавіч, нар. 1883 у в. Коскі Менскага р-ну і вобл., паляк, зь сялян, нясконч. пачатк. адук., рабочы УВСР-67, в. Коскі. Арыштаваны 37.11.18. Асуджаны 37.11.28 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР як член ш-д арганізацы Польшчы паводле арт. 68, 71, 76 КК БССР да ВМП. Расстраляны ў Менскай турме 37.12.15. 60.03.21 справа пераглядалася ВТ БВА. КГБ РБ 16258-с. Электронная крыніца: https://www.svaboda.org/a/24820771.html.

10 Абрамовіч Іван Нікадымавіч, нар. 1900 у в. Коскі Менскага р-ну Менскай вобл., паляк, зь сялян, нясконч. пачатк. адукацыя, калгасьнік у в. Коскі. Арыштаваны 37.11.28. Асуджаны 37.12.14 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР як член ш-д арганізацыі, паводле арт. 68, 71, 76 КК БССР да ВМП. Расстраляны ў Менскай турме 37.12.28. 60.03.21 справа пераглядалася Вайсковым трыбуналам БВА. КГБ РБ 16256-с. Электронная крыніца: https://www.svaboda.org/a/24806640.html.

11 Калечыц Раймунд Іванавіч, нар. 1888 у в. Коскі Менскага р-ну, паляк, зь сялян, пачатк. адукацыя, калгасьнік у к-се "Абуджэньне" ў в. Коскі. Арыштаваны 37.11.18. Асуджаны 37.11.28 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР як член ш-д арганізацыі паводле арт. 68, 71, 76 КК БССР да ВМП. Расстраляны ў Менскай турме 37.12.15. 60.03.21 справа пераглядалася ВТ БВА. КГБ РБ 16258-с. Электронная крыніца: https://www.svaboda.org/a/24887311.html.

*Систематическую связь с польским агентом КАЛЕЧИЦ Винцесем резидентура держала до 1928 года через связного, некоего ЦВИРБУТ. При последнем переходе границы ЦВИРБУТ был задержан и осужден на 8 лет, но резидентуру не выдал.*

*Один из участников этой резидентуры — ШПИЛЕВСКИЙ — работал на военной стройке Станьковского гарнизона, откуда был уволен по нашему предложению в марте месяце 1937 года.*

*2. Вторая диверсионная шпионская резидентура в количестве 3-х человек была создана по заданию бывшего председателя Дзержинского РИКа ВАНЦОВСКОГО, через агронома того же района КУРГАНОВА (арестован раньше) в деревне Заболотье (окружение Станьковского гарнизона) в составе бывшего председателя колхоза ШИШКО*[12] *и начальника пожарной дружины ПЕКАРСКОГО*[13]*. Эта группа свою диверсионную работу проводила в мирное время. Так, например, ей удалось сжечь в 1936 году колхозный сарай и конюшню, где погиб рогатый скот и 6 лошадей. Виновных в то время следствие не нашло. На военное время имела те же задания, что и резидентура АБРАМОВИЧА.*

*3. Третья шпионская резидентура в количестве 5-ти человек непосредственно была связана с польским консулом. Один из этой резидентуры некий КАМАЦКИЙ*[14] *(хутор Грицковщина, окружение 37 стрелкового полка) — завербован ещё германской разведкой в 1919 году, польской разведкой перевербован в 1921 году и в 1930 году был связан с братьями ОСТРОВСКИМИ*[15]*, кои были завербованы польским консулом*

[12] Шышка Сямён Герасімавіч, нар. 1893 у в. Забалацьце Менскага р-ну, беларус, зь сялян, старшыня к-су “Прабуджэньне” ў в. Забалацьце. Арыштаваны 37.11.17. Асуджаны 37.11.28 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР як член к/р групы паводле арт. 69, 71, 76 КК БССР да ВМП. Расстраляны ў Менскай турме 37.12.15. 59.03.13 справу пераглядала Суд. кал. па крым. справах ВС БССР. КГБ РБ 13929-с. Электронная крыніца: https://www.svaboda.org/a/24820774.html.

[13] Пякарскі Юліян Антонавіч, нар. 21.07.1898 у в. Забалацьце Менскага р-ну, беларус, зь сялян, нясконч. пач. адук., нач. пажарнай дружыны ў к-се “Прабуджэньне”, в. Забалацьце. Арыштаваны 37.11.20. Асуджаны 37.11.28 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР як член д-вр. арганізацыі паводле арт. 69, 71, 76 КК БССР да ВМП. Расстраляны ў Менскай турме 37.12.15. 59.03.13 справу пераглядала Суд. кал. па крым. справах ВС БССР. КГБ РБ 13929-с. Электронная крыніца: https://www.svaboda.org/a/24906668.html.

[14] Камоцкі Карл Казіміравіч, нар. 1891 у г. Менск, паляк, з рабочых, няскончаная пачатковая адукацыя, рабочы ст. Ратамка, жыў на х. Грыцкаўшчына Менскага р-ну, Ратамскі с/с. Арыштаваны 27.11.1937. Асуджаны 14.12.1937 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР як агент польскай выведкі, за а/с агітацыю паводле арт. 68, 72, 76 КК БССР да ВМП. Расстраляны ў Менскай турме 28.12.1937. Справа пераглядалася ВТ БВА 19.10.1959. КГБ РБ 14855-с. Электронная крыніца: https://www.svaboda.org/a/24887322.html.

[15] Астроўскі Дзяніс Цімохавіч, нар. 1883 у г. Камянец-Падольск, паляк, зь сялян, няскончаная пачатковая адукацыя, вартаўнік дому адпачынку “Ждановічы”. Жыў на х. Грыцкаўшчына Менскага р-ну. Арыштаваны 26.10.1937. Асуджаны 13.11.1937 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР як агент польскай выведкі паводле арт. 68, 76 КК БССР да ВМП. Расстраляны ў Менскай турме 26.11.1937 Справа пераглядалася ВТ БВА 26.10.1959. КГБ БССР 15005-с. Электронная крыніца:
Астроўскі Мікалай Цімохавіч, нар. 1893 на х. Папова Грэбля Ямпольскага павету Камянец-Падольскай губ., паляк, зь сялян, непісьменны, рабочы Торфараспрацовак у Ждановічах, жыў на х. Грыцкаўшчына Менскага р-ну. Арыштаваны 28.10.1937. Асуджаны 13.11.1937 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР як агент польскай выведкі паводле арт. 68, 76 КК БССР да ВМП. Расстраляны ў Менскай турме 21.11.1937. Справа пераглядалася ВТ БВА 26.10.1959. КГБ БССР 15005-с.

*в городе Минске через своих жён в 1930 году. КАМАЦКИЙ и один из Островских, а также жены ОСТРОВСКИХ*[16] *передавали шпионские материалы секретарю польского консула чисто гражданского характера: о настроении колхозников, о экономической мощи колхозов, настроении рабочих торфразработок и всё, что видят и слышат в гор. Минске. Связь с консулом прекратили в начале 1934 года по приказанию из консульства. Один из ОСТРОВСКИХ собирал сведения о настроении красноармейцев и вооружении частей 7-й Кавдивизии. Связь с польским консулом прекратил в 1933 году, имея задачей действовать в военное время, на что получил указание в предвоенный период. (Расстреляны). ОСТРОВСКАЯ Сузанна освобождена в связи с беременностью на 8 месяце. Распоряжение Зам. Наркома — майора тов. ЖАБРЕВА*[17] *в отношении её таково: "Арестовать после родов, пока обеспечить агентурой". Агентурой ОСТРОВСКАЯ обеспечена.*

*4. Четвёртая группа контрреволюционного националистического характера — 2 человека.*

*5. Дело шпионки АПРОНИЧ Елены*[18] *(окружение Станьково), хотя и пошло как одиночка, но АПРОНИЧ показала, что она имела связь с бывшим крупным бандитом периода гражданской войны СЕРЕБРЯННИКОВЫМ*[19]*, который также является польским агентом и скрывается на территории Белоруссии. С СЕРЕБРЕННИКОВЫМ АПРОНИЧ имела встречу в 1936 г., но адреса он ей не оставил.*

---

[16] Астроўская Паўліна Язэпаўна, нар. 1894 у в. Хаева Бельскага павету Гарадзенскай вобл., полька, хатняя гаспадыня на х. Грыцкаўшчына Менскага р-ну. Арыштаваная 28.11.1937. Асуджаная 14.12.1937 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР як агент польскай выведкі паводле арт. 68, 76 КК БССР да ВМП. Расстраляная ў Менскай турме 26.12.1937. Справа пераглядалася ВТ БВА 26.10.1959. КГБ БССР 14867-с. Электронная крыніца: https://www.svaboda.org/a/24812271.html.

[17] Жабраў Іван Андрэевіч — нарадзіўся ў 1898 годзе; месца нараджэння — г. Усцюжна Валагодскай губ., нацыянальнасць — рускі. Член ВКП(б) з 08.1918. У органах ВЧК-АДПУ-НКУС з 1920. Дэпутат Вярхоўнага Савета УССР 1-га склікання. Загадам Народнага камісара ўнутраных спраў СССР № 356 14.03.1937 года накіраваны ў распараджэнне НКУС БССР; № 556, 20.04.1937 — начальнік Гомельскага АА УГБ НКУС БССР і АА НКУС 6-й казачай дывізіі; № 1127, 7.07.1937 — пам. Наркама ўнутраных спраў БССР і начальнік 3-га аддзела БССР; № 2305, 22.11.1937 — нам. Наркама ўнутраных спраў БССР; № 485, 26.02.1938 — начальнік УНКУС Камянец-Падольскай вобласці. Арыштаваны 17.11.1938. Асуджаны 22.02.1939. Орган, які вынес рашэнне,— ВКВС СССР. Рашэнне: ВМП. Расстраляны 23.02.1939, Масква. У рэабілітацыі адмоўлена 1999. Электронная крыніца: http://nkvd.memo.ru//index.php/Жабрев,_Иван_Андреевич.

[18] Апрановіч Алена Адамаўна, нар. 1894 у в. Зарэчыца Менскага р-ну і вобл., полька, зь сялян, няскonч. пачатк. адукацыя, калгасьніца ў в. Каменка Менскага р-ну. Арыштаваная 37.11.20. Асуджаная 37.11.28 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР за шпіянаж на карысьць Польшчы паводле арт. 68 КК БССР да ВМП. Расстраляная ў Менскай турме 37.12.15. 60.06.29 справа пераглядалася ВТ БВА. КГБ РБ 16487-м. Электронная крыніца: https://www.svaboda.org/a/24812265.html.

[19] Сярэбранікаў Сямён-Арсенці Канстанцінавіч, нар. 00.12.1900 у в. Піліпкі Ашмянскага павету Віленскай губ., беларус, зь сялян, выш. адук., інструктар-мэтадыст Трэсту "Беллес" Наркамлесу. Жыў: Менск, Круглы зав. 16, кв. 2. Арыштаваны 37.08.24. Асуджаны 37.10.14 за супрац. з польскай разьведкай паводле арт. 68а, 69, 76 КК БССР да ВМП. Расстраляны ў Менскай турме 37.10.26. 60.06.22 справа пераглядалася вайсковым трыбуналам БВА. КГБ РБ 16495-с. Электронная крыніца: https://www.svaboda.org/a/24912246.html.

*Остальные прошли как одиночки.*

*Групповые дела по ст.ст. 68, 71, 76, одиночки 68 и 76.*

*Начальник Особого отделения 13-й СД старший лейтенант государственной безопасности Кириллов*[20].

Звернем увагу на “высакародны” адказ Жабрава пра лёс цяжарнай жанчыны: арыштаваць пасля родаў, а пакуль проста шпіёніць. Яе муж разам з братам на той момант былі ўжо забітыя. Адзначым таксама, што ўжо ў 1937 годзе чэкісты меркавалі, што памежныя раёны БССР апынуцца ў тыле Чырвонай Арміі, г. зн. сама армія будзе дзесьці на тым баку мяжы.

Аднак усіх гэтых “шпіёнаў” аказалася мала, і ўжо праз месяц Асобае Аддзяленне 13-й стралковай дывізіі дадало да ахвяр сваёй злачыннай дзейнасці яшчэ 8 чалавек.

*Начальнику 5-го отдела УГБ НКВД БССР*
*младшему лейтенанту т. Завадскому*
*г. Минск*

***Докладная записка***

***О дополнительной операции по польской линии***

*С 17 по 27 декабря 1937 года Особдивом 13 дополнительно арестовано по окружению 7 человек и военнослужащий 1. Из числа 7 человек окружения одна диверсионно-шпионская резидентура в количестве 3 человек, созданная польским агентом ВЕРЕМЕЕМ Иосиф Казимировичем*[21] *в дер. Новая Гайно, Логойского района (окружение Гайнского гарнизона 37 стр. полка).*

*В состав резидентуры входили:*

*1. ЛУКШИЦ И. В.,*[22] *1903 года рождения.*

*2. ЛИХТАРОВИЧ Осип Осипович*[23]*, 1889 г.р.*

---

20 НАРБ, ф.34, воп. 4, ад. зах. 6, арк. 542, 543.

21 Верамей Язэп Казімеравіч, нар. 06.02.1886 у в. Гайна Лагойскага р-ну БССР, беларус, зь сялян, пачатковая адукацыя, фэльчар, мэдпункт в. Гайна. Арыштаваны 28.10.1937. Асуджаны 17.11.37 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР за а/с дзейнасць паводле арт. 68, 71, 72, 76 КК да ВМП. Расстраляны ў Барысаўскай турме 09.02.1937. 28.04.89 справу пераглядала Пракуратура БВА. КГБ РБ 25707-с.

22 Лукшыц Язэп Васілевіч, нарадзіўся 1903 у вёсцы Старая Гайна Лагойскага р-ну Менскай вобл., беларус, зь сялян, няскончаная пачатковая адукацыя, калгасьнік у к-се “Новая Гайна” ў в. Н. Гайна. Арыштаваны 15.12.1937. Асуджаны 08.01.1938 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР як агент былых польскіх разьведворганаў паводле арт. 68, 71, 76 КК БССР да ВМП. Расстраляны ў Менскай турме 10.02.1938. Справа пераглядалася ВТ БВА 18.09.1958. КГБ РБ 12672-с. Электронная крыніца: https://www.svaboda.org/a/24898376.html.

23 Ліхтаровіч Восіп Восіпавіч, нарадзіўся 1889 у вёсцы Новая Гайна Лагойскага р-ну Менскай вобл., паляк, зь сялян, няскончаная пачатковая адукацыя, селянін, аднаасобная гаспадарка ў в. Н. Гайна. Арыштаваны 15.12.1937. Асуджаны 08.01.1938 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР як агент былых польскіх разьведворганаў паводле арт. 68, 71, 76 КК БССР да ВМП. Расстраляны ў Менскай турме 10.02.1938. Справа пераглядалася ВТ БВА 18.09.1958. Справа КГБ РБ 12672-с. Электронная крыніца: https://www.svaboda.org/a/24898376.html.

*3. КУЗМИЦКИЙ Леонтий Ник.,[24] 1984 г.р. Все колхозники. Шпионская деятельность названной организации заключалась в собирании шпионских сведений военного характера по Гайнскому гарнизону (главным образом о количестве гарнизона, вооружении, проводимых работах по укрепрайону); на военное время имели задания диверсионного характера: поджог мостов, порча связи Красной Армии, уничтожение путём поджога продовольственных запасов (фондов) в колхозах, поджоги военных складов — если удастся, терроризировать население путем грабежей под видом Красной Армии и т.д. Все в преступлении сознались. Дело закончено по ст. ст. 68, 71 и 76 УК и направлено в Москву.*

*В процессе следствия на гарнизон выйти не удалось, однако, это дело обязывает Особдив 13 уделить максимум внимания в части агентурной работы по Гайнскому гарнизону 39 стрелковому полку, вследствие чего лично выезжаю на место для инструктажа агентуры.*

*Вторая резидентура в два человека чисто шпионского характера, тоже по деревне Н. Гайно, созданная польским агентом ЖЕРДЕЦКИМ Винцес.*

*В резидентуру входили: брат ЖЕРДЕЦКОГО Винцеса — ЖЕРДЕЦКИЙ Николай Антонович[25], рождения 1905 г., кладовщик колхоза дер. Новое Гайно, выполнявший роль резидента. С ним был связан житель той же деревни Гринкевич И. М.[26] 1895 г. рождения. Дело закончено по ст.ст. 68 и 76 УК БССР и направлено в Москву.*

*Остальные два одиночки по дер. Старые Гайно — ПУНТУС Н. В.[27] 1884 г. рождения, в 1918 г завербован немецкой разведкой и в 1921 г. перевербован польской разведкой.*

---

24 Кузьміцкі Лявонці Мікалаевіч, нарадзіўся 1894 у в. Новая Гайна Лагойскага р-ну Менскай вобл., паляк, зь сялян, нясконачаная пачатковая адукацыя, калгасьнік у в. Н. Гайна. Арыштаваны 15.12.1937. Асуджаны 08.01.1938 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР як агент былых польскіх разьведворганаў паводле арт. 68, 71, 76 КК БССР да ВМП. Расстраляны ў Менскай турме 01.02.1938. Справа пераглядалася ВТ БВА 18.09.1958. КГБ РБ 12672-с. Электронная крыніца: https://www.svaboda.org/a/24888423.html.

25 Жардзецкі Мікалай Антонавіч, нар. 1905 у в. Новае Гайна Лагойскага р-ну Менскай вобл., беларус, з сялян, пачатк. адукацыя, кладаўшчык к-су ў в. Новае Гайна. Арыштаваны 37.12.19. Асуджаны 38.01.21 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР як агент польскіх выведворганаў паводле арт. 68, 76 КК БССР да ВМП. Расстраляны ў Менскай турме 38.02.28. 89.04.30 справу пераглядала Пракуратура БВА. КГБ РБ 23383-с. Электронная крыніца:

26 Грынкевіч Іван Максімавіч, нар. 1895 у в. Новая Гайна Лагойскага р-ну, беларус, з сялян, пачатковая адукацыя, калгасьнік у в. Новая Гайна. Арыштаваны чэрвень 1937. Асуджаны 08.01.1938 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР як агент польскай выведкі паводле арт. 68, 76 КК БССР да ВМП. Расстраляны ў Менскай турме 01.02.38. Справу пераглядала Пракуратура БВА 29.04.89. КГБ РБ 30341-с. Электронная крыніца: https://www.svaboda.org/a/24820709.html.

27 Пунтус Мікалай Васілевіч, нар. 1884 у в. Старая Гайна Лагойскага павету Менскай губ., беларус, з сялян, пачатковая адукацыя, калгасьнік у в. Старая Гайна. Арыштаваны 15.12.37. Асуджаны 08.01.38 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР як агент польскай выведкі да ВМП. Расстраляны 01.02.38. Справа пераглядалася ВТ БВА 26.02.59. КГБ РБ 13885-с. Электронная крыніца: https://www.svaboda.org/a/24906627.html.

*По м. Плещеницы работник военторга — зав. военмагазина 39 стр. п. МИНДЕЛЬ Самуил Файбышев*[28]*, по национальности еврей, 1898 г. рождения. МИНДЕЛЬ весь 1921 год проживал в Польше, откуда нелегально перешёл в СССР и в 1934 году был завербован польской разведкой. Включительно по 1934 г. передавал сведения о составе воинских частей, расположенных в пограничном районе.*

*Оба дела закончены и направлены в Москву.*

*3 января 1938 № 30 гор. Минск.*
*За начальника ОО 13 стр. див. младший лейтенант*
*государственной безопасности Криворученко*[29].

Ад арышту па загадзе 00485 не ратавалі ні запіс у графе нацыянальнасць «рускі», ні звальненне з войска, ні нават пераезд на іншы край Савецкага Саюза. Прыкладам чаго служыць лёс Уладзіміра Лісецкага, які меў няшчасце нарадзіцца ў 1904 годзе ў Гродзенскай губерні, што для чэкістаў адназначна азначала “ураджэнец Польшчы”. Пра тое, што Асобае Аддзяленне УГБ НКУС пры размешчанай у раёне Бабруйска 4-й Асобай механізаванай брыгадзе, з якой Лісецкі да гэтага быў звольнены, працягвала сачыць за ім нават пасля яго пераезду ва Уладзівасток, палічыўшы Лісецкага ідэальнай кандыдатурай для арышту па загадзе 00485, сведчыць дакумент з таго ж архіва[30].

*Совершенно секретно*
*Начальнику УГБ НКВД по Приморской*
*области Дальневосточного края*
*г. Свердловск*

---

[28] Міндэль Самуіл (Шмуйла) Файбішавіч, нар. 1898 у м. Плешчаніцы Менскай акр., габрай, з рабочых, пачатк. адук., загадчык крамы ў м. Плешчаніцы. Арыштаваны 37.12.20. Асуджаны 38.01.21 пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР за шпіянаж на карысьць Польшчы паводле арт. 68 КК БССР да ВМП. Расстраляны ў Менскай турме 38.02.20. 89.07.12 справу пераглядала Пракуратура МБВА. КГБ РБ 25358-с.

[29] НАРБ. ф. 34, воп. 4, ад. зах. 6. арк. 544, 545.

[30] НАРБ. ф. 34, воп. 4, ад. зах. 10 “Пратаколы допытаў абвінавачаных у контррэвалюцыйнай дзейнасці і спісы арыштаваных”, арк. 325.

28

1) Прежде чем заполнять анкету — необходимо ознаком... ...го ответа н...
2) Ответы ... раз-борчиво, проч...
3) На воп... анке-те, но имею... лицо, заполняющее ... от-ветить в кон...
4) Анкета...

Присвоено специальное звание
Майор.
Государственной Безопасности
Приказ НКВД СССР № ____ 1936 г.

# АНКЕТА
## СПЕЦИАЛЬНОГО НАЗНАЧЕНИЯ РАБОТНИКА НКВД

| ВОПРОСЫ | ОТВЕТЫ |
|---|---|
| I. Фамилия, имя и отчество: | ЖАБРЕВ Иван Андреевич |
| Если меняли свою фамилию, то перечислите все фамилии, имена и отчества, которыми Вы пользовались и укажите причины: | Нет. |
| Год и месяц рождения: | 1898 г. 26 апреля. |
| Место рождения (точный адрес): | г. Устюжна, Ленинградской области. |
| 5. Ваша национальность: | Русский. |
| 6. Ваше гражданство или подданство: | Гражданин СССР. |
| 7. Если ранее состояли в другом подданстве, то каком именно и когда приняли гражданство СССР: | Нет. |

**Отраслевой государственный архив СБУ ф. 12, Оп 1, спр. 31029, т. 1 л. 28**

*При сем препровождается агентурное дело на бывшего начальника штаба Белорусского военного округа 4 механизированной бригады Лисецкого*

*Владимира Александровича[31], уволенного из армии и убывшего на постоянное место жительства в город Владивосток.*

*Лисецкий по данным штаба взят на военный учёт в Приморском военкомате.*

*Лисецкий уволен из РККА как социально-чуждый элемент, уроженец Польши, отец которого за оказание содействия белополякам в 1918 году был расстрелян.*

*В порядке последней директивы Наркома внутренних дел генерального комиссара государственной безопасности т. Ежова от 11 августа 1937 года № 00485, Лисецкий подлежит аресту.*

*О результатах просьба сообщить нам.*

*8 сентября 1937, № 0391, г. Бобруйск.*
*Начальник Особого Отделения УГБ НКВД при*
*4 Особой механизированной бригаде лейтенант*
*государственной безопасности Иванов[32]*
*Оперуполномоченный ОО 4 м/б сержант ГБ Рытов[33].*

Невядома, ці стала прычынай таго, што Лісецкага затрымалі толькі ў лютым, а асудзілі ўжо ў верасні 1938 года, адлегласць паміж Уладзівастокам і Бабруйскам. Але, магчыма, менавіта гэта выратавала яму жыццё, бо атрыманы ім прысуд — 10 гадоў ППЛ — быў рэдкасцю ў БССР, дзе працэнт смяротных пакаранняў па “польскай аперацыі” вагаецца ў межах 70–90 %. Усе арыштаваныя павінны былі быць рэабілітаваныя, бо насамрэч сярод іх не было ніякіх польскіх шпіёнаў, а ўсе справы фабрыкаваліся следчымі. Адзінай прычынай смерці гэтых людзей стала іх сувязь з Польшчай — дзяржавай, якую на той момант Сталін разглядаў як варожую і рыхтаваўся да вайны з ёю. Гэта скончылася нападам СССР

[31] Лісецкі Уладзімір Аляксандравіч. Нарадзіўся ў 1904 г., Гродзенская губ.; рускі; адукацыя сярэдняя; выкл. з ВКП(б); начальнік спраў Воблфінатдзела. Пражываў: г. Уладзівасток. Арыштаваны 15.02.1938 г. Прыгавораны: Пастановай асаблівай Нарады НКУС СССР 14.09.1938 г., абвінавачваўся па арт. 58–6, 58–10 КК. Прысуд: 10 гадоў ППЛ. Кіраўскім абласным судом 29.09.1943 прысуджаны да 5 гадоў ППЛ з паразай у правах на 3 гады. Тэрмін далучаны да неадбытага тэрміну па прыгаворы ад 14.09.1938. Па прыгаворы ад 14.09.1938 рэабілітаваны 6.04.1967 г. вызначэннем Ваеннага Трыбунала Ціхаакіянскага флоту. Электронная крыніца: База даных аб ахвярах рэпрэсій Прыморскага краю, https://ru.openlist.wiki/Лисецкий_Владимир_Александрович_(1904).

[32] Іваноў Іван Андрэевіч. Нацыянальнасць руская. Нарадзіўся ў 1903 годзе; месца нараджэння — г. Дарагабуж Смаленскай вобл. Званне лейтэнанта дзяржаўнай бяспекі прысвоена загадам Народнага камісара ўнутраных спраў Саюза ССР № 184, 23.03.1936. ст. лейтэнант, нач. АА НКУС 11-га мех. корпуса Заходняга фронту. Член ВКП(б). Загінуў на фронце 05.05.1945. Электронная крыніца: Кадравы склад НКУС: http://nkvd.memo.ru/index.php/Иванов,_Иван_Андреевич_(II).

[33] Рытаў Антон Васільевіч. Нацыянальнасць — рускі. Нарадзіўся ў 1903 годзе. Член ВКП(б) з 1925. Званне сяржанта дзяржаўнай бяспекі прысвоена загадам Народнага камісара ўнутраных спраў Саюза ССР № 184, 23.03.1936. У 1942 лейтэнант дзяржаўнай бяспекі, начальнік АА НКУС 204 запаснога стралковага палка, узнагароджаны медалём “За баявыя заслугі“. Электронная крыніца: Кадравы склад НКУС: http://nkvd.memo.ru/index.php/Рытов,_Антон_Васильевич.

разам з гітлераўскай Германіяй ужо праз год пасля завяршэння “польскай аперацыі”, у верасні 1939 года.

Што ж тычыцца лёсу сапраўдных злачынцаў — следчых і кіраўнікоў УГБ НКУС, то толькі некаторыя з іх панеслі належнае пакаранне. Са згаданых у прыведзеных дакументах чэкістаў, падобна, толькі два — намеснік начальніка АА НКУС БАВА малодшы лейтэнант Уладзімір Завадскі і начальнік УНКУС Камянец-Падольскай вобл. УССР (пераведзены туды з БССР) маёр дзяржаўнай бяспекі Іван Жабраў — былі арыштаваныя, асуджаныя і расстраляныя за свае злачынствы. Праўда, спачатку, 19 снежня 1937 года, абодва яны ў ліку соцень іншых катаў за правядзенне карных аперацый былі ўзнагароджаныя ордэнам Чырвонай Зоркі. Як бачым, адказваць давялося ў асноўным менавіта кіраўнікам НКУС, а непасрэдныя фальсіфікатары следчых спраў, якія адправілі на той свет дзясяткі тысяч чалавек, тыя, што запалохвалі, катавалі і расстрэльвалі, засталіся беспакаранымі. Яны шчасліва дажылі да пачатку Другой сусветнай вайны, на франтах якой у асноўным выконвалі звыклую працу: шукалі шпіёнаў. Можна толькі здагадвацца, якімі метадамі. Яны атрымлівалі за гэта новыя ордэны, новыя званні (Кірылаў дарос аж да генерал-маёра) і спакойна дажылі да пенсіі.